Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Установа адукацыі
“Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт”

# ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК

Заснаваны у 2006 годзе

Выпуск 2

# НАРОДНАЯ ПРОЗА БЕЛАРУСАЎ ПАДЗВІННЯ

У дзвюх частках

Частка 2

Наваполацк
ПДУ
2011

УДК 39(075.8)
ББК 65.521(=411)-71я43
П49

Рэкамендавана да выдання метадычнай камісіяй
гісторыка-філалагічнага факультэта (пратакол № 5 ад 17.12.2010)

РЭЦЭНЗЕНТЫ:
д-р філал. навук, праф., заг. кафедры сусветнай літаратуры і культуралогіі
УА "Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт" А. А. ГУГНІН;
канд. філал. навук, заг. сектара этналінгвістыкі і фальклору Інстытута мовы
і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Т. В. ВАЛОДЗІНА

П49 **Полацкі этнаграфічны зборнік** / уклад., прадм. і паказ. У. А. Лобача. – Вып. 2: Народная проза беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 2. – Навапалацк : ПДУ, 2011. – 368 с.

ISBN 978-985-531-193-6 (Ч. 2).

Змяшчае каля 1500 палявых запісаў розных жанраў народнай прозы беларусаў Падзвіння. Каштоўны вучэбна-хрэстаматыйны матэрыял дазваляе аптымізаваць навучальны працэс па дысцыплінах "Этналогія і этнаграфія Беларусі", "Гістарычнае краязнаўства Беларусі", "Беларускі фальклор" і спецкурсах, тэматычна з імі звязаных.

Прадстаўленыя ўзоры народнай прозы ва ўсёй сваёй разнастайнасці і варыятыўнасці выступаюць як адлюстраванне традыцыйнай карціны свету беларусаў Падзвіння ва ўсёй сукупнасці яе сегментаў і сімвалічных значэнняў. Панарамны, максімальна шырокі ў сюжэтным плане характар зборніка ўяўляецца своеасаблівым адбіткам фальклорнай памяці ў яе калектыўным і індывідуальным вымярэнні ад казачнай прозы да ўспамінаў пра калектывізацыю і вайну.

Прызначаны для студэнтаў гістарычных і філалагічных спецыяльнасцяў дзённай і завочнай формы навучання, а таксама даследчыкаў у галіне народазнаўства.

**УДК 39(075.8)**
**ББК 65.521(=411)-71я43**

**ISBN 978-985-531-193-6 (Ч. 2)**
**ISBN 978-985-531-191-2**

## ЧАРАЎНІКІ І ВЕДЗЬМЫ

### 792. Калдуння

Калі-та, вот, у нас была, там дзе мая маці жыла, калдуньня. Яна ўсім людзям нячыстую сілу пасылала. Маці мая расказывала. Была ў яе карова, дык гэта калдуньня ёй так здзелала, што яна дажа ў хлеў не шла. Вот падыйдзіць к хлеву, чмыхніць на дзверы і пайшла. Ўсёй дзярэўней яе лавілі. Прывядуць ў хлеў паставюць, а утрам выпускаць – а гэта карова ўся мокрая, што яе хто вадой паліў. Але знайшліся людзі, якія дапамаглі. Маці хадзіла к бабке, што ў Вераб'ях. Тая дасць вады, солі загаворыць. Назаўтра карова ўжо ідзець у хлеў, як ні ў чым не бывала.

**Зап. Хруцкая В. у 2004 г. ад Кавальчук Анастасіі Фёдараўны, 1922 г.н. у в. Палата Полацкага р-на.**

### 793. Пра чары

Чаруўнікі? Ну дык гэта былі, такія бабы былі. Вот карову зачаруець, малака німа там. Ну як гэта, сярдзітая яна на цябе. Ну вот. Тады ўжо ідзеш да яшчэ да каго-небудзь, каб ён, хто-небудзь, ужо адчараваў назад гэту карову. Вот. Дык дажы жабы, бальшыя-бальшыя такія рапухі, ссалі. Узлезець на сіську – і сьсець! Во. Во як было. Я сама бачыла, у нас была ў хляве вужака. Ага. Кругом нагі абкруціца і сьсе. Гэта дзесвіцельна вужака. Гэта када зачараваная.

Чарувалі, чарувалі, даўней было чаруўнікоў, цяпер нету. Яны казалі, як чаруўніца, як паміраець, яна не магла ніяк сканаць, дык столь раздзіралі ў хаці. Каб сканаў гэтат чалавек. Во как было.

Знаюць. Кажуць: "Во, падчаравала мне". Умеець. Якога-небудзь. Ой. Ня дужа даўно яны ўжо і паўміралі, гэтыя чараўнікі. "О, – кажуць, – чараўніца ты, прышла ў сьвята…" Вот ужо. Эта жа на сьвята, перад сьвятам, ужо ў Чысты чэцвер, у пятніцу, у суботу ўжо бывала ня йдзі не да кога нічога адалжаць, ніхто табе нічога не адалжыць, гэта ўжо няможна. Вот. Усё. Кажуць: "Ідзі да сьвята". А гэта дужа бальшы грэх ісьці, кажаць: "Ты мне прышла чараваць?" Ні дадуць. Ні дадуць, ніхто.

І на Яна. А на Яна, дык тады малако зьнікаець. Але чаго яно зьнікаець у кароў, я і сама не знаю. Гэта вот ну, як вам сказаць, дні якія, у нядзелю, зьнікнець і ўсё, некаторы раз, а некаторы раз – нічога. Вот сёлета – нічога. А летась і было зьнікшы.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Авецька Людзвігі Лявонаўны, 1935 г.н. і Шышковіча Антона Браніслававіча, 1941 г.н. у в. Васількова Шаркаўшчынскага р-на.**

### 794. Зданькі і чары

Ідзець, кажуць, чалавек, і коціцца тамака нешта, як кальцо. Ён бярэць, кажуць, – сабака, ён ударыць – а яно золатам рассыпецца. А чаравалі.

Свадзьба ехала, і сталі коні. І б'юць іх, і што не робяць – ні з места. А тады ўжо каторы чараваў, умеў адчароўваць. Тады кажыць другі: "Ня бійце коней, яны не вінаватыя". Прыйшоў, коней пагладзіў, пагладзіў – і коні пайшлі.

Знахар і чараўнік, гэта, мусіць, адно. Мая сяастра была, як счаравалі, дзеўкай. Вот ухажываець малец, а яна к яму ні блізка. І счаравалі так, што пойдзець жаць на поле, накрыж кладзець во гэны жмені і снапа не звяжыць. Паехалі тады ў дзярэню, з Арэхаўна чалавек жыў, ён нам сказаў, назваў чалавека такога, але кажыць, нада толькі даехаць, каб назад вярнуцца, даць ёй вады да захада сонца. А даехаць неяк было. Тады яна сама пайшла скарэй пешшу, ну але бежала бегам, дала вады. Спала суткі, ну і дзякуй Богу, палепшыла.

На Купалку робілі каровам, усяго было. Расказывалі, такія Лясковічы жылі, карову іхную счаравалі. Селі яны выпіваць, баба дала масла, закусываць паставіла, а селі два чараўнікі, і кажуць: "Хочаш зробім, што масла будзе чорнае". Хукнуў, і масла счарнела. А другі крапчэйшы быў, як хукнець – масла на месца станець. Эта дужа даўно было. І тут кажуць забалела карова, і пакуль вады далі, даехалі карове вады даць, і карова прапала. Усяго было даўней.

Ну, вот учыліся гэтыя чараўнікі. Свёкар мой казаў, паехаў к чараўніку вады карове, а ён гаворыць: "Хочыш, я цябе навучу. У цэркву не хадзі, Богу не маліся, ні хрысціся". А ён паслухаў, паслухаў і кажыць: "Не хачу, ня буду".

**Зап. эксп. ПДУ у 2006 г. ад Барысёнак Елены Паўлаўны, 1921 г.н. у в. Лажані Ушацкага р-на.**

### 795. Чары на карову

Былі ў мяне ў самой чаравалі [карову]. Цыганка прышла, а слоічык стаіт с малаком, а цыганка сразу зашла к маме і гаварыт: "А, бабка, ты нікагда не ясі сметанкі, у цябе нікагда нету сметанкі". А мама гаварыт: "І праўда, ніколі нету смятанкі". А патом цыганка гаварыт: "Я цебе, бабулька, сдзелаю будзет у цебя сметана". А мама: "Не нада, я загаворы не люблю". Крычала. А яна гаварыт: "Не, не, не, ты услышашь, што я па Бож'ю буду гаварыць". І ваду з вядра ў крушку ўзяла, за стол стала, у гэту кружку моліца. Ну цэркоўныя слава гаварыт. Гаварыт: "Вот этой водой памоішь кароўку і гэту ваду вылышь пад парог, і малако ў цебя будзет. А я шчас уйду, а к табе прыдзець той чалавек, каторый табе эта дзелаў, і будзет прасіць што-та атнасіцельно каровы, а ты, – гаварыт, – адзін раз ды не дай". Мама ей картошкі дала, ані прыходзілі прасіць, есцественно. Толькі яна за дзверы, бягіць саседка Юлька: "Ай, Верачка, дай мне бойку, мая бойка саўсем рассохлася". А мая мама гаварыт: "А ты знаешь, і мая расохлася", – гава-

рыт. – “Я замачу, тады табе дам”. Праўда, няпраўда, але пасля гэтага і малако і сметана была.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Януць Веры Андрэеўны, 1918 г.н. у в. Сасноўка Глыбоцкага р-на.**

**796.** Мая мама расказавала, карова не стала малака даваць. Наверна, прама посьлі Купалы. Гаворуць, нада чэраз печку ў бані, прама чэраз каменьне праліць вады. Тры разы. Яна раз праліла, другі раз праліла харашо – у таз, а трэцьці станець ліць, а яно ўсё па печкі разьбяжыцца тая вада і ў таз нісколькі ні пападала. Трэцьці раз бяжыць яна за вадой, а там сядзіць такая лягушка ў прыбаньніку на скамейцы. Такія, гаворыць, рукі як у чалавека, лапы красныя, здаровыя. А яна як дала гэтым тазам. Алі ні папала па ей. А тая чэраз пляцень і ў крапіву. Ну і ўсё. Прынісла праліла вады і ўсё як нада. Во як было.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Карусевіч Тамары Пятроўны, 1930 г.н. у в. Заручаўе Бешанкавіцкага р-на.**

**797.** Гэта і праўда было. Я жыла ў Асецішчах, Бягомальскі раён. Там на святкі бальшыя заходзюць у хлеў, навоз беруць, у свой хлеў нясуць – малако адбіраюць. Мы купілі там хату, там тыя бабкі выставілі дзяцей. Адзін сколькі ні купляў кароўку, яна здохнець і ўсё. А мы не зналі, купілі такую кароўку. Да вясны, нічога, а на пасту выгналі – ня есь карова нічога. Цягам цягнем на пасту. А прыдзем, яна ўжо дома. А ў хлеў неяк загнаць. Удваіх, утраіх стаім. Піхаем, а яна глядзіць усюдах і крычыць. Што такоя?

Прышла суседка і кажаць: “Тваей карове зроблена”. Я думала: пасек хто ці парэзаў. Паглядзела – нідзе нічога не відаць. Тады яна павяла мяне к бабе. Тая дала мне вады: “Сечас ты ўзнаеш. Толькі ты прыдзеш, і баба тая прыдзець”. Толькі я ў хату і баба ідзець. Кажаць [знахарка]: “Есьлі яна нічога ня возьмець, то можаць памерці. Ей так трудна. Ей нада ўзяць нешта з тваей хаты”.

А я ж нічога не знаю. Прышла бабка, за рэшатам прышла. Малако цаджу, а яно спячэцца во так. Неяк разарваць, выкідаеш вон. Яна так здзелала. А тая кажаць: “Малако вярну, а верх не вярну. Вышэ мяне зроблена”. Яна ж казала не даваць. А я: “Яна ж нічога не пыталася, узяла і ўсё. Са сцяны ўзяла і ўсё”. І тая другая баба кажаць: “Нічога не давай, закрывайся і ўсё”. Я бягом, укругоўлю. Толькі я прышла, гляджу – ідзець. Я тады скаранька на чардак, хату замкнула. Гляджу што будзець, а яна хадзіла, хадзіла ля акон, каб улезьці ў хату. Ніяк ня ўлезіць. А тады на дварэ трасок набрала, набрала, панісла. Яна, кажаць, можаць памерці, як нічога ня возьмець. Эта я на свае вочы відзела. І праўда, малака карова давала, а вярху не

было. Заместа вярху – плесень, сыравацечка такая. І вайна началася. І забралі тую карову маю. Гэта праўда.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г.у ад Кульба Яўгеніі Васілеўны, 1913 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

### 798. Мурашчыха

На Купалку, сястра ў мяне была, красівая дзяўчына такая, прышоў малец да яе. І так во ў нас вакно і тут лавачка, два кусты сірэні. Сідзяць яны, а ў мяне рабёнак малы быў. А яны сідзяць, а там сірэнь такая, іх не відаць. А яна ідзець з гарода. А сястра кажаць: "А яна прышла голая саўсём!" Стаіць кала іх. А яны, малец і з дзеўкай, ім жа няўдобна. Стаіць і ўсё халмаччо тарчыць усё, саўсём голая. Сістра мне: "Ціша, хадзі паглядзі, Мурашчыха прышла, стаіць саўсім голая". А ім стыдна. Уцякалі абоя ў хату. Хазяін кажаць: "Каб быў, я б яе застрэліў".

Малако адбірала. Голая. А яна пасунецца па мяжы па нашай. І з гарлачом. А гарлач зачэплены. А тады гарлач між ног паставіць і так жопай – трух, трух, трух – у гэты гарлач. Эта яны мне расказавалі. Напужаліся. Ізнова карова не пашла ў хлеў. Гэта точна ёсь.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г.у ад Кульба Яўгеніі Васілеўны, 1913 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

### 799. Чараўніца

Ёсь калдуны, чэсна скажу. Прышлі з работы, селі за стол. Ядзім. Прыбягаець маманя – усё, парасёначак крычыць, проста аддаець канцы. Нада бегчы за ветврачом. Пакуль яна пашла туды, я пашоў у хлеў. Ну што, прыносіць мне ножык. Усё, канчаецца. Нада рэзаць, а што рэзаць. Я ўзяў, вуха разрэзаў троху. Кроў дзве каплі вышла, такой краснай, краснай, краснай, такой німа. І вот троху страпянуўся, я давай яго цярэць. А тут прыходзіць жэншчына і з часамі, старуха: "Сколькі ўрэмя?" – "Сколькі ёсь. Сколькі табе нада, столькі і ёсь". Шлёп і на парог села. Што табе нада? Сабралася і пашла. І нармальны парасёнак стаў, і выгадавалі. А то кормім, а сала нет. Я перарэзаў, і яна тут. Ветработнік на двор, а яна са двара. А парасёнак ужо бегаець.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Даніленка Пятра Васільевіча, 1928 г.н. у в. Турасполле Ушацкага р-на.**

### 800. Чараўніца Рыпіння

Плоха к чараўнікам аднасілісь! Плоха! Не верылі ім не у чом і пільнавалі. Вот перад празнікам ёй нада прыбегчы што-небудзь схваціць ілі адалжыць… У нас і Рыпіньня такая была ў Путране. Зайшла замуж, Міхайла быў такі. Ён быў з Мерзлякоў. І ягонай паддзелала дачке. Ён сам занёс.

Яна тры яблыкі дала яму: “На, – гаворыць, – аднясі Марыне, хай паесць!” Жала жыта. Усё. Міхайла прышоў, бацька ейны, к ней, пасядзелі на снапу, яна і з’ела там яблыкі, адзін ці два. А са снапа ўжо не паднялася – адняліся ногі. Ну і ўсё. Марына гэта без ног асталася. У бальніцу яе прывязлі на ка-ні, тады ж машын ніхто і не відзеў. Гэта верна ў 33-м гаду можа было. Павязлі ў бальніцу, што не дзелалі – нічога. А там медсестра была з Кры-віна, яна гаворыць: “А можа табе што паднеслі?” – “Бацька прынёс мне тры яблыкі, як з’ела, так усё”. “Ой, – гаворыць, – табе паддзелана! Паедзеш у Крывіна са мной, я цябе завязу. Знахар там ёсць, ён знаець сільна хара-шо”. Як прывязлі яе к яму, так ён палядзеў у ваду. “Табе, – гаворыць, – паддзелала мачыха, а бацька твой родны прынёс. У вадзе, відзіш?” Гаво-рыць: “Большэ не здзелаю, як на 10 гадоў”. Стаў ён ваду загаварываць – у Марыны ногі адышлі. Во. Марына пашла. Яна атседава ўехала на Урал. 10 гадоў пражыла там, і апяць ногі адняліся. Прыехала сюды, а эт памёр ужо, знахар эт. Но ён плахое не дзелаў…

**Зап. Гембіцкая Н. у 2008 г. ад Семяньковай (Шыёнак) Веры Анісімаўны, 1927 г.н. (нар. у в. Альшанікі) у г.п. Шуміліна.**

## 801. Чары на сына

Дажэ ў Рачных вот што было. Я хадзіла ў пяты клас, і са мной малец хадзіў тожа ў пяты клас. Ну, а тады паявіліся агуркі. Ну, этага мальца маці, вобшчэм, там патаптаў нехта агуркі ў іх, у гародзі. Маці ўзяла сляды гэтыя, пясок, дзе сляды былі, выразала і занясла на кладбішча. Гэта маці зробіла, яна думала, што чужыя. А гэта ейны сын быў. Ну, рабяты стаялі, ён сказаў: “Злажу, прынясу гуркі з гароду”. Ліжаў у бальніцы гэты малец, і маці пры-йшла атведваць, дык ён дажэ не глянуў, і гаварыць з ёй не стаў. Ну, ён, мусіць, патаптаў, і вот сляды гэты, пясок, узяла, і занясла на кладбішча. Мо славы нейкія гаварыла. Ну нешта ж знала баба. Дык гэта точна было. І мальчык гэты і памёр. Ну сколькі яму было, не знаю, можаць, чатырнац-цаць дажэ яму было.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А. у 2009 г. ад Пецько Антаніны Іосіфаўны, 1925 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 802. Маці чараўніца

Дружыў парэнь з дзяўчонкай. Як толькі сядуць на лавачцы, а кошка бегаець, круціцца, не даець ім пасядзець. Тады ён гаворыць: “Як толькі са-дзімся, а ўсё гэта кошка”. Тады, гавораць, узяў з сабой тапор і як толькі ко-шка бегла, ён ёй па лапе і адсек лапу. Ага. Вот пасядзелі яны, пайдзём да-моў. Прыходзць, а маць на печы ляжыць. І на утра не ўстаець. А маць не

хацела, каб ён з гэтай дзеўкай дружыў, каб браў яе. Вот яна здзелаецца кошкай і бегаець кала іх. Эта сын мацеры руку адсек.

**АСЭТ: зап. Латушкін А. і Паўлавец Н. у 1998 г. ад Аношкі Дар'і Кірылаўны, 1911 г.н. у в. Гадзіўля Лепельскага р-на.**

### 803. Чараўніца насылае жабаў

Было ў нас. Гэта Нюра такая калдавала, але дачка яе забрала. Ужо даўно было. Гады тры [жабы] жылі. У хаце прайсці неяк было. Толькі лопалі яны во тачкея [маленькія]. Пад пол, бывала, палезеш, дзяўчаты не адна не лазіла, ажно страшна, ад іх ажно шэра, ад жаб этых. Я на рабоце спрасіла, ці ёсць у іх такое. Яны сказалі, што знойдуць пад палом калі адну. А мне стыдна неяк сказаць, што ў мяне картошка засоджана аднымі жабамі. Я так і маўчала.

Устала неяк у тры часы, а так у шэсць абычна. Нада і свіней пакарміць, усіх. Я устала утрам рана, надзелася, выйшла на кухню, а там жаба такая, як кошка чорная. Ну, так на чатырох нагах і пайшла туды ў паравое. А ў паравым стаяла вядро пустое, значыць, вугаль высыпала, а вядро гэта стаяла ў паравым. А яна як ішла, галавой тык у вядро і вылезці не можа ніяк, капошыцца. Я ўзяла мяцёлкай прыжала яе ў вядры і на двор. Давай мяцёлкай яе сцябаць, а яна за мяцёлку зачапілася і мне лапамі па галаве. Во, блін! А снег глыбокі, а мароз бальшой у тую зіму быў, у 80-м гаду. Ну, пастаяла. Палку схваціла. Як стала лупіць яе. Тады у вядро ўсунула яе, на блін здзелала. І па гароду ў валенках, не знаю, можа, знясла са свайго гароду ці не. Ямку вытаптала, яе ўкінула і затаптала яшчэ снегам. І ўсё.

Прыехала дачка Ніна. Кажа, што нешта ў нас ня тое ў хаце. Увечары прыхаджу з работы, Ніна гатовіць есць, бацька прыехаў. Тады Ніна пайшла спаць. Толькі лягла, гатова – крычыць: "Мама, мама!". Думаю, во ўжо гора, дажа пасядзець, паесці нельзя. У 8 на работу, а ў 4 ўставаць. Яна кажа: "Стой каля буфета, слухай!" А нехта стогне, і так 3 разы. Я свет запаліла. Прама за шкафом стогне. Я і пад шкаф мяцёлкай – нет. Я і сюды пад кравацць – нет. І яшчэ. Мінут нескалька пройдзець – і апяць. Стогнець, як жывы. Як чалавек ці так нешта яшчэ. Я стаяла каля буфета, і ў 12 часоў, роўна ў 12 часоў так застагнаў ён. І ўсё. Стагнаць не стаў. Пасля 12 ён не стагнаў.

Прыйшла на работу. Гавару: "Маю паслухайце історыю, а то ўсё ваша. Вот, – гавару, – ета самае, я вам гаварыла а жабах, а як вы сказалі ў вас па аднэй, дзе адну найдзеце, я вам нічаво не стала гаварыць. Смяяцца будзеце, што прыехала з дзярэўні, жаб прывезла, – гавару, – пад пол пралезці нельзя. Картошка абсоджана жабамі. Лезу з венікам, размяту, тады бульбы вазьму. Но ўчара, – гавару, – што случылася. Устала у чацвёртым часу. Надзелася тут, усё. Выйшла ў кухню. Ну, вот такая жаба, з ката харо-

шага. А паравое тапіла ж, а вядро пустое стаяла. Яна верна не разгледзіла – і бух у вядро галавой, тая жаба. Ну што, шапоркаецца, я мяцёлкай прыжала і на двор, выкінула. Я венікам сцебанула, гэтай мяцёлкай, а яна за мяцёлку ды мне па ліцу лапамі. Я палку ўзяла і здзелала блін з яе, – гавару. Не знаю, знясла з свайго гарода ці не, снег глубокій, не знаю. Вытаптала ямку, туды ўкінула, засыпала снегам і патаптала яшчэ”. Бабы гаварацць: “Ета вам паддзелана!” “А, – гавару, – а пяюць жа! І за паравым пяюць, і за печчу пяюць”. “У цябе галавы нет, – гаворыць маскоўка з работы. – Кіпятка закіпяціла, – гаворыць, – і кіпятком іх, намяла жаб – не ў кусты нясі, а ў паравое. Большэ, – гаворыць, – яны вадзіцца ня будуць”.

Ну, вот так. Пяюць – я кіпятком за паравое, тут – за печ. Успакою. Так я іх успакоіла! У хаце не стала жаб. Але адна яшчэ ходзіць жаба. Но худая, страшная! Чорт што стала ўжо! Не стала хазяіна, карміць, верна, не сталі яе. Гэту бабу забралі (Нюру, якая чаравала), туды некуды ў Сібір, дачка яе там. Жыць ёй ужо ня можна было. Яны пастроілі ёй якую-то халупу там, байню. І яе ў байню. Яна ўжо сама аправіцца і сама з’есць. Вот да чага Бог даў! Во да чага дайшла! Яна там і сканчалася ў тэй байне. Так з-пад сябе жорла. Бальшая чараўніца была. Так я з жабамі! А тыды прыйшлі мы ў байню мыцца, а там пяець жаба. Я вады зачарэпнула, кацёл адкрыла – і туды раз кружку, втарэй. А жаба як выскачыла, як стала біцца пад паталок. Я яе яшчэ. Падскочыла яна пад пол, ну, канечне яна там здохла. І так я з жаб звялася. А дзе найду жабу, то ўсё роўна, то галаву ёй адрэжу, то ногі адрэжу. Жабы, гаворацць, і кароў даілі, ну, дзелаюць. Жабы, гаворацць, выхадзілі і кароў даілі.

**Зап. Гембіцкая Н. у 2008 г. ад Семяньковай (Шыёнак) Веры Анісімаўны, 1927 г.н. (нар. у в. Альшанікі) у г.п. Шуміліна.**

## 804. Ведзьма скідаецца кошкай

У Путране яшчэ жылі, мы яшчэ дзеці былі. Ну, мы прыйшлі з Кузёмкам, а з-пад стола, з кута ідзець вот такая длінная, хвост длінны, чорная кошка. А я крычу: “Кузёмка, маліся, маліся Богу, маліся Богу!” І мы з ім памаліліся, на кравацць ускочылі, не знаем, дзе дзелася тая кошка. Но мы закрыліся, і ведзьма большэ ў хату не зайшла! Ноч яна цягалася. Што яна там ня дзелала, но мы з ім сядзелі тут, ня спалі, сядзелі. І мама стучала, і цётка стучала. Думала, што нас ведзьма ўжо задавіла, но мы асталіся. І як выпусцілі нас, мы й гаворым, што з-пад кута вот такая длінная чорная кошка ці што, і хвост длінны, і прама к нам, я мы як сталі маліцца, і яна не прыйшла к нам.

Дык, хто Богу ня моліцца, пайшлі к чорту, той і на цябе ўскінецца. Вот. Нада маліцца тады! Яны адходзяць тады, чэрці. Ведзьма гэта хадзіла

каля дому. Не знаю, дзе начавала, можа ў байне пайшла, сядзела. Мы яе не пусцілі, мы не спалі…

**Зап. Гембіцкая Н. у 2008 г. ад Семяньковай (Шыёнак) Веры Анісімаўны, 1927 г.н. (нар. у в. Альшанікі) у г.п. Шуміліна.**

## 805. Ведзьма-малочніца

У нашай дзярэўні, я помню бацька расказваў, асобенна ў Купальную ноч чаравалі. А раньшэ ж езьдзілі на начлег коней пасьціць, у начную, а днём ужо работалі. Ну, кажуць, утрам раненька баба па расе цягне цадзілку, цягне за сабой і гаворыць: “Псёх, Рабая, псёх, Бурая...”. Называла гэтых кароў. Ну і тады ўжо ў гэтых кароў ня станець малака, а ў яе ўжо будзець.

А была тут жэньшчына, к ёй езьдзілі, яна многа знала чаго... Прывезьлі яе ўжо сюды, на дом, гэту жэншчыну. А карова ў хляве ўжо ляжала... І тут паказалася жаба-рабуха. Ну і гаворыць тая жэньшчына: “Абязацельна нада загнаць кол у гэту жабу. Загналі кол у гэту жабу і малако зь яе пацякло. А той бабе плоха стала – павісла на плату, стагнала – гэтак ёй было плоха. Тады яна стала крычаць: “Ішчыце, дзе кол асінавы загнаны!” Каб той кол выдралі.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Андрэйчык Ганны Іванаўны, 1932 г. н. у в. Андрэйчыкі Ушацкага р-на.**

## 806. Сястра чараўніца

Казалі, я этых людзей ня помню, сёстры жылі. Адна чараўніца была, а другая – не. Гэна бедная, як прыдзець к гэтай, што чараўніца, а ў яе і масла, і сыроў, чаго толькі няма. Тая, бяднейшая, і кажыць: “Ну, як гэта ў цябе? Наўчы, можа б я што зробіла”. Тая і кажыць: “Ну, роб сыр, і пайдзём. І я зраблю сыр”.

Ну і пашлі на ручэй, кажыць: “Во, паглядзі, які твой сыр, а во які мой”. Дык у гэтай, што не чараўніца, сыр ляжыць чысценькі, красівенькі, а ў той і п’яўкі, кузяўкі і мошкі абступілі. “Во, – кажыць, – сястрыца, ці хочаш каб на тым сьвеце табе во гэдак во было? Ну, калі я цябе наўчу, так во так мяне будуць смактаць на тым свеце”. Так тая і сыр забылася з руч’я ўхопіць, за галаву ўзялася ды пабегла адтуль.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Буко Вольгі Аляксееўны, 1925 г.н. у в. Замошша Ушацкага р-на.**

## 807. Чары на карову

У мяне ў карові былі аднялі малако. Мы паехалі ў Манголію, там за Беліцай. Я кажу мужыку: “Паедзем”. А ён: “Не паеду, эта непраўда”. А я: “Камуніст ты, табе ўсё непраўда! Ты толькі завязі на машыне”.

Паехалі, я пра карову ўсё расказала, што была харошая, і вяршок, усё. А маментам не стала даваць. І яна, баба тая, зашаптала і кажаць: “Дзетка, у цябе вяршок атабрадзены, а астаўся толькі карашок”. Ну і сказала, як дзелаць.

Толькі я прышла ў хлеў, толькі начала змазаваць вадой, каб тры разы. Ад рог і туды, толькі начала, а ў мяне банку як хто з рук вырваў. І вада уся вылілася. Я гавару: “Ну што дзелаць, Шурка, паедзем яшчэ”. Паехалі яшчэ і я бабкі расказала. А тая: “Дзетка, хто табе паддзелаў, той крапчэй мяне. Ну ўжо дам, але дзяржы крэпка”. І навялася карова.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бражковай Людмілы Аляксееўны, 1933 г.н. у в. Заазер’е Сенненскага р-на.**

### 808. Чары на Купалу

Чаруюць, тут у нас адна была дажа ў дзярэўні. Як толькі Купала, нада ёй калі хат пахадзіць, траву парваць ці якіх-небудзь трэсак схваціць сабе. Дык яе пільнавалі, а мужык адзін яе дапільнаваў, якраз на Купалу. Выйшла яна з хаты і пайшла, а ён ужо глядзіць за ёй, што пашла яна і раздзетая, як маць радзіла, і панесла нейкую трапачку ў руцэ. А яна пайшла і па расе гэту, мусіць цадзілку, цягаіць. Гэткая голая саўсём. Пацягала, а тады цадзілку гэтую скруціла і траву нарвала, і ў вядро, і пад паху, і панесла. І ў нас нескалькі раз прыхадзіла. І ў нас ідзець, а іна ў вакно глядзіць і гэту траву ірвець. І казалі, памерці не магла ні ў какую! Паталок уздзіралі, а яна крычала скока сілачкі.

**Зап. Клопава С. і Путронак К. у 2010 г. ад Забелы А. С., 1920 г.н. у в. Шо Глубоцкага р-на.**

### 809. На Купалу

І цяпер [чараўнікі] ёсь. На Купальскую ноч абы-што робюць. Вот у хаце мятуць усё, чысцюць, а тады шуму чэраз мяжу. Саседка перасыпала мне шуму, значыць, яе куры мне раздзеруць гарод.

Не стала ў нашай каровы малака. І тады мне сказалі з’ездзіць аж у Кучкі, эта такая дзярэўня кала Вярхоз’я ёсь. Ну, прыхаджу я туды. А бабка гавораць: “Ну, што ў цябе страслося?” А я: “Карова не стала малака даваць”. А яна гавораць: “Ну садзіся кала мяне”. А тая бабка, відаць, хітрая, так зеркала стаіць бальшоя, такоя, як гэтыя дзверы. А яна сама села кала зеркала, бутылку вады, а мяне пасадзіла тры метры ад сябе. Я падумала, можа, каб палядзець, ці буду я сміяцца. А я ўжо так строга сядзела. Яна шаптала, шаптала, а тады: “Дык ня толькі карове. А і вам здзелата”.

А тут адна жэншчына на самы гэты празнік, перад Іванам, хадзіла на кладбішча і абсыпала нам цвяты і хату, хлявы пяском гэтым. А нам самім нічога ня здзелалася плахога, а карове стала плоха.

Прынесла я ваду, зліла карову. А тая жэншчына мне сказала: нічога не пазычаць нікому. А бяжыць суседка пазычаць. А я хату зашчапіла. А тут скачаць лягушка па двару і такая бальшушчая. І крычыць так, пішчыць! Я тады выскачыла праз вакно і давай яе палкай. Алі не забіла. Яна пад істопку затачылася. У дзірку і ўсё. Эта было на Купалу.

Тады во гэта жэншчына бегала каля хаты, красная, агнём гарэла. А яшчэ матуся паўчыла: гэты пясок змесці і спаліць. Як я спаліла, дык я думала, што яна ашалеіць, так бегала. Яна і цяпер жывець. Усё па бальніцах. А ні адной маршчынінкі на ліцэ, а годам старэй за мяне.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Пясецкай Валянціны Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

## 810. Кума

Чараўнікі ў нас былі тока на скаціну, чараўнікі былі. У мяне бацька, мама расказываіць, я ня помню бацьку, бацьку вайна забіла, я маленькая была. І мама расказывала, казала, была ў яе кума, гэта недалёка. І вот кажыць: "Купім карову. Такая карова добрая. Січас, – кажыць, – што такое ей, малака не дасць, б'ецца ўсё, ну і што мы, нічога не дадзім рады". Тады, кажыць, прышла цыганка, ну і бацька паваражыць пашоў у цыганкі. А цыганка сказала сразу: "У цябе, – кажыць, – па суседству адбіраіць малако, і каровы ў вас прападаюць". А гэта, бацька ўзяў і прагнаў гэту цыганку. А тады, як сасніў сон, вот спаў і ўскочыў, і маме: "Ай-яй-яй, Паланея, праўда цыганка нагадала, гэта ж кума наша так робіць". Кажыць, убачыў у сне: "Давай, Піліп, – а бацьку Піліп звалі, – з табой паборымся, я твая ведзьма". Гэтак прыснілася яму. Як ускочыў, спужаўся.

Тады ўзяў, як тая кума прыйшла, і выкінуў яе з хаты: "Каб твае нагі тут не было!" І па той раз, дзетка, мама купляла каровы, каровы былі, людзі хадзілі, калі мама, даілі хадзілі з мамай. Во што, відзіце, кума.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Явілкі Лідзіі Піліпаўны, 1935 г.н. у в. Мсціж Барысаўскага р-на.**

## 811. Урочыстае вока

Я была даяркай. У мяне была карова харошая, малочная, і цяліла двое цялятак. І вот Коля, ён ужо памёр, а жонка яшчэ жывая, ён прышоў, а ён на глазы быў урочысты. І кажаць: "Маня, ты гэту кароўку няспутаную не падоіш". А я: "Што ты, такая спакойная карова". І не падаіла! Тады я, ізвініця за грубасць: "Коля, ёп тваю маць, ты мне карову сурочыў!" Во так. Засмяяўся. Ён тады ўзяў банку літроўку і ўзяў у рот вады, і запырснуў, і другі раз, і трэцці раз.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Чарняўскай Антаніны Ціханаўны, 1923 г.н. у в. Замошша Сенненскага р-на.**

## 812. Дачка-ведзьма

У аднаго хазяіна нехта адабраў у каровы малако. Ён пайшоў да знахара, а той яму сказаў: “Паглядзі добра, што ў цябе ў хляве ёсьць”. Вярнуўся дамоў хазяін, а каля дзвярэй у хлеў сядзіць жаба. Ён за сякеру і адсёк ёй лапу. І прапала тая жаба. А заўтра яго дачка з парубленай рукой хадзіла і плакала. Аказваецца, вяла яе нейкая сіла і яна адбірала малако ў кароў.

**Зап. Скулак Н. і Фурсей А. у 2000 г. ад Рыпчак Ганны Фёдараўны, 1911 г.н. у в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на.**

## 813. Ведзьмы-малочніцы

Перад Купалай. У Латышах у адной у гэтым гаду... У нас дык у Востраве бабы гэтага не панімаюць, ня ўмеюць, а ў Латышах можа і ёсць яшчэ хто. Так у аднэй прошлы год спорцілі карову. Ну яны тады ўжо ездзіюць па знахарах і гэта ж, але яны гэтае не скажуць, і не пакажуць, ну ня хочуць, каб ім мсцілі. Ну дык яны гавораць, што пазнаеце, як ваду прывезецё. Гэта бабка будзець то ў адзін канец дзярэўні хадзіць, то ў другі, будзе бегаць і бегаць. Дык гэдак прошлы год і было, і бегала.

А хто іх ведаець, як яны адбіраюць. Гэта мы ў дзярэўні жылі, а я ішла на футар карову даіць, а там бабка жыла, яна таксама ўмела, але ўжо памёрла. Іду карову даіць, а яна бубніць і бубніць, і нешта шэпчыць на маіх кароў. “Буронка, Звёзданька…” – і гэтак яна нешта знала, і малако адбірала у кароў. А знахар, ён знаець і дажа ўпярод. Яны паставяць стакан вады і ў стакане пакажыць гэтага чалавека…

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Бузо Анэлі Ігнацьеўны, 1923 г.н. у в. Вострава Глыбоцкага р-на.**

## 814. Жонка чараўніца

Чалавек у ваўка можыць... Гэта чорт можыць пературацарацьпературарацьparaвараць, калдуны так могуць робіць. Тут адзін во, Сашка, быў пасля вайны нейкую жонку ўзяў, адкуль ён яе ўзяў – хто яго ведае. Сем сыноў было у іх было. І гэта жонка кажыць: “Маўчы, – як пасварацца, – я зраблю цябе ваўком і паляцішь па полю”. Так гэта страшна! Усе дзедзінцы казалі, што яна знала.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф’і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 815. Чары па няволі

Гэта дзед мой расказваў. Яны на начлег езьдзілі, коней пасьцілі. Глядзяць – нехта цягаіць нейкую трапку і кажыць: “Мне ўсё, мне ўсё!” А яны ўзялі тады аброць і кажуць, шуткуюць так: “А нам палавіна, а нам палавіна!” Прынесьлі аброці гэтыя да хаты, а зь іх малако і пацякло.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Латышонак Соф’і Восіпаўны, 1923 г.н. у в. Латышы Глыбоцкага р-на.**

## 816. Заклад

Ну і эта гаварылі, што ёсць чараўнікі, што малако адбіраюць, малака ў каровы тады німа. Ай, можа праўда, можа… Можа і праўда, у мяне було тут. Кароўке нада цяліцца, а выма нет, адна кожа. А тады, адна кожа баўтаецца, ацялілася, цялушачка бегаець, а малака нет, а яна мяне скубець за падол. Пацягну, толькі як капліна пакажацца і ўсё. А суседка мая, яна памёрла, гляджу, хлеў, вугал, і тады к гэтаму углу, к хляву прыдзеланы, тарчыць нейкая палка і к ей прывязана трапка. А ў мяне была пахожая занавеска была на кухні: паласа сіняя шырокая, там у цвяткі, паласа красная і белая, мусіць. Ага. І гэта трапка во так на палку і вецер яе ганяець.

Прышла ка мне дваюрадная сястра, на канцы там што жыла, за дарогай. Я гавару: “Зоя, палядзі, што Каця паторкнула к хляву, вецер ганяець, з нейкай палкай?” А яна: “А ты вазьмі ўбяры”. Гэта была вісна, але маразы былі, сьнег сагнала, ды віснавыя марозікі, зімля ўжо мёрзлая. А ў маей каровы нет малака. Я прынесла цялёначку вадзічкі, а ён хватаець піць з місачкі. Ай-яй, што дзелаць?! А тады думаю: “Гэта яна мне чары нейкія паддзелала.” Ой, зьмяя была! Колам ёй зямля на тым свеце! Усё мала было зямлі. Мяжу гэту ўзарыці, што вякі прадзеды жылі!

А тады Зоя на мяне, гэта сястра дваюрадна: “А ты схадзі вырві гэту трапку”. Я ж пашла, прынесла эту трапку. І ўзяла, дурная, у сваёй печы спаліла, гэту трапку… і палку тую ўзяла, і палку. А палка асінавая, і вот так канец у зямлю і застругагый. Гэта ж відна, што чары дзеланы. Заточаны, войстры, штоб укалоць. Адгэтуль, вот такі, вот такі сук прыросшы, во так, і ад гэтага сука заточаны, там войстра, і паторкнута, а тут – роўна, каторая ў сценку была, а ў зямлю так. Я гэтую палку прынесла, астаўся кусок трапкі там. Вот дзелала, я гавару, можа яна мне заклад і здзелала. Сон сьніўся дрэнны такі, што яна ў хату маю залезла. А тады, гэту я спаліла ў печы, нада ж і той кусок як выдраць. Пайду я той кусок. Замёрзшы, стану – следу нет, і абула не сваё абуванне там. Ага. А тады думаю: “А нашто ж я ў печы паліла?”

Паявілася ў каровы малако. Стала малако прыбуваць, і я цялёначка не паіла, а ссаў, ужэ яму хватала малака, во эта маладая кароўка, у нас дзьве было, а гэта ў маладой, яна ацялілася первы раз. А тады я гэта спаліла палку гэту, перасекла і ў печ. Хай бы я дзе, як людзі гаворуць: “Калі што падкінута, ты нясі на крыжавую дарогу.” Эта мне после людзі мяне вучылі. І там спаліць нада, гаворац, калі чары якія. Тады, пайду ж я гэну трапку можа вырву. Вырвала трапку, у мяне і цяпер валяецца міска, яна дзіравая, на дварэ. Узяла ў гэту міску гэту трапку, занесла за баню на мяжу, паставіла і буду ўжо на мяжэ паліць тут за баней, на дварэ.

Я толькі запаліла паліць, а дым мне – чмых у рот, аж усюда. І што мне здзелалася тады, вот начараванае ж! А мне здзелалася во тут дрэнна.

Ай дрэнна стала, ай дрэнна! Я тады ў хату, кіслага малака ў рот скарэй, вады – нічога. А я сыраквашы, а ў мяне во тут села, дыму гэтага хлебнула і во тут мне села ў грудзях. Дрэнна мне, ташната, нудна. І во як мне було…

Тады я ўзнала, што яна чарувала маей кароўцы, і малачко паявілася, але яна тады і кульгаць стала. А тут стаў гэты… перастройка, разрэшылі ўжо па дзве каровы дзержаць. А чалавек там… купляў ужо, прышоў, за Красным жыў, нейкі хутар. Ён у мене гэту кароўку адкупіў. Я гавару: “Ну, первы раз ацялілася, – гавару. – Ножка во кульгаець, забалела”. А ён: “Ай, нічога, вецінары вылечуць”. І ў мене… я тады прадала яе. Так вот бог яе ведаець, якая яна была ў яго карова. Во як мне было із суседкай із этай...

**Зап. Бабіч А. у 2008 г. ад Смай Аляксандры Міхайлаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Навасёлкі) у в. Залужэнне Ушацкага р-на.**

## 817. Пра паддзелы і чараўнікоў

Дажа паміраюць людзі ад гэтага паддзела. Дажа на вадзе відна, хто паддзелаў. Болей паддзелываець бабы! Мужыкі не. Былі мужчыны, што памагалі. Быў сусед, што паддзелаваў, пакуль мама ня сходзіць к дзеду за вадой, тады карова пойдзе. У Барках жыў. А ў нас Вялікае Сяло. Той дзед ад усяго памагаў. І ад змяі. Ад усяго памагаў. Алі ён мог і… Па блату здзелаіць каму, каб малака не было, як хто папросіць.

Маей маткі малако аднімалі, такая ласка, яна прыходзіць, а карова ўся мокрая ў сараі. Эта ласка выбірала малако і другім. Ласка ганяла карову. Ён аддзелаваў ад ласкі.

Яны трудна паміраюць. Гаворуць, тады нада паталок разбіць, дырку здзелаць. Я эту бабу глядзела, яна давала ваду ўсякую, яна ж памірала на маіх глазах, яна тут жыла, яна дзелала і харошая, і плахоя. І када памірала, як трактар гудзеў. Ейны бацька паміраў, яна мне расказывала, паміраў, дык простынь з’еў. Тожа знаў. Каровам аддзелаў і паддзелаў.

Мне там адна, чэраз дарогу, яйцо белая, наверна, з цэркавы прынесла, палажыла перад заборам, я ж там не адна жыву. Я стала капаць кала забора, каб трава не расла, яйцо нашла белая. Тады нашла другі год – капыт, гэты цяляччы маленькі, такі, як мая рука. Свежы, кроў, усё, у гародзе. А я ўжо знала, хто носіць. Дык я ей сказала: “Ты мне не насі і не старайся што дзелаць!” Яна бабу этую глядзела і наўчыла. А мне баба не дала нічога, другія далі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Хадыкі Надзеі Васільеўны, 1936 г.н. у г. Сянно.**

## 818. Паддзелы на дарозе

Як ідзеш, лепш не падымаць нічога. Нельзя, эта паддзелы. Ты ідзеш і падымеш… І на кату дзелаюць. Еслі ты на кату возьмеш і ўвесь паддзел та-

бе. У маей дачкі ў Віцебску падруга дочку пацерала. А яна любіла катоў. І хто-та паддзелаў на кату. А яна любіла катоў і ўзяла этага кацёнка. Нічога ў бальніцы не прызнавалі, што яна бальная. Ужо рышылі аперацыю дзелаць. А яна: "Мамка, забяры мяне дамой". А яна яе не забрала. Яна абрацілася к бабкі, а тая: "Позна ты ка мне прышла. Яна памёрла". А было здзелана на кацёнку каму-та другому. А раз яна первая ўзяла, ці падняў што, эта ўжо табе.

І на грошы. Каторыя грошы бываюць і не паддзеланыя. А я катушку падняла, жалка ж, катушка нітак, і плоха мне стала. Прышла я к этай бабі. А яна будзець гаварыць: "Дзе ты катушку брала? Нашто та падняла?" А мне жалка, што ніткі валяюцца. Вот так. Дзелаюць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Хадыкі Надзеі Васільеўны, 1936 г.н. у г. Сянно.**

## 819. Падклады

Калі дома хто-небудзь знаходзіў што-небудзь не сваё, і штоб аберагчыся нядобрых людзей гэтых, калдуноў, таму што хто там ведаў, дзе ён узяў, то гэта бралі і неслі на крыжаванку. Рукамі не бралі, абавязкова трэба было ілі трапачкай, ілі рукавіцай, але пажадана было нечым чорным браць і вынасіць выкідваць.

Былі іголкі, маглі нават… Добра ня памятаю, гэта ў дзяцінстве было. Адзін раз карова пала. Нас было ў мамы чацвёра ў хаце, і гэта быў вельмі моцны страх. Ну што, галодныя ўсе ў хаце. Маці ездзіла да Знахаркі. Дзед Знахарка такі, і той сказаў, каб перасыпалі хлеў, і пад такі-та вугал, каб знайшлі чары. І проста было цікава. Бацька-то быў камуніст, і ён не верыў таму, але маці верыла.

І вось прыехалі, маці настойвала, каб бацька гэты вугал ўсё ж такі разабраў, і асталі тады адтуль нешта такое закручанае. Як мама казала, што поўна было гэта ўсялякай ерундой, валасамі, і пяском пасыпана. І дзед той казаў, каб яна, што знойдзець, прывезла да яго. І яна вазіла.

Дзед гаварыў, каб у наступны раз паехалі на базар і купілі карову чорна з белым, і больш ніякай. І толькі, як купіце, вялі каб дарогай такой, штоб ад чужога вока далёка. А мы, малыя, сядзелі і праз акенца на тое глядзелі. Радзіцелі прывялі карову, і з таго часу тая карова засталася, і ад яе цялушкі пайшлі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

**820.** Мы купілі во гэту хату, і там хлеў быў. І тут дзьве суседкі жылі. І ў хлеве – што карову не купім – глядзім, усё, а яна возьмецц і здохнець. Ну, нам нараілі, што нада хлеў крануць з места. Мы разбурылі гэты хлеў,

клады, подруб, глядзім, а там во гэткая костка пад вуглом была. Таўстая, кароўя ці конская костка. Такая во пад вуглом. Як выкінулі гэтую костку і зрубілі хлеў – сталі каровы як каровы, перасталі дохнуць.

**Зап. Красько Г., Лях В., Палякоў Д., Радзюк А. у 2008 г. ад Пшоннай Тацяны Міхайлаўны, 1922 г.н. у в. Гілі Чашніцкага р-на.**

**821.** Шчаравалі раз у нас карову, лягла і ляжыць, толькі равець. Тады нашлі мы чалавека далёка, каб памог. Той прышоў і кажаць: "Пад хлевам у вас клубочак, пад камянцом закапаны". Пакапалі – аж і праўда – ёсць клубок з дванаццаці стужак, усе разных цвятоў. Эта каб дванаццаць76 кароў у нас змянілася – і чорныя стужкі, і рабыя, і белыя – усякія. Во як начаравалі нам.

**Зап. Валодзіна Т. у 1993 г. ад Цялятка Еўфрасінні Анісімаўны, 1912 г.н. у в. Катоўшчына Лепельскага р-на.**

**822.** Падклады рабілі чараўнікі. Адна жэншчына пайшла ў туалет і ўбачыла мяса падкінутае каля сьцяны. Яна за тое мяса і на агонь яго. А другая жэншчына, якая падкінула гэта мяса, выбегла з хаты, а цела ў яе ўсё ў плямах, абгарэлае.

**Зап. Лобач У. у 2000 г. ад Шарамет Марыі Рыгораўны, 1922 г.н. у в. Лагі Ушацкага р-на.**

**823.** У аднаго чалавека каровы не вяліся. Купіць ён карову, паставіць у хлеў, а тая – здохніць. Пайшоў ён тады да знахара, а той сказаў, што ў хляве ёсьць костка падкінутая. Прыйшоў той мужык у свой хлеў, знайшоў костку і выкінуў яе. І каровы пачалі весьціся".

**Зап. Лобач У. у 2000 г. ад Броўкі Надзеі Пятроўны, 1920 г.н. у в. Ветча Ушацкага р-на.**

**824.** Ёсьць падклады! Адна баба адбіла ў другой мужыка. Ён кінуў першую жонку і перайшоў да яе, другой ужо. І тут пачала гэта другая сохці, бо першая падкінула ёй яйка пад хату. Другая жонка спужалася і кінула тое яйка ў раку. Яна сразу жа палепшыла, але мужык той памёр.

**Зап. Лобач У. у 2000 г. ад Арцюх Маланьні Філіпаўны, 1914 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 825. Падлогі

Раней рабілі зло друг другу. І падлог клалі, і каля ганку, і пад ганку паложуць, і то і другое. Яйцо клалі. Тады яйцо нада ў якую-небудзь трапку і цягнуць яго ад будынку, ад сваёй тэрыторыі, і ўсё врэмя маліцца, хоця бы "Отчэ наш". За сваю тэрыторыю нада цягнуць і там тады закапаць яго, і ўсё врэмя маліцца, маліцца, каб не напала яно назад. Яшчэ ў рэкі, дзе бя-

жыць вада, туды кідаюць. Мяшочык, тры камушкі, і туды пускаюць. Яшчэ нажы падкідваюць. Не толькі пад парог, а так падкідваюць… А вось знайшла нож і пашла, і хлеб рэжышь ці прадукты, а ён зачараваны. А нож – на агонь, спаліць яго дзе-небудзь.

Кідаюць у магілу трапкі, адзежу пад гроб, калі хароняць. Фота могуць узяць, тожа туды пад гроб, ты не дастанешь, кідаюць у магілу. Я раз відзіў, як адна нейкую трапку – раз – і ўгроб устаўляе. Гэта не добра, калі зло робішь.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

## 826. Выліўкі

І яшчэ расказывалі, што свякроў жыла ў нявесткі. Её усё ўрэмя загадавала пад чужую хату, пад вугал хаты, пасуду як памыеш, каб туды вылівала. Ну во так ліець, ліець, а жанчына прымеціла і пытаець: “Чаго ты ліеш пад мой вугал ваду?” – “А мне свякроў загадала”. – “Ну дык выверніся і лі пад свой”.

Дзеці памiралі, было дзяцей можа 13, а адзін толькі астаўся. У той хаце, куды ліла пад вугал ваду. Дзелалі былі, і аддзелывалі.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Крыцкай Валянціны Іванаўны у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

## 827. Пра чараўнікоў, знахараў і залог

У нас дзяды такія былі, што зналі і панімалі. У нас такі адзін быў чараўнік, што дужа-дужа многа знаў этых загавораў. Я яму дужа памагала ў хазяйстве, жонка як памёрла. Ён маліўся над вадой. Загаворы дзелаў. Той вадой памачыўся, каб усё ўніз ішло. Дрэннага ня дзелаў. Нашто дрэнная дзелаць? Толькі маліўся. Бываюць такія дзяды, што паддзелываюць. Вот што-небудзь як паддзелаюць, і плоха.

У маей бабы была матуся, Дарафеіха, ай, дужа памагала, дык яна неяк усердзілася на нявестку. Дык нахадзіла костку, і гэтай косткай намажаць, надзелаіць і ўсё. Ідзець жанчына там ці хто, як станець на гэта места і ўсё. Паддзелывалі, былі.

Нам тожа паддзелывалі. Эта чараўніца нешта знаіць, валосся там сабярэць ці чаго і ў вугол. І ў вугол заторкнець. Вот хлеў я дзелаю. А яны на трэцці вянец возьмуць валосся, трапак усякіх, нешта там над імі кажуць, і як толькі ты на абед пойдзеш, раз, прыдзіць і ў вугол паложаць.

Яны цяжка ўміраюць, круцюцца, дужа труждаюцца. У нас адзін так труждаўся, што дажа ка мне прыхадзілі і прасілі: хадзі памаліся. Дык я хадзіла малілася. Малітву і проста памінaлі таго чалавека. Каб яму Госпад Бог памог. “Памінаю Госпада Бога найвысшага і дзвінаццаць царквей і

дзвінаццаць Найсвеншых Матак, памажыця яму ад таго і ад таго...” Як яму так цяжка, то просюць другога чалавека, каб прышоў памаліўся над ім, каб той успакоіўся.

У нас каровы не вяліся. Змітрок нам даваў ваду, у бутылачку і каб у дзвярах вісела. Як чалавеку, дык нада спліхнуць, каб усё ўніз ішло. Як выганяюць, замкі клалі. Карову выгнаць і замок замкнуць. А тады як прыходзіць карова з поля – эта первы раз – атамкаеш. Прыдзіць і атамкнеш. А як выганеш, замкнеш і пакладзеш у парозе. Калі чараўнік гэты ў хлеў залог заложыць, тады каровы не вядуцца.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ермаловіча Васіля Аляксеевіча, 1919 г.н. і Ермаловіч Антаніны Яфімаўны, 1924 г.н. у в. Серкавіцы Талочынскага р-на.**

## 828. Смерць чараўніцы

Тут была адна ў Буерове, за Бабынічамі, яе нехта забіў. Залезлі праз чардак. Ну мы знаем як што там зробілася. Яна падробіла адной жэншчыне, што яна дурнела, крычала. Па злосці падробіла, узлавалася на яе і падробіла ёй. А пляменнік, не пляменнік, а прымерна твайго брата жонка, зробіла гэдак яна, што яна здурнела, а ты пайшоў і сказаў: “Адробь, а то я цябе заб’ю”. А яна жыла адна, а дачка дзе-та была далёка ў горадзе, жыла адна. Яна не адробіла, сказала: “Я не ўмею адрабляць”. А ён тады чэраз чардак улез і забіў. Ніхто не знаў. Не ведаў. Нашлі нежывую ў хаце. Старая была, можа восемдзесят гадоў. Ніхто нічога не знаў. Пахаранілі і ўсё.

Яна ж многа каму дрэннае рабіла. Усе зналі. Хадзілі к ей, прасілі яе – адробь. Усе зналі, што яна. Яна жыла ў Буерове, хацця у Буерове нікога няма, такога каторы яе помніў – усе ўжо паўмералі. Там ужо тожа толька наезжыя. Ну так толькі па расказу перадаецца з аднаго пакалення другому. Вот так.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

**829.** Яны не ўміраюць, яны падыхаюць. Канешне, не так уміраюць, як людзі. У нас была Прося, гэта яўная чараўніца была. Старая жэншчына. І мучылася яна сільна доўга. Яна памёрла, быццам бы. Вынесуць, быццам бы памёрла, а прынясуць у хату – а яна аджыла. І яе цягалі так цэлу ноч, гэту Просю, пакуль не ўзадралі тры дашчычаны ў паталку. Тады толькі памёрла. Вынесуць вон – аджыла. А прынясуць – усё!

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Карусевіч Тамары Пятроўны, 1930 г.н. у в. Заручаўе Бешанкавіцкага р-на.**

**830.** Вот чараўніца памёрла. Капаем, глухой восенню, перабіралі бульбу ў калхозе, і вот была такая баба, яна ўсё балела, Прося, усё балела,

ага. І небальшэнькі аблачок найшоў на неба. Гэта я ўжо добра помню. І тады ўзяў гром загрымеў. Эта ў глухую восень. Эта, кажуць, яна тады памірала. [Ёй] столь падымалі.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Сідзяка Ларысы Пятроўны, 1915 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

**831.** Вот чэраз тры хаты Пракопіха, у яе і бацька знаў, і матка знала. Шчатавод прышоў к ей, а яна ляжыць. Яна нядзелю ўміраіць. Ужо і ляжыць і ўсё – абмёрла, а дух ідзець з рота і серца б'ецца. Дык у яе ў Нізгалаве была сістра радная і яна знала. Наказалі той сястры, тая прышла. Дык я пашла, нешта нада было, тая баба ляжыць, рот разіня, а нейкі дух у яе з роту ідзець, як дым, уверх, а там доска паднятая і хамут ляжыць, толькі не аромы, наверна, вазавы. Я добра з пуду не разгледзела. Столь во, як у мяне, дошачкі ўпоперак, а балькі так былі. А дзве дошачкі падняты. Каб сістра ні прышла, яна б яшчэ месяц мучалася. Што тая сістра пашаптала?

А гэта Варка чараваць умела. Яна і ваду давала, ад падрыву, ад пуду. Я дажа відзіла, там такі камень, дзірка ў хлеве, падмост. А яна там ўкачалася ў сцёк уся, толькі галава [тырчыць], а так уся ў гнаю пакачалася. І там такоя балотца, як ідзеш, проці, там за кустамі балотца, як ідзеш. Дык яна як паляцела ў тоя балотца. А я іду з гары, а яна бух у ваду. Дык я ўцікала, бягом бегла. А тады [яна] мокрая пашла дамоў. А чаго ў яе была дзірка там прабітая? Дзірка, камень выдзернуты, каб пад пол. Вот яна качалася. Я відзіла, як качалася і відзіла, як умірала.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Маляўкі Ганны Сцяпанаўны, 1930 г.н. у в. Завадзіна Лепельскага р-на.**

## 832. Смерць чараўніка

У Нізгалаві там яшчэ быў чараўнік, тожа як вон вынісуць – памёр, а як у хату – аджыў. Ну гэдак было. Ну што тады. Адзін ім чалавек нараіў, сыну сказаў. "Хамут нада", – сказаў. Тожа ўзадраць паталок, і чэраз хамут глядзець. Ну ўзадралі паталок, глідзяць, аж там прышлі, а ён ужо ў начоўках ляжыць. "А я, – гаворацъ, – вару накіпячу, вады і гэта палію". А тут прышлі два касматых, узялі яго траханулі, паднялі, траханулі. Душу зь яго вытрасьлі, канешне. Ну і кінулі гэтага дзеда ў начоўках. "А ты, – гаворацъ той чалавек на сына, – глядзі". Прышоў, вады накіпяціў, як лінуў... Ага, во йшчэ. Гэты касматы душу вытрас, а сам залез у кожу. У гэтага дзеда, унутр. Ну вот глядзі, што будзець. Вады накіпяціў, як лінуў на гэтага мірцьвяца! Як падняўся гэты мярцьвец, ні стала нідзе, як пашоў. І ні харанілі таго дзеда. І шкуру яго зьняслі, усё.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Карусевіч Тамары Пятроўны, 1930 г.н. у в. Заручаўя Бешанковіцкага р-на.**

**833.** Чараўнікі дужа цяжка паміраюць. У нас адна баба была. Ужо ўмерла, усе баяліся падыйці, а тады апяць глядзіць. Столь прадзіраюць, кажух кладуць з авечак поўсцю ўверх і яго ложуць, чараўніка, каб кончыўся скарэй.

**Зап. Валодзіна Т. у 2005 г. ад Міцько Веры Уладзіміраўны, 1926 г.н. у в. Туркі Докшыцкага р-на.**

**834.** Адзін старык у нас уміраў. Мучыўся болі як тыдзень. Столь прарэзалі, а як узлезлі на гару, кала гэтай дзюркі, Божачка міленькі, сколькі калу было!

**Зап. Валодзіна Т. у 2005 г. Каляга Юліі Нікіфараўны, 1920 г.н. у в. Вітахмо Докшыцкага р-на.**

**835.** Ну, кажуць, што паміраў адзін чараўнік і сказаў свайму сыну: "Узлезь на чардак, і раздзяры паталок процiў яго, і глядзі праз хамут. Хамут вазьмі і глядзі". Сын так і здзелаў. Залез на чардак, глядзіць праз хамут. Дык, адзін чорт ускочыў ягонаму бацьку ў рот, кішак наматаў, наматаў і выскачыў. А другі ўскочыў у рот, у жывот, і ня вылез. Кажуць, чалавек ня ходзіць, а чорт ходзіць у скуры".

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

### 836. Чары на кароў

Адбіралі малако. Было такое, што наврху цянецца як смала. Было, усё было, дзетка. Такіх людзей многа. Я ж на свеце не бываю, а ў дзярэўні ў нас гэта была старуха, яе звалі Адэля. Казалі, што яна порціць кароў. І яшчэ другая была – Задунаіха такая, што тожа порціць кароў. Можа, на Купалку. На Купалку нельзя выганяць перваму кароў. Ждзі, калі выганіць хто ішчо. Первы, тады, гаворащь, табе спорцяць карову, той, хто гэта робіць. Усякія былі забабоны, дзе ж ты ўспомніш усё.

На Купалу вянкі вешалі каровам, пастух вешаець вянкі, напляце на пасце, усім каровам павешаець і гоніць. Кожны хазяін далжон яму што-та даць: ці яйкі, ці што, ці рубль. Гэта, каб не сурочылі. Гэта было. Гэта ўсё помняць: хто жыў і дзяржаў кароў, што пастух гэта рабіў.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

### 837. Свінні і сурокі

Былі такія, што давалі ад вывіхаў. Руку спорціў нітачку пачапаеш, тут старушка ў нас была, давала нітачку. У мяне свіньня апарасілася, гэта было гадоў дзесяць назад. Прывяла, ніколі гэтага не было, дзесяць пар-

сючкоў. Гляжу свіньня не падпускае блізка. Не знаю, што мне робіць. А Божачка! Свіньня ж іх паесць усіх. Я тады к гэтай, што нітачку давала, і кажу: "Можа хто паглядзеў, можа сурочыў?" Яна мне дала з роту вады, тры разы, яна нешта памалілася. Я прышла, змыла гэту свіньню, і яна падпусціла маіх парасят. Дзесяць парсючкоў, гэта была ўцеха.

А адзін год было так, што я павіла, дзве свіньні ў мяне было, я ўжо пашла на пенсію, мальцам нада было памагаць. Я пусціла дзьве свіначкі. А тут у жэншчыны быў кныр і яны абедзве, две сразу нада ім. А тая жэншчына: "А чаго ты ка мне гнала двух. А ты іспорціла мне парсюка". І ўсё.

Свіньні апарасіліся. Адна прывяла два, а втарая пятнаццаць прывяла і ўсіх паела. Як толькі ён адтуль, яна – гоп і задушыць, гоп – і задушыць, і адкінець. І ўсё, я закрыла дзверы, і ўцякла, і не глядзела. Пятнаццаць штук прывяла і з'ела. Вот якія бываюць людзі. Гэта ўжэ закляла тая жэншчына мяне. Ну закляла, каб ты не мела пользы. Усяк было за жызнь. Ну што тут зробіш.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

## 838. Чары на хлеў

Вот мая дачка казала, зрубілі яны хлеў. І вот чараўніца прыходзіла, і, знаіця, што-та яна зрабіла там. Прыходзіць, трэскі брала. А яна, дочка, яна нічога такога не знала. І яна кажыць: "Мама, куплю парасят, пабудуць, і здохнуць, і здохнуць". Дык, казала, хлеў пераняслі ў другое места, нешта яна там утварыла. Вот.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Явілкі Лідзіі Пілiпаўны, 1935 г.н. у в. Мсціж Барысаўскага р-на.**

## 839. Юраўскія чары

Ну вот, еслі я задумала аднімаць у суседкі малако, я цадзілку па расе пацягала на Юр'я. Вот мяне так учылі. А я сказала: а я не хачу. Да ўсхода сонца: "*Юрава раса, дай малака да паяса*". А я не хачу, луччы я буду хадзіць з бутылкай па чужых бабах, а мне чужоя малако не нада. Казалі, што тады ў той чараўніцы і малако пахнець. Можаць дажа навозам пахнуць малако, еслі яна дзелаець.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ступак Соф'і Міхайлаўны, 1926 г.н. у в. Лаўрэнаўка Талочынскага р-на.**

## 840. Пазыкі на Купалле

На Купалле нікаму нічога не давайце з хаты. Нікаму не давайце! У мяне ж карова прапала. На Купалле прышла адна, а я купіла бутылку водкі, яна відзіла як я несла. Ага, а ў яе грошы не было, яна, а маці яе была ча-

раўніца, маці, яна ўсё знала, усё ваду давала, каровы, усё знала. І вот прыходзіць на Купалле, мне кажыць: “Ліда, аддалжы чарачку гарэлкі. Ай, – кажыць, – мужыку плоха”. А я як дурная тая, узяла і падзялілася, і вот дала.

Назаўтра пашла карову даіць рана, што-та карова мая – у глазах слёзы, і малака напалавіну не стала даваць. Я пашла к гэтай во суседке і кажу: “Зіна, ай нешта сёння з начы малака карова не дала, слёзы”. А яна: “А каму што ўчора давала на Купалле?” Я кажу: “Розачка прышла, як прычапілася ка мне”. – “Каб табе галава адсохла, – на мяне, – ня можна ш даваць на Купалле нікагда, нікада! Глядзі, каб на Купалле ў цябе ніхто нічога не ўзяў ні з двору, глядзі!” – гаворыць. Як, дзетка, карова мая, худаць і худаць, малака меньшэ і дашло да таго, што малака стакан дала.

І вот на пасце, мой унук і мой мужык былі на пасце, калі тая кароўка ў нас была, і гэта карова на пасце здохла. І наляцелі на яе авадні, і мужык с пугай і ўнук білі гэтых авадней, чорна. І выялі ўвесь хрыбет у каровы. Во што зроблена, відзіця, ага, во што зроблена, дзеткі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Явілкі Лідзіі Піліпаўны, 1935 г.н. у в. Мсціж Барысаўскага р-на.**

## 841. Здарэнне на Яна

Вы знаеце што. Перад Янам было. Вось хочаце верце, хочаце не. Я тожа не магла паверыць, што можа там старая толька зрабіць якая ці… Было гэта перад Купальлем самым. Даіла я карову, а адна маладая жанчына гаворыць: “Ай, я змазку дома забылася. Дай ты мне жыру свойго”. Я так, без задней мыслі, гавару: “На”. Як папользавалася так і мне аддала. Вечарам прыходзіць мая карова з пасты. Усё вымя такое пакрыўшыся, яно не пакрыўшыся – такое бальшое зрабіўшыся, малако не выдавіла я. Скока сілы давіла – не выдавіла малака. Тады ўжо малітву нейкую я чытала, кругом каровы пахадзіла, свянцонай солі абсыпала, вадой свянцонай пабрызгала. Тады ўжо неяк яна аж застагнала, пацягнулася гэта карова. І тады тока начала гэта малако прапускаць, а так яны, як усе роўна там вот зацягнула там, як плеўкай якой, усё. Неяк было выдавіць, вот. А я нікагда не падумала на гэту жанчыну, што яна можыць. А ейная баба ўмеець. Яно, есьлі хто можыць, і гэта можа маладыя не веруць, а гэта можна зрабіць хоць на што: і на канфеціну, і хоць на што.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Крыўка Інны Іванаўна, 1971 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 842. Чары на Купалу

Ну гэта ейны дзед умеў, але і яна мусіць умеіць! (паказвае на суседскую хату). А тады Купала была на гарэ, многа ж тады было людзей, і бабы выхадзілі піялі купалку, і, кажуць, жаба прыгаець. Некатарыя кажуць,

што давайце жабу ўкінем у агонь. Ну, хто там закрычэў, а хто там парануў у вока гарэлую галавешку, і жаба гэта папрыгала, і малаком, кажыць, сцыць, і кажыць, ён увечары яшчэ нічога, дажа на Купалку выхадзіў, а ўжо рана і вока закрылася.

Ну, гэта тожа на Купалку… У трох местах сыпюць апілкамі, там недзе і тут (паказвае на дарогу), бо не зналі, куды пагоняць. І там, кажуць, Міколішына карова раўла, не хацела ісці. Тады Абазішка казала. Падаіла карову, а Міколіха была атышоўшыся і ня відзіць Абазішку. І во так во карову ад рог і да хваста гладзіць: “Кароўка мая, будзь умніцай, ідзі атыйдзіся ад кароў, пад’еш, пад’еш і ў стада”. І тры разы абхадзіла гэдак. А Абазішка кажыць: “Што ты тут молісься, чараўніца ты!” – “Ай, што я тут кажу? Адпаўзлася, падаіла”. – “Чула я як ты прыгаварывала!”

Тады яшчэ было, папа казаў… Коні ж тады на начлег хадзілі і іх тады пасцілі. Ну і вот, кажыць, выйшаў ён з-за куста, а там мужчына, ну яго прызнавалі чараўнікам, во так во цягнець аброць і прагаварываець: “Кароўка мая, давай малачко. І з чорнай каровы, і з рыжай, і з белай, і з рабой, і каб сметаны многа было”. Ну, і сколькі раз ён там прагаварываў. І тады гэты мужчына працягнуў таксама і прыйшоў дамоў. А ступы ж упярод былі такія, ну і кінуў у гэту ступу, хто там пайшоў, кажыць: “А хто ў ступу малака наліў?” Поўная ступа малака! Тады ён стаў расказываць і стаў казаць, што там той прагаварываў. Тады ўжо таго падавілі, а то кажыць ні сметаны, каровы малако дадуць, а смятаны няма.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф’і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 843. Чараўніца скідаецца жабай

Эта было тады, што вот сёння ноччы Купала. Была я выхадная, а так кароў даіла. Мяту я двор. Мы секлі дровы. У нас тут такая калодка бальшая. І вот за той калодкай нехта цягнець песьню, ня тоя што песьню, а нейкую мелодзію: У-у-у-у-у. Думаю: А хто эта там такі? Рабяты ўжо на тую Купалу пабеглі. Меньшанькая была дома, а тых не было. Я тады кажу: “Мама, мама, хадзі паслухай. А што гэта тут такоя?” Мама вышла і апяць такая мелодзія цягнецца. Мама кажаць: “А ты паглядзі вун там за калодкай”. Я на цыпачках туды, а там сядзіць жаба. Яна на рост небальшая, а пузатая такая, шырокая. А ў яе рот, каб вы зналі, губы красныя, адна [губа] туды, другая – туды, і бровы там такія. Ну я не знаю якія там, нейкія карабатыя. Сядзіць во так во: У-у-у-у-у-у… Клянуся, дзеткі! Ці паверыце вы мне.

Ай, мама, жаба, ды такая страшная жаба! А ў яе жывот, бытта надуты такі, то садмецца, то апяць разадмецца. А мама кажаць: “Хапай эту цяп-

ку, што сякуць”. Я скарэй схапіла ды к ей. А яна во так во ўцякаць, ды пяшком, пяшком. Я не магу біць, маме аддала. Мама па ёй, а яна падскочыць, мама трах, а яна падскочыць, на трэцці раз яна па ёй ўдарыла. А яна “лоп”, як гэтыя пузыры, што надуваюць рабяты, так “лоп” і зьехала кожа. Ні крыві німа, нічога. Надутая такая была кожа. Ну і пашлі дамой спаць.

Назаўтра мама пагнала карову ў поля і гаворыць: “Эта к нам прыхадзіла чараўніца”. Эта ж перад Іванам. Ёй казалі. Нада было тую кожу спаліць. Пашлі паглядзець, а там ні кожы, нічога німа. Дык я ж і балела [тады], без канца балела. Усіх аб’ехала, і мужчына даваў вады…

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Лабацёнак Валянціны Сямёнаўны, 1928 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

## 844. Чары на Купалу

Як Купала, “дзядоў” у хлеў кідалі, каб ня лезла [ведзьма]. Жабамі робюцца. Узяла палку ды ёй па нагах. А тады чую: Манька ляжыць, ня ходзіць.

У нас было. Пашла я к аднай. Узяла на карты кідала. Узяла наліла вады ў стакан, нешта шаптала. І там узялі абразаваліся два чарвячкі чорненькія. Ні яна там што кідала, толькі пашаптала над гэтай вадой. Адзін аднага лавіў, лавіў, але ўлавіў і ўсё кончылася. Вот як будзець сонца захадзіць, вядзіце кароўку ў хлеў. Прывялі да хлява, а там аж чорна жаб гэтых, так і прыгаюць прама на ногі карове. А там будзець паўзці сама бальшая жаба. Ты вазьмі пруток і ей па спіне. Толькі ў смерць ня бі. А яна толькі: ай! І ножкі выпруціла. Эта ей тады трудна.

А назаўтра стаім у магазін за камсой. А я ў дачкі той, што чаруіць, пытаюся: “А матка чаго не прышла?” А яна: “А яна ўчора, як сонца захадзіла, як крыкнула: ай, спіна! І ляжыць”. А я думаю: Мала дала.

**Зап. Валодзіна Т. у 2005 г. ад Зашчырынскай Агрыпіны Іванаўны, 1915 г.н. у п. Асвея Верхнядзвінскага р-на.**

## 845. Суседка

А было чараўнікоў і да вайны, і дажа после вайны былі. У нас да вайны была такая саседка, вайной яе забілі, такая врэдная была, так мама папрасіла мальцаў, каб яны загарадзілі плот. Помню плот з сукоў яловых быў роўна з дрэвамі загароджан, каб яе не відзіць. Гэдак пойдзець тата ў хлеў, раз пашоў, а ў цэбары ў гэтым самым, дзе ваду паілі, у дзеравянным цабары гадзюка ляжыць. Выгналі на пасту карову, карова хвастом не стала кратаць, то малака не станець, то што-нібудзь… Яна дужа магла ўмела ўсякія чары, і гэдак не давала проста жыць. Былі такія знахары, былі даўней, цяпер ужо перавяліся, цяпер ужо ўсе маладыя, гэтага нічога ніхто не знаець, а раньша было.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 846. Пазыкі на чары

Мне самой дажа было такое. Мама мая была ішчэ жывая, і вот первый дзень Каляд прыбегла саседка: "Дай хлеба, дай хлеба". Я ўжо замужам была, быў ужо мужык у мяне, і ён атрэзаў палавіну хлеба. Мама кажаць: "А чаго ты свой хлеб не пякла?" – "Ай, сын прыехаў на госці і хочаць свайго хлеба". А ўжо калхоз арганізавалі, зярно давалі, і ў магазін прывазілі. І вот, а мужык: "Ай, не выдумавайце гэтыя чары, не выдумавайце", – атрэзаў палавіна хлеба гэтага і даў.

Мама мая памёрла на васьмое марта как раз, а кароўка такая харошая карова ацялілася, і вот яна стала сама сябе ссаць. Гляджу, у хлеве калі раз дасць малака, калі не дасць, як выгналі на пасту, пастыр кажаць: "Ай, твая карова сама сябе ссець". Ну вот сагнецца і ссець сама сябе. Ай, і аброць ёй і з калючак ён рабіў, і што не рабілі. Ну і мне пасаветавалі, я на гэты хлеб і забылася, мама памёрла, гэткае нешчасце. Паехала я да знахара, аж дзе-та пад Барысавам, Мятліцы дзярэўня, такі старанькі дзядок быў, ну наверна ўжо і нежывы, я дажа і забыла, як фамілія яго. Пасаветавалі мне яго, паехала я к яму за вадой, што карова сама сябе ссець. Ён стаў ваду нагавараваць, і гавораць:"Дзетка ты маё, ты ж сама сваю кароўку згубіла, у цябе ж баба на бальшы празнік хлеба ўзяла". Я кажу: "А дзе яна жывець?" – "А цераз дарогу ад цябе, на захад". Ну і што, была ў мяне гэта кароўка, і была цэлае лета, а тады я яе прадала, прадала ў другія рукі – баба з Барсукоў купіла. После віджу яе, кажу: "У цябе яна ссець? "Не, – кажаць, – не ссала". А малака ж многа давала...

Вось, у бальшыя празнікі нільзя нічога пазычаць. А то прыходзіць з благой мыслей, можа і не з благой, а проста, а нельзя. Мне і сказаў гэты старычок: "У пятніцу і ў большыя празнікі нікаму нічога не давай, еслі будзіш даваць, нічога ня будзіш мець".

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 847. Ведзьма-малочніца

Гэта, расказвала мая бабушка, а гэта ўжо мой свекр, майго мужа бацька, ішоў з начлега, коней пас. Коней там аставіў і нёс аброць у руках. Ішоў дамоў. А адна старуха цягала цадзілку па расе, гола-нагала раздзеўшыся перад Купаллем. Ён як ішоў, гаворыць: "А ты тут што робіш?" Ён гэтай абрыццёй па ёй. Ну, атлупіў яе гэтай абрыцёй. Прынёс дамой гэту аброць, павешаў на сцяну, так, а пад гэтым самым стаяў, мне кажыцца, стаяў, раней называлі балейка, цэбр. І пайшоў сам у хату, ён ж нічога не падумаў, выходзіць ён на вуліцу, а гэтат цэбр стаіць поўны наліты малака. З гэты

абрыці нацякло малака, вот як можна паверыць у такое? Гэта аж прама не па сабе такое, аж страх бярэць.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Суднік Таісы Васільеўны, 1935 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 848. Суседка-чараўніца

Ну, саседка наша яна кароў лечыць. Можа, што і людзям даець. Ейная матка, гэта яшчэ здаўна. Гэта ўсе іхнае атроддзе, усе лячылі. У Балбеках ёсць Качан Надзя. Ейная матка тожа очэнь памагала. Родственніца гэтай Галі. І нам яна тожа памагала.

І вот такая жанчына адна ў нас есць. Правяла рукой карове па мордзе – усё. Дамой прывяла – не падаіла. Двое сутак нічога, малака не даець. І на заўтра не падаіла. Масла не было ні каплі. Спецыяльна перайшла дарогу. Спецыяльна перад нашымі каровамі і рукой правяла наотмыш. Гэта яна сабе так малако забірала. Яна забірала і забіраець цяпер. І цяпер забіраець, а самой ўжо болей як 80 гадоў. Ім нада. Гэта здаўна ідзець. Яны перадаюцца. Бацька ці матка. Хто там родны ўміраець – пакуль не перададуць, не памруць. Гэта нада, кажуць, столь прабіваць. Яны ж мучаюцца там, не дай Бог.

У нас гэтая самая жанчына, яна адбіраець ад маладых людзей, бярэць інергію. Са старымі яна не дружыць, а яна вот да маладых лезіць смольлю, каб вот з імі дружыць. Тады што-небудзь даець. Ці зёлкі, ці цвяты, ці што-небудзь, ці канфеціну – яна ўсё роўна будзець прынасіць нахалам. Будзіць ці рабятам даваць, каб гэта ўжо як-небудзь узяць ад іх. Вот. Яна вот ужо 80 гадоў з лішнім і ходзіць яшчэ. Яна вот і за каровай за пасту падойдзець, я ўжо сама не магу хадзіць. З кіечкам па агародах.

Гэта самая чараўніца. Яна вось тут чэраз дарогу жывець, яна і з суседкай дружыла і дружыць яна з ёй. І ў хату яна ёй і малака прыносіць і кароў зьвяла, а дзьве было. Яна з Латвіі прыехаўшы. І адну зьвяла і другую зьвяла. І гэта памерла, ейная нявестка. Двое дзевачкі такія, ну яшчэ адной можа 4 гады, другой можа 5, такія можа былі. Яна прыхадзіла да гэтай жанчыны, яна ім давала канфет, яна ім што толькі. Яна ёй казала: “Не насі ты ім, яны не хочуць, не нада ім”. Яна возьміць ёй назад аддасць, а яна ўсе роўна торкаець.

Адзін раз (нічого мы ад яе не ўзялі) яна выходзіць ад яе з хаты, і яна кінула бумажку там недзе ў яе пад ганак, а яна не відзела гэта старуха. А дзяўчынка пабегла, паглядзела, а там наторкана іголак у гэтай бумажцы і падкінута пад ганак. Ну, нешта яна ім рабіла. Каб гэтым дзяўчаткам ці каму небудзь іголачкі. Гэта ўзяла саседка ішла з магазіна, яна яе пераняла і гаворыць: “Што мне з імі рабіць?” Тая гаворыць: “Спалі”. А яна ўзяла падкінула ёй пад ганак назад. Вот. Яна дужа врэдная такая жанчына яна

многа каму у паселку у нас кароў пазвадзіла, много каму. Вот укінецца ў дружбу, яна ж будзець даваць і цвятоў, і ўсяго. Будзець харошая такая. Пабудзець скока врэмя – няма каровы, ужо ўсё: то нага забалела, то не стала даіцца, то тое, то другое. Усё роўна што-небудзь ды зробіцца.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Суднік Таісы Васільеўны, 1935 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 849. Чары наўмысныя і выпадковыя

А во гэтыя чараўнікі былі... Мой дзядзька браў дзеўку з Гары Масорскай, гэта там, каля Бутава. І вот яны былі ў Ладасне, заехаліся ў Зачысце за маім бацькам. І ўжо бацька паедзе к брату, і гэта Марына, што мне Кацю загаварвала, з маленькім рабёначкам паедзе на хрэсьбіны ў Ладасна. І з Гары ўсякія едуць, і сеў чараўнік. Прыехалі яны ў Ладасна, з коней злязаюць, пойдуць у хату на хрэсьбіны, а гэта Марына – атняло мазгі – забылася рабёначка на павозцы. А гэта ж чараўнік зробіў! Як гэта маці забудзе рабёнка на павозцы? А конь еў, еў сена і ўзяў укусіў гэтага мальчыка за шчаку. І кроў, мальчык абкрывавіўся! Прыйшла яна ў хату, кажуць: "А дзе гэта твой Ільлюк дзеўся?" Ай, на павозцы! Пабеглі, а мальчык у крыві! Яшчэ ў споўелках, раньшэ ж да паўгада сарочкі не адзевалі.

Ну, скаціну чаравалі, часта было. У нас было. Як мая Алёна пажанілася, мы купілі ім карову. Тады я кажу: "Мая ты дачушка, ці многа яна малака дае?" Яна кажа: "Нямнога, літраў 10, але не запускаецца ніколі, круглы год малако ядзім". Я ж век у горадзе свінней з суседкамі парасіла, і калі хто купіць: "Хадзі, Манька, паглядзі, ці харошых я парасят купіла?" Хадзіла! І не ўрочлівая, нічога, а ў дзяцёнка свайго сурочыла карову. Сама я. Гэта проста падскочыла мінута. Купілі мы, не жалелі, 750 рублей аддалі.

Дык кароўка тры дні не падымалася. Нармальная была кароўка, а тут не падымаецца. Павяла к вецерынару, а яна кажа: "Хто ў цябе быў?" Алёна кажа: "Нікога не было, толькі мама". – "Во, гэта і ёсць, бяжы ў Катоўшчыну вады ад уроцаў!" Алёна пабегла, прынесла, карову змыла, папіць дала.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шыпіла У., Протас М., Захарэвіч А. у 2007 г. ад Літвін Марыі Іванаўны, 1932 г.н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

## 850. Чары ў помсту

На счот чараўніцы не знаю. А вот я жыла ў Літоўскім Завулку, незамужам была, а такі Юзюк любіўся з другой, а дзяўчынку зрабіў другой дзеўцы, а замуж не браў. Дык мы на ровары з Літоўскага Завулку.., дык казала, што з магільніку будзе сыпаць зямлі, калі будуць вянчацца.

Яна прынясла з магільніку, а яны вянчаюцца, а яна гэтай зямлёй... Юзюк ажаніўся, двое дзяцей было, паехаў у Літоўскі Завулак на возера і ў карытаўцы разам з мальцам утапіліся. Гэта ж я ездзіла і відзіла, як яна

гэтай зямлёй… І крыжам клалася… І катом драла дарогу. Яны аб'язджалі, дык яна наўперад – і ўсё роўна катом драла дарогу...

**Зап. Сулімаў С. у 2009 г. ад Буёнак Мальвіны Уладзіславаўны, 1930 г.н. у в. Псуя Глыбоцкага р-на.**

## 851. Чараўніца скідае вяселле ў ваўкоў

Малады ўжо прыехаў к маладой, селі за стол, а яна, ці там мужчына ці там баба, чудзіла, і яны зробіліся ўсе ў ваўкоў. Прывраціліся і пашлі. Ну і ім нараілі, што нада, дзе ўвідзяць, ужо яны аб'явілі па дзераўнях, стаду ваўкоў, тады нада адразу вынесці хлебную дзежку, палажыць кажух вывернуты і запіяць свадзьбу. Ну дык гэдак яны хадзілі, мусіць, месяцаў пяць, многа дзе іх відзілі. А тады ў адну дзярэўню прышлі, і там іх увідзілі, выскачылі, ці там баба ці хто, вынеслі гэту дзежку, палажылі кажух і піялі свадзьбу, і гэты ўсе перавярнуліся ў людзей. І яна ў цвітах – маладая, і ён, кажуць, – цвет на грудзях. Такія худыя, страшныя, ну што, столькі адхадзіць, гэта воўк еў, а што яны там…

Ну і тады ўжо перадалі ў гэту дзярэўню, прыехалі на конях і забралі. А патом нейкі ішоў знахар, ну і сталі ўжо разгаварываць, што гэдак зробілі, а ён кажыць: "Ну добра, вы скора ўзнаеце, хто зробіў, яна прыўраціцца ў свіньню". І точна, кажыць, свіння ляціць па дзярэўні, кажыць, равець нема, ну што ёй ня робілі, але ўсё-такі яе забілі. І аказываецца, што гэты мужчына быў сільнейшы, што зробіў яе свіньнёй.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 852. Пра чараванне

А тая баба, адкуль ты прышла, яна дрэнная. Мне сказалі, што яна ўзяла з кладбішча зямлі, пяску, і пад калідор падсыпала. Відзіш, і граху не баіцца. Можа, зато і доўга жывець. Яна кажаць і мяне папракаіць – Роза маладая, а балеіць. Яна мне два разы здзелала.

У Скакуноўшчыне жыў мужык, і свякроў дзелала нявестцы. Тады гаворуць, што такоя? Нявестка то балеіць, то ламаіць рукі, а тая ляжыць хоць бы што. І худая стала, страшная, чорт што. Тады ўзяў ён і паехаў к знахару. Што такоя ў нас случылася? – Табе нада ваду дзелаць, табе здзелала матка твая. І тады ён выехаў з той дзярэўні. А матка як памёрла, ён не паехаў дажа хараніць. Дык уздзіралі тры даскі, як памірала. І на кладбішчы тады [як хаваюць] дзеравы зашумяць, усё падымаецца, шуміць.

Я баба гаратная, тры разы счаруваная была. Мне ў Верабках адна маладзіца сказала, яна мне памагала, яна выручыла мяне, ваду давала. Сказала – свежых яец. Зяць мой не хацеў вазіць, ня верыў забабонам, а тады ездзіў вазіў свежыя яйцы. Нада было выкідываць тыя яйцы. Яна качала мне

яйцом па жывату. Да, свежым. І тады, гаворыь, едзьце на машыне і на перакростку кідайце. Качала ля пупа. Памагала, харошая жэншчына. Калі Богу верыць, харошая, дык ня будзець дзелаць. І яшчэ мне было здзелана. Адзін мужык гаворaць: “Што ты такая невязучая, што цябе калдуюць?” Даже цыгане былі прышлі ў хату, і мне цыганка сказала: “Ты гаруіш ад чужых разгавораў. Цябе калдуюць усе. Цябе ненавідзюць у дзярэўні”.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Галай Розы Аляксандраўны, 1936 г.н. у в. Заружанне Лепельскага р-на.**

## 853. Даўней людзі былі неграматныя, а на дурноя дзела спасобныя

Яна гэтай залоўцы, Кацярыне, гэты калтун здзелала, і насіла яго тры гады. Тры гады, і тады сталі валасы адрастаць. І тады толькі паехала. Абыхто яго ня снімець, і тожа знатных людзей атойсківала. І ёй гэты калтун знялі. І ўсё часта жалілася, што галава баліць. Здзелала, што тры гады насіла калтун.

Даўней людзі былі неграматныя, а на дурноя дзела спасобныя. А як стала Савецкая власць, тады стала іх прымушаць, некаторых забіраць. І сказалі: еслі будуць людзі жаліцца, то мы вас у Сібір вышлем. У нас у Зарэччы быў чалавек, а другі быў тожа чараўнік, Гаўдукі зваліся. Дык на каго злыя, здзелаюць так, што каровы ноччы дзверы паскідаваюць, бегаюць па дзярэўні. Я малая была, ня помню. Тады дзеравенцы ўгразіліся – усё раўно заб’ём, ня будзеце жыць. Тады яны прадалі сялібу і жылі за Каменам. І там угразіліся, і яны выехалі ў Сібір. А то здзелаюць, што ў каровы вымя во такоя, а тады к ім ідуць вады. Угразіліся – ці патопім ці пазабіваем...

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Буржынскай Надзеі Кузьмінішны, 1918 г.н. у в. Завадзіна Лепельскага р-на.**

## 854. Врэдныя людзі і як ад іх бараніцца

Ёсць врэдныя. І цяпер рукаець і паддзелаець. І той знаець, і той знаець. Ёсць врэдныя людзі, ёсць. Зробяць чалавеку, што і балезні ўсякія, і ўсякае будзе. Ну, прырода, і па злосці робяць, і каровам робяць. Каровам зробіцца, што і малака не даець і вымя бальшое зробіцца, а малака нету. Едуць тады да бабак якіх – даюць ваду. Ёсць гэтае паскудства.

Ну, на Купалу найболей гэтыя хадзілі. Я знаю, што адна ў нас тут была. Гэта даўно яшчэ перадаўно, я яшчэ малая была. Старая была такая, усё казалі на яе, што чараваць знаець. І быў адзін, коней пасціў ноччы, табун коней. А гэта старая прыйшла да лесу, на пожню і серп на руку, даёнку на руку, што даіць і расу збірала рукамі ў даёнку. А што яна знала, чорт яе ведаець. Гэта ўсё гаварылі. А што яна знала – ну, нешта ж знала.

Ну, гэта ж ёсць і цяпер. І цяпер гэта ёсць – гэта вядзецца. Што ты там знаеш – падчаравала мне карове, ці тое. І цяпер сварацца людзі. А бароняц-

ца ж людзі ўсяк, але бароняцца бажэственна. Соль жа свенцюць на Юр'е ў цэркве. Бацюшка свенціць і чытаець малітву. І ад змей, і ад чарадзейства, і ад глаз, і ад усяго благога. Ну, гэту соль тады і карове даеш… Соль, абычна, у якую баначку паставіш, у пацёмкі. Не ў абы якія жа месцы, ужо свянцоная. У чыстым ў якім. Ну, я абычна дзе-небудзь у кладоўцы пад крышу падторкну, ці падвяжу. Ці вербачку свянцоную, вось часта і па радзіо кажуць, што свянцоную вербачку нада торкаць, каб вецер не драў крышу. За год соль гэту канчаеш ужо, а вярбіны гэтыя ўжо як хто. А што яны будуць бадзяцца свянцоныя – яшчэ пасвянцу, ці паламаю і ў печку і ўсё. А на сметнік не кідаюць, не, не.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Красько Г. А., Радзюк А. Л. у 2008 г. ад Катушонак Таццяны Іванаўны, 1931 г.н. у в. Крыўкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 855. Чары

Гаварылі ў нас на адну. А ці эта праўда ці не. Эта як засваруцца старухі, дык усё на яе: чараўніца! Завядуцца, дык чараўнікамі звалі. А што яна? Быцца малако адбірала. Гэты старык, што ад грыжы шаптаў, так гаварыў. Быцца ішоў, а ці гэта было на празьнік ці не на празьнік, а яна цягала нешта там. А ён быцца аброць пацягаў і сказаў неяк: каб і мне тое, што табе. І павесіў тую аброць, а з яе быцца малако капала, з яе. Я ж сама ня відзела, а ці яно было.

Як дажджу доўга не было, у нас старуха мак у калодзеж сыпала. А то як наваражыла – дож ліў, ліў і ліў. Дык смяяліся: "Во, цяпер лезь у калодзеж і выбірай той мак назад". А ці ён памог ці не памог.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Булынавай Аляксандры Віктараўны, 1938 г.н. у в. Малыя Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 856. На вяселлі

І яшчэ я вам скажу. У мяне размова, можа я такая суеверная крэпка, вот было ў мяне вяселле. Я аддавала дачку замуж. Да мяне прыехала дваюрадная сістра. І тожэ ў яе бабуля, там дзе я жыла, ў Вярэньках, гаварылі, чаруець. І вот, гляджу я, гэта Валя, мая дваюрадная, як на машыне гэта былі шары прывязаны, ўсё гэта, ніткі, гляджу – яна, во там быў забор, накруціла-накруціла гэтых нітак, а патом перайшла і во тут во накруціла. У дварэ быў пабліжэ забор, ана і тут гэтых нітак. Ўжо мне нешта стукнула.

А назаўтра я прачынаюся, а там дзе музыканты во там стаялі, ці йгралі, там ляжаць мужскія трусы новыя, ляжаць спаложаны. Мне тожа што-та стукнула. Я гэтая перахрысціла, ніткі тожа гэтыя пазнімала, трусы гэтыя зняла – і ў туалет. А после завязла, баню тапіла, там у мяне далей баня, спаліла, і залу гэту за забор выкінула. А яна прыехала з мужам. Муж у яе дацэнт паліцехнічэскай акадземіі быў. Гэта Міша. Цераз паўтара месяца ў

яе памёр Міша. Значыць, яна нам нешта рабіла. І гэта ёй ўсё вярнулася. Чэраз паўтара месяца Міша памёр. І танцаваў тут на вяселлі. Ён быў надта добрым чалавекам. Добры чалавек быў такі. Я вам нават фатаграфію пакажу, калі хочаце.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Марковіч Галіны Францаўны, 1934 г.н. (нар. у в. Вярэнькі) у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 857. Чары на вяселлі

Вот я гэта, як вышла замуж у дзярэўню Пранікі. Там расказвалі, была свадзьба, і аднаго мужчыну там не ўгасьцілі: не далі там выпіць. Ну і ён, вродзе, падробіў маладой, што яна заваліласа, як нежывая. Тады і дагадаліся. І ўгасцілі. І ўсе было харашо.

**Зап. Пашкевіч І. і Пракоф'ева Ю. у 2006 г. ад Спірыдзенак Ніны Канстанцінаўны, 1935 г.н. у в. Старына Ушацкага р-на.**

**858.** Свадзьба была. А ў нас быў чараўнік. І не пазаві – здзелаіць. І пазаві – можаць здзелаць. Алі еслі хто здзелаіць, то можаць аддзелаць. Стараліся падлажыць у той узёл, дзе будуць спаць. А ён усё нашоў . Узяў, прыносіць з утра сюды, дзе хазяйка будзець печ тапіць і гаворыць: "Як толькі первы дым пакажацца, закіньця туды за дровы". Як закінулі – прыбігаіць баба нагала, качаргу ўхапіла, *абжаргала* (асядлала) і скрозь дзярэўні ўзад-упярод. А так бы маладыя гэдак раздзеліся і бегалі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2005 г. ад Зашчырынскай Агрыпіны Іванаўны, 1915 г.н. у п. Асвея Верхнядзвінскага р-на.**

**859.** Ну расказывалі даўней, гэдак так было. Усякае было, значыць, едуць на конях і запрагуць каня на дварэ, дык зробяць гэткую шутку, што конь ня йдзець з двора, на дыбы і ўсё, ня йдзець конь! Выйдзець там то хазяін, то сват, за аброць возьмець, пахрэсціць і тады пойдзець.

Яшчэ я вот помню, як Цімафей жаніўся, браў гэту ж Фузыну. Вот прыехалі ад венца і яна ўжо будзець, маладуха, казаць: "Ай, мамулька, мне цётка там дала тры кусочкі, тры ўзялочкі з хлебам, і іх трэба на трох палях кінуць: на Рачнянскім, на Дзедзінскім і на Тамілавіцкім". Дык яна, мацер гэта: "Ай, мая дачушка, ты толькі тры гадочкі пажывеш!" І праўда, пажыла гэта баба тра гады. Дзевачка радзілася і памёрла. Ну можа гэта саўпадзеніе, а можа.., хто яго ведаець.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч М. І. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 860. Чараўнікі

Былі чараўнікі, што ўмелі чараваць. Гаворуць такія, што бяжыць карова і кішкі цянуцца, а пазавуць чараўніка, той прыдзіць, абойдзіць кру-

гом, пастукаіць, паляпаіць і ўсё харашо. Такія былі. У Падрэзах было чалавекі тры, мужыкі, нашчот баб чараўнікоў я ня чула.

Ня трогай яго, дык ён табе нічога дрэннага ня зробіць. А еслі не па ягонаму, то ўсяк можаць. Эта даўно было і можа ніпраўда. Яны і лячылі. Ён зачаруіць, ён і атчаруіць. Еслі ён паддзелаіць, то ніхто не паможаць, толькі ён і аддзелаіць. Еслі яго пазваць, угасціць, пагаварыць і з ім, тады будзіць усё ў парадку.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Катульскай Ніны Сцефанаўны, 1938 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

### 861. Свёкар

Мы па саседству жылі. Вот ідуць каровы. Еслі яна стаіць на вуліцы, то я ўжо сваю карову не падаю. Так было. Яна [карова] мне нагой як дась, падаіць не сумею. Прыхаджу ў хату: “Папа, – да свёкра, – карова кідаецца”. Ён пойдзець у сарай, што ён там дзелаець. Не знаю, можа, загавараваіць. А тады прыдзіць: “Ну, ідзі,” – кажаць. Разоў сколькі так было. Як увідзіць [суседка] карову – всё. Тады ўжо я к карові не падыйду, ка мне з рагамі. Мой свёкар хацеў майму мужыку перадаць, а мужык быў парційны, не захацеў...

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Падрэз Надзеі Леанідаўны, 1940 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

### 862. Пра чараўнікоў і чарнакніжнікаў

Вот брат у меня дваюрадный быў, он ужэ умер, так пашоў в лес, а яго укусіла змяя. І прышоў дамой, нага апухла. Быстрэнька перавязалі нагу вышэ калена, значыць, вот, прывелі цётку Матрону. Яна загаварыла, значыць, і опухаль спала. Усё. У ее была кніжка, “чарнакніжніца” яе называлі, яна умела чытаць вот эта. Нада чытаць эта, а патом умець назад адчытваць, а еслі не умееш адчытаць, то могут дажэ чэрці задавіць чалавека такога.

Усе знали, што у Матроны в этой была кніжка. Она занімалась вот этым чытала… і гаварыла, што да 12 ровна нада чытаць, значыць вот, а кагда ужэ еслі не успел назад атчытваць, начынают давіць цебя. нікаво не відзішь, а цебе давют і все. Так ана всегда гаварыла: “А я , – гаварыт, – чытаю, но я всегда дзержу мак і дзержу песок, а тада высыплю мак у песок, размешаю, дам ім работу. Вот пусць яны с песка выберыць каждаю мачынку і я успеваю потом атчытваць”.

Калдунамі звалі ў то врэмя, што вот чараунікі, што дзелают чары какіе-то, зло людзям. Могут і такое здзелаць, што і каровы сдыхалі і людзі, вот ілі жэ станет даіцца кроўю. І лягушкі прыхадзілі. Вот я сваімі глазамі відзела! Как нас мама пазвала в сарайку і паказываець, што стаіць лягушка на задніх лапах і сасець малако за сіську, значыць усё – эта паддзеланае, эта

чары. Вот тагда ідут к бабкам, к другой, которая дзелает – адгаварывае эта. К другой жэншчыне мама хадзіла. І прышла, ёй усё расказала, а яна сказала: “Эта здзелана вам”. І дала ваду маме, што карову нада папаіць, і ўсё прыкрацілася. І не стала прыхадзіць эта лягушка. Эта чэлавек, но прывращчаецца, вот чары такіе дзелают і снавідзенне відзіш, как стаіт ана на задніх лапах і сасёт карову.

Чараўнік абязацельна прыдзёт в дом папрасіць што-нібуць, што б яму далі што-нібуць, а нужна не даваць чалавеку, вот. А еслі не знаешь і даў, то бяры жменьку солі і сып услед. Вот пашол чалавек, а ты жменьку солі сып туда назад, і ўсё будзіт у цебя харашо, хоць ты і дала. Ужэ людзі зналі па дзерэвнях, хто дзелает што.

У нас быў такі старык, жыў возле маей бабушкі па Лепельскай вуліцы, возле жалезнай дарогі, і ён занімаўся эцімі чарамі, і ён всегда гаварыў: “Ха! Я, Юзік, – патрэбны чэлавек, я ўсё умею робіць. І пра любоў, і пра зло сдзелаю, усё...”. Так пака ведзь не разабралі паталок, даску выналі і ў крышу дырку не здзелалі – столька ён мучыўся. А кагда сказалі Антону, сыну, што: “Ну разбяры, мучаецца так чалавек, крычыт і ўсё”. А кагда ўзялі і паталок разабралі, даску снялі і дырку сдзелалі – і ўсё, і тут жа скончался.

**Зап. Анісімава К. у 2009 г. ад Баканавай Марыі Пятроўны, 1928 г.н. у г. Полацк.**

### 863. У Полацку на Купалу

На Купалу дзелают... Вот дажэ я раскажу цебе случай, кагда я жыла в этым доме, ужэ і Валянцін Фёдаравіч, мой муж быў в Гваздове, у піанерскам лагерэ работаў. Значыць, я слышу, што стала дзверы аткрываць. Значыць, прышла сначала жэншчына, адзетая ва ўсё чорнае: і платок чорны, і кофта чорная, і юбка чорная. Быў на руку і чорны чулок адзеты, вот, как будта нет рукі, панімаеце? Во так падвязана. Прышла і папрасіла значыць: “Дай мне пакушаць”. А я как увідзела её... “Пусці пераначэваць і дай пакушаць”. А я гавару: “Не пушчу цябе пераначаваць. Едзь дамой”. Я гавару, а ана мне гаварыць: “Я апаздала на автобус і не дабяруся”. Я гавару: “Ідзі пяшком”. Не пусціла яе. І я, значыць, быстранька дзверы закрыла. Толька вот патом вышла на вуліцу – нігдзе яе нету . Вот як відзела сон – чалавек ужэ ісчэз, ево нету нігдзе.

А патом выходзіць мая саседка, вышла і гаварыт: “Марыя Пятроўна, к вам не прыхадзіла жэншчына?” А я гавару: “Ва усім чорнам?” – “Да, яна папрасіла у меня кушаць”. Значыць, гэта днём, а вечарам Купала начынаецца, перад Купалай. Яна гаварыт “Папрасіла кушаць, я ёй дала бліноў, а яна пашла. Я ўслед за ней іду, а яна усе выбрасіла!” І гаварыць, што ісчэзла. Ну і ўсё.

Вечарам я, значыць, лажылася спаць, сталі дзверы аткрывацца. Ой, пішчыць! Я цяну на сябя, што ёсць сілы дзверы і не магу закрыць! Лягуш-

ка, агромная лягушка! Панімаеце? Я, значыць, даўлю яе, а яна крычыць, крычыць чэлавечыскім голасам, а я нізашто не атпускаю дзверы, і ўсё. Патом взяла эту лягушку на лапату метлой, во так во, і выбрасіла на дарогу! А ў полшэстога первый автобус прышоў, панімаеце? Ну, і значыць, аўтобус... Сматру, пашла на уліцу, пераехаў чэраз лягушку, чэраз эту.

Я прыхажу на работу, работала ў хірургічаскам атдзяленіі, вот эта не сон, эта не то што – эта ісціна была! Я точна, што сваімі глазамі ідзела. Значыць, я прыхажу, а званок с прыёмнага пакоя: "Срочна хірурга, чалавек, жэншчына папала пад автобус!" Слышыце? Жэншчына папала пад автобус!!! Я толька нічэво нікаму не сказала... Пашоў, значыць, Ісак Якаўлевіч пасматрэць бальную, на насілках тока падымаюць яе на верх і ўсё. А я падышла к ей і гавару: "Ну вот, ты хацела ка мне прыці начэваць, а цепер ты прышла как мне ў гіпс лажыцца". Вот я ей сказала, дала ей знаць, што яна ка мне прыхадзіла ў дом. Панімаеце? І ў яе, как аўтобус пераехаў, пералом абоіх ног быў. Вот, як задніе лапы лягушке пераехаў аўтобус, галава цэла і перэдніі лапы, а па задняй вот часці ног праехаў автобус. Да. Чэстнае слова! Вот какіе людзі ёсць, злые, нехарошыя…

**Зап. Анісімава К. у 2009 г. ад Баканавай Марыі Пятроўны, 1928 г.н. у г. Полацк.**

### 864. Чараўнікі і знахары

Ёсьць такія людзі, што нападзець, начаруіць. Прымерна, ёсць гэткія людзі на свеце. А ёсьць людзі, што вады дадуць і палепшаіць чалавек, ці там карова палепшаіць. Аддаўна, дзетка, аддаўна, гэткія людзі – ад патопа света гэткія ёсць людзі. Ёсць людзі, што заядаюць людзей, гэдак робяць, а ёсць людзі, што ад Бога, людзі гэтыя ратуюць чалавека.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Брыкун Ксеніі Максімаўны, 1929 г.н. у в. Слабада Докшыцкага р-на.**

### 865. Юрлівы чараўнік

У нас старуха саседка гаварыла: як карова целіцца, каб і не пазычаць, і ў свята тожа нічога не нада хадзіць. Раньшы бывала, што хлеба возьмеш ды мала, дык у свята кажаць: не пазычай.

Тыя чараўнікі ўміраюць цяжка. Гэта дык я і сама помню. Гэта Ян, што я гаварыла, ён быў шляхціц, маміна сястра была прыехаўшы, мы яшчэ не спалі, як узнялася бура, ну такая бура, у нас аж вакно вырвала. Мы тут, дзеці, на грубку папаўскаквалі, пахаваліся, а бацькі баяліся выхадзіць, тоя вакно ставіць. А назаўтра тады сказалі, што эта Ян памёр. Дужа цяжка ўміраў і ўжо як канчаўся, гэта бура так. Гэту буру дык і я помню. І ў паталку падымалі сталіну. Старухі гаварылі: як мальцам быў, многа дзяўчат абмануў. Гаварылі, як вянчаўся, дык гэты із дзяцьмі дзяўчаты прыхадзілі. У касцёл. І пчол дзіржаў. І ад пчол нейкая там дзелаў.

Дзяўчаты прыхадзілі, што іх абмануў, дзяцей панажываў, а не браў. Гаворуць, нескалькі дзяўчат прышло. Старухі тыя гаварылі: "Во яму, стоіць, столькі дзяўчат абмануў, і памерці ня мог, аж бура ўзнялася. Пакуль паталок не ўзадралі, ня кончыўся.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Булынавай Аляксандры Віктараўны, 1938 г.н. у в. Малыя Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 866. Тры сястры

У нас у дзярэўні былі тры сястры. Яны рабілі подклады, шкоду на кароў. І вось было, што ў аднаго хазяіна карова перастала даваць малако. Тады ён паехаў у другую дзярэўню і прывёз знахара.Той знахар паставіў вядро вады, узяў кавалачак хлеба і абнёс яго кругом каровы. Пасьля знахар сказаў чалавеку, каб той паглядзеў на ваду. Хазяін той паглядзеў, а там – жэньшчына з доўгімі распушчанымі валасамі. Гэта была адна з тых сясьцёр. Хазяін хацеў быў даць прутом па вадзе, дык знахар не пазволіў. Сказаў, што ад гэтага будзе толькі горш. А чараўніца гэта, калі памірала, дык яе сын лазіў на гарышча і падымаў столь, каб яна лягчэй памёрла.

**Зап. Лобач У. у 2000 г. ад Волах Марыі Іванаўны, 1926 г.н. у в. Заазер'е Ушацкага р-на.**

## 867. Чараўнік і знахар

Хто мацнейшы, чараўнік ці знахар, я не знаю. У Хмялёўшчыне Раман быў, то ён толькі добрае людзям даваў. А потым ехаў у Докшацы, напіўся і пабіўся там з нейкім... Дык гэты чараўнік быў наслаў на яго жарабца сярод белага дня ваўкоў. Схвацілі жарабца і задавілі сярод белага дня, задушылі. Наслаў ваўкоў, чарцей, якія зрабіліся ваўкамі і задавілі каня.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф'і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 868. Чараўнік Ла́ла

Быў Ла́ла такі, і вот ён чараўнік быў, чарадзей такі быў. І яму нада ўміраць, смерць падышла, і яму нада эта перадаць каму-та. Ён падгаварыў майго бацьку, ну і давай гаварыць яму што б перадаваць. І што ён тамака рабіў, толька кажаць: "Глядзі, гэтых тры дні с хаты не выхадзі, нікуды ні выхадзі, ляжы дома, скажы мацеры, што забалеў".

Ну ён гэдак і прышоў дамоў, укруціўся і гэдак у кравіатку. А тут паства падышла. Баба кажаць: "А ну, уставай, чаго ўлёгся?!" – "Я бальны". – "Чым бальны, што баліць?" – Лап за яго – халодны. – "У цябе цемпературы нет, уставай, чаго прытварыўся, на пасту нада гнаць". – "Я не паганю". – "Як не пагоніш, я цябе прасіць буду?!" Яна за дубец, а ён тады у плач: "Не паганю". – "Пагоніш, сказала пагоніш, я паганю? Мне некалі, мне жаць нада, а хто вас будзіць васпітаць?" І выгнала яго на пасту.

Казаў мой бацька, как напалі гадзюкі на пасці, кажаць, дзе ні стану – на нагу валіцца. Пастар ня відзіць, ён толькі відзіць – гадзюкі яму валюцца на ногі і ўсё. Ён тады кінуў гэтых кароў, страшна ж , і дамоў. І дамоў прыляцеў на печку і ў плач. Маці: "Чаго прыбег, а чаго кароў кінуў?" – "Я ні паганю, ідзі сама змяні мяне". – "Як не пагоніш, кажы што, я відзела, што ты Лалы гэтага хадзіў, што ён табе зрабіў, кажы, а то засяку дубцом!" – "Я ні знаю, што ён мне зрабіў, а на пасці на мяне гадзюкі нападаюць". – "А, гад, – кажаць, – дачапіўся да рабёнка, да горкага!" Ну што – дзевяць гадоў.

Яна давай маліцца, а яна дужа набожная была, Богу памалілася над ім, прыказала хрысціцца. Перахрысціўся тры разы. "Ідзі на пасту, нікога ня будзіць". Пашоў – нікога не было. Ні гадзюк, нічаво, адбыў пасту.

А Лала сказаў, што цераз тры дні тады прыдзіш ка мне, ён і не пашоў. Мама кажыць: "Ня смей, еслі я увіджу, што хоць і на дварэ ў яго будзіш стаяць, я цябе засяку!" Ну і не пашоў. После, кажаць, пераняў яго: "Чаму ты не прышоў, мацеры, мусіць, пахваліўся?" – "Ой, як стала дубцом сеч, дак сказаў, што мне ж на пасту нада было гнаць".

Як мой бацька ўміраў, кажаць: "Дачушка, Бог ёсць, ну і чорт ёсць. І Боская сіла ёсьцейка". Ён гэткі чалавек быў, Лала, што ён мог каму хоць што зробіць, і ён памёр. Але як уміраць – яго смерць не бярэць, ён мучаўся крэпка. Не уміраюць людзі гэткія. Алі маці адбіла...

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Чэчыкалавай Ганны Лаўрэнцеўны, 1930 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 869. Сайко чараўнік

Быў такі Сайко чараўнік. Дык не толькі людзям, дык роднай дочке ізьдзелаў. Боб стаў ужо, стручкі завязаліся, а іна пайшла шчыпнула бабіну. І во здзелаў, дык мучалася, чуць не памерла. Дык парні к ёй прыйшлі: "І што з табой, Ганна?" – "Ай, бабіну з'ела і во худзенька гэтае стала. Мусіць, бацька нешта здзелаў".

Во і пайшлі тады етыя мальцы к яму і яго каланулі: "Ты што ета зьдзелаў? Аддзелавай!" Аддзелаў тады. Дык гэты чараўнік доўга мучыўся як паміраў. Мы дзецьмі былі. Ідзем каля яго хаты, а ён гудзіць: "Гу-гу-гу, гу-гу-гу". Доўга мучыўся.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Варанько Яніны Сафонаўны, 1913 г.н. у в. Грыцькаўка Бешанковіцкага р-на.**

## 870. Чараўнік Ігнат

Чараўнікі, яны ў кажнай дзярэўні ёсь і пра чалавека ўсё знаюць. І бабы і мужукі бываюць. Але сіла ў мужчыны ёсь крапчэйшая. Вот тут у Баравіках быў такі, ці Ігнат яго звалі. Ён хадзіў пасціў тута. Умеў, о-ё-ёй! Сядзіць і будзець сядзець, і ня будзець карова атварачавацца. Каровы хо-

дзюць, нікуды ня пойдуць. Што вы, такі быў чараўнік, што з абраці малако капала. Павесіць на гвоздзік і малако капаець. Ён у другіх атымаў. Канешне, канешне. Чаго другая карова мучаіцца, і здыхаець, і творагу здзелаць няможна было. Будзець кіпець ключам, а малако не аттапліваецца. Такіх людзей нада ўністажаць! Яны ўжо памёрлі і хвароба іх не ўзяла! Але іх і земля прымаць ня хочаць, бура тады, вецер.

Нейк пас Ігнат і з цёткай, каровы ў лес пашлі, тая за імі. А ён ёй: "Сядзі, нідзе яны ня дзенуцца". Тая аж плакаць пачынаець. Ну што вы, кароў няма! А ён: "Пад'ядуць, прыдуць. Усё, – кажаць, – прышло ўрэмя". І каровы прышлі. Ну еслі ўжо хто яго зачэпіць, то ўжо ўсё. І кароў, і будзеш бегаць, і заморышся, і нічога будзець здзелаць няможна.

Ён ня лечыў. Такі ня зможаць лячыць, каторы кусаіць людзей. Ад яго пользы няма. Не-е, еслі ўжо з нячыстай сілай звязан, то ўжо Бог ня будзець табе памагаць, не-а.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бярговінай Таццяны Карнееўны, 1926 г.н. і Бівейніс Тамары Сяргееўны, 1943 г.н. у в. Баравікі Сенненскага р-на.**

## 871. Чараўнік Максім

Што каму здзелаюць [чараўнікі], што каму неўпанаравіцца. Ездзілі на Вулу на конях. Дзед мой казаў. Ехаў з чараўнікам ды ўзяў абагнаў яго. А ён як здзелаў дзеду майму, што прыехаў дамоў – на сьцяну драўся. А баба гавораць: "Авохці мне, дык што эта зробілася? Што ты там?" – "А я нічога, Максіма, – гаворыць, – абагнаў". А ён: "Ну падажджы, будзеш ты мяне знаць!" Баба схадзіла тады к яму вады. А ён: "Во, як мяне абганяць, во яму як у абгонкі хадзіць! Нічога яму не станець". Даў вады і дзед стаў як дзед.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Саўковіч Надзеі Канстанцінаўны, 1926 г.н. у в. Кугоні Ушацкага р-на.**

## 872. Чарнакніжнікі

Той, хто падрабляе – гэта чорта чалавек. Ну, ён заданьні чорта выпалняець – чалавек зла. Гэты чалавек – чарнакніжнік, яны ж чытаюць кнігі. А пра іх я слыхаў так, што яны вучацца на гэтага чарнакніжніка, ён чытаець кнігу, ну ў то врэмя, када чэрці ходзяць – з адзіннацаці да часу ночы. І не ізьвіняецца. І перад свечкай ён чытаець, вызываець чарцей. Гэта старыя гаварылі. Вызываець чарцей, значыць, і чэрці яўляюцца, і ён ім даець работу. І есьлі ён ім эту работу дасць і яны выпалнюць – тады нічога. А есьлі ён дасць, што яны ня выпалнюць, тады яны ўжо падчыняюцца яму. А калі выпалнюць, то тады трэбуюць, каб даваў яшчэ. А яны ёсць, старынныя кнігі ёсьць. Я помню ў Емельяніхі нейкая кніга была, чорная кніга, і баба адна падрабляла. Ну, спорціць чалавеку, ну, вот карову спорціць там ці яшчэ што.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 873. Пра чары і чараўнікоў

Гаварылі, людзі падазравалі, што яны [чараўнікі] ходзюць на Купалу і да Купалы. Хоць калі. Бяруць куўшын гліняны, кладуць туды соль, тры вугалькі... А яшчэ што? Нешта ж яшчэ трэцьцяя лажылі. І тады нада да сонца прынесьці і гэта ўсё высыпаць у кутняе вакно, на заваліну. Раньша ж заваліны былі. І закапаць гэта ўсё таму чалавеку. Тады гэтаму чалавеку будзець дужа дрэнна, і салёна, і чорна. Соль, вугальля і яйцо. Гэта каб яго жызь была цесная, трудная.

На Купалу чаруюць і ў Чысты чэцьвер чаруюць. Гэтыя бабы прыхадзілі і ў Чысты чэцьвер у хлявы, стрыглі кароў. Тры разы ўзяць паўсьцін. Іх лавілі і білі, чуць дамоў дапаўзець. Ці яны зналі ці ні зналі, алі вот гэта тварылі. Перад кажным празьнікам чаруюць. Перад Узьвіжаньнем, тады ўжо зьмеі пратаюцца. Нада ўлавіць зьмяю і адсеч галаву. Кажуць, і тады гэту галаву, як выганяюць кароў первы дзянёк, нада закіпяць у вадзіцы і даць карове папіць. Тады гэту карову ніхто ня будзець ганяць, абіжаць.

Чаруюць і атымаюць. Могуць і павадок украсьці, тады малако прападаіць. Можуць і паднесьці гэтыя соль, вугальля, яйцо і гэтым падымаюць. І вока ў каго якоя. Хто знаіць, дык як глянець. У празьнікі нільзя адалжаць ні ў кога. І сам ня ідзі адалжаць і другім ні давай. Ні нада даваць, а то будзіць хазяйства ўплываць.

Праўда гэта ці ніпраўда, я толькі знаю, гэта было на маім быцьці, як паміраіць чараўнік, то трудзіцца, ніяк ня можаць памерці сваей сьмерцю. Тады на куце, у хаце падымаюць тры сталіны. Гэта точна. Як толькі падымуць гэтых тры сталіны, тады ён ці яна канчаецца. Гэта точна. Як дрэнны чалавек [памрэ], тады ўсё верадом ходзіць на вуліцы. І вецер, а зімой бура і сьнег, і дож, не паймёш што. Тады пагода очань-очань плахая, зьверская пагода.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Ліцвін Варвары Лаўрэнцьеўны, 1927 г.н. у в. Кугоні Ушацкага р-на.**

## 874. Чараўнікі

Поўна раней было чараўнікоў. Дрэнна робяць чалавеку тады, калі ўсердзіцца на яго. Калі яму трудна, то робіць блага абы каму. Старыя казалі, што была свадзьба і прыгласілі на яе двух чараўнікоў. Адзін зрабіў так, што ў яечніцы завяліся чэрві. А другі, у яго спрашываюць, ці зможыць ён аддзелаць, а ён кажа, што не. “Дык які ты пасля гэтага чараўнік. – Яму тады гавораць. – Ты далжон і здзелаць і аддзелаць”.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Грыневіча Івана Антонавіча, 1934 г.н. у в. Ст. Турасы Ушацкага р-на.**

## 875. Пра чарадзеяў і знахараў

Усё лечыцца Богам, малітвы ўсе божыя. Зло дзелаюць чарадзеі. Быў такі случай во тут, па суседству. Даўней жа шнуры былі, а гэтыя шнуры

раней сеялі, і тады кружок астаўлялі сразу, каб сохла. На аднаго такога дзеда… Знаешь, гэтага чарадзея еслі зацэпішь і сам слабейшы, дык аддадуць назад. Дык ягоныя ўсе крыжоўкі ваўкі растраслі. Гэтыя ўсе цэлыя, а яго шнур раскалацілі. Я помню казалі, што ён зацапіў некага, нехта сільнейшы аддаў. Вот на вяселле прыдзе гэткі, еслі яго не ўгасцяць. Садзяць за стол яго, напоюць. І тады конь ня можа выйсці з двору. Баіцца ушакоў гэткіх.

Яны не любому перадаюць, не, абычна паследнему, хто раждаецца паследні. Тупік на ім. Тады ад яго будзе памагаць. Гэта ж такая сіла, такая работа. Не так, што проста песню сачыніў. Нада для гэтага аўру сваю мець ілі веруючым быць. Каб праганяць, нада веруючым быць, усё гэта Богам.

Рэлігіёзныя не так, а калдуны гэтыя, каб не прапала, нельзя каб на іх закончылася. Зло штобы было. Ён тады памірае, цяжка памірае. Столь падымаюць. Был у нас адзін дзед, ну дык, калі яго сястра памірала, праз пашны хамут душу забіралі. Праз яго глядзяць, відзяць, як душу пацягнулі. Ён у канцы канцоў прадасца, служыў нечысці. Прадаўся і душа павіна тожа. Раз яна ў яго была і несупрацівілася, і тады яна тожэ пойдзе ў пекла.

Не паймёшь, жывуць [чараўнікі] так, як другія. Ня ўсе ж, з роду бяруцца за гэта. Абычна, хто ад роду быў, ад бацькоў, ад прадзядоў, дык яны цянуцца і цянуцца, іх ужо застаўляюць промыслу гэтаму, так яны вядуцца і вядуцца.

Тут у нас адна ў Несешні памірала, і ў яе сын быў, дык ён не браў. Дык яна п’янаму яму нагаварыла, нагаварыла. Ён прачнуўся, а яна вот кажыць: “Ты цяпер больш панімаешь. Толькі, – гаворыць, – ня роб плахога, а іначы будзешь цяжка паміраць. Зло ня дзелай”. Ну ўсяраўно перадала, відзішь, а сама памёрла. Перадала, усяроўна перадала. Нада абавязкова перадаць, тады лягчэй памрэш. Так бы мучалася.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

### 876. Паляўнічыя чары

Робілі, што на ахоце жывіць будзе. Хоць галаву адсячэ, а звер усяроўна бягчы будзе. Гэта кажуць, *жыўца кінуў*. Во, як стрэліць, пачуіць той, другі. То пасвярдліць, то нешта скажыць над сваім руж’ём. Гэта чуў я. Гэта такія заядлыя ахотнікі знаюць.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

### 877. Сусед-чараўнік

Туды на шасэ ішлі. Тады дзед, не, а можа ўжо і прадзед. Хто яго знае? Гэта мне матка расказвала. Гаварыла, як іх імёны зваць. Тады, гаворыць, ідуць у дваіх. Дзед і сусед ягоны. Сусед і гаворыць: “А я вось зараз захачу і

чэрці замалоцяць”. А там сарай стаяў. Падышлі, а ў тым сараі загудзела малацілка. А так, у гэтым сараі ніякай малацілкі не было. Дзед тады Богу перакрасьціўся і пабег назад сюды, у дзярэўню.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Андрэева Івана Яўхімавіча, 1930 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

## 878. Ведзьмакі

Ага, былі раней вядзьмакі. Яны вельмі ходзяць перад Іванам. Пускаюць лягушак да кароў, а тыя малако цягнуць, малако адбіраюць. Была адна такая бабка. Усё гаварылі, што яна адбірала малако. І на Івана адзін хазяін убачыў у сваім хляве лягушку і адсек ёй адзін палец, каб вярнуць карове малако. На другі дзень людзі глядзяць, а гэта бабку без пальца, рука заматаная

Раней жа ведзьмакі вучыліся. Ім жа сваё ўменьне трэба было перадаць. Было, што вядзьмак хацеў перадаць сваю ёмкасць другому каму. Ён выйшаў на вуліцу і пачуў, як хтосьці спявае на кані. А гэта быў яго сын, але вядзьмак гэтага не ведаў. Бацька пусціў па ветру сваю ёмкасць – сын зваліўся з каня і памёр. Было яшчэ адно здарэньне. Адзін вядзьмак запрасіў да сябе ў баню мужыкоў памыцца. Яны прыйшлі туды, глядзяць, а ў бані поўна зайцаў. А гэта ж не зайцы – гэта ж былі на самой справе чэрці.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Маторы Ніны Цярэнцеўны, 1919 г.н. у в. Клешчына Бешанковіцкага р-на.**

## 879. Ведзьміна кола

Толькі чула ад людзей, як людзі гаворацьь, а ці то праўда ці не, не знаю. Дажа расказвалі, што ў кола прэўрацілася на Купала да усходу сонца. Дык людзі гналі карову. Гоняць, а на ўстрэчу кола каціць па дзярэўне. А яно тады гэта у тым баку было, у Ушацкім.

А тады будзе мужчына з ім ішоў, а ён кажа: “Сейчас мы паглядзім”. Скоранька – раз – з забора кол, і яно бяжыць, а ён паднаставіў кола – трах у гэтае сама у кола. І закруцілася, і калясо астанавілася, а на тым канцы баба ратунку крычыць. “Падбягу, – кажа, – хто ж там крычыць, туды. А яна, – кажа, – на кол прабілася”. А ці то праўда, ці то выдумка.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

## 880. Падклады і заломы

Гэта ёсць у мяне суседка такая, Я з ёй сколька жыву, не гавару. Яна хоць што падрабляла. Вот прымерна, вот першы прымер я вам дам. Бульбу атаралі мы, выбралі во, калі была, бульбу, атаралі ўжо. А, думаю (дзела ўжо было к восені), пайду я пагляжу, можа там падхінена дзе. Прыхаджу я

глядзець, там ці што падхінена, гляджу – леташняй бульбы з каранямі во гэткімі насыпана ў мяне пад хлевам. Вы падумайце! Я пайшла пытацца ў людзей, хто знаіць, старэйшы за мяне, што рабіць. Кажуць – бяры, толькі ў рукі [голыя] не бяры, – і знясі на крыжавыя дарогі. Я так і зрабіла. І тады, не помню на які дзень, карова парвала вымя ейная. Вот і ўсё.

І пра гэтыя закруткі чула, заломы гэтыя. Я дык тут не знаю, а там, помню, малая была, у Бубнах там, адна знакомая замуж зайшоўшы там. Нешта павадзіліся і яна выразала гэты залом, ей скруціла рукі, хай Бог бароніць. Яго ня можна чапаць! Не чапаць! Вабшчэ не чапаць! Няхай сядзіць. А тады нада было выкапаць, занясці на магільнік, каб з ім [чараўніком] што зрабілася, гэта казалі бабы. Але ж, хто чаруе, той сільнейшы. Чаму? Чорт камандуець. Чорт у мінуту здзелаіць, а Бог – нада ждаць, пакуль паможаць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Бароўскай Надзеі Філіпаўны, 1922 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

## 881. Залом

Вот адзін мужык прыходзіць і гаворыць жонцы: “Гілена, ідзі паглядзі – залом у жыці”. Значыць, жыта завязана на вузёл. А яна: “Ай, Максім, ня жні. Ай, я гэтым забабонам ня веру”, – і зжаў. І яго тут жа скруціла. Тады жонка яго на каня і павізла ў другую дзярэўню. Аддзелалі яму, яшчэ троху пажыў.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Крыцкай Валянціны Іванаўны у в. Аношкі Лепельскага р-на.**

**882.** Людзі дужа ўмелі гэта чарадзейства. Умелі дужа здзелаць, але і аддзелаць. А зараз толькі здзелаць, а аддзелаць не могуць. Чарадзей, вот ён, напрымер, жнуць на полі, а ён заломіць. Возьме заломе і пракляне. Як той возьме, дык рукі ці што закруціць. Закляцце нейкае было.

Залом баяліся жаць, алі некаторыя жалі. Возьме вырве яго, яго нада вырваць, каб і трава не асталася, за адзін раз яго нада вырваць. Каб за адзін раз вырваць. Алі каб зараз, і трава вырвалася, каб зараз. Тады скінь на ваду, калі скінуць на ваду, то той хто дзелаў, таму гэта астанецца ўсё. Мама ня ўмела. Гэта спецыяльныя людзі, каторыя і лячылі, і дзелалі, і рвалі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 883. Емельяніха

Тую Емельяніху я прымеціла, калі жылі мы яшчэ там. Ну, а чэраз дарогу яна жыла. Мае дзеці пайшлі на работу, у іх былі малыя рабяткі, ну, па годзіку яшчэ. І яна прышла ка мне на сяло, а я адну спаць лажу, а яна ка-

жыць: “А давай я другую спаць палажу”. А тады яна палажыла спаць, а я другую не заснула, а яна ўстаець: “Ну, я сваю спаць палажыла і пайду дамоў”. А я думаю пагляжу, куды яна пойдзець. Гляжу, яна не дамоў пайшла, а пайшла за хлеў, і што-та так у жменечцы панесла. Ну я ж там ня відзела, што яна там панесла. Я тады выйшла вон, гэта вясной было, як раз на Вялікадня было. І тады я вышла на двор і гляджу, і на карову “Акыш у хлеў!”, а ваконца было застаўлена гэтым, плёнкай. І вот яна нешта на адной – “клёп”, чую. Я тады вышла і яна стаіць. Ай, нейкі ў мяне панос пагнаў! Ай, ну і карове тады нешта абышто было.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугай Анастасіі Якаўлеўны, 1935 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 884. Благое вока

Гэта ўсігда было. Я помню аднажды, ну гэта ёсць чарадзейства, і ёсць глаза плахія. Вот мы са старыком паехалі за Докшыцы на гулянку, ну вот, на крэсціны да яго сястры. І папрасіла саседку падаіць кароўку, а кароўка толька ацялілася, яна многа малака давала. Яна падаіла, значыт, вечарам, і назаўтра раніцою, а мы прыехалі к вечару, ужо пашла я даіць. Вечарам яна мне дала, но я яшчэ нічога ня поняла. Назаўтра – каб грама малака, хоць вазьмі дзе! І толька ацялілася. Ох, я тут ужо заныла, шчэ ж маладая была, ня ў курсі дзела.

Ну, тутака падсказалі мне ў Дзедзіна, памёрла ўжо, не маё пакаленне, старушка. Пашла я: “Ай, бабушка, мілая, што здзелалась з кароўкай? Не дала малачка во, ані ні дала”. Ну дык яна гаворыць: “Ну січас, дзетка, я табе вады дам – палепшаіць твая кароўка”. Вот яна пашла, малілася там, што яна рабіла, я ня відзела. А тады ж гэта: “Сдзелай прыдзі, вот што я табе скажу, смый там, і цадзілачку гэту, што цэдзіш малако, і кароўку змый, і будзіць малачко”.

Тры дня ні грама малака не давала карова. Усіраўно, после вады. На трэці дзень – как усіраўно стала на месці ўсё. Ну і яна сказала так, што гэтая бабка яна ня зробіла вам, яна не чараўніца, у яе такія глаза, яна сільна пазавідавала вам. Што многа кароўка даець малака. Ну вот а гэтая бабка і памагла, вот, значыць, што-та яна знала. І сказала, што храстовая бабка. Цёмная. Ну, цёмныя валасы, глаза цёмныя і ўсё. Гэта ўсё сказала.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіч Алены Аляксееўны, 1932 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 885. Цётка-чараўніца

Аднаму мужыку родная цётка зрабіла так, каб ён захвараў. Доктары не маглі знайсці у яго хваробы, не прызнавалі нічога. Ляжаў ужо ён і гатовіўся к смерці. Яму падказалі, што ёсць добры знахар. Матка сабрала гро-

шы і паехала да яго. Знахар даў вады і сказаў, што начаравала сваячка. Гаворыць: “Як прыедзеш, у хату кошка прыйдзець. Яе трэба забіць”.

І праўда. Ноччу ўбегла чорная кошка. Маці гэтага мужчыны пачала яе біць, але не забіла, а папала па назе. Раніцай, калі выганялі скаціну, цётка мужыка не выйшла карову гнаць. А калі пайшлі да яе, то у ёй была перабіта нага была. С той пары мужык стаў здаровы.

**Зап. Градовіч А. у 1999 г. ад Ягадкі Алены Якаўлеўны, 1932 г.н. у в. Ст. Туросы Ушацкага р-на.**

## 886. Ведзьма скідваецца жабай

Дзярэўня такая была кала Звоні, каля возера. Ну і іх там хат пяць было. Росьцвеньнікі, дваюрадныя браты жылі, і, цётка расказвала, я помню, у ноч на Купалле, ці то ў дзень, яна ў хлеве жабу такую бальшую каля каровы нашла. Пашла карову даіць, ну і ўзяла яе і збіла, збіла і на двор выкінула, жывую яшчэ. Ну і тут чэраз некаторае врэмя прыбягаець ейная дочка: “Хадзі, хадзі, мамке, – гаворыць, – плоха”. Вады папрасіла, тады гаворыць, прайшло ўсё. Вот такія случаі былі. Яго жонка і цяпер ваду даець там, у Масьцішчах.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 887. Чары

Гэта было, алі ні ва ўсіх дзераўнях. Было, што кажуць, малако атабрала. Было малако, а тады стала, што кроўю даіцца ці, падоіш, а малако як сараватка. Гэта тожа ў нас ездзілі пад Барысава. Было, адна бабка паставіла бітончык, каб сын там браў што. А ён кажаць: “Мама, што ты мне паставіла, тут жа чэрві поўзаюць”. І ў самам дзеле чэрві. Абыкнавенныя чарвякі. Галоўкі чорненькія. Тады яна за малако за гэта, яна на нейкую бабу рашчытавала, тая баба ўмела шаптаць. І аж пад Барысава паехала. І стала чыстая малако.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

## 888. Гаспадарчыя чары

Даўней врэдныя старыя былі, адзін аднаму робілі. Вот я помню гэта мама баіла. Пасварыўся сусед з суседкай. Ну і паедуць яны бульбу сеяць. Адзін ня сеіць упярод, і другі не ўпярод. Стаялі-стаялі, гэты й паехаў. Як толькі гэты другі стаў ехаць, а гэта баба ўзяла – шлёп! – села і сядзела. Во гэткая бульбачка вырасла і не атрасла. Што яна знала, казала? Вот мама мне баіла. У гэтай бабы добрая вырасла, што села, ужо паехаў – астатняя не вырасла. Былі, даўней. А цяпер я ня знаю. І маніць ня буду.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Парфяновіч Настассі Несцераўны, 1935 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 889. Смяротныя чары

Слухайце, вот гэта Саша, памерла ў яе сястра. А такая маладая, а жанатая не была, а Зоя так растраівалася, гаворыць: "Вродзе бы яе ўбіў мужык". Ну, такое вот падазрэніе было, да. Дык гаворыць: "А ты хочаш, каб ён за ней пайшоў? Вазьмі ягоны бацінак. Як апускаць гроб будуць, укінь туды, у магілу". І вы знаеце што, я не знаю. Людзі так казалі, што цётка гэдак саветавала ёй зрабіць. Ну я вам не скажу кінула яна ці не кінула, но чэраз 7 месяцэў ён памёр. Малады мужчына – сорак гадоў, можа сорак сем, не болей. Ну Сяргей такі, ён за Райку маладзейшы на 7 гадоў, і памёр. На тым гаду паехаў у сваты а чэраз дзень памёр. Тоесць, ён ужо Райку пахараніў, не прайшло і года – хацеў яшчэ жаніцца. І усё, і памёр. Раптоўна. Хочаце верце, хочаце не верце, но гэта ёсць.

І яшчэ, ну вот хто на каго, усякае бываець. Бываець, вот малец з дзеўкай дружыць ды не возьмець яе замуж, а возьмець там другую. Гэта ўжо хочаць атамсціць яму. Чаму ён ужо не з ей ,чаму ён ужо з другой? Яна яго ўбярэць усёраўно. Яна ягоную фатаграфію каму-небудзь паложыць тамка ў гроб ці ў яму, як каго-небудзь хароняць, і гэты чалавек…

Ну, гэта вось еслі ўжо на скорым часе, дык можна абараніцца (ад чараў), а еслі так ужо пацянуўшы, долгае врэмя… Гэта трэба хутчэй ісці да тых, хто знае. Нада ехаць іскаць такіх людзей, каторыя могуць адрабіць. Гэта, гавораць, нада ў цэркву ісці, нада спавядацца, а тады ехаць... Ну, каждый жа па-своему гаворыць, але нада спавядацца, і ехаць іскаць такога чалавека, каторы можа адрабіць.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Суднік Таісы Васільеўны, 1935 г.н. і Крыўка Іны Іванаўны, 1971 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 890. "Як жа маладзік, я аж шалею…"

А мой бацька расказваў пра чараўнікоў. Во гэта ўсе атроддзе ад Палідоўцаў. Во, што у Балбеках, што ў нас у Крыўках, вось гэта ўсе – гэта ўсе Палідоўцы, гэта яны ўсе знали нешта. Палідовец – фамілія такая. Яны ўсе знали. Іхная матка гола-нагала перад смерцю хадзіла, пакуль не перадала. Яна вот хадзіла, дажэ ў Слабодку вазілі яе. Гэта яна с ума схадзіла, пакуда не перадала. А ім перадаць – тока за руку падзяржацца і усё, перашло. А ўжо гэтат Віцька, ужо ж гэтат Палідовец, з папам маім кароў пасціў фярмоўскіх. І знаеце, гэта ўжо такі не малады, пастарэў і папа мой не так даўно і расказваў, як ён яму гаварыў: "І знаешь што, Іван, як жа маладзік, я аж шалею – мне нада каму-небудзь што-небудзь благое зрабіць. Еслі я не зраблю – тады я канчаюся".

Тоесць яны ўжо сабой не владзеюць, тоесць іх як якая сіла нясець, ім нада зрабіць. Вот што і вот гэта ўжо мыслямі сваімі ен у слух дзяліўся: "Вот гляджу на Ніну. Ну чаго яна голая не ходзіць? Мне вот нада тры

ейныя сляды выкапаць і занясу на кладбішча". Ну, гэта каб звясці яе са свету.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Суднік Таісы Васільеўны, 1935 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

## 891. Падраблянне і прыгаворы

Адна карова была здохла. Вадзілі яе да разных людзей, нічога ей не памагло, і за нядзелю яна і здохла. Патом я другую набыў кароўку, і тая так сама ўсё. І тады я ўспомніў, гавару: "Схадзі ты ў Масцішча вады". А карова ўжо стаяла, дзверы былі адкрыты, ня ў хлеве, а ў паветке. І во так вот я семя разагрэў, працадзіў, і заліваў я яе семя гэта. А яна стаіць так вот растапырыўшыся, і ўжо семя я гэта не заліў, галаву падняць неяк было. Я рукой махнуў, думаю і з гэтай каровай будзець тое самае. І вот толькі жонка вады ўзіла, яшчэ не прыехала з Масцішча, а карова ўжо перайшла ў хлеў сама. Ну і ёсць падрабляньне, а ёсць і прыгаворы.

Падрабляць – гэта паддзелаць. У мяне сасед быў у Ахвераўшчыне, той здзелаець так, што пчолы яго не кусаюць, ён бяз сеткі разглядаець пчол. А я ішоў рукі мыць з работы ў ручэй, а тада кукурузу яшчо садзілі, і галкі гэтыя раскапвалі і выбіралі зёрна. Стада галак гэтых з кукурузы зляцела, я кажу: "Во, хто кукурузу ўніцтажаець". А яго ў гэта врэмя пчаліна ўкусіла, а ён тады кінуў: "Каб табе язык адсох, каб табе глаза вылезлі", – на мяне, і бяжыць у хату і крычыць. А жонка стаіць у калідоры і кажыць: "А чаго ты злуеш, ты ўмеш падрабляць, а ён умеець прыгаварываць, чаго ты так злуешся на яго?"

Вот выходзіць, што я прыгаварыў. І былі такія, што прыгаварывалі, быў тут у нас такі Машчонак, Сцепан стары. Той увідзіць, што дзічка села, прыгаворыць – і яна спадаець. Нічога ня лечыць, а прападаець. Могуць разнясьці сена капешку. Гаворыць нешта і віхр разнясець. Ну ў мяне было. Мой брат скажыць, зачын скажыць, і ўсё. "Нада, – кажыць, – сена растрасці", – і растрос капешку, нідзе нічога не стала.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 892. Чары на жывёлу

Са мной было такое. Карову мне падчаравалі. Неяк карова з пасты прыйшла, лягла і не падымаецца. Я спужалася, пабегла да суседкі і пытаю што рабіць. А тая кажа: "Вазьмі грамнічную сьвечку і абнясі вакол каровы". Я прыбегла, узяла грамнічную сьвечку, пайшла ў хлеў і зрабіла, як яна сказала. А потым абцерла кароўку сваёй бялізнай. І назаўтра карова ўстала здаровая.

А яшчэ было неяк. Мама мая паіла цёлку, а ішоў сусед наш – Раман – глянуў на яе. Як толькі ён за вугал зайшоў, так і звалілася цёлка. І не пасьпелі нічога зрабіць – здохла!

**Зап. Лобач У. у 2000 г. ад Аляхновіч Надзеі Валер'янаўны, 1947 г.н. у в. Лагі Ушацкага р-на.**

### 893. Чары на дарозе

Тут жыла Прасіння, выхадзіла замуж у Марозаўку, а ўхажор быў, ды не ўзяў, а другую ўзяў. І вот тады сястра ўхажора гэтага, сястра ката ўзяла і катом скрабець дарогу. Ката бяруць за заднія лапы і цягнуць цераз дарогу. Каб драліся потым, як кот дзярэць дарогу.

Аруць дарогу тожа на нядобрая. Каб памёр чалавек. І палку якую перацянуць яму, эта тожа... нада ж здзелаць так, каб араць тую дарогу, па якой ён ходзіць. Цяпер такіх няма, акучнічкаў такіх ручных. Абычна імі перайці.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Дабраніцкай Алы Раманаўны, 1935 г.н. у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

### 894. Чары гаспадарчыя, чары любоўныя

З магілы ці пясок, ці што бралі – гэта для чарадзейства. Дажа забівалі ў магілу кол, асінавы кол табе нада забіць, каб ты ня дзелаў зла. Каму яна дзелала ўрэд, той і забіваў. Каго шчытаў урагом, таму забіваў. Бываець так, што жаніўся, ілі сын, ці што яшчэ, жонку кінуў этага чараўніка і перашоў к чэснай. Рэўнась. І гэты чараўнік ноччу... Эта дзесьцьвіцельна было. У нас ставілі памятнік і выцягнулі кол з магілы. У тую магілу, што яна ўродзе бы чарувала іх. Врэд ім дзелала.

Памёр во Карнееўны сын. Сморгалі венікі ў падушку. Назаўтра я іду, а ў мяне эты галень ляжыць. А свякроў мая гаворыць: “Ня тронь, табе нада жыць і дзяцей гадуваць”. Тады яна ўзяла керасінам абліла і запаліла. Во якія ёсь людзі. Умерцвяла ці што яна дзелала. Казалі, як ёй камень з печаня знялі, а яна казала, што ўсё ў сярэдзіне гарыць. Панімаеця?

Да, хто ў чарах сільней, той пабедзіць. Барба сілавая бываець. І ў іх так. Ніхто ж не знаець. Адзін дась вады, у кароўкі малака атабраць, сколькі малака ня елі, няможна было, гаўном ваняла...

І нам камень закінулі. Я пашла, мне так сказала, што табе камень укінулі. Усе, якія нашла, камення выкінула, а можа той і астаўся. Я ўвесь двор выцісціў. А што ты, усё камення ўбраў? Ёсь такія, што строюцца і камення закладаюць. Пад фундамент ці іголку паложуць. І ўсё, жызні німа.

У нас у Баяршчыне, яшчэ і цяпер тыя жывыя. Адзін, Паўла, узяў ажаніўся, узяў другую жэншчыну. А па саседству, ён з ей, наверна, нескалькі пажыў, пажыў, бросіў і прывёз сабе другую. Гэта жэшчына... яны ўсе знаті.

І матка, і дзед, што можаць так даць, што клубком пакоцішся... Расказывалі баярскія. Узяў другую жэншчыну і жывець. І што. Ня спіць. Не работаець. Што ж такое? На туюВальку прама бясіўся, а на гэту нічаво. Сама расказавала. Пашла, к каму яна там пашла, к жэншчыне, а тая сказала: "Знаеш што, у вас на якім там браўне, на такім та вянцэ ўторкнута іголка. Іголка ўторкнута". Ну і што, і нашлі яны гэтую іголку, і што. І Паўла стаў як Паўла, і Сашка стала як Сашка. Калі ж та такое было, на праўдзе было.

Было такоя, што прываражавалі, мальца к дзеўцы ці дзеўку к мальцу. Было і такоя. Усёрна жызні ня будзець. Чары тыя пройдуць і ўсё. Такоя атнашэнія... Было гэта, было. І ў Парэччы. Казалі, адзін жонку б'ець забіваець, нічога няможна. Вады ездзіла брала. Кажаць: "Хай вадзічкі той папіваець і ўсё будзець". Ну, на які-та срок праходзіць эта, а тады апяць бешанства начынаець і б'ець яе, усе.

Я тожа чула, штоб парэнь любіў дзевушку і быў ей прэданы, бо яна была менструацыі дала яму ў водку. А-я-яй! І ў нас адзін кажаць: "Ой, я платочкам сьцёр сваіх прычындалаў, а тады па ёй. І ўсё, і яна мяне палюбіла". (Смяюцца ўсе). Праўда, ён бажыўся. "Я, – кажаць, – яе любіў, а яна мяне не любіла, я, – кажаць, – пацёр па сваіх [прычындалах] платочкам, а тады ёй па ліцу пацёр". Ой, ратуйця! (смяюцца).

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Скумс Марыі Яўгенаўны, 1930 г.н. і Скумса Фёдара Цімафеевіча, 1935 г.н. у в. Баравікі Сенненскага р-на.**

## 895. Віхор

Пра віхор, гэта я помню папа мой расказываў. Яны хадзілі пад Полацкам работаць, кірпіч робілі. Дык адзін расказываў мужчына, кажыць, віхор закруціў, а ён кажыць: "Гэта чорт ляціць! Служыў я ў пана і іду я з работы, віхор закруціў, дык я нож складаны быў у кармане я гэты нож узяў і кінуў у віхор. Ціха стала ўсё, нічаго нет. Ну, прыйшоў я дамоў на каторы там дзень, гляжу, а мой нож ляжыць на вакне. А ён кажыць: "Што узнаеш?" Я кажу: "Дык я яго ў віхор укінуў, а тады нідзе не нашоў". А ён кажыць: "Шчасце тваё!" Пан той, хазяін яго, кажыць: "Шчасце тваё, што мне ў сапог папаў, а каб ты мне так куды папаў, я б цябе скруціў, зламіў, што б ты на месце і здох!" Вот нейкі ж калдун ён быў! "Я, – кажыць, – пайшоў гуляць!"

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф'і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

## 896. Пра чараўнікоў і чарадзейскую навуку

Былі чараўнікі, былі, ды чаравалі добра, ня толькі вадзічку давалі. Маглі людзей счараваць, у кароў малако адбіраць, смятану. Малако яны адбіралі на Купалейка, на Юр'я, 6 мая, і на Благавешчанне, тры разы ў год.

Сурочыць – гэта ерунда – вадзіцы могуць даць пасвянцонай. Былі два калдуны – Ян і Раман. Раман быў з Рачных, а ў Рачных многа калдуноў было.

Яны робяць, каб не бачалі. Хто робіць, нада з чортам звязацца. Еслі з чортам звяжышся, ён цябе парве, еслі не выпалніш яго работу. Нада вучыцца і дзелаць, няверыць у Бога, і робіць такую чортаву прысягу, што чорт скажыць. Чарты навучаць, як чараваць.

Вот Францаўна, учыцільніца ёсць. Яна сядзіць за той сялібай, дзе чараўнікі жылі. Мой бацька хросны можа навучыўся ад цесця, а тады после вайны, гэта ёй мужык расказваў, а яна мне. Коля ляжаў у бальніцы і гэты чалавек ляжаў. Тут у прымаках быў, можа ў цесця навучыўся, не знаю. Яны багата жылі. Дык гаварыў так той чалавек: "Чараваць гэта не так і проста". Ён сказаў Камайскаму: "Калі хочаш, навучу цябе чараваць". Гэтак ён Колі расказываў, мужыку Францаўны. Кажыць: "Ну давай, пайдзём, навучы мяне чараваць". Павёў гэтага чалавека ў лес і будзет вучыць чараваць...

Вы знаецце дзерава асіна? Гэта ж чортава дзерава. Гэта грэшнае дзерава. Во калі няспіцца, падлажы пад падушку, дык спаць будзешь. Як Ісуса Хрыста распялі, на гэтым дзераве павесіўся Іўда, учанік яго, ці брат яго ці ўчанік. Ісус Хрыстос тожа быў з яўрэяў. Дзева Марыя яўрэйка была. Гэтае дрэва трасецца пастаянна, гэта грэшнае дзерава.

Тады прышоў у лес, прывёў яго і кажыць: "Я навучу цябе чараваць". Падыйшоў да асініны, выразаў там як крэст. Тады яму сказаў: "Адвярніся і заплюшчы вочы". Той адвярнуўся і заплюшчыў вочы. "А цяпер, – кажыць, – глядзі". На асіне паявілася распяцце Ісуса Хрыста. І ён яму кажыць: "Бяры гэта руж'ё і страляй у распяцце, у Бога". А ён сказаў, той чалавек: "Я, – гаворыць, – ня буду". Спужаўся, як увідзіў гэта. "Ня буду, – кажыць, – не хачу чараваць, вучыцца ня буду". – "Ня будзішь?" – "Не, ня буду". – "Тады на Вялікдзень згарыш".

І праўды, згарэў на Вялікадзень. Чэрці дасталі і спалілі яго. Ну сам не згарэў, а хата. Навучыцца чараваць, будзешь робіць тое, што скажуць. І гэта ж грэх.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф'і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

### 897. Чараўнік Аўдакім

Як мы яшчэ жылі ў маткі, дык сасед быў у Нямойце, тожа к яму прыязджалі вады. Бываюць харошыя чараўнікі і дрэнныя. Вот еслі харошы чараўнік даець ваду, памагаець, тады і смерць яму лёгкая. А гэты дзед, кажуць, цэлую нядзелю паміраў. Відзіця, дрэнны быў. Ён мог і на скаціну. І малако ў людзей адбіраў. Матка мая расказывала, Аўдакім цэлую нядзелю

паміраў, пакуль не ўзадралі над ім столь. Тады памёр. Каранеўскі. К яму людзі прыязджалі, многім і памагаў. Ці ён знаў, як каму нада варажыць.

Гавоуць яшчэ, як адбіраюць у людзей у кароў малако, дык як памрэць, дык кажуць із-пад яго і малако цячэць. Знай, што ён дрэнны.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

### 898. Ведзьма-малочніца скідаецца вожыкам

Еслі такая баба, што адбіраець малако, яна стараецца выгнаць кароў раньшы ўсіх. У поля рана. А тады, як гонюць стада, тады яна расу з травы сабіраець і адбіраець.

У мяне ў самой наяву было. Вот была ў мяне карова. Тую бабу забілі, яе ўжо няма. І вот прышла, ці знаеця вы, дровы ў нас брала, дровы. Я паругалася з ей. Яна прышла ў дровы, а я сабаку спусціла на яе. І што вы думаеце? Назаўтра прыхаджу, а ў каровы на спіне кускамі як нарвана, поўсці.

Я быстрэй пашла, у нас тут была бабка. Так і так. – Табе здзелана. Дала яна мне вады, я карову змыла, усё. А назаўтрага пашоў дзед на двор – вожык па двару. А ўжо быў мароз, снег. А я, дурная, тожа не саабразіла, гэтага вожыка – тах, тах! – забіла. Пашла к той бабі, а яна і кажаць: “Эта ж гэта”. А каб я ўзяла ды тапаром рассекла яго, так бы і чалавек аказаўся. А тады мне ўжо гаворуць: “Ай, у той ліцо чорная”. Во тут во ўсё. Саседка мне прышла і кажаць: Ай, ай! А бабка мне тая і кажаць: “Эта ж яна была вожыкам. А ты біла яго, дык яна нядзелю на вуліцу не выхадзіла”.

Я яго да смерці забіла. А каб я рассекла, дык ей бы руку ці нагу… Во, мае дзеткі. Гэта было ў нас у самых. А яна гаворыць: “Табе нада было яго прынесці на крыжавуху і выкінуць”. Гаворуць, прымерна, еслі хто паддзелаець, пойдзеш і аднясеш. Як падкідалі, бутылку з вадой ці што. І спаліць там, абліць чым і спаліць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

### 899. Смерць чараўніка

Плоха паміраюць, доўга мучаюцца. Доўга ўміраюць, канаюць. Тады столь праразаюць ім, а чорт праз стольню тады уцікаіць, праз комен. Казалі аднаму столь прарызалі, а з яго як выскачыць і праз комен паляцеў.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф’і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 900. Чараўнік Іван і чэрці

Мамінага брата быў швагра чараўнік. І ён прыязджаў да нас. І ён гэдак во сядзіць. А тады пастукаіць аб стол – косці залатыя лятуць і лятуць.

Ён быў чараўнік. А тады загадаіць палкі гэтыя дзіржаць дзеўкам, нашы былі дзеўкі, а тады як махнець – на гэтых палках косці. А тады да мамы: “Так, Віля, павыкідай катлы з печы, там будзець вечарынка”. І так іграюць, танцуюць у печы, ай-ай. А як кінеш палку туды, як вурнець адтуль, гэтая палка і выскачыць. Ён рабіў гэдак. Чараваў, чарнакніжнік быў. Дзядзька гэты рабіў, быў стрэлачнікам. Аж у Варапаеве. І сядзіць, кажаць, гэдак відна стала ў комнаці. “Гляджу, – кажаць, – з аднаго угла лезіць здаровы, вялікі, а з другога меншыя”. І ідуць да яго. “А я, – кажаць, – за качаргу: “Ах вы! Дык вас Іван прыслаў? А яны назад у куткі і палезлі”. Гэта чэрці. Чэрці былі. Таўстыя. Гэткія, як чалавек. Хвост на плячы закінуты.

Ён сваю жонку ўкрасіць, у золаці ўся на фэст ідзець. А тады прыдзець дамоў – нідзе нічога нет. Грошы зробіць, усё. Тады аддась каму тыя грошы, а там жывыя паперкі астануцца. Во як. А ён расказаваў мамі: “Як прычэпюцца, каб работу даваў”. Дык насыпець у попел мак, каб выбіралі, ці ваду ў кулі вязаць. Ну дзе ж яны ваду павяжуць. Кажаць, змочуцца, здушуцца, тады адчэпюцца. Рады не было. Алі беднага яны яго задушылі, павесілі. Дык гэта было, чарнакніжнікі. Чорты гэтыя.

Не, благога ён не рабіў. Ён толькі звязаўся з імі ад дурасці. Як звязаўся, дык рады не даў. А благаты не рабіў. Калі насмешку захочаць зрабіць, дык зробіць. У нас адна дзеўка, ён хацеў ужо яе чапаць, а яна ад яго ўцікала, баялася. Яна знала, што ён вытвараіць. А ён кажаць: “Ну, я ей устрою. Вот будзець вечарына, а яна прынясець вядро пасярод хаты, залупіцца і будзець пісаць”. А мама кажаць: “Не нада, Іванька, яна добрая дзеўка, яна цябе баіцца”. Дык не рабіў. А дзеўкам казаў: “Зараз дастану з грудзей малака жменю”. Дык дзеўкі баяліся, са скуры лезлі. А ён красівы быў дзяцюк. Вечарыну як зрабіў у печы, ай як іграюць, як танцуюць, ай-ай-ай! Што хочаць, тоя зробіць. Іх пазавець і ўсё.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 901. Няўдалы чарнакніжнік

Чорнакніжнікі… У Навясёлках быў мужчына малады і дзе ён, на дарозе можа, найшоў кнігу гэту і ня знаў, што далей робіць. Мучаюць яго [чэрці]. Палкамі б’юць, а жонка сядзіць, нічога ня відзіць. Пакуль Ваўкулоўскага дзеда не прывялі, толькі гэты дзед і паправіў. Яны знаюць, ці работу нейкую нада даваць, ці што. Яны трэбуюць, раз ты з імі звязаўся. Адны знаюць, што робіць, а ён дачытаўся і не знаў, што робіць.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Падцяроб Елізаветы Фёдараўны, 1923 г.н. у в. Тумілавічы Докшацкага р-на.**

### 902. Чараўнік скідае маладых у ваўкоў

Адна пара жанілася, свацьба ў нас была. А саседа ні прыгласілі. А ён што здзелаў. Быў, казалі, чараўнікам быў. Дык дзеўка гэта ваўчыцай абярнулася, а жаніх – ваўком, бегаюць па полю. Дык таго чалавека прыгласілі, напаілі. А каб адддзелаць, ён іх цераз ізгароду турнуў. Во як было.

**Зап. Валодзіна Т. у 1995 г. ад Барадулькі Ф. П., 1904 г.н. у в. Дзедунова Ушацкага р-на.**

### 903. Двубой чараўнікоў

Ёсь усякія. Што і зробіць, і адробіць. А ёсь, што здзелаець, а аддзелаць ня ўмеіць. Вот я вам раскажу. Мой дзед быў кузняцом. І к яму прыехалі два мужукі каваць плугі. І яны кажуць… Адзін хваліцца, што я ўмею. І другі, што я ўмею дзелаць. А ён гавораць: “Раз ты ўмееш дзелаць, то ідзі, Вікенцій (а майго дзеда звалі Вікенцій), ідзі, Вікенцій, прынясі мне рэдзьчыну”. Гэта мама расказавала, і я ўжо вам скажу. Пашоў мой дзед і прынёс рэдзьчыну. Тады гаворыць: “Вазьмі яе разрэж. На табе кусок, і мне кусок. Калі вы здзелаеця, каб яна была чорная, а тады белай назад”. Гэты ўзяў і здзелаў яе чорнай, і гэты ўзяў – чорнай. Ну а тады, гаворାць: “Здзелай белую”. Дык адзін здзелаў, а другі ня здзелаў. Дык гэты, каторы чорную здзелаў і белую, падышоў і гэтай рэдчынай як удзяліў яму ў морду! “Ах, – гаворыць, – дык ты толькі ўмееш здзелаць чорную, а аддзелаць ня ўмееш!”

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Падабед Раісы Іванаўны, 1923 г.н. у в. Трасцянка Талочынскага р-на.**

### 904. Як калдун чудзіў

А ў нас быў адзін калдун. У яго жонка памёрла. Ну, а мужчыны нешта завяліся. А ён: “Хочаш, каб мая Куліна прышла?” Яму: “Ты што? Ты што? Сцеражы, Гасподзь!” Глядзь, а яна стаіць на парозе. Во як чудзілі.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Бумага Валянціны Іванаўны, 1933 г.н. у в. Вацлавова Ушацкага р-на.**

### 905. Дудар-чарадзей

Даўней было многа чарадзеяў. Цяпер яны счэрпаліся. Дык што рабілі? Мне ацец расказаваў. У дзярэўні Ліпна быў прэдставіцельны мужчына, парань. І быў у гэтай дзярэўні, у Ліпне троху калека, старык. Ён знаў. Без яго ні свадзьба, нічога не абойдзецца. Яго прыглашаць і свадзьба адбудзецца – красата, а не прыглашаць – і коні б’юцца, і людзі ў хаці б’юцца. Ён пускаў чмур.

Вот сабяруцца ў хаце. Вечар, танцы, вечарына. Прыходзіць ён, прыхаджу я. Выпіўка была, ну не такая ж як ціпер. Толькі ў празьнікі. Падзываець яго первага на выпіўку. А ён іграў на дуду. Эта музыка старынная-

прэстарынная. Дуда. Вот ён палажыў дуду і пашоў на выпіўку. Ну, а дзевушкі скокалі, прыгалі. Села адна на дуду, а тады ўзіла і падула. Зайграла яна ні зайграла, не ізьвесна, а ліцо ўсё такоя ўздулося. І ўсё. Ён прыходзіць:“Ну што, падула? Вот падула дык падула”. Ага, нескалька мінут і гэта ей прайшло.

Ну і пры выпіўкі водка кіпіць у этай румачкі. У каго захочаць ён [зробіць]. Майму атцу пасаветавалі – былі крапчэйшыя чараўнікі – за Дзьвіной. І ў Дзісне быў вялікі чараўнік. Атца так паўчылі: зьверху мезеным пальцам пахрысьціць, то лопнець румка, а зьнізу ён перахрысціць, эта водка пырх і нет. У яго была дачка. Бацька ўзяў яе. Едзець на базар, на правы бок Дзісны. Запражэць каня, калёсы і едзець. Даязджаіць да дзярэўні – нармальна. Пераехаў эту хату, дзе жыў эты чараўні, – толька-толька – колы зваліваюцца. Ну што робіць? Узьдзеніць, загваздкі, усё як нада. Толькі ат’едзіць – апяць. Стаіць, валэндаецца. Другі чараўнік паўчыў: перавярні кола, паедзеш і прыедзеш. Мой ацец не паддаўся. Ну што ж. Бераць з цэркві ладана. Гэты ладан усыпець трошку ў самасад. Як закураць, то ён не выдзержаваіць у гэтай комнаці – выходзіць.

Ну вот жывуць. Втары парынь у дзярэўні, ён яму так зрабіў, што рвала жалудак і там хадзіла жывоя. Не ўгадаў што рабіць той парань. Ацец мой падсаветаваў яму паехаць да крапчэйшых дзе-та за Дзьвіной. Вот ён і паехаў. Казалі яму: вары крушыну, ягада і кару, будуць рвоты бальшыя. І пакоціцца з цябе клубок. Старайся яго зьбіць. Дзе ён яго саб’ець, дзьявальская гэта? Эта вялікая тожа сіла. Вот яго рвала, рвала, усе відзілі гэтыя ягоныя рвоты. А клубочак – раз – і пад печ. Ніхто і не забіў. І памёр. А каб забіў, дык і выжыў бы. Дык усярэдзіне ўсё там парвана было із кроўю. Гэта яму той дудар так падрабіў, ён адзін быў там у Ліпне. Ня помню як звалі. Хату помню, а яго не.

Меў ён золата нейкая. І вот ён гэта золата закапаў. Істопка, картошка, і печ зроблена, зьбіта, каб падагрэць. І там такая ямка. І ён гэта золата туды спратаў. І заклінаў: “Чыя рука закапаваець, толькі тая адкапаець”. Сістра пэўна чула ягоная. Як памёр ён, схваціла яго... А як уміраў, то паднялі паталок. Ня мог памёрці. Як паднялі, тады яму стала легчы. А як памёр, схапіла свайго брата, туды к печцы і ягонай рукой дастала золата. Эта было. Мне сам ацец расказаваў. Вось такі быў.

Яго ўжо знали, крэпка ўважалі. Уважалі! Уважалі за гэта, што прыглашаюць і тады парадак у хаце. А то і коні, і ўсё... Дажа маладыя первую ноч чужымі находзюцца. Так робіў. Мог. У нашай меснасьці жыў такі старык, калека. Было нешта ці з нагой. Ці што, траўма якая-та. Дажа родная дочка была красівая, харошая… Ацец мой расказаваў, серца кабана рэжуць, то яму нада серца з’есці. А яна ўзяла кусочак і пастрадала. Нешта ён

такоя зробіў, каб знала, што не нада есьці. Эта яму нада. Німа ўжо ні той дзярэўні, нічаво. А ці перадаў ён каму? Ні знаю. Каб перадаў, можа, былі б і далі такія гісторыі. А так не.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гіргеля Міхаіла Пятровіча, 1917 г.н. у в. Вялец Глыбоцкага р-на.**

## 906. Дудар

А дуда во, як усё адно мех кавальскі. А тутака зроблена – пішчык, і вот пад паху, і ціскаеш, як мех кавальскі. Ён воздух сасець, уводзіць у сабе, і іграеш. А тутака зразу на гэтым пішчыку і чалавек, дудар гэты, іграець. Тут быў ўжо ў дзярэўні адзін. Даўней жа ж не было гэтых гармонікаў. Скрыпак. Там на дудзе ігралі і свадзьбы, і ўсё. Языком ігралі на гэтым, на жалейкі, яна была падключана.

Ну помню, маці дык расказвала, што, як етаму дудару на свадзьбе не дасі гарэлкі, дык возьміць, зробіць, што і конь з двара не пойдзіць. Не павязець па ваду. Ну. Ён знаў. Вот даўней жа хадзілі мядзьведзі тут. Заб’юць мядзьведзя там, рукі памочаць у кроў. Па плату памажуць, памажуць, а дзе мядзьведзь прайшоў – конь не пайдзець. Конь той на дыбы, ня йдзець, яго адпусцяць. Тады памажуць па варотах. І конь ня выйдзець з двара. Конь баіцца, чуе запах мядзьвежы. І конь не выходзіць, вот табе і ўсё… І тады зноў завуць яго. Вот тады бярэць ваду, знаець, дзе ён мазаў плот гэты, вароты. Абмыець, памыець, памыець. І ўсё – конь пашоў.

Ну, кажаць: “Дуда сама іграець”. Ён накачаіць туды воздуху, і тады – у плот. Даўней жа ж платы былі, дзярэўня ўся ж была выгараджана, вуліца. Ну тады падымець, пад жардзіну паложаць. І пакуль воздух выйдзець, пішчыць, цераз гэты пішчык выходзіць, пішчыць адным тонам. Вот тады дуда сама іграіць, умеіць робіць. Загадаў дудзе іграць – і йграе. Вот і дуда іграець. І проста ён дзелаў – у гэты мех накачаў воздуху. І ў плату іграіць дуда сама.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіча Уладзіміра Прохаравіча, 1929 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 907. Чараўнікі і чараўніцы

Былі чараўнікі. Во, як на Купалу – малако ў кароў адбіралі ці хваробу якую маглі наслаць. У нас жа ў сям’і так і было. Прыгналі карову пасля Івана, а яна ідзе, як спутаная. Сусед яшчэ нам: “Чаму карову спуталі?” Прыгналі карову дамой – пачала здыхаць. Бацька тады з’езьдзіў за знахарам. Ён вады нейкай даў і сказаў: “Будзе жыць”. І кароўка паднялася.

Так во з цёткай маёй было. Ёй чараўнік муху ў сярэдзіну ўсадзіў. А яна ж цяжарная была. Толькі знахар і выгнаў.

А чараўніца была ў нас тут. Цяжка памірала – ёй паталок падымалі, каб лягчэй памёрла. А як раней, то жылі бацька з дачкой. А яна, чараўніца гэтая, прыйўла да іх са ржавай касой і хацела зарэзаць. А тыя – к знахару. Яна і хадзіць перастала.

Яна і малако адбірала, але гэта на Івана больш. Як во, ноччу на Івана яна начала голая поўзаць па полі, дзе каровы ходзяць. А адзін мужык там прахадзіў, аброці цягнуў па расе і ўбачыў яе, як яна поўзае.

Дамоў прыйшоў, аброці павесіў. А да яго жонка, кажа: “Што ж гэта з аброцямі?” Мужык глядзіць, а зь іх малако цячэ. Во так было.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Марозавай Хрысьціны Мікалаеўны, 1915 г.н. у в. Абухова Расонскага р-на.**

## 908. Ведзьма Акуліна

Жыве ў нас тут адна жанчына, пра якую нядобрыя чуткі. Завуць яе Акулінай. Гадоў ёй дужа многа было, можа, сто. Дык яна ўжо гадоў дзесяць нікуды са сваёй хаты не выходзіць. А пра яе “чорныя справы” дык усе людзі ведаюць. Шмат гора ад яе людцам. Кажуць, што ведзьмакі не могуць не тварыць зло людзям, яны ад гэтага хварэюць. Так, час ад часу, і здаралася нядобрае: то скаціна захварэе, то карова ў хлеў ня йдзе, уцякае са двара, то малако скісае адразу пасля дойкі. А бывалі выпадкі, што балелі людзі. І ніякі дохтар ня скажыць, што гэта за хвароба такая.

І так было, што да аднаго чалавека ў сенцы заскочыла вялікая жаба. На Купалу там, ці калі. Дык такую ня часта ўбачыш дзе і ў прыродзе. Яна хацела запрыгнуць у хату, але яе ўбачылі. Жабу тую забілі палкай і адсеклі ёй лапы. Ага. Дык пасьля таго выпадку Акуліну сярод лета ўбачылі ў валёнках з кійком у руках. Яна жалілася, што забалела і што ёй вельмі баляць ногі. І балела Акуліна ўсе лета.

А было яшчэ. У адно спякотнае лета, калі быў слабы сенакос і кожны шукаў, дзе б яму адкасіць сена, адзін прыезжы чалавек адкасіў недалека ад Акулінінага агарода шматок сена. Пра гэта троху пагаварылі і забылі, а калі прыйшоў час карміць кароў сенам, то карова гэтага чалавека не стала яго есьці. І прыйшлося гаспадару мяняць свае сена на суседскае.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Мамон Э. К., 1934 г.н. у в. Замошша Ушацкага р-на.**

## 909. Цётка Яня

Ну вот, гэта дажа мая цёця Яня, мой бацька і яе муж – родныя браты. Выхаджу я, тожа відзела. Ну гаварылі, тожа гаварылі, ну я то, што сама відзела. Выхаджу я раз, наша хата стаяла, іхная, а тут во хлеў. Выхаджу, яна стаіць проціў нашага хлева з даёнкай, з даёнкай стаіць проці двярэй. І во так во рукой водзіць і шэпчаць перад хлевам з даёнкай. Я падышла ці-

хенька глянула – у яе на акне трохі малака. Кажу: "Цёця Яня, што ты робіш?!" А я шчэ была малая. Яна павярнулася на мяне: "Ай, сучка ты!" І пачала на мяне крычаць. Ну ана што-та хацела. Дык вот гэта я відзела, на сваім жыцці я відзела.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Марковіч Галіны Францаўны, 1934 г.н. (нар. у в. Вярэнькі) у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 910. Пан і чарнакніжнік

Гэта точна, гэта не сказка. Ён умеў... Ці ён там чарнакніжнік быў, ці хто. У Дубашырскага, у пана быў такі Левантоўскі – старык. Каб жыў, зараз яму б было гадоў 150 ці болей. Ну, але быў старычок. Паны акапвалі свае сады. Ну, пракапвалі канавы бальшыя. Кругом садоў, каб вада сьцякала. Паны людзей нанімалі. А пан Дубашырскі пад дубам жыў. Ен і цяпер ёсьць, дуб той, на праселку, ты можа дажэ і знаеш. Ну вот, ён і з панам залажыўся. Ён ня верыць і кажа: "Калі ты такі разумны, зроб каб у мяне бандура была". А той стары кажа: "А ты мне карову дасі?" А пан кажа: "Калі ты ўжо мне так зробіш, дык я табе карову дам". А ён узяў і зрабіў. Дык таго пана як стала разнасіць! Як стала распіраць – ужо месца няма. Пан тады кажа: "Адроб". Даў карову і сказаў: "Убірайся. Каб я цябе ня відзіў".

**Зап. Усціновіч Ю. у 2002 г. ад Неплах-Шэпілы Лідзіі Міхайлаўны, 1927 г.н. на х. Шаманшчына Мёрскага р-на.**

### 911. Чараўніца Выліяніха

Былі калдуны. У нас дажа. У нас былі дзьве каровы. У нас была такая баба, што была нам падрабіла нешта. У нас мама як падоіць карову, дык у малаку такія як чэрві. У малаку. Зразу кіснець малако. Салодкае і скісніць, і чэрві ў малаку. Дык там быў старычок у Нарушові. Ні знаю, як звалі, мы яшчэ невялічкія былі. Дык мама з'ездзіла да гэнага старычка. А ён нічога ей ні даў. Ну нешта ж памовіў там. І сказаў: "Набяры мяліньня, што на хаце насыпана, мяліньня, і занясі, толькі каб ніхто цябе ня відзіў, і пасып там, дзе ўсе каровы ідуць. І хто табе зрабіў гэта – не пярэйдуць тыя каровы, вернуцца назад". Ну, мама так і зрабіла. Узяла занісла на выган, дзе каровы, пасыпала таго мяліньня. І ўсе каровы як ішлі так і пашлі, а толькі Волькі Выліяніхі дайшлі, сталі раўсьці і назад. І ў яе зрабілася малако гэтаксама як і ў нас, а ў нас стала нармальна. Тады яна прыбегла да мамы: "Скажы, што ты рабіла, як у цябе стала так малако. А тая: "Во, Волечка, паядала ж я, паядай і ты". І не сказала. Былі калдуны.

І мы на пасту як вядзём, а яна выбежыць на дарогу, і во, капыткі гэтыя, дзе карова ступаець, сабе ў падол, у падол. Нешта ж рабіла яна з імі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

## 912. Чараўніца Пракопаўна

Вот, можа і мне падраблялі... Абычна на Яна падрабляюць. Пашла на Янаўшчыну, у нас такая была Дунька, расейская, яна з Расеі з этай. Ну дык яна, бывала, станець, рукі ўгору, ой! “Каб табе гэта атрыгнулась!” Сына свайго роднага кляла. Ну, а я ж тады пла́чу. І раз прыхаджу на Янаўшчыну, пасля Яна, пашла карову даіць, гляджу: хлеба кусок ляжыць, скібка атрэзана і прама ў хлеў занесена. Эта раз. Тады другі раз гэта прышла, ніколі не хадзіла, прышла да мяне, а там наша кантора была ат хаты, дзе яна жыла, недалёка. Пазвала мене, ну я ж, я ж пашла. А такая у меня была падруга, Люба. Люба кажаць: “А чаго ты ўжо, – кажаць, – Пракопаўна, пашла, – кажаць, – мачыца ў гэтат хлеў”. Тады схадзіла памачылася ў хлеў, там ці памачылася, ці так можа лётала, чорт яе знаець, – сразу жэ карова перадойка асталася. Два гады перадойкай была. Усё ня гэта самае. І асеменялі, і да быкаў вадзіла – нічога, і люкозам забалела.

Гэта бабка сына роднага кліла. А каб ня сын дык памёрла б, і ні зналі б. Гэдак, бедны, ухаджуваў. Дык я ей сколькі раз казала, кажу: “Вот відзіш, Пракопаўна, а ты ж яго, – кажу, – кліла ўсяк”. Вот, ну яно ж малец, ну вот ужо як палучыць палучку, так адзяеца харашо. А яна, бывала, задзерапь рукі ўверх: “Ой, Госпадзі, каб ты не вярнуўся, каб ты захлынуўся б”. Я кажу: “Пракопаўна, – кажу, – эта ж нявольна, – кажу, – дзяцёнка да клясьці”.

Ну от і плоха ёй стала. Да. Цэлы год гэдак мучылася. Шкаліроз печыні ў яе было, і водкі ж не піла, эта ж абычна ўсё ат водкі, эты шкаліроз печыні, яна ж і водкі ў рот не брала. І цякла жыуём, і ногі, і рукі цяклі, лопаўкі такія. Сын перавязуваў яе. Дык усё і часта кажу: “Вот відзіш, – кажу, – Пракопаўна, ты ж, – кажу, – сынка свайго кліла, – кажу. – А каб ня сын, хто каля б цябе ўхаджуваў”.

А помню, я неяк пенсіі мала палучыла, первы раз, дзесець тысяч палучыла толькі. Ну, а йна: “Хто да цябе быў прышоўшы?” А я не казала, што з сельсавета. Узнала. Тады стала, рукі падніла так во ўгору: “Каб ты на гэтых грашах гадавалася б!” А я толькі плакала, і кажу: “Каб ты, – кажу, – усю жызню так рукі хадзіла б задзёршы. Эта ж, – кажу, – не с твайго кармана. Ну што табе, – кажу, – палягчэла, калі ты ўжо...” Ой, была, ой, і врэдная баба!

А як памірала, дык не ўмірала… Але ўжо як аслабела, бываець вот ейны сын на пасту ганяў, ну дык ён суткі пасець, а тады двое дома, тады ўжэ яму скажэць: “Сашэнька, скажы ты гэтай Вікторыі, каб прышла б да міне”. Ну тады пайду да яе, а яна – то тое паднясі ёй, то тое паднясі, такая была, врэдная баба была. Ну і чаравала. А тады раз была ў кладоўцы я нашоўшы касу сплеценую, вот такую, ну, с нітак, і падкінуўшы пад дзверы тожэ была.

Ну ж яны гэты такія. Вот. А ў нас такая жэньшчына была там, дзе мамка жыла мая ў Дубоўцы, дык хамут аромы адзевалі бабе, каб скарэй памёрла. А некаторым дзюрку прасверліваюць у паталку, каторыя чараўнікі гэтыя. Тожа не дай Бог.

Дзеўкі тожэ робюць. Што дзелаюць? Ну вот, мне няможна казаць, стыдаюся казаць… Майму брату, майму й брату былі паддзелаўшы, тожэ. Вот тут во такая… Ён цяпер жывець, чацвёра дзяцей кінуў, а із расейскай жывець, ні прысан, ні распісаны, і гэдак ён яе кінуць прама ня можаць. Дзеўкі тожэ робюць. Ну ўліла ў водку там... Але, кажуць, ўсе адно жызьні нету. У іх жызьнь абы-якая. Эта беспалезна. Я то нічога не знаю: не аддзелываць, не прыдзелаваць.

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны (нар. у в. Навасельцы), 1936 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 913. Чараўніца Каханіха

А ў мясцовасці у нас былі такія… Была тут адна такая. І не адна, іх тут настаяшча было. Фамілію не помню, а звалі Каханіха. Купальле якое, ці што, тады лётаець, і гэта – цадзелку хваціць яна і цягаіць. Ільлюк такі быў. Ён быў канюхом. І коней пасьвіў тады. Раней коней пасвілі. Гэта цяпер не пасьвюць, калі бальшавікі прыйшлі. І яна, як толькі Купалле, цягала цадзелку па расе, бо перад Купаллем чараўнікі вельмі дужа чаруюць.

Ну вот, яна ж умела. Я ж не знаю, як яна ж умела. Малако ў кароў адбірала. Цадзелку па расе цягала. А патом залезець у Дзвіну… А конюх ціхенька падкраўся і схваціў, і спаліў тую цадзелку. Дак што ж ты думаеш, як яна бегала! Іскала гэтую цадзелку. І сільна ей было тады нядобра.

**Зап. Усціновіч Ю. у 2002 г. ад Неплах-Шэпілы Лідзіі Міхайлаўны, 1927 г.н. на х. Шаманшчына Мёрскага р-на.**

## 914. Чараўнік Давыд

У Калатушках было. Ну і вот слухай. Ну, напрымер, як у нас было: Надзя, Пётра і брат, што на вайне пагіб. У яго свая сям'я. У каждая свая бонда грошай была. А жылі і работалі разам, а бацька хазяін быў. І бонда свая ў каждага была. Ну і прыехаў да іх Давыд такі, ужо пазычыць – да маей бабушкі, да бацькі. Яны яму, як госьцю, яешню пякуць. Ну і кажыць: “Ну вот прыйшоў, – кажа, – грошай хочу пазычыць”. А бабушка: “А мой ты Давыд! Ну не выходзіць пазычыць, няма. Нет грошай”. Дык ён што зрабіў – нешта ў яешню паклаў. Дык усе елі і нічога, а гэтай як далі, а яна на пасцелі хворая ляжала. Пашлі ўсе і ей заняслі. Дык усе елі і нічога, а гэта адурнела – аж на сьцену лезла. Лезіць на сцену і ўсе. Ну, а ніхтож ж ня відзіў, што ён там паклаў. Ён пачараваў, усе елі і нічога. А яна як з'ела і дурна зрабілася ёй. Яна пасьледняя ела. Ага. А за Дзвіной, казалі, быў чалавек,

які умеў адрабляць. Ну, можа, сільней за яго быў. Тады бацька ўжо і пакойнік дзед мой на воз пасадзілі яе, дык мужчыны ўдзержыць утрох не маглі. Так вырывалась. На воз пасадзілі і вязлі. Туды вязлі, перавязлі да сільнейшага чараўніка. Як прыехалі на яго поле дык ужо ўдзержыць яе не маглі. Як да хаты пад'язджалі, а ён на вуліцу выходзіць і кажыць: "Ну нічога, бабка, нічога. Цішы, цішы. Мала табе ўжо засталась мучыцца. Мала табе засталося, мала. Ну нічога, цішы, цішы". І ён адробіў і стала нармальна. Нічога не казалі яму – сам увідзіў. Зразу здагадаўся. Ну і вот ён тады ёй адробіў і стала нармальна, а так жы такая сіла была, што ўтрох удзержыць не маглі.

**Зап. Усціновіч Ю. у 2002 г. ад Неплах-Шэпілы Лідзіі Міхайлаўны, 1927 г.н. на х. Шаманшчына Мёрскага р-на.**

## 915. Галічыха

Пражывала ў Мосары такая старая – Галічыха. Во, да яе часта дзеравенцы хадзілі! Яна загаварывала пуд, суроцу, умела на картах варажыць. Памагала людзям, але і нядобрае пра яе гаварылі. Людзі гавораць, што ў яе было вельмі "дрэннае вока". Аднойчы зайшла Галічыха да суседкі, пасядзела крыху і пайшла даіць жанчына карову. Падаіла, працадзіла малако, а яно адразу і скісла. Стала жанчына пытацца ў старых людзей, што здарылася з яе каровай. А ей адказалі, што нехта бачыў яе малако і "зглазіў", трэба загаварыць ваду і даць яе карове. Потым даведалася жанчына, што Галічыха казала камусьці пра яе малако, што яна ніколі не частуе яе ім. Пабегла гэта жанчына да Галічыхі і ўзяла ў яе загаворанай вады. Пасля гэтага малако перастала хутка скісаць.

Здарыўся яшчэ адзін выпадак. Пасварылася Галічыха са сваей нявесткай. Прыйшла нявестка да сваей хаты, а на двары столькі жаб, што некуды нагой ступіць. Пабегла нявестка да старой, пачала ёй скардзіцца. А Галічыха і гаворыць: "Ладна, ідзі ўжо да хаты, нічога там няма". А хаты былі побач, не прайшло і мінуты, як жабы кудысьці зніклі.

А аднойчы дала Галічыха свайму ўнуку дробныя грошы, капейкі. Мальчык той прынёс іх да хаты і паклаў у сваю схованку. Маці тады пайшла спраўляцца ў хлеў, а там ляжаць і не падымаюцца свіньні. Прыйшла яна да хаты і пытаецца ў сына, ці хадзіў ён сеньня да бабулі. Мальчык і сказаў. Грошы ўкінулі ў печ, а свіньні адразу падняліся на ногі. Вось што было з той Галічыхай.

**Зап. Шабанава І. у 2002 г. ад Голік Л. А., 1955 г.н. у в. Мосар Ушацкага р-на.**

## 916. Чорная кніга

А гэта даўней было. У Вангішках. Во, там было чарцей начытаўшы… Яго Адамка звалі, дзяўчынка малая ў яго была. У яго, у хазяіна была

кніжка гэта. Там вот, як белае поле, а чорныя літары, а там – наадварот: чорнае поле, белыя літары. Наабарот у той кніге, што калдуюць. Ну, там яны – калдуны – чытаюць і знаюць як. А як рабёнак, то што ён там? Школьніца была. Чытала, чытала і прыляцелі яны. Гэта тожа, кажуць, праўда быўшы. Ну і, кажуць, лётаюць гэтыя два – чыста людзі! Кажуць: “Давай работу!”. Ім жа і мак, і сахар сып ў пясок – пераберуць за пяць мінут. А тады, як нечага рабіць, яны ўсё поле вырвалі, што там было пасеяна. Ім нада работу даваць. Ці малоць там, ці веяць. Ну, што б ня даў. Ну, каб жа цяпер такія былі, то ў калхоз іх! Во, бляха, рабілі б! І сколькі штук. Не нада было б людзям робіць (сьмяецца). Ну, што тады. Узналі, што калдун недзе ёсьць. Прывезьлі яго, ён і атчытаў. тады ўмелі атчытваць. А рабёнак што? Умела чытаць – во і начытала, а атчытаць ніхто ня можа. Во такое было.

**Зап. Дубаневіч А. і Лобач У. у 1993 г. ад Пажарскай Бернарды Міхайлаўны, 1933 г.н. у в. Данькі Браслаўскага р-на.**

## 917. Калундуны і ксяндзы-завіты

А патом, кажуць, паявілісь у Друі нейкія такія ксяндзы-завіты зваліся. Во, і тата мой расказваў, як пойдзець у касьцёл, то яны, як стануць гаварыць-расказываць, што там ужо грэх бальшы. Так у Двіну, там у Друі, тапіліся калдуны. Усе патапіўшыся. Ад гэтых завітаў, што яны так умелі навукі такія казаць.

**Зап. Дубаневіч А. і Лобач У. у 1993 г. ад Пажарскай Бернарды Міхайлаўны, 1933 г.н. у в. Данькі Браслаўскага р-на.**

## 918. Чаму зьніклі зданкі

А даўней чаго прыдавалася? Кажуць, як пакойнік які прыдаецца, то пакойнік ходзіць таму, што калдун. Вот цяпер калдуноў нет і не прыдаецца, і пакойнікі не выдаюць.

**Зап. Дубаневіч А. і Лобач У. у 1993 г. ад Пажарскай Бернарды Міхайлаўны, 1933 г.н. у в. Данькі Браслаўскага р-на.**

## 919. Купальскія чары

Гэта, як будто на Купалу, у каровы жаба адбірала і другой перадавала карове малако. Вот у нас, у Івесі відзелі гэту жабу, што яна хадзіла па расе утрам на Купалу. Яна хадзіла і сабірала расу. І нельзя, хто карову первы выганець, то праблема – той каровы малако прападзець. Гаварыла Галіна-хахлуха.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 920. Чараўніца

У нас была бабка, кажуць, чараўніца. А ці яна чаравала !? Вот як раней, перад Янам, нада ёй абязацельна браць каля хаты пясок на дарозе. Гэта абязацельна. Той хазяін увідзеў і пугнуў яе ад гэтага. Во, пры мне яна жабу ганяла. Яе малец малы быў і расказаў. "Мая мамка жабу каля хлява ганяіць". Гэта суседу ён расказваў. А вот тут нядаўна было. Можа пяць лет назад. Яна ж яшчэ жывая, можа 95 гадоў ёй. І цяпер яна жывая, толькі ў дзеддом папала.

Сядзім мы на сяле, а жаба такая бальшая прышла, дзе яна сядзіць. Скок, скок і ў калідор сюды. Яна кажыць: "Вы яе вазьміце забейце". Я гавару, што навошта жывую жабку біць. Адна жэншчына аднясла яе ў траву. Сядзім другі раз, гэта жаба прыходзіць, калі толькі бабка прыйдзіць. Ну да нас. Тады яна гаворыць: "Занясіце вы яе на дарогу, хай яе растопчуць." Во якая, хацела каб яе забілі.

А вот сядзелі вароны на дзераве. Яна ідзець і на іх: "А, ужо вылупіліся!" І так глядзіць. Назаўтра я гляджу: ні варон, а ўжо гэта дзерава ссохла. Толькі паглядзела. Сказала: "Ну што вылупіліся". А назаўтра ідзе малады малец, карову вёў. Нам расказваў: "Іду, а варон нет. Ні гнязда, ні варон". І варон гэтых маленькіх не было. Там вароны былі маленькія. Ну дык цяпер дзерава гэта ссохшы. Сохла саўсём. А яна варон таму, што ў яе цыпляты былі. Баялася.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Шчарбіцкай Аляксандры Васільеўны, 1927 г.н. у в. Дарожкі Мёрскага р-на.**

## 921. Чары на Купалу

Во, на Купалу, бывала, гавораць нікагда перваму карову ў поле гнаць, а то ёсць закалдованыя такія месты, што на карову паддзелываюць. Ну і былі такія разгаворы, што відзілі, што цадзілкі, што працэджваюць малако, па траве цягала, ну, баба, якая панямала можа загаварываць што. Ну і адзін чалавек тожа ўзяўся і цягаў, дык прынёс і павесіў тую цадзілку, і малако з яе цякло ў хаце.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Жыгуновай І. П., 1926 г.н. у в. Чарнецкае (раней Лялюгі) Шумілінскага р-на.**

## 922. Чары на Яна

Ну, на Яна, кажуць, першаму карову не нада весці. Таму што чараўнікі пабегаюць там па полі. Голам, кажуць, трэба бегаць і з посцілкамі па расе па гэтай, і сабіраць ужо малако, тады, гавораць, першаму не нада весці. І ўсе, тады хто на Яна, тады пазней, пазней вядуць карову. Так вот гэта і цяпер гэта ёсць такое – на Яна, пазней, першаму каб не вясці, каб гэта.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Лагун Глафіры Вячаславаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 923. Ведзьма-малочніца

У нас была ў дзярэўні адна бабка. Яна была, эта, абычна на Купалу. Вот яна пайшла і цягаіць гэту цадзілку па расе і прыгаварываіць. А чалавек ійшоў за канём. Ён гэта ні знаў і найшоў на яе. А яна ня відзяла, прыгаварываіць і прыгаварываіць. І ён, гаворыць, давай аброць цягаць, каня ні найшоў, аброць цягаіць і прыгаварываіць. Ідзець дамоў, а ў яго цячэць малако с аброці ззаду. Прыходзіць дамоў, а жонка кажыць: "А чаго ты ўвесь у малаке?" А ён кажыць: "А, баба, я ж найшоў на бабу, што цадзілку цягала і прыгаварывала". Вот гэтак яны дзелаюць каровам.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Бароўка Е. М., 1929 г.н. у в. Крывое Сяло Шумілінскага р-на.**

## 924. Благая мінута

Дачка мая малая прыехала з горада і пайшлі карову даіць. А іна так быстранька, іна ў пяць гадоў са мной кароў даіла ў калхозе. Ну і прыйшлі мы з ей даіць карову на поле, а ідзець во эта Ягораўна. Можа гэта мінута такая бываіць. І яна гаворыць: "Во, маладая, як быстра доіць, ета, – гаворыць, – ня то што старая". Ну нічога, прыйшлі дамоў. К вучару распохла рука ў Ленкі, пасінела. І Оля была прыехаўшы, захваціла ў горад, у бальніцу. А ёй сказалі: ішчы старушку. І там яны пайшлі, падсаветавалі ім старушку нейкую. І яна ей сказала, тры разы загаварыла, і прайшло ўсё.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Маскалёвай Г. І., 1935 г.н. у в. Івоніна Шумілінскага р-на.**

## 925. Благі прыгавор

Жалі пад азяром, і я прыйшла жаць. Захарыха гаворыць: "Во, Парфёнаўна, – яна палячка, у какую-та Польскую вайну, ілі кагда прыехала сюды, ну, – вой, – гаворыць, яна так смешна гаварыла, – Парфенаўна, табе яшчо ўжо памошніца". Тык мне нада было, як яна гаварыла, ні жаць, а пастаяць у тое врэмя. Дык во, адседа зрэзала кожы, тока асталося во тут угалок, і тут. Сколька я з тым пальцам памучалась.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Маскалёвай Т. Дз., 1935 г.н. у в. Івоніна Шумілінскага р-на.**

## 926. Пра чарадзеяў

Да, былі чарадзеі. Былі, яны і шчас ёсць. Іх зараз вучуць дажа. У Маскве, у Расіі такоя ёсьць, што вучуць. Гаворуць, гіпноз – эта тоя самая чарадзейства.

Ай, яны ўжо паўміралі. Вось бывала, на Купалу усе загонюць (кароў), а тады яны, штоб после ўсіх іці, па ўсіхных слядах. Яны і паміраць цяжка. Ім дажа столь уздзіраюць. Іх чэрці мучаюць. Чарадзеі – яны ад чор-

та, яны служаць чорту, а ня Богу. А есьлі чалавек памагаець чалавеку ў чом-та, эта ад Бога. А еслі дзелаець плоха, то ад чорта. Вот яны дзелаюць плоха, штоб чалавек балеў, і скот балеў, яны ідуць сразу ў ад. Іх Бог не прынімаець. Як харонюць, тады плахая пагода. І зьмеі па іхных магілах поўзаюць. А знахары, есьлі лечуць, – яны ад Бога.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Надзеі Андрэеўны Важанавай, 1936 г.н. у в. Будзілава Бешанковіцкага р-на.**

## 927. Чарадзейства

Гэта было даўно. Мне, можа, было гадоў 5 – 6 і мой дзед расказваў, што былі і такія людзі, што маглі зрабіць. У дзедушкі было так, што падробілі каню. Конь сам сябе, дзе толькі мог зубамі грыз сваё мяса пакуль не заваліўся. Былі і такія, калі ў каго пчолы былі, у нас былі, дзедушка развадзіў. Ён расказваў, што ў Вішкавічах жылі такія людзі, якія мелі пчол. І там былі такія людзі, што ўмелі чараваць. А пчолы, калі ім вясной не хапае мёду, лятуць у чужыя вульлі і там забіраюць мёд у слабейшых пчол. А гэтыя людзі так дзелалі, што пчолы з гэтых Вішкавіч не лятуць, а ідуць па дароге. Вот ідзеш і відзіш, як гэтыя пчолкі паўзуць. Дамоў уцікаюць, бо нешта зроблена на іх, каб яны гэты мёд не бралі. Яны ня могуць ляцець, ідуць пешкам, як людзі, па дарожке.

І людзям дзелалі! Дзедушка мне расказваў, і яму дзелалі. Ён сам жыў у Шаўкоўшчыне. А прыйшоў да бабушкі Ядзі ў прымачы. Яго там не любілі, яе родственнікі. Дык яны яму дзелалі такое. Гаварыў, што з яго льецца пот, ліхарадка нейкая б’ець яго: падыміцца і аб землю, падыміцца і аб землю. Мужыкі дзяржаць яго ўсяк, пакуль яго не адпусціць. Потым хадзіў да бабак, яны яму ваду загаварвалі, вадой змывалі, давалі піць загавораную ваду. Дзелалі так, што і дапамагала.

Мужыкі болей чаравалі, большая сіла ў іх была. Усякія расказы былі. І пад сцяну падкідалі. Нахадзілі то тухлыя яйкі, то яшчэ што-небудзь. Я сама добра помню, мне было гадоў 14 – 15. Мая цёця замуж выхадзіла і была свадзьба. Прыехаў за ёй маладзенец. І быў такі конь белы, прыгожы. Тады маладуху весці, каня запрагаць, а конь становіцца на заднія ногі і ўсё. І неяк запрагчы. Пака не агледзелі, што ў хамуце, што каню адзяюць на галаву, была заплецена салома ад гароха, скручана і пазатаркавана ў хамут. Як разабралі гэта ўсё, дык і каня запраглі. Гэта такое было раней.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Пятрашкі Марыі Міхайлаўны, 1939 г.н. у в. Баравыя Чашніцкага раёна.**

## 928. Чары на вяселлі

Ну, гэта раньшэ звалі, што чараўнікі, а цяпер, ну можа вока такое ў каго ёсць, ці мяне вот прымерна, во на малако ці на каровы вымця гляне. Ну і тады ад вока, ну такое жаднае вока у чалавека, і тады вліяець скаціне.

Я вам знаеце што скажу, ну гэта далёка. Пад Лукомлем. У мяне дзядзька браў адтуль жонку. Гэта Дразды – такая дзярэўня. Ну, не знаю, ці сушчэствуець яна цяпер. Гэта ж ужо столькі гадоў прайшло. В обшчэм, малец там гуляў з дзеўкай, а тады адказаўся на ёй жаніцца. І тут ён жаніўся на другой. Свадзьба ў яго, а яна што-та падчудзіла яму, што гаворуць, што сам пабег і давай па сталах бегаць. Ну вот сталы стаяць. Свадзьба ж ідзець. Закускі, выпіўкі… Тады пайшоў бацька яго к ей і гаворыць: "Лучшы адчудзі, аддзелай, а то я не ручаюся за сябе". Ну і тады яна што-та здзелала і тады ён успакоіўся і свадзьба гэтая была.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Зайцавай Зінаіды Фёдараўны, 1942 г.н. у в. Забор'е Чашніцкага р-на.**

### 929. Як распазнаць чараўніка на вяселлі

Нінка Мазурыха расказывала, як свадзьба буваець, так нада паставіць вілкі ўверх. Калі чараўнік прыдзець, то каля вілак станець і будзець стаяць. І далей ня пойдзець. Знай, што эта чараўнік прыйшоў. Вілкі гэтыя, што катлы бяруць.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 930. Пахаванне чараўнікоў

Чараўнікоў харанілі за кладбішчам. У гроб клалі ў другую сторану галавой. Харанілі галавой на ўсход, а не на захад, часам, галаву адсякалі і клалі ў ногі, каб шкоды не рабіў.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Іванова Паўла Іванавіча, 1916 г.н. у в. Забор'е Расонскага р-на.**

### 931. Чараванне і знахарства

Да вот і раньшэ было, што чаравалі. І мама расказывала, і свякроў, дык расказывалі, што спецыяльна дзелалі. Вот, расказывала свякрова, як вот асобенна на Купалле. Бегала адна жэншчына, раздзенецца дагала, валасы распусціць, валасыя бальшыя, і бегала па полю, збірала камяшкі, куды яна іх клала, я не знаю. А мальчышкі тады кідаюць па её камнямі. Голая бегаіць і збіраець каменне. А куды яна іх клала? У кароў так малако адбірала. Але ж былі, што лячылі, давалі ваду.

А зглаз – гэта дурная мінута бывае. Канешна ж, вот гаворащь, што мінута такая. Вот я сядзела, ну я не знала, што гэта бабка падумала. Я сяжу, во так нагу проста выставіла, ну во так сядзела на дзіване. Ну што яна там падумала пра маю нагу, я з бані прышла, валасы расчасала, так і села, і гаворым мы з ёй. Яна як пашла, так мне сразу плоха стала. Ну што яна нарошна што лі, я ж ей нічога плахога не здзелала. Проста вот такая нейкая мінута падыйшла.

Можна было да трох раз хадзіць (да знахара). Я адзін раз толькі хадзіла. Як прынесла, мне і палуччэла. Ну пакуль ваду я гэту ізрасходавала. Ну, нада там сколькі заплаціць. Яна тады аддаець гэту цэну. Яна цэну не гаворыць. Сколькі дасі. Гэта ж грэх, еслі яна будзець цану накладаць.

**Зап. Лобач У. і Чакушка С. у 1998 г. ад Уласенка Ганны Іванаўны, 1936 г.н. у в. Забор'е Расонскага р-на.**

## 932. Праклён цяжарнай

Помню, як Верка забярэменела ад аднаго. І вот быў Ільля, празьнік. А цэрква ў Празароках, і касцёл, і гэтак разам гэта свята, і яны вянчаліся. І яна бярэменная засталася, а ён другую ўзяў, яе кінуў. Ёй пасаветавалі ўзяць пяску гэтага з кладбішча і абсыпаць. І вот сталі мы ў гэтым касцёле, яны вянчаюцца, а нешта раптам як пасыпалася. Ніхто не знаў, што гэта Верка сыпала, а яна пяском з кладбішча як сыпнула на іх на ўсіх прама ў касцёле.

І вот ён і ўтапіўся, гэты чалавек. І тады там з адным на Дубіцы нейкія паехалі, не маглі найсці ніяк. А тады неяк у талерак так свечкі запалілі і пускалі на ваду. І талерачка нада нейкая, каб плыла. І дайшла гэтая талерачка на тое месца, дзе быў утопленнік. І тады найшлі жаніха гэтага, каторага пяском абсыпала, і яшчэ аднаго хлопца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 933. Прыварот

Толькі так чула. Баба адна расказавала. Вот як дзеравы растуць і так адно з адным сплітаюцца, вот гэтай кары нада набраць, надраць нажом, закіпяціць і даваць піць. Ці ў кампот ці куды. Ты ж ня будзеш паўлітра ліць, ложку, дзьве, тры…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

## 934. Чары

Чула пра такія чары, што калі возьмеш пяска з магілкі і пасыпеш каму, тады таму чалавеку дрэнна будзе. Нейкія загаворы нада. Можа быць няшчасце, дажа смерць можа наступіць у сям'і. Гэта я чула. Было ў Лукамлі Старым, пасердзіліся адзін чалавек з другім. І тая жэншчына пашла на кладбішча, нібыта, і ўзяла пяска, пасыпала на гэты двор, на каго была сярдзіта. І случылася, што другой сын быў у экспедыцыі і ён пагіб.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Касцянка Аліны Сямёнаўны 1933 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага р-на.**

## 935. Чары на крыжаванцы

Я ніколі нічога не падымаю з дарогі. Золата можа схапіла б, а так ніколі нічога. Асабліва казалі, што нельга браць на крыжовай дарозе, таму

што на крыжаванкі выносілі ўсе чары. Адна ў нас вынесла ўначы ў 12 часоў на крыжаванку нешта і запаліла. Але яно не згарэла, а яна сказала, што ёй зрабілі чары ў хаце, і яна павынасіла.Тады даяркі ехалі на ферму і відзелі гэткае. Далажылі прэдседацелю сельсавета,той прыезджаў і загадаў, каб убралі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Цалка Леаніды Ціханаўны, 1945 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 936. Чары на дзяцей

Я помню, мама мая расказвала: хлопец не ўзяў дзяўчыну, а ўзяў ейную сяброўку. Ну, яна затаіла абіду, і кагда яны ўжо павенчаліся і ішлі з царквы дадому, гэта дзеўка дагэтуль закапала на дарозе замок, закрыты замок. Ну яна гэта зрабіла на аснове нейкіх забабонаў сваіх. І вот ніхто нічога не ведаў, прайшлі яны і жыць сталі. Праходзіць час, дзіцяці няма, і ўжо праходзіць пяць гадоў – дзяцей усё няма. А гэтая ўжо дзяўчына, каторую ён не ўзяў, ужо і замуж выйшла, адышла ў яе абіда, і яны гэты ключ, яна ж яго берагла, усё ж баялася граха такога, пайшла, атамкнула і нарадзілася дзіцяці. Ці гэта байка, ці на самой справе было?

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцк. р-на.**

## 937. Ведзьма-малочніца

Вот тыя, што ўмеюць варажыць, адбіраюць малако. Загаворац, і тады ператвараюцца ў жабу. І тады ёй нада лапу адсеч – значыць руку ведзьме адсячэш. Ці заб’еш – то заб’еш. А вот у нас як случылася. Вот была ў нас жэншчына. Казалі, што ўмела варажыць, паддзелываць умела. А вот тая, што ваду даець, Лідзія, жабу ўвідзіла на дварэ. І яна яе палачкай забіла. І старуха тая памёрла ў той дзень. І мой казаў: “Лідка забіла тую жэншчыну, яна, – кажыць, – ішла малако адбіраць”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Касцянкі Аліны Сямёнаўны, 1933 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага раёна.**

## 938. Ведзьма скідаецца жабай

Я вам раскажу січас. У нас, эта лічна я сама, бабуля мая расказвала, гаворыць: “Прыхаджу ў хлеў, а вот такая лягушка сьсець карову, лягушка бальшая… Сьсець карову. За сіську ўхапілася й сьсець, эта чарадзейка. Бабуля мая ўзяла двойні, што навоз капаюць, прасадзіла ей лапы. Чэраз тры дні памёрла – параспухалі рукі й памёрла тая баба. Рукі параспухалі – і памёрла чарадзейка.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф’і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

## 939. Смерць чарадзея

Ёсьць такія, што можуць счараваць, можуць. І вот, як чарадзей паміраіць, цяпер эты паталок ня ўздымеш, а даўней жа паталкі лажылі з дошчак. Дык датуль мучыцца, пакуль узлезуць на чэрдак і доску падымуць. Тады паміраіць. Я сама відзела. А як паміраіць, узымаецца буран, Божа, і вокны вылецюць, і дзьверы.

Ой, чарадзеі… Дык, эта самае, у нас яго пасынак, няродны сын, браў маю племянніцу. Дык тожа ўмеў: глядзеў коняў ўдваіх, удваіх яны глядзелі. Гэны ноч сядзіць, каб коняў воўк не паеў, над імі старажыць, а гэты прыйдзець, спіць дома. І ні разу ні аднаго: ні жарабёнка, ні каго воўк не задавіў. Вот ён паміраў, а мы адсаджвалі у Валосвічах буракі. Узняўся буран, дождж пашоў.

Прышлі мы дамоў, і я пашла карову падаіла. Падаіла карову, толькі ўзяла, думаю, прасаджу малако эта, адчыняецца хата! Ай-ай-ай! Яна адчыняіць хату: “А-ай, свацька! Ай, свацька! Савачка паміраіць!” А ў мяне банка эта з рук і разбілася. Прышлі – і ён ўжо пакойнік, памёр. Кроў з рота пашла – і ўсё. Чарадзей! Буран такі падняўся, што вокны вылецелі. У мяне калінінак зламала, ябланак зламала, і ў яго яблакі паламала. Во як было.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф’і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

## 940. Чараўніцы

А ў дзярэўні ў нас былі ўсякія людзі, добрыя і злыя. Клічка ў [адной] была Боня Чараўніца, Паўліха Ісапчончыха звалі яе. К людзям не хадзіла, а такая тумарніца была, дзе людзі сабіраюцца, яна людзей абходзіць, а як толькі якое свята, як чэрці яе насілі. Яна па ваколіцы хадзіла і ручнікі нейкія цягала, цадзілкі цягала па расе і каровам нешта рабіла, людзі гаварылі, што рабіла. Каму там была зрабіла, дык жаба й хату ўпаўзла, а яны яе на перакростак занеслі, паатсікалі ёй ногі, а яна (Боня) хадзіла тады па дзярэўні, пааткрываліся раны, будта гэта яна сама была. Ну і тады, калі памірала ўжо, не магла нізашто памерці, падымалі паталок, на паталку тры доскі. Для такіх людзей аткрываюць паталок, каб памерлі.

Яшчэ была у нас у дзярэўні Ева, было ёй пад дзевяноста гадоў. На бацькоў, на яе гаварылі, устрачацца з ёй не хацелі. Гаварылі, што яна магла чараваць. Калі дажа на рыбу ідуць з вудачкамі і то абхадзілі, па гарэ ідуць, каб толькі не сустрэцца, а то гаворацц: не павязе. Куды ў дарогу ідуць, тожа абхадзілі яе хату.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на) у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

## 941. Ведзьма- малочніца

Тут во ў дзярэўні тожа расказвалі, што была такая, што крала малако, у кароў абкрадвала. А, вам сказаць, дык вы яшчэ тады будзіце… Не, я шучу. Значыт, ну я не знаю, эта далжно быць якое-та закляцьце яшчэ.

На Купалу ідзець жэншчына, і сніміаць з сябе ўсё бяльё і па расе, утрам раненька, каб ніхто ня відзіў. Значыць, там у яе што-та ёсць з сабой яшчэ, ідзець, і гаворыць… Што яна там гаворыць? Сабіраіць эту расу. Прыйдзець дамоў і, значыць, яна і заказваіць, на якую саседку ад каровы малако, каб у саседкі… Ну, тады, значыць, яе каровы харашо даюць.

Ну жа вот. Ідзець ззадзі мужчына за ей, гаворaць. Ну, ён ня відзіў яе, не знаіць. Ну вот ў эта врэмя як раз падышоў, і яна ў эта врэмя ідзець і цянець уздзечку. Во так пусціў вуздзечку, эта вуздзечка цягнецца па этай, па расе, ён аглядваецца, паднімаіць, а з уздзечкі цячэць малако. Ну вот, прадстаўляіце, эта можаць ці ня можаць быць такое? Вот такое эта. Эты мужчына і расказаў, што такі вот случай. Ён, гаворыць, дажа напугаўся. І, гаворыць, тады глядзіць, ну эта сам мужчына расказваў, ён з маім хазяінам хадзілі на ахоту. І ён яму расказваў, сам мужчына. Ён, гаворыць, відзіць, што эты след па расе пашоў утрам раненька. Ён па этаму сляду – куды ж эта прывядзець? Ну, а ў дзярэўні гаварылі, што, значыць, жэншчына вот такое дзелаіць. Убядзіцца захацеў. І ён гаворыць, за этым, за сьледам. А з ім ішлі сабакі. Ну, ён відзіма, ішоў утрам, ну куда там, к табуну коней, куды, забраць каня. Ну вярнуўся, значыт, і ўсё – эты след у дзярэўню павёў. Ён – за гэта. І, гаворыць, віжу, із-за куста жэншчына абнажонная. Ён тады, гаворыць, туда ж і сабакі на яе, значыт, кінуліся, яна закрычала, ён падбег. Ну і тады стаў яе ругаць. Ну яна там прасілася, малілася: “Не гавары нікому, значыт, я табе там ужо і дам, што там, гасцініцы, ці што. Тока нікому не гавары”. Вот такое дзела. Вот такія людзі ў дзярэўні.

Дык я гавару, я б ня верыла, каб ён сам не расказаў. А я рот разінула, ён расказваіць, яны прышлі паабедаць былі. І я спрашваю: “Дык эта пра вас было?” – “ Точна, – гаворыць, – во гавару, што сам відзеў, а так бы, – гаворыць, – не паверыў я”.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 942. Пахаваньне чараўніцы

Ну, яны, чараўнікі, ну, відзіма, што-та ў іх, магія нейкая была. Харанілі мы яшчэ во так во родственніцу – майго брата жонкі матка памёрла. Паехалі мы на этыя похараны, ну і ўсё нармальна, нармальна. І вот сталі… выняслі яе ўжо, а яна, када ўжо слабая была, сказала, штоб унукі яе да кладбішча нясьлі на палаценцах, нясьлі на руках. Ну, палаценцы дзелаюць і тады, гэты… А кладбішча, ну так з паўкілометра гэта кладбішча. Ну а рэ-

бяты гэтыя шчэ ня дужа ўзрослыя яны былі, ну дапрызыўнага возраста, такія вот жыдкія мальчышкі. А гроб жа ўсё-такі, і гэты труп, ўсяго. Мне жалка неяк іх стала, але я сразу сказала: “Ай, знаіце што, вот, вазьміце каня, будзіць дзіцям плоха, цяжка, дык хоць на кані падвязуць, хоць нямножка”.

Ну і вот са двара паехалі, пагода харошая і ўсё, і ў працэсе вышла людзей, многа вышла, як у дзярэўні. У Ляхавічах было дзела. Буры ніякай не прадвешчала. Даязджаім да перакростка, на перакростку далжны астанавіцца. Астанавіцца, як прашчаюцца ўсе, на перакросткі.

Аткуда ні вазьміся – туча! Заслала ўсё, цемна стала, днём жа гэта было, і такая пурга стала – аж ну прам ужасна. Ну, усе атарапелі, сталі і не знаюць дажа, што дзелаць. Ну тады, паскоку конь гэты ўжо тут быў, яны падагналі каня, паставілі гэты гроб на каня, накрылі крышкай скоранька так, крышка была адкрыта і паехалі этыя мужчыны ўпярод і ўпярод пабыстраму павязлі. Ну, а жэншчыны, ё каторыя, яны развярнуліся дамоў і пашлі. Ішлі мы во ў таком снягу. Вот такія вот дзела.

Эта зімой было, ну такая пагода была харошая. І этыя рэбяты, яны б не даняслі ні за што, этыя дзеткі на руках. Эта там, я ўжо гавару, прама ў сугробах мы пашлі. Прыняслі на кладбішча, закапалі – ўсё. Ідзём дамоў – пагода – а-ах! Добрая стала. Вот такія вот дзела. Ну і тады ўсе ў дзярэўні загаварылі, што нядобрая была тая баба.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 943. Калдуны і знахары

Былі людзі, што памагалі. Мая мама памагала. І ад рожы, ай многа ад чаго, і ад бешэнства… А вот у нас саседка, цяпер жа калдуноў не прызнаць, самая настаяшчая калдуньня была. Возьміць, калодзец недалёка быў ад яе і ад нашай хаты. Ана раздзенецца, как маць радзіла і радам бегіць к вадзе. А нам жа інцерэсна, інцерэсна: “Калдуньня!” А тады прасіла лапату, што садзіць хлеб, сядзіць, аправіцца і ў печ садзіцца. Дурная такая была баба. Яна ўсё ўрэмя аднімала малако ў нашай каровы.

Наша карова была очэнь харошая, многа малака давала – вядро. Патом ідзець з поля быстрэй, нада даіць – іначэ цячэць малако. Маць падоіць, прыганяіць апяць, чуць не вядро. Харошая была карова… Дык вот, мама за 7 кілометраў хадзіла к знахару. А сама яна не магла – яна ж не знахар. Так, яна памагала людзям ад скулы, ад таго, ад сяго. Дзетка, у мяне ёсць запісана. А знахар – гэта аддзельна.

Дык я вам раскажу такі случай. Гэта ўжо пры мне было. Свадзьба была, а ў нас калдун быў, Скагалуеў. Якая гуля, нада, каб абязацельна яго пазвалі. І вот, ай, рэшылі – не будуць зваць. Дашлі да кладбішча, свадзьбы

ехалі на 3 канях. І ці на 4 падводах. Маладуха і ўсе маладыя даехалі да кладбішча, коні ўверх – ні за што не пайшлі. Пайшлі к яму, пакланяліся. Ён прыйшоў, кругом абышоў, кругом каней усіх. Абышоў, і паехалі. І ён сеў паехаў на свадзьбу. Ён мог зрабіць людзям і адрабіць.

Вот яго людзі калдуном звалі. Але, па-мойму, калдун і знахар не адно і тое ж. Ну вот мая мама, яна знала ўсе ад чаго: ад скулы, ад рожы, ад калтуна вот, як на галаве. Калтун бывае, ад калтуна яна знала, многа чаго знала. Ад іспугу давала мая мама.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

## 944. Чараўніца

Ай, ну былі чараўніцы, гаварылі. Дажэ вот тут мой дом, і вот следуюшчый, маленькій. Там жыла бабка Рыпінка. Ну і вот, усё гаварылі, што яна знаець што-та. І вот радам вот саседка. Ну, помню яе тожа – цётка Настасься яе звалі. Насьця. Ну і вот яна гаварыла, ну і праўда, яна ў бальніцы как-та ляжала. І ёй так плоха была, і галава там што-та ей, і вот яна гаварыла, што тая бабка паддзелывала вродзе што-та. Ну ей сказалі, этай Насьце, што ўжо галава баліць там: злаві лягушку, і как печ, і там у эту люхту палажы лягушку.

І вот яна злавіла, і за лапу, гаворыць, яе падвешала. І вот эта бабка, стала сохнуць прама. Жоўтая, аж чорная такая хадзіла. І ў скорасці тада как-та яна і памёрла. Можа, што паўліяла. Ну яна доўга мучылася, у яе там і ногі, і цякло, і за ёй некаму было ўхажваць. Ну не знаю, на яе гаварылі ў нас, ну яна загаворы какіе-та знала. Можа, паэтаму.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Лілії Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 945. Смерць чараўніцы

У нас тут такая нядаўна памерла. Ужо год. Маладая была. Мы дажа век бы не падумалі на яе, што эта яна можыць. А як паміраць – не магла ніяк кончыцца. А тады ўжо ейная, ну словам, залоўка ейная прыбегла, ды будзіць, гаворыць, што плоха канчаецца. Ага. Вазьміце ейную адзежу, ну, што будуць адзяваць ужо. Звяжыце ў хатулёк і палажыце ёй пад галаву і ўсё. Пяць мінут і Танька кончылася. Во нешта ёсць, мы б ніколі і не падумалі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

## 946. Пруднікаўская чараўніца

У нас у Прудніках была такая жэншчына, ну яна жыла. Мужык ейны памёр, а яна заўдавела і во прывязалася к аднаму, прывязалася. У яго свая

сям’я была. Дык не ўпраўляўся карову выцягваць з хлева, так яна дзелала. А тады яму пасаветавалі, што нада з яе спусціць кроў. Адлупіць. Ліш бы кроўю падплыла. Ну і сабраліся людзі. Яна, значыць, пад печку падлезла, эта ж хутары былі, яе выцягнулі і так адлупілі, і з носа кроў, і так паабранілі яе. І после тагда стаў спакой.

А вот ехала свадзьба, эта яшчэ мама казала, эта дваюрадны брацішка ажаніўся. Ну ехалі ўжо ад нявесты к жаніху. І выйшла эта самая старуха. А ён яе на свадзьбу не пазваў. Яны жылі так па суседству. Так, як во ў мяне эта суседка жывець цераз дарогу. “Ну што, – гаворыць, – на свадзьбу не пазваў, ну хоць на пахароны прыду”. Усе ейныя словы – больш яна не стала нічога гаварыць, павярнулася і пашла.

Так ён нявесту эту завёў у хату, за стол пасадзіў, а сам цераз стол, і як пабег. І там у нас такі ёсць лес. Прыбег у эты лес і крычыць: “Дружок, дай руку”. І вы знаеце, па такому дзераву забраўся, што там ні сучка не было, нічога, як нячыстая сіла яго ўзнесла туда. Тады там лесніцы звязвалі, штоб яго как-небудзь дастаць, штоб ён не мог задавіцца. А ён адной рукой ужо дзержыцца, а другой рамень адшпільваець – на рамню будзець вешацца. Вот.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

## 947. Прынуды

Вот у мяне тута суседзі… Словам, ейны мужык памёр, а эты мужчына, што прыехаў з горада, разышоўся з жонкай. Ну вот сходзяцца-ня сходзяцца, а яна любіла выпіць, а яму нада, каб больш работаць. Не хацеў. Ну, і матка ўжо ейная… Што яна з тымі сігарэтамі здзелала, я не знаю. Пачку сігарэт узяла і яго папрасіла, каб набіў касу. А заплаціла этымі сігарэтамі, пачкай. І ўсё – чэраз нядзелю Кірыла перайшоў к Вальке.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

## 948. Закляты віхор

Дажа гаварыла, як я ў Гомелі жыла, адна баба: “Глядзі, Веруся, не пападайся на гэты вецер, удруг кто-та табе падкаўдуе. Ну знаеш, вецер такі – кружыць, кружыць. І сразу плоха табе стане. А ў старыну, – гаворыць, – дзелалі на гэтым ветры, пускалі з ветрам пракляцьце, гэта круціла, круціла віхор такі”. Сейчас такога няма.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Маліноўскай Марыі Іванаўны, 1935 г.н. у п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 949. Ушацкія чараўнікі

Калісь быў тут, каля Ушачы, нейкі Васіль Курносы, так яго там звалі. Ну чараваў! Счаруіць цябе, зробіць табе і памерці можаж ад такога чара-

вання. Нядобры будзець, то, як прыйдзешь на базар каня там прадаваць ці што, яго закалдуіць, зробіць, конь тады дурнее, ты яго не прадасі. Два дажы было іх. Суседзі яны: адзін у Кублічах, другі ў Ушачы жыў. Той, ушацкі, умеў закалдаваць і адкалдаваць, а гэтат – толькі закалдаваць умеў, а адкалдаваць ня ўмеў. Адзін на базары зробіць, а другі тады адробіць. Ну, между сабой яны сварылісі.

А вот у мяне была бабушка, маміна матка, што-та з нявесткай не паладзілі, і яна пайшла к гэтаму Васілю. Да. І вот баба наша, летам жара была, матрас паложаць на палу, і яна крычыць, крыкам такім, крычыць і крычыць сама з сабой. У дзярэўні ж вулічка такая маленькая была і яна гэтак ляжала. Кароў гонюць, ну людзі і чуюць. Ну вот тады мая мама з сястрой сваей, а той чараўнік быў ужо маей цеткі свекравы знакомы дужа. І вот яны пайшлі к яму.

К ушацкаму пайшлі, а ён сказаў, што дзе дагэтуль былі, чаго вы раньшы не прышлі? Я ж ей падзелываў, і вот каб вы прышлі раньшы, а так вот толькі вады дам, і еслі 9 дней пражывець, то жыць будзе. Но яна не дажыла і памерла баба. І вот у нас там расказвыла адна жэншчына, поварам работала. Яна ідзець, а ён кажа на яе, гэты Васіль: “Ты хочаш ваўка ўвідзець?” А яна кажыць: “Хачу. І вот перада мной сейчас становіцца волк. Я, – гаворыць, – анямела, стала, не знаю, што мне рабіць. Ай, не хачу ўжо відзець яго. Счас, – гаворыць, – ваўка не станіць”.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Казлоўскай Марыі Дзьмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

## 950. Ведзьма-малочніца

Ёй зьдзелалі. Вродзе бы яна іхнім каровам паддзелывала. А іх дзьве было ятроўкі. Адна знала, другая не. Вобшчам, былі за братамі. Вот адна надумалася на гэту: яна ў нас малако атбіраіць. Як яна там, кіпяціла цадзілку, а тады ў гэту цадзілку, ці яна там што загаваравала, не магу гэтага сказаць. А патом туды іголкі бяз вушак. Торкала, паатламавала, спецыяльна. А патом ужо гэту ятроўку пазвала: і ты торкай іголкі туды. Тая казала: і ты торкай іголкі туды. А то я адна забочуся ўжо. І сразу, як яны там ужо зьдзелалі, у яе сразу глаза забалелі, і яна не стала відзіць. Восем гадоў ня відзіла. Так і дажывала.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

## 951. Вясельныя і гаспадарчыя чары

Маглі катом дарогу перадзяраць. Але гэта дрэнны знак. Даўней катом перадзяралі, а яшчэ неяк гарох сыпалі, счыталі ў стручку, калі дзевяць гарышын. Ну гэта, гэта басні, а можа яно і праўда якая. “*Восем гарышын,*

*дзевятая нявеста і коня ня з места"*, – каб конь не пашоў, казалі. Было і так. Во так прагаворуць – і конь на дыбы, ні за што няйдзёць і ўсё. Я дажа не магу сказаць навошта рабілі, ці можа абазлённый хто быў, можа малец прымерна ка мне хадзіў, а ўзяў другую, так матка можа падсаветавала, што давай вот так здзелаем… Вот гэта я не магу сказаць.

Яно раньшэ былі, но яны ўжо паўміралі, як гэта даўней казалі, "чараўнік" ёсць, "чараўніца". Яны толькі ўрадзілі каровам, каровам ўрадзілі. Людзям можа, но але наўрадлі, а каровам ўрадзілі. Вот я сама з дзярэўні Парэчча, во радам, і вот, як сягодня помню, у нас кароўка ацялілася на Каляды, карова малочная была. У нас такая была старуха, папа выйшаў глядзець карову, а яна простынню абкрылася і кала хлева. Ну, папа дагнаў і яе так атмяміў, і карова цялілася. Малако, пры немцах гэта было, усё пашло па за скуру, у вымя – ні грама. Эта чэсна дзеткі гавару, мы карову зарэзалі і немцы забралі на кухню, а нам далі кароўку, такую плахую кароўку. Яна, гэта старуха, памірала, падымалі паталок, клалі, гэтый, хамут, тады яна толькі памёрла.

**Зап. Захарэвіч А., Мядзведзева А., Прахарэнка Я. у 2007 г. ад Валадзько Ганны Іванаўны, 1936 г.н. у в. Бор Лепельскага р-на.**

### 952. На пахаванні чараўніцы

І было такое тожа ў Парэччы: памёрла старуха, як сягодня помню, яе звалі цёця Саша, старая ўжо. Мама ідзець на пахарон, ну а мы малыя былі: "Мамачка, вазьмі нас". Пайшлі мы на пахарон. Многа людзей, сядзім, старуха ляжыць, чэсна я дзеткі гавару, сядзім. Баба гэта ляжажа-ляжала, а тады во так, як сягодня помню, а тут у яе вены заработалі – заработалі, баба эта оп – і села! Старуха – гоп – і села! Усе паўмелі, нас падбілі, дзяцей, бабы гэтыя, жанчыны ляцелі, мы заваліліся, цераз нас. Но я болей век на пахароны не хадзіла, ўжо хто не памрэць – нікагда не хадзіла.

А яна ўстала і дачкам кажыць: "Дачушкі мае, схадзіце ў тры хлявы, выцегнеце салому, – даўней жа хлявы саломай укрывалі, – вот я ў тэй саседкі была, чорту тварыла, у той і ў той… Схадзіце саломкі выцягніце, вазьміце мяне пакурце і я тады можа памру". Да, на трэццiя суткі толькі памёрла, ну ўжо ніхто на хаўтуру не хадзіў, ні хто. Вот на маей жызні, за 73 гады, такі случай быў. Такія раньша былі старухі, ну цяпер няма.

**Зап. Захарэвіч А., Мядзведзева А., Прахарэнка Я. у 2007 г. ад Валадзько Ганны Іванаўны, 1936 г.н. у в. Бор Лепельскага р-на.**

### 953. Чары і боская праява

Мне адна была паддзелала. Так мне плоха. Вот ляжу, палажыла сабе руку на ліцо. І прашу Бога, каб памог. А рука такая здзелалася шырокая, на

ўсё ліцо. І ніяк не магу адняць. Эта праўда, не маню, во перад Божачкам. Відна тут стала, во як усёдна сонца свеціць. Тут Божачка стаіць, тут Божа Маці, тут Ісус Хрыстос. Ці паверыце. Дзе ўсё дзелася. І памагло. Шчэ дней пяць было плоха, а тады прашло.

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Недасекі Ганны Іванаўны, 1912 г.н. у в. Новыя Валосавічы Лепельскага р-на.**

## 954. Чараўніца з Занівачча

У Занівачча была чараўніца, усё дзелала. Яна чалавеку здзелаіць, што ты нідзе не пройдзеш. Вот дамы будуць стаяць перад табой і не пройдзеш. Вот дзве бабы ідуць к ей лячыцца. Адна гаворыць: "Так мне плоха". А другая: "А можа яна ні х… не панімаіць". Прышлі к ей, я яна: "Чаго вы прышлі, я ж ні х… ні панімаю". Вот ім нада перахадзіць цераз дарогу, а там дамы паўставалі двухэтажныя. Вярнуліся к ей, тады яна іх пусціла...

Нада было ей уміраць. – "Мужык, пагрэй мне вады". – "А нашто табе?" – "Пагрэй, я буду ўміраць". – "Што ты гаворыш?" Ён пагрэў. Пасцель заслала, як пакойніку. Ён пагрэў. – "А ты ідзі за вароты пастаі". Пашоў ён. Пастаяў, ідзець паглядзець, што там з Кацяй. Прышоў. А яе нет. Чэрці ўняслі. Толькі пасцель ляжыць.

Прыходзіць яна ка мне ў сне і кажаць, у сне: "Хадзі ка мне, паглядзі як я жыву. – "А як я пайду ?" – "Хадзі паглядзі". Прыходзім, а там такі высокі дом. І сталы стаяць. І сталы стаяць, і яна сядзіць. А там усе рагатыя. Ногі як у каней, рогі як у быкоў. Эта сніцца мне. Я гавару: "Галіна, адпусці мяне, адкрый мне дзверы". Яна адкрыла і я прачнулася. Сідзяць за сталом, а на сталах нічога німа. Бог не прымаіць такіх чараўнікоў".

**АСЭТ: зап. Глушко А. у 1998 г. ад Недасекі Ганны Іванаўны, 1912 г.н. у в. Новыя Валосавічы Лепельскага р-на.**

# ЗНАХАРЫ І ЗНАХАРКІ

## 955. Мікалай Мікітавіч

Раньшэ многа чудзес была, када мой папа быў жыў. І вот я маленькая была. Ён так лечыў людзей, так лечыў людзей, што прыдзіць к чалавеку, ляжыць чалавек, ён січас малітву скажыць, рукамі паводзіць – чалавек падымаецца.

Нікалай Нікітавіч папу звалі. А дзед Мікіта быў, і прадзед наш Якуб. Па патомству ідзець. Ну вот і так тады было. Я была маленькая, і так папа лячыў людзей. Нас была ў папы чацвёра: два сыны і нас дзве дочкі. Я самая меньшая была, і нікаму он не перадал. Я радзілася ў святой дзень, і ён мне тока перадаў. Я када была маленькая, у нас там раньшэ яшчэ... Ён, яму было ўжо сто два гады. Раньшэ, раньшэ там стаяла цэркаў, і тая цэркаў ушла в землю. Там, дзе былі хутары, вот дзярэўня Сяргеева, а тады там жыў пан бальшы, Заран. Ён, як вайна пашла, з Латвіі быў прыехаў, Заран. Панам тут быў. З Латвіі быў прыехаўшы. Цяпер я туды ўжо не дайду. Мне дзевяты дзесятак гадоў. І вот ён мяне туды вадзіў.

Там цвяты раслі, дарожкі бархатныя. Туды кругом былі такія, я басячком, помню, бегла. Ай-яй, як мягенька, дарожкі бархатныя такія, пушысценькія. Ну і вот прышлі мы туды, папа перахрасціўся, стаў малітвы гаварыць, ну свае там, дзе цэркаў гэта стаяла. А тады на міне і гаворыць: “А ты што слышыш?”. А я гавару: “Папа, тут званы б’юць!” “Ну-ка храсціцца, – ён сказаў на мяне, учыў мяне. Я тады стала на каленечкі і гаворыць. – Станавіся на каленечкі, маліся Богу, чуеш?” – “Чую, папа, чую, чую, папа, чую”. І вот там, а раньшэ чудзес было многа. Да, пад зямеллю я чула. А ціпер, мая дзетка, мне 81 год, ужо туда я не дайду і сам знаіш, як ціпер хадзіць аднаму. Усякіх хватаіць.

Мой папа сільна людзей лечыў. Яго за граніцай вазілі, і ўсюды вазілі. Падойдзіць к чалавеку, сійчас я знаю такую малітву, пагаворыць. От после вайны, ліжалі, бедныя, голад тут быў. І малярэю лячыў, к яму тока падхадзілі, і малярэю, і так ён чалавека. Ну эта січас мы нічаму ня верым, што як гэта ён можыць лячыць. А раньшы ў яго стаяла очырадзь.

Мы там на хутары на панскім жылі. Гдзе вот Каўшэватыя зваліся. Ага, і гэты прыдзіць чалавек, пасля вайны прыхадзілі і салдаты, і так. І я з ім хадзіла, мяне ўчыў. Я ж самая маленькая была, бярэць у мяне, падходзіць. Плачуць: “А Нікітавіч, а Нікалай, а даражэнькі, а ці падымецца наш сыночак! А ці падыміцца ж ён? А ён жа вот чуць і няеўшы”. Падходзіць і гаворыць: “Ну, спакойна, пасмотрым”. Падыйшоў, перагаварыў малітвы такія ў яго ёсць што. І рукам павадзіў, а тады гавораць: “Можна пасядзець тут”. Ужо і вежлівы быў, очэнь мяне так вучыў з людзямі. Кажуць: “Хазя-

ева, а ці можна нам тут у вас пасядзець?” – “Пасядзі, пасядзі”. Мінут сорак паляжаў – устаець: “Мама, я кушаць хачу! А дзе тот дзедушка, што мяне вылечыў? Гэта Бог с неба быў, гэта мне так паказалася”. Ціпер людзі прыязджаюць, гэта тут во мне пакою нет, на граніцы, там Літва ці Латвія, з тэй граніцы, я вот дзярэўню забылася. Прыязджалі ўчора былі людзі.

Я з сямі гадоў даю ваду! Мой папа любіў лес, работаў у ляснічыстве. Ён прыдзіць к любому дзераву і меня вадзіў: бяроза – ён разгаварываіць з ёй, і я знаю; ліпа – з ліпай разгаварываіць. Стаіць дуб – з дубам разгаварываіць. І я эта знаю, і яму атвет быў. Ага, я з сямі гадоў. Ён сільна лес любіў, прыроду любіў, нічыво так не любіў, як лес любіў. Работаў у ляснічыстве. Эта посля вайны. І, гэта самае, нада ехаць салдатам адпускаць лесу, ваенныя прыехалі. На яго: “Нікалай Нікітавіч, как эта?” “Да, усё здзелаім, усё здзелаім, парні, усё будзіць”.

Гэта самае, прыехаў чалавек, такі заслужаны, тут: “Ой, ой, памагіце, ой, ой. У нас там такая біда, такая біда. Нільзя нікак вам аб’ясніць”. Ён гаворыць, тут леснікі сядзяць, ён старшым быў, ага, што ў лес паедуць: “Ідзіце вон к дзевачке”. – “Я яна жэ маленькая!”. – “Я сказаў, ідзіце”. Яны мне: “Дзевачка, дзевачка, вот, папа сказаў, каб ты дала нам вадзічкі”. Дала вады, яны недалёка былі, яны там жылі. Ён на кані быў вярхом прыехаўшы. Ну, папа сядзіць, жджэць. Гавару: “Дзядзя, пака ты прыедзіш, у вас всё-всё будзе харашо…” А кароўка ўжо выцягвалася, ужо здыхала, – кажу і кароўка будзіць стаяць”. Пáглядзеў на мяне гэтат чалавек, паглядзеў, паглядзеў. Ну ладна. Ага, і бягом на каня, папа ждзёт, понял, он всё панімает. Чэраз нескалька мінут, там часа не прашло – хоп, хоп – ляціць конь. “Как сказала кроха ваша, дзевачка, так, – гаворыць, – всё і ёсць: кароўка ўстала і бальны за сталом кушаіт”.

Ну, і што, я з сямі лет. Мяне папа дажа надзіраў, ці правільна я буду даваць ваду. І гаварыў: “Ня зможыш, паізвіняйся, с людзямі не грубі, што б всё была харашо”. Ну што была, то я і гавару.

Папа лес любіў, з дрэвамі разгаварываў, дык ён разбіраўся, якое добрае дзерава, якое не. Да, і лес сам с сабой разгаварываіць, хто панімаіць, нада ўсё знаць. Папа панімаў, ха, канешне панімаў. А змей, ці вужака, што я табе скажу, яны ат яго ўхадзілі, ён не ўстрэчаўся с такім, не ўстрэчаўся, гаварыць ня буду. Вот так. Сільны быў. Каб не было сілы, дык людзі не падымаліся б.

Усяк было. І ня ныў, і ўсё, а людзям памагаў. Сто два гады аджыў. І мы прышлі, сабраліся, а ён гаворыць: “Ну ідзіця, там пасядзіця”. Перахрасціўся, лёг і памёр. Гаворыць: “Хваціць мне жыць”. Сто два гады. Ён ні разу, я ні разу ў бальніцы не была. Вышла замуж, гэта самае, нада была ражаць, і сама пашла ў бальніцу. Як была бальніца. Ага, тока як ражала, была

ў бальніцы. А так мы нікада ніхто ніколі не хварэў, не знаем балезней нічога. Вот так.

Пчолы. Яны самі к нам ляцелі! Стока было пчол, людзям мёд давалі. Стока было пчол. Ой, што гаварыць табе! Ага, панімаў і як, аж пчолы ўжо кругом абстаўлены. Прыдуць людзі посля вайны, сталі балець, ні ў кога нічога не браў. Накладаіць: “На, мядку паеш”. Вот такі ён: “На, паеш мядку. Што ёсць, на, тое пакушай”. Нікаво ня выпусціць, каб не спрасіў, ці хочыш ты.

Раней хадзілі абкрадалі, а ён загаворыць дом. Калі прыдуць, жылі ж багата, і стаяць. Вот такая сіла была. Хто хоча ўзяць, стаіць, не можа сысці, ні падойдзіць, што б узяць, увараваць. Вот такая сіла была. І дзедушку Мікіту помню. О, тожа! І к дзедушку прыязжалі людзі. Па прыраду ў іх ідзёт. Па прыраду.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Лісічонак Ксеніі Мікалаеўны, 1928 г.н. у в. Забор’е Расонскага р-на.**

### 956. Знахар Рыгор Саксон

Некалі ў мяне вырас гузак пад бровінай. Вялікі гуз. А пасьля ён пачаў раздваівацца. Тады маці прывяла Рыгора Саксона, а ён загаварыў. Тады захацелася мне спаць, а ён ня даў. Саксон стаў змываць гуз вадой ад сябе. І прапаў той гуз. Саксон казаў, што гэты гуз з ветра, бо калі пускаць загаворы на вецер, то яны ідуць пакуль што-небудзь не сустрэнуць, могуць у дзерава ударыць і тады яно засохне.

А адзін раз прыехаў к Саксону другі знахар і яны паспорылі. І гэты знахар сабраўся ад’язджаць, выйшаў з хаты Саксона, а ў Саксона ўся пасуда ў хаце пачала танцаваць і ня білася. А тады Саксон зрабіў так, што другі знахар ніяк ня мог каня запрэгчы. Тады яны памірыліся: у Саксона перастала пасуда танцаваць, а другі знахар запрэг каня і паехаў дамоў.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Арцюх Маланні Філіпаўны, 1914 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**957.** Былі даўней мужыкі, што загаварывалі. Тут быў Саксон такі. Я не помню як звалі. Тут сын ёсць Саксон, ці ня сын, можа праўнук. Ну, ён даваў ваду, лечыў людзеў, мог і зробіць. Мог і зробіць, што зробісься абы-які, і так мог. Ну, я чула. Раз рабяты гулялі, ён хацеў рабятам здзелаць. Ну, пажалеў рабят, гусям здзелаў – усе гусі ногі ўгору і ляжаць, і не шавелюцца. Тады пашлі папрасілі, ён гэта атробіў. Хацеў на рабят бедных зробіць, але пажалеў рабят.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**958.** Саксон, дзед быў такі, умеў. Пра Саксона гаварылі, што ён дажа ваўкоў вызываў. Возмець, даўней ж такія былі банкі, малако цадзілі, гліня-

ныя. У гэту банку начнець клікаць і ваўкі збіраюцца. Ну, нешта гукаў у той слоік. Але ён нічога быў – ваду даваў, адрабляў людзям тамака. Во тут хто-та-ка расказваў. Што к яму нейкі знахар прыехаў з якой-та дзярэўні. Забылася. Ну, тады ён хацеў узнаць, каторы дужэйшы. Ці ён знахар, ці той? А ён тады, як ад'язджаў, той прыезжы, і так зробіў, што ў яго… Ну, даўней жа такія ў хатах былі паліцы, во былі над дзвярамі. І тады ён зробіў, што гэта паліца абрушылася ў Саксона, усё павалілася. А Саксон тады кажа: "Ну, значыцца, я ж табе зроблю". Ну і тады, як ён яму зробіў. Пашоў той запрагаць свайго каня, як толькі запражэць, а конь выпражэцца. Апяць запрагае, той зноў выпражыцца. Ну тады прышоў к Саксону і сказаў яму: "Я хацеў ж узнаць каторы з нас сільнейшы. Ты, братка, сільней".

Іх такіх даўней, чараўнікоў, многа было. Хто так падробіць, па-суседству каму гэта, а ён, Саксон, адробіць. У Тораўне была ягоная сваячаніца, і там сусед пасварыўся і ўзяў у жыце зробіў чарадзейства – залом. Ну, ён пайшоў. Пашла тая баба жаць, дажалася да гэтага залому і павалілася гэта баба. Ну, што ж рабіць? Тады гэта прыляцелі, а ён радня – гэты Саксон. Прыляцелі за гэтым дзядзькам. Робіў, робіў ён. Нічога ня можа адробіць. Раздзеўся, як маць радзіла, – тады толькі аддзелаў. А так, відзіш, чуць не перавешваў гэтага дзеда. А тады, як дагала раздзеўся, як маць радзіла, тады толькі ён адробіў.

Ён паскудзіць не любіў, а толькі адробліваў. Лячыў толькі людзей. Хаця і трошкі паскудны быў, хоць і адробліваў. Троху ўлазіў у дзела. Вот мог пашаптаць, дык табе і нядобра будзець. Ён свайму пляменьніку зробіў. У яго было дзьве каровы. Ну і даіліся ды вадой. Смятаны не было нічога, малака не было. Тады пляменнік паехаў у Кублічы. Там быў знахар, то ж большы. Ну і паехаў разам з другім чалавекам да таго знахара. А ў гэтага чалавека матка ўмела чараваць. Тады той дзед уліў вадзіцы таму, перваму, а другому і кажа: "А не, дзіця, я не буду табе даваць – твая матка ад двух кароў доіць, дзьве каровы пастаянна доіць". І выліў у цэбар тую ваду.

А тады пляменьнік пайшоў, а дзед кажа: "Ай, ай, пляменнічак, што ж ты яму зробіш. Давай адроблю, дак ты пакуль прыдзеш, то ён будзе дзяркачом хадзіць". А тата кажа: "Рукі даруюць, а татачка-дзядзечка не нада ты толькі мне вадзіцы дай ад кароў". Ну, даў ён вады і кажа: "Ты прыдзеш на двор, глядзі, нічога не пазычай, ён прыляціць без шапкі пазычаць". Прыляцеў бязменна, а тата калі ругнуўся і не даў.

Ой, паскудны быў дзядзька. Прыродны ён быў. Іх раней было тры браты. Адзін на балалайцы іграў, другі ў дуду. Васіль у дуду, а Міхалка быў на скрыпцы. Як зберуцца тут у нашым канцы. Гэта цяпер дзярэўня малая. Як прыдзе свята ці Вялічка, ці Троіца. Як выйдуць, як зачнуць іграць усё сяло тады сюды збіраецца.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Падгол Марыі Іванаўны, 1923 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**959.** Казалі пра яго, што знахар, ваду даваў. А я не знаю, я ж тады малая была. Ён і падробіць мог і дапамагаў. Гаварылі, што ехаў чалавек араць, а конь заваліўся. А ён прышоў каня пагладзіў рукой, конь ускочыў і пайшоў той чалавек ужо работаць. А ці гэта праўда, ці няпраўда я не знаю.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Падгол Надзеі Васільеўны, 1936 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**960.** Прадзед быў у мяне – Рыгор Саксон, ён сільна шаптаў. Ад усяго памагаў: ад упуду, ад уроцу – усё памагаў, дажа ад хваробаў ён памагаў. Я трошкі яго помню, але мала. Вот рожа бываець – вылечыць.

Адзін там хацеў вучыцца, але ня ўмеў. У каго ён там вучыўся, а ніяк не мог навучыцца: лапочыць і лапочыць ён дома, кійкамі чарцей адганяець. Тады прывёз бацька яго к нашаму ж прадзеду, а ён кажа: “Эй, паскуднік, ня ўмеў і не бярыся”. Узяў дзед адгаварыў і стаў ён як нада быць, і ня стаў ён болей вучыцца і лапатаць.

А другі прыехаў, думаў ён, што ўжо будзіць большы за нашага дзеда. Вот ён там вады даў яму, усё, а той зробіў, што, як выхадзіў з хаты, а паліцы – бразь, міскі – бразь. Пападалі ўсе. Ну, думаў ужо гэты дзед наш неадходаець яго. “Ах ты, – кажыць, – паскуднік!” Дык гэтак, тады ён за ім ззаду, яму зробіў: той запрагаець каня, а надзяець на хвост хамут. “Во табе, паскуднік, за тое, што ў мяне паліцы ўсе абабраў!” Правучыў.

А адна баба жала, дажалася да гэтага, што счаравана, і скруціла яе, гэту бабку. Прыляцеў мужык ейны, стаў прасіць. Што ж рабіць – паехаў дзед. Шаптаў ён, шаптаў – ніяк не можыць адшаптаць. Тада раздзеўся, як маць радзіла, да гала і тады ён толькі даў рады.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Саксон Марыі Барысаўны, 1929 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

## 961. Знахар Касьцюк

Была ўпала з люлькі сястрычка. Спужалася сільна. Ну, тады пазвалі мы Касцюка, а ён умеў. Тады ён прышоў, адстрыг троху ногцяў і валасоў, і завярнуў у бумажачку. Вычасаў асінавы колік, прасвярліў у дзвярах дзірачку. Засунуў туды свёртачак і забіў колікам. А яе тады ўзяў, і хамут узяў, і пайшоў на дарогі, дзе крыжавыя. І там тады перанімаў яе праз хамут тры разы.

**Зап. Градовіч А. і Нядзялкаў Я. у 1999 г. ад Халіп Ганны Рыгораўны, 1927 г.н. у в. Ст. Туросы Ушацкага р-на.**

## 962. Сімон

У нас тут Сімон такі быў. Вот кружок аб’едзь, весь, сільней яго німа. Ён і спасаў людзей і каго нада наказаваў. Адзін езьдзіў дажа за Ленін-

град у Выбарг за радай. А яму сказалі: ня езьдзі нідзе, а прасі гэтага чалавека. Ніхто табе рады ні дась. Сільней яго нету.

Ён і паміраў цяжка. У паталок дошку падымалі. Тут жа кала акон ангелы стаяць. А нада ж упусьціць другім пуцём, штобы забралі яго душу.

Сімон наш як памёр, ужо пакойнікам быў, і к адным прыхадзіў, асобенна ў іх што дзелаў – скот выпускаў з сарая. Яны замкнуць, запруць, падапруць, а ўсе замкі гэтыя разамкнуцца, дзьверы расчынюцца, скот пойдзець. Рашылі пілнаваць. Было такоя руж'ё ў іх. Яшчэ пасьля вайны помню тоя руж'ё. Длінная, Бог знаіць якоя, і ствол там бальшушчы. Селі пад паветкай, сідзяць. Чуюць, раскрываюцца дзьверы, замкнутыя, а раскрываюцца, скот выходзіць. Ну, ня ў дзьверы ж яны стралялі, наверна ж, уверх стрэлілі, скаціна дзе, ня відзюць жа. І чуюць голас: "А вот не папаў. Каб папаў – папалам перацяў". Кінулі руж'ё, кінулі скаціну, а самі – у хату.

І пака ён к ім хадзіў, ніхто нічога гэтаму пакойніку ня дзелаў. А патом прышоў дамой сын. Сын быў шорнікам. Тады шорнікі хадзілі па дзярэўні, каму нада хамуты, сядзёлкі, дзе работа нахадзілася. Вот ён быў у Губіне. А дома была жонка і дзевачка. І вот ён ноч'ю, дзевачку падымаіць хто-та з-за яе, падымець-паложыць. І так нескалькі раз. Назаўтра яна па дзярэўні: "Дзед прыхадзіў за ўнучкай". І пабегла к этаму Кузьму. А той: Чаго ты бегала па дзярэўні? Ты б мне прышла, сказала ціхонька і парадак. Прышоў гэты Кузьма аттуда і што ён ноччу дзелаў… Ну гаварылі, што на петуху ноччу на кладбішча зямлю на магілку на ягоную вазіў. Клаў у лапаць, у лапаць і на магілку на петуху. І з таго часу дзед не стаў ні к каму прыхадзіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

## 963. Іван Навумавіч

Гэта быў, Іванам яго звалі. Іван Наумавіч Мінёнак. Ён старык ужо ў тое врэмя быў. Мы яшчэ, як гэта, дзяўчаты бегалі. Но ён ваду даваў от і до. Ад іспуду, есьлі карове там хто што сдзелает. Ён памагаў очэнь хорошо. К яму прыязджалі, раньшэ машын не было, як цяпер дык на машынах. Тады на конях за нескалька кілометраў прыязджалі людзі. І хворым, калі хворы, ці хто сдзелаў, падазраваюць. Ён аддзелае, аддзелае. Дасьць вады, і вада гэта памагаіць. Вот каго падазраюць, што ён недружалюбна, ну дрэнна сдзелаў, ён пашэпча над гэтай вадой і скажа, што сдзелаць. Дасць ваду змыць – і чалавек папраўляўся.

Гаварылі пра яго, што ён сам мог паддзелаць. Былі случаі, што каму сдзелаіць. А адзін случай быў дажа ў гэтай саседкі. Бацька ейны ці матка запаздалі ў поле выгнаць, а ён думаў, што ўжо ўсе паследнія выгналі. А па-

сля яго яны гналі. У які гэта празьнік, на Івана ці ў празьнік у гадавы. Ён сдзелаў, што к карове ў абед не падступіцца, б’ецца і на сцены. І прывязвалі – нічога не сдзелалі. Паўшоў гэты чалавек, так яму і сказаў: “Іван атдзелай тое, што ты сдзелаў па-харошаму, а то будзе плоха”. А ён тады будзе казаць: “Ладна, ладна, ідзіце дамоў. Усё будзе добра, будзіць добра”. Гэты прыйшоў дамоў, а гэта Анюта даіць пайшла. Села, карова каб дрокнула, каб топнула. Гэта можа на Івана, можа на Троіцу, можа на Міколу было. На гадавы празьнік. Бо ён абязацельна должан быў гнаць сваю карову паследняй, як выганяць ужо ўсе.

Уся акруга яго знала, за нескалька кілометраў ехалі помашчы прасіць ў гэтага чалавека. А ад валасня ён запраста памагаў. Пашэпча ваду і палец сдзелаіць: “Ідзі дамоў – усё добра”. Яго раскулачылі. А які ён кулак быў?

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лужніковай Фаіны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Добрыгоры Бешанковіцкага р-на.**

## 964. Знахар Аляксей Пятровіч

Памагалі мужчыны. Былі такія, ваду давалі. Ну вот ён даваў ваду, тожа быў у нас мужчына такі – Аляксей Пятровіч Бабаед, но гэта ж ішчо да вайны, я помню. Ён жыў у Чаўнышках. І ён даваў ваду, і вот прыходзіць да яго адна жэншчына, памоч мужу. І вот, гаворацьь, прыйшла адна жэншчына і яму баначку падаець, а ён чуць гэту баначку не ўпусціў. Гаворыць: “Ну вам нехта ўчудзіў здорава”. Такая цяжкая баначка здалася. Ён загаварыў, ваду выносіць, гаворыць: “Есьлі паможыць, прыхадзіця, еслі не, то не”. Яна прынесла, гаворыць, дала мужу ваду, ён не памог, Яна гаворыць: “Ну дзенег вазьміце”. – “Нет-нет, я дзеньгі браць ня буду”. І не ўзяў. Яна прынесла, гаворыць, дала мужу ваду, ён не памог. Так даў намёк, што не паможыць, ну а многім памагаў. Ад суроцы, ад паддзела. Ну, вот сурочылі – гэта вам глянулі, а паддзел – паддзелалі, ужо спецыяльна з завісьці, ілі з чаго. У водку ўлілі, ілі ўгашчэньне прынесьлі, яны могуць паддзелам і ўгашчаць. І ў хлеў падкідалі, і ад кароў хадзілі ваду бралі. І паддзел страшна, і суроцы страшна, ну паддзел, канешне, слажнее здзелаць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г. н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

## 965. Вухналь і падкова знахара Анісы

Ну скока мне тады было? Не знаю. Можа, гадоў дваццаць пяць. І во эта самая жэншчына – Марыя – бывала прыйдзець ноччу ка мне, ну не ноччу, вечарам. Вот Пецька паіграіць троху на гармоні, тады, калі сядзем і вып’ем. Пакармлю яе, ну я, як к саседке, а ў мяне дзевачка была... Скока этай Надзе было, я не знаю, можа годзікі два, маленькая яшчэ была, саўсім. Прыйдзець яна і прыйдзець, ну кожны вечар прыйдзець…

Так адным разам стала я слабець, еле хадзіць, ногі ватныя, рукі мае нічога не дзелаюць. Тады ў печ кацялкі пастаўлю, туда яшчэ нейк увадзьвіну, а адтудава… Штоб не ашпарыцца, наш старык цягаў. Не магла. Ну а рабяты ж дробныя, старшай этай дачке верна было сем, а Надзе, я дажа не знаю, годзікі тры, можа два. Во такая яна была. А быў дзядзька, ну вы канешне не знаеце тое месца. Эта Янавічы, можа чулі? За Янавічы сем кіламетраў ён жыў, а Янавічы ад нас восем кіламетраў. Вот суседка, яна ўсё Вальку туды сваю вадзіла к этаму дзеду. А эта – ейны дзядзька родны, Аніса звалі. Вот тада яна гаворыць:

– Дай, я цябе звязу к жывому дзядзьку, няхай Пецька каня запрагаець, – тады яшчэ коні былі, чорт калі што было, ужо маей дочке пяцьдзесят первы год. – Звязу ў Якушонкі цябе.

Я гавару:

– А што туды нада?

– Ну возьмеце скока там-небудзь дзенег, ну ён любіць і выпіць, паедзем.

– Ну, паедзем.

Ну выехалі, яшчэ серанька на дварэ было, ну і паехалі. Прыехалі туды, так яна ўжо, як радня, яна прайшла туда, села, а ён за меня: “Садзісь, галубачка, садзісь, садзісь”. Пасадзіў мяне, сперва ў дзверах нешта там шаптаў, шаптаў, шаптаў, шаптаў, а тады пасадзіў у чала ў печку, там нешта, нешта шаптаў усё. “А цяпер, – гаворыць, – раздзевайся быстранька, ну і лажыся”. Ну, я сняла валёнкі, сняла шубу, пашла, легла. А я самагонку з сабой брала, налілі мне паўстакана самагонкі, там ета ўсё загаварыў і сказаў: “Пастарайся як-небудзь заснуць”. Ну праўда, пакамест яны там абедалі, спраўляліся, я заснула.

Узбудзіў ён мяне, вады сдзелаў, дык ўжо каня запрог. Усё – ат’язджаць. Так ён мне апяць эту працэдуру і сказаў:

– Цяпер ні з кім не едзь, а ідзі пяшком.

– А міленькі мой, у мяне тры кіламетры ад нас жывець мама, я і к ей не магу схадзіць. Я не здолею, у мяне не ідуць ногі, у мяне хазяйства чорт якое, а прыбірае мужык, а я магу толькі карову падаіць.

– Прыйдзеш, прыйдзеш, – ну расказаў як я з етай вадой: што піла, што мачылася, скока нада было выліць, я выліла ету ваду.

Прышло ўрэмя, нада ідціць, а зіма! Я апяць нацёмную вышла і пашла. Іду і усё малюся: “Госпадзі, ці дайду я, ці не дайду”. А чувстваю сама па сабе, што ногі мае не ўстаюць. І сама я сябе чувствую, ну ладна сыйшла, вышла на цёмную і прыйшла на цёмную. Так ён апяць за мене і апяць начаў мене загаварываць, апяць: “Ідзі лажыся”. Тады мне старуха ягоная і есць туды прынесла. Ну, усё слава Богу.

Я сышла к яму, у Якушонкі ў тыя. Эта дзе-то кілометраў верна трынаццаць у вадну старану і ў другую также ш. Ну вот пераначаваля я там. На утрачка ён прыйшоў: “Ну, давай будзем лячыцца”. Так, апяць такую ж самую працэдуру, а я брала з сабой бутылку з пад шампанскага, цёмнае такое сцякло і ваду з двора нада было браць.

Ну, назаўтрага прышоў такой ён, мене ўсё падзелаў, накармілі, ўсё. Я атдала ету бутылку і ён начаў дзелаць ваду, нагаварываць. Я сяжу і буду гаварыць: “Дзедушка, пакажыце мене ілі скажыце, хто са мной такую шутку сыйграў. У мене дзеткі яшчэ маленькія і сама ж яшчэ. Ну вот мне 25 – 26, во так”.

Так ён стаў нагаварываць ваду вот з-пад бальшога пальца. І з вады нешта выходзіць, ні то галава – нешта такое што-та. А бутылка цёмная, а атчотліва відаць, што-нешта паўзець адтудава, а мне ажна халодна, як эта так ён будзіць гаварыць. “Не, галубка”, – а дзе ж ён будзіць пра пляменіццу выдаваць, ён жа знаіць. – Ну, ня буду я табе нікога паказываць, а то памру – мяне на том свеце будуць так паказываць”. Ну а што ж? Я яго прасіла, а ён: “Нет, не прасі, галубка, нельзя”. Ну, так я сціхла. Палажыла сваю бутылку ў сумачку, сумку на плячо і пашла.

А дзень быў такі сонечны, ну не мецеліца, а такая, як паўзуха. Снег еты паўзець, паўзець, такі дзень тады быў. Ён тады:

– А вот пойдзеш ты па дарогі і ты найдзеш гвозд.

– А Бог мой, паўзуха, а дзе ж я, як я?!

– Найдзеш галубка, найдзеш.

І вот ужо Янавічы прайшла і быстра я прышла, а ета ужо пад Чыжыкі ў Здуброўе падхадзіла, гляжу – блісьціць нешта. Сагнулася – ухналь, што коней куюць. Новенькі, як тока з магазіна. А ведзь во, расказываю, а мене ж сымаець холадам усю. Ну ета, падніла я… А дзед жа казаў: “Што ты найдзеш, прыбі пад парогам, як заходзіш у хату. Прыбі ета, што ты найдзеш. Ён мне не сказаў точна што, а тады: “Пойдзеш чэраз цёмнае места, – ну, я сабралася к маме, дужа ж там і рыбята маі ўжо дужа даўно было ў мамы, сабіралася туды ісці, – апяць найдзеш падкову і абратна ж прыбі над парогам”.

Ну, пераначавала я дома, Пецька гвозд еты забіў. Пераначавала, пайду к маме. Ён пайшоў на работу, а я пайшла ў Пруднікі. І вот у нас цепер тут ферма, сенажныя ямы, а так жа тута быў пустыр. Дарога была харошая ў Пруднікі. Іду, гляжу – на абочыне ляжыць падкова. Злева, як ідзеш у Пруднікі, на левую старану. Тую падкову ўзяла. І я вярнулася, сама і прыбіла. Ну вот і па сей дзень усё добра.

Цепер во ў етай Таньке, што памёрла, малец паследні радзіўся і не ўзяў грудзь. Тут у нас тожа адна жыла, яны тады выехалі ў горад. І яна

дужа ўмела і ейны мужык Васька дружыў з ейнай дачкой. Ну, узяў ён ету Таньку, а тую дзеўку ён не ўзяў. І вот яна ўсё ўрадзіла ім. Еты малец ні ў какую, як к сіське так, як усё раўно канвульсіі ў яго, ламаюць, ні ў какую. І вот етый дзед паявіўся. Сперва ён заехаў к нам: “Во, галубка, я цяпер цябе б не ўзнаў ба, ну ну як здароўе? Ну, дай Бог табе здароўя. Харашо. І дзеткі нічога?” – “І дзеткі нічога”. А тады па ходу зайшоў к этай Таньке, на кані прыязжаў лес правіць. Ну, яна стала бедуваць, што во, гаворыць, радзіла мальчышку і не берэць грудзь. Дзед тады: “А пакажы мне яго”. Яна яго прынесла, ён яшчэ пялёнашык быў, а дзед ягонымі пятачкамі ў сіську – торк, торк, торк. Тры разы тарканўў і тут гаворыць: “Кладзі к грудзі”. Яна палажыла, а ён як учапіўся ў эту сіську, дык, казала, што яшчэ тры гады карміла Валодзьку.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

### 966. Як знахар Дамітра правучыў чараўніцу

Знакомыя с Барысава прыязжалі, дзеці папужаліся ў садзіку. І адна дзевачка ўжо нядзелю не спала. І такі быў страх, што былі прызнакі эпілепсіі. А другая – два-тры дні. Ну і вязу іх следам да Мані…

Мама мая тожа лечыла, ад сурокаў памагала. Больш нічога такога не ведала. Лячыла залатнік. Навучыў яе дзед адзін, ён дужа добры лекар быў. Зла не рабіў, але адрабіць мог. Вот у нас там у пасёлку адна добра паддзелывала, і паддзелала нешта дзеду. А ён узяў адрабіў, і яе як стала круціць кала хаты дзеда Паненкі. Гэта клічка вулічная Дамітры была – Паненка. І так адрабіў, што яе стала круціць на вуліцы. І гэты дзед, Дамітра вышаў. А тая: “Дамітрачка, я ніколі табе нічога не буду рабіць, адрабі, я цябе ніколі не зачаплю”. Стала так прасіцца, і ён адрабіў.

Ну, вот ён навучыў маму лячыць залатнік. І вот гэта Маня з Тулупішча вылячыла гэтых дзетак. І я званю назаўтра, як гэтыя дзеткі, а яны ўжо спалі гэту ноч нармальна, а так сну не было. Палутшала. П’юць вадзічку ад адной, ад втарой...

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Сталіковіч Людмілы Сяргееўны, 1959 г.н. у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

### 967. Старац Дзяніс

А, залатнік! А гэты залатнік, сынок, у мяне самой было. І гэдак жывот балеў. І вот паехалі ў Вольберычы, такая дзярэўня, там старыц быў, Дзяніс яго звалі. Гаварылі, што ён загаварваець. Взяла водку, самагонку, і паехала.

Ну ён паглядзеў на мяне, а тады сказаў: “Ну, заплоціш добра – вылечу цябе”. Ну вось ён. Я кажу: “Дзядулька, я заплачу, толькі вылечы!” Са-

мая што ў гадах, дзеці малыя былі, робіць нада. Ён пайшоў, наліў ў бутылку вады. Доўга недзе быў, а потым прыйшоў, балтнуў гэту бутылку і гаворыць: “Глядзі, хто цябе зробіў, баба ці мужчына?” А ў гэтай бутылкі – галава бабы, платок завязан. Поўнасцю відаць баба. Вось гэта жэншчына. А хто гэткі? Я думала хто гэткі? Там жа ш не напісана, хто там такі. Той дзед тады: “А вось я табе, дзетка, скажу, як прыйдзеш дамоў, яна к табе прыйдзе, прынясець тры разы, і вот знай, што гэта яна табе зробіла”.

Ну добра, я прыехала. Яна прыходзіць, саседка мая, прыносіць яйцы і кажа: “Я брала ў табе яйцы, табе не было, я бабке не стала астаўляць, прынясла цяпер”. Ну, я кажу: “Прынясла, добра”. Тады пасля хлопцы прыйшлі, мая малодшая з той хадзілі, а тады мая падбягае і кажа: “Мама, хлопцы прыйшлі з бутылкамі, каб выпіць, каб закусіць”. Ну, я ей кажу, глядзі там сама, я замарылася. Кажу: “Я замарылася, ідзі”.

А яна кажа: “А дзе ты была?” – тая баба пытаецца. А я кажу: “К саседзям у Стараселле”. Я ж не прызнаюся ёй, дзе я была. А яна кажа: “Валечка, схадзі, мы купілі талерачак новых, прынясі, хлопцы ж чужыя, а ў Ліды старыя талеркі”. Яна пайшла, гэтая дзяўчына, прынясла талерачак. Ужо ў мяне на памяць: два раза прыйшла. А ён сказаў тры разы. Тады тая баба пайшла паглядзела на стол, што тады чаго, і кажа: “А капуста ў цябе ёсць сырая?” Я кажу: “Ёсць, але яна ўжо ў бочцы на дне і ўжо няўкусная, толькі варыць”. – “Валечка, схадзі прынясі мне качан”. Тая дзяўчына прынясла, вось я ўжо тады і дагадалася. Яна не мне робіла, а хазяіну майму, а мне паўліяла.

Да, да ўсё. Залатнік гэты, дзетка, і ён мяне ненавідзеў быў. Хазяін мой. Гіркаў дужа, мацярыўся. А залатнік ён само сабой. Залатнік мяне дзед той лячыў: яйка, соль і водку. Сто грам і загаварыў, гэта ўжо даў мне выпіць, соль ў гарэлку ўсыпаў, размяшаў. Яйка сырое выпіла, потым палажыў мяне і на пуп палажыў камень такі, кілаграма два. А залатнік той, ён ходзіць, пакуль на места станець, камень гэты прыгаіць, прыгаіць – гэта ж залатнік ва мне ходзіць. Ён пакуль на месца зайдзіць, а ўжо як на места станець, дык асцепяніцца. Паглядзеў: “О, вот ён на месце, ўжо камень не прыгаіць”.

**Зап. Аўсейчык У. і Лобач У. у 2009 г. ад Хілько Леаніды Рыгораўны, 1926 г.н. у в. Бірулі Докшыцкага р-на.**

## 968. Знахар Фёдар

Бываіць калдун – валасы ў чалавека на галаве саўюцца, што не расчэшаш. Нада толькі са знахарам снімаць, так проста не снімеш. Былі такія сільныя даўней. У нас знахар быў во, у Хадорыне, у той дзярэўне. Фёдар. Ад усяго памагаў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Палячэнка Марыі Іванаўны, 1928 г.н. у в. Брыгітполле Віцебскага р-на.**

## 969. Ян Баніфацавіч

Вот я раскажу вам пра гэтага Баніфацыя. Ян Баніфац'евіч. Шчас яго-ныя дзеці паўміралі, нет нікога. Ён быў тожа, чалавек быў очэнь... Ну ён маліўся, ён мне таксама загаварваў усё. Ёсць балезні такія – рожа, знаеце. І вот я перад арміей – у армію адпраўлялі, у мяне на лбе – што-та какая-та… Вобшчэм, часалася, часалася… І я, едучы (я служыў на Дальнім Вастоку), пакуль туды завязлі, мяне вабшчэ разбалелася. Ну там што, адразу ў сан-часць. Пайшоў у санчасць, ну што мне тамака – срэжуць, завяжуць, і ўсё. А яна і так расбадаецца. І я тады напісаў пісьмо, і паехала. Пісьмо напісаў, мая мама схадзіла да яго; ён як загаварыў – і ўсё, і ў мяне зажыла. Чэраз колькі то – 12 тысяч кілометраў! Ну, я не знаю, як гэта даходзіць. Малітва, значыць, даходзіць. І ўсё, мне гэта перастала, сейчас загаілася, і як нада быць, і знакаў ужэ не было.

А потым яшчэ адзін случай – тожа гэты чалавек. Я там у Шаркаўш-чыне, у сельхозтэхніке раманціраваў трактар. Вот, жасцянку свярліў – вы-рвалася з-пад свярла – і парэзала. А там ізалента, вядома, заматаў ізален-тай, і давай запчасці мыць (гэта ж нада было мыць у салярцы) і мне як раз-балелася. А там ў абшчыжыціі жылі, а я ўдваіх з напарнікам. А напарнік быў сасед гэтага чалавека, які загаварваў. Яны ўжо ўсе спяць, ілі ў карты гуляюць, а я па калідоры хажу, я не магу – распух гэтат палец. І вот я кажу: “Скажы каб там Баніфацавічу, можа, ён мне загаворыць, можа мне палуч-шаець”. А мне нада было дзяжурыць, адзін на выхадныя едзіць, адзін за-стаецца, адзін у аднаго сільна кралі запчасці, панімаеш, я зробіў – а ты сабе як хочаш, аставайся. Нада было дзяжурыць. Ноччу ж замыкалася там мас-церская, а ўдзень, хоць і выхадны, а каму нада, прыйдзець і ў выхадныя.

Ну дык вот, ён паехаў на выхадныя, ая застаўся. Ён кажа: “Добра, скажу. Ён да мяне, – гаворыць, – у баню прыходзіць”. І я хажу-хажу. А патом раптоўна мне стала лёгка, я плыў, і як заснуў, і ажно ўсё – ня сіні палец стаў, лушчэ, лучшэ і лучшэ. Ён як загаварыў, адразу так і усё – і лёг-ка стала.

Да яго многа людзі ехалі і ехалі да яго. Патом яшчэ быў случай. Вот я, вырашыў – на трактары робіш – коней я гэтых не знаю, нада было буль-бу баранаваць. Я пайшоў, а там коні хадзілі возле яго. Лаўлю, лаўлю гэтага каня – мне не даюцца яны, а канюха нету. Яны ходзяць у загонцы. А гэты Баніфацавіч прайшоў у сажалку за вадой, кажа: “Ну што, не можаш каня злавіць?” Кажу: “Не магу ўзяць, не даецца, і ўсё.” – “Ну, абажжы, пасядзі”. Ён адвярнуўся, нешта памаліўся: “Ідзі, бяры, якога хош”. Я падышоў – ста-іць кабыла, я аброць надзеў, ускуліўся на яе вярхом. Яна круціцца, не йдзець, ну але пайшла і пайшла.

Вяду калі канюха, праз панадворак канюха: "Ты што, – кажа, – ўзяў, яна ж не пазапраганая!" Ну раз ужо прывёў – яны стаяць ж далёк – кілометры 2, назад не павядзеш. Запрог яе у барану, троху павадзіў, а патом пабаранаваў – еду абратна. "Ну, – кажа, – цяпер ужо пускай да коней, у пастаўнік не пускай". Нанач коней запіралі ў пастаўнік, каторыя нерабочыя, а рабочых коней ужо пасцілі ноччу. Вот такія людзі былі. А сейчас не то. Вось забалей там… Не, сейчас маладзёж не загаварвае, не, яны не знаюць. А з врачамі – гэта даўгая песня.

Баніфацавіч... Гэта можна перадаваць сваім дзяцям – ілі перваму, ілі паследнему. Ну вот у яго пасленяя была дачка, і после яго яна загаварвала. Загаварвала харашо. У мяне забалеў конь. Я баранаваў, а конь лажыцца і лажыцца, ну што робіць. А даўней жа многа… І мой бацька загаварваў, нейкую "мыш". Я дак не разбіраюся, што за балезнь – нешта давіць яго там.

І я павёў да яе, да гэтай бабкі. Яна, праўда, паддаўшая была троху, але памалілася, памалілася, пашчупала каня гэтага. Яшчэ я пастаяў там, пагаварыў, яна яшчэ раз – можа, каб лушчэ памагло. Ну і ўсё. Гэтак устрэціў яе, ай – вядзі, вядзі да ўрача. А врач аж у Сталіцы. Ну павёў гэтага каня. Пакуль да яе давёў, можа, разы тры лажыўся конь, ад яе ўжо завёў у Сталіцу – конь ня лёг! Прывёў да ўрача, ён паглядзеў, паглядзеў і кажа: "Мы гэтаму не верым, аднак, раз ужо Яніна загаварыла, дык ужо… А я ўзяўшы яблыкаў – ён яблыкі любіў. Не еў пакуль, а тут конь стаў яблыкі з рук есці. Нармальна. Відзіш.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рубніковіча Усціна Браніслававіча, 1930 г.н. у в. Курылава Шаркоўшчынскага р-на.**

**970.** Да-да-да, старык быў у Сталіцы, я сама хадзіла. Мне было з ветру шыю скруціла, галаву – проста не магла ўжо галавой крануць. І вот паехаў (вечны пакой) мой мужык да яго, і я паехала. Тады жонка кажа: "Яго дома няма". І на мужыка: "Яна няхай сядзіць дома, а ты прыязджай адзін. Ён у столькі-столькі часоў прыедзіць". Праўда, ён паехаў, Франак, ды як загаварыў той старык, дык як маю хто галаву стаў кратаць. Мне адразу палягчэла, ды і сейчас… Праўда, ён памёр, а ў яго засталася дачка. Дачка была ў Лазовіках, яна тожа давала з ветру, загаварвала. Яна проста на вецер. Не ваду, а так, на вецер малілася. І я да яе хадзіла, яна тожа памагала. Тожа гэтак сама – з ветру плячо балела. Яна магла на вецер словы пускаць. Да-да, яна сядзіць і моліцца, а ты сядзі сабе дома, абы сказалі – ну, ці хрышчоны, калі нехрышчоны, тады не памагае, нада, каб чалавек верыў у Бога.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Будзько Лідзіі Іванаўны, 1940 г.н. у в. Вінцэнтова Шаркаўшчынскага р-на.**

**971.** Баніфацавіч рожу загаварываў толька. І добра загаварываў. Па ветры, ага. Во, Казік лежаў у бальніцы, у яго не маглі прызнаць што. Прыключылася што-та на лакце, яны там і парэзалі ўсё, і ён страдаў, пака ён не загаварыў па ветры. І толька тады ўгаілі, а врачы не маглі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 972. Знахар Пазняк

Пазняк – гэта ў Прамянах быў. Ён маскаль быў. А, тожа там хадзілі. Ён ў бані парыў баб. Да, у дзверах называецца “вушак”. Па-руску называецца “каробка”. А ў нас – вушак. Вось тады, ён дзюрку прасверліць у вушаку, нашэпча, нашэпча, і шпутком заб’ець хваробу туды. І верылі, хадзілі туды, і памагаў. Памагае – не памагае, а як чалавек бальны, дык усюды абрашчаецца.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рубніковіча Усціна Браніслававіча, 1930 г.н. у в. Курылава Шаркоўшчынскага р-на.**

**973.** Пазняк, ён тожа лечыў усё. Ён і жывотных лечыў, і людзей ён лечыў. Жыў у Каралеве, каля кладбішча ён жыў. Дзе кладбішча Каралеўскае, як едзіш на Каралева, і вот там бярэзнічак кладбішча, і вот хата. Ён памагаў ад падробак. Вот і мая жонка ўмеець каням… Вот каня мышкі схвацяць, ну жалудак. Тут адзін ехаў, прыбяжаў да маёй, кажыць: “Ай, скарэй спасай, конь кульнуўся ў канаву!” І мая вышла, нада толька масць сказаць, яна па ветру... І ён пакуль зайшоў, конь ужо траву скубаў.

А Пазняк і ад пілепсіі даваў. Но тока ён сказаў, што еслі гэта ўрадзімае, то ўсё. А пілепсія можыт тока з упуду быць, абычна. Пазняк, ён стары маскаль быў, старавер, законнік быў крэпка. Набожны быў чалавек, уся яго ругня была толька слова “маць чэсная”. Ён ні рабёнка, ні старога не абгаворыць, не пашлець цябе. Ён быў такі, прыхадзі – ён табе паследняе аддасць. Маскалі ўсякія былі, але болей культурнейшыя. Яны былі такія, у Бога сільна верылі. А нашы што, толькі вышаў з касцёла, дык ужо ругаіцца, ужо абгаварываець і таго, і таго. А ў іх – нет…

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арлюкевіча Казіміра Антонавіча, 1935 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 974. Знахар і змеі

Папін брат дваюрадны, Пятрушка яго звалі, жыў у дзярэвні, гэта 7 км адсюда. Так ён, значыць, браў любую змею рукамі. Он знаў, гдзе яе узяць. І ні адна змея (не кусала – К.А.). Вот пасадзіць на руку і гладзіць яе, знаў загавар, какой-та, знаў і гладзіць, і змея яго нікагда не ўкусіць. Нікагда! Нікагда не баяўся змей. Вот. Бываець жа Узвіжанне, празнік такой, кагда

змеі ужэ прачуцца, сабіраюцца клубкамі і прачуцца усе. Он прыдзе ў лес: “Ай, маі вы пцічкі, маі вы залатыя, маі вы радные...” Разгаварываіць з імі, як з людзьмі і усё. І ні адна змяя яго нікагда не ўкусіла.

**Зап. Анісімава К. у 2009 г. ад Баканавай Марыі Пятроўны, 1928 г.н. у г. Полацк.**

## 975. Ацец панімаў па этых зьмеях

У меня ацец быў, ён панімаў па этых зьмеях… Я яго прасіла, штоб ён перадаў мне, када ён ўжэ паміраў, я прасіла. А ён сказаў: “Дачушка, я табе не перадам. Табе, – гаворыць, – я не буду перадаваць, но цябе зьмеі нікагда не будуць кусаць, ані будуць удзіраць ад цябе”. Ён так зробіў. Ну і точна! Я сколька іх відзела – яны ат міня удзіраюць. Я іх баялася.

Тады, як з мужыком пайшлі мы ў лес па грыбы, падышлі браць грыбы і бальшая паляна грыбоў – адны тыя белыя. Я падыйшла грыб ужо браць, а там зьмяя! А яна бальшушчая, а яна скруцілася! А я як крыкнула: “Ай-яй-яй, змяя!” І яна псцыкнула і ходу. Яна ад мяне удзіраць пашла. Як пайшла ўдзіраць, я тады крыкнула, а ён: “Чаго ты?” Я гавару: “Зьмяя.” І ён убіў яе. А мне ён прыказаў, ацец, што біць нельзя іх. Нельзя. Ён сказаў, што табе нельзя біць, патаму, што калі ты уб’ёш, усё раўно ты ат ніх не уйдзёш”.

Ацец мне нічога не сказаў. Я прасіла… Ён зьмяю возьмець і запусціць, яна па ім ходзіць. І дажа паняція не імеў, ходзіць как абычны. І за шыю зайдзе. На лугу, ён быў прэдсэдацелем калхоза, і на лугу пайшоў правяраць рабочых, ну і паймаў зьмяю. Паймаў і ўзяў яе ў рукі. Ён дажа нічым яе не ціскаў там, а ўзяў у рукі і пусціў, і яна па ім ходзіць. Падышоў да жэншчын, дык яны крыку як адкрылі, пакідалі граблі і ўдзіраць адтуль. Канешна, ён наверна словы знаў. Патаму што, раз ён мне сказаў, так што: “Я табе не перадам нічэво, а толькі цябе ані не будуць чапаць. Ты будзеш іх відзець, но ані цябе кусаць не будуць, ані ад цебе будуць удзіраць”. І сказаў, што біць мне іх нільзя. Ён так і сказаў: “Табе толька іх біць нільзя”.

Я не знаю, можа ён ад мацеры навучыўся ад сваёй. Не знаю тут. Ён мне нічэво не сказаў пра эта. Нічэво. І вот, сколькі я іх відзела і яны ўдзіраюць ад мяне. Дажа ішла без чулкоў, толькі ў тапках і змяя какая-та кашлатая, ну уродзе бы гаварылі, што гэта вадзяная. І яна перапазла чэраз ногі і пашла. Толькі я крыкнула: “Ай!”, і глянула, што змяя чэраз ногі. А халодная… Як пашла… Тады апяць: “Што такое!” – апяць змяя. Ён яе забіў. Не знаю, ён убіваў іх, мужык. А я, што я б забіла, то мне ў лес хадзіць нельзя. Вот эта ўсё ўжо.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рылькевіч Таісіі Сідараўны (нар. в. Крупейкі Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.), 1925 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 976. Знахары Ставеры

Былі шаптуны такія. Схадзі там да таго, да таго, ніхай пашэпчаць. У нас ў дзярэўні дык было… Піліп даваў, Іванька… Мужыкі. Я вот на клад-

бішчы брала пясочак, пясочак брала, каб памагло. Ці дзеці як не спалі… Усякія былі чудзеса. Тады гэты пясочак у вадзічку і закіпяціш. Закіпяціш. Не нада яе дажа цадзіць – пясок астаецца на дне, адліў там у які слоічак і даваць піць. І памыеш ліцо. І цела памыеш трошкі. Дык гэта я ўверана, што памагала. Фамілія Піліпа была Ставер, і Івана – Ставер. Ну вы ўсёрна не найдзеця тыя магілы. Яны нейкія далёкія сваякі былі між сабой.

Ой, к ім ішлі… Я і сама хадзіла. Не сабе, а ка мне прыяжджала сістра дваюрадная. У яе сястры ў мужыка была пілепсія. Вы знаеця, што такое пілепсія? І мы хадзілі к этаму к Піліпу. І ён кажаць: “Нада было трошку раней, ну раньша”. Ну і тая мая сістра дваюрадная даець яму тры рублі. Я кажу: “Маруся, давай мы дадзім болі, каб яно ўжо памагло”. Я дужа люблю, каб чэсна. А то што ён скажаць – тры рублі… Можа, ён назад атверніць. Дык яна яшчэ далажыла два рублі. І казала, мусіць, чэраз месяц не стала пілепсіі.

Ён і шаптаў, і маліўся, і хрысьціўся і, эта, вады даваў у бутылку. Знахары гэтыя Богу верылі, гэтыя не ругаліся. Эта ж, кажуць, ругацца дажа нільзя. Ён памагаў ад пілепсіі. Дзяцём яшчэ, як плоха, як якая хвароба. Залатуха даўна была, цяпер гэтага німа. Вот ён ужо нешта нашэпчыць, травой нейкай змыіць, дась – і палепшаіць. Лячылі людзі.

А пясочак з магілы памагаў ад усяго, дзетка. Я вот як хадзіла, во так у тры пальцы. З адной магілы, тады з другой і з трэцьцяй. Вот быў Іванька, Піліп, і быў Паўлюк Герасімёнак. Тожа даваў. Ой, зь яго сьміяліся пры жызьні, такі сьмешны быў старычок. Я яго толькі чуць-чуць помню. Вот такі ён быў, баба якая прынясець дзяцёнка, дык ён, бывала, і ўшчыкнуў. Шустры. Шустрак, мы казалі, шустрачок. Паўлючок-шустрачок.

Дрэннага яны нічога ня робілі. Яны жылі, настаяшчыя былі хазяіны. У Івана дык быў адзін сын, ён і цяпер недзе на Украіне. А ў Піліпа было троя. І цяпер жывы. А ў Паўлючка…Але дзеці ня ўмеюць нічога. Алі ж гэта, кажуць, перадаецца. Эта, каб я ўмелы ды запісала свае ды свайму дзіцёнку перадала, каб ён у галаву ўзяў. А так хто яго знаіць? Эта ж такое дзела, што…Я вот Богу маліцца, і то “Отча наш” чуць-чуць запомніла. Неяк вот памяці не стала.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

### 977. Саўка Лазараў

Быў і Саўка такі Лазараў, лечыў ад усяго. Саўка, калі ўсердзіцца з кім, здзелаў свайму суседу, загаварыў. Конь качаецца, б’ецца, мучаецца. А тады гэты хазяін гаворыць другому саседу: “Ну во, верна Саўка паддзелаў майму каню, качаецца, нічога не магу здзелаць”. А той гаворыць: “Ідзі, прасі,

каб адгаварыў”. Пашоў, стаў прасіць. Той даў вады, прышоў, спырснуў. І конь устаў, як нічога не было.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Брадзінскай Ганны Кузьмінічны, 1925 г.н. у в. Вяжышча Бешанковіцкага р-на.**

## 978. Знахар Нікіпар

У Бярозках быў Нікіпар, каровам даваў ваду, многа чаго лячыў. Купілі карову, а мне і казалі: не купляйця там карову, там людзі такія, што не завядзеш. Яна б’ецца. Пашлі купіць карову, села, даю, вродзе нармальна. Прывялі, паставілі, равець карова, хоць страляй, дзень і ноч равець і равець. А Божа мой! І сена ёсь і вада. Мне будуць гаварыць: З’ездзі ты к Нікіпару к гэтаму. Я паехала. Ён будзець гаварыць: “Паглядзі, ці выстражана ў карові между рог шэсць”. Я прыязджаю, пагляджу, праўда, выстражана так во. Ну і ўсё. Узялі і здалі. Хто прадалі, тыя і здзелалі. Так многа к яму хадзілі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Дабраніцкай Алы Раманаўны, 1935 г.н. у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

## 979. Іван Таўкач

Мой бацька людзям памагаў і я памагаю. Яго звалі Таўкач Іван Якаўлевіч. Таўкач – мая дзевіч’я фамілія. Ён ад усяго людзям памагаў. Ад усяго. Калі карову спорцяць, вадзічку даваў. Калі зглазяць, гэта не чарадзейства. Ёсць такія людзі, што глаза такія ўрэдныя. І вот када ён глянець, ілі падумае, што пайшла карова і вымя ў яе такое бальшое, та кароўка ўжо забіваець хазяйку, і ей плоха, і яна ўжо мучаецца. Тады ідуць к бацьку – ён вадзічку дае. Змыюць і ўсё нармальна. І я ж даю вадзічку.

Былі і тыя, што чарадзействам займаліся, але яны гэтым ноччу займаліся, каб ніхто не відзеў. Ноччу яны дзелаюць. У мяне саседка была, калі мы яшчэ сюды пераехалі. Так яна нам падкідвала і касцей, і тады драла, раней жа з саломы клалі страху, гэту салому. Але бацька не баяўся нічога. Ён пойдзець, лапатачкай гэта адкінець. “Што, ты думала мне? Звярні Гасподзь на цябе”. І ўсё, толькі гэткае славечка скажыць.

Бацька і сам сябе мог лячыць, калі нешта случыцца. Вадзічкі нагаварыў, памыўся, папіў, змыўся. І ўсё. Вот і я памагаю, ад яго навучылася. А ён навучыўся… Гавораць, раньшэ бацюшкі былі, ну я не помню. Бацюшкаў растрыгалі, цэрквы бурылі і гэты бацюшка прыехаў сюды. У Міхалове, мы жылі там, а сюды пераехалі. Калі цэрквы бурылі, ён стаў вучыцелем, вучыў дзяцей, а жыў у нас на кварціры. І яны бяседавалі. Навернае знаў, бо гэта ўсё бажэственнае, не выдумлянае з галавы.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Гаспадарак Тацяны Іванаўны, 1927 г.н. у в. Гурэц Чашніцкага р-на.**

## 980. Варажбіт Мірон

Я не знаю, эта мамка мая расказывала, што ў нас яшчэ такі Мірон быў. Яны, кажуць, прыдуць к яго дзеўкам, дочкам, гуляць, а дзед гэты ім расказываець: “Во, дзеці, будзець жалезная птушка ў небе лятаць, і людзей клюваць”. А мы смяёмся, во дзед Мірон дурны, як эта жалеза падымецца. А цяпер матка мая гаворыць, во птушкі і клююць людзей.

Казалі, у яго кніга нейкая была. Ён казаў: “Во будзець увесь свет павуцінай пераплецены, будзеш гаварыць, а відзіць ня будзеш чалавека. А з ім гаварыць будзеш”. Эта Мірон так казаў. А мы смяёмся каля яго: “Во дурны Мірон!” А тады як гэтага даждалі... Матка гаварыла, раньшы адзін толькі быў провад, з Сянна і сюда, як 12 часоў, едзець калакольчык, дзындзын – пошта едзець.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

## 981. Дзед Аляксей

Тут быў дзед-чарадзей, лячыў. У яго матка чаравала, эта саседзі гаварылі. І нам, як перайшлі сюды, ён наслаў нам змей. Куда я не йду – усюды. Іду з граблямі, іду сена паграбу – усюды! Я іх біла. Прынясу сабаке есці, суп нясу ставіць, а яны усе ўбягаюць. У мяне такі кіёчак стаяў, знаеш, суп што мяшаюць, што гарачы сабаке. Сабакі былі аўчаркі, харошыя. Тады заб’ю, я іх біла. Заўчора здзесь была сястра з Мінску, сын, а я выйшла, а змеі, у мяне вада во стаіць, і бягуць піць.

Той дзед і лячыў. У мяне грыжа была, гулак вырас. Я гавару: “Лявонавіч, у мяне гулак вырас. Хтой-та памагаіць грыжу эту?” Ён мне: “Дай руку сюды”. І па сягонняшні дзень нічога няма. Ён не сярдзіўся. Такі ўрэдны быў, мог змеямі камандваць. Яны (чараўнікі) ўсім камандуць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дзямідавай Надзеі Ісакаўны, 1924 г.н. у в. Пярно Віцебскага р-на.**

## 982. Задарожскі знахар

Да яго хадзілі, да гэта мужчыны. Дзе вот там, я не знаю, дзе-то там за Задарож’ем, пад Віцебск. І вот дочка, дзе мая жыла, на Маладзёжнай, жыла каля яе ўчыцельніца. У неё дочка і сын, яны да яго ездзілі. Я не хадзіла, я вам хачу сказаць, што проціў жыла жэншчына і ў яе дачка замужам і жывёт з мужам. Ну, відныя яны людзі, і этат муж відна загуляў. І хто-та ёй падсаветаваў, і яна паехала, туды дзе-то за Задарож’е, там дзе-то ісьці нада было, і ён даў ёй вады. Сказаў: памагу, каб не гуляў.

А ён ужо, той муж, не прыходзіў па два-тры дні, і гатоў быў туды перайсці, к другой жэншчыне. Ну, яна гэтай вады прывязла, і ён памог – большэ мужык не пайшоў. І сталі жыць, стала сям’я.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г. н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

## 983. Не кожны знахар памагае

Загаворы ёсць, памагает… Мяне была ўкусіла змяя. Гадоў мне 12 было. Па ягады хадзілі па лясу. Многа бабак хадзіла. А гэта змяя была паросная, ёй нада было парасіцца. А куст бальшой быў, а ягад там многа, дзе яна ляжала. Я падыйшла сабіраць, а яна – цап мяне! Яна кусаіць зубамі. Не толькі жалам. Я закрычала. І бабы нейкія дурныя былі, пусцілі рабёнка: “Ідзі, там ёсць у Падкасцельцах мужык, загаварвае”. Ну я і пайшла. Адна. Гэта ж далёка. Ішла, спрашывала: “Дзе той жыве?” А некаторыя казалі, што ён не дапамагае. Прыйшла, загаварваў, вады даваў. А шла дамоў, матка з бацькам мяне падабралі. Схвацілі, павязлі мяне к нейкаму ў Банонь. І гэты нічога не памог.

Тада падсаветаваў хто-та, што та змяя была паросна, і нада загаварыць воду ад 12 змей, ад 12 сартоў: “Ідзіце, нейдзе за Дзвіной ёсць”. Ну бацька паехаў. Прывёз ён вады гэтай, а я ўжо ляжала, опухаль жа шла, пад серца падхадзіла. І я папіла гэтай вады – опухаль стала сходзіць.

Нам казалі: “Не йдзіце к таму Міколу, ён не памагае, ён не веруючы”. А як я не пайду – такая боль! Палец сіні. А вот памагло ж. Дык ён майму папку прагаварыў гэты загавор: *“Падкалодная змяя, дзе ты спіш, дзе ты ляжыш? Не еш людзей, а еш сваіх дзяцей. Закляў цябе Гасподзь, і я цябе заклінаю імем Гасподнім. Не я памагаю, а Бог памагае. Прачыстая Маць, прашу памагаць”*. Вот я запомніла некалькі слоў. Ну вот проціў загавораў пачаму-та цэркаў. Гавораць, злым духам яны калдуюць. Могуць здзелаць, што чалавек будзе сохнуць, сохнуць і памрэ. Гаварыць так. А я гэтага знаць не хачу і людзям не саветую.

**Зап. Захарэвіч А. у 2008 г. ад Зелянкевіч Марыі Якаўлеўны, 1919 г.н. у в. Экімань Полацкага р-на.**

## 984. Вырак знахара

Ішчэ пабаю случай. У мяне родная сістра, я сама родам во Тумілавічы, тады Шалашы, а тады Старына, у бачок дзярэўня. Сям’я наша бальшая, я з бальшой сям’і – восем душ было. Восем дзяцей і папа з мамай, значыць, дзесяць душ. І прыбегла сястра, яна была ў Камайскім зайшоўшы замуж, яна з 15-га года. Ну, я ж многа меншая. Гэта пасля вайны, толькі вайна кончылась. Прыбегаіць яна, шчэ мама была: “Ай, мамка, мальчык забалеў!” Ягорка звалі, сем гадоў. А бальшой малец быў, дык канешна. Што робіць? К врачам – сказалі. Няма рады, нічога. Пастроілі ў Хмялёўшчыну сходзіць да дзеда. Ну, а я ішчо не сабражала тады. Мама: “Збегай, збегай, дзетка, збегай. Во і недалёка Хмялёўшчына, чэраз балота, там папытаешся, дзе той старычок жывець”. А што там, пасля вайны пяць яечак дала – нада ж занясці заплаціць нешта.

Вот прыйшла я да гэтага дзеда. “Ну чаго ж дзетка ты прыбегла?” Ну мне што там, гадоў можа пітнаццаць было. “Ай, – кажу, – дзедушка, у сястры мальчык забалеў дужа, гэта гладка ці спуганы, каб вы вадзіцы далі”. Ён узяў пры мне, ну я ішчэ не сабражала, бутылачку наліў вады, маліўся, маліўся, а тады стаў калаціць бутылачку. “Ай, чорны крэст. Памрэць ваш мальчык,” – кажаць. “Ня будзіць ён жыць, і скора памрэць”. Ну вот я ўжо ж бягу дамоў. Мама ўстрэчаіць уперад, каб гэта сястры не сказаць, што там ён сказаў. Я тады маме і прызналася: “Сказаў гэты дзедушка, што памрэць мальчык”. Мама кажаць: “А дык што ж робіць? Ці казаць гэтай дочкі ці не?” Я кажу: “Як хочаш, я нічога не знаю. Я табе сказала, што ён сказаў, што памрэць”. На трэці дзень малец – усё. І памёр. Вот жа знаў ён.

Дык пуд жа. Ён сказаў, што мая вадзіца вам не паможаць. І врач вам не паможаць. Вот эта ён сказаў. Ён умроць. Ён прама сказаў. Вот і гэткае можа быць. Пра гэтага дзеда гаварылі. Там ён дачку замуж аддаваў. Гэты дзедушка. І з дачкой толька жыў. І вот гэтыя, як ужо была свадзьба, папрыхадзілі сваты, што даўна дзе во паклаліся, і ўсё. Гэта цяпер то находзім дзенібудзь. І гэта ж, і як стала там у хаце лётаць, дык там грымела ды стучала. Адна прачнулася старэйшая, паглядзела, ды казала: “Каты ўсе, с хвастамі былі”. Ну чэрці. Гэты дзед владзеў, ён жа вызавець чарцей, і тады яны падсказваюць, што дзелаць.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіч Алены Аляксееўны, 1932 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

### 985. Пан знахар

Мая баба забалела, як маме было 12 гадоў, і яшчэ пяць дзяцей было. Вот забалела, нейкі гуз стаў пад грудзямі. Саўсім злягла. Вот перад Чыстым чацвяргом мужык пашоў к гадалцы. А тая: “Балеець не ад Бога, а ад чалавека”. Быў такі пан Палонскі. Дзед пашоў к пану. Пан раскрыў кнігу і на яго: “Што ты ка мне прышоў, як ужо ў яе канец жызні?” – “Я ж не знаў! Пяць дзяцей у нас”. – “Ей здзелана пры вясёлай пірушцы на чарку гарэлкі. Вот табе вады, бяжы скарэй”.

Ён і ўспомніў, што на Пасху к ім прыхадзіў нейкі храмы ці гарбаты, вот ён наверна здзелаў. Ён бягом – жывая. Заспеў. Памыў, яна папіла, як заснула, суткі спала. І доўга яшчэ жыла.

**Зап. Валодзіна Т. у 2002 г. ад Баранавай Ірыны Парфенаўны, 1914 г.н. у г.п. Вула Бешанкавіцкага р-на.**

### 986. Знахар

У дзярэўні там жыў такі ўродзе знахар, закалдаваць мог, хоць што рабіць будзеш. Ну вось жанчына шла, ды вот у Ільюшыне была яе радня. Трошкі рання стрэўся ей знахар – і вот яна дашла да яго хаты. Ён да яе:

“Куды ж ты ідзеш?” – “Я к браціку”. – “Можа і мне пайсці з табой?” – “Абойдземся без цябе”.

Як прыйшла ў хату да брата, стала на каленькі, пералезла праз парог і пад стол. Тады дзядзька на яе: “Вылазь”. А яна: “Ня вылезу”. Дзядзька адразу ўсе зразумеў – паехаў да знахара. Прывез яго, а той і пытае жанчыну: “Ну што, абышлася без мяне? Не!”

**Зап. Пашкевіч І. і Пракоф’ева Ю. у 2006 г. ад Марковіч Матруны Нікіфараўны, 1927 г.н. у в. Старына Ушацкага р-на.**

### 987. Харошы дзед

Варажылі ад змяі, варажылі. У нас адзін быў дзед, што на хлебе піса́ў і даваў. Дажа мой бацька хадзіў к этаму дзеду, а ён выпісаваў ад змяі. Дзед очань харошы быў. Вот хто-та кала вас пашуціць, усё – хвароба. Ды я і сам быў такі, быў небальшэнькі, гадоў 10 – 12. Кала мяне пашуцюць, мне січас халодна, трасець. Бацька бярэць бутылку і к дзеду. Дзед пашэпчыць, бацька прынясець, мяне спырснець, я падымаюся і пабег. Эта дужа харошы быў дзед.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Ермаловіча Васіля Аляксеевіча, 1919 г.н. у в. Серкавіцы Талочынскага р-на.**

### 988. Знахары варожаць на вадзе

Раман знаў… У Свіным дзярэўня не згарэла. Так ён кажыць, дайце вады. Яму налілі ў бутылку. Пажмець, пажмець, паглядзіць – знаіць, дужа знаіць. Тады будзе казаць: “Стараселле не згарыць, і Свінное не згарыць, а гэтыя дзярэўні пагарацъ”. – “А адкуль ты знаешь?” – “А нет дыму на вадзе”.

Тады я маме хадзіла ў Хмелеўшчыну вады. Даў дзед вады і кажыць: “Мала яна пажывець”. А была мая цётка, прышла вады ўзяць, ён ей кажыць: “Ужо ня выжавіць”. – А чаго? – “Ужо крэст на вадзе”. Вот відзіць, што крэст на вадзе, значыць, чалавек памрэць і яму вада ўжо не паможа.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф’і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 989. Знахары

Былі і мужыкі, што памагалі. Былі ў Бярозаўке, і ў нас мужчына быў – Міхаіл Архіпавіч. Ён памагаў з упуду, са зглазу. А яшчэ я знаю, што за Веліжам ёсьць мужчына. Дзярэўня Узвоз – гэта Веліжскага района, там тожа очань сільны. Звалі яго Іван Яўхімавіч. Сільны. Ён можа нясільна стары, знаю, патаму, што ў мяне сільна балела галава, такая распухлая была. Дык урачы што-та не памаглі, пасаветавалі мне паехаць к яму. Павёз мяне сын туда. Туда прыехалі, а сын мой ня верыць этаму.

Я пабыла ў яго, тада гавару: “Можа б, вы і сыну памаглі ?” А у сына усё ў правым баку ў яго баліць. Можа, калі вып’ець асабліва. Я гавару: “Можа, вы мне і сына паглядзіце?” Ён гаворыць: “Пажалуста, хай зайдзець”. Ну, як мне сыну сказаць, што захадзі? Я гавару: “Знаеш што, Косця, – гавару, – хадзі ты, паслухай, можа я пагавару насчот каровы”. А мне не нада было насчот каровы, я так гавару. Ён пайшоў с удавольсцвіем. Прыйшоў, ён гаворыць, каб раздзяваўся. Ну той раздзеўся, усё паглядзеў, тады гаворыць: “У цябе, – гаворыць, – правая почка бальная. Цібе нада к урачам. Ну я папробую, цябе троху палячу”. Палячыў, мой кавалер выйшаў, ды гаворыць: “Да, вот эта я такую сілу ня відзеў. Мне сейчас нічога не баліць, як у маладосці ўсё роўна”.

Загаворам лячыў. І мне загаворам, і даваў такую бумагу прыкладваць. А быў абыкнавенны мужчына, работаў заўхозам у саўхозе, а тады на пенсію пайшоў. “І раньшэ, – казаў, – я людзям памагаў. Мне, – гаворыць, – мае прадзеды перадалі, яны ўсё знапі”. Гэта па патомству, перадаецца па патомству.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Васільевай Марыі Гаўрылаўны, 1928 г.н., у в. Пруднікі Віцебскага р-на.**

## 990. Знахар з Дуброўкі

У мяне дачка, яна хадзіла ў школу, і паехалі на возера плаваць. А мальцы былі, былі, што гэта, дзевачкі, і яны ў гэтую лодку пералазілі, і лодка тая перавярнулася, і яна ў ваду паляцела. Схвацілі яе. Яна спужалася, а мне не сказала. Хадзіла ў школу, а то раз яе, кінула, плоха стала, і цемпература. Гэта летам было, а яна захварэла, як у школу пайшла. А ёй хужы і хужы. Яе ў Докшыцы, а тады звонюць і гавараць: “Прыедзь, бацька, з вашай дачкой плоха”. Ужо грэлкі ложуць. Прыйшоў, адна жэншчына гаворыць: “Знаеце што, на раёне ёсць дзярэўня Дуброўка, там стары памагае”.

Я прыйшоў, а ён мне кажа: “Забірай дачку з бальніцы, я вылечу. Яна спужаўшыся”. Павадзіў ваду грэбнем, кажа: “Ледзь не ўтапілася”. А я тады ў яе спытаў, і праўда, ледзь не утапілася. А чаму не сказала? Ну, вось не сказала. І назаўтра яе з бальніцы забраў. Сказаў яшчэ раз прыехаць, я прыехаў… Пасля мяне яшчэ ездзілі, ён памагаў.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Карніловіча А. Р., 1936 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

## 991. Знахар лекуе валасень

Барані Бог, любую і хваробу там, і іспуг, і грыжа – што ёсць, калі чалавек пьяны, Божа спасі, – не паможа. Я незнаю, вот нешта. Ну нельзя пьяным. У мяне быў у пальцы валасень такі і гэта… Ай, тут баба адна лю-

біла выпіць. Дай выпіць – тады яна будзе загаварваць. А я на сценку лезла, вот гэты валасень, што ён косці выядаець. Ну і ўсё, і я хаджу па хаці, і я не плачу, а слезы самі сыпяцца. Ну тады паехала к аднаму, ён мне яшчэ і сват быў, у Белае. І ён мне: “Ай-яй, свацка, ну дабра, што ты сёння, а мая душа, як чуствавала, я сення не піў”. Кажаць, гэта беспалезна, дажа б і не загаварваў (калі б выпіў). А так, кажа, як душа мая чуствавала што б я не піў. Загаварваець ён мне, а я ўжо як сплю. І ён кажа: ну ты другі разок прыедзь і усе. А я і другі раз не прыехала, і на работу пайшла. Во, толькі які знак астаўся. Да, с аднаго разу ён памог. Толькі шаптаў. Ну ён, праўда, казаў: “Я на кроў, на кроў (замаўляю)”. Вот нада укалоць, каб кроў паказалася, там хоць мычынка адна… А яго рукі старыя, ён коліць, а я і так не магу, мне і так баліць, а ён яшчэ коліць іголкай. Тады ён мне аддаў. І тут і бруд, і кроў тут была, у гэтым пальцы. Тады я кажу: “Я й болей не магу, ну мне досыць”. І гэтай там у брудзе трошачкі было гэтай крыві. І ўсё, і тут мне ён загаварыў, і я сплю, і сама сабе думаю: хоць бы ён сказаў, што ідзі прыляж. Ён мне не сказаў і я прам са стула чуць не валюся, і я ужо сплю. Усё, і я назаўтра пайшла на работу, толькі завязала, каб не папала сюды удабрэнья – сеялі якраз ужо замаразкай вясной. Ну я і пайшла на работу і усе – я болей да яго не хадзіла.

**Зап. эксп. ПДУ у 2007 г. ад Алейчанка Аліны Мікалаеўны, 1940 г.н. у в. Задоры Лепельскага р-на.**

## 992. Знахары стараверы

А эта, як у каго ёсць энергія якая. Як той абладаіць якой энергіяй так ёсць, што і чараўнікоў гэтых перабівае. Вот. І ўсякія бываюць: і мужчыны бываюць, і жанчыны. У Луччыні, тут дзярэўня тожа была. Мужчына эты, ад кароў што адбіралі малако, мужчына сам даваў малако, эту, ваду, штоб малако вастанаўлівалася.

Втары тожа во так вот ад зьвіху, ад спуду даваў, мужчына тожа. Но яны стараверы, яны стараверы, там яны ў нас у дзярэўні жылі. Ну іх цяпер ужо, этых мужчынак, нету. У Луччыні, стараверы яны ў нас тут жылі. Уся дзярэўня. Ну а цяпер дзеці, ўжо не ўмеюць.

Знаеце, пра аднаго гаварылі, што ён мог і паддзелаць. Вот, гаворыць, есьлі ён паедзіць у сваты, хто папросіць яго сватам быць, вот. Гаворать, пойдуць эту дзяўчыну сватаць, хоць яна, гаворать, і не хочыць, но ўсё раўно пойдзець за яго. Настока знаў што-та. Вот эта точна было. Вот.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 993. Пра дзеда, які не баяўся змей

Ну я вот жыў у Клімаўшчыне, там жыў старык адзін, ён загавор знаў змяіны. І есьлі ўкусіць змяя, ён загаворыць, вадзічкі здзелаець, разы тры

вадзічкі пап’еш… Браў іх у рукі. І браў у рукі, ён… а чаго ён будзець баяцца, есьлі ён загавор ат іх знаў. У яго сын быў самы пасьледній. Ён сына хацеў наўчыць. Сын ягоны як заругаўся два разы ў Бога. Так ён і ўсё. Сказаў: “Гэта табе не пайдзёт.” Гаворыт: “Ты не нічога не паймёш”. Вот… Первая ў яго дачка была старшая, тожэ яна ругацца сільна ўмела, па ўсякаму. Трэба, каб чалавек верыў Богу нямнога. Во так во.

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Іванова Аляксандра Пятровіча, 1935 г.н. у в. Антонава Верхнядзвінскага р-на.**

### 994. Знахар і чараўнік Максім

Як яго звалі Максім, мусіць… А тады гэта ў нас адна карова здохла, дзетка. Няхай сабе крэпка жылі, але ж яго ж усё нада было нажыць. І другая, і трэцяя. А што дзелаць? Тады тату падсаветавалі ў гэтым, ай як яе называюць, не ў Загор’е, а там за Загор’ем, і… забыла. Ну я ня помню як эта, тата ўсё знаў, што гэта, я ж малая была, і як ужо называлася тая дзярэўня. Тата паехаў к мушчыну, і паехаў, і ўноччы прывёз яго к нам дамоў. Прывёз ён уноччы, эта дзела нада тайна дзелаць. І ён што нада сдзелаў і лёг спаць. А мама ўстала печ тапіць. А тому чалавеку стала трудна. А той сусед, ну, мама печку топіць, прыбег, мая мама гэта, Анька звалі, а ён: “Дай жару.” Відзіш, жару. А нашто табе жар? Відзіш, мусіць, каб дала мама жару, дык і чары б не ўзялі, я так цепер вот панімаю, а тады ж малая была. Тады той чалавек падымаецца, які спаў, ды кажаць: “Я табе як дам жару, дык ты і дамоў не дайдзеш. Но я гэтага не хачу. Я хачу табе, – і сказаў, – атблагадарыць тым, чым страдаў твой сасед. Што ён табе здзелаў, што ты ўгробіў тры каровы яму?” Гэты пагаварыў і той пабег. Не дала, дзе ж мама жару дасьць! Каб ён тут канаў, мама б не дала! А ў іх карова здохла. Во. Дык вот у нас тры, а ён здзелаў, спасіба, памог. Ну, тата заплаціў недзе мясам, мы добра жылі, і хлебам, тады і хлебам плацілі. Дык ты падумай. А каб тата ня з’ездзіў, можа і жыў бы тады як старац. Во. Нехта падсаветаваў яму. Людзі такія былі, гавораць, даўней такія…

**Зап. Бабіч А. у .2008 г. ад Герцык Таццяны Васільеўны, 1922 г.н. у в. Залужэнне Ушацкага р-на.**

## ДАЛМАН

**995.** А чорт іх ведаець, тых чараўнікоў. Мне зрабілі, што пад угол парасёнка палажылі, дык у міне каровы здыхалі. Тады ездзіла я да Далмана, і ён сказаў, дзе яйцо закапана. Во стары выкідваў навоз і раптам парасёнка знайшоў, і сабака яго папёр. Людзі мне казалі, што нада было яго спаліць. А тады мне цыганка дала вады, і Далман даў, сказаў: “Купляй карову, увадзі ў хлеў”. І ён сказаў, што табе пад баком бабка зрабіла. І праўда, су-

седка мая, бабка, чараўніца была. Казалі, што ў яе дзежка была абернена, а там косці ляжалі і свечкі, яшчэ цадзілка была, нажы...

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Латышонак Соф'і Восіпаўны, 1923 г.н. у в. Латышы Глыбоцкага р-на.**

**996.** Чула, я сама ў Далмана, у сына ўжо, не ў яго, не ў старога, а ў сына брала вадзічку. Ён дажа і мыслі знаў, усё. Ну, а стары Далман дык вабшчэ… Мамка ўжо ездзіла, я б можа большая вырасла. Ён сказаў мамцы, што запозна: "Яна не калека нічога, но, – кажа, – нада было раньшэ ей вадзічкі, ужо мне прыехаць". І тады ж ён быў гэткі сільны, усё знаў. Я тапілася, і вот у нас была кладка, там мост, як пойдзеце, увідзіце, як у тое Мнюта. І ў ніх чэраз кладку са школы ішлі нехта, папру з яе і я над самым разводдзем і пашла на дно. Добра, што там такія эці каменныя, ну мост разбамбілі ж вайной, усё, і мяне прыціснула і я ужо помню, ну усё, мне ўжо ўсё будзе, сама тану, сідзя на дне. А адзін такі бальшы быў, большы, пасля вайны хадзіл ўсякія ў школу у 1 клас і 10 гадоў, і старшэ. І як мяне падкінула вада на верх, тады ён хваціў мяне за адзёжу. Я проста пацярала сазнаніе, белая такая ўся, кажуць, мяне адкачалі. Ну і после мне пад каленкамі ну так балела тут, як хто вот мяне связываіць чым. Я кажу: "Мамка, спасай жыллё гэта". Я тру і тру – гэтак не магла. І вот я пасля гэтага іспуга недарасла. Мамка ў мяне не бальшая тожа была, але ўсё ж большая за мяне. Вот мне на рост паўліяла. Мамка паехала да Далмана, ён сказаў, што яна ў вас не калека, нічога, но нада было раньшэ прыехаць.

Ну а сама я ўжо ездзіла як, мне галоўка балела, я думала: "Божа мой, ці знаіць ён што ці нет?" Вот так падумала. Як ідучы, ну бацька (Далмана) нешта знаў, а ён? Ну еду так: ці паможа? Значыць, пад хату я прыйшла – людзей жа многа-многа. Ён сразу мне ў акно первы паказаўся і мяне первую прапусціў. Сказаў: "Вот эта жэншчына, хадзі да мяне на прыём". Ну бутылачку вады там паставіш, усё, надпішаш: імя сваё, год раждзенія, ну і тады ўжо выходзіш. Ён набярэць, многа-многа бутылачак, на стол паставіць. Ну, а тады што ён там робіць? Моліцца ўсё. Тады после ужо захадзіце. Ну і заходзіш. Грошы ён не казаў колькі – колькі дасі, а ад некаторых, знаў, што саўсім бедныя, што няма. Гаворыць: "Не нада мне грошаў". Раз і ад мяне не ўзяў. Не было тады грошай, а ён кажа: "Не нада".

А яшчэ пра старога Далмана расказвалі. Дык кажуць, адна бабка паехала і там пашкадавала масла ці сыр, што там палажыла пад нейкі пянёк ці што. Ён тады даў ёй вады, стары гэты, нічога не ўзяў, і кажа: "Бабка, што ты палажыла, да мяне не данясла, ты там і не найдзеш". Кажуць, ён напусціў мурашак ці што, дык яны ўсё гэта паелі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

**997.** Езьдзілі для Соні, знаеце, майго мужа сястрэ. Была паралізована і мы езьдзілі ёй за вадой. Я езьдзіла. Ну яна нямножка хадзіла па хаце. Да самога ездзілі. Гэта даўно было. У яго калодзец ёсьць, у калодца набіраем ваду ў бутылкі, пішам імя. Ён забіраіць гэты бутылкі. Мы сядзім у другой комнаце. Ён выходзіць – у яго там іконы – і завець аддаваць бутылкі. У яго там усё закрыта, мы ня відзім, што ён там робіць.

А пра яго водзавы добрыя. Мая дачка жывець у Ленінградзе. І я ехала з Ленінграда, і вот людзі са мной загаварылі і гаворраць: “Гэта Глыбокае, а Расія ад вас далёка. Далману вязём рабёначка. Да яго аж з Ленінграда едзем, – гавораць, – ён у вас знамяніты такі. Усе гавораць, што ён так спасаіць. Гэта праўда ці не?” Я ім тады кажу: “Не магу вам сказаць, у каждага балезьнь свая. Но людзі едуць к яму”.

Мы, як езьдзілі, а ў яго такая очарэдзь! Мы кагда прыехалі, там очэрэдзь такая. Народу пално. Ну, ён выходзіць і спрашваець: “Хто на поезд?” К поезду атпускаець у первую очэрэдзь, а хто прыехаў на сваім транспарце – позжэ.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Сакалоўскай Марфы Канстанцінаўны, 1928 г.н. (нар. у в. Сідары) у г. Глыбокае.**

**998.** Калі я яшчэ была маладая, Дзіме было паўтара года, і ён ў мяне не спаў ноччу. Ускрадзецца і куды-та ляцеў і яго лавіла. Вочы такія, вельмі шырокія зрачкі. Я вельмі напугалася. Я там жыла недалёка, працавала на сяле, калі замуж выйшла. І мы селі з мужам і паехалі да Далмана.

А людзей было! Ой, многа! Дваццаць пяць – гэта мала. А што людзі, бывала, і начуюць. А там очарадзь і цябе не прапусьцяць без чаргі, асобна. Ёсць жа людзі, якія прапусцяць і якім ехаць далёка. І прыходзіцца сядзець. Там ёсць спецыяльная каморачка, яна была прыспасоблена для гэтага: дзіваны стаялі, каб людзі маглі адпачыць, каб садзіліся і чакалі сваю чаргу.

Ужо вадзічку панабралі, панапісвалі колькі чаго, і я пісала, што Дзіма завуць і сколькі яму гадоў. І мы зашлі і ён запытаўся: “Вот ты, такая маладая, што ў цябе з тваім сынам?” Я яму дажэ нічога так казала: “Ня ведаю, вот ён тут кідаецца”. Пaглядзеў на гэтую ваду і сказаў, што гэта не беда, будзе спаць сем дней, як ты папоіш яго гэтай вадзічкай. З тварыка ўсё павінна ісці на ніз, каб у зямлю выходзіла. І вот я яго паіла. Вечарам адзін раз змывала і тры глаточкі павінен быў выпіць. І калі ён пазнаў, што мы з вёскі Сокалава: “Ой, са сваіх я не бяру”.

Я была ў яго адзін раз і глядзела на яго. Вот твар такі – чалавек бачна, што ён нягэткі, як усе. Хоць гэта было даўно – гадоў дваццаць пяць назад, я смутна помню. Помню, бо Дзіме ўжо дваццаць дзевяць. А во твар вось такі. І чалавек такі, як мы, але выразнасьць у яго трохі не такая. Такі без барады, высокі, абыкнавенны такі мужык. Толькі ў ягоных вачах нешта

такое. Ён памагаў толькі добра. Ён жа трактар купіў у калхоз і ў школу. Я разумею, што ён тых людзей, якія былі з чорнай сілай… Ён такіх людзей не прымаў і чуствоваў, што прыйшоў у ва дварэ дрэнны чалавек. І ён яго адсылаў сразу, настолькі чуствоваў, што выходзіў на вуліцу. “Вот ты ідзі, і я табе блізка нічым памагаць не буду”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Нікіфаровіч Наталлі Уладзіміраўны, 1935 г.н. у г. Глыбокае.**

**999.** Ён надта памагаў. Я і да старога ездзіла. Ён быў як чарнакніжнік, усё на свеці знаў. У нас адна баба ўзяла два сыркі і там масла, яму ўжо панясець. Паехала вады. Яна сама расказавала. Кажаць: “Ай, адзін астаўлю, адзін яму – ужо хваціць. Павесіла той сырок на дрэва, там жа кала яго дрэвы стаяць. Ён даў ей вады, яна кладзець яму гэтай яды. А ён кажаць: “Бабка, забірай, бо гэнага німа, што ты павесіла. Ужо з’елі птушкі”. Казала, мне стыдна. І ні ўзяў гэтага. Яна пашла, аж там і праўда – усё з’едзіна, толькі трапка баўтаецца. Яна сама расказавала. Ён усё знаў.

Наша дваюрадная сястра памёрла. А тата паехаў ёй вады, а яна памёрла. Тата просіць вады, што дайця вады, што гэткая хворая. А ён: “Яе нет, яна памёрла”. А тата просіць: “Ну дайця”. Дык ён даў. Кажаць: “Я на вецер замоўлю”. Прыізджаіць тата, а я адна дома, а нашы ўжо ўсе ў пахаронах. Кажаць: “Ні даў вады, што памёрла. І праўда ж памёрла”. Дык во за скока знаў.

Людзі гаворуць, што ён так усё знаў. У яго ў калодзежы вада замоўленая. Ён калодзеж замовіў. А там жа ж сын і сістра. Ой, памагаў. Ён не скажаць: “Табе падрабілі, табе зроблена”. Казаў так: “Паможаць Бог – і я памагу”. Я многа разоў к яму ездзіла, і сабе, і людзям.

Сяргей – эта сын. А бацьку ні знаю. У нас была адна, яе бацька хрысціў, сам Далман. У святы ён вады не даваў. А так абыкнавенны быў, жанаты. У яго жонка была дажа з Вільні. Пэўна, літоўка. Зато што яна была палячка, яна яго аставіла і сама паехала ў Вільню. Адзін жыў. І сын у яго быў, прыязджаў сын. Казалі, што жонка і з ім абшчалася, а жыць тут не жыла. Кажуць, яна на людзей так: “Га, што вы тут!” Тады ж міліцыя ганяла, прэзірала. Ганялі, а людзей жа поўна. Людзі едуць, рады німа. А ён абыкнавенны. Аж з Баку к яму прыязджала нейкая, дужа спужалася. Нейкую прывазілі, што і астаноўку пастроілі ля яго. Была саўсём лішана і рук і ног, усяго. Прыязджаў бацька сюды за вадой. А ён сказаў, каб прывязлі сюды яе. Ён яе прывёз, два разы прывазіў сюды. І яна была вялікая начальніца, у Маскве, гэта баба, ейная матка. Вот як ён вылечыў дачку іхную, тады тут пастроілі астаноўку поезда лі яго. І ні сталі яго... Ато яго і спалілі былі. Усёрна ён атстроіўся. Дужа ганялі. А як вылечыў начальніка дачку, тады і міліцыя атвалілася, і астаноўку пастроілі.

Ён нікому не атказаваў. Тады кажаць гэдак, нада два ці тры разы каб прыехалі. А калі не яго лячэньня, скажаць: “Абрашчайцеся к врачам”.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

**1000.** Ну, як у мяне быў гэты парапсарыяз, і я паехала да Далмана, тут быў Далман такі за Глыбокім. Ён пераехаў цяпер, ну ў яго быў калодзезь, гэта ціпа там была такая вада святая. Ён лячыў людзей. І вот муж на машыні рабіў, ён мяне выхадным днём павёз у Глыбокае. Прыязджаім, а там у яго шмат людзей, нават і з юга прыехаўшы, здалёк, з южных рэспублік былі гэтыя людзі. А ён кажаць: “У мяне абедня, і я ў абед пака што не даю. Вам нада было ехаць у будні дзень”.

А я сяджу пад іконай і думаю: “А колькі яму заплаціць? Колькі грошай даць за то, што дасць вады?” І тады ён падыходзіць і мяне першую завець і кажаць: “Грошы мне тваі не нада”. Мыслі мае прачытаў пэўна. “Грошы мне твае не нада”. І тады даў мне вады, і сказаў як яе, чаго прыехала папытаў, чаму не лечыся ў дактароў. Я гавару, што лячыла, не памагаіць. Сказаў, што перад васходам сонца і после захада, і ліцо, і рукі, і ногі нада было, і я ўжо трошкі забылася, ну змываць нада было. І выпіць трохі.

А ён так, як сказала, паглядзеў – у мяне пад нагцямі нават былі болькі. Уся была. Уся, ўся, ўся ў сыпі такой, яны цяпер у мяне такія ёсць чорныя пятнышкі і белыя па руках. Толькі ліцо трошкі не так і сверху далоні трохі не так. Дык я гэту ваду ўзяла ў Віцебск, у бальніцу. І я не ведаю, ці мне доктар памог, ці мне Далман памог. Вот. Я не ведаю. Я там гэтай вадой змывалася, рабіла ўсё. Доктар, праўда, тожа быў такі ветлівы, і ў яго бацька тожа настаўнік пачатковай школы, а тутака ён тожа работаў, гэта ўсё.

Сказаў, як не паможаць, ішчо раз прыедзь. Толькі так. А мне, як я паліжала, у мяне ўжо пачалі знікаць гэтыя болькі, выпісалі мяне. І не паўтарыўся ж надта, я ў школе рабіла. І гэта даўно было.

Памагаў Далман, ведаеце, памагаў. Ну мне дык можа і Далман, таму што вот цяпер мая ўчэніца ў Тумілавічах – псарыяз. Ніякі врач не лечыць. Гэта невылечымая хвароба. Тут адзін у Сценкі, тожа быў. Ён з Маладзечна, у яго бацька з Маладзечна. Тожа псарыяз, пашоў на органы, на внутрэннія органы – і памёр. Не памагло. Дык можа і Далман?

Я ж паехала тайна, таму што я работала. Настаўніца, скажуць, а верыла ў Далманаў жа нейкіх. Дык ціха паехалі.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Марковіч Галіны Францаўны, 1934 г.н. (нар. у в. Вярэнькі) у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

**1001.** У мяне прычына была, мая сястра ў Латвіі жыла, ну яна прыехала сюды. А Далман быў ужо па ўсім свеце быў чуваць, что ён гэты, зна-

хар, чарнакніжнік ён. Ну вось яна прыехала яна ўжо к Далману, што ён скажыць. Ну вось паехала я. Дзярэўня Верацеі і хутар тожа Верацеі зваўся, на хутары жылі. Сабралася нас чалавек можа 15, можа 16.

Ну яна (гаспадыня) сабрала нас, а тады прыходзе і кажа: "Запісачкі запісваеце: імя бальнога і балезнь, і ў гэту запісачку кладзіце грошаў, хто колькі можа". Не вымагалі – хто колькі можа. "А тады я прыду, усё ў вас забяру". Вот яна прыйшла, усё у нас забрала, а тады кажа: "Там пад бярозай крыніца, ідзіце бярыце ваду ў крыніцы, толька да всходу сонца, каб людзі не відзелі, што людзей многа бяруць ваду. А ён будзе сядзець і сваю кнігу чытаць чырнакніжную". Ну, а сам у гэтай кнізе на кожнае імя буквіны будзе шчытаць, ну вот і на гэту буквіну можа Ліза, Ліда, яшчэ там можа. Ну ён толькі на "л" бярэць. Знаеце, а прыехала я там, прывязла гэту ваду, а яна сказала, каб абліваўся ён тамака, і піў. Дак за нядзелю і нага, і хадзіць стаў, і ўсё, усё прайшло. Дужа лячыў. Ён памёр, а сын замяшчае яго. Ну, ад сына, хто ездзіў, ім не нравіцца. Можа ён не тое робіць.

**Зап. Аўсейчык У. і Лобач У. у 2009 г. ад Хілько Леаніды Рыгораўны, 1926 г.н. у в. Бірулі Докшыцкага р-на.**

**1002.** Я ў яго, у Далмана не была ніколі, а чуць – чула. Што Далман лячыў сільна харашо. Вот і нам папка расказваў, мы тады яшчэ малыя былі. Карова захварэла, і ён да Далмана паехаў. І бабка адна там ехала з ім і вязла яму сыр. І тады думае: не павязу яму гэты сыр, і схавала пад скамейку і пайшла. Вот бацьку ён тады вады даў, а на бабку кажыць: "Як паедзеш дамой, забяры свой сыр, што пад скам'ю паклала". Во, як ён панімаў! Ён дапамагаў добра людзям, пакуль жыў, а цяпер ён памёр. Сам ён не браў ні капейкі. Мы самі давалі, ну, бутылку з вадой ставіў і, хто сколькі мог, грошай лажыў.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азаранка А., Красько Г. у 2008 г. ад Шэнды Ядзвігі Валер'еўны, 1943 г.н. у в. Германавічы Шаркаўшчынскага р-на.**

**1003.** Езьдзіў мой сусед… Калісці жыла я ня тута, а жыла я ў Жукоўшчыне, а мой сусед Касалеўскі Мікалай езьдзіў да Далмана, яго бацька хворы быў. І паехаў да яго за парадай. Ён прыехаў, а ня хоча даваць яму Далман ваду: "Не нада табе вада, едзь дадому". Ён просіць, а той не дае яму вады. Ён прыехаў да дому, а бацька ўжо ўсё – нябожчык, памёр бацька. Ён тады зразумеў, што Далман ўсё знаў, ведаў, што бацьку ўжо нічога ня трэба.

Ну, тады яшчэ ў нас такая была, я не ведаю, но ў нас хадзіла такая пагаворка, што бабуля ехала да Далмана, і вось вязла яму падарунак, а тады падумала: "А ён багаты, не панясу яму". І недзе ў кустах схавала. Ну ён ёй даў вады гэтай, вось, і тады кажа ёй на развітаньне: "Ты ж не забудзь тое сала, што ў кустах схавала". Вось. Адкуль ён ведаў, гэты Далман?

Ён жыў далёка адсюда, но к яму там ехалі з усяго Савецкага Саюза. Спецыяльна зрабілі астаноўку… Гэта станцыя перад Навадруцкам. А астановачку зрабілі на Верацеі. Ваду бралі ў калодцы, там калодзеж, самі ваду набіралі, вось. У мяне з сынам праблемы, я сама ездзіла туды. Яна грошы ў мяне не ўзяла, тады дачка лячыла. Дачка лячыла, і сын лячыў. Дачка не ўзяла ў мяне грошы, сказала: “Купі цукерак хлопчыку лепш на гэтыя грошы”. Не ўзяла грошы. Ну, а так людзі і грошы вязьлі, і прадукты нейкія.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Данільчанка Я., Рыбакоў І., Азаранка А. у 2008 г. ад Райчонак Ады Элеўны у в. Германавічы Шаркаўшчынскага р-на.**

**1004.** Далман быў, памёр ужо. За Глубокім сын яго. Адна дзеўка была ў Глінным, і з ёй малец дружыў, а матка не хацела каб ён з ёй дружыў. Ну тады яна што – з’ездзіла вады да таго Далмана ці куды і абліла гэтай вадой яго з ёй. Ну і яны ўжо не сталі абшчацца, дружыць не сталі. І ёй зробіла гэтак беднай, што жарой у валінках хадзіла, і яе холад гэтак біў маладую. Тады яе матка паехала к Далману, ён яшчэ жывы быў, сказаў, каб самую яе прывезла. І даў ей Далман вады гэтай і сказаў, каб рана выйшла і разбіла бутылку, каб яна на ганку разбілася, на крыльцэ, а яна будзе ж першая ўставаць, гэта баба, што падробіла, і пройдзе па ім, і саму яе спарліжуець і ваабшчэ да гроба жызні.

Нада было цераз хату, кінуць цераз хату, цераз крышу каб гэта бутылка на крыльцэ разбілася. Ну і, канешне ж, пайшла яна. Ну і, кажыць, гэтак удалося, як кінула – толькі бах – на крыльцэ. Ну і ўсё, гэта баба як захварэла і памёрла, а гэта маладая засталася жыць. І стала замужам.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Кісель Соф’і Мікалаеўны, 1933 г.н. у в. Двор Пліна Ушацкага р-на (ураджэнка в. Шалагіры Докшыцкага р-на).**

**1005.** Я ж сама з Глубокага родам. Я знаю, адна жанчына пайшла да Далмана, узяла два сыры, масла – яму ўжо. Але, кажыць, мнагавата, узяла там пад мост і падвесіла адзін сыр. А там мост пераходзіш – і сразу да яго на пагорачак. А ён гаворыць: “Бабка мая дарагая, – вот жа знаў, – забяры ты гэтат сыр, мне нічога не нада, я ж ні ў кога не прашу і не забіраю, а вы забярыце і скушайце, што пад мост падвесілі”. Вот, дык яна аж траслася, як ён угадаў.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ляновіч Таісы Уладзіміраўны, 1938 г.н. (нар. у г. Глыбокае) у в. Мётлы Полацкага р-на.**

**1006.** Ну вот як Далман быў, к яму ездзілі вады, ён, значыць, ад пуду даваў, ад ветру. Дык ён, кажуць, памагаў. І дажа ён знаў… Тут у нас адна жыла, дык яе братавая вясной цялушцы вады… Ну і ўзялі яму зробілі сырчык, сыр свой. Падыйшлі яны к полю і масток там нейкі, ну і пагукалі, што

бедныя з вайны, ня будзем яму аддаваць, яшчэ яны нешта яму няслі, а сырчык той паложылі пад масток селі і з’елі. Дык ён пазнаў і кажыць: “А чаго ж вы яго не прыняслі?” Дык адной даў вады, а другой вады не даў. Нешта ж панімаў, ня відзіў, не знаў, а па іх вот распазнаў што нядобрыя людзі, ня з добрым намярэннем прыйшлі.

Да яго прыйдзеш, ён кажыць: “Ага, гэта табе ад ветру”. Бутылку каму, толькі імёны ставілі. Стаўляеш гэта карове, гэта там Івану, гэта мне, ну і ўсё. Карове ён намовіць, а гэта скажыць – яму з ветру. Ну адаронны быў, у яго кажуць была, як даўней звалі, чарнакніга.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч М. І. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

**1007.** Далман, ну ён жа ад усяго памагаў. Ад ветру. Ай, да яго ехалі і ехалі! І калі хто каму падробіў, мая мама наконт каровы ездзіла – усё ведаў, усё Далман ведаў. Мама паехала, у нас две было каровы, а ўжо па адной карове паехала, якая забалела. А ён будзе ў мамы спрашваць – а якой жа паўсці другая кароўка? Ну, дык мама і сказала; ну і пакуль мама дамоў, дык і карова паправілася, стала жвачку жваць.

Ён знаў. Праўда! Праўда-праўда! Баба, кажуць, ішла, сыр несла, два сыры несла. Адзін, кажуць, пад мастом схавала, кажа: “Досыць яму будзець!”. А ён кажа: “Бабка, твой сыр сабакі паняслі!” Знаў, знаў! Што знаў, то знаў. І добра ён разбіраўся ў гэтым дзеле. І кажуць, зараз сыны ў яго, ці, можа, яшчэ хто ёсць.

Во, а Васілёнак, ён ж не хрысціў дзяўчынку, а ў дзяўчынкі быў прыпадак. Куды ён не вазіў гэтую дзеўчынюху, а ніхто не памог. Паехаў да Далмана. Ён запытаўся: “Хшчона?” Кажа: “Не”. – “Абахсці, і тады дзяўчынку прывазі”. Абахсціў і дзяўчыну вылечыў. Гэта вот дзействіцельна праўда, у Васілёнка, у Алега. Ну, а той аграном, і нельзя было хрысціць. Ну, аграном – гэта само сабой, ну дык ён жа быў парцейны. Камсамол, партыя...

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Красоўскай Тэрэзы Вікенцеўны, 1939 г.н. у в. Вінцэнтова Шаркаўшчынскага р-на.**

**1008.** Бабы гавораць, што хадзілі аж да Далмана, такі жыў, далёка. Там Далман людзей лечыў і кароў лечыў – усіх лечыў. Ідуць да яго, нясуць яму масла, яйкі – даўней жа дзенег не было, і думаюць: “А можа многа будзець?” Возьмець, паложыць пад мост, схавае, палавіну занясець. А ён, мужык, не знаю, цяпер нет такіх людзей, наверна, ён гаворыць: “Што ж ты, нясла, нясла, ды палажыла пад мост – усё адно сабака з’еў”.

Ён даваў ваду ад гэтых усякіх. І тады вот (я не помню гэтага, так вот тут расказваюць) за ракою баба такая была, што малако адбірала. Ну, са-

браліся, і адна паехала да гэтага Далмана, і расказала. Ну, Далман кажа: “Што ёй дзелаць?” – “Ай, ну што ёй дзелаць? Хай яе ваўкі з’ядуць!” – “Ну, добра, хай ядуць”. Цераз колькі баба гэтая шла – парваў воўк. Ну, гэтак..

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рубніковіча Усціна Браніслававіча, 1930 г.н. у в. Курылава Шаркоўшчынскага р-на.**

**1009.** Ну, быў нерв, нерв шатаўсі саўсім, кідала мяне, вадзіла па дарозе. Вось іду, у мяне там дачка жывець, дарогая шырокая, а мне не хватала дарогі, мяне цігала, вот так во вадзіла. А тады бацька паехаў туды. І прывёз вады, і тада я, ну, не сразу харош стаў, гэта ж нада врэмя. Можа я за месяц ужо і харош стаў. Тады сам паехаў. А ён кажыць: “Знаю, чаго прыехаў. Лепей, значыць, стала”. І даў яшчэ вады мне. І кажыць, болей ты не прыедзіш. Вот і ўсё.

Ён сільный, сільный, нет на свеце сільнейшых. Ён як Бог быў, шчытаўся Богам. Вот глядзіш яму ў вочы, і так, вродзе бы, як бы цябе так паднімаець, як вот малога рабёнка падшухваець. Ён не дурыў. Яму б грэх быў, бальшы грэх быў, есьлі б ён дурыў. У яго ад Бога сіла. Ну, ёсьць ксёндз, але ж ён толькі начытываець, ён начытаны, як вучыцель, гэта ж начытаныя людзі. А гэта вот, гэтакіх ужо няма. Была ў яго дачка, але не. Я не скажу, я да яе не ездзіў, можа і яна памагала, ён жэ наўчыў яе.

Суседку паралезавала ці што. І мужык паехаў. Раз з’ездзіў, другі, а тады ён кажыць: “Ты дамоў прыедзіш, а яна будзіць табе бліны пячы”. Гэты чалавек ня верыў, але точна. Далман знаў, што ты прыедзіш. Але не падрабляў, яму нельзя. Ён можыць што хочыш з табой зробіць, але яму гэтага нельзя было. Вот ён на вадзе паказваў чалавека, хто падрабіў. Вот ён пакажыць, але рабіць нічога ня будзець. Гэта сільнейшы чалавек быў у міры.

А чары – гэта болей ідзець ад баб. Мужчыны што, будуць з каровай тваёй што робіць? Усё бабы. Яны і цяпер ёсць, то сметану адберыць, то яшчэ што. А як узнаць… Ну, апрыдзіляюць па наследству. Ну, вот там бабушка што дзелала, ці яшчэ хто. Яны болей перад Янам робяць. Я раз помню, у мяне карова была, а адна баба, яна памёрла, раніцай, расой, а яна ўжо лётала па траве, шукала за хлявом на Яна. Вот нешта ж робіць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арлюкевіча Казіміра Антонавіча, 1935 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

**1010.** Далмана ўсе на свеце зналі. Ой, ён харашо, ён есьлі не паможаць, ён кажаць, што не памагу, не так як тая пагостская, што… Ён сільна панімаў. Я ж кажу, ён жа ж ні знаў, што я ў бальніцы, адкуда ж ён знаў, там жа ж ніхто яму не сказаў, як мне было ногі атняўшы. Не знаю чаго і с чаго, атняло ногі і рукі, і рукі пад сябе во так во, не магла ні валасоў зачэсаць. Маме сказалі, мама прыбегла, бедная, тады маму вывелі з этай, з палаты,

што кажуць: “Не нада плакаць, можа, атойдзець”. Ну, і паехала бедная да Далмана. Ну і сказаў, што: “Вашу, – кажаць, – дочку, – гаворыць, – ў бальніцы лечаць. Врачы нехай лечуць. Калі, – гаворыць, – ня вылечуць врачы, тады, – гаворыць, – прыедзіце”. Тады, дзякуй, вылечылі. Дык тожэ шэсь месяцаў атлежыла ў бальніцы.

Ой, гэны ўсё знаў! А адкуль знаў, Бог яго знае. Ну, чарнакніжнік. Такі маленькі, бародка такая. Я помню, я была на кварціры у бабкі, ну і карова, гэта самае, зарвалася насуха, трэцім цялёнкам была, малодзенькая. Ну яна, бедная, куды ня ездзіла, да врачэй хадзіла, ну прыйдуць врачы… Тады яна кажаць: “Дзетка, йдзі…” А я шчэ ня знала, ён там на хутары жыў, у кустах такая хатка маленькая. Ну, а я не знала, дзе гэты Далман. Ну, а тады разгаварылася, людзі ехалі, ну і я паехала. Прыежджаю, а ён сразу сказаў, што: “Вы, – кажаць, – не сабе ваду бераце”. Я кажу: “Не мне, – кажу, – бабке”. А ён сказаў, што: “Знаеце што, – кажаць, – ніхай кароўку здаець, ёй, – кажаць, – здзелаўшы. Вот. Ей паддзелана”. Ну, я прыехала і сказала ей, што кажу: “Чо ж, – кажу, – бабушка, здавайце кароўку гэту”. Ну, яна там знала, хто ей падробіўшы. Ён і сказаў, што саседзі зробілі, гаворыць, саседзі. Там такія Мусуры, іх звалі Падлобістыя, такія і праўда яны на людзей не глядзелі. Ну, і так яна бедная і здала гэту карову. Памагчы не змог. Мусіць, удаўнеўшыся ўжо было.

Вот я тады первы раз яго ўзнала. А сын яго сразу каля дарогі, каля жалезнай дарогі, такі дом харошы, сразу с поезда і сразу дом. Сын ужо памёр. Ну, але сын, казалі, такі ня быў, як бацька. А бацька дык вабшчэ быў. Такі росту невысокага быў. Там далёка йсці, кілометраў шэсць, наверна. Я йшла, йшла па жалезнай дароге з бабкамі. Паўміралі ўжо це…

Ну, расказывалі, што ён ўсё знаў. Кажуць, што пагаворыш дома – і тое знаў, што дома пагаворыш. Эта ён панімаў. Знаў ўсё. Я ж кажу, брат гэнан Нікандра, дзе забіў сваю гэту сястру, ён жа воўсе не знаў. Ну. Дык Далман сразу сказаў, што: “Я табе, – кажаць, – і вады не дам, ты, – кажаць, – родную сястру сваю забіў”. Ну ён і так здзікаўся над ёй. Адзін раз, помню, прышла да мамы, а ў яе віламі пальцы прабіты, тут паміж пальцаў, біў ён яе сільна ў школі, а тады саўсём забіў. І сразу сказаў Далман: “У цябе, – гаворыць, – пятух і той здох пад пахай”. О! Во дык чалавечак быў! Ну, чарнакніжнік. А ён тады, як я ездзіла, дык стараненькі быў, я ж тады была маладая яшчэ. Тады служыла ў яго служанка, была яшчэ. Хатка такая небальшэнькая была…

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны (нар. у в. Навасельцы), 1936 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

**1011.** Адбіралі ў нас тожа самае. Мы там вось жылі, за ракой. Вунь кладбішча, кусты такія бальшыя за ракой. Мы вось там жылі блізенька,

возле таго кладбішча, блізенька. І вот ішла адна жанчына на кладбішча, а наша кароўка хадзіла, у нас там лужок такі маленькі, і хадзіла навязаная. А жанчына гэта ішла і с унучком са сваім на кладбішча. А я як раз была на вуліцы, гляджу: яна як ішла, яна на нашу карову аж так во адварачвалася-адварачвалася, так во ўсе адварачвалася. Прыхаджу ў хату, а я жыла з бабушкай, кажу: "Бабушка, ішла гэта жанчына на кладбішча. Так яна на нашу карову глядзела, так глядзела". А яна кажыць: "А, мая ты унучачка, не добра гэта будзець. Я знаю, – кажыць, – гэту бабу".

І што ж, ужо карову ў хлеў запіралі, у сарай, яна як ішла, гэта карова, яна не глянула нікуды і прама ў хлеў і кулік-кулік – сразу так кульгава пайшла ў гэтат сарай. Я тут бягом да ракі, лодка ў нас была свая, цераз рэчку пераехала да папы да свайго, кажу: "Папа, наша кароўка забалела". Я расказала яму, што ўжо ішла гэта баба на кладбішча і яна сапсула гэту карову. Гэта мы ўжо зналі, што яна можыць гэта зрабіць. Ён на веласіпед і прама аж у гэта самае, у Верацейкі, там вот пад Глыбокім. Там вот гэты Далман, і ён туды паехаў да Далмана. Вот ён туды прыехаў, расказаў яму, і ен гаворыць: "Ну, добра, я табе вадзіцы дам, але я табе па ветру загавару. Пакуль ты прыедзешь, ужо кароўка падымецца".

Ну, а вядома ж, я маладая і хацелася спаць. А бабушка ўсё і ноччу пойдзець паглядзіць: ляжыць тая карова, не кранецца. Не падаілі мы яе нічога, не ўстала ані. А тады ўжо загаварыў ён па ветру, тады ўжо прыходзіць яна з хлява і кажыць: "Ай, мая ўнучачка, ужо наша карова паднялася". Ну, а тады ўжо утрам папа прыйшоў, прынёс вады. Мы там яе смывалі ужо і піць давалі, ну, і кароўка наша палепшыла.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Суднік Таісы Васільеўны, 1935 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

**1012.** Вот на Купала чаравалі кароў. Вот. Мая бабушка расказвала, я ж тожа ня помню, вот ужо як как на Купала, на Яна, з Купала на Яна, утрам ніхто рана не вывадзіў кароў – баяліся, што чаравалі, нацягавалі вяроўку чэраз дарогу, усе каровы пераходзяць праз дарогу, а хто зачараваў, таго карова ня пойдзець чэраз вяроўку. Тады ругаюць ужо гэтага, знаюць, хто чараваў карову. Умелі ж яны неяк падрабляць там, чараваць умелі яны. А былі, што і памагалі.

Гэта вот у нас такі быў даўно такі у Верацеях Далман. Ён вот гэта, памагаў ён. Ну, ён ужо даўно умер, тады сын работаў (лячыў людзей) – умер, тады сястра работала. Ён толькі лечыў што: упуд, падробы, зоб лечыў, ну і ён мог зрабіць, калі ў сям'і нялад, ён мог зрабіць харошую жызьнь. Вот. Ну ён тожа кароў лечыў, людзей лечыў. І вот прыйдзеш да яго, і ён скажаць з чым ты прыйшоў. Знаў. Ага. Знаў. Тады ён ужэ як перад смерцю перадаў сыну, сын работаў. Далман быў, ну такога срэдняга росту быў ён. Ну ста-

рычок такі ўжо быў. Як стары, ужо сівы быў. Патом сын ягоны, як ён умер, сын такі быў Сярожа, вот, такі салідны. Далман – гэта фамілія, а як звалі старога, прасьціце, я не знаю. Сына так я знаю, што Сярожа звалі. Вот. А як гэта самае, старыка, я ня помню як звалі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Зуй Ганны Васільеўны (нар у в. Васюкі), 1932 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

**1013.** А я ездзіла да Далмана. З чаго ездзіла? Мой унук прыйшоў з арміі, быў у Афганістане. І такі нервны быў, прама вот сам не ў сябе ён быў, кантужаны, ну нервны такі. Паеду, думаю, да Далмана да гэтага. Ну і паехала я. Там калодзец спецыяльны у яго. Ну, вады ўзяла, там бутылачку вады набрала, падпісала з якога года, як завецца ж на бутылцы. Я толькі ўвайшла, толькі дзверы адкрыла, так ён: "Што з вашым Дзям'янам?" Дык я аж спужалася, кажу: "Ну нічога ж, кажу, ён быў у Афганістане, – кажу, – там знаеце ж, як там "добра" было". Ён гаворыць: "Ясна мне, больш не гаварыце". Даў мне вады. Кажу: "А што болей раз яшчэ прыязджаць другі раз?" – "Еслі не станет лучшэ трохі, – прыязджайце". Ну палепшыла. І другі раз паехала. Ну другі раз паехала, можна было не ехаць, болей-меней, ну паехала. Ён [унук] цяпер Лукашэнку возіць каторы год. А Далман – харошы, прыветлівы чалавек. Грошы не вымагаў – хто сколькі дасць. Нічога не вымагаў.

Гэта я яшчэ была малая, а ў нас у Селішчах спужаная была дзяўчынка. Дзеўка, да. Дзеўчына такая ўжо была. Дык яна была здурнеўшы. Яе навязывалі, саўсем дурная была. Я к бацьку ейнаму і кажу бацьку ейнаму: "З'ездзі ты да Далмана да гэтага". А ён ехаў туды: "Ай, ці ж Далман паможа? Але ж паеду". Ну і паехаў. Прывёз яе да Далмана, памаліўся ён над той дзяўчынкай ну і гаварыць, каб другі раз прыехаў. Гэта дзяўчына паспакайнела. Тады другі раз прыехаў. Прыехаў, дзякуй Богу, і памог.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Бароўскай Надзеі Філіпаўны, 1922 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

**1014.** Быў Далман, Далман ваду даваў, Далман і ў калодзеш, цэлы дзень ваду бяруць і памагаіць, ён маліўся ў калодзеш. Так эта я скажу, што ён памагаў усім. Хто б ні абраціўся к яму, ніхто не астаўся ня вылечаны. Ён робіў толька добрае. Ён дажа свой калодзец быў у яго, і ён над гэтым калодцам памоліцца, ці ён вядро вады зачарэпнець, і тады эта вядро бахнець у калодзец – і ўжо ўся вада лячэбная. Ён маліцца многа малітвы, ні адну малітву ён моліцца, ад усяго ён моліцца, ён ужо быў начатаны, што ён маліўся ад усяго, і ён услух маліўся.

І я да яго ездзіла. Вот быў іспуг у племянніка майго, і я паехала, і ён сказаў сразу, што вам не паможаць мая вада, ён сразу паглядзеў на меня і

сказаў, што мая вада вам не паможаць. Ён плату не бярэць тады. "Мая вада вам не паможаць". Ён і плату тую адсунець. Зрачы быў, зрачы быў, за то, што скажаць вам, што мая вада вам не нада. Ну як там памоліцца, але скажаць, мая вада вам не нада. Ці то як хворы, чалавек уміраець, ці вот так чалавеку лячэнны ад яго нет, тады скажаць так, што мая вада вам не паможыць, едці куды, каб другі волас. Не каждаму ж адна вада і памагаіць, Вы думаіце, каждая вада памагаіць? Але гэты чалавек каждаму памагаў, а то ёсць такія, што ці мая вада не паможыць, ці цямнейшы валос, ці святлейшы нада, каб памагло, тады паможыць. Ат воласа завісіць. Ну гэта, хто даець ваду, і бываець рабіраецца ў этай вадзе, што даець, на маю ваду нада, каб цямнейшы волас быў, сільнейшая малітва тады.

Плату давалі, якую скажаць ён, а то бываіць, дак грошы яму клалі, бо ён нейкі падатак плаціў вялікі, бо ён дужа многа браў грошай, ён не так, ён плаціў падатак. Яго ніхто не запрашчаў, а людзі ш на ўстрэчу шлі, што лечуць, а чаго ж не дапусціць людзей. Даўныя людзі дужа зналі. Яны сразу і кажуць: якое забалеванне, хто ён ёсць і адкуль, паздаравеець ці не паздаравеець.

Памагаець, эта сматра ад мілітвы і смотра ад чалавека, што ён знаіць, тады сільнейшы той, хто знаець што гэтаму чалавеку нада. Гэта, каму Богам дано, не кажды, можа хто-небудзь і моліцца, но ні памагаіць, а гэта нада Божы дар. Добры чалавек будзіць лячыць, а злы чалавек ня будзіць лячыць. Нада мець стыд, совесць і жаласць.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Васілевіч Ганны Фамінічны, 1928 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

**1015.** Ужо ж Далман памёр. Ну сёстры ягоныя даюць ваду. Я была ў іх. У мяне праблема была са здароўем, я ездзіла. Яна гаворыць: "Я табе вады дам, але ты едзь да врачэй, я табе нічым не памагу". Вот што сказала. А каму могуць памагчы. У іх жа калодзец, у калодзец апушчаны сарэбраны крэст, там вада ніколі не затыхаецца, у калодцы. І вот яны даюць ваду. Там вот скока чалавек сабралася, вот пойдзеш у калодзец, набіраеш у іх ваду, тада садзішся, толькі нада, каб бутылка была адкрытая ілі там пасуда якая. І вот яна моліцца. Вот усе мы зайшлі, тады яна па адным вызываець і моліцца, гэта жанчына. І, што еслі яна паможыць, яна сразу гаворыць, а еслі не, то яна саветуець. І гаворуць, што яна ўсіх, хто да іх прыходзіць, спісак састаўляець – ідзець усе службы моліцца, якія вот ёсць у цэркве. І пастаянна за здравіе яшчэ моліцца за ўсіх гэтых людзей, каторых яна лечыць. Яна моліцца за здравіе ў цэркве. Гэдак, вот людзі между сабой знаеце, пакуль жджэш гэта расказваюць.

У мяне на назе паламаўся палец. Ішла ў сапагу, работала я там яшчэ ў сталовай. Ішла вот проста, абуўшы рэзінавы сапог, с утра гэта. Я не знаю,

ілі гэта камушок папаўся мне. Паламаўся палец у мяне на назе сам сабой. Ну я на работу пайшла. З работы прыйшла, гэта якраз было дзела на Тройцу, і гэта дамоў прышла, нага баліць, палец паглядзела – палец чорны. А тут во радышкам жыла сястра ў мяне, у гэтым доме, цяпер дзе саседка. Пайшла да яе дамоў, кажу: “Нада нешта рабіць, палец баліць, я не магу хадзіць”. Паехала я да ўрача ў Шаркаўшчыну. Ён так паглядзеў на маю нагу, гаворыць: “А нічога, пройдзець”. Якое пройдзець, калі я не магу хадзіць, баліць?!

Ну папрасіла сястру, і тут быў мяне на кварціры хлопец, паехалі яны на матацыкле да гэтага Далмана. Далмана тут ужо не было, а была тут ягоная сястра. Яна гаворыць: “Я вадзіцкі ёй дам, але яна не паможыць, нада яе да гэтага, да херурга. У ей, – гаворыць, – палец паламаны”.

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Суднік Таісы Васільеўны, 1935 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

**1016.** У Навадруцку, там яшчэ ад Крулішчызны, быў такі Далман. Маме было што-то зробілася, як цяпер называеццца пілепсія. Падучая балезнь. І вот яны саветавалі гэтага Далмана, і я да яго ездзіла 12 раз. І ён маму вылічыў. Ён толькі даваў ваду. Ён нічога не гаварыў, а даваў ваду. Ён дасць мне вады і тады гаворыць, што цераз столькі, столькі, дзетка, прыедзіш.

Сярэдні, укладзісты мужык быў. Ён памёр. Пахаронены не на кладбішчы, а дзе жывуць, там і пахаронены. І гэта я хадзіла, як сасіла Пецю свайго. І вот на Крулішчызну нада было мне зайсці. Пасошу Пецю, астаўлю маме і пашла. Прыехала, солнца ўжо заходзіць. А ў Далмана ваду забіраю і дамой іду. І кажны раз, два разы – дзве бутылачкі вады даёць, тры разы – тры бутылкі даёць. І паследні раз я ўжо ездзіла 12 раз. Так брала маленькія бутылачкі і гэтыя бутылачкі ў мяне былі ў сумачцы, а бутылка поўлітровая была пад пахай.

І настрага ён мне прыказываў: “Глядзі, – кажыць, – дзетка, ночу ня йдзі на ваду”. І дзейсцвіцельна праўда! Я не маню, точна гэта са мной была. І прышла я ў дзярэўню, хаты стаяць, там два чалавекі жылі і канава во цячэць, і цяпер гэта канава цячэць. Ну гэта сколькі было ўрэмені, у мяне часоў не было. Знаю, што факт – гэта была ноч. І толькі ўзашла на ваду – жах перада мной, як агонь, пад ногі клубком. І гэта сразу с падпахі ў мяне, на памяці, што я гэта чарта пад пахай нясу. І я за гэту бутылку, сколькі сіл я мела, цераз трасу – дамой. Я прышла дамой, мама адчыніла мне дзверы, а я калачусь уся. Пасасіла свайго мальца.

Ён ніколі не балеў. А я, бедная, як захварэла. Хадзіла, хадзіла хадзячая, а патом злегла сама. У Чарніцах была Соня, такая баба. І пашла мая сястра, і прывяла мне гэтую старуху. Ня йду, ня йду на работу, прыехаў

брыгадзір, а я ляжу, як смерць. У бальніцу ехаць нада. Прышла сястра, прывяла Соню, а Соня гэта жыла 105 ці 106 гадоў. І яна мяне лячыла. Я ў бальніцу не паехала, і яна мяне адлячыла, і ўсё.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Шуневіч Соф'і Мікалаеўны, 1923 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

**1017.** І Далман вады даваў. Я да яго два разы ездзіла, калі галава балела. Наберыць чалавек 50, во дзе грошы браў... Там многа людзей было. Даў вады і нічога не сказаў, ад чаго я спужалася, нічаго. Піла я гэту ваду, не памагала. Само сабой успакоілася. Ён стары ужо быў, барада... Выглядзіў як Бог.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф'і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 1018. Дурман

У нас тут знахараў не было. Знахараў, іх жа мала было. Каб можа такія, ну, якія ня ўсё могуць, а тыя, што ўсё могуць, тых мала. Во, быў бальшы знахар у Глыбокім, Дурман яго звалі. Дык баба адна паехала да яго, ну і кумпяк яму вязла. Яна яму кумпяка пашкадавала, схавала. Ён усё ёй зробіў, а тады Дурман гаворыць: "Ляжыць кумпяк там і там, але мне твой кумпяк ня трэба – забірай".

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Марозавай Хрысьціны Мікалаеўны, 1915 г.н. у в. Абухова Расонскага р-на.**

### 1019. Знахарства

Чулі пра Даўмана. Я думаю, што ён рускі чалавек, што ён леча, што ён умеў загаварываць нешта, і ваду ездзілі к яму. І ваду даваў і усё, і хвалілі, што памагаў. Ну, і па дзярэўне бывае, што ад уроцаў даюць. Можа, я гаварыла з вамі нешта, а мяне зглазілі гэткую, то давалі ваду. Некатарыя давалі.

Ну яна ж нешта Богу малілася. Малілася Богу і жагнала, і усё. А калі хто вучыўся, таго яна, можа, і навучыла. Ну вот, прымерна, і ён і я на скаціне нешта замецілі, то не есьць, то не п'ець, то можа што. Ну дык тады сям'я ўся у рот бяруць ваду і ў адну румачку зліваюць. Тры разы я вазьму палію у румачку, і ён паліець, і хто ёсць у сям'і – усе. І тады гэтай вадой змывалі гэту скаціну. Ну і ў ваду улілі, папіў. А палепеець ад гэтага ці не ад гэтага.

А як спужаецца малы рабёнак, ну тожа некатарыя, я не ўмела гэтага. Але ад упуду зёлкамі курылі пасвянцонымі. А можа якія ёсць ад упуду, я дык тожа не помню. Вот у нас пасвянчаюць зёлкі на Дзевятніка. Вот у нас у касцеле ідзець працэсія, і зёлкі гэтыя свенцюць. На Дзевятніка свянцілі

зёлкі, вілі 9 вяночкаў і насілі ў касцёл. І свянцілі і вешалі, і яны там віселі цэлую нядзелю, а тады забіралі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Атвалкі Соф'і Адольфаўны, 1925 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

## ЗНАХАРКІ

### 1020. Знахарства і чарадзейства

Я ад мамы [навучылася]. Але ж дужа я гэта не загаварываю. Ад зьмяі. Майго зяця ўкусіла зьмяя, я яго загаварыла і ён не папаў у бальніцу. Ну, карову загаварываю, уроцы, ад іспуга, звіх памагаець, як нагу звіхнець, на гэтым праверыла я. Ад звіху нада прастая нітка ат красён, дык я нітку навязываю, памагаець і каровам, і людзям. Навязаць на нагу. Вот дзевачку ў нас напраўлялі на Віцебск, у яе вывіх. Ну і я загаварыла, мо разы тры схадзіла, і ўсё – нікуды яе не павязлі, і дзевачка хараша. Але ж я і сама гэтаму ня веру.

Пра чары ня знаю. Дзядуля мой расказываў, што гэта утрычкам баба з цадзілкай расу збіраець і лётаець па полі. Казаў, две былі саседкі, што гэдак яны завяліся, што аж брахалі адна на адну сабачым голасам. А я ж не знаю [пра чараўнікоў]. Праўда, даўней іх і палілі, дзядуля расказваў, і шабаш нейкі быў. Яны гэта сабіраліся. Так некаторыя кажуць, што ўмеюць, вот адна была, на яе казалі, што яна ўмела. Нашай было карове, мы прасілі вады з губы. Яна не дала. Ну вот так, як дзядуля прасіў – вазьмі вады з губы і пырсні на карову, – а яна не дала.

Ну ўсякія былі людзі даўней, у чары верылі. Во ў мяне было, маю карову вужака ўкусіла, а я і не падумала. А пасля ў яе і вымя распёрла і качацца пачала, дык я адразу загаворываць – і за мінут дзесяць у яе палягчэла. Вот ад вужакаў памагаець. Я даўней у бальніцы загаворывала. А тут адну дзевачку завезлі ў бальніцу, яна з Мінску, і маці не захацела, а з бальніцы праз дзесяць дней прывезлі да міне загаварыць.

Ну і ад зглазу ёсць загавор: *“Ну, уроцы, не жартуйце, уроцы, / Калі ад жанчыны, ідзіце пад чапец, / Калі ад мужчыны, ідзіце пад шапку, / Калі не ат жанатых, ідзіце пад вянец, / Ідзіце на сіняе мора, збірайце там”*. Тады абходзяць кругом і перавязваюць гэтыя ўроцы. І вывіх нада гаварыць. Ну, на нітачцы ўзлы завязваю. Нада 27 вузлоў на нітачцы, а тады загаварываць. Ага ну нада 9 вузлоў па тры разы. А тады загавор загаварываю па нітачцы, і памагаець.

**Зап. Лобач У. у 2001 г. ад Бурэц Люцыі Адольфаўны, 1937 г.н. у в. Латышы Глыбоцкага р-на.**

## 1021. Змітрачыха

Добра ведалі, а цяпер жа старушкі паўміралі, а мы нічога не знаем, нам не да гэтага было, нам патрэбна рабіць, хлеб зарабатываць, было грошы зарабатываць. Вось была Зося Зьмітрачыха, Антух яе фамілія.

Калі вужака укусіць, як яны зваліся, і палец, як валасня, ат усяго, і жывот калі. Яна маю сястру вылечыла .Так разнясло, хто ведаіць. Так яна да яе два разы схадзіла, дык яна на каласок вывяла і усё – палец стаў як нада быць.

Яна ад пуду ваду давала і так загаварвала, мяне дажа яна лячыла. Пашлі сабіраць ландышы і на магілку прыселі. Гэта на Тройцу было, прыселі на магілку і на магілкі гэтыя цвяточкі сабіралі, а дзяўчына, як бегла толькі, на мяне тады: га! І ўсё. На могілках сабіралі і вот мяне напужалі. Мяне ўжо чуць жывую павялі і к бабке. Ну, я так зразу, у той жа самы дзень, яна дажа мне не хацела даваць вады, паскольку празднік быў Тройца. Тады, я як толькі прыйшла, яна паглядзела і кажа: “Не, без маёй помашчы не палепшыць”. Яна дала, я выпіла яе ваду – мяне на сон пацягнула. Я села, паспала, паспала. Тады яна кажа: “Выпій, дзетка, ваду і ідзі дахаты”. І усё – я назаўтра ўстала і на работу пайшла.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

## 1022. Аповяд знахаркі

Я сама ваду раблю. Ну вот ад упуду ваду даю, ад рожы замаўляю, з ветру ваду даю, мяне бабулька Гленка навучыла, ёй 110 гадоў было. Яна ад усяго ўмела, яна ніколі ў врача не была. Яна пойдзець на полі, кажа: “Дзеткі, трэба лячыцца траўкамі”. І травы сабірала, і піла, і ніколі не была ў врача. І я ўсё умею. Гэта ўсё ад Бога. Вот паслухай, я жа рожу замаўляю, я ж малюся Боскія малітвы, не якія-небудзь, і дапамагае людзям. А ў таго плоха памагае, хто п’ець і моліцца. Нельга піць, есьлі хочаш людзей спасаць. Нельга ў рот браць. Я ж ніколі ня п’ю і дапамагае людзям, я платы не бяру. Ксёндз казаў, калі людзей ратуеш, то нельга платы браць. Во я ніколі і не бяру.

Я і ад зьмяі умею, бацька мяне наўчыў. Вось мы ў лес ідзем з ім і паўзе зьмяя – я цікаць, бягом ходу, а ён кажа: “Птушачка, птушачка…” Тры разы скажа, бярэ зьмяю ў рукі і панёс, і яна яго не кусае.

Каб не ўкусіла, калі ўкусіць, загаварваюць, каб пухліна сыйшла… Тры разы змаліць да Маткі Боскай і ня будзе зьмяя чапаць. Бацька казаў, што прастая (змяя) – нічога, а калі красная галоўка, калі ўкусіць, то чалавек не выжывець. Тады ніякая малітва не паможыць. Я (змей) забіваю, не баюся, а вуж – яго забіваць нельга, ён чалавеку друг, ён яму дапамагае, можа і ў хаце жыць хоць дзе, ён не кусаецца.

Перадаваць я магу толькі сястрэ, а еслі не змагу, то толькі сваім родным. Можна каму хочаш, толька сваёй радне: хоць мужыку, хоць дзецям.

Ну, ад рожы таксама, есьлі ў чалавека ілі на ліцэ, ілі на руцэ, ілі на нагах, я замаўляю, і яна прападаець. Тры разы замоўлю – і рожы нет. Бываець разная: і такая бывае, і з ветру бывае, тады замаўляю і даю ваду. Есьлі вецер цябе захваціў, прастыў, то бярэцца рожа ілі на ліце, ілі на наге, ілі на руце. А можа быць з упуду. Вось ты спужаўся крэпка – можа быць рожа, трэба хутка замаўляць. Ваду даю ад упуду, тады і замаўляю.

Калі не будзеш замаўляць рожу, зробіцца нарыў, пойдзеце да дохтара, ён разрэжа, тады ужо берагісь – пайшла гуляць. Калі ўжо нарэжуць, замаўляць можна, но тады мука, доўга замаўляць трэба, яна прападаець, но долга. Вось нядаўна чалавек з Дзікева, малады, і што думаеш, апохла рука, і стаў як нарыўчык. Ён паехаў у Шаркаўшчыну, яму нарэзалі, і памазалі палец, а потым прыехаў замаўляць. Цэлыя 2 нядзелі замаўляла, а потым прайшла, і вады зробіла піць. А ў яго з ветру была рожа. Яшчэ бывае рожа з нэрву. Знэрваваўся ты – і з гэтага рожа.

І ад упуду нада ваду рабіць і паіць малога, і ліцо, і самага. Дактары не дапамагаюць ад гэтага нічога. Многа хто да мяне едуць і ад упуду, і каровам, як падрабляюць, адрабляю. Многа, што падрабляюць каровам, тады да мяне прыезджаюць вады, я зраблю памыць, папіць – і нармальна.

І ад прыпадку я раблю ваду. Прыпадак бывае ад упуду, толькі ад упуду. Есьлі сразу ты не зрабіў ваду, не папаіў рабёнка ці каго, то рабёнку прыпадак. Ад гэтага прыпадак. Ваду узяў, папаіў, і не нада ніякіх урачоў.

Вогнік, гэта прыстаець, чалавек ці рожа ці што, вот вогнік і прыстаець. Вогніка нада сперва замаўляць, а потым кужэлевай трапкай прыкладаць – тады вогнік выцягваець. Толькі вогнік ад рожы і бываець, ад другой не бываець. Есьлі ўдарыў руку – тады вогнік прыстаець, тады таксама замаўляецца, прыкладваецца ільняная трапачка і прападаець. Рожа, есьлі не замаўляеш, то яна і пойдзе далей, і на ўсім целе прышчыкамі.

Калі рука развіваецца, тады трэба прастая нітка, тады вузялкі навязваюцца, напрымер 20 вузялкоў, і нада шчытаць не туды, а назад: 20, 19, 18…, назад і абвязаць руку, толькі суровай ніткай. А бародаўкі, знаеш як можна зганяць, сама зганяла. Дзе во такія скопцікі па полю лётаюць. Кузнечыкі – “скопцікі” яны завуцца ў нас. Во злаві яго, садзі на барадаўку, ён зараз жа кусае і няма.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азаранка А., Красько Г. у 2008 г. ад Шэнды Ядзвігі Валер’еўны, 1943 г.н. у в. Германавічы Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1023. Знахарскія веды

Ну вот бываець, падзівішся і сам са свайго, і добрая вот, скажаш, кароўка, добрая, ці там вот што яшчэ што добрае, вот тады вот і бываець. Та-

кая мінута падайдзець, такі язык, такое вот ўжо… Ну вот еслі ж ўжо хваліш, ужо так і скажаш сама: "Ай, во ты такая красівая, няхай табе ўрокі не нада". Ну, во гэдак во і скажаш во…

Мама мая памагала. Ну вот прыдзець чалавек, плачаць усё, чыста во, карова малако не дае. Вот, кажаць, ацялілася, я яе запускала, кажаць, ну малака гэтулькі, а цяперака мне не даець, як ацялілася. І прыдзець ужо і плачыць усё, чыста кажаць, што не падаіць, у хлеў ня ўгоніш, нічога. Дык вот прыдзець, і дасць мама вады, і карова на места станіць. І карова ж дрэнна гэдак сама, як і гэтай бабе, што зрабіла, яна робіць. Відзіш, зрабіла карове, дык ей лягчэй зробілася, гэнай бабе, чараўніцы гэтай, во, дык карове цяпер дрэнна, яе ні падаіць, нічога не было.

Гэткая малітва як і для чалавека і для гэтага, але ёсць асобенная малітва каровам: "*Святое Юр'я, Святое Мікола, выганяець Лёня сваю карову у цёмныя лясы, у роўнае поле. Ня рушце, чараўнікі, Лёнінай кароўкі. Чараўнікам ляпу замаўляю, Госпада Бога на помач прызываю. Стань, Госпад Бог, на помач Алёне на радасці, сонца ў святлосці. Богородзіца Маці, не давай ад Ленінай кароўкі малачко, смятанку брацькі. Камень халодны, каб чараўнік век быў галодны. Каб Святая Богородзіца спасла, у Лёнін хлеў кароўка ішла, малачко, смятанку нясла, а чараўнікам вечная памяць*".

Во, відзіш, вечная, панімаеш? І замовіш гэдак, тры разы гэту малітву нада мовіць, хрысціцца, у бутылку дуць. Ну і тады палепшаець. А так, дык дзе ж, карову тады нада здаваць. Яна ж малака не дасць, ёй дрэнна, і нeяк палепшаець.

Ну Юр'я… у нас Юр'еўская цэркаў, дужа гэта вялікі педабяносец – Георгі гэты. Ён і з змеямі, у яго ж вон на карціне, ён з гэтай сабляй і на коні, і з змеямі. Гэто малітва дужа харошая і моцная. Но толькі этым жывёлам.

А чалавеку тожа ёсць: "*Нічога не знаю, Госпада Бога ўспамінаю, Святую Тройцу, мяртвыя душы з таго свету ніхай не устаюць, Маню ўрокі ніхай не бяруць, а наглыя людзі ніхай ідуць на мхі, на балоты, на нізкія лозы, на гнілыя калоды*". Вот тожа тры разы гэдак прамовіў і ўсё. У бутэлечку. Ну і на нагу можна, і ў бутэльку. І ў бутэлечку можна патаму шта нада ж у сярэдзіну, ён жа і з сярэдзіны, выганяць нада ўсё, і на нагу нада тры разы.

І с пуду, ёсць і пуд: "*Божае імя нашу, Бога і на помач прашу. Стань, Божа, на помач Мані дзіцяці пуд атагнаці і здароўя даці. Прысвятая Тройца, памілуй нас, Госпадзі, памажы ад жалі, ад пячалі, ад ветру, ад усяго-усяго. Мані дзіцяці пуд атагнаці і здароўя даці*". Гэта і на ваду, тожа гэдак сама і на ваду, і на гэту…

А рожу, вот можа ўсю я вам не пабаю, патаму што ужо пазабывалася: "*Камяной дарогай Пан Езус ішоў, цвет ружу Пан Езус нашоў. У Пана Езуса*

*дванаццаць учанікоў, а у розы дванаццаць цвятоў. Рожа агнявая, рожа жалавая, рожа ветраная, рожа каменая, рожа касцяная, рожа ат наглага чалавека, рожа ат наглага языка, рожа лятучая, рожа паўзучая, рожа сіняя, белая, красная лялела. Прашу Пана Езуса, каб гэта балезнь закамянела. На камяні не расцець ні рошча, ні дрэва. Прашу Пана Езуса, каб гэта балезнь закамянела".* Тожа тры разы нада мовіць, тры разы хрысціцца. І на гэтае месца, і на ваду. Вадой гэтай нада, як замовіш, і ў каждай малітве там нада, еслі ваду дык нада піць, і як ляжаш спаць, нада лажыцца, як спаць кладзесься, ліцо, і грудзі, і не выцірацца, класціся спаць. А так болей піць, а тады зноў, як спаць кладзесся, зной мыесься, грудзі, ліцо, і тады кладзесься спаць, а так большую часць піць.

Калі звіх, звіхнёнае, так гэта навязь навязываюць. Лічаць: дзевяць, восем, сем, шэсць, пяць, чатыры, тры, два, адзін. Во гэдак во тры разы замашляць. Ну, дзе звіхнёна, і замаўляць, і нітку адматаў і гэдак во вяжы: "дзевяць, восем…", узялок, доўгую, на якое месца ў цябе во тут во "дзевяць…", і гэдак во назад лічыць да аднаго. Толькі адзін раз "дзевяць…" на адну нітку. А як замаўляць будзеш, так тры разы замаўляй на места, "дзевяць…", ну і тады памолісься, пахукаеш, а тады зноў "дзевяць…", тры разы на нагу. Лічыць назад, ну, каб вот звіх пашоў назад. Не ўпярод, а назад.

І кругі, во круг, круг. Як па кругу вадзілі, дык "круг, круг", і сук каб быў, і тады: "*Круг, круг, лезь на сук*", тады: "*Сук, сук, бяры круг*". І во гэдак во тры разы. І зубы угаварвалі. Ёсць жа зубная малітва: "*Зуб замаўляю, загавараваю, на мору дубу не стаяць, вецямі не махаць, зубной болі не знаць. Вецямі не шумець, зубам не балець".*

Сцень? Гэта пуд і сцень. Гэта сцень нада пуд замаўляць гэну во, і гэту малітву яшчэ: "*Сатар, апера і цінат і арэпа і ратас".* Вот. Гэтае сцень вынімаецца. Гэная ад упуду замаўляць нада, а тады гэту ў канцы, гэта сцень вынімаецца і па тры разы нада маліцца, бутылку я ўзяла, раз замовіла "во імя Айца…", замовіла другі раз, яшчэ, тры разы на бутылку, на што будзіце замаўляць, тры разы замаўляць. Сцень – гэта ад пуду, яна ўжо ўдаўленая, многа гадоў ужо можа ш, і сама ёй ужо можа здавацца хоць што, ужо гэта сцень гэта. Яна і сама сябе можаць спужацца, вот ідзець во, а тут і дзень, цень гэты во ад сонца, а яна: "Ай, нехта ідзець!" Яна ўжо ўпуджаная, яна можаць спужацца і сама сябе.

Гэта мама ўсё расказвала. А хто яе наўчыў, ні знаю. Вот як баліць што, дык яна вот тады мовіць, і расказвала, палепшаець ш тады. Яна не расказвала, а проста замовіць, во як я вам баю. Прыходзілі і ка мне, во сколькі замаўляла. Можаць любы загаварваць, але вот кажуць, што ў легендзе – первы ці паследні. А бацюшка ён ня любіць, не. Ён думаіць дрэннае, як чарцей адганяюць. Ну дык чарцей жа нада адганяць. Ён думаіць,

што валшэбныя бабы. Але ж дрэннага ж нічога ня робіш, а во замовіш і ўсё. Ня любіць, не, ён не панімаець гэта, кажаць, калі нада, пайдзіце ў цэркаў, ён памоліцца ўсё, і вербачку пасвянцаець, свечкі пасвянцаець, да кажаць, свечачку будзіш устаўляць, і вербу пасвянцаець, хто во ўторкнець ці дзе ў хаце, яна ўсіх бесаў адганяець ад цябе. Ці гэтыя во свянцоныя зёлкі, адганяець усё… Ён ня любіць. Ну нада верыць Богу. А вот нехрышчонаму я ня ведаю. Але ж вот усё раўно, еслі ж хоць і не хрышчоны, еслі забалеў і скажаць, што вот там такая бабка даець, так і прыдзець. Хто прыдзець, так во памолішся во, ніхай хоць хто.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Плыгаўкі Марыі Іосіфаўны, 1936 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

### 1024. Знахарка і свяшчэннік

Мне запохлі вочы, толькі ўніз гляжу, вяду карову і ня віжду нічога. Тады мне сказалі к гэтай Антосі, яна сразу мне мусіць раза два загаварыла і мне сразу памагло. Проста шаптала, мусіць, што ўмела. Яна ж ціханька. Свяшчэннік жа сказаў, што не нада дапамагаць, нада Богу прасіць, каб ужо Бог памог. А ўжо шаптаньне гэта, еслі ты, напрымер, умела шаптаць, не нада табе ўжо шаптаць, ты гавары: не ўмею. Тык вот ён вот гэту Веру вучыў. Як мне запохлі вочы, я пайшла к Веры, а Вера ўмела гэту рожу, яе свякроў навучыла. А яна кажыць: "Я ня ўмею, я ня знаю". І не дапамагла мне, а гэта Антося памагла.

Ну вот, гэдак вот свяшчэннік сказаў, хадзіў тут нейкі ўсё, дык вот ён ей сказаў, што калі табе забалела рука, дык нада прасіць у Бога помачы, а ўжо шаптаць няльзя, там ужо вот. А гэта не праўда, дзе якая такая мелкая, даўней жа дапамагалі, ну цяпер такіх ужо мала.

**Зап. Жолудзева П., Захарэвіч А., Шумілаў Д. у 2007 г. ад Корж Валянціны Трафімаўны, 1928 г.н. у в. Задоры Лепельскага р-на.**

### 1025. Знахарка

Былі, былі бабкі тыя, можа ўжо паўміралі. Ай, памагалі ад чаго, ёсць такая дзецкая хвароба ў дзяцей. Ай, ну во, як прыпадак. Ну і ў дзяцей бываець, у малых бывала дзяцей, а тады большуюць. Ну памагала, ад тый вады і памагала ад бабак. Не ў кожнага бываець. Бываець с пуду, а каторыя толькі родзяцца, дык тады як матка бярэменная спужаецца чаго, як носіць яго, тады. Ну вот страшна бываець яшчэ, дажэ бываюць тады і плямы на ліцу, калі бярэменная жэншчына і пажар ўвідзіла, і схапілася, за што схапілася, за ліцо там ці за што, тады астануцца плямы і гэта вот, і будуць яны.

Ад пуду памагалі. Ад пуду і цяпер у нас ёсць у дзярэўні баба, яна мерыць. Ці яна ніткай ці чым яна мерыць. Яна даець ваду і мерыць, вот калі спужаецца дзяцёнак, і ваду даець. Тады ў бутылачку, і тады поіш і, як купаеш, улієш тый вады.

Як бываець рожа, зубы баляць, распухнець ліцо, тады ўмею гэты загавар. Зубы як баляць, ды бываець, што распухнець ўсё ліцо, вот тады тожа загавор памагаець. Ну вот прастудзіцца ці што, вот проста можа прастуда там зробіцца ці што, тады распохнець. Гэта я многа лячыла каго, ад зубоў, есьлі ўсяго ліцо распухнець. У нядзелю не жалацельна, но але я, прыхадзілася, што і ў нядзелю загаварвала, калі край нада. Ну, на бальшы праздзнік тут не, не.

Ну як, ёсць загавор такі, во. Ну вот гаворыш ты, перагаворыш тры разы, і тры разы па тры разы нада перагаварваць, ну і ўсё. А тады перахрэсціш тое месца і сам перахрэсцішся: *"Звіх ты звіх, ня будзь ты ліх, не ламай сырую косць, а ламай белую тросць. Была баба без ума, загаварыла звіх дарма. Звіх, атыйдзіся ад яе, ці ад яго"*.

І вот так тры разы перагаварыць, тут над звіхам, і ўсё. І як бярэсся, тады перахрысціць, і тады, як кончыш, перахрысціш тое месца. Хукаць нада, хукаць за кажным разам.

Ну ад рожы: *"Расло ў поле тры рожы: красная, белая і неякая. Адна рожа ссохла, другая прапала, а трэц'я, згінь, прападзі, адкуль прыйшла, туды ідзі"*. І вот так тры разы перагаварыць.

А яшчэ, як падарвеся, тады знаю. *"Матка ў абразе стаяла, залатнікі збірала, сухіх жылак сустаў, каб залатнік на места стаў"*. Во і так сама, гэта дажа і на вадзе мы загаварвалі. Гэта давала ваду, як гэта бываець, што вот падарвецца чалавек, ну і нарушыць у жалудку, і тады баліць ніз жывата. Вот тады прыхадзілі, і давала такую ваду.

Ай, ужо ня помню, хто навучыў. Нехта ж навучыў, ну даўно я ўжо гэта. Абы каму можна перадаць. Хто захочыць навучыцца, той і будзе. Любы. Ну перагаварыў во, тады хай ён перагаворыць, і ўсё, і дай Бог. Буваець і так, што ад каго памагаець, а ад каго не памагаець, бальшынство ці ад перваго, ці ад паследняга. Мусіць, памагаець і ніхрышчоным. Усё раўно бываець, многа ж ёсць і нехрышчоных людзей, а баліць жа ўсім. Вось яўрэям ніколі не загаварвалі, ня чула ці загаварваюць ці не, дажа ня знаю. А свіньні, значаць, нельзя. Ну веценар лечыць яе і ўсё, калі яна забалела. А калі няма ратунку неякага, дык зарэзаў да і ўсё. Ну, а карову, дык даюць ваду, як вот бываець зглаз у карові, разводзяць ей, ілі там ці што кроўю доецца, бываець такое. Вот у нас там у Камене баба была, яна давала ваду. А так жа ёсць і вочы ўсякія, гэта толькі што карова. На поле карова выйшла, там даілі яе, а там баба якая ішла, паглядзела ў даёнку і ўсё. І карове вымя разгоніць і плоха ей будзе. І ў нас такая баба ёсць, тут у дзярэўне цяперачкі жывець.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Захарэвіч А., Мядзведзева А., Шумілаў Д. у 2007 г. ад Славэцкай Антаніны Іванаўны, 1927 г.н. у в. Курмялёўка Лепельскага р-на.**

### 1026. Знахарства

У каровы ў яе было такоя малако было няўкусная. Яшчэ сразу з’ясі, а назаўтра ўжо ёлкая, як пры запуску. Я ей кажу: “У цябе карова спорчаная”. Паехала я сама к бабкі. У Сянно. Бутылку брала і кажу ёй: “Хачу свацці ўзяць вады. Алі, – кажу, – яна ня верыць этаму”. А яна мне: “Дачушка, тады я ня буду ей дзелаць, раз яна ня вераць этаму”. Я прашу: “Дайце ейнай карове, што я ем іхная малако”. І вы знаеця, палуччала малако.

Вот мая мама лячыла. Яна не калдуння, яна не па магіі. Яна на вадзе ня відзіла. Ёсь жа такія, што відзюць і расказаваюць усё. А яна... Кніжка была ў іх, кніжка друкованая, рэлігіозная, і там загавораў многа. І я была ад спугу выўчала. Ат мяне помач была сястрэ дваюраднай, дык цёця прыхадзіла ей вады. Я загавару, ей і паможаць.

Мой сын яшчэ малы быў, і я балела ад спугу. Многа было спугу, то ўпацёмку ідзеш, то што. То свінней токам. Насаветавалі ў Талочын. Я на сямі падушках у бальніцы ляжала, умірала, свет не выключалі, пілнавалі. Сястра пасаветавала к бабцы ў Талочын. Прыдзець твой хазяін, хай сходзіць вады. Я яго папрасіла. Нічога не прызнавалі ў мяне, і ў Віцебску была, відзюць, што я памру. І вылечыла [бабка].

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Казакевіч Антаніны Дзмітрыеўны, 1936 г.н. у в. Гарнавешчанне Талочынскага р-на.**

### 1027. Аповяд знахаркі

Рожа і на ліцэ бываець, і на нагах, на руках. Лечыцца тожа, як дух пападае, вот дух чалавека. Напрымер, мой дух пападзе на гэта, а другі бываець не пападаець. А тады другі нада, другі чалавек нада, панімаеце, як.

Ну, есьлі адразу яе вот узнаеш, што гэта рожа, яе тры разы загаворыш, а еслі больш, то нада больш, шэсць, дзевяць раз. Лепей загаварваць с абеда, после чатырох, вот у гэткае ўрэмя. Раніцай, гэта гавораць дзень расцець, і хвароба гэтая. Ну, не расцець яна, але не можна гэтага, а нада позжэ. У нядзелю не, гэтага не, не будзе памагаць. Ну, як край нада, Бог яго ведаець, тады толькі с абеда, во гэта абед, тады цэрква ўжо не работаець, можа тады можна, с абеда.

Ад рожы яна ў мяне маленькая, дык вот гавораць: *“Ішоў Ісус Хрыстос праз раку, праз мяту, праз чыстыя воды, нёс 6 рож: палзучая, лятучая, вадзяная, касяная, ветрыная, урочная”*. І ад такога вот напрымер, ці ад Колі, ці ад Вані проч. Тады: *“Рожа к рожэ, цела к целу”*. Вот так вот загавараваю, тры разы загаворыш. Ну тады, после гэтага, эта, “Отчэ нашы”.

Ну, ад пуду, як гэта начынаецца, тожа. Восемсят два гады, дык ужо забыла, як начынаецца. *“Вымераю сцень (чыю-та) са ўсіх касцей, з ўсіх суставаў, з калень, з печыня, з лёгкага, з серца, з языка, з галавы, з воч”*.

Сцень, напрымер ён сцені спужаўся, вот напрымер ідзець чалавек, а ён вот гэтай сцені можыць спужацца, ёсць жа ўсяка. І ад стуку спужаецца вот так, і ад усяго. Ну дык ёсць, ёсць вымяраюць, а ёсць гэта вот ваду загаварваюць. Ну, гэта вот так вот, такою, так я вот дзелаю, так вот, і мая мама так дзелала, і я.

Ну, вымяраюць, бярэць нітку гэту, какой-небудзь суравой, дліннную, ну і тады яна вот, напрымер, і к пальчыкам кладзець, і тады завязваець, загаварваець, што там яна гаворыць, ну я не знаю гэтага. І тады вот так на каждым пальце, на каждыя суставы, гэта многа-многа, но гэта я іх толькі відзела, но гэтага ня дзелала, у мяне мама гэтага не загаварвала, і я.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Захарэвіч А., Мядзведзева А., Шумілаў Д. у 2007 г. ад Лейчанка Надзеі Савельеўны, 1925 г.н. (нар. у в. Высокая Гара Бешанковіцкага р-на), у в. Двор Бабча Лепельскага р-на.**

## 1028. Знахарскія веды

Травой даўней лячылі ж усякай, хто якую знаў. Ужо цяпер у нас не стала лагоў, паразорвалі – ўжо травы няма. Толькі там можа ў Несцераўшчыне старушкі знаюць, там ужо. А ў нас нідзе тут няма. Ну ад праступы *маць-і-мачаху* гэтую збіралі, такі высокі, жоўты. А тады *дзеда* калючага тожа свянцалі дзіцям ад упуду. Палілі для дзяцей.

Як спужаешся? Як спужаешся, я ваду нагаварваю. Малюся Богу, і тады… Ну, а тады п'юць, змываюцца: змыўся, змыўся, і папіць. Я помню: *"Прачыста Божа Маці, ідзі, будзем Маньке пуд адганяці. Ідзі, пуд, на мхі, на балоты, на сухія лясы, на буйныя вятры, дзе вецер ня веіць, дзе петухоў голас не даходзіць. Няхай там пуд ходзіць, няхай там гуляіць, вот у Манькі не бываіць"*. Тры разы змовіць, а тады "Отчэ Наш".

Вот як самы маладзічок, дык тады не памагаіць, а так як месяц бываіць і круглы, і гэты (ветах) – тады памагаіць. Ну, на сход можна. А толькі самым гэтым маладзіком – не. У свята няльзя, у нядзелю не даюць. У нядзелю не нада, на Святкі не нада. Ну, тады ж гэтаму нічога (не дапаможа), а вот як і мне, тады дрэнна бываіць перад смерцю, тады кажуць, ну, што ў Святкі давала ваду. А я й рожу ўмею замаўляць, і пуд, і гэта, што парушыцца чалавек, падыміць, жывот баліць – парушанне. *"Прачыста Божа Маці, будзем Юлі замаўляці. А ў полі мора, а ў моры камень, а ў камені дуб, як гэтаму дубу не развіцца, так па Юліных касцях залатніку не расхадзіцца. Залатнік, добры памачнік, устань пры сніце, пры цэравіне, пры боскім паражэнні. Ні пускай косак ні ў ручкі, ні ў ножкі, ні ў галоўку. Стань залатнік на меры, як месяц на небі. Стань залатнік на меры, як месяц на небі"*. Ну вот, тры разы гэтак перамовіш – і ўсё. Ну, можна яйка нагаварваць. *Кмін*, во як у баб ёсць. Кміну нагаварыў – у гарэлку ўсыпаў –

і памагаіць, тады хоць калі можна, хай стаіць. Глынуў, нашча, паліжаў, а тады зноў.

Ну і рожу замаўляю: *"Прачыста Божа Маць, будзем рожу замаўляць. Замаўляю рожу агнявую, касцявую, ветраную, урочную, прыгаворную. Ішоў Пан Езус па полі, нёс тры ружы ў прыполі – першая ссохла, другая звяла, трэцяя скамяняла. Вот каб Юлі век рожы не бывала"*. Тры разы гэтак змовіў, а тады "Отчэ наш".

Вот, біваіць, напохніць, нага ці там рука, і смыліць. Многа каму, некаторыя сёлета, во малец быў, ён Дунін унук. Гэтак прышоў – нага распохшы, гарачая. Загаварыла – пабыў трохі, і стаў прыступаць, а так не мог прыступаць нагой. А яшчэ можна, як ужо рожа, знаіш, напохшы яна, красная. Можна мукі нагаварыць – і тады абсыпаць – і тожа памагаіць. Я ў бальніцы як была, з Дзічанцаў тут баба, яе малец прыязджаў у бальніцу ка мне. Я нагаварыла яму мукі, і прайшло. А так была распохшы рука ў яе.

Ну, цяпер жа, відзіш, я стала мыляцца, а так я ўсё помню. Вот гэта я помню шчэ тры. Вот даўней ж гадані дужа былі, кусалі людзей. Тожа ка мне прыхадзілі, памагала. *"Прачыстая Божа Маць, куды ідзеш? – Гаданю замаўляць. Ад усходу сонца да захода ішла Пяценька Праскавея з трыма дачкамі: першая ў серабры, другая ў медзі, а трэцяя ж ў злаці. – Куды ты йдзеш? – Гаданю замаўляць. Старшая сіпіць сіпуха, садзіржай сваіх дванаццаць дачок, а еслі не садзержыш, то нашлю я на цябе пташак-бацяноў. Знясе твой род і плот, вынімай свой яд назад. Знясе твой род і плот, вынімай свой яд назад. Як жоўтым пяскам не трасаць, а табе, Галя, гаду яду не знаць. Гад, вынімай свой яд назад, гад, вынімай свой яд назад"*.

На места гавораць, дзе укусіла. І тады зліжаць, і яд гэты выціскаеш, і тады памагаіць. Ну але цяпер неяк слаба гэтыя гадзіны, збіраюць бацяны іх, хватаюць. Гэта мама мяне навучыла. Тады ж, яшчэ малыя былі, маладыя, буваіць вот, калі дома, ляжам на печы даўней, і яна скажаць: "Учыся тое, дачушка, учыся тое добра". Дык жа большыя ня ўчыліся, а я ж меньшая ўчуся з ёй. І вот гэтак і навучылася. Меньшаму можна, старэйшаму – не. Тады не памагаіць. А нада меньшы. Каб вот меньшаму. Маму тожа баба, мусіць, навучыла. Маці яе. І гэта нада передаваць адзін аднаму. Затое, як памрэш, на той свет не нада нясці. Я вот, дзьвум вучыла дзяўчатам тут. І шчэ нада будзіць Тані наўчыць. Дунінай. Гэта нада передаваць адзін аднаму.

Яшчэ ад уроку: *"Прачыста Божа Маць, будзем урокі замаўляць. Урокі-прырокі, мужчынскі, жаночы, у дзецюкоў, у дзявочкі, рабяччы, удавіны, удаўцовы. Вадзіца-царыца, ты ж усяму свету памашніца, лугі-берагі абмывала, край свету прыдвігала, бела карэнне, шэра каменне, ачысці Маню ад урокаў, ад языкоў, ад усякіх прыгавораў. Стань месяц на ночы, як Бог на помач. І Бог з міласці, але не з рады"*. Тры разы і "Отчэ наш".

А мама наша вынімала сцень. Помню, на кажух клала вот малога, ці каго, і вот, знаеце, я не наўчылася сразу, а после я наўчылася, ды ўжо пабунтувалась, толькі я вот запомніла: *“Начынаю сцень вынімаць ад галоўкі, ад вочак, ад бародкі, ад ножак…”*. Не знаю, во. Гэтак вынімала яна сцень. Гэта памагаіць. Сцень дужа памагаіць. Ня помню, і маніць ня буду. Ня помню. Ня ўмею.

Валасень абычна выліваюць неяк на калосіка. Я відзела, у маёй падругі быў. Яна хадзіла да бабкі тут. Дык тры каласы, яна клала на палец, і як стала выліваць, дык настаяшчыя валосы былі. Ну яна не спала дзень і ноч, у вадзе халоднай дзержала палец. А схадзіла к гэтай бабы тры разы, і не стаў ёй балець. І вот, дурная, няхай бы б навучылася. І дзялоў толькі таго было.

А круг нада на сук, тры разы плюнуць, і гэтак. Замаўляю круг каму, а тады: *“Сук, сук, сук, бяры мой круг. Сук, сук, сук, бяры мой круг. Ссох сук, ссохні і ты, круг. Ссох сук, ссохні і ты, круг”*. Малы загавор. Кругі вот бываюць, як даўней, дык на парозе хто станець, пярэйдзіць нячысты, і коні ж даўней дужа качаліся. Вот пярэйдзіш – сразу круг, то на ліцу, то на гэтым. А цяпер жа ж ужо рэдка.

І зуб тожа нада на сук пляваць і гаварыць: *“Як гэтаму суку на пні не стаяць, веццем неківаць, так Тані зубовай болі не знаць, каб па касці не хадзіла, касці не ламіла, а зубкам не шкадзіла. Не хадзі, чорная косць, не ламі белую косць, не ламі белую косць, а ламі чорную тросць”*. Гэтак тры разы, і плюваць на гэтат сук, і гэтак.

Звіх помню я, во недаўна загаварывала. Ну гэтак: *“Прачыста Божа Маць, будзем звіх замаўляць. Ішоў Ісус Хрыстос цераз калін мост. Мост угнуўся, конь спатыкнуўся. Каб у Мані звіх, ушыб і развод мінуўся”*. Бываіць, ступіш дрэнна, і яна разводзіцца, бываіць, станеш на камень там, звіхнеш. І гэтак тры разы. І тады “Отчэ наш”. Вот пахінецца чалавек – і расцяжэнне такое. Гэта *развод*, па-старому.

Навязь я тожэ ўмею. Навязь во як навязываюць. Вот гэта тры разы, ня ўперад, а назад і “дзесяць” не нада казаць: *“Дзевяць, восем, сем, шэсць, пяць, чатыры, тры, два, адзін”*. А тады знова начынаць: *“Дзевяць, восем, сем, шэсць, пяць, чатыры, тры, два, адзін”*. А тады зноў у трэці раз гэтак: *“Дзевяць, восем, сем, шэсць, пяць, чатыры, тры, два, адзін”*. Тры гэткіх раза, і тады памагаіць. Нітку во так во завязваць, завязваць. Ну, на руку ці там на нагу. Гэта безразлічна. Нітка каб кужолная, ці прадзеная з лёна найлепей. Гэткая нітка, суравая. Во гэтая памагаіць.

Я во, сваю дачку кажу: “Навучыся хоць пуд загаварываць”. – “Ай, мама, адчапіся ты ад мяне”. Ніхто ня вучыцца. І мальцы. У мяне пяць мальцаў, і дзяўчына адна. І ня хочуць. Я кажу: “Ці ўмееш ты хаця б Богу маліца?” – “Отчэ наш” умею, хваціт”. А нада ж каб у Бога верыў, Богу маліўся, і тады ваду даваць. А як ня верыш, дык гэта ня будзіць памагаць.

А, а во начніцы тожа. Біваіць, і прыгаіць ён, і ня спіць усё. *“Прачыстая Божа Маць, будзем маломý Колю начніцы замаўляць. Начніцы-дзянніцы, дзённыя-паўдзённыя, ранныя-вячэрнія. На вілках прасадзіцеся, на йголках пракаліцеся, ад малога Колі начніцы адчапіцеся”*. Гэтак тры разы памовіць, і памагаіць. А яшчэ палаюць. Ты вазьмі ў прыпол малога, стаі тут і зачыніся. А яна няхай там стаіць, за дзвярыма: “Што ты палаіш?” А ты атвечай: *“Начніцы палаю. Палалі, палалі, каб яны век не бывалі”*. Тры разы тожа. Гэта начніцы.

Бываець, што шэрсьць. Гэта шэрсць, гэта любы можаць. Во ў нашай ў Светы, яна была во гэтай, заведуюшчай, і парасяткі малыя бегалі, усё праз ногі ёй. Бегалі, бегалі. Ага. Радзіўся малец, ляжыць, крэкчаць і крэкчаць. Яна прыйшла ка мне: “Баба Наста, прыдзі, паглядзі, што ў майго мальца”. Пайшла я, адкрыла, а ў яе шэрсцька во такая, калючая. Ну і кажу: “Давай будзем купаць”. Вот попелу насеіць мяканькага, і вот ў начоўкі на чатыры рагі: тут пасыпаць, і тут, і тут. А тады з гэтага, і з гэтага (накрыж) узяць, і церці, церці, церці. Як патрэш, працэдзіш на марлю, – во такія валосы, камочак настаяшчы. Тры разы як пакупала гэтак, сцёрла, і стаў рабёнак спаць. Гэта простая врэмя, можаць хоць хто зробіць. Як ёсць шэрсць.

І грыжу я ўмею замаўляць. У мяне во ў пляменніцы – ай, крычаў і крычаў малец. “Цёця Наста, прыедзь, прыедзь!” Паехала я, дык ўжо настаяшча пупок, наверх. Я загаварыла, сахару загаварыла – як рукамі атняло. Грыжа тожа. Грыжу нада грызць, і дзе відаць яе, нада зубамі настаяшча. І словы: *“Прачыста Божа Маць, будзем маломý Колю грыжу замаўляць. Грызь, грызі ель з вірха ў карэнь, салодкае ўкушу, а ўжо гаркое прагрызу”*. І зубамі настаяшча прыцісннуць нада тры разы. Грыжа, дык загаварываю. Хаваецца яна тады, грыжа гэта.

Грыжа тая, бальшынство кажуць, як ходзіць у палажэнні, косткі агразаіць вараныя. Вот тады бываіць грызеваты рабёнак. А так нада: абкапаў мяса, абкапаў, а костку кінуў. А ёсць жа ж, што мяканькія бываіць. І пажвець. Во. І ад гэтага бывае. Плачаць малы, а тады грыжа падскакваіць гэта.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Парфяновіч Настассі Несцераўны, 1935 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 1029. Бабушка і мама

Гэта я помню яшчэ пра сваю бабушку. Я яшчэ ў школу не хадзіла, як яна расказвала… Як яна памёрла, мая бабушка, дык яе праважалі дажа такія, маладзёж, усе мы. У хатцы – панская комнатка такая – жылі, яшчэ свайго дома не было. Поўна-поўна гэта камнатушка (людзей), што места не было. Яна вот і роды прынімала гэта бабушка мая і вот загаворы знала усякія, усё. Ну і мамка спасала ужо, хоць мамка неграматная была, но спасала людцаў з бабушкай усё. Волас нейкі, я сама відзела… Врачы ўжо адправілі

ўміраць ужо чалавека, ён яшчэ майму папку быў родственнік, а такая ванішча ў хаце была (ад раны). Яны каласкі неяк возьмуць, звяжуць і тады ваду ўжо цёпленькую і гэтак ручку бальную… Яго ўжо тачыў волас, што па ўсіх суставах пайшоў – і на руках, і на нагах – і яны неяк пералівалі, пералівалі і ён аж спіць тады і вот яны паказваюць. І віжу: як вот свой волас і вот на каласках ён во верціцца.

І я цяпер, людцы мілыя, дзеткі, каюся, што не ўзяла ў мамкі. Мамка хоць і неграматная была, але, во відзіце, знала, а як мамка ўжо забалела усё, а я ж не верыла, я ж была і піянерка, я ж была і камсамолка і я ж тولька Леніну, Сталіну (верыла). Бо Сталін як памёр, я ж плакала. Гэта цяпер ужо во смяюся, які Сталін "харошы" быў, ага сколькі людцаў з-за яго страдала. Ну і нічога, нічога не ўзяла, толькі на мяне кажуць: "А-а, Ніначка знае – матка ж знала, бабушка". А я вам чэсна скажу – не запісала. Самой і сыночку так спінка баліць, яны вымяралі, ну звіх яна знала і рожу і волас і гэта самае прытча нейкая, што спіну вот лячыць, прытча неяк называлась. Яна неяк узялкі накрыж пад адзін палец, гэта я помню, а загавора не знаю, і па ўсіх суставах усё вымярала. А еслі ўжо будзе прытча, то значыць будзе чалавек выцягваць руку і няроўна нешта на скос будзе і во гэтак во загаварвала і тады эту нітачку прывяжацца да спіны. Ракам да яе прыпаўзуць і яна паможа. І я цяпер так каюся. Можа, дачушке сваёй перадала, каб я спісала. Ну ўжо яна мне вымерала, усё, можа, і спінка не балеле б. І вот відзеце як, гэтыя камуністы падбівалі гэта ўсё і я не верыла. Цяпер у цэркаў прыхажу, цяпер жа стала даступна ездзіць і маліцца і ўздыхаю цяжка, думаю, вот якая я грэшніца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

**1030.** Кажуць, Далман людзям памагаў. Далман той такі быў, мы яшчэ ў Ахвераўшчыне жылі. Я не жыла, ты, Васька, жыў. Як Федзьку карове зробілі. Тады ж усе дзеравенцы гаварылі. Тады жыў тут адзін Федзька. З вайны, када ён у плен быў папаў, патом з плену ён у шахтах на Данбасе дзе-та робіў. Яго прыдавіла, былі крывыя ў яго ногі. Ну і ў яго карова была. Ну вот усё карова хварэла, падрабляюць і падрабляюць, кажыць. Ну і пашоў к гэтаму Далману, паехаў у Глыбокае туды. Там нейкая дзярэўня пад Глыбокім. Ну, ён яго значыцца папрасіў, каб узнаць, хто эта здзелаў. Ён сказаў, што здзелана, значыць. Ён сказаў яму так: "Як ты на сваё поле ўзайдзёш, у таго, хто падрабляў, карова здохнець". Ну і палучылася так, як ён сказаў. Пакуль ён там дамоў прышоў, а ў абед выганялі на поле, выгналі туды за кладбішча на гэты памёт, а тая карова сразу раўнула, брык і паваліласа.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугай Анастасіі Якаўлеўны, 1935 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 1031. Купальскі вяночак

Вот залатнік лечыла мая мама, ад этага залатніка. Я вот не знаю, ці яна замаўляла, ці што. Када-нібудзь, вот як ўжо маленькай забаліць жывоцік, помню, яна мяне падвадзіла і дзелала. Ад іспугу яна харашо памагала ад іспугу, дажэ дзяцей ёй прывадзілі этых во. Яна, ну як вам сказаць, хадзілі мы кароў даіць па лугу, як ужо кароў не ганялі дамоў, а на луг хадзілі. І вот ідзеш па лугу з мамай, а я малюсенькая, малая, за руку вядзець мяне, дома ж нельга кідаць, ясель жа не было гэтых нідзе, ні садоў. Ну, бралі ж з сабой. Ну яна тады мне гаворыць: "Вот той цвяток сарві, вот той сарві цвяток". Ну я гэтыя цвяткі срываю, сарву ў руку, і ёй падаю, яна нясець. Патом прыйдзем дамоў, яна: "Вяжы вянок". Ну і паказваець мне, як вянок вязаць. Ну, звяжаш вянок. "Ну, прымерай на галоўку сабе, вот так, вот так". Ну і вот такія. Тады гэтыя вяночкі яна сушыла, сушыла, патом када к ей прывадзілі каго-небудзь, вот яна ўмела дзелаць, яна там, ну што-та яна гаварыла…

Вот я раскажу, як яна рабіла. Прыходзіць, значыт, прыходзіць яна, ну крысьціцца, моліцца, малітву чытаець і патом ідзець – у хаці с краснага вугла бярэць павуцінку, дзе ёсць якая, ілі дажэ калі нет, ну так ўжо. Ну ўродзі бы бярэць, да? І вот накрэст бярэць павуцінку гэту сабіраець, ўродзі бы гэту, складваіць, патом вянок гэты на галаву надзеваіць гэтаму, ўжо каго прыводзяць. Бярэць нескалька цвяточкаў з гэтага вяночка, мераець яе, бярэць, раньшэ вот ткалі кросны, і ідзець назад нітка. Када яна парвецца, і пойдзець назад нітка. Вот гэту суровую нітку спецыальна, яна льняная ж, чыста льняная, яе накручвалі і атвадзілі, эта ўжэ спецыальна для лекарства.

Када вот развіваюцца суставы, тады гэтай нітачкай перавязваюць, і вот у этым дзелі. Тада яна атрываіць эту нітку, бярэць на рост рабёнка, ну, хто стаіць, на рост этага рабёнка атрываіць нітачку гэту, і тады вяжыць кажды сустаўчык: на руках і ўсё-ўсё-ўсё. Галава, гэта ўсё, ножкі, пальчыкі – усё гэта, ўсё змераіць, вузялочкі ўсё пазавязваіць на каждам, дзе-што. І эту нітачку скручваіць і кладзець эту сюды. Із печкі бярэць вугалькі. І вот эта ўсё раздуваіць на скаварадзе, ставіць этага рабёнка на парог, адкрываіць хату, на парог ставіць рабёнку і скажыць: "Вазьмі плаціца сваё і раздуй так, каб, а тутака адкрый і дыхай гэтым дымам". Дымок такі ідзець. "Пакашляй яшчэ, пацяні і пакашляй". Вот нада было вот этыя ўсе рытуалы дзелаць. Ну вот. Ну і ўродзе бы ад этага памагала.

А вянок вот када перад Купалам, у гэтыя самыя магічэскія дні нада сабіраць гэтыя цвяты. Вот. Ну вот любы цвяток там: "Вазьмі той, вазьмі той цвяток сарві". Ну эта вот, мне кажыцца, яна спецыальна, каб я вот хадзіла і інцерысавалась этымі цвятамі. А патом сплятаіш эты вяночак і павешаіш яго.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 1032. Мама павітуха

А мама мая была павітухай у дзярэўні, яе звалі як ўжо нараждаліся дзеці, сколькі б там не нараджаласа ў сям'і, яна была і бабай і бабушкай-павітухай. А тады хадзіла ў атветкі, напякала бліноў, была у яе асобая белая хусцінка, асобая тарэлка, каторую яна нікуды не ўжывала. Напячэць бліноў, пасыпіць сахарам, тадыж бедната была, а для гэтага яна смачныя бліны рабіла, латкі пекла і хадзіла па атветках. Умела яна загаварваць дзяцей, убаюкаваць, начніцы звалі тых дзяцей. Дзеці не спяць, тады к ёй нясуць вечарам, на захад сонца, у яе особы быў фартуг, юбка, надзівала яна, рабёначка лажыла, выходзіць на ганак, сонца заходзіць, а яна рабёначка гэтага калышыць і там прагаворваець, моліцца, а тады ён засыпаець і заснець. Прыносіць рабёначка ў хату к абразам, і там гаворыць і гаворыць, тады маці аддасць. Рабёначак пасля таго і спаў. А яшчэ яна давала ваду ад уроцы, прыхадзілі к ёй з усіх акрэсных дзеравень, гаварылі што памагала і людзям і скаціне памагала.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на) у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

## 1033. Пра маму-знахарку

Раньшэ па ўрачах не бегалі, патаму што іх мала была, ды і не знալі так абрашчацца, былі сьцясніцельныя, уміралі. Прымерна, у маёй мамы радзіліся сямёра дзяцей: чацвёра асталіся, трое ўмерлі, асталіся ўсе сільныя, патаму што раньшэ ўрачэй небыла, а вось це, каторыя асталіся, дзеці пражылі па восемсят-дзевяноста гадоў, а слабыя дзеці ўміралі, но к врачам не абрашчаліся, у мамы трое ўмерла.

Раньшэ сабак такіх многа была, што спужаць маглі. У мяне мама ваду давала ад усяго на свеце. Вот, ад рожы. Во, Танька там забалела, яна ўжэ ўмерла, ёй саўсім дрэнна была, а к маме прыйшла, яна ёй загаварыла – і ўсё. Тры разы загаварыла, і яна здаровая. А кагда дажэ ў бальніцу хадзілі, врачы гаворац: "Абраціцесь к бабке". Яна памагала ад іспуга, ад залатніка... Падрыў, да. Яна ў бані, ну нешта яна ад усяго памагала. Ад зглазу – гэта ўжо прошчэ. Ад зглазу ў чалавека недамаганьне будзіць, галава будзе балець, то спаць будзець хацець, вось такое састаяньне ненармальнае. Прыходзілі да яе людзі. Ну, не кажды дзень, але прыходзілі, дажэ с Крывіна, далёка дзе.

А ішчо во, свідзецель – гэта Зіна. Ляжаў сын у адной і у яго эпілепсія, і Зіна з імі ляжала ў бальніцы. Гэта далёка, кіламетраў дванаццаць. Ну і ляжалі яны, а Зіна гэта глядзела-глядзела, што ў яго эпілепсія і гаворыць: "А вот я пасаветую вам, схадзіця вы к жэншчыне, і

яна вам дасць вады”. І паслала к маёй маме. Назвала, усё. Акулёнак Лена Емельянаўна – маю маму завалі.

Ну, ладна, гэта жэншчына прышла, расказала маёй маме. Дык, есьлі б я вам врала, то яна пацвердзіць. Дала яна вады, кажа: “Далжон ён паправіцца, я так чуствую па гэтаму. Толькі, – кажа, – вы на яго спырсніце нячайна, каб ён здрогнуўся. У рот наберыце і, кагда ён спіць, на яго збрызніце”. Вадой, вадой загаворанай. Яна пайшла з вадой, і ён паправіўся, праляжаў у бальніцы і паправіўся. Мама за гэта нічога не брала, ну, есьлі там ужо хто канфеціну прынёс, тады, но рублі яна нікагда не брала.

А вот валасень мама вывадзіла харашо. Абыкнавенна яна ў місачку наліваець вады, я відзіла, яшчэ ў мяне была валасень на наге, у нас рэчка ў Чаўнышках, а мы ўсё купаліся, гляджу нага стала краснець, і палец уздувацца. Яна паглядзела-паглядзела, і гаворыць: “У цябе валасень”. Я не знаю адкуль ён, не магу сказаць, яна ў міску вады і саломкі гэтай, і стала загаворваць, і кажа: “Во, паглядзі, паглядзі, як валасень вылазіць”. І праўда, вылазілі такія светленікія валосікі.

Вот рожу, іспуг, паддзел – гэта толькі бабкі памагаюць, но іх ужо меньшэ, і меньшэ, і меньшэ. Да, і падрыў вот этат – гэта толькі жэншчыны памагалі. Я помню, што і здалёк прыходзілі, мужчына прыязджаў, у яго быў падрыў, мама ў баню яго вадзіла, на палок лажыла і ён не мог падняцца тагда. Баліць гэты падрыў, жывот бурчыць ад падрыва.

Мама і ад зьмей загаварвала. Ваду загаварвала, но большэ нагу, дзе ўкус на месце загаварвала. Но ў нас ні ў каго не случылась. Но я помню, ну адзіваць і абуваць нечага, а яна мяне ў ягады брала малую, брусніку мы сабіралі ўжо спелую. Ну, ужо так хаджу ад яе недалёка. Яна гаворыць: “Гляджу – зьмяя ад цябе паўзець недалёка, крычаць, думаю, дык ты возьмеш і ступіш”. Дык яна падбегла і схваціла. Ну, а тады ж у лес бралі дзве карзіны і каромыслы. Каромыслы ў кусты схаваець, а ягад наберыць дзве карзіны і нясець на каромыслах. І як яна, ну босыя мы, Бог яе пажалеў, і як яна ішла, і ступіла на зьмяю, а зьмяя шэрая, там можа метровая. І зьмяя яе не ўкусіла, но яна зьмяю забіла, яна зьмей біла.

Дык мне не нада далёка хадзіць, у маёй дочкі, калі памёр папа, і прыехала дачка папу хараніць, з Мінску, васемнаццаты год ёй. Мая ўнучка. Яна настолькі па папу плакала, што яна спужалася, ну так спужалася, што не магла. І вот выйдзе яна па Мінску ісці, і не можа, наклоніцца і сядзіць. Гаворыць, і тры дні прайшло, а яна не можыць, ёй станавілася плоха.

Яна была ў рэстаране і там спаткалась з цаганкай, а яна гаворыць: “Дзевачка, ты ж бальная, у цябе сільны іспуг”. Ну і правільна: галава баліць, ташніць. “Давай, – гаварыць, – табе нада лячыцца”. Ну што, яна прые-

хала, завялі к бабке раз, два, тры, і яна паправілась, спаць стала, яна не спала, у яе была сільнае патрасеньне.

Я знаю, як сурочылі. У мяне дочка, як прыехалі да мяне, пашлі пасматрэць як унук жыве, ну, а ён на дачку глянуў, дачка очэнь красівая, я і сама красівая была, цяпер ужо не глядзіце, я старая, на мяне выхадзілі глядзець, я красівая была. Ну і насурочылі. Галава пабалела і прайшла, а раней і не ела нічога, а прыехала дамоў і галава і ташноты, адсядзела ў туалеце ноч. Выйшла на работу, ну і што, целефона ў нас не было, пазваніла на пошту, мне перадалі, што калоцяцца рукі, ногі, цёмна ў глазах і ташніць. Я гавару, вазьмі, ідзі смойся мачой, пералі ваду цераз замок. Гэта ўсё здзелала, і ёй легчэ стала, яна паправілася.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г. н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

### 1034. Веды ад мамы

А гэта, загаварываць ваду... мая мама навучыла. Дажа ад вужакі, вужака ўкусіць – яна харашо панімала. Ну, ана ў меня запісала, помню, но эта забыла я. Проста тую бумажку пацерала і не магла ніяк успомніць. А эты загаворы, там, ад вужакі, ад усяго, там дванаццаць вужак і нада каждую вужаку перагаварыць. Помню, маего брата вужака укусіла. Есьлі б эта тада не спаслі, ён бы умер ад той вужакі. Тая вужака была очэнь страшная. Ат яе умірают. Прынеслі к бабке – яны спасуць.

Ну, шчас я ўжо не магу загаварываць. Вы жа знаеце, я загаварывала, спасала многа людцаў, бабкаў. Адна бабка прышла ат рожы. Прышла к врачам. І яны загаварывалі, давалі мазь усякую. А рожа мазь, ніякую ваду ня любіць. Яе нада сваімі срэдствамі толька загаварываць. Ёсць дажа такая трава, як яна называецца... *падбел* называецца. *Маць-і-мачаха*. Вот яе сарвуць, за гэтую траву, заварываюць і прыкладаюць на яе (на рожыстую пухліну). Яна жар атнімаець і быстра праходзіць. Ну вот бабку гэту ле́чыла, ле́чыла, не хацела брацца. Яна выгніла ўжо ўсё, ваняла... гэта бабка. А яна прыстала ка мне: “Загавары!” – “Я ўжо табе не памагу.” – “Ай не, памажыце! Можа паможаце. Мяне ж врачы паслалі, – гаворыць, – каб ты памагла.” (голас дачкі: “Мама, ці ж чуеш, ты ж дзетак маленькіх вылечваеш. Чаго ж ты баішся расказаць?”). Дзетак дак вылечвала ж. Я і дзетак усіх...

Нада ўсё помніць тшчацельна, а еслі я, эта, не запомніла, памагаць не будзець. Гэта ж усё там набожнае. Ня то што, вот эта, чары гэтыя. Эта ат чорта. Там нада ўсё пра чорта – чорт памагае. А тады Бог ужо не памагаець людзям. І вот я этай бабке загаварывала... і яна стала папраўляцца. І паправілась. Яна прыхадзіла мне благадарыла. Дажа прынесла гэты, ну на плацце купіла...

Раньша дазвалялі загаварываць... Эта патом, как стаў Савецкі Саюз, тада яны запрашчалі ўсё. Што нельзя загаварываць, пасадзяць ў цюрму, вездзе. Но нікога ніхто не пасадзіў. Тых, што загаварывалі. Помню адзін міліцыянер прышоў і гаворыць: “Вы загаварываеце?” Я гавару: “Загаварываю”. – “А ці знаеш ты, што могуць цябе у турму пасадзіць?” Гавару: “Ну садзіце. Вам жа скалечыцца нага, я не буду загаварываць і вы нагой не пойдзеце”. Ён засьмяяўся і ушоў.

**Зап. Волкаў А., Клопава Т., Халадкова А. у 2003 г. ад Кашчэевай Таццяны Пятроўны, 1925 г.н. у в. Гаравыя Полацкага р-на.**

### 1034а. Бабушка-павітуха

Эта ў нас у дзярэўне адна такая была: бабушка Александрыха яе звалі. Марта – так яе звалі вабшчэ. Так эта бабушка была ў нас бабушка-павітуха, каторая, калі родзіца рабёнак, вот па ўсёй дзярэўні рабяты раджаюца, і яна абразала ім пупы. Бабушка-павітуха, бабушка Марта. І шчыталася, раз яна пуп адрэжыць, значыць еты рабяты – ейныя крэснікі.

Уся дзярэўня бабушкіны крэснікі былі. Ну вот, яна знала загаворы ад рожы, ад іспуга лячыла, а на другім канцы дзярэўні была Дзьмітрачыха, як жа яе звалі? Тая грызь умела. Як вось бываець у пупу у малых рабят грыжа: плёначка распадаеца і выходзіць такі вузлачок – кішкі выходзяць у етую плёначку. Вот яна закусывала. Закусывала так: ляжыць рабёнак, а яна ротам, зубамі вот так кусаець, кусаець, кусаець і нешта прыгаварываець. Як эта яна гаварыла: “Грыжа, грыжа…” Забылася, эта грыжу загаварвала. А трэцяя баба была, скот лячыла. Карова там ці парасёнак забалеіць, эта Павічыха лячыла скот. А мне толькі ад іспугу лячыла бабушка Аляксандрыха. А! Яшчэ рожа была. Зубы забалелі і напухла во так – ета называлася рожа. Во ета помню: “Рожа, рожа, табе тут сядзець нягожа. Ідзі на сухі лес…” Вот так нешта. Начала чуеш, а тады шыпча нешта.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Шашковай Вольгі Мартынаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Ваўчкі) у г.п. Обаль Шумілінскага р-на.**

### 1035. Навучоная знахарка

Ад іспуду ў нас лячыла жанчына. Як што, да бабак хадзілі, я ж тады і навучылася загаварываць. І памагае. Мяне бабушка навучыла, не мая – чужая. Вот была у нас бабушка, яна мяне і навучыла рожу загаварываць. Яна і па-руску, і па-польску ўмела, і мяне вучыла, я знаю. Але ж, во каб хто па-польску ўмеў маліцца, я б навучыла. Я проста загаварываю. Главнае – каб чалавек Богу верыў, тады паможыць. А я пад іконы вяду і там малітвы чытаю, і ўсім памагаець.

Многа, поўзавода, поўзавода да мяне ўжо прыходзіла. І з Шуміліна да мяне прыязжалі, і з Полацка. З Полацка прыяжджалі. Казалі, што былі

там… У Полацку, ёсць яшчо мужчына – ад рожы лечыць. Вот я і ён яшчэ. Яны да ягопрыйшлі, а ён сказаў: “Я лячу на дзевяць рож, а вам нада на дванаццаць”. Ну вот я лячу на 12.

Дзевачку да мяне прыводзілі, гэта было летам. Ёй нада было на экзамены ў Віцебск ехаць, а ў яе ажно ўсё ліцо апухла. Яны прыехалі, гавораць: “Нічога не памагае, што дзелаць?” Ну, я прывяла яе, загаварыла к вечару, яны утрам прыяжджалі, опухаль спала, а на утра лічака было ўжо пачці чыстым і там толькі трохі-трохі асталося.

Быў яшчэ з завода мужчына, вродзе нешта яны там капалі і рукі спацелі, ну і палучылась рожа. Ён прыйшоў, я яго спрашваю: “У Бога верыш?” Ну ён “да”, тады я пад іконамі яго загаварыла. На следуюшчы дзень ужо нічога няма. А рожа ж – нельзя нічога бальнічнага, ніякіх лекарств і вады. А ён скора зноў прыйшоў – тое самае. Я яго спрашываю, што можа лекарствы піў, а ён кажа “не”. Ехалі ў машыне з работы, рука спацела і высунуў яе ў вакно, ну зноў тое самае. І апяць вылечыла, многа хто прыходзіць, прыяжджае.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Кудлаёвай Клаўдзіі,1928 г.н. (нар. у в. Ткачы, Ушачскага р-ну) у г.п. Обаль Шумілінскага р-на.**

### 1036. Варажэя з Балбекаў і паломніцтва ў Будслаў

Ну і тут ёсць такія, што панімаюць. Вот цяпер, я ні знаю, у Балбеках, ці ёсць бабка, тожа. У мяне быў сын збегшы. Ну, шэсь месяцаў не было. Я на карты дзе ні пайду варажыць – жывы, ўсё. А гэта самае, а сама ж нэрвуюся, ну што ж – шэсь месяцаў няма дзяцёнка. А тады паехала ў Балбекі, яна мне на вадзе паказала, што жывы. “Не плачце”. Кажаць: “Жывы ён”. Гэта, балбецкая, памагала, яна знала. Кажаць: “Жывы ваш сынок, не плачце вы”, – гаворыць. Ну але ж усе раўно, то я дзірэктару пайду, кажу: “Ездзіла ў Балбекі”. Ну тады мне бабка сказала, мая падруга, ну, старэнькая яна, тожэ восемдзесят гадоў, яна кажаць: “Давай мы, – кажаць, – дзетка, сходзім за здравіе памолімся”. Гэта за здравіе дык… А я ўсюдых малілася, і Буслава ездзіла, там касьцёл бальшы. Вы знаеце дзе Будслава? Пяшком жа ж ідуць во кажны год. Дык пашла і тамака за… І вот, дзякуй Богу, ну, цяпер хоць збегаць не стаў, дзякуй Богу. Стану казаць, кажу: “Сынок, ты ж глядзі, дзетка, не збегай.” А ён: “Што ты мамачка, міленькая”.

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны (нар. у в. Навасельцы) 1936 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

### 1037. Шапуроўская знахарка

Што-та ёсць, нейкая сіла ў гэтых людзей ёсьць. Патаму шта мой Валерык у Віцебске, і колькі яму было – можа, годы паўтары ці два, і там з дзевачкай гулялі і нешта так ножкай… Тады ж босыя хадзілі. Нешта гэта

была ў 58-м гаду, і к урачам панясла тады. Малец на ножку не становіцца на правую, і дзелалі снімак, і нічога нідзе не находзяць. Я прыехала ў Сураж, а ў нас тут, у Шапурове, знахарка была. Паняслі мы з цёткай яго, а ў мяне яшчэ маленькая дзевачка была на руках, грудная. А очэрэдзь дужа бальшая, мы папрасілі без очэрэдзі і нас пусцілі.

Яна умерла сейчас. Я ўжо забыла, як яе звалі. І яна там чым-та павадзіла, пагаварыла і гаворыць: “Еслі б на нядзелю раньшэ прыняслі, ён бы ў мяне пайшоў сразу, а так пойдзе толькі, як дамоў прынясёце”. У нас былі капейкі тада, цётка сабрала капейкі: “Нада ж, як пойдзем заплацім, і табе на дарогу нада кінуць, штоб ты ў горад даехала”. Палавіну кінулі. Палячыла яна, мальца мы ўзялі на рукі і ідзём дамой. Сталі падхадзіць к Суражы, а дзеньгі тыя пацяралі. А эта нас ужо Бог наказаў за тое, што не ўсё аддалі ёй. І дамой прыйшлі, і праўда – рабёнак мой і баіцца ідці, што ж ваабшчэ не хадзіў. А так пайшоў і пайшоў. І яна сказала, еслі б толькі ўдаўнілася, то ён бы ўжо быў на адной ножке, на кастылі, так во сагнуўшы ножку.

К ей людзі дужа, дужа хадзілі. Там очэрэдзі такія сядзелі. Як летам мне раз прыйшлося пабыць у яе, паглядзець, так сядзелі – аж чорна людзей!

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Маліноўскай Марыі Іванаўны, 1935 г.н. у п. Сураж Віцебскага р-на.**

### 1038. Знахарка і змеі

Мая кросная ўсё на свеце знала. Пайдзём у ягады і яна пойдзець з намі. Мы: “Матуся, во вужака бяжыць!” Мы баімся. А яна: “Дзетачкі, ня бойцеся, ціхонька, я біць ня буду, мне запрашчона, я шапчу ад іх”. А мне гаварыла: “Давай я табе, хрэснічка, раскажу, а ты перапішы”. А я крычала: “Ня буду, ня буду!” А хай бы што і перапісала.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Падабед Раісы Іванаўны, 1923 г.н. у в. Трасцянка Талочынскага р-на.**

### 1039. Знахаркі

Былі, гэткія былі. Ад пуду хто загаварваў, хто мерыў, дажа яны і цяпер ёсць такія. Вот на Аўласаве ёсць Каця такая Лявонава, яна мерыць, я сама хадзіла, вадзічку ад пуда даець, хадзіла, загаварваець. Гэта дабро яны дзелаюць людзям, ня зло. Ці гэта праўда ці гэта не, ну не знаю. У мяне была дачушка спугалася, і вот, як с абеда, – і спаць, і спаць. Я к ей хадзіла, ну яна не так, што вот ты мне, я ей тысячу дала, яна мне бутылачку вады гаварыла, во, гаворыць, хай п’ець тры разы ў дзень патрошку. Ну, ці памагло, ці не памагло, лучшэ стала. А цяпер ці дзяцёнак спужаецца, я во, к ушаку пастаўлю яго, во к ушаку, і вот так во ножычкам, і тры разы, раз, другі раз і трэцці раз (вакол галавы), а тады дзверы адкрыю, выкіну і скажу: *“Пуд астанься тут, пуд астанься тут: цьфу, цьфу, цьфу”*. Ці памага-

ецьь, ці не, ну так дзелаеш, а дзяцёнак як маленькій, дык ён чаго-небудзь і спугаецца. Ну вот ваду загаварвалі ад пуда, і стол, а раньша быў стол і перасолкі такія называліся, ну вот стол во так перасолачка, так і так. Тады тры разы нада прайці, во так цераз этыя перасолкі і так начаў, і тры разы прайці. Сурочаць ці дзяцёнка, ці… Праз замок вадзічкі праліць нада тры разы, замкнуць, і во, назнанку тры разы (абцерці) ці рабёнка ці сябе, во так во. А як маленькі рабёначак, як і гэта, уракуць, дык можна і так, што яго ўзяў, дзяржы так, а тады па лічаку раз языком – птфу, тры разы. Ну, сурочыць хто-небудзь, тады во так во памагае. Ну такая буваець мінута, што вот: ай, ай харошанькі. І ўсё, і дзяцёнак іскіпеў, і ўсё. Другі чалавек скажыць – і нічога, а другі вот, усякае бываець, скажыць і паўрадзіць дзяцёнку, як узросламу дык не паўрадзіць, а дзяцёнку можыць паўрадзіць.

**Зап. Захарэвіч А., Мядзведзева А., Прахарэнка Я. у 2007 г. ад Валадзько Ганны Іванаўны, 1936 г.н. у в. Бор Лепельскага р-на.**

### 1040. Знахары і чараўнікі

У мяне сын быў спугаўся малы. А дзе ён мог спугацца? Ён у школу хадзіў. Тады саседка была, Марфа (яна выехала ў Чалябінск з сынам і ўмерла там), у той дзярэўне радам, дзе Кісялёва, дзе я жыла. Яна гаворыць: "Сідараў Фенька памагаіць". А яму шмат гадоў было. Я стала гаварыць: "Коля, ідзі к ёй. Пойдзем к Юр'еўне, – гавару. Ён не йдзець. Я яго за руку і павяла туды. Тады яна гаворыць, што ніткі нада прадзеныя. Во, што прадуць. У мяне быў клубочак, нябеленыя, сырговыя. Я знясла, яна абматывала кругом галавы неяк, я сяжу, гляжу. І была эта падруга, Марфа старая. На мяне дзед ругаў пакойны, што ты не навучылася загаворам, а яна памагала ўсё. І круг умела загаварыць, і карове… Панясла малако адзін раз к ней, карова плоха даілась, укруціла ў платок і так пад паху панясла к ней. А там сядзеў такі Мішка-стаханавец, на яго тожа гаварылі, што ён чараўнік. У Кісялёве там яго дом. "Што ты прынесла, схувала?" – на мяне. Я гавару: "А што табе?" Я на стале паставіла баначку трохлітровую. Тады яна мне после і гаварыць, тая бабка Марфа: "Надзя, твайму малаку здзелана. Стала сываратка адна". Я гавару: "Мішка ж вон на мяне гаварыў, што ты схувала такое". У мяне і каровы дужа не йшлі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дзямідавай Надзеі Ісакаўны, 1924 г.н. у в. Пярно Віцебскага р-на.**

### 1041. Свая Біблія

Вот прымерна, на маім віду ні разу ка мне жэншчына не хадзіла на пасёлак, вось каля вуліцы, а то стала хадзіць, пажылая такая. Да, яна пасідзела мінутку, выйшла з калідора, а я за ёй ззаду іду. Я дарогу перайшла сюды на трапінку. Пагляджу я ў вядро, а там мячык воўлашны такі, знаеце. Дзе-

цкі, войлашны ў вядрэ і во такую шапку чорную, бумага не згарэла, а толькі абкапцела. І я, баба старая, дурная, той мячык, я б і не падумала, рука ўзяла і ў сторану туды на дарогу кінула. І ён глуха за ёй пакаціўся. Пакаціўся туды, куды яна пайшла, ну вот а я адной рукой і выліла з вядра на штакету.

Дык я мучылася дзень і ноч. Была ў сына, я тут не жыла – сыны забіраюць мяне ў горад, крычала дзень і ноч з грукам. Рукі балелі, атымаліся рукі і ўрачэй вызывалі, урачы прыязджалі. “А гэта, – гаворуць, – грып, ад грыпа”. Грып, як раз тады ішоў. Які гэта грып, калі я цэлую ноч ня сплю?! Я гавару ўсё на сына: “Вязіце мяне ў горад”. Гэта ў Сураж, дамоў. І вот прывезлі мяне яны сюды, дамоў, і схадзіла к вот гэтай Шурцы, яна мне пашаптала, патом пайшла к Зінаідзе Раманаўне. Яна ўрач-тарапеўт. Яна цяпер пайшла на пенсію. Яна мяне назначыла на ўколы хадзіць усюды. Я пахадзіла 10 дней і ўсё як рукой сняла. Ёсць ведзьмакі, ёсць.

І гэта ж ня кожны чалавек можыць, як Шура памагаць. У яе старынная сіла, бацька стары ўсё гэта дзелаў і памагаў ад усяго. І ад ведзьмаў, і ад зглазу, і ад усяго памагаў. Ён умер і аддаў усю гэтую Біблію ей. Гэта не царкоўная – свая, сільная Біблія.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Брылёвай Наталлі Кірылаўны, 1927 г.н. у п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 1042. Знахарка і сусед з Украіны

Была ў нас такая адна бабка. Яна врада нікаму не дзелала. Памагала яна і дзецям, яна і каровам памагала. Яна очэнь харашо памагала, старушка этая. Ну і знаеце так, пасяліўся адзін, і з Украіны прыехаў. І ён не панімаў эту бабку. І ля яе пастроіў дом, там места было, і ён пастроіў дом ля яе. Ну і пастроіў і стаў зразаць… счытаецца мяжа, вот дзе гароды. А ў яе там пасаджаны ў рад былі слівы. Ну ён падрэзаў ёй эці корні, слівы сталі сохнуць... Дык яна гаворыць: “Ну што ж ты дзелаеш? Ніхто ж так ня дзелает”. А ён гаворыць: “А табе пара здыхаць!” Ей атвет такі даў. Ну дык яна сказала, што раз мне пара здыхаць, то і ты адсюда уйдзёш. І так яна яму здзелала, што ацураўся і дом, кінуў і дом этат. Ну і даў ходу на Украіну. І жонку забраў, бацькі не пускалі, яна ж дзяўчонка з нашай дзярэўні была. Но яна с нім паехала. Ён этат дом прадаў за полцаны. Там дажа баяліся дом купляць, што такое дзела. Яна зрабіла, што ў яго стала ўжо балезьнь якая-то.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рылькевіч Таісіі Сідараўны (нар. в. Крупейкі Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.), 1925 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 1043. Бабка лекуе карову

Не каждый памагаець ад упуду. Малітвы, загаворы добра памагаюць. Врачы ад гэтага не дапамагаюць. Упуды, падрывы… Пасля вайны ў мяне ў

класе была маленькая дзевачка чуць не пад стол у школе. І пашлі да Кутцыхі ўзялі вады і, Слава Богу, усё добра. Яна ведзь таксама Богу моліцца над каждым, вот гэты і дапамагаюць.

У мяне з каровай было зроблена. Прыйшла ў вабед даіць – адна дойка, вымя спухшае. Я тут гэтай вадзічкай свянцонай, хрышчэнскай змыла карову – нічога. Не падыйшла даіць – карова так білася, страшна білася. Ну, паехала да бабкі, а тая запыталася, як яе завуць. Потым кажа: “Бабка, не бядуй: тваёй кароўке зроблена. Твая кароўка чорна-белая?” Яна і праўда гэткая была. “Ёй зроблена, у яе з правай стараны дойка вспохшы”. Бабка дажа сказала, на які празднік зроблена. На Купала. Дала мне бабка вады. І кажыць: “Палепшаець твая кароўка.” Я кажу: “Божачка, а хто мне зробіў?” – “Гэта маладая хахлуха, прыехаўшая з Хахляндзіі”. На гэту я і не падумала, Стэпка была. Кажу: “Маладая ці старая?” Бабка адказала: “Маладая, яна блізка ад цябе жывець. Яна гэта і робіць. Яна добра не ўмеець рабіць, робіць толькі дрэнна. Карову толькі не бі, яна не вінавата, ёй падроблена. А малачко ў яе забрана”.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Муравей Антаніны Васільеўны, 1933 г.н. у в. Рослева Глыбоцкага р-на.**

## 1044. Фельчарка-знахарка

Калі волас у пальцы, врачы тады ж разразаюць, а было, што старыя людзі і загавораць – і волас пройдзець. У мяне на этай руке палец балеў. Я работала поварам і рыбінай забіла палец. І ні з таго і ні з усяго так забалеў палец, што ўсё, я не магла: тэмпература была, усё. Тады ў Стайках, тут адна санітаркай работала ў нас. Я пайшла, яна гаворыць, што нада прынесьць колас ржы. Я прынесла. Пайшла на поле, тут як раз жыта было ў сваё ўрэмя такое вот, прынесла эты колас. Яна на рабоце была, завяла мяне ў ардзінатарскую і гаворыць: “Не гавары нічога, Маруся, я буду загаварываць”. Я сяжу, маўчу ды паглядаю на яе. Яна шаптала, шаптала, гаварыла, гаварыла, круціла, круціла, ды як стала лёгка, дык я дажа спаць захацела ад яе загавораў. А тады яна выняла гэты волас і гаворыць: “На паглядзі, волас каля пальца абпіўся”. І я сама відзела.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Палячэнка Марыі Іванаўны, 1928 г.н. у в. Брыгітполле Віцебскага р-на.**

## 1045. Дактары і бабуля

Раньшэ врачэй не было. Гэта сейчас лякарствы, уколы. А раньшэ толькі загаваравалі. Дажа сам пра сябе раскажу. Рыбу паехалі лавіць. Па вадзе халоднай пахадзіў, а на назе прышчык такі сеў, размерам з гарошыну. І ён настолькі часаўся, што я драў яго. У мяне нагу так разнясло за ноч, што дажа ў штанах не памяшчалася. А ў бальніцы гаварылі, што нада кроў

пераліваць. А тут была адна старушка такая. Паглядзела, і сказала, што гэта з вады. Яна пашаптала, так я ўсю ноч не спаў, балела так, пакуль яна мне шаптала, я заснуў. Потым я падняўся і пайшоў. Гэта было лет 20 таму назад. Потым, яна яшчэ загаварывала ад нескалькіх хвароб.

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Пугача Сяргея Фёдаравіча, 1931 г.н. у в. Вялікія Дольцы Ушацкага р-на.**

## 1046. Дактары і знахары

Ад упуду ёсць загавор, у нас тут адна жэншчынка загаварывает. А так вот старушкі гэтыя былі, дык многія дзелалі ад упуду, ад зьвіху. Вот ідзеш і ўродзе павіхнеш нагу, да? Ну вот. І ад гэтага загаварваюць. Ё помач, ёсць!

Рожыстае васпаленьне – дык і ўрачы дажа адпраўляюць. Гавораць во, раньшэ так гэтымі мазямі мазалі, мазалі, ды ня дужа памагалі. Рожыстае  васпаленьне, дык мне старушка, ну яе тожа ўжо нет, царства ёй нябеснае, яна пашаптала мне разы два – і ўсё, і ў у мяне прашло. Нагу – ішла па траве і абажгла травой. Трава такая “віхай” ёсць, ядавітая очэнь. Ну і не прыдала значэньня гэтаму, а патом распухнула к вечару – пакрасненьне бальшое, і ўжо стала цемператураць.

Паехала ў бальніцу, ну яна ўбачыла сама і сказала: “У вас рожыстае васпаленьне”. А старушка сядзела тожа во так, к ей на прыём, к гэтай, к ўрачыхі. Гаворыць: “Ня йдзі ты, дзетка, к ёй, ідзі ты к бабкі”. А я маладая, тады шчэ толькі была замужам, і не пайшла. Ну, дык я камсамолка была, веруюшчая ў камсамол, справядлівасьць. Ну вот. Ну, яна мне намазала і сказала тожа, сама врач, Ольга Фёдараўна, гаворыць: “Схадзі ты к бабкам, яны табе лучшэ пашэпчуць”. Ну і праўда гэта. Тады ў Таронкавічах бабка старэнькая была, Ксенія. Яна пашаптала мне – ўсё, ды й сашло гэта.

Мама мая ад гэтага ўмела, ну мамкі ўжо не было ў жывых, яна ушла раньшэ. Яна хацела перадаць, яна прасіла мяне запісаць, ну я не верыла ўсё гэтаму. Неяк неўдобна мне было, гавару: “Мамачка, ну ты ж яшчэ пажывеш, не нада, не нада”. Ну, а патом яна заснула крэпкім сном – і ўсё, і не прачнулася.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 1047. Пра знахараў, ксяндза і хваробы

а) Калі дзіцёнак нараджаецца, яму муляе як шарсцінка нейкая. Гэта было гэтак. Ну вобшчэм, кажуць, як бярэменная, нельзя катоў біць… У майго сына было грызь. Я тожа вот не панімала, што такое грызь. Ну і гэтак ён крычаў бедны дзень-ноч. Гвалт! Дзень-ноч я не спаўшы. Тады мне бабка параіла, кажаць: “Схадзіце вы…”, а такі татарын быў жыў. Ну я па-

йшла да яго. Сразу спрасіў, ці хрышчоны ён. Кажаць: “Калі хрышчоны, то паможаць, а есьлі ён нехрышчоны…” Я кажу: “Хрышчаны”. І ён мне тры раза яго загаварыў і ўсё – стаў спаць нармальна, усё… Ён вады даваў, ён загаварываў над ім. Лажыў воўну нейкую, шэрсць, на жывоцік, гэты татарын, і шаптаў яму.

b) Ну, эта дажа ў маей дочкі было. Я не знаю, як яна называецца хвароба. І вот, і када пакупала яе… мне пасаветавалі, і такі быў галун, такі вот, гэта ціпа сахар кускавы. Вот я пакупала яе, намыліла так сабе на руку і так во па плечыках качаю, і я скачала такой клубочак шэрсці. Тады яна не стала плакаць. А шэрць гэтую я выкінула ў печку, спаліла. Прама ня можна было рукой пацягнуць, так… прама… такое ўпіралася там усё. Тады ўжо другі раз рабіла ўжо нічога не было, ужо я яе тады сразу выкачала ўсю.

Яшчэ залатнік… эта называецца, як падарвесься, так называюць залатнік. Што рабілі… Вот ёсць такая, знаеце, ёсць такая трава… дажа ў маёй дочкі, яна была нарушыўшы, залатнік…трава такая, я сабірала, ей давала.

Ну вот такімі розавымі цвяточкамі. Здзесь у нас асобенна няма, такі вот ля Дзісенкі, і вот так яна ўсё корні ў яе капала, такія корні ў яе, як рак, во такія корні ва ўсе стораны. І тады… а ў мяне суседка ўмела загаварываць… пра залатнік гэтат, і яна яе навучыла, маю дочку, як загаварываць, но я не знаю. Па меншаму возрасту эта навучваюць.

a) Вот я дужа крэпка так ну раньшэ ня верыла ні шаптунам, ні… Ну, ксяндзам дык я верыла, Богу верыла я. І вот у мяне зьбег сын, прама са школы, ён быў у трэцім класе. І шэсьць месяцаў не было. Ну я, дзетка, ні варажыць не хадзіла, усюдых варажба, ну што жывы, усё. Вот будзет вам данае пісьмо, вы… эта самае, далёка, у казёным доме. А дзірэктар гаворыць: “Ну вы хадзілі к бабкам варажыць?” Кажу: “Хадзіла”. То ён да мяне прыяджаець, ён бываець, ці я. Тады прышла старушка такая, мы з ей сільна дружылі. Так яна плакала, када я сюды уяджала, з этага Дзядуліна. Ну, а яна: “Давай мы, – кажаць, – дзетка сходзім за здравіе, памолімся”. Ну падаць ксяндзу, ну запісаць імя, імя толька запісаць. Ну я й пашла. Пашла да яго. Этат і цепер ксёндз во ён. Тады ён гаворыць: “А ці хрышчоны ён?” Кажу: “Хрышчоны”. Ён гаворыць: “Знаеце што, – гаворыць. – Вы і мене можаце абмануць, а Бога не абманеце. І нічога яму малебен не паможэць”. Тады, праўда, эта бабка кажаць: “Яна маленькага хрысціла, – кажаць, – сразу панесла хрысціць”. Ну і гаворыць: “Сейчас імша атойдзець, тады, – гаворыць, – я, гэта самае, ну, –гаворыць, – выйду, буду маліцца”. Я тут грошы дастаю... Адкуль ён знаў, што я грошы… Ён кажаць: “Не нада мне пенёндзы вашы. Я памалюся, чэраз два дні, цераз тры дні будзець ваш сын. Толькі не плачце”. Ну добра. Памаліўся ён, усё. На трэці дзень мой сын…

Тут адна ляціць, ужо наказвае, што гаворыць: “Не плач, Вікценька, – кажаць. – Твой Віця ёсьць”. Ну канешна, у прыпадак кінула яго, забралі ў бальніцу. Эта на дзевятым кіламетры… у Віцебск, за Віцебскам там. Ну і тады ж я яшчэ на ферме была, яшчэ маладая, ну што ж, не паехала там… у горад у гэты. Ну вот яго там у бальніцу сколькі. Тады перадалі, і с тых пор, дзякуй Богу, не стаў ні зьбягаць, нічога.

с) А у нас, на Лоеўшчыне, ад залатніка бабка такая была. Мужык, ён работаў у складзе. Ну, і наверна падарваўся этат мужык. І ў яго ужэ ні есьці яму не впускала, нічаму. Худы здзелаў, страшна сматрэць на яго было. Усе яму гаварылі, што нада ідці да бабкі, а ён гаворыць: “Э! Прайдзёт”. Ну як прайдзёт, а тады ўжо і з ног стаў валіцца. Ён пашоў к гэтай бабке. Дык яна ўставіла, ну канешна можа вы і не знаеце, такія ў нас дзелаюць гліняныя этыя, такія вот макатры такія. Вот. Ну ён прыйшоў к гэтай бабкі. Яна гаворыць: “Лажыся. Буду лячыць.” І яна яму паставіла эты макацёр такі, бальшы. Так яго цягнула, ён крычаў крыкам, як яго цянула, жывот выцягуе макацёр. Яна гаворыць яму: “Цярпі. Какімі судзьбамі, цярпі”. Вот. І на сколькі мінут, на трыццаць мінут, яна сказала. І вот трыццаць мінут аташло і макацёр эты стаў сходзіць. Как сышоў макацёр, і этат чалавек падняўся і пашоў. І большэ ён ужэ не страдаў. Есьць такія, каторыя знаюць…

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад а) Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны (нар. у в. Навасельцы), 1936 г.н.; в) Зуй Анны Васільеўны (нар. у в. Васюкі), 1932 г.н.; с) Рылькевіч Таісії Сідараўны (нар. в. Крупейкі Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.), 1925 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 1048. Бабуля Ядзвіга

Бывает часта ка мне ходзяць, а бывает і радзей, хто як. Толькі вось у нядзелю не прыходзяць, бо помачы не будзе. А з заводу прыходзяць, дык і грыжу лячу я. Я дваякую грыжу ўмею. Ад упуду вадзічку загавору. Ка мне Бучкіна Оля прывадзіла мальчыка не так даўно, і сама яна захварэла, казала. Мальчыку 6 гадоў і не спаў – як рукамі атняло.

Толькі вось трэба, каб ён тры разы глынуў: адзін раз, другі, а тады трэцці, а тады хай п’ець, колькі хочаць. А тры глаткі каб глынуў па глатку, таму, што я сразу загаварваю па тры разы. Яна яму паможа. Вадзічка можа будзе халодная, дык стаканок у цёпленькую вадзічку пастаў і тады памачы яму галоўку і лічайка – усяго памачы і не выцерай, а вадзічку стаў у цёмнае, каб стаяла ў шкапе дзе-небудзь. Есьлі ён паправіца, не прыйдзеш, а еслі крэпка не паправіца – да мяне прывядзеш. А можа ён паправіца і ад першага разу. Нядыхаўшы ж нада загаварваць, аж у грудзях цяжка, як нядыхаўшы загаварваць. Вадзічка чысьценькая. Да заката сонца памачыць трэба. Есьлі будзе спаць, няхай спіць, – яму сном усё будзе выходзіць.

Я даўно ўмею, мая сястрыца… мама мая ў баю пагібла, і рабят нас у мамы было многа, і сястрыцу яна наўчыла маю старэйшую. А яна, калі ў мяне сталі рабяты, тады мяне наўчыла. Вот: *“Цень, цень, убірай (Імя) боль / З усіх касцей, з лакцей, з нагцей, / З белага цела, з румянага ліца, / З гарачай крыві, з касцяной галавы. / Сцеражыся мяне – я зарэжу цябе і загавару”*.

Тры разы гэта нада, а тады другую: *“…Ізбаві (Імя) ад усякай болезні Госпадзі памажы (Імя) – (3 разы)”*. Ну і з лакцей, і з накцей, і з белага цела і з румянага ліца, і з гарачай крыві, з касцяной галавы – ўсё вымаліваю. А я тады ж малітву малю. І каму я толькі – паможа. З Полацка, ей і Богу не лгу, з Полацка прывозілі. Там вадзілі – не памагло, а ка мне прывязлі – як рукамі атняло.

Юшчанка Наташа прыходзіла ка мне, казала, тожа мальчык і прыгаець, і крычыць. Адзін мальчык тапіўся і толькі я спасла яго. Тапіўся, яго выцягнулі, дык ён жа крычыць ратунку – не спаў нічога, не еў, і ка мне як прывялі. Я і на цень во загаварваю і свянцовай свечкай, во ў мяне свянцовая свечка, у мяне і большая ёсць. Я рэжу нажом тады і на сцяне загаварваю. Таксама ад упуду. Гэты самы загавор, але пасаджу яго на скамеечку, чорнае нешта пакладу і тады цянёк відаць на гэтым, і тады пераразаю ягоны цень, загаварваю. Паможа, я знаю што паможыць. Я самая паследняя ў сям’і была. Гавораць, первая і паследняя могуць. Колькі я дзяцей павылечыла, дай Бог! Каб мне Бог здароўя даў, а сама запала саўсім. Я вось тады гавару, ня дыхаўшы – тады цяжка. Нада ўсё не дыхаўшы. І загавор жа длінны: тры разы адно загаварыць, тады тры разы другое.

Дзевачку прывадзіла тут адна. А тады кажаць: “Дай Бог табе здароўя, якая дзевачка стала харошая, паправілася”. Многа я тут дужа загаворвала, у нас тут мала рабят, а на заводзе… І вось адзін адному падказваюць, і ідуць ка мне. Малае калічаства людзей, што ўмеюць загаварваць.

А закусываюць – гэта ад грызі. А гэта грызь – пупок ладны, і тады я загаворваю і закусваю. Загаварваю на сук – палку бяру, на сук загаварваю і яго крану – і пупок уцягнець, і рабёнак спіць – папраўляеца яго пупок.

Я ўмею, а ўнукі ці будуць умець? Не, мая дзетка. Ай, ніхто не вучыцца. Яны ж Богу не ўмеюць маліцца, а тут жа ж нада маліцца. Я нявестку вучыла, дык яна кажа “не ўмею маліцца”. Ніхто не навучыца. Памру і ніхто не будзе ўмець. Гэта ж не каждаму дано, да. У мяне было дзьве сястры і брат, яны ўсе памёрлі, я самая меншая засталася. Вось толькі сястра мяне наўчыла – умела. А гэтыя – ніхто не ўмеў. А я вот сірата асталася, нейкая вот была дзяўчынка, любіла загаворы. Нейкая бабка хадзіла, пасля ж вайны тады хадзілі, бедная, і яна печ залезе ка мне, начавала ў мяне, дык яна мяне ўчыла. А я яе прашу, каб яна мяне ўчыла, я многа загавораў

умею. А яна мяне вучыць і гаворыць: “Дзетка, усё палезна будзець, нада будзець”.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Бужынскай Ядзвігі, 1932 г.н. у г.п. Обаль Шумілінскага р-на.**

### 1049. Пра знахарак і знахарства

Тут у Лазовіках Яніна была… Яна памёрла ўжо, яна ад ветру загаварвала. Там, у Пагосці, ёсць бабкі. Вось мая дзяўчына тры разы ездзіла ў Пагост да гэтай бабкі. Яна і ад упуду даець, ад усяго даець. Там у яе, казала дзяўчына, вочарэдзь машын, яна нічога не робіць, толькі моліцца і ваду даець. І на сахар загаварвае, і на мыла. Мая дачка ездзіла, малы спужаўшыся быў. Ад упуду ездзіла. Памагло, угу. А то спіць-спіць, а потым заплача, вочкі адплюсніць, і глядзіць. Тады зноў заплюшчыць і зноў спіць. Тры разы ездзілі да гэнай бабкі. Там аж две бабкі даюць.

І загаварваць – гэта ня грэх. Ну, які гэта грэх? У чалавека, калі якая бяда, ён жа да ўсіх абрашчаецца. А як урач тады не паможа, як вот, бывае рожа, бацюшка ці ксёнз вылечаць? Не хацяць рожу загаварваць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Будзько Лідзіі Іванаўны, 1940 г.н. у в. Вінцэнтова Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1050. Пра бабак-шаптух і хваробы

Бабкі былі староанькія дык яны нашэптвалі дзецям, каторым спужаюцца. Адна бабка была старая ад жыватняка загаварвала, ад упуду загаварвала, вось як. На месце загаварвалі. Раздзяесься і вось тут загаварвалі на жываце, загаварвалі прама ў хаце. Ну, а мая свякруха ў Катоўшчыне жыла дык як вот дзеткі малыя плачуць, дык яна казала, што гэта грыжа, дык яна тожэ ўмела загаварваць. Рабёначка разпелінае, а тады пупок яму загаварваець і ён паціхаець, і не плачуць тады.

Гэта кроў цячэць, дык прыкладалі тысячалістнік, правільна гэта, патрэш, патрэш і лучшэ было. У Катоўшчыне ёсць маладая бабка, дык яна ад раны загаворвае. І вот, як хто палец парэжа і не гоіцца, дык ён па-нашаму “валасень” завецца, а па навучнаму “касталом” нейкі.

Ну, як сыпка у дзетак, дык тады як курыца высаджваець цыплянятак, дык тады гэтыя шалупкі яец нада пракіпяціць, а тады гэтым змываць.

Ну, а як барадоўкі, вузялкі завязваюць па нітачцы, а тады закапваюць у зямлю. Столькі барадовак – столькі і вузялкоў завязаць па нітачцы, дык тады, кажуць, праходзяць. Нітка згніе і барадоўка сойдзе.

Звіх загаварвалі. А так нічога не рабілі. А калі вось расцяжэньне, то, што венікі вяжуць бярозавыя так нахраст, гэтай крэсцік перакладаюць. Ну вот ніткамі простымі, саматканымі, як уперад лён гэты пралі дык цяпер, як лёну нет, дык гэтымі ніткамі звязваюць. Тады гэтыя ніткі беруць і на гэтай

нітцы нада 9 вузялкоў завязаць – 9 удоў успомніць, хто не жыве ўжо з мужыком і тады руку сабе тут перавязваюць, і ўсе праходзіць. А нітка сама адгніець ці адвалецца, можна выкінуць ці спаляць нітку гэтую, і рука праходзіць. Ну, нядзелі дзьве ці сколькі паходзіш, і рука пройдзе.

Як ня сьпяць… Як дзеткам, дык на захад сонца выносяць гэтага рабёначка і кажуць: “Зорка-зарніцца, родна сястрыца, – ну калі сын дык. – Мой сын, а твая дочка спяць усю ноч”. І так тры вечаркі нада вынесці і рабеначак спіць усю ноч. Ну вот на захад сонца, з хаты вынесці рабеначка і тры разы так сказаць яму.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Чэклін Алены Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Макараўшчына Лепельскага р-на.**

## 1051. Знахаркі

Як рабёнак ня сьпіць, піць давалі, спырсківалі. Даўней у нас у дзярэўні была баба старэйшая, а я была малая, дык мая бабушка расказвала, што баба тая ва ўсіх людзей сьнімала. Яна лечыла ўсё.

У мяне і цяпер ёсць палец на назе – тады адсекла чым я, тады кроў вот так. Я крычу: “Мама, хадзі сюды!” А яна прыбегла ды бягом за бабай. Сейчас баба прыйшла, сьвет уключыла  і пашаптала, рукой пагладзіла. І ўсё – у мяне палец прыжыў.

Ад ўсякіх хвароб памагала, даўней жа ўсякія загаворы зналі. Мама мая вот гаварыла, забаліць жывот жэншчыне – сейчас баба прыйшла, яна па дзярэўні як доктар хадзіла, сейчас прыйдзець, баба і родзіць. Яна гэтага рабёначка і пераксціць. Век нічога дрэннага не было, сколькі яна жыла. А цяпер жа ніхто нічога знаць дажа не хочаць. Нікога нету, нада каб было.

Я помню баба расказвала, што мне забалеў жывот, сяджу ў туалеце, сяджу і плачу, баюся сказаць, а тады як паглядзела, а ў мяне вот гэткая тарчэла. Тады мама пабегла за бабай. Тая дагары мяне палажыла, памалілася. А моліцца крэпка, ты толькі запамінай што гаворыць. І яна мне нескалькі раз так. Толькі сказала, каб ня прыгала, нідзе ня скокала і хадзіла па-маленьку, пакуль ня пройдзе гэта. І тады я мажа разы два схадзіла, і ў мяне ўсё – парадак, нікуды ні к яму доктару.

Дык гэта во, як баба гаварыла: толькі памагаець хто первы родзіцца, а после – тады ўжо не. Вот у мяне і мама хадзіла, і ўсе хадзілі – ніхто ня ўмеў; а баба толькі адна знала, дочкі не такія. А я толькі ад залатніка знаю: “*Ішоў Залатнік чэраз стары мост, залатым крылом падпеpазаўшыся, з Розай спаткаўся: Сколькі ў дубе розак, столькі ў залатніку косак, залатнічок-панічок, стань на месьцечку, як у крэсьлечку, не ламі касьці, не сушы крыві*”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лобавай В. А., 1930 г.н. у в. Пад’язна Ушацкага р-на.**

### 1052. Візіт да знахаркі

Я сама хадзіла ў Віцебск к адной. Як я сама ня веру, то мне і не памагло. Яна гаворaць: "Ідзіця на Дзвіну…". Дала нам вады. Эта праўда, са мной было. Я дажа хадзіць не магла, у мяне нервы былі здалі. І малец забалеў, сем гадоў. І не ўміраю і не жыву. І хадзіць не магу. Вот і паехалі ў Віцебск к чараўніцы. Яна і гаворыць: "Ідзіця на Дзвіну і пусціця бутылку на ваду". Пашлі і кідалі бутылку. Бутылка тая пашла кверху рылам. А тады яшчэ казала: "Пойдзем на кладбішча". А я: "Не пайду". Што яна мне давала той вады. Гаварыла: "Куды тая бутылка даплывець, і тады той чараўніцы дрэнна будзець". Не знаю, мы хадзілі на Дзвіну, пускалі... А што там было?

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Маціеўскай Маі Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

### 1053. Бяда з сынам

Гэта было мне, у мяне з сынам. Мой сын быў 1953 года раждзенія. Нада было яму вясной у армію ісьці, 28 февраля радзіўся. А я трохі прыбалела, пайшла ў саўхоз работаць. Пайшла на ферму, я даю кароў. Ка мне прыбягаіць Васіль, механізатар, і кажыць: "Грыгораўна, бягом дамоў, твайго сына парэзалі". Я адхадзіла, а мой сын глядзеў цілівізар – хто яго мог парэзаць? А к майму сыну всегда малыя прыходзяць. І вот прыйшлі ўтрох ці ўчатырох к яму с клюшкамі ў хакей гуляць. А ён п'яны, хлопец са Слабады. А мой ішоў у туалет, а ён к яму. І кажыць, што хацеў з кулака даць, а ў яго ножык быў у рукаве. Дык гэта добра, што ён не пад левую, а пад правую, два разы ўдарыў – і прарэзаў.

Я прыбегла. Сын мой ляжыць, і лужына да самага парога крыві. Сасед пабег, схваціў каня і запрог. Я прыбегла, і была жанчына, схапіла палаценца і трымала кроў. А я марляй яго перавязала. Мы яго ў ватняе адзеяла. А гэтыя дзеці да бальніцы пяшком дабеглі. У нас не было целефона. І сказалі, што Федзю парэзалі. Скорая вышла з Навалукомля, яго аднакласнікі няслі яго да дарогі. І тут скорая перад намі. Хірургі ўжо падгатовіліся і мне сказалі: "Ён ранены смярцельна, есьлі толькі печань не задзета". Не хацелі дзелаць аперацыю, але патом дзелалі. Паламалі два рабры, зашылі лёгкае. А ў мяне вываліліся два зубы, беленькія, чысценькія, крыві не было. Гэта ад нерваў. Врач сказаў: "Мамаша, у вас зубы балець не будуць. Яны падымуцца, а вы будзеце іх вынімаць". І так да аднаго зуба. Ён сказаў: "Мы здзелалі ўсё, што маглі. Але мы яго вылячым".

Праз тры-чатыры дні ён стаў гаварыць: "Мама, уцякай, вунь немцы ідуць, цябе заб'юць. Я гляджу на дверы, як кіно перада мной". І мне сказалі, што ён сільна іспуганы, ён нідзе не відзеў бою ніякага. А я чула, што ў Лукомлі ў нас была старуха. Яна давала ваду. Утрам мы з дачкой падаілі кароў і бягом пабеглі ў Лукомль. Той старухі ўжо нет, імя ня помню. Была

яна мачыхай, але жыла адна. А яна тады спрашываіць, якія ў яго вочы, якія валасы. А тады: “Дык гэта ваш сын Федзя, ён у мяне ў хаце разоў дваццаць быў, я яго знаю”. І яна мне дала вады, паўлітровую бутылку, і кажыць: “Есьлі толькі не будзе лепей дні два, тады прыходзьце”. Ну, я і пашла.

У бальніцы мне быстра халат, і сказалі, каб ад сына не адыходзіла: “А цяпер будзеце, пака ён не выздаравіць”. Захаджу, гляну на сына, а ён: “Я знаю, цябе не пусцілі, а ты была на карыдоры, я чуў цябе”. Ну, няхай. Я тады: “Сынок, на табе гэтай вады. Будзеш піць?” Ён: “Буду”. І ён тры разы глынуў. А яна мне тады сказала: “Наліце вам на руку і змывайце яго, вот так, навотмаш”. Я яго змыла, змыла, у абед зноў дала папіць, апяць змыла, а ваду паставіла ў тумбачку. Прыйшоў врач, паглядзеў яго: “Ну, што, касманаўт, адлятаўся?” А ён: “Усё, доктар, прызямліўся”. І стаў гаварыць добра. І сказаў, што вылячылі не ўрачы, а мама.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашка Тамары Грыгораўны, 1921 г.н. у в. Кісялі (нар. у в. Тарапы) Чашніцкага р-на.**

# НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

## 1054. Пра хваробы і лячэнне

Грызь замаўлялі. Малітву мовілі. Эта нада адмысловы чалавек. Ілі первы раждзёнік, ілі паследні. Як на спінцы валосіці колюцца – эта, кажуць, як ходзіць у палажэньні і ці ката, ці каго нагой папіраіць. Ёсь малітва. Моліцца і качаіць так рукой, проста рукой і тады гэта шарсціньня высыпаіцца. А як доўга пісііцца, травы такія былі, што чапаюцца за адзежу – сучачкі, паралі і паілі. А як сурочуць, вада была ад уроцы. Сціралі то падалом ці чым і казалі: "Чым маці раджала, тым і адратавала". А яшчэ дужа добра соль ад чыстага чацвярга. Узяў і пырснуў на яго, соллю. Соль свянцюць і яна ад усяго гэна соль. Хоць каму. Як сабе, памачыў у хлеб і з'еў. У нас кажуць, у чысты чацьвер – сама памоцная соль.

Прычча – эта сярэдзіна як каланець. Мне самой было, карову даіла, паднялася і як саданула. У нас бабка была. Становісься во так во просценька, руку падымаеш, а яна мерать. Гэдак яна мераць да аднэй нагі. А тады падымаеш другую і да другой нагі. Наперакрэст, той самай ніткай. І на плічах, і ад плячэй і да пясніцы і тэй нітачкай падпярэжаць. І пройдзець. І малілася ж нешта. І нітка пакуль адваліцца.

А наравы ў дзіцёнка, тады нада сьцібануць. Як сцібанула і я і вылічыла тыя наравы. Эта наравісты тады. Такоя рабёнку ўдасца, што – брык – і лупіць і рукамі, і нагамі. Як выхрасьціла і німа.

А як первы раз увідзіш прыпадак, нада разарваць на ім рубашку гэту, што перша ўвідзіш. У нас быў пляменьнік, і быў гром, і ён крэпка спужаўся. Ён з начы і стаў як нежывы. Толька пена і ляжыць, як нежывы. Гэта падучая яго пала. Скока што ні рабілі, а тады разарвалі гэту кашульку на ім і тады на крыжаванай дарозі калом нада загнаць яе. Асінавым. І тады нада загнаць яе ў зямлю. Алі гэта нічога не памагло. А памог, быў у Пітухах чалавек такі, Камінскі. І яго з'ездзілі прывязлі, і ён як замовіў, і тады, хлеба з маслам так тоненька намазана, напісаў. Напісаў там гэта ўсё некія буквы там на гэтым хлебі. Яму далі з'есці. А тады яшчэ картачкі выпісаў. І яго маці абакрыла пасцілкай, і пакурылі гэтымі картачкамі і яна яго дзіржала. І па тоя тоя, больш нічога ня кінула.

Калдун. Цяпер яго німа. Балелі каму галовы, даўней таблетак не было, дык тады запушчалі валасься, ён зваліцца, зваліцца такі, як кукла на галаве. А тады носюць, а послі нада здымаць. Тожа адмыслова здымалі. Можа і молюцца. Палілі. Я відзіла бабу з калдуном.

Валаснік між пальцаў, хоць дзе. Вілкай ударала, а кроў не адпусціла, вот і палучыўся такі нарыў, валаснік. ... Вылівала, як заснула, дык цэлую ноч спала... Бяруць цэлую мяцёлачку каласкоў і ліюць. Яны ўсе скарэюць, скрапаюцца гэтымі валаскамі. Зліпнуцца, не раздзярэш.

Наход бываець, як у бані мыецца. А як ідзець хто такі не ў чыстаце па-жэнскаму. Еслі ідзець такі чалавек, дык нада выхадзіць з бані. Еслі найдзець ён на цябе на голую, дык тады такія кругі, такі наход свярбучы выйдзіць па целе. Тады рукавятку лёну заваруць і гэтай суравізнай мылі. Ілі яйкі, вот гэтыя шкарлупкі, што ціпляты выходзюць, змыць і ўсё.

А кругі на целе скружавалі. Дзе сук які на сцяне, мовюць, перад гэтым кругам. А тады на сук. Хлебам. А тады чэраз плячо на крыжаваную дарогу. І прападалі.

А як ячмень, нада злавіць жывую муху і раздушыць на гэтым ячмені. Ай, лавіла і душыла, нічога не памагаець. А тады сказалі, як хто первы ўстрэціцца з табой, каб хвігу даў. Не памагала нічога. А тады сказалі, соду закіпяціць і як цярпець можна і прыкладаць. Гарачую. І па сягодні німа.

Руку разаўеш, тады молюцца малітву і вузялкі вяжуць, дзвяць і імена кажуць удаўцоў. І Бугуродзіцу молюцца. І імена на кажды вузялок, дзевяць нада. І кала рукі завяжуць.

Кажуць свяшчэннікі, што шаптаць грэх. А раньшы ж шапталі. Дажа бацюшка ў Порплішчах замаўляў рожу сам. Такі старычок быў, Генадзія, дык ён сам замаўляў. Ужо гадоў дзесяць як памёр А вот нашы дужа строга.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

### 1055. Пра маму-знахарку і розныя хваробы

Як рука разаўецца, перавязвалі ільняной нітачкай, асобенна перавязвалі гэтай самай… Вот як вярбу пасвянцаюць, вот нясуць вярбу ў царкву, і каб вярба не рассыпалася, яе ніткай перавязваюць. Дык гэтай ніткай дужа добра было перавязваць. Тады ўжо ад гэтай вярбіны сухой і перавязваюць.

А як спіна забаліць, перавязвалі тожа, вот як на Грамніцы пасвянцаюць свечкі, дык гэтыя свечкі звязваюць тады кужалем, кужальным, кужальным лёнам гэта звязваюць, свечкі гэтыя. А тады свечкі гэтыя, як спіна баліць, гэты кужаль увесь адвязваюць ад гэтых свечак і звязваюць сабе на пояс. Так во. І тады падпаясваюцца.

Як хто (спіна забаліць), было што і тапталі. Вот лажыцца, але тапталі яе, ну ні кажды таптаў. Нада таптаць толькі еслі первы радзіўся – той толькі можа патаптаць, і паследні, пад парогам.

А калтуны і ў нас былі. Мая мама лечыла гэты каўтун. І бывала к ей людзі прыходзілі лечыць. Валасы саб’юцца ў ком на галаве, а ком – такі як камень, і вот яна лечыла гэты каўтун. Яны ж усякія, ёсць дванаццаць каўтуноў. Многа, іх жа дванаццаць, і яна лечыла, к ей людзі хадзілі. Толькі яна плату не брала. А цяпер жа людзі лечаць і плаціць нада. А яна, бывала, не брала плату. Гэта можыць быць і з іспугу, крэпка спугаісься, улячэшся нешта аж ад сэрца, і можа быць каўтун. Другі раз так улячэшся, іспугаісь-

ся, што аж серца становіцца. Вот ад гэтага можа быць каўтун. У мяне тут саседка адна ёсць – сем раз (каўтун) снімала. Ездзілі некуды, снімалі ей. Ён жа і сляпіць, і дурніць – яна ж дуркаватая нейкая. Такая не сусімная, на галаву дало ёй. Адно слова яна будзе пытацца ў цябе дзесяць разоў. Ей гавары, а яна абратна будзе пытацца.

А мама адразала. Я помню: малая была, у яе самой каўтун быў. Я малая саўсім была, гады тры можа, ну помню. Яна ўстала ноччу, ноччы ўстала, дзверы прыаткрыла, на парозе села, села на парозе і зрэзала гэты каўтун. І тады ўзяла ў чыстую трапачку звярцела той каўтун, паклала туды, а я ляжу і гляджу, што яна там робіць. Хлебу туды паклала і солі пасыпала, звярнула, звярнула і пашла. І куды яна пашла, я не знаю, а яна панясла яго на рэчку, на ваду пусціла. Зрэзала, наклала хлеб, соль, у трапачку завярнула і пусціла на ваду. Толькі яго зразаюць, як усе людзі спяць. Ноччы, як усе людзі спяць, гэты каўтун зразаюць. Нажнямі мама ўзяла і зрэзала. Ну як яна там зрэзала, ну зрэзала, і адваліўся ён.

Пілепсія, я не знаю як… Яна прыродная бывае, радзімая бывае, і бывае так, з іспугу тожа. Як первы раз убачыш прыпадак, тады садзяцца на яго. Садзяцца на твар і голым целам. Нада голым целам сесці яму на ліцо. Гэта, як першы раз увідзіш.

А валасень мая мама тожа лечыла. Дужа доўгая хвароба. Еслі яе ўгнявіць, дык яна дужа доўга. Яна на пальцах, большую ж часць, на пальцах, на ногцях. Мама вылівала ў каласы. У пустыя, пустыя жытнія каласы гэтыя. Тры разы па дзевяць каласкоў. Тады звязваюць іх у пучок, і ў цёплую ваду, і каб вада была цёплая. І тады вылівае, тры разы па дзевяць, і тады лечыць. Ну скολькі, вот тры разы палечаш, так і сціхаў.

Мама лечала ўсяк, і вечарам, і як калі хто там прыйдзе. Як прыйдзе, тады і лечыла. Яна лечала ўсягда. Бог жа сказаў, што лепшае можна дзелаць і ў вялікія святы, а плахое нікагда.

Бываюць начніцы, лечаць іх. Вот, як малых дзяцей, мама насіла іх па кутках. У адзін вугал зносіць, у другі... Вот гэта я трохі помню. Яна і маіх дзяцей насіла, а як яна лечыла – не знаю. Па кутах насіла, накрыж: у гэты насіла, тады ў гэты… Ну і лечыла, прыгаварывала. Знаю, што нешта пра курэй казала. Нешта, *“куры-сястрыцы, вазьміце ў гэтага дзіцяці начніцы: вячэрнія, начныя і ранніе…”* А болі я і ня помню. Проста на руках насіла.

А як спужаецца дзіцёнак, дык лечыць, хлебам выкатвала гэты іспуг. Хлеб жа свой быў, з печы, цёплы дастане і шарыкамі тры скатае і тады выкатвае. А тады хлеб сабакам аддавала. Ну, пад сталом насіла ад спужання. Каля гэтай ножкі абвядзе, каля той, накрыж неяк, а паследні на куце.

І вогнік, да. Як печ паліцца і вугаль з печы трэскне, тады гэтым вугальком больку гэту і кідала ў печ. А круг яна мне лечыла. У мяне быў круг,

яна лечыла. На вакне раса была, і расой мне лечыла. І шчытала ад дзевяці да аднаго, тады ад аднаго да дзевяці.

Урокі мама лечыла. Лечыла яна так: *"На моры,* – кажа, – *гусь, на гусі пер'е, а ў пер'і вада не дзяржыцца, так і* (тая скаціна ці хто) *ўроку не баіцца"*. Можна і на чалавеку, можна і на вадзічку, гэтак яна лечыла. Гэта балезь сразу відна. Вот, напрымер, ураклі цябе ў разгаворы, табе начынае быць халодна, цябе начынае цягата нейкая. Значыць, цябе сурочылі, баліць галава ці што.

Рожу мама гаварыла, маленькую лечыла. *"У нядзельку рана праз копаны горы Ісус Хрыстос сышоў, тры рожы ў руках нёс: адну зламаў, другая звяла, а трэцяя спала"*. Ну, яна рукамі гладзіла. Яна, гэта рожа, была ад яе помач. Даўней вадзілі коней на канюшню, і ў траве былі жучкі блiскучыя, у балоце дзе, ці на пні. І гэтага жучка ў руках расцерці, і яна казала, што ні нада нічога гаварыць. Вот гэты жучок. Светлячок. Летам, і тады іх узяць у руку, пацерці і не нада лячыць, толькі рукамі пагладзіць.

І ад змяі ўмела мама загаварваць. Іх жа многа, дванаццаць, ці дажа трынаццаць. Яна як шчытала, дык гадання-сіпуха, рапуха і насцюха. А тады іх перашчытвала. Яна ж ёсць: калодная, балотная, крыжавая, межавая, палявая, капетная (тая, што хаваецца ў капе сена – рэд.), гнаявая, запечная, падпечная і кутавая. Кутавая паследняя. Во сколькі многа. Еслі яна іх перашчытае адным духам, то будзе помач.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

### 1056. Хваробы і лекі

Ад уроцы цераз рэшата ваду пералівалі чэраз парог. На адным баку вада, а ты на другім, тут чалавек стаіць і рэшата. І ты ў гэта рэшата пераліваеш. Тры разы па тры. Дзевяць раз. Чалавек у сенцах, а рэшата ў хаце.

Той вадой тады выцiралі ліцо, тыльнай стараной.

Калі ў рабёнка валасянка, тады бралі абычна хлеб пяклі свежы і мякішам. Скруціш пышку такую і па спіне качаеш. І ў самым дзеле, на эты хлеб выкатываліся валаскі. І хлеб выкідывалі на захад сонца. Сабаку не давалі есці, проста выкідавалі.

А як ня спіць, плачаць… У нас жанчына была. Яна прыходзіць, дзяцёнка ў падол, раньшы ж не насілі юбкі вузкія – шырокія, у падол і нясець там, дзе куры сідзяць. К курам нясець. Якія яна там словы гавораць, не знаю. Абычна дзелалі на захад сонца. Апяць тады прыносіць у хату ў подале.

Сцень – як спугаецца дзяцёнак, выбіраюць сцень. Нада гаварыць… Абязацельна нада перакрысціцца тры разы. Стрыглі чуб, трошку выстрыгалі чуба, патыліцы, крэст-накрыст так. Як крысціцца. І тожа гаварылі сло-

вы. *Ідзі (сцень) на сухія балоты, на дрымучыя лясы і не вяртайся.* А валасы ўвязывалі ў анучку і затаркавалі недзе, ну ў такое места, дзе далёка, ці пад крышу, ці пад дзверы.

Эта ад звіху: *"Ішоў конь, конь упаў. Каб у цябе звіх прапаў"*. Во так во тры разы гаворуць. Ну, туды, дзе случылася.

Ад рожы знаю, цёця балела, дык яе вылечыла адна жанчына. Яна брала там, дзе осы дзелаюць гняздо, можаць быць бальшоя, можаць малая. Ну канешна, каб там не было ўжо тых ос. Яны заранння загатаўліваюць, як восы там не жывуць. І абматывалі тым ці руку ці нагу.

Ад лішая, як восень, на вакне во пуцікі, бяруць этай стараной мажуць, рабром далоні і сціраюць. І барадаўкі, нітку бяруць, завязаваюць, а не, бульбіну бяруць, разразаюць напалам, мажуць ей, а тады адну чась закапаваюць, а другую выкідаваюць. А нада закапаць у такоя места, каб яна не прарасла. Можа, дзе на пяску сухім, каб не прарасла.

Калі ячмень на воку, даюць фігу тры разы. А вогнік прысыпаюць попелам ад махоркі. Гэтым попелам прысыпалі. Сабіралі і прысыпалі. Было і зубы балелі, хадзілі ў лес к дубу, бралі там небальшую карыну, цёрлі ей зубы і занава туды прыстаўлялі к таму дубу. У вайну, як у нас хата згарэла, мы жылі ў лесе. Не было ж дзе жыць. А ні доктара, нікога ж не было. Во так і лячыліся. Мама так лячыла. У лесе дзярэўнямі жылі, зямлянкі былі…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Макоўскай Фаіны Іванаўны, 1941 г.н. (нар. у в. Луг) у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

### 1057. Пра хваробы і лячэнне

Бабкі былі, ай, яны ўжо паўміралі ўсе. Давалі ад пуду, давалі ад уроцы карове, ну было, а цяпер ужо нет, цяпер ужо ўрач. Было: карову сурочаць, малака не давала, білася там тады. Ваду я відзела, старухі там неяк на ўгалькі злівалі, шапталі нешта, даўнейшае, а цяпер ужо няма гэтага.

Ад валасніка тожа я відзела, у мяне ў самой, як я ў санаторыі робіла ў сталоўкі, палец балеў, дык я ездзіла. Дык мне бабка каласкі жыта і на палец клала, і вадзічкай неяк залівала, ну па гэтым. Палец балеў, дык я два разы к ей ездзіла. Ну мне гаворыць: "Эта ў цябе валасень у пальцу".

А каўтун, гэта проста ад прыроды. У мяне ў самой у моладасці во тут во каўтун… Гэта я бывала гавару, а мне гавораць: "Ай, гэта ў цябе каўтун, рашчашы добра ды і ўсё". Ня помню, можа што і дзелалі мне старухі, можа і загаварвалі. Ну неяк у моладасці было, збіваліся валасы.

Гавораць, дзіця калі не спіць, ну дык у яго можа крыктуны. Во тут, во ў шыйкі такія валосікі калючыя, дык ён тады ня спіць, во так во круціцца. Даўней так робілі: як купаць, тады на ўгалкі начовачкі, цяпер ж начовачак нету, сыпалі залу тоненькую, і ў гэтай тады во так перанасілі.

Яшчэ харашо свежы хлеб, даўней жа пяклі дома хлеб, тады свежага хлеба як спячэш, тады як пакупаеш, тады во так во каталі, і ў хлеб гэтыя валосікі. У яго валосікі тут, і ён ня спіць, круціцца во так во. Сразу як увідзіў, што ня спіць рабёнак, ну тады хлебцам разы два во так пакачаеш цёпленькім, і рабёнак паціхаець. Гэтыя валосікі ў хлебец прыкарываюць.

А я помню, і хлебцам, і залой, мне прыхадзілі старухі і гавораць: залы з печкі вазьмі. А тады купалі, купалі і па-капелькі трошку сыпалі ў ваду. Але нада пакласці на чатыры ўгалкі, а тады яе змыць, а тады пакупаць і вадзічкай абдаць рабёнка – тожа харашо.

Вот дзічкі ў мяне былі. Помню, маладой, як ссыпала руку, дык я сама дзелала: хлеб пасадзіла, ну гадоў мне 14 – 15 было, мне старухі сказалі: “Пасадзі хлеб сама і вазьмі, хлеб у печ пасадзіш у формах. А тады вазьмі солі ў руку і сыпні, і бяжы з хаты, каб не пачула, як соль, соль тая трашчыць”. І ўсё, праўда, я як сыпнула адзін раз, усё, маментам не стала, а то ссыпала, як курыну, руку.

**Зап. Жолудзева П., Захарэвіч А., Шумілаў Д. у 2007 г. ад Хаткевіч Ганны Канстанцінаўны, 1930 г.н. у в. Бор Лепельскага р-на.**

### 1058. Ад балезьняў

Я як прыехала, была ў Будзішчах маладзічка, давала ад балезняў, ад спугу, ад звіху давала, пальчык загаваравала ад валасня. Я і сама ўмею, я толькі ад спугу ўмею. Ад мамы навучылася. *“Зінін сцень, выхадзі з касцей, і з жыл, і з сустаў, з печанёў, з леганёў, і з коласа, і з воласа, з рацівых рук, з борздых ног, з румянага ліца. Не сушы і не нудзі, а калом ідзі”*. Тры разы гэта на ваду. Вот сонца заходзіць, на палу сцень чалавеччы, на сцяню выліваю. Нада вадзічку і ложачку... Прама па сценю ліць. Эта ад спугу, мая дзетка, калі чалавек спугаецца, тады ўжо сцень вымяраюць і вадзічку даюць. Гэта спуг. Калі сабака спужаў дзяцёнка...

Мама мая многа давала і многа ўмела. Яна мне казала. Вазьмі ты запішы, забудзешся, ня будзеш знаць. Яна многа чаго не ўмела. А я толькі гэта наўчылася, не хацела. Тады ўжо, як сталі ў мяне дзеці, яна мне: “Ты хоць ад спугу наўчыся”. Яна і ад уроцы ўмела, і кругі адкідывала. Кругі адкідываць дык я ўмею. Бяру палку з сукам, пахукаю, паплюю і тады: *“Лішай, ты тут не мешай. Сук з пня зваліўся і ссох, і прапаў, хай гэтай болі ня будзець ніколі. І ссохнець, прападзець, хай калом ідзець”*. Гэта кругі адкідываць. І тут дзяўчонка ў Сянне работаець, усё часалася, і мякла. Я ёй: “А чаго ты чэшашся?” А яна: “Я як чашу, тады аж вадзічка выступаець”. А я ей ўзяла, кажу: “Схадзі палку прынясі…” Два разочкі адкідала, і часацца перастаў.

Залатнік я сама сабе палечу. Пайду к загнету і печку падымаю тры разы. Яно і ўстановіцца. Стану во так задам. Можа і шэсь разоў, і дзевяць разоў.

Бывае, што на спінцы нейкія валаскі колюцца ў рабёнка. Гэта на спінцы валасень. Тады купаюць у зале, макаюць, кладуць залу накрыж, тады купаюць, залу выжымаюць, там такія валаскі дажа ёсь. У гэтай зале. У цёпленькай вадзе купаць нада, начоўкі каб былі дзеравянныя. Яны бяруцца, кажуць, як яна ходзіць у палажэніі, тады нельзя сквозь шчэлачкі глядзець, а то ў дзяцёначка вочкі будуць касыя, і тады нельзя нешта глядзець. Каб і валасня не было. Я, дзеткі, добра не знаю.

А калі прыпадак у рабёнка, эта не дай Бог, эта ад спугу. Як первы раз увідзіш, тады іголачкай пальчык мезены пракалываюць. Каб кроў пашла. На левай наверна нада. Тады перастанець біць. У мяне гэтага не было. Бывала, спугаецца, дык я сама ім вады давала.

Як ня спіць, насілі ў куратнік, бывала, каб спаў. Нешта нада было гаварыць, ня помню. Я і сама сваю дзяўчоначку насіла. Тожа не спала, крычала. Скруціла ў пялёнкі, і ў куратнік, пад куры. Я нешта і выгаваравала, ужо ня помню. Абкрычалася. Шэсь месяцаў усё плакала і плакала, а тады ўжо і стала нічога.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Духовіч Зінаіды Пятроўны, 1927 г.н. (нар. у в. Краснае Сяло) у в. Будзішчы Сененскага р-на.**

## 1059. Пра лекавыя зёлкі і іншыя лекі

Трыпесьціца такая была паміж пальцаў. Тут во так паміж пальцаў. Тожа такую траўку мама знала, тады эту траўку кіпяціла ў малаке і прыкладывала цёплай гэтай траўкай. Вот яна на поле недзе расьцець, такія тры лісьціначкі ў ей, у этай траўцы. Цвятоў німа ніякіх, такі вот. І такія стракаценькія такія. Вот ціпа, знаеце што вот, такія, вот, толькі што меншыя, як крапіва, во такая, толькі што меншая, такая маленькая. Помню, мама ўсё набірала мне і бувала ў малако памочыць у цёпленькае, тады прыкладывала да пальцу.

Я была сільна балезьненая з дзецтва і цяперака. Аж з тэх часоў, дык вабшчэ ж ужо забалеваніе не кідае. І печань, і нервы гэтыя бясконца. Ну я наркоз бальшы перанясла. Я была пад трактар папаўшысі, так мне гэта самае, наркоз бальшы былі даўшы, поўнага. Даўней жа ж бабы лечалі. Ад печынь – бясьмертнік, і зверабой тожа добра ад печыні, мама мне набірала тожэ зверабою. Зверабой, знаеце што, двух сартоў ёсць. Другі неяк не такі, такі лісце болей такія кругленькія, шырокія – гэта нелячымы. А там такія вузенькія лісткі і такія, дробненькія такія цвяточкі жоўтыя высока растуць. У нас іх многа ў Навасельцах было, па канавах яны раслі. Я ўсё тады сама, як мамы не стала, я ўжо сама набірала іх піць. Кіпяціць жа ж нільзя, толькі кіпятку закіпяціць і ў ваду тады, ну вот кіпяточка, каб нацянула, і піць тры раза ў дзень.

А цэнтура – эта ат серца. Я помню мама піла ўсё, цэнтуру сабірала тожа, і мне давала тожа. Такія тожа розавенька цвітуць, такія ну ня дужа высокія, розава цвітуць, па гародах дажа буваюць. У мяне дык па агародзе было ў Навасельцах цэнтуру. Але я дык, я дык болей на лекарствах, мама дык болей, яна ніколі гэта не піла, казала: “Эта дачка ўжо ўхлесцілася ў гэты таблеткі”. Мая мама болей травамі лячылася. Яна эту вот валер’янку капáла, аны абычна па мхах растуць, валер’янка. Так яна накапаець бывала, насушыць, і тады ўжо заварыць і п’ець. Яна ўсё на мяне крычала: “Што ты, дачка, вот травіш свой арганізм, – кажаць, – гэтымі таблеткамі!” А я так болей таблеткамі. Ад серца дык гэты каплі брала. І цяпер я без таблетак ня грама.

А ядленіц гэта ягадкі гэты во такія маленькія, галубенькія. Вот пахожа, вот можа знаеце вы, галубіка, як вот завуць п’яніцы. Ну вот ціпа гэтага, такія яны сівенькія. Яны ад почак. Я як была у санаторыі, дык сабіралі бабы, ну мне почкі не балелі, на почках я не балеўшы. А дык гэта, а бабкі сабіралі ўсё, і фасолевы гэты струкі, толькі фасоль вылучаць, а гэты шалушкі ў капяточак тожа, наліць капяточкам і тожа ад почак, эта я знаю. Ай, людзі ўсякія. Ну ў нас цёця, маладая памёрла, ей было сорак гадоў, ну шчэ рабяткі малыя былі, яна беркулёзам балела, так яна бедная сабачы жыр не піла, ну, гідзілася, тожа ат лёххіх, як лёхкія балят. А ў нас такі Ананіч Віцька, дык ён, ой, да сколька, да восемсят гадоў дажыў, усю пару сабак этых... Ну вот, дзе сыты сабака, тады зарэжаць і жыр п’ець. Ну тожэ беркулёзам балеў.

А мне былі Віцю сказаўшы, ну майго сына, паіць. Вобшчэм, пайсці на кладбішча і выкапаць, ну, як пакойніка ўкапаюць, гэтат чэрап і тады заварываць і даваць яму піць. Ну як гэта, дзяцёнку так даваць, ужо пакойнік этат сколька ён ужо адгніўшы там. Я кажу: “А не. Раз ўжо нічога не памагае, дык што ж ўжо, буду рабёнка”. Ды я і не атважылася б. Так бабкі раілі. Каб гэта ўжо так мне хто сказаў. А так. Да шаптуноў ездзіла, дык шаптуны сказалі, што нічога, раз нерв перабіты ў яго, сам Далман сказаў. Ну дык і врач жа знаў, што беспалезна, кажаць: “Ня езьдзі зра, – гавораць, – і грошы не адавайце. Нічога, раз нерв перабіты ў яго”.

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны, 1936 г.н. (з в. Навасельцы) у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (Дзікеўскі інтэрнат).**

### 1060. Лекавыя зёлкі

А гэта ёсць у нас свята Шоснік, тады свянцілі зёлачкі. І тады заварывалі, і давалі піць. Ну, памагала ад прастуды. Ай, такія *калапенькі* раслі каля рэк. Ну, нізенькія такія растуць. Не цьвятуць, ну выпаўзець такі, як каласок, і так зернеткі, зернеткі, вот яны лячэбныя такія. І вот такія *гарляначкі* раслі. Вот іх жа цяпер няма, нідзе я іх ня віджу гэтых гарляначак. І

вот *свянтаянка*. Яна многа ад чаго памагаіць, кроў ачышчаець. Тады шумнік такі рос, галубінькім цвіціць. Ну, нада, каб дзевяць вяночкаў, каб дзевяць сартоў гэтых лекарстваў, ну, такі небальшэнькі вяночак. І тады на шнурочак. І тады ў касцеле там павешаюць, і гэтыя зёлачкі вісяць, можа і дзьве нядзелі. Ну вот дажэ ў малітве пішацца, што можна пад абразамі іх захоўваць. Ты мусіш расходаваць іх за год, пераварыць на чаі, лячыцца імі. А тады свежых.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

**1061.** Збіралі зёлачкі, дужа многа было лекарственных. Ужо не растуць гэткія зёлкі, не растуць такія. Даўна было такое *Мядзведзье Вуха* звалі. Такая во гэткая дудка, і ў ім гэткія жоўтыя жбаночкі, калакольчыкі, бываюць такія сінія, і дудка тоненькая, а гэткая дудка таўстая. Я калі сюды замуж прыйшла, такія толькі каля лесу бачыла. А цяпер няма іх. І *Мацярдушка* такая была і *Чанбор*. Дык Чанбор каля гэных хат напроць лесу, быў чанбор гады два таму. Дык чанбор п’юць, кажуць, ад почак дужа добра. А Мацярдушка была такая, як *Свентаянка*, гэты жоўты цвет, толькі ў яе былі бурачковыя квяткі. Ну, вішнёвыя, такія цёмныя гэтыя цвяточкі. Цвет такі харошы, і ад сэрца. А Мядзведзя Вушка – гэта таксама дзяцей курылі ад пуду, растройства.

Вот тут дужа раслі усякія зёлкі. Тутака і *Спіш* такі, жоўтыя квяткі… І *калакольчыкі*, і *калапенькі*, нейкае зелле было ад мочы. Як не пускае моч, балеюць, ці што почкі. І калапенькі такія былі. Тоненькая дудачка, а яны такія вот меньшы, чым вот гэты мой, зёрненькі на ім. Гэткая дудачка – тоненькая нітачка, і на ней гэткія зёрнышкі. Іх многа дужа раней было.

А так зяллё многа было, збіралі. Мох расцець у вадзе, і ў маху гэтым, як мак, большыя чым мак, жоўценькія кропачкі, і дужа добрае націранне ад прастуды, калі спіна баліць. *Бадзяга* яе звалі. Я рвала гэты мох і робіла на гарэлцы, як гналі першак, во аставім, і во. Ну, як прастынеш, памагала. Калі спіна баліць. Але нада жырам смазаць, каб не спаліць кожу. Дык гэткая расла бадзяга.

**Зап. Філіпенка У. у 2009 г. ад Васілевіч Галіны Іосіфаўны, 1927 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

### 1062. Пра хваробы і паддзелы

З глазу вадзічку давалі. Ідзеш вады куды далей ці хто ў дзярэўні дае. Вот хахлушка наша добрая – давала ўсім ад усяго: ад упуду, ад зглазу, ад усяго яна давала.

Бываюць крэктуны. Гэта, як малы родзіцца і яму коліцца на спіне. Іх лечылі попелам. Накрыж пасыпаць і купай у попеле, разы тры пакупаў... І

яшчэ хлебам качаць па спіне, мякішам клёцачку скачаў і пакачаў па спіне, тады на хлебе ёсць валаскі. А хлеб тады курам ці хай хто з'есць, сабака які. Гэта бывае, гэта як носіць яна (жанчына) ці катоў дзяржыць ці сабаку гладзіць.

Валасьнік з вады, гаворуць. Як у вадзе палошчыш ці што робіш, і там валасы нейкія плаваюць. І яны ўпіваюцца. Нешта ж нейкае ёсць. А можа хто кідаець, хто што знаець і кідаець. Цяпер жа, дзякуй богу, нет такой хваробы. Валасы яшчэ як врэднік, ну, я так чула: есьлі я хачу врэду табе надзелаць, я магу ў цябе валасься выдраць і ў рэчку. Накруціць на палачку, кінуць у бягучую вадзічку і ўсё – табе загавор – галава будзе балець.

Яшчэ гаварылі, на яйка дзелаюць. Ну, я, напрымер, дзе якое яйка найду я яго не забіраю, я яго адшпульваю ці спаліць нада. Таму, хто гэта паддзелаў, плоха ў гэты мамент сдзелаецца. А рукамі браць няможна. Не, сястра сказала: “Палі!” І попел гэты нада несьці на 3 крыжавыя дарогі, каб людзі не відзелі, высап – і тады ўсё будзець харашо.

А гэта вока… Бываець, другі можа і не знаець, што ў яго, а бываець такая мінута надыйдзець, і я во гляну сваім глазам – і вам можыць паврадзіць, а я ж саўсём непрычасна буду да гэтага.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад жанчыны (адмовілася назвацца), 1937 г.н. з в. Заазер'е Ушацкага р-на.**

### 1063. Пра хваробы

Сурокі ёсць. Гэта праўда. Ёсьць некаторыя: з ім загавары, а ён як глянець – так плоха. Я сама тожа загавараваю грыжу, грысь. І яшчэ мне былі даўшы, дык я ж дала перапісваць, такую надрукаванаю з кніжкі пра упуд і рожу. А тутака ў мяне такая Марозава Шура: “Ой, дай перапісаць, я перапішу”. А мне можна, я есьлі старэйшая – меншым можна даваць, а ўжо большым – не, тады мне плоха робіцца, а меншаму – давай сьмела. Дык я дала ей – усё. Яна там сястрэ дала, тая – другой сястрэ і так маю гэту бумажку і …

Вот грызь я ўмею: “Грызь, не хадзі па краснай крыві, стань грызь на места”, – і нада костачку якую-небудзь грызьці, вот каб не было гэтай грыжы. Ужо я гэтак свайму мужыку загаваравала. Ён на камбайне ўсю жызьнь робіў і на трактары, дык у яго яна то ў адным баку вылезіць, то ў другім, а я загавару – яму ўжо і лягчэй. А ў мяне ўнучак ёсць, дык у яго на шыйке вылезжы была, як яічка курынае тры такія. Яго на аперацыю ў Наваполацк адпраўлялі, а я яму загаварыла і не паехаў на гэту аперацыю, і нідзе не стала.

А вот у малых дзяцей бывае як шарсцінка. Гэта бальшынство, дзетка ты маё дарагое, есьлі катоў, свіней ці карову нагамі б'ець гэта бярэменная жэншчына, і тады гэты маленькі народзіцца. Я тожа сваім робіла, у мяне трое рабятак, дык убеждалася, ці праўда гэта. Ну і тады пад начоўкі нож

лажу. Нож ложыцца: бываець жэншчына нячыстая ходзіць, дык тады находа. Дык я перацаджу на марлечку гэту вадзічку і накрыж начовак кладу попел. Дык вот, перацадзіла, ой сколькі гэтай шарсцінкі, асобенна кашынай. Катоў гэтых раншэ многа было, нагой пнеш, а гэта ж усё рабёначку вліяіць.

Ваабшчэ бярэменнай нада асцерагацца. Напрымерна, на рэчку ідзеш, палошчыш адзежу, вот так вот круціш, а яму тады за шыйку пупавіна…

Мяне бабушка вучыла ад грызі, а яна і рожу магла, і ўпуд. Упудаў бываець і 78 і 96, ад усяго ўпуд бываець. Гэта так пералічваць нада, вот нада ўсё, ад чаго ты забалеў. Напрымерна, то змяю увідзіш, то ад злога чалавека, – усё гэта ўпамінаеш, упамінаеш і натрапіш, і яму ўжо лягчэй, гэтаму чалавеку, панімаеш? Вот упамінаеш усё і гаворыш: “Упуд забіраю ад цябе, назад кідаю”. І вот там, і абратна ад яго, ад гэтага ножыкам бярэш з-пад ног ці па палу. Вот стаіць дзіцёнак і ў яго з пад ног ножыкам выбіраеш і так аж да парога, каб не было.

Ілі бываюць каровы вот часта сурочацца, дык клямачкі тады змываеш. Ілі мужскі гэта пол яе сурочыў ілі жэнскі. Ёй рогі змываеш, лічыка змываеш і выпіваеш. Ну, а абычна, як крышчэнне, я бяру ваду, крышчу і крэсцікі скрозь пішу, каб у хаце ўсё добра было.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ляновіч Таісы Уладзіміраўны, 1938 г.н. (нар. у г. Глыбокае) у в. Мётлы Полацкага р-на.**

### 1064. Пра хваробы і лекаванне

Ну яна сама, гэта бабка, з Тофелеў. Аттуда родам, алі жыла са мной па-саседству, а ціпер жывець у дачкі. Ездзяць да яе за вадой і цяпер. Ну, вот ад зглазу, рожу загаварваіць. Яна ўсё кажыць: “Ад усяго мая вада памагаіць. Усі балезні лечыць”. Ну ніхто пра яе ні гаворыць дрэннае. Ні сказаў, каб хто ўжо сільна там.

Вот і мяне была спасла калісьці. Я ніколі ня верыла, што гэта праўда. Але маментам за два дня ўсё загаілася. Вот я карміла, у мяне малака было многа, і мяне зглазілі. І сільна бальшыя дыркі былі ў грудзях, я думала я кончусь. Так вот вылазіць сіняе вока такое, нарыў такі, і дырка такая абразуецца. Ні масціту, нічога такога. Малако цякець. І ніколі ня думала, што гэта так быстра загаіцца. І ўжо на трэці дзень ні было нідзе нічога. Толькі асталісь палоскі – знакі такія.

Яна мне паглядзела, і ў памельніку нашаптала вады. У памельніку. Гэта дзе качэргі, у рускай печке, у памельніку нашаптала вады. І вот я гэту ваду піла і змывала. І ўсё, буквальна, я ж змывала ўтрам і вечарам. У памельніку змывала, як яна мне і гаварыла. І буквальна за тры дні, я ніколі не думала, што гэта боль прайдзець. Але яна ўжэ памярла, дочка ейная лячыла. Дочка ейная занімаецца.

Яшчо адна бабка была ў нас у канцэ, у дзярэўне жыла. Самуілаўна. Я знаю толькі отчаства. Самуілаўна – гэта маці той, што на “скорай помашчы” ў нас работала. Паліна, баба Поля. Яна мяне научыла дзяцей ад вогніку загаварываць. Вот знаіце, у дзяцей бываіць на барадзе выскаківаіць болька такая. Яна не гаіцца, яна мокніць, мокніць, і вот гэта бабуля мне гаварыла што. Возьміш рабёнка перад гарачай печкай, вот начынаеш печку растапляць, бярэш тры вугалькі: адзін угалёк ад вады, ад ветру і ад агня. Бярозавыя вугалькі, як затапляеш печку. Ну я налажыла дроў, лучынкі, стала запальваць печку і рабёнка перад сабой пасадзіла на каленкі, адкрытая печка. Вот. Водзіш вугальком кругом гэтай болькі і гаворыш: *“Агонь, агонь, забяры свой агонь. Вадзяны агонь, забяры свой агонь. І агнявы агонь, забяры свой агонь”*, і гэта тры разы. Так напрымер у мяне дачушка была Аня і *“рабе Божай Анне дай Бог здароўя”* і гэты аганёк кідаеш у печку. І вот так трыжды. У рабёнка гэта ўсё прайшло.

Ну і ад упуду дзяцей загаварывала. Вот гэта яна точна дзелала. Ну як баба Валя Шаўцова яшчэ волас, каласы сабірала, яна прасіла: “Дай мне жытніх каласоў ”. У вас вот мы загатавлівалі для работы з дзецьмі ўсякія. У мяне былі гэты жытнёвыя каласы яна брала. Я знаю, што нада тры штукі і тожа на тры сеансы. Нeяк волас выцягваюць каласом. Гэта я тожа знаю – баба Валя дзелала.

Як там малыя дзеткі не спяць, гэта была ў мяне када-та баба Клава мая. І ў мяне брат, якога ўжо нет, Сяргей. Ён начамі плоха спаў, і яна гаварыла: “Я яму начную прачытаю”. Тожа над печчу чытала начную, як – я не знаю, я маленькая тада была. Іменна яна неяк на рабёнка, нада каб рабёнак хрышчоны. Добра дзействуіць, када іменна рыбёнак храшчоны. І Самуілаўна, як мяне загаварвала, сразу та гаворыць: “Ты храшчоная?” – “Да”. – “Дзе?” – “У старай цэркві ў Шлюгах” – “Добра, – кажыць, – падзействуіць”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Святловай Таццяны Анатольеўны, 1959 г.н. у в. Янкавічы Расонскага р-на.**

**1065.** Ад пуду, тады з усходу на захад пад стол кругом нагі тры разы, кругом адной нагі. І нада гаварыць: *“Пуд, астанься тут, а здароўе на месці”* ў каго там. Ад уроцы падалом выціралі, ваду пралівалі праз замок, праз рэшата наабарот. Вадзіцы свежай і праліваць. І памагаіць. Ваду толькі свежую, каб толькі зачэрпнуў. А малыя дзеткі як былі, плачуць, можа, хто зглазіў: вадзічкі свежай узяць у рот і пахадзіць накрыж па хаце. І яго паднясеш к качарэжніку, дзе вілкі стаяць, абмыў яго, абмыў і тфу – плюнуў. Вады набярэш у рот і моўчкі пахадзі і з этай вадзічкай. З угла ў вугал, крэст накрэст. А тады той вадзічкай яго – тфу-тфу – пабырзгаў над кача-

рэжнікам. Бывала, дзелалі. А сурочаць можаць, калі родзіць баба рабёнка, атнімецъ ад грудзі. А тады апяць станецъ сасіць. А яшчэ жадны і з чорнымі глазамі.

А крактуны – эта бабка прыхадзіла. Будзецъ рабёнак качацца і так – э-э-э – крактаць. Тады яна прыдзіць, як купаць, неяк вадзічку на яго ліецъ і шэпчацъ, шэпчацъ. Ага, яна кажаць, што і тут валосікі. А як прыпадак первы раз, тады пальчык разрэзаць мезены. Я ў чацвёрты клас хадзіў, а прыехала цётка з мужыком. Эта было ў вайну, дзе-та яны там адступалі, цераз раку перахадзілі і вот з таго і забалеў той. І вот сядзелі, ужыналі, гаварылі і вдруг той чалавек атваліваецца. Мне падсказалі, я брытву ўзяў і на мезенцы чуць-чуць.

А якой парой ад грудзей адымалі? На поўная. Нада пасцяліць кажух і сесці, і разлажыць кніжку, яйцо і… говоруць. І грошы кладуць. І што ён будзецъ дзелаць, які ён будзецъ ушлы. За што хвоціцца, такі ён і будзецъ. Калі за дубец, значыць, пастушок. А як вяснушкі, нешта ж да ластачкі гаворуць: *"Ластаўка, ластаўка, аддай мне белкі. Вазьмі свае шэркі"*. Як ластачак толькі ўвідзіш, первы раз.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Галай Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

### 1066. Пра хваробы, замовы і іншыя лекі

Валаснік знаю. Ён і косць выедае дажа, еслі не загаварываць, не лячыць. На пальцы бывае валаснік, выедае палец, косць есць. Тады выліваюць. 9 каласкоў жытніх ілі ячменя, пшаніцы. Па 3 каласкі, выліваюць на ваду і кажуць: *"Волас, волас, ідзі на колас"*. Працэжваюць ваду, а волас у вадзе паяўляецца. І праходзіць. Мяне ўчыла старуха ў вайну рожу загаварываць, ад іспуга, ад глаза... Ну хто верушчы, хто ў гэта верыць, той навучыцца і будзе дзелаць. Але тожа ў каго як, пападаюць у каго кроў адзінакавая, а другі і не зможа. Не каждаму паможаш.

Рожа бывае ат ветру, ат вады і ат агня. Бывае, што ранка, і ветрам прыхваціць ці вадой памоіш, ці каля агня, яна і раскраснеіць. Хадзіць чалавек не можа, рана палучаецца, паціснеш – ямачка становіцца. Тады загаварваюць, перакрэсцяцца, "Отчэ наш" загавораць і тады, не дыхая, нада 3 разы прайці рожу: *"Ішоў панец праз тры полі, праз тры полі, тры прасторы, нёс тры рожы. Агнявая – на агонь, вадзяная – на ваду, ветраная – на вецер"*. Прагаварыць раз тры разы, тады яшчэ і ячшэ, перакрысціць, пахукаць на гэту. Так рожу загаварваюць. І ня дыхаць, воздух не выпускаць, тады ўжо загаворыш і – "хух"(выдыхае), – пахукаць на рану, і ўсё.

Памагала. Я загаварвала многа каму, гэта цяпер сілы нет, не магу воздух задзержываць. Як маладая была, сціснялася... Гэта ў вайну нас ста-

руха наўчыла, гаворыць: “Дзевачкі, будзіце мамамі, у вас будуць дзеці, будзіце самі загаварваць”. Я вот запомніла, а сястра мая не. Помню, прыехаўшы сюды быў мальчык, і пайшлі з бацькам на раку, і атняла яму рукі, ногі. Мальчык ляжаў, як пласт. Падсказалі, што я ўмею загаварваць. Я тут аднаму... Ішоў з поля, кароў пасціў, царапіна ў яго на руке, ён рукі памыў... Я кажу: “Давай я табе загавару”. І дзе што дзелася. Тады гэтага мальчыка ветрам прыхваціла, каля ракі ён паляжаў, бацька рыбу лавіў. Я сціснялася іці, але пайшла. Загаварыла раз, ён падняўся, другі, трэці, утрам, в абед і вечарам. І мальчык падняўся, стаў харошы.

З глазу абратна... Называюць імя: Маня, Ніна ці Ваня… Тады нада малітву перамаліць “Отчэ наш”, перакрэсціцца, ну там якія глазы: чорныя, карыя, серыя, сінія, галубыя, жоўтыя, красныя… Тады сказаць: *“Ідзіце, уроцы, на лясы, на балоты, на цякучыя воды”*. Тры разы нада. Абратна “чорныя, карыя, сінія...” Ну, в обшчым, усе расцветкі глазаў, дажа красныя і жоўтыя, і тады: “ Ідзіце уроцы...” тры разы, і праходзіць. Гэта над чалавекам, а можна ваду загаварваць, а тады прамыць лічыка, во так руку (тыльны бок), па грудзі, па ручках, па ўсяму... Гэта многа ат уроцай. Дажа стол на ўглы змываюць вадой і прамываюць гэтым... На гэту сторану, на гэту па 3 разы, падставіш што... І змываюць, кагда зглазяць. Зглажываюць очань цяжола.

Вадой этай самай таксама вілкі, ложкі змываюць. Дзевяць па тры вілак ілі ложачак тожа змываюць. Тры разы нада прамыць. З аднэй пасудзіны ў другую пераліў, выліваеш, тады з гэтай пераліў, выліваеш. Тожа змываць харашо, памагаіць. Тут можна і нічога не гаварыць. Гэта добрае такое, у мяне ж двое дзяцей. Бывала, прыбягуць, глядзіш... То вады загавару, і слава Богу...

А тады ат іспугу: перакрэсціся, “Отчэ наш” прамолься, і: *“Ішоў панец праз тры полі, праз тры прасторы. Нёс тры веткі іспугу, адна завяла, другая згінала, трэцяя з упуду прапала”*. Тры разы нада прагаварыць над чалавекам. Дажа і ваду можна загаварываць. А грызь? У дзяцей маленькіх бывае ў пупу. Плачуць... Вы яшчэ незамужнія? Яшчэ дзевачкі? Гэта самі патом можаце дзелаць. Тожа нада перакрэсціцца і малітву “Отчэ наш”, тады над пупікам: *“Не грызь грызе, а я грызу. Гам-гам, з’ем”*, і плюнуць. “З’ем” і “цьху” – выплюнуць. Тры разы. Гэта нас старуха вучыла. І памагала, я і сваім загаварывала.

У мяне таксама ці ва ўнучкі была, ці ў дочкі. Чэшыцца спінка, растуць валаскі. Мне саветывалі свежым хлебам, мякішам выкачываць. Як мыіш, і тада хлебам пакачаць па спінке, дзе валаскі, ад затылка – к лапаткам. Гэтыя валаскі укачываюцца ў хлеб і прападаюць. Раньшэ ж лячылі сваімі срэдствамі. Ці ж былі бальніцы? Не было врачэй так дужа, і нада ж

было плаціць врачам. Гэта шчацінка, гаворацъ, што катоў, сабак нагамі б'ецъ бярэменная. Бэрэменнай нада очэнь васцерыгацца ўсяго. Нельзя плахое дзелаць, апсуждаць каго, нельзя глядзець на ўродлівых, ці скот пакрываецца, нельга глядзець сабакі там, каты, на іх разгулы нельзя глядзець, дужа ўдзіўляцца. Раньшэ ж старыя вучылі маладых, гаварылі, што нада. Абратна еслі бярэменай ходзіш, слышыш запах які паскудны, не нада нос затыкаць. Прабягай быстранька і ўсё. Нос заткнеш, а ротам дыхаеш, тады, кажуць, запах плахі іза рта будзе ў рабёнка. На ўродаў нельзя, абсміхаваць, дражніць бярэменай, нада очань астарожнай быць. Яно можа і праўда. Цяпер сколькі гэтых уродаў... Маладзёж не знае гэтага... Раньшэ ж не было столькі як цяпер...

Карміць рабёнка нада, вітамінаў пабольшэ (смяецца). Які ўродзіцца здаровенькі, ён і расцецъ, а як родзіцца бальны, тады дзелайся з ім. Разгаварываць нада з рабёнкам, сматра які, некаторыя рана начынаюць разгаварываць, некаторыя позна. Хадзіць абратна... Адны да года, другія пасля года. У мяне сын у 8 месяцаў і 8 дней пайшоў, а дочка на 2 месяцы пасля года пайшла. Вот і разніца якая! Як які арганізм.

Мяне, калі я бярэменная была, малярыя зачасала саўсім. І вот малярыю я вылечыла сабе і старыку. Забівала малярыя, як пачне трасці-калаціць... Пасля вайны. Па лясах жа скіталіся, многа малярыяй тада балелі людзі. Пасаветавалі, 90 лістоў нада сірэні: раз 30 лістоў сабраць, другі раз і трэцці. Ілі апаўшых, ілі з сірэні набраць, але па 30 нада лісцікаў. І заліць кіпятком, каб пастаяла, нацянула... Я ўжо радзіла была, і дзевачка плачыць, і я плачу, не магу ў рукі ўзяць, усю трасець, холадам асыпаець. Тады лісцяў набрала, кіпяточкам заліла, папіла і старыка гэтага... І яго прыкраціласся, і мне прыкраціласся. А сколькі гэтых таблетак давалі ад малярыі, і акархін, і хіну давалі. Акархінам мы дажа... Нечага ж было насіць после вайны. Бралі нацельныя рубахі і кофты з іх шылі, а тады акархінам красілі. Жоўты і зялёны цвет быў... (смяецца). Таблеткі гэтыя размочым, а тады пакрасім акархінам. Ай, дзевачкі мае, як пасля вайны гаравалі! Выжылі. А цяпер якая роскаш! Не абуць, не паесці не было. І зажыліся, слава Богу, і хатку пастроілі.

**Зап. Захарэвіч А., Жолудзева П., Тамашэвіч Д. ад Герман Еўфрасінні Васілеўны, 1923 г.н. (нар. у в. Лешня) у в. Боркавічы Верхнядзвінскага р-на.**

### 1067. Пра дзіцячыя хваробы

Даўней, еслі дзеці спужаюцца, прымерна сабакі, нада выстрыгчы таго сабаку, пакураць ілі вады даць яму палізаць на парозі. Еслі сабакі рабёнак спужаўшыся, дык абізацельна гэтаму сабаку місачку вады ўзяць чыстай, і паставіць на парозі, каб ён палізаў гэтай вады. А патом гэтай вадой

гэтага дзіця змываць і піць яму даць. І паўсці яго выразаць, і курыць, дык гэта накрыж выстрыгчы, пакурыць дзіця таго. Маёй сястры была дачка, дак Боткінай перабалела, сабакі, ішла яна, і гэдак спужалася. Зжаўцела бедная, яна на той раз, сабакі спужалася. А тады глядзіць, што яна ўжо захварэла, у бальніцы ляжала… Так тожа во гэдак сабаку гэтага выстрагала, яна і піць давала гэтаму сабаку, і курылі яе, і вылечылі, а то гэдак захварэла.

А ўрокаў дзеткі баяцца. Нада, вобшчэм, дзіця падалком іхнім сціраць, рубашоначкай сцёрці яго, сцёрці, гэдак падалком, каб ён не баяўся. Мая дачка была такая ўрочлівая, бедная, яна такая праворная, такая гаварлівая была, гэткая красівая, як кукалка. Дык гэткая яна красівая, дык куды выду, дык яе хочуць паціскаць, хочуць падзержаць, абізацельна прыду дамоў – перакрычыць. Мама наўчыла мяне малітву ад урокаў, нагаваравала яна ўсё мама, і яе сцірала і ўсё, каб яна не баялася ўрокаў, ужо стаяла ў мяне гэта вадзічка, я тады змыю-змыю і пайду. *“Госпадзі Ісусе Хрысце, я ж нічога не знаю, Госпада Бога ўспамінаю, ніхай змяртвых душы з таго свету не ўстаюць, ніхай эта дзіця ўрокі не бяруць”*. Імя назваць, ну на вадзічку, і на яго прагаварыць.

Дажа можна і сваім падалом жанчыне сцёрці гэтага малога, і абізацельна. Вот я даўней сама была дзеўка такая праворная, поўная, з ранняга ў дзеўкі пайшла, як ні прыду адкуль – у мяне на пальцы то рожа, то што, дак мама гаворыць, нада булаўку ілі іголку ў падол, каб была ў падале ўсягда, насіць з сабой булаўку дзе-нібудзь, каб этыя вокі не бралі.

Ну даўней нейкія начніцы, мама помню, як малыя ні спяць, тада яна палала ў паланачках, даўней дзеравянныя былі паланачкі этыя. Тады яна возьміць у паланачку, а то ў падол, у прыпол, і: *“Пылаю-пылаю, начніцы выганяю”*. Далей дык і не помню што гаварыць, а нада стаяць, прымерна мяне выганіць на двор – стаі, стаю, і мне нада, яна прагаварваець, а мне – пляваць чараз плячо, каб ужо начніцы гэтыя выхадзілі. Гэта ўжо робілі вечарам, на захад сонца, перад сном.

Ну биваець, як і цяжарная ходзіць і катоў дзяржыць з сабой, бярэцца, тады ў рабёнка такі ворс на плечыках. Тады ўжо як купаем, мама возьмець попелу, усыпіць попелу ў ваду, і тады этыя плечыкі сціраець ужэ. Дак у попелу гэтым як варса такая палучаецца. Як купаеш, дак нада попелу мягкага ўзяць і тады ў гаршок сціраць-сціраць, і ў вадзіцу змываць, так проста во гэдак во разніміць пальцы, а яны во гэдак во, як цягнецца.

Ну катоў на рукі ня можна браць, гавораць, красіцца нельзя, ні бровы, ні рысніцы. Ну вот тады ў дзіця будзіць сінякі пад глазамі, і валасы стрыч нільзя. І вот, прымерна, чэраз жалезіну якую, на камень нільзя садзіцца, тады ўжо будзіць дзіця лысае. Хоць і так садзіцца, нада падсцілаць. Атліваць няможна ў калодзесь ваду, тады будзіць дзіця атлівацца, вот па-

есць-паесць, а тады – чох – атальецца. Дык вот бярэш ваду ў калодцы, нельзя адліваць, браць нада беражна. Пазычацца нельзя хадзіць, красці нічога няможна ў людзей браць, тады дзяцё будзіць папрашайнічаць, будзіць красці дзяцё.

А на пажары... Дык дзісьвіцельна на пажары, у Тумілавічах гарэў дом, а мама лезла на чардак і аказалася, што цэркаў гарыць. А яна ж у бацюшкі служыла, дак яна, як увідзіла пажар, дак гэта добра, што не за ліцо, а схвацілася за руку, была мной бярэменная. Ну і што, радзілася я – уся рука красная, вот такая, да плеча аж сюды. Ну тады ей пасаветавалі, што як родзіцца первы ілі паследні рабёнак, і гэтым паследам нада сцёрціся. Ну і тады во ў брата дваюраднага радзіўся сын чараз год. Яна папрасіла бабку-павітуху гэту, каб яна аставіла гэты паслед, схавала ш ужо, каб мама сцёрла. Як сцёрла, і ўся рука сыйшла. Патом жа ш я после вайны паехала ў Докшыцы, а ў брата дваюраднага ўнучак радзіўся, і ў яго во шчочка, і аж сюды во, аж шыйка красная. “Ай, – кажаць, – не знаем што рабіць, краснае во пятно”. “Ціха, – кажу, – я пасаветую табе. Схадзі ты ў бальніцу, – гавару, – папрасі ты акушэрку, каб табе аставілі первага ілі паследняга паслед”. І яна сцёрла, я паехала цераз год, гляжу – гэты мальчык бегаіць, чыстае лічыка.

Капрызы помню, мая большая гэткая была капрызная, што якое вот, паваліцца аб землю і крычыць. А тут брат прыехаў з Украіны, у хату ўскочыў, а мая Ліля на палу ляжыць і крычыць. Ён пабег на двор, а ў нас во гэта бяроза вісела, яна вісела аж да зямлі. Ён на двор, за дубчык за гэты, адламаў і па ей сцёб-сцёб. Яна як спужалася, ускочыла, глядзіць. І па той раз мая дзяўчына боле не кулялася, выгнаў усе гэтыя капрызы з яе, эта вісюшчай бярозкай нада.

А вот падучую балезню даўней, во які быў спосаб. У маёй сястры быў мальчык, яна сасіла яго і ў яго была падучая гэтая балезня. Патом ёй пасаветавалі на крастах, як вешуюць во гэтыя фартушкі, і с трох крастоў сняць па фартушку, і пашыць яму гэтую адзешку, і надзець, і каб ён у ёй пабыў. І яна во гэдак як зробіла, і мальчык паправіўся.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

**1068.** Вот бывала, парасёнку насцялю, у Гомеле я жыла, у дзярэўне, у свякрухі. Мяне так навучылі – насцяліць саломы парасёнку, парасёнак там паляжыць і тады рабёнка прынашу і пакачаю там. І ўжо не плачыць і ня ёрзаіць. І хлебам, бывала, яшчэ свякроў вучыла. Хлеба свежага з печкі выцяніць, цёплага і тожа мякішам этым і качает, і качает па спіне. А той хлеб тады выкідывалі курам ды і ўсё, карове куды. І яшчо бывала, дзеці ад іспу-

гу ноччу плоха спяць, эта слава нада, я забыла. Бывала тожа курам носім, а куры вечарам сядзяць і туда кідаеш курам, і што-та нада гаварыць, забыла.

Я яшчэ лячыла ад етага, мяне навучылі, сама дачке памагала. Ездзіла ў Чарапавец і ў Гомель к сыну тады: "Ой, мамачка! Слава Богу, што ты прыехала, наш Юрык ноччу ня спіць, а ты ж нам дзелала". Скарэй мяне там разьдзелі, разулі. Мальца пакупалі і я яму пашаптала: "Як на зары-заранiцы, начныя памашніцы, у райскім саду гулялі, начнога сна іскалі, начнога, палуночнага, дзяннога, палудзённага, я с новым, а Гасподзь…" Як вот садзімся, глядзім на зару вечарам. І тры разы нада і памагала.

Яшчэ бывала ад іспугу лячу – і тожа памагала дзецям. Кругом стала, раздзець яго да маечкі і 3 разочкі кругом ножкі, кругом тога стала, што на кухне стаіць, абвесці яго. І прыгаварыць: "Памагі Бог". Тры разы, ды і ўсё. Ну яшчэ мяне вучылі ў Гомеле, як іспугаецца рабёнак, раз кусочак майкі разарвеш. Бывала, усю майку парву.

І грызь я сама грызла, нічога я не прыгаварывала. "Божа, памажы" і ўсё. Эта нада перваму ілі паследнему, хто там нарадзіўся, ну а я первая ў маткі. "Грыж, грыж, я цябе з'ем". Вот так гаварылі.

Цвяты "вогнік"… ён такі высокі і чуць-чуць цвяціць. Насушаныя ёсць у мяне. А потым са сметанай попел гэты і мажуць. Ён на полі расьцець, но не вездзе. У мяне ёсць насушаныя.

Адзін год мая унучка прыехала, дажа ўрачы не зналі чым лячыць, на ножках і на ліцу, усё ліцо ў больках. І ўрачы нічога ня могуць і выпісваюць і нічога не памагаець. Яна прыехала, гаворыць: "Бабушка, можа ты што знаеш?" Я гавару: "Ціха, унучка, сейчас будзем лячыць". Далі мне стрэптацыта, я тады даяркай была, такога размолатага – каровам раны засыпаць. Я тады ўзяла гэтага стрэптацыту, а тады алоэ выціснула са сталетнікамі ўместа, і ўзяла дзеўке сначала ў адном месце на ножке папробавала, памазала і як ужо будзе весць. Пагляджу і ссыхаць начала. Будзе лучшэ: ужо не стала мокра, стала зацягіваць ранку. Я тады ліцо ўсё ей памазала разы тры, і ўсе раны зажывалі. Дзеўка ад радасці, колькі ей было –гадоў дзесяць, плакала. Таня прыехала: "Мамачка дарагая, бальшое цябе спасіба. Эта ж нада, урачы не памаглі, а ты". А я, гавару, на рыск рабіла.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Маліноўскай Марыі Іванаўны, 1935 г.н. у п. Сураж Віцебскага р-на.**

**1069.** Як малому спінка коліцца – гэта "валасы" называюць, "шарсцінка". Матка, якая насіла гэтага дзіцёнка, можа падкінула ката, а нельзя. Тады хлебушкам выкатвалі. А тады той хлеб сабакам аддаць.

Бывае, спужаецца малы. Тады пад стол вадзілі. Усяго. Прыгаварвалі: *"Я цябе насіла, я цябе радзіла, я цябе сама лячыць буду"*. Тры разы прале-

зіць, каля ножкі. Ну, а як начніцы, вынасіць тады нада на луну. Жалацельна, на поўню. Я сама сваіх вынасіла: *“Зорка-зарніца, мілая сястрыца, у мяне сын, у цябе дзявіца. Давай жаніць будзем і спаць лажыцца”*. Тры разы гаварыць. Пацалаваць і плюнуць тады цераз яго.

Каб дзеткі вока не баяліся, рубашачку нада наізнанку, ілі булавачку прышпіліць. Як сурочаць, тады ня спіць, плачыць, крычыць. Калі іспуг, то будзіць ён спаць з адкрытымі глазамі. Пуганы. Мяне бабушка вучыла, па па́пу. Малітвачка. На ваду нада. Але гаварыць нельзя. А вада, штоб з няпітага вядра. А што застанецца – пад парог, ці пад столбік які выліць.

А калі прыпадак, тады нада сразу, як першы раз увідзіш, нагала разьдзець нада, і ніжнюю рубашачку вывернуць. І на мяжы ці на скрыжаваньні закапаць. Есьлі первы раз.

Грыжа. Пяць капеек нада прывязаць. Загрызці. *“Я вуха воўк, ты грызь, я цябе з’ем”*. Загрызеш тры разы. А вогнік. Адкідаецца тады. Калі печка топіцца, нада зьдзелаць трэсачак і кідаеш, саскрабаеш іх: *“Вогнік, я цябе адкідаю, у печку закідаю, ты згарыш”*.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Грыгаровіч Лідзіі Ягораўны, 1944 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага раёна.**

**1070.** Бывае, што на спіне ў рабёнка коліцца. Тады, як нас бацькі вучылі: выдраць у свіней шарсці і пакупаць рабёнка ў той шарсці. І я робіла. Крыктуны зваць, дзеці крэкчуць, начамі не спяць. Пакупаім і выносім, не аглядаючыся, ваду. І вылівалі там, дзе свінні.

Ад начніц у нас былі бабы, загаварывалі. У нас так ужо хлопец плакаў тут адзін. Дык прывядуць бабу, яна пашэпча, і ўсё прайшло. А калі упудзіцца, ад упуду траву сабіралі, у юшку ставіш ваду. Паставіш у юшку ваду, і каб першы дым прайшоў. Пакладзеш накрыж палачкі, і паставіш. А тады дым трошкі прайшоў – і вынімаеш. І даеш дзецям.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Ставер Лідзіі Філіпаўны, 1928 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

**1071.** Шчацінка. Рабёначак ня сьпіць тады. Даўней былі начовачкі, з дзерава. Тады сыпяць попел, на адзін беражок пасыпяць, тады вот так на гэты пасыпяць, на гэты. Накрыж. Рабёначка гэтага пакупаюць. З вадзічкі выймуць, і тады гэта вось зьмятуць, зьмятуць у вадзічку. І як пацэдзіш на гэтую пялёначку, дык там і перункі курыныя, там і шэрсць – усё пападалася. І гэта спальвалі. Гэта такая шарсцінка была ў дзяцей. Гэта не давала спаць ім.

Як начніцы, насілі пад курасад рабёначка. Малога гэтага знясуць, дзе куры спяць, гэта як ня спіць рабёначак, а тады гавораць: “Куры-куры, вазьміце ад майго дзяцёнка дуры, дайце яму спокуй”. Так яго тры разы

знясуць, і рабяткі добра тады спяць. Гэта трэба, як сонца зойдзець. Як ужо куры ўсядуцца.

А з вогнікам вот прывялі да маёй бабулі дзяўчынку. Можа мая равесніца была, а там, ай-ай, як адкрыла яна сваё цела. А там ўсё раскраснелася, лезець гэтая скура з яе, валіцца. А бабуля кажыць: “Ну, нічога. Дадзём раду, дадзём”. І яна пахадзіла да яе нескалька врэмя. Бабка ўмелася так маліцца. І роды прынімала, вязуць і вязуць. Ніколі ёй спакою не было. Ну, вогнік адкідывала, ну было там у яе зёлак усякіх насабірана. А вогнік адкідала на вугалькі. Ну, бяруць тры вугалькі, і гэту ранку абводзяць, абводзяць, а тады навотмаш так кінуць у печ. Гэта нада каб печ цеплілася, і аж за дровы каб ляцелі вугалькі. Ну гэта, тры разы нада гэдак зробіць і ўсё.

Бывае, што спужаецца. Тады кажух сцелюць на падлогу, рабёначка гэтага кладуць, тады выстрэгваюць кажух у галоўцы, у ножках, дзе ручкі. Кажуць, каб ляжаў, раскінуўшы ручкі, ну і тады гэтыя вугалькі распаляць у патэльні якой, а тады гэта ўсё складуць, што павыстрыгана, і падпалюць, і кругом гэтага рабёначка абнясуць гэтым дымком. Дымок пайдзець, і яго гэтым дымком пакуруць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1072. Лекаванне хвароб

Як дзіцёнак упудзіцца, тады кладу кажух, на кажух ці бальшога, ці малога, ну і ножычкам выстрыгаеш поўсць 3 разы адусюль, і кажаш, што ад усіх нерваў, ад упуду – усё. Ну і тады гэта ўсё, што вышчыквала, нада запаліць, накрыць гэтага чалавека і накрыж пакласці. Даўней лён быў, ну а цяпер гэтак. Ўсё накрыць ці простынькай ці чым так, ты ж трошку паложыш, і яно тады там задыміцца і ўсё.

А валасень…Ну, бог яе знаець, ад чаго той валасень прыключаецца. Бываець, што дзе вот заколіш і валасень палучаецца. Ну, молішся тады над ім. Спецыяльныя малітвы ёсьць. Я дык ужо ад валасня і забылася. Выліваюць валасень, нада 9 каласкоў жытніх. Пустых каласоў, ну і зложыш іх усе, звяжаш у пучок, ну і тады як на руцэ ці на пальцы, ці на чым, тады прыкладаеш сюды і нада выгаварваць: 10, 9, 8, 7, 6,… 1. Гэтак тры разы прагаварыць, тады ўзяць гэты пучок і так во, куды валасы, і яны тады так вот палягуць, пацягаюцца. Яны такія маленькія-маленькія, гэтыя валаскі – яны выцягваюць. Нада цёплая вадзічка, вадзічкай паліваеш і гаворыш гэтак тры разы.

Бываець, што рабёнак качаецца малы, спаць ня можа. Гэта хадзіла бярэменная ілі сабаку нагой біла ці ката, і гэтак во на малым астанецца. Гэта шарсцінка, мабыць, завецца. Тожа кладуць у ванну малога, наліваюць ваду і на чатыры вугалкі сеюць меленькага папялку. Ну, тады малога бе-

раш на ручку і сціраеш па ім, гэты папялок. Так пакупаў рабёнка 2 – 3 разы і будзе спаць рабёнак.

У мяне была баба – маміна матка, Соняй звалі, яна ўсе прыгаворы знала, вот яна мяне што навучыла, тое я і знаю. Вот не забылася з малых гадоў. Ад залатніка тожа загаварвала. Адно ёсць, такая малая: “*Бегла Таня цераз масток, каб там на месцы залатнічок*”. Вот 3 разы нада перагаварыць, а тады яшчэ загаварваюць: “*Залатнічок замаўляю, ад (імя) адганяю. Стань, дзе стаў, гуляй, дзе гуляў: на божым крэсле, на сваім месце. Памагала на свеце матка ражаць, памажы і нам ад гэтых залатнікоў адганяць*”.

А ад рожы вот так гаварылі: “*Рожа, рожа, так не прыгожа, Рожачка красуйся, там ад (імя) адсунься, закаціся за калоду, за гнілыя, за благія. Калі бела, каб збялела, калі сіне, каб зсінела, калі чорна, каб зчарнела, калі красна, каб зкраснела. Адкаціся і адчапіся*”.

Калі сурочаць, дык сама простае: снімалі трусы і па *гэтай самай* рукой гладзь і тады рабёнка ці каго ўсяго гладзь – гэтак і прападаець. І слоў не нада ніякіх. А калі прыпадак станець, вот у маленькага рабёначка, як першы раз, на ім тады рубашачку рвуць, а дзе тую рубашку дзяюць я і не знаю, ці закапваюць дзе, я не знаю, гэта толькі чула.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Кісель Соф’і Мікалаеўны, 1933 г.н. у в. Двор Пліна Ушацкага р-на.**

### 1073. Як зглаз вылячылі

Ад зглазу нада тады, есьлі рабёнак плачыць ілі чужые людзі паглядзелі на яго, нада тады, калі ён пісаець у пялёнку ці ў паўзуны, проста выцерці, выцерці яму ліцо. Это дзейсцьвіцельна памагала. Хадзіла Ліда тут такая, вот тут за столом сядзела, я ёй за лук плаціла. А Светка Ленку прынесла маленькую, во так на руках, можа там год ёй было. Ліда пашла, а Светка: “Ай, жывот!” Уся сінеець, як забалеў жывот. Я ей салёнай вады, я ёй што толькі ня дзелала, я ей і цёплую траўку на жывот. Крычыць жыватом, тады Ленка на руках у мяне, а яна ў туалет. А я з Ленкай на вуліцу, а тут і Валодзька з Федзей Курыленкам, я Ленку ім на рукі, а сама Светку пад рукі на вуліцу. Кажу: “Пісай скарэй!” І яе той мачой вымыла, вымыла. Усё! 40 секунд прашло, Светка рот адкрыла, – усё – жывот не баліць. Ліда сурок здзелала. Вот это от сурок самае лучшае.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Шашковай Вольгі Мартынаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Ваўчкі) у в. Обаль Шумілінскага р-на.**

### 1074. Сурокі

Я толькі знаю загавор, еслі прыйшоў свежы чалавек, проста такая мінута ці ў яго глаза такія, і сурочыць чалавек. Мая Таня робіла ў клубе, звоніць мне па тэлефоне: “Мама, я настолькі зьвяла, як трапка”. Нехта яе су-

рочыў. А я па тэлефоне ёй кажу: "Загавор, дачка, небальшы: *Выйду вон за трое дзвярэй, ляці цярот за сіняе мора чырвоная лоза…*". Нешта тут ня тое. "*Хто Таню сурочыў, хай вылезуць таму вочы*". Тры разка прагавары. Перахрысціся тры разы і перагавары.

Сам сабе можна. І яна кажа праз мінуту: "Мама, ты па тэлефоне сказала, а мне стала лепей". А над чалавекам – перагаварыў, перахрысціў, пашаптаў, плюнуў разы тры. І усё.

Шпільку ўшпілівала я, як маладая была, карміла груддзю рабят, дык мне усё казалі : "Нож". Палажу пад сраку, сяду. І дома, і ў гасцях. Гэта цяпер ужо ўшпіліваюць шпілечкі... Малыя баяцца. Ай, у нас Жоржык быў сурочлівы. Мужчына. Як гляне, тады і работа не робіцца, зьвянеш увесь на трапку. А я як іду, кажу: "*Соль у вочы, галавешка табе ў зубы*". І дзьве фігі во так во. Тры разы перагавару. Гэта, каб не сурочыў.

Дажа было такое, што маладзён збясіўся і з застолля выскачыў. Ашалеў маладзён! У горадзе. Гэта да мяне было. Гэты Андрэй, што Наталлю браў, кажуць, збясіўся. Госці сядзяць, не знаюць, што рабіць, а ён чэраз стол і пабег. Лавілі, за стол садзілі. Але што прыгаварвалі бабкі, я не знаю. Адрабілі. Патом ён і даседзеў, угаварылі. І зжылі яны век з тэй Наталляй...

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У., Протас М., Захарэвіч А. у 2007 г. ад Літвін Марыі Іванаўны, 1932 г.н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

**1075.** А, у нас гэткіх не было чараўнікоў, але падраблялі! Кажуць, вот з Яна многа ў каго малака ў каровы не станець, ну тады ідуць да бабак у Зорку – тут вон, за раку хадзілі.

І сурокі… Можа і не са зла, я вам скажу, што былі (ну, мы не тут жылі, трохі за лясом, як я выйшла замуж) і была ў мяне старэйшая дзяўчына – маленькая яшчэ, можа, паўгода ёй, ці колькі. І прышла баба, кажа, паглядзець, ці красівая дзяўчынка. Ну, яна была красівая – светленькая, красівенькая дзяўчынка. Дзяўчына зрабілася, як нежывая. Дзяўчыну з вока сурочалі. Ну, добра, свякроўка жыла, увязьлі яе там. Ай, кажу, я ўжо спужалася, Света мая, кажу, нешта зусім ужо абамлела, зусім, кажу, як уміраець. Тады ўжо свякроўка кажа: "Ай, Валечыха сурочыла!" Ну, тады вады ей ужо. Ну, яна там, старая, вілкі тры штукі брала, нажы і злівала ваду цераз гэтае. То з трох губ даюць ваду… Тры чалавекі каб – у рот возьмеш, і ў кубак, тры разы кажный, і тады змываеш ужо. Ну, і памагло, зрабілі, змылі дзяўчыну, як гэта паўгода ці было.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Будзько Лідзіі Іванаўны, 1940 г.н. у в. Вінцэнтова Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1076. З вока

Вот адна жанчына ў нас расказвала, казала, вот выйшла яна замуж – ну яна такая прыгожая дзяўчына, ну а замуж вышла… Ён лугнавы такі, галава набок. Ну і паехалі ў Лужкі на базар. Ну, заехалі, вёска Лапунова такая ёсць, там вечна была гэтая самагонка. Ну і заехаліся яны там ужо да знаёмых, ён завёз. "Ну што, гэта твая жонка?" – "Жонка". – "Ай-ай-ай, якую ж ты жонку ўзяў!" Казала, як зрабілася дрэнна, што ну саўсім памірала. Ну, не помню, як хто ёй ужо гэтае разрабляў. Ну, яна казала, што точна. Гэта з вока. Вот кажуць, што з вока бывае.

Вот мая мама расказвала, былі ў адных кураняты малыя: бегаюць 9 курачак, 10-ты – петушок. І вот прышоў там адзін чалавек: "Ай, гэта ж нада, 9 курачак, 10-ты – петушок!" Як сталі гэтыя курчаты куляцца – здыхаць. І ўсё, кажа, падохлі курчаты. Ну ды такія людзі ёсць, што вока дрэннае. Некаторыя – не, не хачу глядзець, не хачу глядзець, у мяне вока дрэннае! Я магу нешта зрабіць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Лагун Глафіры Вячаславаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1077. Пра хрышчэнскую ваду з калодзежа і сурокі

Вы знаеце, што я вот запомніла ў прыродзе? Прырода сама па себе. Как-та, помню гэта Крышчэнне. Крышчэнне, яно бывае дзевятнаццатага января. Так? А гэта было васемнаццатага. Васемнаццатага как раз балеў очэнь муж маёй цёці, эта майго атца сястрын муж. І гэта было васемнаццатага чысла. Была такая граза, у які год я ужо вам не скажу, які год. Но эта я харашо помню. Такая была молнія, у такое врэмя! Эта ж самыя марозы, самыя такія вот эта перад Крышчэннем. Дажэ хадзілі во праразалі такі хрэст на рэчке і асвяшчалі, свяшэнік асвяшчаў, і там ваду бралі.

А сечас я вот вам эту історыю раскажу. Вазможна вы тожэ не знаеце. Сечас у гэта врэмя, у начное, а гэта васемнаццатага января. Вабшчэ в прыродзе перараждаецца ў любым калодцы, перакіпіць вот эта вот вада. Ну, гдзе-там агледзіў мой сын младшый. Младшы работаў эканамістам у калхозе, а старшы заўдырэктарам у горадзе Магілёве. Ці яны дзе вычыталі ў кніге, ці яны дзе-што. Ну наш любапытны быў і дырэктар школы радам Касцюкоўскай жыў: "Давай жа мы праверым!". А калодзеж у іх быў дваццаць метраў глыбіна. Ну і такі калодзеж выкапалі, кагда-та быў. "Давай, кажа, праверым". Здзелалі пераноску такую з дліным очэнь провадам. Ну і давай жа ж мы, прэждзеврэменна, ешчо пака нескалька мінут не да першага часа дванаццаці этых часоў. Апусцілі гэту лампачку, уключылі в эту электрасецць і ўбедзіліся. Хоць так і глыбако, в гэту ноч з двенаццаці часоў пачынает кіпець вада, перараждацца. Ну і гэтат дырэктар школы, і гэтат мой

сын гаварыт: “Мама, давай ешчо праверым і ў нашым калодцы”. Тожэ праверылі. З двенаццаці часоў, а калі яна прыкрашчаецца ужо гэта не кіпіць вада? Дык мы ўжо сечас не ходзім і ня ездзім туда, дзе ў горад там нада ехаць. Мы бяром вот тут у гэтым. Мы набіраем эту ваду, і ана ў нас стаіць гадамі, ана не порціцца.

І вот чалавек такой вот, асобенна кагда чалавек светла-русы, он дажэ баіцца вот этых глаз, чорных глаз. Внімацельна, і прыгавор такі: “Ой, кажа, как ты красіва гэту вешч здзелаў!” Вот эта самае выражэнне. Вот саседка маладая, яна ешчо не на пенсіі, і ён не на пенсіі, а саседка была і сечас бальная ляжыць: “Ой, Валодзя, как ты красіва палісаднік здзелаў! Так красіва, Валодзечка, ты палісаднік здзелаў, ой-ой-ой! Малады, як ты сабразіў такі палісаднік здзелаць?!” Што вы думаеце? Чэраз час, ці чэраз паўтара ў гэтага Валодзечкі как узяло нагу, і цемпература. “Што такое, скорую вызываць”, – кажа. Ужо гэта дзесяць, адзінаццаты час. І скорую неўдобна, што дзелаць? Гэта кажа: “Падаждзіце, у заводзе там гаварылі, што вот эта вот святая вада з гэтага калодца – ана очэнь памагает”. Стаяла ў яе вада, яна пабяжала в істопку, прынесла гэту бутылку з гэтай вадой. Збрызнула яго, змыла яго, і не нада выціраць. Вот збрызнеце, штоб гэта вада высыхла на чалавеке на этам. І гэту нагу змыла, і вездзе ўсе суставы гэты пазмывала, памачыла эту самую і папіць дала. Тры разы папіць дала і тры разы вот так вот змыла. Не вызывалі ні скорую, нічэво. Уснуў, толькі, гаварыт, вспацеў, уснуў, і ўсё прашло. Інагда і са скацінай плоха дзелаецца, тагда вот этай святой вадой мы на первый случай, мы вылечываем іх.

Я та не відзела, а мой сын кажа, што: “Мама, настаяшча вада кіпіць”. І я гаварыт эта во. “Нікалай Сцепанавіч, – кажа, – Нікалай Сцепанавіч, паглядзіце”. Дзействіцельна, вада гэта кіпіць пад дзевятнаццатага январа, гэта васемнаццатага. Сколькі яна кіпіць, не будзеш жа ля калодзежа стаяць усю ноч. Кагда ана перастаець, не знаю. І тот калодзеж праверылі, і гэтат наш калодзеж праверыў ён. Гаварыт, правільна. Есць в прыродзе? Есць!

**Зап. Скварчэўскі Дз. у 2008 г. ад Мядзель Ганны Антонаўны, 1914 г.н. у в. Вялікае Стахава Барысаўскага р-на.**

### 1078. Зглаз

Мне раз Валька Цімафеева, на Пятніцкім жыла, і гналі ў поле, а ў мяне маладзенькая кароўка была. І яны чэраз нашу Івоніна і пятнічане ганялі ў поле. А яна гнала калхозных, а я сваіх. А яна гаворыць: “Чыя такая кароўка красівая?” Утрам яна так сказала, у абед я ўжо ні падступілася к ей, і нічога, і разнясло і вымя распухла ўсё. Я гавару: “Ай, Нінка, Валька зглазіла”. І тады скарэй я вады і тады я вады тры разы з рота. Яна гнала с абеду ў поле. І я гавару: “Давай скарэй ваду з рота, не іначай як ты зглазіла маю

карову, не магу падступіцца”. І яна ўзяла ваду з роту і прапусціла праз зубы. І я памыла і прайшло.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Маскалёвай Г. І., 1935 г.н. у в. Івоніна Шумілінскага р-на.**

## 1079. Сурокі

Ад сурокаў малым дзеткам абычна булаўкі вешаюць, ці іголку дзенебудзь ушываюць, ну ў аснаўном шпілячкі носяць. А калі ўжо зглазяць, тады сук, вот у дрэве сук расцець. І тады яго выламываюць. Вот дырка становіцца ў гэтай палцы. Ну кажуць, праз гэты сук нада ваду праліваць. Праліваюць праз гэту дырку, ну і ўсё. Ілі вот дзе дзверы павешаны на завесах, во сюды тады, кажуць, ліюць і тады змываюць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

## 1080. Уроцы

Бывае, што чалавек такі завіслы, што пазавідвае чым. Ці вот ёсць ад раждзеньня такія глаза плахія ілі душа такая нячыстая, што яны пазавідуюць ці пахваляць дажа чалавека. З маей дочкай гэтак было. Яшчэ братавая была, брат прыехаў і дочка, яшчэ ў школу хадзіла. І вот яны да рэчкі нясьлі паласкаць бяльё, тады яшчэ жылі ў Мнюце у первым, і адна маскоўка Маня… Добра, што яна потым сказала.

Гэта дык братавая была такая мяньшая, тоненькая, а мая дочка сразу была такая бальшая, плотная. Дзеці, дзякуй Богу, не па мне – бальшыя. І што вы думаеце, панясьлі яны, папаласкалі там бяльё, прыняслі у вёдрах і яна кажа: “Мамачка, спасай, а як мне трудненька, ай-яй-яй!” Кажу: “Дзетка, ну што табе, ішла здаровая?” – “Ай, ну не магу!”

Тут у грудцы стала ей балець. Гляджу, такая жоўтая робіцца. Усё, і тады на машыне павязлі і сразу яе ў бальніцу палажылі, у інфекцыонную гэту бальніцу. Тады пачула пра гэта Маня, яе звалі “маскоўка”. Яны стараверы. А маскалі яны болей чаго знаюць і такія ўрэдныя бываюць. Яна ж і пахваліла. Во відзіце, яна так уроцаў баялася, мая дачка, што страхоцьце. Я не знаю, ці яна ў такую мінуту радзілася. Пака замуж не вышла, баялася суроцаў. Калі хто яе пахваліць, яна ж была нічога такая, красівая. А як замуж вышла, ужо так не. Да замужаства, толькі на яе глянуць, што пахваляць, дык усё, яна канчаецца.

Тады тая Маня, маскоўка, мне сказала: “Бяры вады ў каго, – кажаць, – гэта ж я ей сказала. Наверна, гэтак з маіх слоў стала”. Праўда, узялі мы вады, брат павёз на матацыкле і пад ваконца яе падазваў, і даў гэтай вады. І яна, як стала піць ваду, усё: на трэція суткі ўрач адпусціў дамой. А так, відзіце, яе там уколамі, таблеткамі і не ратавалі гэту дзяўчыну.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

## 1081. Прыгавор

І вот ёсць такая мінута, і такі чалавечаскі прыгавор. Сабраліся, і ўнук там быў, каля бані, і шашлыкі пяклі але ж з гэтага купленага мяса. Ну, купілі мяса ў вядзерках, спецыяльнае. І гэтыя паехалі, адзін астаўся ён, із Празарок. Але ж кажа: “Бабушка, як мне блага, як мне блага”. “Накуплялі, – я кажу, – нейкага псутага мяса, і вот наеліся, і вот табе блага”. Ну вот я яму і таблетак ад жалудка, і сока дала я яму – усе роўна яму блага. Ляжыць мой міленькі, што рабіць?

Пашла к гэтай бабе кажу: “Сашку майму плоха, мусіць, шашлыкі елі, мяса тое псутага нейкага з’еў”. Яна засмяялася, кажа: “Нехта яго заўрочыў”. Ну так кажу: “Дай ты яму вады”. І вот яна тры разы ў рот – у кружку, у рот – у кружку. Ну так я яму не казала, што яна ў рот брала, думаю, піць не будзе. Ну так кажу: “На ты выпей той вады”. Кажаць: “Бабушка, мне ўжо легчай. Ну тады знову сходзіла, дала яму яшчэ вады, змыла – як нічога і не было! Ну так гэту ваду з бутылкай з сабой узяў. Прыгавор ёсць, ёсць!

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Бахіркі Ефрасінні Васільеўны, 1930 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 1082. Пра сурокі, упуд і іншыя хваробы

У нас у Старыне такіх бабак не было, аж у Таргуны вазілі. Я помню, тут во, што хата стаіць, ужо нікога няма, саседзі мае жылі. У іх быў сын і быў спужаўшыся, і яны вазілі яго і ў Таргуны, і за Таргуны , усюды, дзе толькі. І вылічылі, але ужо іх няма.

Ад спуду самі рабілі. Як ідзець дым у печ, у люшку стаўялі кружачку вады. І тады змывалі, і папіць давалі. Бываець сабака спужаў, нада каб сабака паглытаў вады, а тады даць (гэтай вады) таму, хто спужаўся.

Бываець, пісаецца рабёнак. Усяк робюць. Бульба, што расцець на агародзе, патом на бульбеўнічку такая, як бульбінка зялёная, вот і з яе атвар даюць. І некатырыя, я тожа знаю, вот у бульбіне расцець, як пырэй, трава дык нада зварыць і даць.

У мяне ў самой была рожа апухшы і дужа часта ў маладой ячмень быў на воку. І суседка была, загаворыць, перавяжыць во так нітачкай і тады кажуць: “*Ячмень, ячмень, на кукіш, за кукіш кабылку купіш, кабылка здохніць – ячмень ссохніць*”. Вот гэткія славы гаварылі. А ад рожы тожа загаварывалі: “*Ідзі рожа за сіне мора, там табе пасцель бела паслана...*” І ўжо я далей не знаю.

А як рука разаўецца, навезь навязывалі з ніткі. Ад веніка нітачку гэту. Быў у нас дзед, сусед, ён пашэпчыць і ўзялкоў дзевяць навяжыць і адлічыць назад: “9, 8, 7...” . Во гэткае было. Барадаўкі, еслі яны не мешаюць, то іх лепей не чапаць таму, што яны врэдныя дужа. Гэдак даўней казалі.

А як малыя бародаўкі, нейкае было такое лекарства ужо после вайны, чорнае такое, выпякалі ім (барадаўкі). А не, дык былі такія казлы, насекомае, такія зялёныя бальшыя. Дык уловяць гэтага казла і каб гэты казёл скусіў гэту бародаўку. А што ён: калі скусуець, а калі і не скусуець.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Марковіч Галіны Паўлаўны, 1931 г.н. у в. Старына Докшыцкага р-на.**

## 1083. Пра зглаз, упуд і рожу

Дзіч расцець, вот дзе ўпяліцца, ну болей вот на пальцах на нагах, ай, мусіць, хоць дзе, і такія дзічы растуць. Відзеўшы я, калі што. У мяне і ў самой былі, во тут во была, сядзела, доўга не магла рады даць усё. А тады не, я ўжо забылася чым, яе нідзе не стала, даўно ўжо няма.

А рожа яна ж многа сартоў, дванаццаць сартоў, кажуць, буваець. Яна ж і с упуду, спужаесься – вот і рожа можэць быць. Яна вот тады начынаецца сінець у тое места. Вот у мене была вон у руцэ. З чаго прыключылася? З самага простага. Плялі мы вянкі ў касцёл, і я лапачкамі накалола. Вот і ветачкі з лапачак, зімой было. Накалола руку – ветачкі эты звязывалі. Вот. А прышла дамоў, прышла бяльё памыла, парашок, і парашок жа ў эты дзюрачкі зайшоў. І ўсё. Сматру, рука мая – ані падняць, распухла, сінякі, вудыры такія паўскакавалі. Ну і што, ужо ўночы пашла там да саседкі, разбудзіла. Ну, да бабкі мы дабіліся, дазваніліся, загаварыла яна мне, ну і трошачку палепшыла. Тады после шчэ тут нашлі мне другую. Загаварываюць. Людзі ж умеюць, старыныя людзі.

А з упуду зёлкі ўсякія варуць, загаварываюць, ваду даюць с упуду. Старушкі загаварываюць, каторыя ўмеюць. Як сразу як спужаеца, ну так у мяне была такая прымета: я тры раза пацалую і плюну. Вот. У яго (пацалую) і на таго (плюну). Вот ідзець дзяцёнак які, то сабакі, то ад чаго… У мяне самой во было недаўна. Тут з Віцебска прыехаўшы да бабушкі ў госці ўнучкі. Прыбег ён да мяне гэтат мальчык і ўсё прыхадзілі яны. Ня помню, чаго яны прыхадзілі, а я і не была ў хаце, дзьверы не закрыты, а я пашла туды за хлеў. Чую, сабака забрахаў, я бягом сюды. Стаіць эты мальчык, і сабака атарваўся і не знаець, што робіць. А сабака сарваўся. Мальчык крычыць, сабака брэшэць і сядзіць, не чапаець яго. А сразу ён як сарваўся, проста ў яго во так во увідзела, што ён за ножку даў клыкам, як ён ляцеў, клыкам і гэтай ляпай даў. Як ужо спужалася гэты дзяцёнак! Я бягом. А ён: “Нет, нет, не…” А ён мне: “Я спугался і не знаю што вот, што…” “Ай, мой мальчык дарагі”, – кажу. Ну, але сеў на ровер і папёрся. І сабака сядзіць, і я сабаку прыняла, прывязала. Ну і я ззаду. Думаю: “Што ж я раблю!” Мальчык спужаўся можэць усяго быць, можэць і заікацца, можэць не спаць, што хочэш можэць быць. А сабачый упуд дужэ врэдна. І рожа можэць быць. У мяне ў самой была, сабакі спужалася, рожа.

Ну і я ззаду за этым мальчыкам да гэнай бабушкі. Кажу: “Ён спужаўся, дзе, – кажу, – Антошка?” “А ён, – кажаць, – прыйшоў і лёг спаць”. Гэта першае, як спужаесься, так сразу спаць захочаш. Сразу ён ляг і спіць. Я дамоў, давай сабаку во накрыж поўсць стрыгчы. Адстрыжэш і нада пакурыць мальчыка. І сабаку дай з місачкі, накідай хлеба, і каб сабака цераз парог узяў гэтага хлеба. Стрыгчы можна і после, але хлеба гэтага і вады трэба даць. І вот гэтай вадой і з гэтага хлеба можна з’есці, калі што там астанецца, які кусочак, і гэтай вадой памыць, папіць і ўсё. Ну, я ўжо ж гэтак зробіла, бо мне самой гэтак было. І праўда, дзякуй Богу, мальчык нічога. Я ўжо і назаўтра я паляцела, адвечарак быў, паляцела, кажу: “Што, – кажу, – як ён спаў?” “Не, – кажаць, – нічога”.“А як што, які ён?” Устаў, ідзець. “Як ты, мой мальчык? Як ты? Ці жывы ты? Спужаўся сабачкі, – кажу. – І сабака спужаўся, і ты, і я”. Перапужаліся мы, баялася, каб крэпка ён яго не ўкусіў. Ну але нічога, і гэты зажыло, што он яго вот ударыў, дык сіняк такі быў, за ножку. Ён не ўкусіў яго, а клыкамі яго, как шчырыўся... А дактары ўпуда не знаюць. Яны ня ўмеюць лечыць.

І ад зглазу дрэнна будзець, галава будзець балець, ірвоты можуць быць. Ой, галава кружыцца, дрэнна. Мне сколька раз было. Я помню, адзін год, яшчэ я дома была, гэта шчэ с начала калхозаў. Касілі жыта, мальцы, мужыкі там косюць, а дзяўчаты, жанчыны вяжам снапы. Прыехаў да нас з канторы такі гэтат шчытавод, яшчэ нехта, нешта ім там нада было пагаварыць із намі. Вот мы селі, паваляся. “Мы, – кажам, – хоць атдыхнём”. Селі. А гэтат чалавек, як я павярнуся, гэтак ён усё – зірк на мяне, усё глядзіць і глядзіць. Я схавалася так во за другога, адхінулась, ён ізноў мусіць галаву пахіліць – зірк. Думаю: “Чаго ён на мяне глядзіць?” Я ж была маладая, ён жа, ён жа быў жанаты, ужо ж і дзеці былі ў яго, ён старэйшы ж, і многа. Яны пашлі, а я ўстала… а я не ўстала, і легла. Галава кружыцца, во дык во. Валюся. Звяла і ўсё. Вот пусьцілісь ісьці касіць, яны пойдуць і вязаць. Сястра прышла, а я кажу: “Вяжы за мяне сноп, я не магу”.

Як ляжу на зямлі так во ціханька, анічога… Ляжу на зямлі так, ціхенька прылёгшы. Як падымуся – усё, валюся і ташната, і ўсё. Во я мусіць два часы дамоў шла. А тады вечарам заходзюцца ўсе з работы, глядзець, а мама ўжо свечку дзержала. Кажаць: “Мусіць, памрэць дзяўчына”. Не знаець што. Не зналі ад чаго. Ну. А тады ўжо прышлі гэты, сталі гаварыць, а тады ўжо сталі гэты гаварыць, кажуць: “Пэўна ей, – кажуць, – гэта Лёнька, мусіць, зглазіў, – кажуць. – Так ён глядзеў на яе”. А лежала, ужо думала памру. Прышлі, сабраліся людзі, глядзяць, а мама свечку прыстроіла, галосіць, кажаць: “Памрэць дзяўчына. Што ей зробілася?” І во як. Тады, пом-

ню, загаварылі, нешта рабілі там жанчыны, я прама і ня помніла ўжо саўсім, дужа дрэнна было. Ну, але адышло, ноч праспала і ўсё і прайшло.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Міёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1084. Сцень, валаснік, залатнік…

Гэта сцень вынімалі ад пуду. Сцелюць кажух, кладзеcься… Рыбяты ў асноўным, ай, вот дрэнна спіць, спужаўся. Тады ўжо сцень вынімаюць, куруць тады. Ножам во так – скуб-скуб з галавы, з ножак, з ручак. Дажа станавяць у дзверы, накрыж вынімаюць – з гэнага вугла на гэты, і там сцень вынімалі. Гэта ўсё ад пуду.

Калі ня спіць рабёнак, ну гэта то спужаны, грызяваты і начніцы. У падол кладуць і палаюць. Ля дзвярэй: *“Што ты робіш? – Начніцы палаю. – Палай болі, каб не было ніколі!”* За дзвярмі нехта стаіць і гаворыць.

А ячмень, гэта пальцы перавязываюць на гэтым глазу, тады на гэтай руцэ во гэты два (паказвае безыменны і сярэдні). Бываюць, з сціркі выцягнуць, што сціраюць, там ніткі. Ну і пабудзеш, пакуль яна парвецца, і зваліцца, і прападаець.

А суровую нітку, гэта ад красён навезь навязываюць. Бываець, нага ў каго звіхнецца, то рука. У нас карова з цяленьня, і не станець на нагу, тольках трошку прыткнецца. Ну расцяжэння жыл. І тут нядзеля, другая, і не праходзіць. Ну і тады тут недзе спісанага нашла навезь навізаць. Дык я толькі тры навязала, астальное не далася. На трэці дзень ужо карова ступаець. Вот відзіш, як памагаець.

Валасень выліваюць. З веніка звязываюць такі пучочак, ну і цёплай вадой во ліеш, і ліеш, і руку кладзеш, ці там на назе бываець. І ліеш, і ліеш, а потым станеш расхінаць гэты пучочак, а там валаскоў многа. Валасень – гэта ад касці нарыў. Ён усяк бярэцца. Ну вот, усё лён тады мялі і з лёну укалолася, і вот после таго, каб можа сядзела нічога не робіла, а ўсё роўна ж хадзіла на работу, можа з-за гэтага. Ну, еслі нарыў робіцца, тожа, во як летам трыпутненьку, троху мёда, і яно скора. Хоць і ранкі няма а ўжо торгаіць – будзець нарыў. Уперш сярповую лісцінку бралі маладую, ўсе ж босыя хадзілі, лес усюды. Дзе ўдарыш, дзе праб’еш, чуеш, што баліць, і тады сярповую лісцінку прыложыш, сала тоненька атрэжыш, прыложыш і тады лягчэіць.

Парэжыш, бывае. Ну трапку дзе якую, такая травіца, гэтай травой паложыш, і праходзіць. Даўней прахадзілі раны быстра затое, што не было гэтай радзіацыі. А цяпер ня лечыцца. У нас во чалавек з Віцебска, дык ён прыязджаець часта, дык ён кажыць, што цяпер не гаяцца раны. Толькі праполісам нада гаіць. Так казаў. І праўда, нешта рэзалі мы, тут абадрала трохі

руку. Не мажу дзень, два і тры. Чырванеіць і далей гэта расходзіцца, ну запусціла, каб хвароба гэта укаранілася. Памазала разы са тры ўсё, заціснула, і нічаго не стала. Струпок стаў яшчэ, і па струпку памазала – струпок злез. Папракцікавалася.

С прагавору рожа можа быць. Ну гукаюць там можа, думаюць дрэнна і такое трапіць слова. Не знаю. Вот нічога ніякага, а ўскочыць во такі во беленькі прышчык, тады ўжо чырванеіць, расходзіцца, цвёрда робіцца – і рожа. Ну, як цяпер, памагаіць ад рожы еслі ў скорым врэмені чорная мазь. Ёсць у аптэках. Я не помню. Дык вот, не запусціш у скорым врэмені, гэта мазь очэнь памагаіць. Ёсць яна у вецерэнараў, каровам даюць.

Падрыў? Гэта залатнік завуць. Жывот баліць, вот удаўніш і ён, кажыць, ужо косы папускаў. І тады даець у бакі, і сам не знаеш, усё там баліць. Тады лечаць, сціраюць, вот прымерна у бані, як у каго дужа запусціць. У нас быў мужчына, мужчыны прыхадзілі к яму лячыцца. Баню вытапіць і тады загаварываіць, сціраіць, усё сціраіць накрыж к пупу, накрыж, і сціраіць. А тады ў яго яшчэ быў такі кубачак гліняны небальшы, і тады ставіць яшчэ гэты кубачак на жывот, на пуп, скарынку хлеба атрэжыць такую невялічкую, і тады лёну кужалю так зробіць, і тады гэтыя капціркі пхнець, і запаліць. І тады гэты кубак – хлоп – і ён нацягнець.

А ў жанчыны ў аснаўном бываець з роду. Загаварываюць, бываюць, хто на яйцо, хто на кмін. Тады выпіць гэта яйцо, паліжаць роўненька. А кмін, хто сухі, хто бываець на гарэлку, а хто і так. І на хлеб можна загаварываць, хоць на што. Залатнік даець, кажуць, сюды, аж у ногі – гэта ўжо косы распусціў.

А кругі… Мы, як малыя былі, конь пакачаўся, абходзім – нельзя на гэта месца. Кругі, а яшчэ, кажуць, гэта хвароба прытча завуць. Гэта васнаўном, дзе сабака качаецца, ці грызуцца, і ты па гэтым пройдзеш. І тады прытча. І тады баліць, сам не знаеш што. А кругі – плямы такія на скуры. Лечылі. Я ведаю, што к акну во вечарам падвядзець, сучок шукалі, а то к дзверам падвядуць, дзе сук ёсць. Пальцам мезеным мажаць па акне пот і тады па кругу, і гаворыць нешта, а калі к дзверам – па суку. Лечыла Драздзіха.

Дзічкі былі ў мяне ў самой на руцэ. Гэта кажуць, дзе каснік пекны увідзіш на дарозе… Той сатрэць і кідаець там. Ну стужачку якую. Тады што робілі: палічыш сколька дзічак і завяжыш столька ўзялкоў на нітцы, на простай. Тады клалі на дарозе, казалі: “Ай, колькі дзічак у цябе многа, не бяры нідзе нічога, ты нешта недзе падніла!” Тады навязалі ўзялкоў, палічылі, заняслі. Былі дзверы і пастаўлена тожа на дрэве на нейкім, гэта ж цяпер завесаў хватаіць, а тады не хватала. Ну і тады палажылі сюды (пад парог) і прапалі дзічкі. Яшчэ пабылі там троху і прапалі.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч М. І. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 1085. Упуд

Былі, былі і ад каторых бабак і памагала! Я вот сама дык і сама не малая была, дзеўкай, і пайшлі на танцы тут у дзярэўню. Ну дык дзеўкі шлі, а мальцы пайшлі наперад і пасталі за сасной, і пужалі. Дык я толькі: “Ай-ай-ай-ай!” Спужалася, што Божа мой! Ну дык вось, мне не дабрылася, не дабрылася, з абеда ў сон кідае, на печ гатова легчы, гаварыць не хачу… Ну дык мама гаварыць: “Нада гдзе цябе да бабак!” Ну харашо, ну няхай. І павязла мяне мама, як гэта, П’яншчына раней была, пад Бягомлем. І знаеце што, мне гэта бабка сказала: “Вы знаеце, што ей дзе-та цемнай ноччу спужалі… Відзеце вы?” І точна, і дала яна вады, і гэтую ваду патрабляць нада было. І я патрабляла. І слава Богу, лепей стала. І сама я ўзрослая і гэдак была спужалася!

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Модэль Марыі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Козікі Докшыцкага р-на.**

## 1086. Ад упуду

Як спужаецца рабёнак, тады хадзілі на магілкі і збіралі машок. З любой магілкі, памятніка, на красту парошшы во машок. Але нада ісці і не адзывацца, калі з кім спаткаешся. І назад. Нарвеш гэтага машку, ідзеш, будуць да цябе звацца – ідзі не аглядывайся. Прынясеш, пакурыш – палепшыець. Хадзілі да усходу сонца бралі, а цяпер ужо няма нічога, ні машку, нічога ужо, ужо усё прапала.

Як спужаесся, і ў комін ваду [трэба паставіць]. Як первы дым перайшоў, падпаліш і тады возьмеш вады кубачак, паставіш у камянок, паложаш лучынкі, каб вада гэта прайшла, і гэта ад упуду давалі. І былі ж людзі такія, знахары, картачкі выпісывалі, курылі. Ну, ён знаў як выпісваць, яе ня пішыць во гэтак, але ў гэты бок пішыць, наабарот [з права на лева]. Пакурысся, жарку паложыш, картачку пакрыеш, каб дымок прайшоў, і палепшаіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ардынскай Марыі Фёдараўны, 1925 г.н. у в. Буі Докшыцкага р-на.**

## 1087. Упуд і “купальскі дзед”

Ну і даўней гэтак, даўней курылі, зёлкі варылі, *пералёт*, *півонію*. Гэтак ужо даўней, ага. Спужаіцца, *дзед* гэты калючы свенцілі, на Яна насілі. Дык гэта ўжо нада дзед гэты ісці капаць, з каранём выкапаць, каб гэты пятухі ўжо ні піялі, ня чулі гэтага. Гэта ўжо з каранём нада выкапаць на Купала яго, ага. І тады ўжо пасвенціць. Надта памоцны ўжо гэты дзед. Нада корань капаць, корань. І з каранём нада свенціць яго, з каранём. Капаць ужо гэтага дзеда калючага. Ну і півонію, пералёт ёсць такі ўжо пахнючы. І пералёт тады ўжо гэтак. Купалі ўжо гэтых дзетак, як цяперака завецца

*пустырнік*. Тут купалі тады ўжо гэтых дзетак, пад галаву *сонкі* ж нейкія, кяткі, зёлачкі клалі. Усяк. Плачыць, плачыць, ага, гарлянкі, ветранкі, горла баліць ці што. Дык мучыліся. Не было ж бальніцаў, уміралі, каторыя ж выжывалі, і мучыліся. Страдалі, крэпка страдалі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Чэчуковіч Раісы Іванаўны, 1936 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

## 1088. Упуд

Во спужаешся, а тады ўсе трасецца, спаць хочацца, вось увесь дзень бы не ўставаў бы, ляжаў, ногі млеюць. З пуду можа быць і жаўтуха, і малярыя, не знаю па-цяперашнему як яе зваць. Трасца. Трасло, у сцюжу кідала. Жара на дварэ, а цябе гэтак калоціць. А тады адкалоціць і будзе добра – гэта з пуду бывае.

Гэтак мой брат спужаўся. Вайна была і ў лес яны ўцяклі, а тады кажа, што няма ўжо немцаў, прыйшлі і зямляначка ў нас была. Тата у нас быў кавалём, кузня была. Хату ўжо спалілі, а кузня засталася, так ён гэна ўсе вон выкінуў, ну там як прыдуць. Ён грубачку зробіў маленькую, і ўжо мы тут жыць будзем. Там баня ж яшчэ засталася, не спалілі, зямлянку не спалілі і кузню не спалілі. А хата ўжо згарэла – няма. Дык ён ўзяў печку зробіў – грубачку гэту.

Ну і прыйшлі ж яны і з братам ўжо, з сынам і там ўжо робяць, а тады відзюць нехта крычыць: “Ай, немцы! Ай, немцы!” Дак яны не пабеглі ўжо ў лес, а ўжо ў гэтай будцы засталіся. А як пачулі, што немцы ідуць, гэты замок быў прывешаны к гэтай, замкнены быў, дык яны гэты замок ўзялі, кінулі на пол, а венікам сляды пазамяталі, каб слядоў не было. Каб не увідзелі немцы, што сляды пайшлі ў зямлянку. І яны, адзін і другі, сталі за грубачкай, немцы паглядзелі і пайшлі. Па-свояму там, па-нямецку, загердулякалі і пайшлі.

Ну во ждалі-ждалі, няма-няма, тады выйшлі і пабеглі ў лес. А гэты ўжо мой жа брат Віця гэтак спужаўся, гэтак ўжо іхсці ня можа. Тата яго нясці, а ён жа ўжо і ладны такі, а там і гразь во якая і ўсе. Но неяк жа завязлі. Там у нас і ў лесе зямлянкі былі. І тамака у нас ўсё было. Там і карова была, там усё. Ну, а сюды яны ўжо прыхадзілі ўзнаваць, як там што. Паціхла ўжо ўсё, Віця мой брат сусем ужо ня можа, як з пуду. Як з пуду, ужо жоўты зробіўся. Ну і мама там малілася, але ж сваяму можа і не памагла, свайму можа і не паможаш.

Тады кажаць, што на скібку хлеба вошаў нада накласці, а тады маслам памазаць і каб ён еў. Так жа ня будзеш есці, вошы ж. Ну і з’еў, і знаеш, гэтак трошку ачунеў, троху неяк лепей стаў. Тады яшчэ, і так неяк атый-

шло. Гэдкі пуд быў. Во відзіш, немцаў спужаўся. Ён іх і ня відзеў, толькі што чуў, але, відзіш, спужаўся. А тады ўжо палепшала, тады ўсё.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Плыгаўкі Марыі Іосіфаўны, 1936 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

**1089.** Ну, ёсць загаворы. У мяне ўнук спужаўся быў малы, гады тры яму было. Нічаво ня еў, нічога абсалютна. Я кажу на сына: "Славік, ён спужаўся". А той: "Ну, што ты гаворыш, дзе ён спужаўся?" А я: "Знаіш, можа случайна спужацца". Я яго тады павязла ў Кашчына к бабке аднэй. Яна кажа: "Всё, еслі па-харошаму, ён ужо спужаны, цяпер ён зразу заснець". І я не ўспела дамоў прывезці, ён заснуў і спаў да вечара. Як рукамі ўсё зняло.

Яна яму загаварвала, ваду давала з сабой, і тады садзіла яго на нейкі стульчык, палушубкам абкручвала, поўсцю наверх вот этай. Вот яна яго так лечыла. Вот сядзеў ён, абкручаны кажухом гэтым, поўсць яна рвець і тады абкурыць. Падпаліць трохі і дымам абкурыць. А што яна там загаварвала, я не знаю. А можна, як спужаецца, пад сталом насіць. Вот так, на перакростак пад сталом, пад ножкі. Ну і нада казаць: "Упуд, аставайся тут". І сплюнуць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

### 1090. Упуд на пажары

Як упуд, тады рубашку перавернеш, на пераводзіну паставіш, ільном абвядзеш, падкурыш рабёнка пад рубашку, штоб дыма нюхнул і праходзіць. Я ж сама спужалася, во гарэлі, і як мне пастукалі, я толькі лягла ў 10 часоў вечара, выключыла тэлевізар. Стук у хату, я аж падскочыла! Куды ж я не падскачу? "Што ты не чуеш? Я гару!" Я хату адкрыла, а ўжо агонь у вуглу. Вот так, як у мяне акно, у іх тожа. А ўжо агонь палае ўваўсю. А ён прыбег, падушка, наверна, загарэлася, як ён сам не згарэў, увесь у пуху! Я гавару: "Сашка, ты ж гарыш, што ты сядзіш? Ідзі, можа, што выкінеш?" Ён на мяне матам раз перакрыў і втары раз. Я трубку пазваніць у пажарную, тэлефон жа ў мяне, а трубка ў мяне, бо рука эта паралізавана, дык я трубку дзяржу, а як ні кручу. А як я і выпусціла трубку. Ён брэшыць матам, мацярыцца. Я гавару: "Ідзі, ты гарыш, ужо агонь кругом у акошке сьвішчыць".

Я так спужалася! Як выйшла ў начной сарочке на крыльцо глядзець, тут жа людзі, пажарная сейчас папаехалі і дзярэўня ўся папрыбегла, яшчэ не лажыліся спаць, дык я стаяла ў сарочке выскачыўшы. Гэта было 12 іюля, эта Пятро была.

Лячыла я тры ночы, унукі мае, дык я тры ночы хадзіла, не раздзевалася, не лажылася, нічаго. Хадзіла так, как ізвеснае нервнае патрасеньне такое. Дык што я памагала сабе: шаптала, і на пераводзіне падкурывалась,

нашла яшчэ ў чулане лён, ды быў у мяне кулёк льну, падкурывала на пераводзіне сама сябе. А шаптала: *“Упуд, упуд, ідзі пад кут, упуд, упуд, ідзі пад кут”*. Хрэсцілась, малілась, малітвы гаварыла. Так проста, сама сабе шаптала.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Палячэнка Марыі Іванаўны, 1928 г.н. у в. Брыгітполле Віцебскага р-на.**

### 1091. Пра ўпуд, калтун і падучку

Ад упуда курылі зёлачкамі свянцонымі. Бабка мая саскрыбе, саскрыбе ножам. На кажух дзіце лажыла. Тады на скавародку ўсяго гэтага, свянцоных зёлак. Падымаець рабёнка гэтага, каб ён задыхнуў зёлачкамі свянцонымі, аж кашлянуў. Закашляўся каб. Лажылі дзіцё на кажух. З усіх вуглоў і з чатырох, і тады з парога, і тады састрыгуць (кажух) тут з галавы, з ног. Тады на скавародку пажарыць, зёлачкі, сколька пападзе, саскроб возміць. І тады над ім, каб закашліў. Закшляе, і тады праходзіць.

А калтун – гэта калі валасы збіваюцца. Яго не стрыгуць, а збіваюць камень аб камень, яго ня рэжуць. А чаму ня рэжуць? Ня прынята, бо хужы круцяцца. Ён бярэцца, што, можа, што на дарозе ўзяў, што красівае, нехта кінуў. З дарогі нельга нічога падбіраць. Нагаварываюць хваробу ўсякую і тады кінуць. Хто возьме, той і сабе возьме, значыць. Абычна вешчы такія красівыя. Грошы тожа нельзя браць, еслі знаходзішь. Так жа не кідаюць, усё з хітрасцямі.

Пра падучку сусед гаварыў. У нас быў сусед. Прыхадзіў малоць, у баню прыхадзіў, дык расказваў. Ён быў байстрачок, банкар, незаконна роджаны. Ён з мацер’ю хадзіў жабраваў. Маці была жабрачка, бедная была і яго вадзіла, мальчыка. Ён расказваў, што начываў у аднэй хаце. Прыводзяць ксянза: “Выйдзі нячысты, чорны дух і паўтор не ўхадзі”. Паўтараў некалькі раз ксёнз. Маліўся ўсю ноч над рабёнкам і гэтак казаў. Падучка – гэта хвароба, такая нечасць уходзіць. І гэта потым праяўляець – падаець, слінай праяўляецца, ён б’ецца.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

### 1092. Дулябіха дапамагае ад упуду

Здаецца, Глашка мая спужаўшыся была. Дык, братка ты мой, яна спіць, спіць, а тады – прыг цераз мяне і пашла, кудысь пашла да столу. Стаіць ля столу. Божа мой, Глаша, хадзі сюды, хадзі сюды! Тады прывяду яе, палажу, а не, дык – прыг, і пашла да парогу. Во такая была мая Глаша. Я павіла да Манінай старой, старая яшчэ жыла. Дулябіха, Люба звалася. Ну і знаеш, я яе павела нескольці раз, але нада ніткі гэткія каб былі, простыя, льняныя. Тады яна мерыць, мерыць, а тады возміць пад рубашку, запаліць і

курыць, курыць. Глашцы і палепшыла, а так бы, сцеражы Божа, што было б – не вядома.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Януць Веры Андрэеўны, 1918 г.н. у в. Сасноўка Глыбоцкага р-на.**

### 1093. Гаўручыха памагае кароўцы

У нас во і Гаўручыха, хай яе Бог, Царствіе Нябеснае, тожа выручала. У мяне свая карова хварэла. У Казакове. Бывала, дзелала мне, *сольку* загаварывала. Пайшла ў баню, тады прыйшла: "Надзя, ці праўда ці не, што з тваей кароўкі камушкі падскакваюць?" А як яны падскакваюць? Мне ж там ніхто не сказаў і не паказаў… У бані. А што яна там робіла з тымі камушкамі?! Ножніцы, ножыкі брала, а хто знаець, што яна з імі робіла. Ну, прышла й кажаць: "Ну і праўда, Надзя, нешта ёсьць з кароўкай. Камушкі падскакваюць." А як яны падскаквалі камушкі, я гэтага не знаю. Яна соль загаварывала.

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Малюковай (Зуевай) Надзеі Іванаўны, 1932 г.н. у в. Даражылава Верхнядзвінскага р-на.**

### 1094. Віхор

Такі віхор ёсьць. Эта какая-та скрутка, гульня – гэта не дабро. Я помню, на дароге вязець дзед снапы, пуга ў руках, каня вядзець. А віхор – дж-ж-ж-у! Ён пугай, пугай па ім. Можа, што казаў, але я ня чуў. Пугай, пугай, і пайшоў. Аднаго тут у Рачных ужо памёр. Віхор прапусціў. Праляжаў у бальніцы 2 нядзелі і ўсё.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

### 1095. Падвей

Падвей – гэта не толькі даўней, але і цяпер. Мусіць, гэта сквазнік бываець. Спаралізуе чалавека. Дужа страшылі нас у дзецтве. Во, успомнілась, і раскажу. Быў ад Курылава, гэта Лількін бацька, ну то тады жалі дзе-то яны, не знаю я. А тады, гаворачь яны, так і пагода была тады, а гэты віхор на дарозе, як начнець вось гэтак круціць. І пясок так круціла-круціла, а каля яе меньшы сын ляжаў. А яна спала, жала і лягла аддыхаць, а пляменьнік тожа спаў. А віхор гэты наскочыў, яе падняў, і тады метры 2 – 3 аднес у бок і адпусціў яе, і яна звалілася. А гэты картавы быў дык крычыць: "Мама, мама, Пеця, Пеця, палядзі, а мама паляцела!" А яе гэтым віхром.

Гэта было, можа мне тады гадоў 12 было, во гэты віхор быў. Яго ўсе дужа баяцца, а можа ён на шчасце па дарозе па гэтай часта круціць-круціць-круціць, як усюды пясок, і пойдзець у лес тады. Каб не зачапіў, красьціцца нада. Ад чорта. Ну дык, а як вы думалі, гэта ж злая сіла.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

### 1096. Рожа

Рыбу лавіў Валодзька, на канцы жывець, укусіла шчука. І ён, гэта самае, стала балець рука. Дык яна бываець такая рожа, што і пухліна бальшая, а ёсць без пухліны – касцявая. І ён у госпіталі ліжаў, у ваенным, атнялі палец. Як ня робілі – нічаво, ня мог ён. Атнялі па первую шчыкалатку. І вот ён тады пакуль не загукаў эту рожу, атнялі б маглі б і руку. Гэта рожа вабшчэ капрызная.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

**1097.** Я ня ўмею ад рожы, а вам пасаветую. Прывязлі мяне ў Германію. У мяне лытачкі былі спрытныя, і мяне нехта сурочыў. І распухла, раскраснелася нага. Ну і што, там некакога чарадзея не найдзешь і да ўрача не пойдзешь, хто цябе пусціць. Падружкі бяруць пад ручкі і вядуць да станка кілометры два. І патом была ўкраінка старушка, баба. І кажа: “Знаеш, што, Сонька, я цябе палячу”. Як мінструацыя ёсць на бялізні, дык нада прылажыць – как рукамі адніміць. Вот як на бялізні ёсць, ну там вот трусы надзяеш, астаецца. Ілі трапачка чысцінькая, закладаешь. І як рукамі сніміць. А нас прывязлі – ні ў кога не было на бяллі. І вот ужо перад паследнім, як нас асвабадзілі, вы паверыці, некаторыя млелі. Як станіць, млелі ад болі пакуль пойдзіць. Старуха мяне вылечыла, толькі ні загавора, нічаго.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Шуневіч Соф’і Мікалаеўны, 1923 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

### 1098. Касцявая рожа

У мяне ў самой была рожа. Касцевая. Бываець жа, еслі не касцевая, дык нага пухніць, ці рука. А ў мяне касцевая была. І такая боль была невынасімая ў назе. І вот я, хацеў мяне мужык везці ў бальніцу, машыны не далі, гэткай легкавой, на грузавой, а я нагі спусціць не магла ўніз – такая боль невынасімая была. Ну а тады тут суседка падсказала. Кажаць, мол, ў цябе рожа – нада пазагаворваць. І тая старушка, Юзэфа, жыла аж ў канцы там. І, мусіць, разоў дзесяць ка мне прыхадзіла. Я на нагах не магла не ісці, нічога.

Ну, на месца шаптала, да. Аржаной мукі нагаворыць, а тады абкручвала нагу. І, дзякуй богу, прайшло. А так еслі б ён павёз мяне ў бальніцу, тады ў тое врэмя ня верылі, што гэта рожа можаць быць, маглі б нагу атняць.

Гэта было ў 75 гаду. Мне дык нага балела. Рожа ёсць з ветру. Рожа ж ну тожа, можаць і касцяная быць, можаць, і прагаворная. Кажуць, з языкоў.

Ці смех, ці сказаў што, са смеху можаць быць. Ну вот тады шлі з работы, і хадзіла ў калхоз, на паляводства. Нас многа было. Ну, шлі і смяяліся. І вот адна тое, другая тое. Ну а я, мусіць, сурокаў баюся.

І вот забалела мне, і я паначалу абрацілася ў Тамілавічы да врача. Яна мне прапісала ўколы. Ну я, мусіць, разы тры схадзіла, эта яна сказала, што радзікуліт у мяне. Ну а мне як балела, так і баліць, а тады ўжо памкнулася ісці, і вот дайшла, і туды троху адыйшла ад хаты – і ўсё, як забалела – я ўжо не з места тады. Прыйшла дамоў, лягла. І ўсё – не з места. Ну а тады ў бальніцу хацела ісці, не палучылася. І так тады загаварыла, і прайшло, дзякуй Богу.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А. у 2009 г. ад Пецько Антаніны Іосіфаўны, 1925 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 1099. Вогнік, наход і зубны боль

Ай, ужо маладзік када народзіцца, дай яму прабыць тры дні – чатыры дні, і садзі ўсё што ёсць, усё нарасцець, картошка, гародніна, усё харашо. Каб вот не на сход не садзіць, тады яно такое крындаватае, някчымнае. А зажывае, да. Якія там вогнікі ўжо адкідваюць, дык гэта на сход. Ну вот када разгоіцца якая балячка, што няможна яе ніяк угаіць, тады прыхадзілі да маёй бабулі, адкідваць. Яна во гэтых вугалькоў, неяк настроіць тамака, і абвядзець гэтымі вугалькамі эту рану нескалька разоў, не знаю, можа тры нада. А тады, гэта як печка цепліцца, гэта тады робяць, а як кінуць у печ, туды аж за самыя дровы. І ўсё, і прападае вогнік, ну гнойная такая балезнь гэтая.

Наход, ну чула. Сама ад яго робіла. Нада, як наход, тады кары варылі такой вольха. Ён нападоб’е алешніку, але ў яго адна старана беленькая, вот гэты вольха. Зварыш яго, і тады нада ў мярлозе памыцца, дзе свіньні сьпяць. І ваду гэту вынесці і на вугал лінуць, навотмаш. На любы вугал.

Наход прыключаецца ж… Нельзя, каб у баню захадзілі жэншчыны, каторыя… Нада, есьлі ў бані, а яна заходзіць, абезацельна будзіць наход. Нада яе вызваць: “Выдзі вон”. А тады ўсе выдуць з бані, а яна заходзіць первая. Тады няўрэдна. А як ты ў бані, а яна находзіць на цябе, то тады абязацельна будзець наход. Цяпер жа не так хварэюць гэтым находам, а даўней жа очэнь. Была ў мяне так вот: і шыя, і грудзі, і ўсё, тады не болькамі, а карычневой такой зробіцца, кругамі такімі.

А як зубы… Вот, дзе хрышчоны рабёначак, ну на магільніку, ісьці да таго крыжыку, узяць адшчапіць ад яго маленькую трэсачку, і пакавырацъ у зубе, і абязацельна, кажуць, перастане.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1100. Наход

Наход – гэта болькі становяцца па чалавеку, прышчы. Вот наход. Яго лечуць, канешне лечуць. Вот, кажуць, як у жэншчыны месячныя бываюць, дык не нада ёй тады к людзям ісьці ў баню. Раней жа людзей па дзесятку сабіралася. Тады вот гэта адрыгнецца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

## 1101. Валасень і ўпуд

А валасень я ўмею выліваць. Я табе магу гаварыць, ты меньшэ мяне, старшым – не. *"Волас на колас, дай Божа на помач"*. Тры разы нада так. І валасы выходзяць толькі так. Я вылівала. Валасень, што валасы выходзяць. Шышкай прэць з пальца, еслі ўрадзіўся, абычна з поўпальца, настолькі. Загоніш што-небудзь у палец, яно астанецца. Тады, адкуль яны гэты валасы? І столькі валасоў! А круцяцца! Як усё роўна жывыя!

Яшчэ ад пуду: *"Пуд пудавы, выхадзі з цела, з касьцей, з хаты – дымам, з поля – ветрам"*. Вот так загаварываюць. Гэта с пуду. І тры разы так гаворуць. Эта на вадзе, да. Но перва нада перахрасціцца, Богу памаліцца, а патом ужо загаварываць.

**Зап. Гембіцкая Н. у 2008 г. ад Семяньковай (Шыёнак) Веры Анісімаўны, 1927 г.н. (нар. у в. Альшанікі) у г.п. Шуміліна.**

## 1102. Волас

Волас – ніхто яго не знаець, што за ён. Дзелаецца рана на наге ці што, а тады тожа жэншчыны памагаюць, выліваюць на калосьсе. Тожа ў маёй дачке было ў этым, у правай наге, у большы палец. Дык з год не зажываў. Гнаіцца ўсё ўрэмя. Врачы абрэжуць – вродзе зажывець, а тады абратна як начынаець падхадзіць. А тады пасаветавалі, урачы сказалі, што нада ўдаляць палец. Я гавару: "Пагадзі ты ўдаляць, удаляць-та кожны раз сумееш, нада папробаваць к жэншчынам пайці схадзіць". Яна мыкалася ў Віцебске, нашла жэншчыну і тая памагла. І тыя валасы выходзяць. Ну, яны не клубком, ну яны ўрозень так выхадзілі, а тады звіваліся ў клубочак.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Васільевай Марыі Гаўрылаўны, 1928 г.н. у в. Пруднікі Віцебскага р-на.**

## 1103. Валасень

Валасень, ну адкуль ён берыцца, я не знаю. У майго бацькі быў валасень. Палец у яго гніў дык хадзіў па бабках загаварываў. У бальніцы ўжо хацелі яму ўжо аднімаць палец. А ён тады: "Закрывайце белюцень, я пайду ў другую сторану, да бабак пайду". Ну і пайшоў у Рачныя. Кладуць венік

на палец і вадой ліюць на гэты палец, і тады, як паглядзяць, валасы будуць з пальца.

**Зап. Аўсейчык У. у 2009 г. ад Драмковіч Галіны Сяргееўны, 1934 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

**1104.** Ай, быў у мяне валасень. А з чаго ён бярэцца – балезь яго ведаець. Ну вот, точыць ён косць. Ён, можа, ад вады прыключаецца, але ніхто ўжо на валасень не падрабляў. А можа волас уедаецца, чалавечаскі волас. Ну тады, во к бабцы сходзіш, выліець яна табе. Нешта ж яна гаворыць, выліваець і гаворыць на каласы пустыя. Колькі тых каласоў я не помню. Ну нейкія ж дозы ёсць, пасколькі яны бралі. А тады выліець і глядзіш, як валасы там будуць круціцца ўсякія там. Небальшэнькія, там красныя, рыжыя і ўсякія. А як не лечыць валасень, ён с’едаець косць, і адваліваюцца пальцы.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н., у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

**1105.** Яна ж [знахарка] ржаныя каласкі адшчытавае сколькі паложана, ну і моліцца. Адшчыпаюць валасы, так скрапаюць валасы, што немагчыма атадраць гэтых валаскоў. Адкуда выходзюць? Урачы хацелі руку атадраць, а точыць косць, гэты валасень, есць косць, пакуль не загаворыш. Дык я помню: у Манькі у нашай быў валасень. Даўней жа не было, а зараз ходзім відзім, як яны па вадзе, таўстыя такія [валасні]. Так мы іх і відзім. Дык я памятаю, упіўся у нагу той валасень, і гэта паложыць гэта нагу у вадзе і моліцца. Паліваець вадой і паліваець, і вот выняла, і начала во так раздзіраць. Поўна іх на тых каласках. Гэта ёсць і цяпер гэта ёсць. Але гэта сваё, ну маладзёж гэтага ўжо не знае.

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Бахіркі Ефрасінні Васільеўны, 1930 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

**1106.** Бывае ударышся. Яны больш на нагах, гэтыя валасні былі, боле нідзе – на нагах. Пярнішь пальцам у камень. Палец сінее тады, ні нарыва ніякага на ім нет, а робіцца сіні такі. Тады ўжо выліваюць. Навыразаюць пруточкаў маленькіх з веніка, што хату мятуць. Тады іх навязваюць, а сціснуць у адну, гэтыя, каб растапырыліся. Пад палец кладуць гэтыя галячкі дробненькія, а на верх льюць цёпланькай вадзічкай. І адкуль берыцца? Як на галаве, валосы з гэтага пальца ў гэтым галлі, і тады праходзіць боль.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Сініцы Соф’і Анрэеўны, 1924 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

**1107.** Ну, валасень бывае на пальцы. Есьлі валасень на пальцы, нада падагрэць ваду. Колас жытні ў ваду, а можа тры, не помню. Ну не кіпяток,

а летняя вадзічка, туды класьці палец і нескалька раз папарыць, дажа можна і пасцёбаць коласам. Ваду нада выліць навотмаш на дарогу.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Касцянка Аліны Сямёнаўны, 1933 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага р-на.**

**1108.** Валаснік… гэта калі на возеры стаіш, уп'ецца у цябе валаснік, як п'яўка, але ж тонкі, як волас. Ну вот, як у рацэ стаіш ці ў возеры, ну ён можа… у нагу абычна. Гэта нада загаварываць.

**Зап. Аўсейчык А. і Круткін А. у 2010 г. ад Радзюша Васіля Філіпавіча, 1928 г.н. у в. Івесь Глыбоцкага р-на.**

### 1109. Укус вужакі

Во, дачку маю была ўкусіўшы вужака. Толькі пашла ў ягады, ай, лятуць мае рэбяты, а галосюць, а крачаць! Ах, Божачка! Я тут на ўстрэчу вышла: "Што з вамі?" – "Ай, – кажаць, – вот Алеську ўкусіла вужака за палец. Яна ягадзіну брацць, а вужака яе за палец". Ну і што. Сіняя стала рука, во гэтакая во, сама ляжыць чуць жывая, у яе ташната і ўсё на свеце. Ай, нейкая аж пена вот і з губ у ей. Ляжыць, прыцягнулі яны яе чуць жывую, ляжыць саўсём. Як спужалася. Ну, але пабегла, далёка, аж у Нашу Зорку лётала, тут не нашла. Ну загаварыла, Дай Бог ей здароўе, гэтай бабцы. Ну. Прайшло.

І загавор, відзеце, ня роўны. Адна бабка… Ну, паляцела ж, я не знала, дабіцца ж цяжка было, то мне здаецца і ровэр ня круціца, і пяшком ужэ я шыбчэй бы дайшла. Як я жыва асталася, пакуль дабегла туды? Ну яна кажаць: "Дамоў ідзі цішэй, не спяшы. Яна ўжо, – кажаць, – заснула, ей ужо лягчэй стала". А я тут ужо, як лётала там па Будах скрозь, кажуць, там другая загаварываець бабка. І гэта... я ж думаю, ну ў аднэй жа загаварыла, а глаўна – яна відзела якая, добра як відзіш як якая ці шэрая, ці чорная, а яе рыжая, яна ўвідзела якая ўкусіла яе. Гэта дужа важна.

Тады прыляцела, а гэна ж бабка не знала, якая. Далі мне, прывозюць даяркі вечарам, другой вады. Ну я ж думаю, што мала… Ёй стала лягчэй, паспала, стала гаварыць. А то ляжыць і толькі мычыць, круціць галавой, нічога, нічога ня можаць, чуць што – ірвець яе. Бедная, як успомню, аж страшна. Гэткая рука распёршы, во сюды во скрозь пухліна пашла ў бок. Тады: "Ай, нада, ай, памый і папій гэтай другой вады". Як стала ей хужэ, як зрабілася рука, што, як вужака, такімі чорнымі вяроўкамі па ўсім, аж у бок во так. "Мама, я вытрымаць не магу". Як стала ей балець. А гэткая страшная рука стала, а во відзелі, што адпухала, ападала пухліна. Тады гэту, давай я вадой халоднай мыць. Змылі ўсё, змылі, давай тады зноў гэтай самай якая бабка. Назаўтра я ўжо папёрлася ізнова да гэтай бабкі. Яна кажаць: "Ну нічога. Абы змылі ўсё ізнова гэтай вадой – пройдзець, нічога".

Ну ўжо лягчэй, як дала яна мне яшчэ раз. Ну, дзякуй Богу, ж нічога. Але ўсё раўно баліць, казала, пабалівала, доўга…

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Міёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1110. Залатнік і скураныя хваробы

Бывае, што падарвесься. А я тады печку падымаю. Тры разы. Стаў, абняў і падымай яе. Пака залатнік на места не станіць. Дзічкі сольлю адкідалі. Сначала па тры саліны пяцьдзесят кучак наложыш. Тры разы па тры, нада дзевяць раз палажыць. Калі на руках – соль гэту згроб, памазаў, памазаў па руках – і ў печ соль гэту. У агонь укінуць. Дзевяць кучак. А соль з сальніцы. Тры разы па тры ў адну кучачку ўсыпаць – дзевяць. Карней жа ў дзічкі дзевяць.

Яшчэ лішай, бывае, прыкінецца. Тады, свіньням як замяшаеш, падвядзеш: *"Я цябе лішáю, я цябе парашáю"*. А рожу загаварваюць, вадой жа нельзя. І наход я знаю чым вылечыць. З дачкой пайшлі купацца. Як памыліся – у адной наход, і ў другой. Усе зьліліся, балячкі сталі. Дзяўчына быстра адышла. А я – не. Такія раны! А тады людзі падсказалі. Нада свяклу ў бачок, кіпяціць, варыць, каб мяккая стала. І памыць чалавека. І ўсё. Памылася, і ўсё недзе дзелася.

А загаворы я сама знаю. Мяне бабушка мая навучыла. Перадаць нада было ёй. Я была старэйшая. Я пісала, цэлую цетрадку. Што вывучыла, а астатняе цётка забрала. Што запомніла, тое і запомніла.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Грыгаровіч Лідзіі Ягораўны, 1944 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага раёна.**

### 1111. Залатнік

А залатнік… Дык вот прыгаворы я не знаю, а так вот… Бярэш хлеба атразаіш ілі атламаіш ад буханкі. Хлеб эты, кусочак гэты раздзелаіш на тры кусочкі. Вот. Патом бярэш замок, замыкаеш замок і, ключ на месці доўжэн быць. Не, замыкаюць замок. Ну проста замок, штоб дужка закрыта была. Падводзяць к печкі, ну вот як у дзярэўні печка, ставяць ножку на под, яно называецца. І тады гэту адну ножку паставяць, гэта ўсё бярэць хлеб, чэраз гэтую нагу тры разы перакруціць, чэраз адну. Тады втарую ножку бярэш, апяць чэраз гэтую нагу тры разы перакруціць, чэраз адну, тады втарую ножку бярэш, апяць чэраз другую нагу здзелаіш эта, чэраз замочную дужку перадзелаіш эта ўсё, і вот эты хлеб, тры кусочкі, нада з'есці. Станеш к печкі так вот, рукі назад закладзеш, і во адцягіваеш эта, ўродзі бы печку падымаіш і загнетку, падымаіш. А ці гаворыш там што, ці не гаворыш…

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## 1112. Калтун

А калтун гэткі ў галаве, гавораць, бываіць, валасы скручваіць ён. А вось адчаго ён, бог яго знаець. Мне кажэцца, гэта, скарэе ўсево, як эта з медзіцынай гэта звязана. Эта скарэе ўсево, што… ну як во цяпер інсульты гэтыя сцягіваюць чалавека, нервозы гэтыя, па-мойму і гэтыя калтуны. Ну і патом забалеванія. Выстрыгалі яго, выстрыгалі гэтыя валасы. Мне кажэцца, эта ад нерваў.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

**1113.** Каўтуны такія бываюць. У мяне самой быў каўтун, я яго знімала, і бабам знімала. Бо у мяне рука лёгкая. І такі загавор:*“Каўтун, цябе прашу, цябе малю, не садзіся на гэтай галаве, ідзі на мхі, на балоты, дзе вецер ня веіць, дзе сонца ня грэець, дзе петухоў голас не даходзіць. Вот там тваё месца”*.

Ён берыцца, каўтун той, ад растройства, з упуду. Валасы стаўкуцца за ноч. І мне казалі раней, што абразаць нада ў такі дзень, каб пагода была. Гэта каб луна сходзіла на нет, і каб неба было чыстае, бязоблачнае. Каб і галава была чыстая. Я каўтуна не закапвала, і жэншчыны тыя не закапвалі. Баяліся, што можа случыцца нешта. Я падзяржала пад падушкай сколькі – і нічога мне не робіцца. І тады ў печ кінула, спаліла.Трэба ж падзяржаць, каб удаставерыцца, што ўсё упарадку.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Пахомчык Юліі Іванаўны, 1931 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

## 1114. Віхор і калтун

А я насіла [калтун], віхор мне падкруціў. Вот я сена грабіла і віхор закруціў. І так во сена было перада мной, і схваціў гэта сена і чуць не са мной. І я яшчэ тая ж дура была – маладая саўсем. Яшчэ пайшла гэта сена пазбірала і назаўтра захварэла. Круціла мяне, вярцела мяне ўсяк, усе косці вярцела, тады ўжо дажа хадзіла, як сарока скакала. Ляжала, дык як падымуся, так во гэтак хадзіла тады.

Павязлі мяне ў Докшыцы да дзеда. Дзед нада мной пачытаў і сказаў не расчосвацца і запусціць калтун. І я год калтун насіла. Віліся валасы – да галавы не ўторкнеш нічога. Я яго насіла цэлы год. Вошы завадзіліся. Як залілі мне керасінай галаву – уся скура згарэла, патом калтун на галаве, дык я не спала, ну не было болей гэтых… паскудства.

Цераз год ён адрос аж во сюда (паказвае па плечы). Ну ад керасіна быстра воласы растуць. Дык мне керасінай мазалі, дык быстра за год выраслі, аж во сюда ссунуўся. Тады паехала да дзеда зноў – снімаць. Ён жа маліўся ўсё нешта, зняў гэты калтун. Адрэзаў. Ножніцамі адрэзаў, ну і гэта,

даў мне яго дамоў і сказаў: “Спалі ў печы, каб гаршчкоў не было”. І даў мне зёлачак пакурыцца мне пасля гэтага. Я пакурылася і, дзякуй Богу, няма нічога. Так есці не магла нічога. Вот капусту няможна есці было, фасоль, гарох – нічога гэтага. Каб з’ем, дык усё нанава закручваецца.

Па-відзімаму, няможна было тое сена трогаць. Нада было абхадзіць. Я цяпер здалёка гляджу – знаю яго. Гэта нячыстая там сіла. У віхру нячыстая сіла. Эта ўрэдныя людзі выпускаюць віхор гэтый, каб у вантробах не дзяржаць ім. З вантробаў іхніх выходзіць [віхор], чараўнікоў. Вот.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Бароўскай Надзеі Філіпаўны, 1922 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

## 1115. Пярунова стрэлачка

Карову лечылі… Ёсь такія стрэлачкі, кружкі такія, як найдзеш, эта ад перуна. Гэтым брусочкам і націраеш і націраеш тады вімца камушком этым, і тады ўжо памагаець. Абыкнавенныя камушкі. У мяне недзе і быў такі, цяпер дзе ты яго найдзеш. Гладзенькі як яечка, кругленькі такі, доўжанькі, як яечка. Ні ямачкі на ім, гладзенькі, гладзенькі такі. Я яго нашла ў гародзе і віджу, што ён не такі. Камень жа ўсякі бываець, і карабаценькі. А гэты гладзенькі, гладзенькі. Ён небальшэнькі. Ён больш як яйцо, нідзе няма дзірачкі. Такі шэранькі, як карычневы, трошку пляскаценькі. Чуць-чуць. Як у кароўкі вымя забаліць, цёрлі гэтым камушком.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Духовіч Зінаіды Пятроўны, 1927 г.н. (нар. у в. Краснае Сяло) у в. Будзішчы Сененскага р-на.**

## 1116. Грыжа

Яшчэ загавор знаю ад грыжы. Папала я ў бальніцу, а там ваеннага жонка прывезла мальчыка, грыжу выразаць. Здзелалі яму аперацыю, зажыло, яшчэ атрастае. Здзелалі зноў – атрастае. І падходзіць да яе ў бальніцы бабка і гаворыць: “Давай я загавару. Не будуць мальчыка рэзаць”. Як загаварыла, мальчык стаў харошы. А я, калі яна мальчыку загаварвала, на другой краваці ляжала і слухала. І наўчылася.

Тожа перахрысціцца тры раза, а патом: “*Усякім разам, добрым часам хадзіла грызь па мхах, па балотах, не мела грызь акрамя Сашавай крові на прапітаньне. А ў мяне ёсць жалезныя зубы, я цябе з’ем-згрызу, я цябе з’ем-згрызу, я цябе з’ем-згрызу*”. Тры разы перахрысціцца зноў, патом, дзе сучок на табурэтцы, на сцяне ілі дзе, плюнуць тры разы і ножыкам. І тады нада прагаварыць: “*Святая Прачыстая, Бог у помач, і я дапамогу*”. Тры разы. К загаворам я цяпер склонна. Ёсць штосьці ад Бога. Як смяюцца здалі, кажуць: “Во, бабка вылечыла! Перахрысцілась і плюнула!” А як у мяне дочку вылечылі, я цяпер веру. І вы, дзеткі, усяму верце. Ёсьць Бог на

свеце, ёсьць усё. Пусць яно як, мы на неба на лезлі, Бога не бачылі, але ж Бог ёсць.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шыпіла У., Протас М., Захарэвіч А. у 2007 г. ад Літвін Марыі Іванаўны, 1932 г. н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

### 1117. Укус змяі

У бальніцы толькі сэрца лечаць. Мяне была змяя укусіла. А там была медсястра… І вот у мяне рвоты тады сталі, язык, кажацца, у роце там не памяшчаўся, – так мне плоха. Адна дзяжурыла ноччы. Моця такая, не знаю ці жыва яна. Яна гаварыць “я шчас” і пабегла. Пабегла а там была бабка і прынесла мне вады медсестра. Да. Я вады тэй выпіла, так пацёрлась і сразу успакоілась, успакоілась і заснула. А нага была такая, як змяя ўкусіла, такая ўсё распухшы. Было страх.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Таранавай Ганны Ерамееўны, 1926 г.н. у в. Вялікая Любшчына Віцебскага р-на.**

### 1118. Курыная слепата

У мяне была з вайны курыная сьлепата. Можа, што недаеданьне было, эта ж з вайны нічога не было. Як тока сонца перад закатам, так усё – закрываецца зрэніе, нічога не відзіш. А ўтрам устаеш – абратна нармальна. Ну, глазы мяняюцца, глазы такія дзелаюцца, не красныя прама, а як жаўтаватыя. А лячылі… Лячылі страшна. Варону жывую разрывалі папалам, тады ў кіпяток кідалі. Пер’е эта абсмальвалі, эта абдзіралі, абсмальвалі і елі варон. А ад таго, ці не ад таго, я не знаю. Месяцы паўтары я такая была.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

### 1119. Прыпадак

Былі такія бабкі, што памагалі. Я сама ад пуду ваду загаворваю, і дажа помач ёсць. Дажа я магу загаварваць ад хваробы пілепсія ці прыпадак, як раней звалі. Па-навучнаму – пілепсія, а раней казалі “прыпадак”. Пілепсія, а па-старыннаму называецца “дзецкая хвароба”. Гэта прыпадак. Прыпадак бывае ад іспуга.

У мяне ў самой сярэдняя дочка была, яна зараз у Докшыцах жыве... Дзве нядзелі, а яна ўжо нейкі іспуг панімаіць. Мама кажа: “Дочка, яна ў цябе спужаная”. Аказалася, мой старычок напіўся і паганяў бацькоў. Нехта сказаў, што плоха жывецца тваей жонцы, твая матка такая-сякая... Кросны ткалі ўвечары, яна лампу адбірала. Ну во бабка прыбегла і сказала гэта майму мужыку. Ну ён ідзе – будзе ўжо матку біць, а сам п’яны – на ножках не стаіць. А я ўжо цяжарная была. Я ўступацца: ён матку б’ець, значыцца будзе і мяне біць, матка ж раднейшая. Я рукамі цап яго, матка ходу з хаты,

а тут бацька прыйшоў. Ён і бацьку будзе біць! Я яго трымаць, а ён мяне піхнуў аб стол, я спіной, і рукі яго чорныя засталіся.

Тады і бальная гэта дзевачка нарадзілася. Дзе мы не вазілі, нідзе помачы няма. Тады сказалі: "Вязіце туды". Туды – за 8 кілометраў, вёска Бутава Вушацкі раён. А муж усё не верыў: "Куды я цябе буду вазіць? Ты ўгледзела, седзячы, у рабёнка. Ты выдумляеш сваю хваробу!" А дзевачка што? Малыя спяць і спяць, як снапок, а яна не спіць. Месяц не спіць, а ўдзень жа павінна спаць і ноччу. Вочкі неяк так закруціць... Тут ужо і дурному панятна... Ну павезлі ў апошняе месца, дзецкае выганяць.

А у яе пеначка цячэць, як пакупаю, спіначка чорненькая, як хто чарніла разліў. Не спіць ні дзень, ні ноч. Я насілася з ёй да паўгодзіка. Во і павязлі зімой, снег каню па пуза, мой клянець мяне, але давёз. Прыехалі, а там цётка мая радная, расспавялі рабёначка, бабка пашаптала.

У Бутава. Цётка ўжо бутылку на стол пляменьнічку, а я ад дзяўчыначкі не адхаджу. І вот цётка пагаварыла і сказала мне: "Вучыся". І я навучылася. Яна загаварыла раз, затым на ат'ездзіны другі раз. Едзім дамоў – дзіцё спіць, прыехалі, я ўжо ўсю работку паробіла – дзіцё спіць. Тады я кажу: "Ну, ці відзіш, відун? Нада верыць усяму на свеце". А тая цётка мне сказала: "Яна нарадзілася ў цябе з хваробай". Я сразу дагадалася: раз ён мяне піхнуў, я спужалася, а яна ўжо заразілася ўсярэдзіне. А гэта жэншчынка сказала: "Два гады не будзе, а патом яшчэ раз акажыцца".

Пасадзіла на стол дзяўчынку і трымаю, а яна закруцілася, як вужака, і я не ўтрымала. Як звалілася, так і ўсё. Ужо не было нічога да двух гадоў, як яна сказала, так і збылося. Сказала ж, што праз два гады акажыцца...

Я магла загаворваць... Людзям у дзярэўні, двум рабяткам дапамагла. Многа слоў. Адно і тое слова нада, каб не збіцца, 24 раза сказаць. Яно небальшэнькае. "*Атнімаецца Каціна балезнь, маладзенькае цельца век да веку, каб не было*". Чатыры сказала па шэсць і за кожным разам перахрысціся.

А другую я ад прыпадку знаю, калі хочаце – прагавару. Нада тры разы перахрысціцца над чалавекам ілі ваду. Палажыць. Над яго груддзю загаварываць, патом хукнуць, каб па ўсім прайшло, і папляваць тры разы на падлогу. Дык вось, вугалёк як укінеш у вадзічку, загаварваеш (ваду гэтую даюць піць і купаюць у тэй вадзе): "*Угасіўся агонь у гэтай вадзе, угасі, Госпадзі Божа, худую балезнь у гэтай Каці, гэтай Каці, рабе Божай. Святая Мацерь Багародзіца укрывала свайго сыночка сваёй харонай. Укрый, Госпадзі Божа, худую балезнь у гэтай Каці, у гэтай Каці, рабе Божай. Ад падужнай, ад дзяружнай, ад балючай, ад калючай, ад паўзучай, ад лятучай, ад малочніку, ад прыпадку, ад усіх балезней укрый, Госпадзі Божа, худую балезнь у гэтай Каці, у гэтай Каці, рабе Божай*". І зноў

перахрысціцца. І так тры разы. Я як над сваёй Кацяй загаварывала, так вам і прагаварыла.

Гэта ўжо ад другой бабці навучылася. У Вялічкаўцах. Іх цяпер няма. Еслі адсюда ехаць, то Вялічкаўцы, а пасля Бутава будзе. Звалі яе Анюта, а фамілію я не знаю. Старушка. Я ёй чулочкі купіла за тое, што яна мяне навучыла. Дык гэта вот взросламу станіць плоха, спужаўся ён ці расстроіўся, яго зразу б'ець прыпадак. Ходзіць, ходзіць чалавек (я відзела на людзях, як гэта бывае), потым – брык – заваліцца, ляжыць, пена, сінееець. А праходзіць гэта ўсё, устаець – і зноў нармальны чалавек. Гэты загавор для бальшых, а той для маленькіх. Дык вось, тая бабка памёрла, засталася толькі я. Казалі, іх двое па нашым окрузе – мужык нейкі з Зачысця знаў, але ён даўно памёр, і бабка.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У., Протас М., Захарэвіч А. у 2007 г. ад Літвін Марыі Іванаўны, 1932 г.н. у в. Губіна Лепельскага р-на.**

### 1120. Палепцыя і іншыя хваробы

А гэта палепцыя – называецца так па ўрачам – гэта з упуду, калі вот матка спужаецца, як носіць. І заікаецца, тожа ад упуду бываець. А тады водзіш к бабкам ад заіканьня, і паможыць. З упуду і паміраюць людзі. Вот Ігар у варміі служыў, у Аўганістане. Гэта, мусіць, гадоў таму з дзесяць будзець, як ён с арміі прышоў. І ўсё ў Мазулі прыяджаў, і ноччу так ускакваець і рукамі за сьцяну хватаўся. І такі худы прышоў с арміі. І тады звазілі яго ў Башоўку, загаварылі яго, выміралі, і палепшыла. І як рабяты спужаюцца тожэ, так звозяць, загавораць, і калі падарвецца хто. Так падарвецца, жывот будзець балець, ці што. Гаршчок на пупе ставілі. Гаршок паставюць, скубуткі такія разныя льняныя былі, тады ставілі на пупе.

І цяпер жа Ленка ў сельсавеце бугалцерам робіла, і к ей прыехаў міліцыянер, і яна вазіла к мамке Васільковай. А ў яго рука расперлася, там рожа была ці што, загаварываць. І рады не было, а як загаварыла, усё сняло.

Дык мне самому было, зубы данялі, рады нет. Дак я на трактар сеў і тады туды паехаў к ёй. Прышоў у хату, кажу: “Манька, загавары ты мне, каб зубы не балелі”. Яна троху пастаяла, падумала, а тады пайшла ў трысцен, прыносіць мне стакан самагонкі. Ну я выпіў, сядзім, разгаварываем. Яна пашла і другі прынясла, ну і ўсё, я прыехаў назад. І з таго мне зубы не балелі. І патом, што былі тут яны, во толькі два асталася, астальныя яны павыламаваліся, а гэтых пярэдніх чатыры так проста з карнямі, дзясны агаліліся. Павыламываліся, а не балелі. Вот цябе і загавор. Памагло.

А цяпер сьпід, а цяпер можа гэты грып, як курыны. Кажуць, лекарства нет. Гэта значыць, даказана так – адна хвароба дамініруець, значыць, у прыродзе. І іх есьлі пагашаеш, заглушаеш, начынаецца другая. І гэтым

канца нет, гэтаму грыпу. Вірус гэты – самы непабядзімы. Гэта адзін і той гэты вірус, і ён з самага начала землядзелія, ён Богам даны.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Бугая Васіля Тарасавіча, 1926 г.н. і Анастасіі Якаўлеўны, 1935 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 1121. Пілепсія

Меня самую с васьмым гаду месяц біла пілепсія. Пака не нашлі, у Скабах быў такі старычок… А вот забыла, ня помню, як яго звалі. І бацька з'ездзіў, прывёз вады, сказаў: "Еслі на смерць, значыць памрэць, еслі на жывое, значыць выжывець". Прывязлі, плачуць, я такая, Богам наказана, жалеюць, не знаюць, даваць мне эту ваду, мыць у этай вадзе – ня мыць. Сначала хацелі ня мыць, выліць эту ваду, а тады ж ўсё роўна: "А, дык еслі на смерць, дык памрэць". І сягоння жыву. І памылі мяне. І праўда – у добры час казаць, у худы памаўчаць. Госпадзі, прасці. Па сённяшні дзень у мяне не вазврашчалася эта балезнь.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

### 1122. Эпілепсія

Як у чалавека бывае эпілепсія, казалі, што нада ісці на перакростак і туды нешта палажыць ці закапаць, ці нож ці што. Хто нойдзець, на таго пярэйдзець хвароба. Я помню, у майго дваюраднага брата, ён 1943 года нараджэння, была эпілепсія ў маленькага. І ў Пасынках была жэншчына, яна ўмела гэту хваробу адвадзіць. І яна яго пакупала, не знаю толькі ў чым. І там мяжа была такая высокая, у агародзе, і пракапалі там тунэль. І яго прасаджвалі праз гэты тунэль, тры разы нада было. І прасаджывалі злева направа. Нада было пасадзіць туды і тры разы здзелаць нада. І калі заснець дзіцёнак і праснецца, то будзе здаровым, а калі засне і атойдзецца, не прачнецца, то застанецца хворым.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Касцянка Аліны Сямёнаўны, 1933 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага р-на.**

### 1123. Падучая

Мама расказавала, што ў нас нехта быў захварэў, дык нада было з трох магілак пясок і тады яго ўсыпаць у ваду і гэту ваду нагрэць. Ну і тады ўжо гэтага рабёнка, як падучая, давалі. Калі ён станіць розавы ад гэтай вады, дык будзіць жыць, а калі станіць чорная цела, дык і памрэць. Мама казала, што хадзіў ейны бацька ў Лапленае, і ў Прыпернае, і ў Навасёлкі на магільнікі. І да ўсходу сонца. Дык казала, што стаў чырвоны той рабёнак і жыў.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

### 1124. Зубны боль, барадаўкі і ўпуд

А як зубы лячылі… Неяк помню, бярэзіны бралі сучок, на тапор, палілі яе, і во так во бярэзінкі гэтай сучок дыміцца, на тапор во так во прыжамалі, і там такое выдзялялася выдзяленне і тады гэта закладалі. Як мне балелі, дык я знаю, што я дзелала, і так і так, а цяпер, цяпер ідуць к врачу.

Барадаўкі, хто яго ведаець, можа чаго не хватала арганізму, ці што. Во яшчэ такія, цяпер няма, ня віджу я іх, казлы прыгаюць па полю, такія зялёненькіі, дык вот зловіш гэтага казелка, ён такую мазь пускаець на гэтую барадавачку. Садзіш і гаворыш: *"Казі-казі, дай мазі, а я табе дзічку і па мордзе пічку"*. Во гэтак прагаварваеш і жджош, каб ён пусціў мазь такую. Ён на гэту дзічачку пускаець мазь такую. Ну алі я дзелала і так, можа б памагло, но ня скора.

Ну, калі спужалі, дык гэта раней жа былі старушкі, вадзілі, яны ваду давалі, а цяпер ужо нет гэтага. Я знаю, у меня ўнук быў спужаўся, дык мне звоняць. Я ім тады: пчолы мёртвыя, іх узяць, на газеценку, падсушыць, і яго здзець, гэтага рабёнка, да гала і паставіць над гэтым дымком і пчолак закураць бумажынкай, і каб дымок ён хваціў, дажы не ікнуў, і адзежачку ягонаю. Дык ад пуду сама харашо, гэта я знаю, дажа многім давала.

Калі чалавека сурочаць, харашо замочак зажаць і цераз яго тры разы вадзічкі праліць, спырснуць сурочнага акрапіць, і ўсё.

**Зап. Захарэвіч А., Мядзведзева А., Прахарэнка Я. у 2007 г. ад Хаткевіч Ганны Канстанцінаўны, 1930 г.н. у в. Бор Лепельскага р-на**.

### 1125. На ростанях

На крыжавую дарогу, як палечысься, у мяне рука балела восем месяцаў, пальцам не магла крануць, дык лячыла. Баба мяне лячыла, казала: "Абмыйся гэтай вадзічкай і ў дванаццаць часоў аднясі яе на скрыжаванне. Цераз плячо перакінь ваду, і пасудзіну". І пашла. Трохі палутшэла рука.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

### 1126. Квадры месяца, бяздзетнасць і зубны боль

Вот кажуць, калі луна, старая луна сойдзе, а маладая не народзіцца яшчэ. І калі ў гэтай мяжы народзіцца чалавек, то ён будзе бяздзетным. А як ў малады месяц народзіцца, тады добра будзе.

А як першы раз маладзічок увідзіш, зубы загаварвалі. Мне зубы балелі, мяне вучылі, але не памагло: *"Маладзік, маладзік, твой рог залаты, ці быў ты на тым свеце, ці відзіў ты мерцвякоў, ці баляць у іх зубы? - "Не". Каб не балелі і мае"*. Вось такі загавор.

А як балелі ў мяне зубы, дык што мне толькі не гаварылі, то і дзелала. Вот бывала, ідзеш па дарозе, ездзілі і на калёсах, дарогі такія, ляжыць

камень у каляіне. І вот камень вынімаеш і тады па зубам, гладзіш так па зубам і кажаш: *"Камень, вывяла я цябе з няволі, каб не балелі мае зубы ніколі"*. Але ўсё-роўна балелі.

Ёсць пятны на месяцы, гэта, кажуць, брат брата на вілах нясе, калі глядзіш на луну. Нельзя глядзець на луну ў гэту мінуту, калі пятны гэтыя, а то можа ў галаве памішацца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 1127. Крактухі

Крактухі, я вам шчас скажу, як выганяюць. Вот када купаеш малога дзіця, нада ўзяць хлеба кусочак свежынькага, мякіша, скатаць яго. Я так заўсёды купала дзяцей, во і ўнучку маю, Кацьку. Пакупаю яе, палаценца так, выцяру, а тады па плечкам так хлебам во так во катаю, катаю так усе плечкі, а тады на свет. І яно не раздзіраецца – поўна валасоў.

Када бярэменная ходзіць жанчына. Вот каты каля ног, і паміж ног каты, гэта ж дзярэўня, і сабака можа праскочыць. Ад гэтага. І малыя тады не спяць, круцяцца, крэкчуць гэтыя малыя. І нада выкатываць. Во ў мяне радзіўся праўнук, і я ім тожа сказала, яна выкатывала. Крэкча, а я кажу: "Крактухі, выкатывай хлебам", – і яна выкатвала. А той хлеб, ну, выкінуць некуды. Курам. На вуліцу не выкідваюць, ну курам, каму-нібудзь.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Кобы Ніны Кузьмінічны, 1932 г.н. у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

## 1128. Каўтун

Каўтун. Ёсць такая хвароба. Некатарыя яго адразаюць, а адразаць нільзя. Яго нільзя адразаць, яго лечыць нада. Але ён не праходзіць, галава ад яго баліць. Некатарыя бабкі лечуць. Некатарыя і паміраюць з каўтунамі, так валасы і круцяцца. Вот атойдзе, кажуць. Вот з Баяр баба ездзіла, лечыла, і, казала, атышоў. Плітка такая, каўтун.

Каўтун, кажуць, з спужання. Еслі чалавек улякнецца сільна. Гэта мне гаварыла жанчына, што сільна спужалася, Ева. Еслі (каўтун) палюбе, то ён атойдзе, а еслі не палюбе – так і памрэ чалавек. Ён мучаецца, ён плоха дзелаіць чалавеку, галава баліць, бяссонніца. Еслі палюбіць лекі, якая жэншчына, лечуць жа жанчыны. Еслі на дух трапе, палеча, то ён сходжа. Схожа, кажа, і тоненька на валасочку – і ён атойдзе. І ўсё харашо. А другі наабарот, і памрэ чалавек з каўтуном. А яшчэ наабарот чалавеку ня пойдзе то лячэнне. Ну хто яго знае.

Ну, лечыць нада очэнь харошаму чалавеку, каб душа была харошая. Як харошая душа, ён леча – і чалавеку памагае. А еслі чалавек такі – так і леча.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Кобы Ніны Кузьмінічны, 1932 г.н., у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

**1129.** Каўтун бываіць, я чула. Я як была дзяўчынёхай яшчэ, мама памёрла, а з сястрой я жыла. А ў нас саседка была, і яе валасы звіліся так, вот як вайлак. ну, валасы былі завітыя на ўсёй галаве. І яна хадзіла, там дзярэўня бліжняя была, кіламетраў пяць. Хадзіла гэта бабка, у яе галава балела. Усё яна такая не ў сябе была. Ну, яна і хадзіла гэты каўтун загаварваць. І тая яе абстрыгла была. Яна пэўна разоў дзесяць хадзіла к тэй бабе, і тая яе абстрыгла. Ну, па праўдзе сказаць, яна нармальная, і ўсё, дзве дачкі гадавала, мужык яе кінуў, як забалела. А патом яна стала сама не сабой. Ну, прайшло пасля каўтуна пэўна гадоў дзесяць. І яна стала не ў сябе. Не то што яна дурная, яна не знала, дзе нахадзілася. Прыходзіць у хату, і не то, што яна крала, але можыць залезці ў шкаф, узяць есці што. Во ў такім смысле. Стала сама не ў сябе.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

**1130.** Каўтун ад упуду бывае. У мяне была, прывазілі зімой, калдун быў у дзевачкі дванаццаці лет. І вот, гаворыць, расчэшам воласы, а к утру ўсё саўецца. Прывазілі мне з Віцебска два раза. Ну, эта я ўжо здзелаю. Там аднясу… Асобенна летам очэнь харашо, а зімой прыходзіцца лункі разрубаць у Дзвіне. Мне нада, штоб на іісточную ваду ўсё гэта пусціць.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Васечкінай Ніны Пракоф’еўны, 1931 г.н. у п. Сураж Віцебскага р-на.**

### 1131. Дзічы

Ай, у мяне было. Мы ж с аднэй вёскі, сталі дружыць, ну а тут на руцэ, няхай Бог бароніць, стыдна даць танцаваць руку. Ай, ну гэтак, няхай Бог бароніць. На танцах, тут вечарыны, а я во неяк падняла тую ленту. Бедната ж была, а каса была вялікая, аж дагэтуль. Заплясці на вечарыну, німа чым звізаць. Дык я можа ленту падніла каля гасцінца каля гэтага. Падніла, развязала, вузлоў навязана на гэтай ленце было. І гэта, падняла тую ленту, а после мне і казалі, што падняла яе, і столькі дзічоў, такія селі. І што рабіць?

Гэтым папялком, гэтым ад папіросы. Я тут на пасце пасу, а ён жа прышоў на сяло, вечарыны, кажыць: “Кідай раней ужо кароў пасціць”. Можа ўжо і калхозы былі. Ну і тады курыў ён, і кажыць: “Раскалупай і папялком гэтым ад папіросы”. Дык я тады гэтым папялком, тады вуксусам яшчэ гэтым гэтак накалупала. Як разгарулася гэта рука, няхай Бог бароніць, алі зніклі, зніклі тады гэтак.

Яшчэ ніткай перавязываюць, суровай, як у старыну, прастой, прастой ніткай перавязываюць іх, і тады закопываюць на крыжавой дарозе. Тожа гэта памагаіць. Тады чыстацелам мажуць сокам.

А тады пад пятой, пад нагой такія раны гэткія. І тады, кажуць, у каровы кал свежы, як карова накакаіць. Ну гэта тожа былі дзічы гэткія, барадаўкі такія гэткія, ступіць неяк было гэтак. І пасаветавалі, што толька карова як пакакаіць, дык тады ў цёплы кал стаўляць нагой. Разы са тры паставіла, і зніклі яны тады, а так ступіць неяк было гэтак. Тады пашчэплюцца, тут пашчэпліваюцца, вобуві ш не было ніякай. Пашчэпяцца тады во пальцы пад нізом, німа як ступіць. Дык тады свечкай васковай закапывалі гэтак. Гэта ўжо не было чым, вазіліна не было памазаць ні чым. Ну а тады свечкай гэтай васковай так пакапаіш ужо. А гэта паперавязываіш, трапачкай перавяжыш тады. Не было чым мазаць, Божа мой мілы. Гэтак страдалі ўсяк.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Чэчуковіч Раісы Іванаўны, 1936 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

**1132.** Ну, толькі во, я табе казала, прыйшла адна з Кабака і падняла лентачку ўсю у вузлах. І тады, пакуль прыйшла, і зубамі, і рукамі гэту лентачку ўсе вузлы паразвязвала. І прыйшла дамоў. Памыла, паўцюжыла, а на заўтра устаець, а ейныя рукі і ногі ўсе ў дзічках.

Падымаць нельга. Ага. Ну ляжыць іголка там ці што – гэта могуць вось там хто-небудзь катушку нітак кінуць там іголку, там булаўку. Гэтага нічога не падымаць. Ляжыць – хай ляжыць. Во і ёй нехта падкінуў, а яна тады і казала, што аж курыцы клюнуць не было месца на руках і на нагах.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

**1133.** Дзічкі на руках, ад іх тожа памагаюць. Во, у нашых было, у Любы, ці ў Валюшы. Нада яблыня-лясоўка, па гэтай дзічке пацерэць гэтым яблыкам. Ну, разрэзаць, што б сокам харашо пацерэць, і яблык закапаць. Вось так зрабілі, і паменьшала, і не стала дзічак. На носе ў яе былі, ці дзе. Ну, канешне, усё дзелаецца на ўсход ветаха. Што б прапала, і ваду лучшэ браць і дзелаць на ўсход ветаха.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г.н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

### 1134. П'янства

Па праўдзе вам скажу. У мяне чатыры сыны: тры харошых, а адзін п'янчуга. Мне сказалі ехаць за Бешанковічы, там ёсць дзярэўня, чэраз рэч-

ку нада пераязджаць, там паром ёсць. Ну, прыехаў мой сын з Якуціі, я кажу: “Завязём, сын, там бабка і ваду дасць, загаварвае ад алкаголю”. Не сказаць, што ён алкаголік, але любіць выпіць. Ну, паехалі мы туды. Яна, кажуць, грошы не бярэць, так што-небудзь дасі і ўсё. Ну, заехалі мы туды, гэта бабка каля ракі жывець. Дык яна давала ваду, загаварвала, і мусіць чатыры свечкі паліла. І нічога не памагло, гэта бабка – шарлатанка. І ўсё, як піў, так і п’ець. Во.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

### 1135. Сабака лечыць

Ну, валаснік – гэта нарываець палец ці там нага, і там… О! Ён тады ўжо, аж адны косці астануца. Гэдак ужо і старухі ўжо вылівалі валаснік, валасы вылізалі. Вот. Гэта даўней было. А цяпер жэ медыцына лечыць. А вось ад упуду медыцына не лечыць, не-а. Ад упуду ваду піць, гэту во ваду...

Вот сабаку, мы ўсё гэдак рабілі, сабаку даём вады, сабака хватаіць і гэты ягоны слюнь цячэць сюды, і гэтам паі – шчас харош будзець. І рабёнка паіць. Абы ён спужаўся, так сразу вады, каб сабака гэдак слюнек. Ён, сабака, хватаець і ўсё ляціць назад. Ну вот. Дасі папіць і харош рабёнак. Эта даўней было.

У нас во настаўніца во тут во жыла. Настаўніца жыла, у яе ў дзяўчыны ці ўнука болькі былі. Яна і туды і сюды, не знала што рабіць. У яе дачка была у хірургічэскай медсястрой. Ну так яйго болечкі спанавалі! Ніякай рады не магла даць. Яна прышла да нас, я кажу: “Грыгораўна, давай мы яго вымажым жырам і сабаку падвядзём”. Вот мы як. Сабака гэтат вычыхліў этыя болечкі аж да крыві. Вылізаў ён яго. За тры дні – ўсё.

Так во нявестка, во нявестка ўжо бальшая, працёрла нагу. Што рабіць? Шчас памазала жырам, падышла да сабаку, сабака залізаў і ўсё. Самае лепшае лекарства. Лекарства, сабака і кот, але кот ні так ліжаць, а сабака, ну як ліжаць, так аж да крыві. І сейчас, і харош. Тады яна кажаць: “Мае даражэнькія, маўчыце, даццэ не скажыце, што мы гэдак лечылі”. Яна граматная, а мы дурныя. Ай-яй-яй! Сабака гэтат, ну так вычэхліў аж да крыві.

Яшчэ дзічы, дык конскім хвастом перэвязывалі. Конскім хвастом перацягвалі, ну адцягвалі, і тады ссыхаў ён. Ну, валасінай. У мяне ў мальца было у гэнага, во так во – усе рукі ў дзічах. Так яму тут бабка загаварывала, на гарох, скалькі дзічоў – столькі на гарох, і тады ў печ укінула, каб ня чуць, як яны страляць будуць, і сыйшло. Ну нешта ж яна яму шаптала.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Авецька Людзвігі Лявонаўны, 1935 г. н. і Шышковіча Антона Браніслававіча, 1941 г. н. у в. Васількова Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1136. Ветэрынарыя

Кажуць, як у каровы вымя абрусеіць, тады нада мужчынскімі трусамі ці штанамі выціраць гэта вымя. А ў мяне тут сарай з аднаго боку стаяў, бальшы і длінны сарай. І карова стаяла. І я кажу на свайго хазяіна: “Віцька, ай, – кажу, – людзі так і так казалі, здзелай!” Ну, ён і стаіць, дзе сена. А тут кароў гоняць. І здзеў трусы і стаіць без трусоў. А яму ж выйці ніяк, крычыць: “Давай трусы!”, і я кінула яму гэтыя трусы.

А як к быку карову вядуць, тады нада, вот, дзе цыбуля ў плётцы павязана, ну алі тады ж няма гэтаё цыбулі. Яе ў чысты чацвер знімаеш. І тады гэтай вяровачкай, калі да быка вядуць, абмотвалі каля рог.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

# ЖЫВЫЯ І ПАМЕРЛЫЯ

## 1137. Здарэнне на пахаванні

Было запрэшчона хараніць нехрышчоных, тых, хто павесіўся, утапіўся. А ўжо када стала такое безбож’е, то харанілі ўсех. А ў нас быў адзін хлопец, ён жа павесіўся. А яго з усімі пахаранілі. Мы былі вазмушчэны этым, ну неўдобна как-та, знакомыя людзі. А цяпер не спрашваюць і хароняць, дзе хто хоча.

Собственна гавара, я вам пра сваё раскажу, а не пра чыё-небудзь. Вот када ў нас случылася бяда з Аляксеем, і када бацюшка адпяваў Аляксея, яго жонка з дзецьмі прыехала. Када з ім случылася, яна адказалася яго хараніць. Сказала: “Вязіце, куды хочаце, я яго хараніць ня буду”. Сказала: “Я не магу, што ў мяне нет састаянія, а ўсё гэта радзіцелям. Дзевайце куды хочаце, вязіце куды хочаце”. Прыехала яна ўсё раўно на похараны сюда. І када бацюшка адпеваў, ён сказаў: “Ўсе, каторыя чужыя, а толькі родственнікі астаньцесь. А этых папрашу высці”. Вот. І асталіся толька дзеці еёныя, ну і мы, наша тут сям’я. Ды када бацюшка начаў атпеваць, от толька он начаў атпеваць, буквальна, вот толька може мінута прашла – і яна сразу ка-а-к гррахнецца назад! Жонка майго сына. І ён гаварыць: “Эта, – гаварыць, – дзьявал. Эта душа нечыстая ў гэтага чалавека”. І яе тут узялі і вынеслі на двор. Ён гаворыць: “Ведзь свеча і ладан – этага бес не можаць перанасіць”. Вот паэтаму не зато, што жаль ей ілі што, а проста бес у яе ўсяліўся.

А ана, факцічаскі, некрышчоная. І дзеці ў яе ўсе нехрышчоныя. А нехрышчоны чалавек, как вам сказаць, аб’ясняецца цем, што ён нігдзе ня чысліцца. Он проста как вот, дапусцім, кацёнак. Хаця, как Хрыстос гаварыць: “Еслі ідзець сто кошак, і хаця б адну яе накарміць с этых ста, то ты ўжо дар прынёс Госпаду”. Эта как брацья меньшыя. Іх тожа абіжаць нельзя. Вот такія дзялы. Усякага на свеці. І када адпеваў бацюшка, ён так сказаў. “Наверна, – гаварыць, – чалавек гэты годзен Богу, настолька мне лёгка яго адпеваць была, што, – гаварыць, – душа пела. Я адпеваю, ды проста лікую. Не ўсегда эта ёсць так. Бывае, што я не магу, воздуха я не магу схваціць, настолька становіцца цяжка, када адпеваеш чалавека. Можа какой грэх сдзелаў жа бальшы”. Хаця ўсе мы грэшныя.

**Зап. Шаўчэнка Я. у 2008 г. ад Сарокінай Наталлі Захараўны, 1930 г.н. у в. Варонічы Полацкага р-на.**

## 1138. Пахаванне нехрышчонай і нячыстая сіла

Страшна гаварыць, страшна ўспамінаць. У нас памёрла дзяўчына, дзевятнаццаць гадоў. Но яна не хварэла, у Мінску работала ў яе, прыехала, дранікаў, гаварылі, паела, і тады была заварот кішок. Пасле аперацыі яна ўжо хадзіла, павалілася, памёрла.

А маці была ў тое врэмя камуністам. Яна ня верыла ў Бога, атэіст была. “Што мне Бог гэты нарабіў, што мне Бог даў?” – і давай іконы ў хаце зрываць і вынасіць на двор, і кідала іх там на двор, гэтыя іконы. І не дала, не пасвенцілі ні магілачку, ні дамаўе не пасвенцілі, ні дала ні крэсцік, ні абразік у рукі – нічэво, іконку ў рукі не дала.

Павязлі хаваць, у яму сталі апускаць, як дала нейкая сіла з ямы, узарвала крышку, яна ж у гэтым у дамаўі, ўзарвала крышку, яна ж прыбіта там, крышка стала аж з ямы відаць. Усе людзі, мы ўсе напугаліся, адскочылі, а матка толька рукі ўверх, нейкая сіла як талкнула яе, рукі ўверх. Ай, толькі гвалт і бразь аб зямлю спіной, вот так плячыма. Ну, дажы ж паднялі яе. Бацька ўскочыў у магілу. Палажылі ж, яе выкінула з дамаў’я было, палажылі яе ўсё ж забілі, пахавалі. Ну закапалі ж яму ўсё.

У скорасці памёрла маці. Гэта ўжо жанчына памёрла. Ну, праз гадоў можа пяць якіх. Ну і хадзіла па вёсцы, усім здавалася, усе відзелі, многа хто відзеў. Хадзіла, падглядывала пад вокны, хто гляніць – не завешана акно – яна стаіць, глядзіць у хату. Пасля пахарон астаўся сын, ён сам каля Мінска недзе жыў. Астаўся сын з бацькам ужо пабыць. Пашоў у хлеў даваць карове. У хлеве спускаецца чорны шар на вяроўцы. Тады, як цюльпан стаў, і раскрываецца як цюльпан, выходзіць яна з гэтага шара. Ён з гэтага і не даў карове нічога і паехаў аж у Мінск дамоў, і ўсё. І ўсё врэмя хадзіла і здавалася, відна, да сарака дней не прымала яе зямля. І на тым свеце не прынялі.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Кароцік Леаніды Уладзіміраўны, 1950 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

## 1139. Пахаванне

Калі хто паміраў, ну, тады рабілі гроб. З любога дзерава – разьніцы няма. Стружкі клалі ў падушку для нябожчыка, туды ж клалі і яловае галле або насморганнае з венікаў лісьце, а гроб усьцілалі белай тканінай.

Але ж пасьля пахарон дух пакойніка мог з’явіцца на трэці дзень, у дванаццаць часоў ночы. Ён тады ходзіць па даму і стукае ў дзьверы. А калі не хочаш, каб ён прыходзіў, трэба быдо прыгаворваць: “Адару цабе серабром, а ты мяне адары дабром”.

Калі пакойніка выносілі, то яго абсыпалі зярном. Пасля пахарон спраўлялі памінкі. На памінкі варылі куццю з любых круп. Усе павінны былі ўзяць яе па тры разы. Запрашалі ўсіх родзічаў і бліжайшых суседзяў і трох чалавек, якія капалі яму. Пасля спраўлялі дзевяціны, шасціны. Тыя хто пабагачэ, тыя спраўлялі і год.

**Зап. экспедыцыя ПДУ у 1996 г. ад Канапелькі Валянціны Карапаўны, 1927 г.н. у в. Жалезкі Бешанковіцкага р-на.**

### 1140. На пахаванні

Каб хутчэй памёр, чыталі Евангельле, абносілі сьвечкай. Пасля сьмерці зеркала завешвалі, каб не стала жоўтым. Вымывалі суседзі, а ваду вылівалі ў месца, дзе ніхто не ходзіць. Гаварылі, гэтую ваду трэба піць ад прыпадкаў. У гроб нельга класьці нічога лішняга, толькі малітвы, венчык і свечка, насатка ў рукі, каб падгатовіць да Суда Божага. Варылі поліўку, камы, журыху, куцьцю, як паміналі. У магілу трэба спускаць акуратна, не выпіўшы, не на вяроўках, а на мацерыі, а мацэрыю складвалі крыжам і пакідалі на магіле.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Студзянковай Вольгі Данілаўны, 1917 г.н. у в. Мамолі Расонскага р-на.**

### 1141. Як памрэ чалавек

Як памрэ чалавек, мыў пакойніка хоць хто, толькі не сваі. Звязвалі рукі, ногі. Пасля, ніткі ў труну клалі. Калі баляць рукі, гэту нітку бяруць сабе. Тады ўжо павяжуць. На шыю пакойніку вешалі крэст. А ў труну кладуць шапку. Падушка нада, каб была з сена, з бярозавага веніка нашморгаюць. А сама труна – з сасны абычна. Як пахаваюць, сена тое, дзе ляжаў, палюць. А вось калі выносяць, то дзецi  праходзілі пад гробам на вуліцу, па старшынству. Жытам не пасыпалі. Гавараць, што нельзя абганяць, як ідуць ужо хараніць, працэсію эту, ісьці на ўстрэчу нельзя – трэба стаяць.

Памінаюць на дзевяты дзень, на саракавы, як год пройдзе. Ну, а так ужо – на Троіцу, Радуніцу. Дзяды правілі. А як чалавек памрэ, тады да сарака дзён птушка усё спявае і спявае ў садзе, ці на акне, кукуюць зязюлі – гэта душа прылятае.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Гаўрыленка Еўдакіі Тарасаўны, 1926 г.н. у в. Азёрная Расонскага р-на.**

**1142.** Пра памершага кажуць “ён аджыў, Гасподзь яго увідзіў”. Адзежу насілі, а тую што была надзета і бялізну з ложка – палілі. Ставілі стакан вады на акно, каб душа абмылас я і паляцела. Падушку набівалі сенам, стружынамі ад труны. Як маладому мужчыне, тады клалі шапку, грэбень у кішэнь, крыж на шыю, свечку ў левую руку і насатку, каб было светлаісці, і прыхадную кніжку – дакумент. Калі выносілі гроб, табурэткі, лаву абарочвалі. А дзеці станавіліся на калені і прасілі прабачэньня. Усе павінны стаяць. Паміналі на Радзіцелей – гэта ўвосень, у лютым, на Раданіцу.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Баньковай Веры Міхайлаўны, 1921 г.н. у в. Грышына Расонскага р-на.**

### 1143. У ад ці ў рай

Па дастоінству ў рай, наверна, ідуць. Так як і ў пекла. 40 дней праходзіць, 40 дней душа ходзіць, як прынята саракавіны. Патом яго на суд. Стаіць злева нечысць, а зправа ангел. І гэты ўсё знаіць, і гэты ўсё знаіць. Расказывалі пра чалавека, што нечысць, кажуць, што ўсё нагаварылі на яго, што ён гатоў у пекла. А ангел думаў, думаў і ўздумаў, што той чалавек хлеб вазіў, кідаў інагда рабяткам, кідаў ім. "Гэты, – кажа, – дык ён хлеб кідаў. Ці помнішь ты гэта?" Усё – і ў рай. Дзелаў дабро, хлеб вазіў людзям...

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

### 1144. Жывыя і памерлыя

Расказваюць, многа што гавораць. Ціха, нехта мне цяпер недаўна гаварыў. А, эта мы спрашывалі, нада ж схадзіць на кладбішча, убраць там магілку. Дык адна мне жэншчына гаворыць: "Мы ж, як памёр наш, хадзілі на кладбішча, узялі вымелі, аблажылі лапкамі". Проста дзве жанчыны, цяжка было дзёрн рэзаць, аблажылі лапкамі, закрылі плёнкай і цвяты яшчо палажылі асеннія. Ну вот сасніўся ён ёй. Гаворыць: "Вы мне так добра зрабілі, ніхто гэтак добра не зрабіў, як вы мне зрабілі". Гаворыць: "Так мне харашо, што вы так зрабілі". Гаворыць, што сасніўся Пётар, ейны мужык.

І адна жанчына тожа тут во ў нас, яе цяпер няма, ёй 80 гадоў было. Яна гаварыла, вот яна абычна ходзіць моліцца, хто ў нас памрэць. Гаворыць: "Вот я гэта малюся па ўсіх і вот па адных – не. Вот малюся і думаю, схажу я да сваіх жа ж, там жа [на могілках] свае ёсць, у каждага магілкі. І вот занялася, – гаворыць, – што мяне зразу забралі на машыну і павязлі. – Гаворыць, – віжу я ва сне сваіх. "Ты дажа врэмя не нашла прысці к нам, хоць бы на мінутку прышла к нам, адведала…" Там у яе многа хто. "Хоць бы, – гаворыць, – мінутачку нам удзяліла". Ну, сваякі ейныя так ей сказалі, дык яна гаворыць, што я цяпер абязацельна нахажу врэмя, тады іду к сваім ужо там, на магілках.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Квачонак Раісы Міхайлаўны, 1948 г.н. у в. Маргавіца Докшыцкага р-на.**

### 1145. Зажыва пахаваныя

Тут у дзярэўне жыла такая жанчына, Антаніна… У іх памёрла была дзевачка, ад угару аказваецца. І гэта, прысніўся ёй сон, што яна яе завець, што гаворыць: "Мама, што вы мяне закапалі?" І яна настоіла на тым, што б адкапалі гэтую магілку. Малая дзевачка была. А ад угару яны не дзяржалі яе доўга. А яна там, у сырой зямле, такі ўгар гэты ўйшоў. І дзействіцельна, адкапалі гэту магілку, а яна перавярнулася ў гробіку.

А другой случай быў. Такі гарманіст, а сам любіў гарэлку піць. І напіўся і ўжо не жывы, а жонка кажыць: “Гэтага п’яніцу, што яго дзяржаць доўга?” Вясной, дзень гэты доўгі. І яна яго срочна аглядзела і ў гэты ж дзень і хароняць. Дык там столькі страху было. Мужыкі чуць не паўміралі ад страху. І што, пахаранілі, стала змяркацца, а знаеце, а яна кажыць: “Ягоны баян”. Ну яна яму ў гроб і паклала баян.

Гавораць атцянула яму, атыйшоў. А яны прыйшлі, гэтыя злодзеі, адкапалі яму і сталі гэты гроб адкрываць. Каб баян забраць. Дык яму павязло. А ён крыкнуў: “Мальцы, мальцы!” А вылезці ж – яма глыбокая. Ён атыйшоў, кажыць: “Памагіце мне”. Гэтыя ўсе на ўцёкі, яны там чуць разрыў серца не палучылі. І ён да ўтра ніяк не мог сілы сабраць, вылезці. Ну тады як падвіднела, падмасцерыўся. Яны ж крышку ўскрылі, можа крышку падставіў, вылез, баян гэты на плячо. І падходзіць дамоў і зайграў. А жонка як выгледзела, а яе Зося зваць, а тая як выглядзела, што йграець, тая з іспугу, што пахаранілі. Мёртвы ж быў. Тая ж бяжыць, а той: “Зося, Зося, не ўцікай, гэта ж я”. А тая на ўцёкі. Сабралася ўся дзярэўня была. Тады ўжо выяснілі, што баян яго спас. Во як бываець.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Зайцавай Зінаіды Фёдараўны, 1942 г.н. у в. Забор’е Чашніцкага р-на.**

### 1146. Пахаваны гарманіст

Раскажу я табе чуда, якое мне бацька расказаў. Ты хочаш павер, хочыш не. Вось так. Зажытачна адзін мужык жыў і ў яго сын быў, на гармоніку іграў. У мальца таго дзяўчына была ў дзярэўні ў другой. І што ты думаеш, ён засыпаіць гэтым сном, як засыпаюць на трое сутак. Адзін быў у бацькоў. Слухай, і што ты думаеш, хароніць гэты зажытачны бацька сына.

Пахаранілі. А раньшэ тожэ эці жулікі былі... Адзеў яго бацька як нада быць, а тыя прыйшлі ноччы адкапываць яго. Адкапалі, аднялі гроб, а ён і паднімаецца ў гэта ўрэмя. Гэтых жулікаў пуляй з тэй ямы вынесла. Аглядзеўся той малец: ноч, кладбішча, ён чыста адзеты. Думаець: “Чуда! Чаго мяне ў гроб палажылі?”

І што ты думаеш, прыходзіць дамоў, стукаіць ноччы бацьку:

– Адчыні, бацька, гэта я прыйшоў.

Той гаворыць:

– Ты што, дурны? Я ж цябе днём пахараніў, а ты ноччы прыходзіш!

– Раз так, – сын кажыць, – выкінь мне гармонік.

Той адкрываець вакно і ў палісаднік гэты гармонік. Малец заіграў і пайшоў к дзеўцы сваёй. А дзеўка пусьціла, панімаеш. І што ты думаеш, ён аб'яўленьні пісаў па ўсіх гэтых валасьцях. Што тым, хто яго адкапаў, на

ўсю жызьнь дасьць [грошай]. І ніхто не прызнаўся, панімаеш. А гэта быў случай.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Шахноўскага Мікалая Сцяпанавіча, 1948 г.н. у в. Пруды Ушацкага р-на.**

**1147.** Жыла сям'я. Бацька няплоха жыў. І тут умер сын яго. Бацька не пасьцісьняўся, дзенег не пажалеў, і кольцы залатыя адзеў на пальцы, і часы залатыя прышчапіў. А вот такія былі хлопцы пахожыя. Ну і прыйшлі глядзець на кладбішча, пакуль яго харанілі. І гэтыя хлопцы і скрыліся, паглядзелі што нада, і скрыліся. І ўдруг, у гэты самы вечар сын прыходзіць у хату. У хату прыходзіць, каб яму гармонік далі. А ён гарманістам быў. Харошы гарманіст.

А умер ён ад таго, што ўродзе ўчадзеў. Ну во ўродзе яго зямля адцягнула і ён прачнуўся, стаў жыць. І добра, што во гэці яго адкапалі. Гаварыў потым: “Каб я знаў, хто адкапаў, я б усё аддаў”. А во ніхто не прызнаўся. А тыя, што адкапалі, не пасьпелі нічога ўзяць. Гроб вынулі, а ён устаў і пайшоў. А яны глядзяць на гэту штуку. Прыйшоў дамоў: “Падайце мне гармонік і я пайду”. Па дзярэўні пайшоў і іграіць. Тут мужыкі, каторыя былі, калы пабралі. Але ж пазналі. У дзярэўні ж зналі, хто як іграіць. Добра ці не. А ён добра іграў.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Яцыневіча Іосіфа Уладзіслававіча, 1928 г.н. у в. Селішча Ушацкага р-на.**

## 1148. Смерць дзяўчыны

У нас было такое праішэствіе. У нас у Мамаях цэрква ёсць, атабралі ў палякаў, гэта касцёл быў. Біліся палкамі, яйкамі і адваявалі гэтат касцёл. Ну і раншэ хлеб жа пяклі ў печке, і ўгарэла дзевачка. Ну яна, можна сказаць, дзеўка 16 гадоў. І с апазданьнем, нешта яе не пахаранілі, дык у цэркве паставілі. А ў цэркве холадна ж: увосень дзела было. І адцянула яе, зрабілася жывая, дык яна ў дзверы біла кулачкамі і каля дзвярэй найшлі назаўтра як прыйшлі. Нельзя рана хараніць. А яна перавярнулася – вядома ж ноч – цёмна, а цэрква ў дзярэўні, дзярэўня ў нас была бальшая, і найшлі яе дзействіцельна мёртвай пад дзверамі. Адкрылі дзверы, а яна ляжыць пад дзверамі – з гроба ўстала, пахаваць не паспелі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ляновіч Таісы Уладзіміраўны, 1938 г.н. (нар. у г. Глыбокае) у в. Мётлы Полацкага р-на.**

## 1149. Стораж на могілках

Гаворуць, што старажуюць на кладбішчы. Вот прымерна, памёр у мяне паследні. А другі после яго памёр. Вот вязуць яго хараніць, а мне нада первай на кладбішча зайці. Таго, што той, хто памёр, будзець стаяць у

варотах і глядзець, ці іду я. Ён стаіць у варотах і старажоўства перадаець. Ужо кіёк ён аддаець. Эта так гаваруць. Як старыжыць, з кійком жа ходзюць. У нас як старажылі, такая дошчачка была, у вайну, дык перадавалі ад хаты к хаце, і на тым свеце так.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

## 1150. Нябожчыкі сустракаюць памерлага

А як работала, праўда, адна дзеўка казала, яна ўжо пажылая была дзеўка. Так работала я, гавару, яшчэ незамужняя была, у лесе. Як сядзем аддыхаць у лесе, і яна стала расказваць. Яна з Пышна сама. Дак казала: “Дзеўкі, – на нас, – я паверу цяпер, што здаюцца зданкі. Я думала, што гэта мана”. Казала, што яна была дома, і там усе на досвітку, казала, устрачаюць, каторыя ўміраюць вот у сяле. Ёсьць чалавек слабы і ён пры сьмерці. Нябожчыкі, кажуць яго ўстрачаюць. Казала: “Мы з падругай сабраліся ісці красьці лён, там у Пышне”.

А матка сабралася яе ісці, чалавек быў слабы, чалавека таго атведываць, мужчына бальны быў. Ну яна з гэтай дзеўкай і пайшла. Нада ісці там каля кладбішча недзе, і пераходзіць гэту шашу, могілкі там недзе каля дарогі. Ну і вот, яна казала, пайшла з гэтай дзеўкай. “Вот зразу, – кажыць, – як ішлі мы, увідзелі коней, трое коней, красных. А тады, – кажыць, – ужо і наклалі лену. А тады, – кажыць, – ня коні, а вот мальцаў штук дзесяць”. Яна думала, што, гэна дзеўка вот яна не сказала ей, уцякла зразу, яна ззадзі шла і яна ісчэзла.

Яна думала, гэта Фрося, што ідуць мальцы на вечарынку. Гэта ў суботу было, яна думала, што ідуць у Пышна з гэтых, з Каменкі ці адкуль там, на вечарынку ў клуб. “Мальцы, – кажыць, – без шапак, з голымі галовамі, пры гальштуках, у касцюмах панадзяваўшыся, і стаяць на шашы. Я, – кажыць, – іду, на дарозе стаяць, нада мне зачэплівацца, (а ўжо гэнай дзеўкі нет, уцякла ўжо, відзіш, вот і падруга). Тады, – кажыць, – я (яна ўжа кажыць ім): “Ану-ка, давайце дарогу, што вы пасталі на дарозе?” І зножкай, і з лёнам, ей нада прама зачэплівацца за іх. “Яны тады, – кажыць, – схінуліся на бок”. Яна прайшла, адзін не даець дарогу, толькі смяецца. А яна тады кажыць: “А ты чаго стаіш? Як калі кіну ножку, дык мала ня будзець табе, давай дарогу!”

Тады, кажыць, засмяяўся і схінуўся з дарогі, і яна пайшла, а тады аглянулася назад, а яны – стук-стук-стук-стук па бруку – і пабеглі на могілкі. Там жа была дарога тады брук яшчэ быў, а цяпер асфальт паклалі, а так камянямі забрукоўвалі дарогу. “Тады, – кажыць, – я здагадалася, што гэта зданка, што гэта нябожчыкі пабеглі. Я й пайшла бегам адтуль”. Ці яна лен кінула, я ня помню, а дзеўкі гэтай нет тады.

Прыходзіць дамоў і яе матка прыходзіць, кажыць, што памёр той чалавек. Дык яна нам, як сядзем атдыхаць у лесе, дык яна нам нескалькі разоў гэта расказвала. “Дзеўкі, паверце, – кажыць, – я не верыла сама, цяпер паверу кожнаму. Здаюцца зданкі!”

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Красковіч Ганны Раманаўны, 1930 г.н. у в. Федаркі Докшыцкага р-на.**

## 1151. Пакойнікі сустракаюць

Чулі, што ёсьць сторож на кладбішчы. Будзе ён старажыць датуль, пака яшчо памрэць, тады ён перадае гэтаму, і гэты старажыць. І вот яшчэ, мне бабушка расказывала, я дажэ і помню сама, раньшэ вязлі пакойніка на кладбішча на кані. Вот. Ну каня вядуць пад randomaю, от жэ ж, за прыцу за гэтую. Яна гаворыць: “Глядзі, када падходзіць конь да кладбішча, ён, – кажаць, – такі ўжо, ну, спуганы, і так ушмі стрыжэць, храпіць і нагамі капаець. Гэта, – кажаць, – усе пакойнікі ўстрэчаюць гэтага пакойніка”. Вот. І я гэта сама відзела на свае вочы, што гэтат конь робіць. Цяпер жа ж на машыне, дык ня ўвідзіш. Яны ж раньшэ, як на конях вязуць, а ён так галаву падымець, і ушмі стрыжэць, храпіць у нос, і толька нагамі капаець во так во. Ну дык мы ня відзім, а конь гэта відзіць, што як устрэчаюць усе пакойнікі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Зуй Ганны Васільеўны (нар. у в. Васюкі), 1932 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 1152. Не кажы благога на памерлых

Здавалася і ёсць зданьня. Мне пакойнікі што зробілі гадоў дзесяць назад. Тут Васіль памёр і баба Анісья. І памёрлі яны, і прашло 4 дні. Іду, гляжу на іх хату і кажу: “А каб вас халера! Лётаюць душы каля вашай хаты. Ха-ха-ха”, – і засмяялася. Вот плахое слова сказала на пакойнікаў. Толькі да первага акна дайшла следушчай хаты, а мяне за плечы як тарганулі, аш скаланулі! Во я спужалася! Прышла ў хату думаю: “Брахала, балтала на жывых, а цяпер яшчэ на пакойнікаў”. Да 40 дней соры нельзя казаць.

**Зап. Кавалёва І., Лупенько Т. у 2009 г. ад Скурат Соф’і Пятроўны, 1926 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 1153. Страхі

Хто правініцца, можа, ці вот як баісься, дак хужэ можыць здацца, як баісься каго. Я даўней баялася, як хто памрэць. І ў мяне залоўка ўмерла, як мы пажаніліся на первым гаду. Дак я ягонай залоўкі баялася. Яна ўжо схварэла, слабая была саўсім, я яе проста жывой баялася. Дык як ідзеш, сустрэнешся во так у трысцене, ды ўжо пашарэіць вечарам, дык я аж спужаюся. Дык я і свайму казала, што дажа па сваей патрэбе ён мяне вывадзіў, я ўжо баялася. Ні вядра, нічога не стаяла ў хаце тады, гэткая мода была, а на двор

нада было хадзіць. Дык ён мяне вывадзіў. Баялася выйсці, гэтак баялася сястры яго. Баісься, а яна яшчэ, мы з ей не ругаліся, не было калі ругацца, алі яна гаварыла ўсякае.

Тады картошку сеялі да самых магілак, а яна тады кажыць: “Анюта, а я, як памру, ты зайдзеш ад магілак, будзеш капаць бульбу сагнуўшыся, а я буду ісці, і – гоп – тады табе на плечы”. Дык я, каб вы ведалі, як толькі бульбу капаць, стараюся да паўдня, ад магілак капаю, а тады адгэтуль, і ўжо каб ліцом к магілкам была. У палавіна адкапаю адтуль, тады тут я ўжо не баюся ад палавіны гарода, а так баялася. Думаю, бываіць здасца, дык і памрэш на месце. Як спужаешся, разрыў сэрца можна палучыць. Дык зданкі здаюцца. Гэна дзеўка мяне ўдаставерыла і я, гэта, паверыла. Ну мне, дзякуй Богу, не здаваліся. Я, як мой сынок, як і мужык, я плакала па мужыку доўга. Ён добры быў. Як жа некаторыя бабы і ругаліся ж так, што па бабах, па чужых, ходзяць мужчыны. Дык некаторыя бабы казалі, што чым застаць яго ды з чужой бабай лежучы, дык лепей, каб ужо памер. Во як.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Красковіч Ганны Раманаўны, 1930 г.н. у в. Федаркі Докшыцкага р-на.**

### 1154. Пра памерлых, могілкі, памінкі

Ходзяць жа ж у нас на Радаўніцу, гэта вот после Пасхі. Чараз нядзелю после Пасхі. Вот Пасха пройдзет, дапусцім. Вот Масленіца пачынаецца, вот пост гэтат. Дык вот пасля Пасхі, цераз нядзелю. Ходзяць і на Радаўніцу, і на Троіцу могуць, а есьлі каму не палучаецца, дык хто на Радаўніцу. У каго магілак многа можат вот, як раньша ў нас хадзілі, на трэці дзень Троіцы. Эта ва вторнік. Вот. Патаму, што дажа бацюшка гаварыў, што на ўсіх кладбішчах, бываў бацюшка на кладбішчах. На усіх кладбішчах бацюшка не мог пабываць. Вот тады распрадзелено. Панядзельнік – жывая Радаўніца, а ва вторнік – мёртвая. В панядзельнік гэта вон там саджаюць ва гародзе – гэта жывая Радаўніца. А ва вторнік – гэта ўжо мертвая Радаўніца. Тады ўжо ходзяць на кладбішча. Мы вот, калі з пакойным жыла, прыедзеш на Тройцу – дадуць каня з калхозу. Ну ўсё садзім, дажа картошку. Паэтаму вось такая пагаворка: “Утрам пашуць, в абед плачуць, а к вечару ўжо скачуць”. Гэта на Троіцу такое.

Ходзяць на кладбішча, как… ну я ж таго света не знаю, але як гаварылі, так і я вам гавару, што, тот, у каго блізка кладбішча, ну вот жанчына, у яе дочку зарэзала поездам, дык яна кажды дзень хадзіла. Ды яны там, так палучалася вообшчым вот, што свайго жалка. Так сходзіць на магілку, пагаворыць, как гаварыцца, как будта “паабшчацца”…

Хто сам рукі на сябе пакладваў, ай, усё роўна ж на адным кладбішчы хавалі. Ну вось, не дай Бог, у нас вот у дзярэўні адно кладбішча, ну нікуды ж яго не ў другое места не заводзілі. Вот у нас цяпер не там, дзе часоўні,

дзе капаюць там. Дык тут жа ж к лесу, не дай Бог, дык тут жа ж і бяздомных, і такіх вот хароняць. Ну, калі кратка, то калі кладбішча адно, напрымер, не павязуць жа ж яго у другую дзярэўню, на тое кладбішча. Ну вот так вот, эта, еслі, напрымер, дальнія родственнікі вот ужэ ну как. Дапусцім на адном кладбішчы, дык канешна хочыцца каждаму как-та больш у адно месца. Ну а еслі не палучаецца, дык хароняць тады ўжо ну как… Вот у мяне Пецькін бацька пахаронены і пахаронена свякроў, мой і ўжо майго мужыка брата ўнучка. Дзевачка. Не дай Бог, інвалідка, 5 годзікаў харанілі, як кукла такая вот.

А нужна хадзіць і да старых, і да дзяцей. Усераўно! Сваего, як маладога, як старога, у любом возрасце. Не дай Бог, ну, к прымеру, твая бабушка, ці я паміраюць, дык усе роўна жалка. Хоць старога, хоць ён пажыў 70 гадоў, хоць 80 гадоў – усёроўна жалка. Ну, канешна, такіх, што, не дай Бог, умірае ў 30, у 40… Канешна ж, як у мяне мужык памёр, дык мая свякроў гаварыць: "Лепей бы я, дзяценак, на тваё месца, а ты пажыў бы болей". Ну старыя астаюцца жыць, а маладыя паміраюць… Вот у мяне свякроў, калі мой памер мужык, яму было 36 гадоў, а свякроў жыла да 85. Так вот жалка ж вот ну как, да любога жалка… і ходзяць жа ж і к старым, і к маладым.

Ну, абычна ж з могілак нельзя нічога забіраць, ваабшчэ, у аснаўном, то пцічкам раскідваюць гэту яду. Забаранялася… Вот, дапусцім, з магілачкі на магілачку там на кладбішчы – эта можна, патаму, што как гаварыцца: "Пакойнік пакойніку ціпа ўжо разрашает, штоб как падзяліцца".

Цяпер дык мы сядзім, памінаем, а чалавек ходзіць і кажа: "Я жыву тут, старажу магілкі…" Ну, на ўсякіх жа кладбішчах ўсякія бываюць, вот асобенна после Троіцы, ну ілі после Радаўніцы, тожа ж памінаюць. Гэта находзяцца такія людзі, што астаўляюць румку водкі памінаць, а есць такія находзяцца, што на кладбішчу выпіваюць эту румку водкі, і калі яда, дык яны і яду гэту ядуць. Яны не баяцца ні грэха, нішто.Таму, што, ну такія, не дай Бог. Напіўшыся такія.

Дрэвы ля магіл… Калі былі грозы бальшыя, дык… Але не хацелася, каб дрэвы садзілі, але на кожным кладбішчы ёсць дрэвы, асобенна сірэнь, пасадзіш ветачку, а яна разрасцецца. Дажа вот еслі елачку, дык яшчэ лучша б пасадзіць. Дык вот восенню ліственныя дык ваабшчэ… вясной, як навоз, гэты ліст там. Вот в аградзе. Ну зараз сільна і не стараюцца садзіць дзерэўя, шчас вот у аснаўном хароняць па радам. Раньшэ садзілі, а счас не. Кажуць, дрэва беражэ… Вось ездзіла ў Мосар, там каплічкі стаяць, салфетачкі, вазачкі… мне так панравілась, ваабшчэ харашо…

Вот знаеце, што я вам, дзеткі, скажу, эта гаворуць, што кагда жэнюцца, да, вот маладыя жэнюцца. І ў маладых нет, дапусцім, ці атца, ці маце-

ры, то эцім маладым нада заехаць на кладбішча. Дажа ў дзень свадзьбы с’ездзіць. Вот дапусцім, не дай Бог, ацец, ці маць ужо умершыя, а ты замуж выходзіш, і вот нада ехаць. Нада на кладбішча, раз ты ужо замуж выходзіш, то калі атца, ці мацеры нету, умершыя яны, то нада, як бы савет можа, ці што, на кладбішча с’ездзіць. Адвесці цвяты.

Дзяды, ну вось не знаю… Дужа на Дзяды не хадзілі. Ну былі раньша, там да паміналі, усе такое. Но абычна дома, дома на Дзяды. Ну, а так усе там памінальныя дажэ как-та на Радаўніцу, даже как-та і не хадзілі на кладбішча. Дажа ў асноўным на Троіцу. А вот ужо сколькі урэмені прайшло, цяпер ужо как-та, ну можа ў каго-та не палучаецца, то хто-та на Радаўніцу, хто-та на Троіцу… Абычна ж на кладбішча ходзяць, как вот у нас на Дзяды, абычна хадзілі пасля абеду. Вот. Дзяды [траецкія] – гэта ж летам усегда. Вот у нас, у дзярэўні двор, ці скотнік там, выганяеш кароў на паску, і людзі вот выгналі карову і там жа ж радам кладбішча. І вот тада ўжо пастухі астаюцца, а ужо астатнія ідуць на кладбішча. Засцілалі абрус, усе раскладвалі, садзілісь усе ў кружок, ну і паміналі…

Нашчот страў, канешна, многа там. Первае ж эта куццю дзелалі, ну, як раньша ж дык рыса гэтага дужа не было, а дзелалі з пярлоўкі. Дык дажа яшчэ і укуснейшая каша была. Вот. З пярлоўкі дзелалі. Ну і усякія і рыба, і катлеты там. Ну усякія закускі, асобенна ж дужа калбас не было, дэфецыт. Свае дзелалі ўсякія, начынялі і севярылі мяса. Вот зарэжуць парасенка, засольваюць кумпяк, ён высаліцца, усе, ну і патом яго на вясну, калі сонейка, вывешваюць севярыць. А севярыць – дык гэта мяса дажа укусней, чым капчонае. Каўбасы свае дзелалі тожа вывешвалі севярыць. Усе была натуральным, без усякіх дабавак. І гарэлку прыносілі, і нічога не забаранялася. Прыносілі ўсе. А там, на могілках могуць пцічкі прыгаць, ці там сабакі прабягаць. Дык там ім і пакрышуць. Еслі там, напрымер, дык семечкі садзілі свае, можа дажа сямян у кармане там у каго-та, дык пцічкам пасыпаюць. І семечык гэтых, ну вот такое вот…

Яшчэ вот расказвалі, што вот кагда на кладбішчы хароняць, калі прывязлі на кладбішча, хароняць пакойніка, ну как абычна магіла ужо ж выкапана і пачынаюць яго зарываць. Ну вот незнакомае кладбішча ілі так абходзяць кладбішча. Кажуць, што нябожчыкі на тым свеце гаворуць: “Нельзя хадзіць па кладбішчу, нас усё раўно там нет. Мы ўсе ідзем устрачаць пакойніка”. Не нада хадзіць ужо па кладбішчу, кагда зарываюць, бо усе нябожчыкі ідуць устрачаць гэтага.

Грошы ў магілу кідалі, ну, каб ён (нябожчык – рэд.) разбагацеў. Гаворапь, што проста радзі багацьця, штоб яму там было. Кажуць: “Ты ж усё там палажы, бо ж там, як і тут, буду вездзе хадзіць”.

**Зап. Пузікава К. у 2009 г. ад Івановай Веры Сяргееўны, 1938 г.н. у в. Тупічына Шумілінскага р-на.**

## 1155. На могілках

На памінальныя празьнікі хадзілі на кладбішчэ, ставілі свечку, маліліся, бацюшка к нам нікада не прыяжджаў. Эта была небальшая каплічка – эта да вайны, у вайну яна ўжо развалілася, асталася адна сценка. Быў Ісус Хрыстос распят там дзеравянны на этай каплічкі. Мая хросная маць шыла яму адзежду, адзявала. І не магу сказаць, дзе, куды прапаў той Ісус Храстос. Развалілася ўся каплічка, ніхто не дадумаўся яе рэстаўрыраваць, а цяпер там астаўся адзін фундамент.

Я толькі адно знаю, што з кладбішча нельзя нічога выносіць. Не тое што там, хто дзе паложыў, паставіў, дажы кветку вырваў, еслі захацеў пасадзіць прынесць, – нельзя. Нельзя з кладбішча нічога нясьці – эта ты нясеш дамой смерць. На кладбішча нельзя хадзіць пасля заката сонца. Патаму, што пасьля заката сонца – эта не наша ўрэмя, эта – іхнае ўрэмя. Я шчытаю, эта дзействіцельна, можа што-небудзь паказацца.

Знаю, што ў нас эта аграда закрытая, есьлі прыйшоў і адкрыў этую аграду, то абязацельна доўжан прыйсці і закрыць этую аграду, так, як яна была. Іначы табе можаць прысніца еты чалавек, чыю аграду адкрыў. Ён будзе абіжацца – што ты маю аграду адкрыў, а мне плоха. Так што на кладбішчы ўсё далжно быць так, як і было. Эта ў нас пакойніку кажуць: “дзе ты дняваў, там і начуй”, каб яму было спакойна.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у п. Обаль Шумілінскага р-на.**

## 1156. Дрэва з могілак

Адзін мужык у Несцераўшчыне зрэзаў сасну з кладбішча. На стройку дома, на окна, на раму. І ўсе ягоныя дзеці… Застрэліў брат сястру, адна зарэзалася сама па сабе, адзін утапіўся. Вобшчым нельзя з кладбішча нічога браць.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Васілевіча Уладзіміра Кірылавіча, 1934 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

## 1157. Голас памёршага чалавека

Ну, гэта можа каля магільніка такое было са мной. Я з малымі дзеткамі хадзіла па журавіны. Сынку было дзесяць гадкоў, а дачушцы – пяць. Валодзя сабіраў грыбы, а Ірышка сабірала журавіны. Ёй надаела і яна стала сыпаць ягады на зямлю, прасілася дамой. Я пазвала Валодзю, а Валодзя ўзяў Ірышку і павёў дамой. Я засталася адна. Сабірала ягады і нічога не думала, думала ўсё добра. А тут узляцеў такі бальшы вецер і абламіў нескалькі дрэў. І такі бальшы вецер, што я спужалася. Вышла на дарогу і бачу могілкі, а недалёка чуецца голас памёршага чалавека. Я ўва весь голас закрычала, спужалася. Думала, што ён выйдзець і буду кідаць на яго яга-

дамі з пуду. Ён не выйшаў, а голас ягоны я добра чула. Ну я спужалася і па-маленьку патопала дамой.

**Зап. Касьмін М. у 2009 г. ад Касьмін Валянціны Іванаўны, 1935 г.н. у в. Апанаскавічы Ушацкага р-на.**

### 1158. Страхі на могілках

Собсцвенна так, случай быў. Вот. Ага, эта было гдзета-там, вот як вы яшчэ не радзіліся. Як вайна, ну, з Амерыкай там вот. І нада была кажды дзень, наверна пры Хрушчове. Да, пры Хрушчове. Нада была дзежурыць кажды дзень окала целефона. А сельсавет быў у Сястронках. Вот я да двенаццаці часоў дзежурыла, а дамой мне нада 11 кіламетраў, напрымер. З Сястронак меньша там. Ну пусць будзет дзевяць, не знаю. Эта з Сятронак вот так вот.

І эта была лета. І я іду дамой. Сняла́ туфлі і іду, а там нада перахадзіць за два кіламетры ад дзярэўні ад нашай – там кладбішча. Ну кладбішча наша. Там і ў мяне бабушка там пахаронена. І пахаранілі там маю саседку. Нядужа так даўно. Саседка Марыля. І я помню эта Марыля ўсё ўрэмя мне ўсё гаварыла: “Ну ты вот нікаго не баісься, но вот я цябе, як мяне там пахароняць, я цябе, як пойдзеш, тады я цябе схвачу за нагу”. Я чаго-та ўспомніла вот эта і іду, нечага мне дзелаць.

Іду дамой. Ўсхажу на гэту горку, на кладбішча, і па кладбішчу іду басяком па пяску. І думаю: “Вот Марыля, – думаю, – гаварыла, што мяне за нагу схваціць, а я сколькі гадоў хажу, во, і ніхто мяне за ногі не хватаець”. Ну вот толькі так падумала. Саўпадзеніе такое. І ўдруг на мяне пасыпаўся пясок. Я не магла, я не успела ачухацца, што такое. Вот закрыла вочы. А ў мяне поўны рот пяску. І кагда я ачухалася, што гдзе такое. А там сразу кладбішча і балота сразу. Так: “Ух! Ух!” А эта свінні. Ляжалі вот тут пад бярозай і чо-та яны іменна не туды пабеглі, а вот так вот окала мяне. І патом на заўтра я прыйшла, я заікалася, і я не магла гаварыць. Я спугалася. Ну я ўжо сразу, як ачухалася, я ўчула, што там “ух, ух” – гэта я знаю, як свінні бегаюць. Тады я паглядзела, там вот усе здрывёны пясок увесь, і я ўся засыпана пяском. Вот такое вот саўпадзеніе.

А тожа на этам кладбішчы было. Тожа шла утрам. А я не знаю ў які, клас можа дзевяты хадзіла. А нескалькі раз во Тонька хадзіла тожа. І яны, мальцы, хадзілі пугалі, да. Так во прастыню накінуць і гэта самае... Я не баюся. Корч там такі, я за корч і за імі. У кусты. Харашо.

А гэтат раз іду, гляжу – што-та белае стаіць. Белае. Ну, думаю, гады, апяць ужо прастыню накінулі. Я апяць за этат корч і туды. Прыхажу – нічога нету. Вот белае стаіць вот. Як с кацелка пар. І як такі запах удушаючы. Ну я корч кінула, раз ужэ нет мальцаў тут, я значыць корч кінула. І

паціханьку пайшла і пайшла ў школу. Я гавару: "Дмітрый Пятровіч, – я гавару, – пакойніка відзела". – "І што, як ты відзела пакойніка?" Ну я расказала. Он гаворыць: "Ну вот відзіце, так у старыну ў людзей разрыў серца палучаўся". Еслі быстра пабежаць аттуда, серавадарод пападаець у рот, у нос, і чалавек ат іспуга і ат этава можаць умерэць...

**Зап. Волкаў А. і Навічонак Я. у 2003 г. ад Валеўскай Валянціны Іосіфаўны, 1938 г.н. у в. Заенкі Полацкага р-на.**

### 1159. Вялікдзень на могілках

На Пасху ходзяць на могільнік, на Радаўніцу і на Тройцу ходзяць. Я вам раскажу, людзі. Вот пахавала я 22 февраля хазяіна свайго. А Пасха была 27 марта. Гэта шэсць гадоў назад было. І думаю: пайду схажу на могільнік. У цэркву неяк, не было на чым дабрацца. Сын мой не прыехаў і думаю: схажу на могільнік раненька. А кажуць, што тады пакойнікі відзяць, як хто прыходзіць да ўсходу сонца на могільнік.

Вот ноч прайшла, усяночная, а рана-раненька я і пайшла. Тады вродзе нейкі сняжок выпаў. Сняжок пасыпаў. Гляджу: след пайшоў ад рэчкі і на горачку. Думаю, што нехта з усяночнай пайшоў. Але думаю: хто гэта ішоў – нікога не бачыла? Я прыйшла на могільнік, стала ў сваёй аградзе, свечку запаліла, узяла па кусочку булкі і па адным яйку. Ну, аднаму палажыла і другому палажыла, заплакала, кажу: "Хазяін і сынок, пакінулі мяне адну!" І гляджу, што па магільніку нехта ходзіць. І чорная галава толькі відаць. А сонца як стала, на могільніку ярка, ну точна розава. Так стала розава на могільніку! Я прама так ашарашэла. Так розава стала, як заліло ўсё. Тады я гляджу: у гэтай аградзе, а Госпадзі, што гэта такое? Ня то, што я спужалася, я проста растроілася. Хай бы я глянула на кусты! І нехта па могільніку ходзіць.

А Анушка, художніца, у яе памерла сястра ў той год, і матка яе там пахаронена, і бацька. А мне ў аградзе не відаць, толькі віджу – чорная галава. А яна ў чорнай хустцы была. Тады кажу: "Хто там ходзіць? Хадзіце сюды!" А яна: "Люба, я увідзела, што ты стаіш і плачаш, дык я іду к табе". Я кажу: "Аннушка, ці відзіш ты што?" А тая: "Я настолькі астаўбянела, як раптоўна стала розава". І яна ка мне падышла, стала каля мяне, стаім. А я кажу: "Што гэта такое?" А яна: "Я чытала када-та ў кніжцы, што мы пасвяцаем у цэркве, а Госпадзь Бог пасвяцаець пакойнікам. І за гэта сталася ярка". Глядзім – сонца ўсходзіць: пырх-пырх. Яна кажыць: "І гляньце: праўда казалі, што сонца іграець". А сонца вот так: пырх-пырх, пырх-пырх, ну і ўсё. Можа мінуты тры. І ўсё стала відна, светла і харашо.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Паўлоўскай Любові Навумаўны, 1938 г.н. у в. Млын Чашніцкага р-на.**

### 1160. Пасля пахавання

Ну, эта мне дажэ дачка гаварыла. Вот бацька памёр, а яны после пахарон тут начавалі. Праўда! Яна мне гаворыць: “Мамка!” Пад утра ўжо, ну так святло ўжо было, паказалась, што ён дажэ цянець адзеяла”. Гаворыць, што падышоў уродзе к койке і вот цягнуў так. Здалося так.

І вось гэтыя дзверы – я не знаю… Вот, як памёр, утрам устаю – яны раскрыты. Дзверы ўсягда адкрыты. Не знаю, ці вецер, ці што. Ну доўгае врэмя раскрывалісь вот гэты вароты. Я ўжо сваім там гаварыла: “Я не знаю, можа бацька прыходзіць – раскрываюцца. Калі не прыду – яны раскрыты”. Кручкі ж там. І кручкі сняты, і дзверы так адкрываты.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Ліліі Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

### 1161. Весткі з таго сьвету

Мама мая і саседка, Сьцепаніха, сідзяць і талкуюць: “Ну, саседачка, калі ж я памру, тады я табе раскажу, як на тым свеце. А калі ты памрэш, тады ты раскажыш”. Ну, памёрла мама 8-га дзекабра, 10-га яе ха共ранілі…

Ну, можа нядзелі дзве прайшло, Сьцепаніха кажны дзень ка мне прыхадзіла. Кажу: “Ну што, бабка, ці снілася табе мама?” – “Снілася, сядзіць яна ў той адзежы, у якой пахаронена, ну я і кажу, як там на тым свеце?” А яна: “Ну так, як і тут, я памёрла, а ты паспрабуй, бл..ь, яшчэ памерці!” Ну і праўда, Сьцепаніха, яна дужа бедная мучылася.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф’і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

### 1162. Перадача на той свет

Гэта во тут у нас жылі саседзі, із Ленінграда прыехаўшы была дочка да іх. Ну яна расказывала, там у іх, кажаць, быў случай такі: на рабоце ў жанчыны мужык памёршы быў. Ну яна кажыць, што адзін дзень прыходзіць такая растроеная, плачыць. Кажыць: “Прысніўся мне мужык і гаворыць, каб што-та я там перадала яму”. Ну, значыць, яму не паклала тое, што ён прасіў, і яна яму ва сне кажыць: “Ну як я смагу табе перадаць?”

Ну ён ей указаў адрэс: “Едзь па такому адрэсу, усё і перадасі”. На рабоце ей кажуць жанчыны: “Так во едзь, раз ён гэтак сказаў, едзь па таму адрэсу”. Прыяджаець яна у тую кварціру, адкрываюць кварціру, а там гроб стаіць і чалавек памёршы. Вот з ім каб перадала, вот відзеце, як гэта, ну нейкая связь ж ёсць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Калягі Ніны Анатоллеўны, 1952 г.н. у в. Паўднёвае Гняздзілава Докшыцкага р-на.**

### 1163. Нябожчыкі ўсё знаюць

Эта дажа швагра сасніўся сястрэ. Яна ўсігда хадзіла [памянуць]. А неяк абед строіла і ня вышла ей схадзіць. А ён сасніўся: “Клаўдзя, чаго ты не прышла? Усе былі, усіх відзіў, а цябе не было”. Дык яна цяпер як ня можаць, а ўсё роўна ідзець. Факт, што яны ўсё знаюць.

Да сарака дней душа ходзіць ля хаты. Яе ангел водзіць. Вот я была штаны ўзіла, нада ж ужо за каровай іці. А ўжо вечар падходзіць. Я сяджу на дзіване, нікога німа. І тут голас мамін, выяўны такі голас, гэта на другой нядзелі, як яна памёрла: “Тоя, што ты сёння ўзяла, у цябе ня будзець”. Так выяўна сказала. Я як выскачыла на двор, спужалася і нідзе нікога німа. А я як закрычу: “Арця, Арця, што я сніла!” Дык во. Які страх мне быў. Тады я думаю, што тут здарылася. Праз дзень ці праз два прыязджаю. А тут прыходзіць Каця, во, во гэта. І гавораць: “Сяргей во прынёс твайму мальцу штаны, а я дала рублі якія тры. Штаны ватовыя”. Я і аддала гэтыя штаны. Во дык мамін голас. Канешна, яны ўсё знаюць, ды яшчэ да сарака дней.

Як вязуць пакойніка, яго ўстрачаюць. Яны і сасняцца, так і кажуць: “Мы ўстрачаім гэдак, як вы праважаіця”. Эта ўсё ўрэмя гэдак было, і ёсь, і будзець. За то, што яны знаюць і пераймаюць.

А што знаюць усё, дык гэта праўда. Мама наша памёрла, а ў швагры нашага ўкралі ровар. Дык ён сколькі шукаў, німа і ўсё. Дык яна праснілася і кажаць: “Клаўдзя, скажы Сеньку, што ў Верацеях за будкай стаіць ровар”. Пайшоў і дзійсьцьвіцельна, стаіць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

### 1164. Як мама памерла

Як мама мая памёрла, я пакойнікаў дужа баялася, дык ці яна мне здавалася ці снілася. Яшчэ твая матуля была малая, гэткая нялюдская, гэдык плакала, а трысцена ў нас не было, і тут печ стаяла, і толькі з-за шчытка глядзіць на мяне, пытаецца: “Дачушка, ты ці ўбрала бурачкі?” Я кажу: “Ай, мамачка, я забылася!” А яна, як яшчэ хварэла, пытала, ці ўбрала я бурачкі з калідора. А я іх зрэзала і не ўбрала. І сколькі начы я яе віжу, і я сама не панімала: ці яе відзела, ці яна мне снілася.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф’і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

### 1165. Вестка ад сына

А цяпер во тожа. Садзілі цыбулю сыну. А я сяджу і гляджу на дарогу. Адкуль узяўся мятлік – бабачка, ён красавец залаты. І ён праляцеў тры круга каля ліца. А гэта было, як дзевяць дзён пасля смерці сына майго. Перакружыўся мятлік і у мяне на руке сеў, і я стала плакаць: “Сынок, лю-

бімы, гэта ты мне нейкую вестачку прынёс, але ж ты маўчыш". А мятлік не тропаіць, не ўцякаіць. Тады кажу: "Ляці, мой мятлік, перадай майму сынку, што мне трудна без яго". І мятлік адзін раз перакруціўся і паляцеў. І вот болі яго ня відзіла. Вот якое бывае чуда.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашка Тамары Грыгораўны, 1921 г.н. у в. Кісялі (нар. у в. Тарапы) Чашніцкага раёна.**

## 1166. Пярсьцёнак нябожчыцы

І вот у Асецішчах адзін быў мужчына. Ён вазіў малако. Вот казалі, ці каля Докшыц, ці за Докшыцамі – там нада было яму гэнай дарогай ехаць было. І ляжала дзеўка забітая. У яе на руцэ кальцо, ці хто не справіўся садраць той, хто яе біў, тую дзеўку? І ляжала дзеўка, а гэты чалавек ехаў з малаком. Ляжыць дзеўка, а ён астанавіў машыну, злез, паглядзеў, што дзеўка ляжыць, а мажа жэншчына маладая. На адной руцэ было кальцо, і ен садраў гэта кальцо.

На левай руцэ, мусіць, было, таму, што казалі, дзеўка. Каб жэншчына, яня ж бы на правай насіла. А то на левай. Ну і вот, ён садраў гэта кальцо і ўзяў сабе. І з той пары, як уз'едзіць ён на тое месца, так дзеўка – пырх яму на прыступачкі к кабінцы і стаіць, і едзіць і з ім. Вот яму здавалася гэта дзеўка. І датуль здавалася, пакуль жонка не пайшла ў цэркву і не прызналася, што ён гэтае кальцо садраў у яе. Поп сказаў прынесці кальцо ў цэркву. І як аддаў кальцо, тады не стала зданка здавацца. А то хацеў выязджаць з Асецішчаў ён. Ужо не давала дзеўка гэна хода яму. Дык зданкі, кажуць, здаюцца.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Красковіч Ганна Раманаўна, 1930 г.н. у в. Федаркі Докшыцкага р-на.**

## 1167. Жонка прыходзіць

Вот гэта было ў Валасаццы, у вёсцы. Мы былі ў адной жанчыны, і там памёрла маладая жанчына – у яе двое дзяцей застаўшыся было і мужык. Яе пахаранілі, яна на трэцці дзень прыйшла і свет запаліла, і печ паліць, есці варыць.

Мужык уцёк спужаўся з хаты. І тады пайшоў да бацюшкі: што рабіць, што прыходзіць? Некатарыя ня верылі яму вяскоўцы, што гэта ён гэтак гаворыць. Ён прывёз бацюшку. Бацюшка памаліўся на кладбішчы, пасвенціў і хату, і магілкі, усё.

Усё адно яна прыхадзіла. Ужо сабраў усіх людзей, здалёку глядзяць. Гэта ж агонь гарыць у хаце, дым ідзець з коміна. Ну, і што рабіць? Пайшоў ізноў да бацюшкі. Тады адкапалі яе, атрэзалі галаву і ў ногі ўлажылі, і тады перастала яна прыхадзіць.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Іваноўскай Ніны Ўладзіміраўны, 1934 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

### 1168. Стары Ходан

Раней там на азяры, на Велы, хутаране жылі. І адна вялікая сям'я была – Ходана – 24 чалавекі. І як раз гэта было, як пачыналі раскулачваць. А яны ж добра жылі: і коні, і каровы былі. І хацелі, Ходан той стары, каб у Ленінград пераехаць. А тут Ходан і памёр гэты. А як проці царквы тады ўсё было, так яму крыжа не паставілі, а тумбу са зьвяздой. І пачаў стары гэты хадзіць.

Адзін раз пайшла матка старая мыцца і нявестка зь ёй. Нявестка нешта адстала, а матка ўпярод пайшла. А як нявестка падышла, глядзіць, а побач з маткай бацька сядзіць. А ў маткі ж вочы замылены і яна ня бачыць. Ну, нявестка назад, пазвала мужыкоў. Прыбягаюць – нікога няма, і матка ляжыць самлеўшы.

І потым Ходан гэты хадзіў. Кароў увесь час выпускаў ноччу. Разбрыдуцца абы-як, потым сабіралі. І коней распутваў, што шукалі. Ну і тады ўжо паехалі да бацюшкі ў царкву. А што ён ім там казаў? Толькі, як крыж яму на магіле паставілі, так ён і хадзіць перастаў.

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Чумаковай Марыі Несцераўны, 1918 г.н. у в. Сінск Расонскага р-на.**

## САМАГУБЦЫ

### 1169. Пахаванне самагубцы

А ў Захарнічах, в обшчэм, прадавала адна дачка ў бацькі самагонку. Ён гнаў самагонку, яна насіла ў горад, прадавала, у Баравуху. І міліцыянер яе паймаў, як яна нясла, ну і нада было судзіць. А гэта, яна стала плакаць, прасіцца. А ён гаворыць: "Ну раз такое дзела, ну сагласісь са мной…" І яна сагласілася. Асталася ў палажэнні. Ну а ў палажэнні – эта ж не цяпер, а раньшэ – які пазор быў. Усё, неізвесна, які пазор! На ўвесь род. І яна забрала ў галаву, забрала, і павесілася. Нічога не сказала.

А бацька настолька жалеў яе, што адна дачка была ў яго. Ён папрасіў бацюшку гэтага, каб ён яе адпеў у гэтай капліцы. А не сказаў, што яна… Вот па закону, па стараму, еслі павешаецца чалавек, яго правадзіць нельзя. І вот прывязлі яе да гэтай капліцы, і тры кажаны такія – мышы лятучыя – кажаны, і зразу вот сюды, дзе дзьверы ўхадзіць, і селі. Бацюшка сказаў: "Увазіце, увазіце, ня нада эта. Ні буду". А праўда. Эта праўда была, точна. Эта праўда.

Ну і пахаранілі яе на кладбішчы. Ну вот у нас гавораць, гэта кладбішча нікада вот граза ня абойдзіць. Нікада. Усягда што-нібудзь атваліць. Ілі там лес паваліць. А па стараму закону далжны ўтопленікі, даўленікі не на

кладбішчы, а каля кладбішча хараніць. Ну, а яе пахаранілі не так, як нада. Раньшэ ўсе самі гэта ня дзелалі, панімаеце? Не харанілі. А ўжо пасля сталі хараніць абы-як. Вось як.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

### 1170. Самагубцы і чэрці

Гэтых самагубцаў хавалі на краі на кладбішчы, а кладбішча свянцонае, а гэта ж чорт яго задушыў. На маёй памяці жэншчына павесілася, была ў палажэнні ад швагры, муж узнаў, стаў яе караць. А былі танцы, а яна вот так: койка і гвоздзь у сцяне, і яна залажыла сабе палаценца нейкае, і засталі яе – на каленках стаяла. Гэта толькі мечты, а ты і на нагах не будзеш стаяць, а цябе задавюць чэрці. Гэта толькі мячты, яны падскакваюць, чэрці.

А яшчэ вот была прычына ў Берэзіне. Расказваў чалавек, была хата з аднаго боку халодная, а ў другім сын жывуць з нявесткай, а старыкі ў гэтым, у халодным. І кажуць, сідзяць яны абоі, старыкі, а старуха адкрыла во так платок і кажыць: "Як гэткая жызнь надаела, каб узяў сам сабе і задавіў". І толькі яна гэта сказала, а старык гэты з ёй радам сядзеў і казаў, што відзеў, як бегалі дзевачкі, мальчыкі ў шляпах маленькія. І толькі вот так яе пацягнулі далоў і задавілі яе. Гэта чэрці задавілі і ўсё. Гэта толька надумаць гэту работу, дык тады ўсё, падкасываюцца чэрці.

**Зап. Аўсейчык У. і Лобач У. у 2009 г. ад Хілько Леаніды Рыгораўны, 1926 г.н. у в. Бірулі Докшыцкага р-на.**

**1171.** Раз у нас у дзярэўні адзін чалавек павесіўся на чардаку. Вот мы паехалі на сорак дней к ім. Селі ўжо за стол, усё як нада, аж чуем: там, вышы акон нехта пяець. А хто тут? А во дзіва! Якія песні?! Тут жа стол жалобны. Можа, хто Богу моліцца? Не, песні. Эта ж чэрці, раз ён такой смерцю памёр – то чэрці.

І баба раз была задавілася. Тожа за сталом сідзяць і чуюць – нехта на двор уз'ехаў на санях. Глянулі – нікога няма, а выразна чулі.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Якубоўскага А. С., 1936 г.н. у в. Гадзіўля Лепельскага р-на.**

### 1172. Няўдалае самагубства

У мяне свой мужык павесіўся ў хаце. Мы гулялі тут у другой хаце. Прышлі з гулянкі. І дачка мне прыходзіць і кажаць: "Нешта там папа зробіў, лётаў, лётаў..." Заходзім, а ён вісіць. Добра, што на палаценцы. Ай, вісіць! Я яго тады – гоп! (паказвае, як падняла) А дзяўчына зняла з крука з гэтага. І палажылі. А ён ужо рот разінуў і язык выпер гэты. А-я-я-я-яй! Бяжыця за Патапам! Дзеўка пабегла за Патапам. А я тут нядоўга думала –

нашатыр. Я к носу, нічога, тады як лінула яму ў рот. Яму як захлехатала ўсярэдзіне. Ну і ляжыць. Палажылі яго на койку. А тады на мяне: “Нашто ты, курва, мяне спасла! Ужо я пашоў па такім саду па зялёным, а такія друзья ў мяне былі. Каб ты толькі відзела”. А мяне курвай назваў. А я заплакала і плачу…

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Скубановіч Веры Міхайлаўны, 1941 г.н. у в. Іванск Чашніцкага р-на.**

### 1173. Раз перакрысціўся, значыць, не павешаецца

У нас, помню быў у мамы случай, што гаворыць мужык: “Пайду вешацца”. Прыляцела жонка яго і гаворыць: “Ай-яй-яй і пайшоў Коля вешацца!”. А куды? Перакрысьціўся і палез на гару. А мама мая пакойная гаворыць: “Раз перакрысьціўся, значыць, не павешаецца”. І праўда, злез ён з гары. Гаворуць, калі чалавек крэсьціцца, то ён гэтага не зробіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 1174. Самагубства

У нас родственіца была, далёкая ўжо родственіца. А мамка мая скока раз з ёй гаварыла. Дык кажыць: “Ай, сястрыца, што такое са мной робіцца. І ўстаю, і лажуся, а ўсё тока чую: “Ці скора будзеш вешацца? Ці скора будзеш вешацца?” Ну там голасу яна не чула, но мыслі ў яе так. Ну яна ўсё прадалжала, прадалжала, ня вешалася. А тады адзін раз ей гэта ўжо надаела, і яна задумала павешацца, і не магла неяк атважыцца, пака хрэсцік не сняла з шыі. Як хрэсцік сняла з шыі, палажыла на стол, і ўсё – павешалася.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1175. Самагубца і ўяўныя здані

Як павешаўся Гарнастай Генька, чуецца, як сцямнее, нехта цвікі заганяе у Гарнастая ў хляве. І Маруся чуець. Выйдзе – хто-та заганяе цвікі ў Гарнастая ў хляве. Пойдзем глядзець, а гэта – вецер добры падымецца і шыферына – “хлясь!”. Пакуль не схадзілі, не паглядзелі, ёй усе верыліся зданькі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 1176. Пакойнікі ходзюць

Пакойнікі ходзюць, эта праўда. І ў нас казалі. Вот ходзіць і ходзіць. Устаніць і йдзець. А пятух запяець – паваліцца. Яго ўловюць. У гроб пало-

жуць, дажа зялезам акуюць – а ён ідзець. Тады сам кажаць: “Пахараніця мяне пад дубам”.

**Зап. Валодзіна Т. у 1999 г. ад Зелянухі Ульяны Патапаўны, 1907 г.н. у в. Мядзвёдка Віцебскага р-на ад.**

### 1177. Здань вісельніка

Як Хаданіха, я помню ў школе мы малыя былі, учыцельніца ў мяне была ў класе другім-трэцім і мужык яе павешаўся. І яна прасіла нас, я ў яе лічна начавала, бо яна баялася. А калі нам страшна становіцца, яна возьмець нас і гаворыць: “Татухі мілыя, пойдзем. Вы будзеце начаваць у мяне”. Мы збіраліся тры-чатыры-пяць чалавек, начуем у яе хаце. А яна гаворыць: “Я ж, дзеткі, гэтак баюся, ён жа цэлую ноч лётаець па гарэ. І я вот толькі засну і на чардаке грукатня там, дзе ён павешаўся”. А мы ляжам каля яе і нібыта мы чуем, хто там грукаець. І мы спім, дзеці, а яна праснецца, можа ей там казалася. А мы праснёмся і гаворым: “Ці прахадзіў?”, а яна гаворыць: “Ціха было”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 1178. Бог засцерагае ад самагубства

Каб чалавек павесіўся, то гэта яго чорт цягне. Вот ішла у нас бабка тапіцца. Гэта із вайны, тут саседка наша была, ага ішла, адзін сынок у яе быў і таго, што быў “народнік” (служыў у паліцыі), дык яго забралі і на 25 лет асудзілі. Ну, бабка тая кажыць: “Пайду я, не буду гараваць, пайду утаплюся”. І ішла ўжо ў раку тапіцца, гаворыць: “У Адэлін вір пайду ўтаплюся”.

Называўся гэтак, ну вот рэчка, а тады неяк вот такое, шырокае, вір называлі. Ішла, кажуць, па сцежкі цераз балота і к рэчцы, туды на пожню, ну каля пожні. Ну і вот, што яна гэта бабка, казала “пайду утаплюся”, а тады перакрысцілася: “Ва імя Атца і Сына, і Святага Духа. Амінь”. Як перакрысцілася, так гаворыць: “А мяне нехта перавярнуў назад, павярнуў назад, ай-й непайду я тапіцца. Гэта значыць ад Бога, што дасць Бог, то і будзець. Буду жыць і гараваць”. І вярнулася, і во да старасці дажыла, і памёрла во.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Мацкевічаў Міхаіла Пятровіча, 1930 г.н. і Ганны Еўдакімаўны, 1936 г.н. у в. Мядзведзеўка Лепельскага р-на.**

### 1179. Здань самагубцы

А ў нас тут стаяла, а во там во на гародзе, дзе цяпер гарод у нас, ішчо была адна хатка небальшэнькая, і тут жэншчына жыла,вдава, трое дзяцей у яе было. Ну а патом яна з мужчынам звязалася з нейкім жанатым, і яна была ад яго бярэменная. Ну ў бабак асвабадзілася, аборт зрабіла, а даўней жа

было строга, і вот яна ўсё адным чынам, што гэта яе заберыць міліцыя. Тата ехаў на мельніцу і гаворыць: “Паедзем малоць”, – на яе. “Нет, не паеду, Ваня, – а яна была сама , як гэта цяпер Ленінград, з Пецербурга, па-руску разгаваравала, – нет, Ваня, не паеду, за мной жандармы прыдуць сягоння, я не паеду”.

Ну і тата павез на мельніцу, а яна гэтым врэменем павеселася, і дзеці паасталіся, і двое дзяцей забраў дзядзька, а трэці, самы старэйшы, быў у нас… Дак гэдак наздавалася, ішчэ хата ў нас старая была, і мама гаворыць, што тата на начлег павёў, а я, гаворыць, сяджу, брата кармлю грудзю, і адкрыла акно, а ў гэтай хаці свет гарыць, танцуюць, музыка іграець, і гаворыць, гэдак спужалася і накарміла гэтага малога, дык пілепсія была ў яго, гэдак спужалася.

І, кажаць, вечарам раз прышлі з сенакоса, пашла я ў агарод сабіраць капуснік свінням, аж я сабіраю, толька падхаджу да забору, дзе ейная хатка стаяла, аж гляджу – стаіць яна ў белым абакрыўшыся, гэта жанчына, і гэдак яна здавалася. А гэты самы старэйшы,брат, спаў, усягда прыдзець с танцаў, і лезець на чардак, на сенавале і спаў. Ён гаворыць, толька лезу, гаворыць, а яна праз шчыт лезець тожа з галавой сюды. После таго саскочыў, чаго ні забіўся з гэтага чардака. Дык гэта жанчына, што павесілася, так яна не давала спакою і маме, і гэтыя мальцы ўжо баяліся на двор выхадзіць, дык тата як павядзець на начлег, дык нейкага старычка прывадзіў начаваць, мама баялася аставацца. Тады ўжо после ў цэркву хадзілі, так жа іх не памінаюць, а так і памінаці, і бабкам ужо звалі, і дзед нейкі прыхадзіў маліўся, у гэтай хаце каб ужо не здавалася.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## ГОСЦІ З ТАГО СВЕТУ

### 1180. Памерлы муж

Гэта бываіць. Вот мая падруга, былі мы з ей, гаварылі, вот у яе дваюрадная сестра ёсць, і памёр мужык. Яна адна была і прыходзіў ён. Ёй точна ўжо здавалася, што толька стаў прыходзіць, і стаў ходзіць: і раз, і другі раз, гэтак… Дык яна ўжо матам, узяла качалку, і матам крычыць: “А што, табе і там нет месца?” І боле не хадзіў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Модэль Марыі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Козікі Докшыцкага р-на.**

**1181.** Памёр мужык у жонкі. Алі ходзіць ён к ей. Яна з ім і гукала, усё. Так яе ссушаў, уся схудала. Алі ўжо і прывыкла, што ходзіць. А ей нараілі, як ад яго ізбавіцца. Вот ён прышоў, а яна сядзіць і чэшацца.

– Куды ты? – ён спрашываець?

– На вяселля к Івану.

– А ён жа памёр.

– І ты памёршы, а ходзіш.

– А, дагадалася, – ён зарагатаў і ўсё, не стала нічога, і не хадзіў болей.

**Зап. Валодзіна Т. у 1993 г. ад Цялятка Еўфрасінні Анісімаўны, 1912 г.н. у в. Катоўшчына Лепельскага р-на.**

**1182.** Вот як пакойнік ходзіць, дык ён ліцом к табе не стаіць, а задам. Ругацца матам тады нада: чаго ты, такі-сякі, прышоў!? Вот к саседцы прыходзіць ейны памёршы мужык. А яна хворая была. Глядзіць – мужык, аж абамлела. А тады просіць быць у яго: "Дай ты мне лікарства якога". А ён: "Ні дам, ты яшчэ дзіцям нада". А сама ад страху аж калоціцца. Аж ложка звалілася з рук, нагнулася падымаць, а ў яго хвост. Ад страху чуць ні памёрла. І саседка послі гаворыць: ад цябе як усіраўно белы стоўб выхадзіў. Алі гэта к гору. Дачка тады іхная руку дужа паламала.

**Зап. Валодзіна Т. у 1995 г. ад Пухавай П. К., 1923 г.н. у в. Усая Ушацкага р-на.**

**1183.** Дажа было і са мной. Я сама відзела. У мяне мужык памёр, як мне было трыццаць гадоў. Памёр ён зімой. А ўжо было лета, цёпла было, я ў калідоры мыла пол. І дзверы так троху прыадкрыты. Ой! Нехта пашоў, нехта пашоў. Глянула я, аж пашоў мой мужык. Ой, дума, як інцерэсна. У куртке тэй, у якой ён памёр зімой. Случай быў на дарозе, яго машына забіла. У тэй куртцы. Я на вуліцу ня вышла за ім, а пашла ў хату і гляджу ў акно. І апяць замеціла куртку яго, ён за хлевам скрыўся. Мне тады трыццаць гадоў было. Я баялася адна спаць. Ня тое што баялася. Мне было жутка. І мама мне гаворац: "Што эта такое? Сёння цэлу ноч трактар гудзеў недзе каля нашай хаты". Гэткае было.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Макоўскай Фаіны Іванаўны, 1941 г.н. (нар. у в. Луг) у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

### 1184. Маці нябожчыца

Вот адна жэншчына расказвала, што памёрла матка і засталося чацвёра дзяцей і адзін быў самы маленькі. Дык, гаворац, каждую ноч ляжым з мужыком і чуем, ідзець яна і так во пройдзець. Раней жа дзеці за полахам спалі. І гаворац, то дзіця быў не пеленаны, а ўжо спеленаны. І некалькі разоў прыходзіла, во так было. А потым хадзілі яны ў цэркву, ім сказалі,

што гэты дом аставіў нехта ў вайну, што-та там было. Дык яны ў цэркву хадзілі і выкуплівалі, як ім тады бацюшка гаварыў, і перастала ўсё.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

### 1185. Антось і яго памерлая маці

Жыў Мятла Антось у Чарапах. Гаварылі людзі, што да яго па начах, як ён быў малы, прыходзіла маці-нябожчыца. А як яна праходзіла ў хату, у замкнёную дык ніхто ня ведаў. Прыдзе, паглядзіць Антося, люльку пакачае. Во так і хадзіла. Ніхто ня ведаў, як яе атвадзіць. Адзін стары тады сказаў, што, як тая матка прыйдзе, трэба стрэліць ў яе з паляўнічай стрэльбы, але зарадзіць яе трэба не пуляй, а гузікамі. Вызваўся гэта зрабіць шурын таго Антося. Уночы, як раз была поўня, глядзяць – ідзець тая матка па полі ў нечым белым. Дзед стаў маліцца, а той мужык ужо настроіў стрэльбу. Як уашла яна на двор, дык шурын і стрэліў у яе. І з тых час яна і зьнікла.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Высоцкага Віктара Іванавіча, 1924 г.н. у в. Цвеціна Мёрскага р-на.**

### 1186. Жалоба па сыне

У нас у адной памёр сын. Утапіўся, купаўся і ўтапіўся. І яна дужа гаравала, бегала туды, і на магілкі начавала, і ўсё. І вот ей здалося, што вышаў сын з магілкі. А яна ўжо цёмным там была, вышаў сын і ей прыказаў: “Мама, штоб ты большы не хадзіла большы ка мне. Я ўжо не вярнуся, і штоб ты не хадзіла. І мяне не растраівай, не падымай. Я очань не хачу. Ты мяне аплакала, усё, я ў вадзе ўжо”. Яна і не стала хадзіць, не стала нічога.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Брадзінскай Ганны Кузьмінічны, 1925 г.н. у в. Вяжышча Бешанковіцкага р-на.**

### 1187. Удзячнасьць мамы

Што-та ёсць, а што – не знаю. Умерла мая мама 28 январа 1948 года. А я была ўчыцельніцай, работала ў начальнай школе, а папа ў 1947 г. памёр. Быў у мяне брат. Маму мы пахаранілі. Як маглі. І сорак дней не было прайшоўшы. Тады мы саракавіны ня дзелалі. А ў нас лампа была, а керасіны не было. Газінка была. А я са школы вышывала. І на палаценцы я вышыла двух галубоў. Патушыла газнічку, ляглі на печ. Забрахаў мой сабака і сціх. І хто-та мне стучыць ў вакно. Я маўчу. Чую, апяць застучэла, і голас маёй мамы: “Дачушка, гэта я прыйшла, ня бойцеся”. А брат схапіўся і плачыць: “Тамарачка, гэта мама!” А тая: “Я прыйшла паблагадарыць цябе, што ты мяне адзела. І чым прасіла накрыць, тым і накрыла”. А я ей надзела, было адзінственнае плацце, нямецкае. А яна сказала: “Я да чацвярга дажыву. Я сасніла, што памру ў чацвер”. Тады яна: “Большое табе спасіба,

што ты не пажалела. Цяпер, маё дзетка, глядзі дзяцей, прашчай!” І ўсё. Я на раніцу выйшла – следу няма.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашка Тамары Грыгораўны, 1921 г.н. у в. Кісялі (нар. у в. Тарапы) Чашніцкага раёна.**

### 1188. Муж-нябожчык люляе дачку

Слухайце, я як сына пахавала, першага мужыка пахавала, дык точна прыходзіў мужык і няньчыў малую дзевачку. У мяне Ленка была. Ідзець во, туп-туп-туп, чую, адкрываець дзверы. Дык у мяне начавала бабка старая, Грышкевічыха. Я баялася. А як Сярожу пахавала, у мяне сястра начавала, Рэня. Дык настаяшча ходзіць па хаце, як і хадзіў, у ботах ходзіць і ўсе. Кажуць жа, што сорак дней ходзіць душа каля хаты. Я вам скажу, даўней здаваліся, а цяпер ужо самі людзі нячыстай сілай парабіліся.

**Зап. Шыталь К. у 2007 г. ад Шопат Ганны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Асінавік Докшыцкага р-на.**

### 1189. Здарэнне на Дзяды

Было ж і так, што нешта не зрабіў, і дзяды пакрыўдзілі. О, такія случаі бывалі! Вот у прошлыя гады, я усіх сабрала сваіх. Гаварыла: “Прыходзьце ка мне на вячэру…” Пайменьню звала: Васілій альбо іншы, Маруся ці ты там. Усіх трэба ўпамянуць і пазваць на вячэру. А я ўсіх не памянула. І вот ляжу, і мяне нехта тузануў. І зашумела нешта ў хаце, я хацела ўжо крычаць. А тады думаю, што я не так зробіла, не ўсіх пазвала.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Ставер Лідзіі Філіпаўны, 1928 г.н. у в. Брадок Докшыцкага р-на.**

**1190.** Дзяды былі. На Дзяды ж варуць кашу, клёцкі… І рабяты былі малыя, а ён старажыў кароў. Павячэралі. Ён пашоў на сваю должнасць, а яна ж з рабятамі спаць. А са столу ж прыбіраць не нада – дзяды ж прыдуць. Улеглася і быццам стала драмаць. Аж стукаюцца. Я думала – ён ідзець дамоў. Аж не. Ляпаюць, ляпаюць. Запаліла свет, аж пуцы (пацукі)! На стале! Прышлі вячэраць. Ай-я-я! Баялася, каб жа к рабятам [не пайшлі]. Ятроўка іздзелала ей так, што прышлі адусюль пуцы к ей на стол. А ей аддзелалі, што тыя пуцы пашлі к ей назад і паелі тыя кулі, што нада было хату перакрыць. Вот ты наслала, а табе назад. Пашлі к таму, хто здзелаў. Пуцы ўсё паелі, на рэзь парэзалі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2006 г. ад Лазарэнка Наталлі Андрэеўны, 1907 г.н. у в. Ладасна Лепельскага р-на.**

### 1191. На Дзяды

На Дзяды паміналі продкаў, варылі куцьцю, чакалі дзеда, бабу. Паставяць яду. Тады станавіліся за сталом, маліліся. На куце ставілі свеч-

ку. Ложкі не кладуць ніц, а дагары, бо пакойнік ляжыць не ніц, а дагары. Гарэлку і ежу астаўлялі – такі закон. Аднойчы на Дзяды брат лавіў рыбу, вельмі стаміўся. Калі ўсе маліліся, яму стала дрэнна, паваліўся на пол. Потым яму паляпшала, але памёр ён раней за ўсіх, у Чувашыі, ад маланкі.

**Зап. экспедыцыя ПДУ у 1996 г. ад Карпекі Фядоры Марцінаўны (нар. у в. Слабодка Свенцянскага с/с), 1910 г.н. у в. Клешчына Бешанковіцкага р-на.**

**1192.** Вось на Дзяды яду са стала не ўбіраюць, і яна да заўтра стаіць. А гэта во саседка убрала усё і пашла спаць. І сьніцца ёй, што прышла ейная матка з падругай, адкрылі дзьверы, паглядзелі і гаворать: "Пойдзем, тут нічога нет". А гэта дзяды прыходзяць на памінкі.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

**1193.** Вечарам вараць клёцкі, як у нас. А вы знаеце, якія клёцкі? Куццю дзелаюць. Ага, клёцкі з душамі, яешніцу пякуць у місі. Яйкі там, малака крыху, ложку мукі. Для такой яішніцы, раньшэ помню у нас гліняная міска, з гліны такая бальшая была.

Ну, патом ужо вечарам на Дзяды баба кветку запальваець на стале, нас паставіць усіх у рад, а сама становіцца первая, Богу моліцца, ну а мы ўсе ззадзі стаім. Некаторыя можа і пасмяёмся самі с сабой, толькі ціхонька. Ну гэта ж дзецтва было. Бабушка пасадзіт, а сама наперадзі моліцца, моліцца. Памоліцца, памоліцца і сядзяць. Садзіцеся. Вот Дзядам! У каждай міске куццю паложыць у тарэлачку адзельна, яішніцу аддзельна там, і мяса варылі і поліўку варылі такую: называюць поліўкай, мяса вараць, патом праціраюць.

І усё гэта, і паставяць усё ў блюдзечку на стале астаўляюць, каб яно начавала. Прыйдуць Дзяды, будуць дзедаваць. Ніхто з рабят, штоб не браў, пака дзядам не адложыцца. А потым, а патом ужо самі начыналі.

**Зап. Лобач У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Лысовай Вольгі Пракопаўны, 1929 г.н. (нар. у в. Забалоцце Ушацкага р-на) у в. Вуглы Ухвішчанскія Полацкага р-на.**

**1194.** Чэцвера Дзядоў гадавых. Траецкія былі, Асеннія, наверна, і ў Масленіцу былі. Кашу з круп абычна з пярловых, поліўка штоб была сама паследняя, а каша первая, і клёцкі, абычна з мукі і ў малацэ.

Тады звалі дзядоў, нада памаліцца Богу. Нада сначала "Отча наш" памаліцца, адкрыць пуць Богу, а тады звалі, прыглашалі: "Хадзіця к нам на Дзяды, на вячэру, спрыяйце нам, памагайце нам". Былі случаі, таму, хто ня справіў, дзяды тады сняцца, ложкамі ляпаюць і есці просюць. Ёсь што-та, ёсь.

Вот у нас у Забор'і. Жыла жэншчына старая такая. Манька Прыстаўка, і Геня, і цётка Наста, мы яшчэ дзеці былі. Як Дзяды, содзюцца за стол і

завуць дзядоў: *“Прыхадзіця, маленькія і старэнькія, дзяды і прадзеды, усе прыхадзіця і ўсіх завіця, знакомых сваіх вядзіця”*. А яна кажаць: “Не нада, нашто ўсіх збіраць, во прыдумала, не нада зваць”. Ну і ўсё. Ляглі спаць. Гэтым нічога, а ей няможна заснуць. Прама кладзець ей нехта падушку на галаву і ўсё. Не спала ўсю ноч. Вот відзіця, нешта такоя ёсь. Ну завіця ўсіх, хай прыходзюць, нашто яна так.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Скумс Марыі Яўгенаўны, 1930 г.н. і Скумса Фёдара Цімафеевіча, 1935 г.н. у в. Баравікі Сенненскага р-на.**

**1195.** Першага наябра былі Дзяды. Запісана ў календары – Дзмітрыеўская субота. І даўней называліся Дзяды. Чатыры разы ў гаду: Дзмітрыеўскія дзяды, Масленіцкія, Радаўніца і Траецкія Дзяды. На стол юшку варылі, куццю ставілі, ну, астальное – усё ішло. Юшка – гэта кладуць у ваду кусок мяса бальшы, тады яе пракалоцяць там, каб яна была кудравінькая, кладуць смітану, падкісляць яе, ну каб ужо ўкусная была.

А дзядоў мая мама звала так: *“Дзядочкі-бабачкі, хадзіце к нам абедаць, старыя і малыя, хадзіце к нам абедаць, у каго не к каму ісці, не к чаму – усе ідзіце к этаму столу. Самі ідзіце, малых вядзіце, а хто хадзіць не ўмее, самі нясіце”*. Але ўсіх звалі. Мая мама на двор хадзіла (зваць).

А куццю на двор яна не насіла. Куцця стаяла на стале. Потым яна ложкай, брала чыстую тарэлачку, усяго накладвала і выносіла на двор. А назаўтра ўсё сабранае гэта, накладзенае, брала і казала: *“Дзяды ня елі, з’ядзім, каб зубы не балелі”*. І ўсе па кусочку. Во як. Самі бралі і елі. Тры разы гаварылі так.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

**1196.** На Дзяды бальшынство паміналі дома. Прыглашалі усіх дзядоў, адкрывалі дзверы, хазяін станавіўся на парог і прыглашаў: *“Дзяды, старцы, прастарцы, прыхадзіце ў госці. Памянём усіх хлебам-соллю”*. Ну тады садзіліся і паміналі. Лажылі на тарэлачку два маленькіх грошы, хлеба там, кашы, еслі была выпіўка, то выпіўка. Эта шчыталася, што ўсім дзядам і эта тарэлачка аставалася на ноч, каб этыя дзяды прыйшлі, памянулі.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у п. Обаль Шумілінскага р-на.**

### 1197. Праявы на Дзяды

Баба нам адна расказвала. Яна к падруге на Дзяды хадзіла. А што адна, узяла і пойдзе да падругі. Ну, там дзядуюць, вып’юць, і бывала заначуе там. І тады раз заначавала, і кажа, відзіць сон: “Ідзець мая маці і я іду, і маці ідзець. З палачкай ходзіць і кажа: “Дзе ты, паваляха, ходзіш? Як не

прыду – хата ўсё замкнёна". "Тады я, – кажа, – праснулася ў гэтай падругі і пашла ноччу дамоў, і ніколі болі нікуды не хадзіла. Нада дома".

А мне раз тожа мама мая саснілася. Мылася я ў бані на Дзяды, і ў мяне кончылася вада халодная. Гарачая ёсць, а халодная закончылася. А неяк на Масленку, мароз, снег, і я палянілася вады прынесці сабе. Узяла снегу ў тазік, укінула і пашла, а Дзядоў пазвала ў баню: "Дзядочкі, бабачкі, хадзіце к нам у баню". Во так прыгласіш. І ўсё.

Ляглі спаць, а ноччу сніцца мне мая мама. Ідзець, ідзець, а я не дома – недзе далёка. І ідзець у пальце, хустка вялікая, але голая, без рубашкі. На целе ў яе лісце, пальто расхінулася, а там лісце. Я пытаюся: "Дзе ты была, у бані?". Яна кажа: "У бані". – "А чаму не абдавалася?". А яна мне гавора: "Гарача, гарача абдацца". А я ж вады халоднай не прынясла, і яна мне і сніцца. Ніколі не думала, а яна мне прыснілася. Нада было пакінуць вады халоднай, вады халоднай прынесці ў баню. І венік кідалі, усё. Усё акуратненька пакладзеш.

На Раданіцу ўсе хацелі, каб добра схадзіць, і я тожа. А бацюшка гавора, што на магілкі нельзя гарэлку несці, і есці, спраўляць, гэта самае, абеды на магілках. Ну і ладна, не панісла я гарэлкі, я ж ня п'ю. Ну і легла я спаць, сасніўся мой хазяін. Кажа: "Што, табе гарэлкі жалка? А я найду, найду". Праснулася, во, бацюшку слухай… Гэта ж ад веку ідзе, мая маці брала гарэлку і закуску, і я бяру да яе. І ка мне будуць прыходзіць браць. Яшчэ Радаўніца не была, а ён мне ўжо сасніўся.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

**1198.** Восеньню ж двое Дзядоў у нас. Гэта Старыя Дзяды, а тады ўжо Дзмітраўскія. Старыя Дзяды пастаянна павінны адбыцца да 5-га, каб яны ўжо адбыліся за нядзелю да Дзмітраўскіх. Вот Старыя Дзяды, а ў другую суботу Дзмітраўскія. Вось пайшла я адзін раз на магілкі ў Саўскі Бор, да партызан. А там, на тых магілках, я бачу якая-та замураваная жэншчына. А мне брата жонка кажа, што гэта скарбяшчая Божая Мацер. Адны Дзяды прайшлі і на другія я іду да брата, а папутна на гэтыя магілкі я зайшла і абышла іх з малітвай. Сама стала ўніз к выхаду і на каленках іду Богу маліцца. І тут, не дахадзя да палавіны гэтай Божай Мацеры, стала мне ў вачах, як удзень пры электрычастве, святло. І ў рад каласы пшаніцы залатыя стаяць і аж к ней тыя каласы ідуць, і сама яна залатая. Я думаю, што святыя там людзі былі пахаваныя.

**Зап. Лобач У. і Пашкевіч І. у 2006 г. ад Шпет Надзеі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на**.

**1199.** Да, мама расказавала. У нас росцьвеннік памёр, первая субота, первыя Дзяды ў гэтым гаду. Пашлі мы туда, прышлі мы дамоў аттуда, а на стол ім, наверна, нічога не паставілі. Мама была очань рэлігіозная, яна няпраўду не гаварыла, бо очань баялася граха. Прышлі мы, аж чуем – тра-шчыць на печы, а знаеце, даўней жа не было ні свету, ні этых лампаў кера-сінавых, а была лучына з дзерава, шчапалі тоненька і палілі. І печку ей падпалівалі, такая тоненькая лучына. Гавораць: шапаціць нешта на печы эта лучына, яе ж лажылі на печ, каб сохла. Шапаціць гэта лучына. Думаець мама: можа гэта толькі ей чуецца. Яна тады да папы: “Чуеш, Макар, (Ма-кар яго звалі) ты чуеш, што гэта такоя, можа кот шапаціць на печы?” І апяць шапаціць лучына на печы. А гэта значыць – мы дома не атмецілі Дзядоў, а пашлі куда-та са сваей хаты. Дык гаворыць: “Паднялася я, падта-піла печку, і ўсё тоя, што нада было, паставілі на стол, памянулі і ляглі спаць”. Вот эта я помню.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Лях Вольгі Макараўны, 1927 г.н. у в. Вілейка Докшыцкага р-на.**

**1200.** На Дзяды, хто баньку гэту робіў – гэта жывым, каб здароўе было, а хто на тым свеце, каб пакой вечны атрымалі. Дык кожны раз, як таплю баньку то таго памяну, то таго.

Мая братава казала, што яна ўжо пазвала была дзядоў, каб усе ішлі мыцца. У баню. А тут прыйшоў малец, яшчэ ня мыўшыся, з сяла нейкі. Пайшоў, прыпазьніўся, а яны, тыя дзяды, кажа, жужжаць ва ўсіх кутках. Ён скорэнька надзеўся і пабег дамоў нямыты.

**Зап. Лобач У. і Пашкевіч І. у 2006 г. ад Шпет Надзеі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на**.

### 1201. Гадавіна па памерлай бабулі

Тут памёрла наша бабуля. А ў мяне былі малыя дзеці, я дажа забыла-ся пра этыя Дзяды. А тады віджу сон: баба Аўдуля мяне ў печ цянець і ска-вароду з сырымі ладкамі. Мяне ў печ цянець і на скавародзе сырыя ладкі.

Яна прыхадзіла… Ой, было на самым дзелі. Год быў ці сорак дней? Я, прыгатовіла ўсё. А баба жыла ў калхознай хаці, і эту хату ўжо занялі. Росцтвеннікі ўсе рашылі, што ў мяне будуць атмічаць. Ніхто мне не пама-гаў, а я пакуль курэй натушыла, ды бульбы наварыла.

Сабраліся, пасядзелі, сядзелі да цемнаты. А Анькі Пятаковай мужык апаздаў. Ну так палучылася, што было на сталe недапітая, мы яму і атдалі. Палучыўся стол без гарэлкі. Закуска ёсь, а гарэлкі німа. Толькі тая чарачка, што ей налітая. Усе раз’ехаліся, мы ляглі спаць, а я дачкой малай спала. А Сяргей мой з мужыком спаў.

А я ўстала ноччы ды гляджу: хто эта вады кала койкі наліў? А мой Васкрасенскі гаворыць: “Ай, я не хацеў Сяргея нікуды несці, спусціў з койкі, дык ён тут і напісаў”. Я кажу: “Калі ты ня хочаш іці, будзі мяне, такоя большы ня дзелай”. Павяла я Сяргея пісаць, а патом апяць палажыла к мужыку на койку. А сама пашла к сабе на койку, толькі села на краваць, адзеяла ўзяла, каб накрывацца, як чую – нейкі раскат грома раздаўся. Год быў па бабе... Точна. Аўгуст. Раскат грома.

Я хацела сказаць: “Вова, ці заклатая ў нас юшка, граза ж начынаецца?” Хачу сказаць, не магу сказаць. Не гаворацца чаго-та. Я ж не п’яная, я вабшчэ не піла нічога. Начаўся яшчэ раскат грома і такоя што-та ў куце начынаецца: скок-скок-скок, што-та такоя, як птушкі спрыгіваюць к сталу. А стол так і стаіць кала іконы. У мяне ўсё атнялося, я ляжу і думаю: ці я дурная, дык я ж нічога не піла. Узяла сама сябе за ліцо, ліцо чуствую, Олю пагладзіла. Дык што эта ў маей хаці?

А там кала стала ўжо як цэпі нейкія звіняць, грукат, стук. А тут шкап, занавескай аддзелены ад стала, шкап стаіць. І чую, як гусі ўтрам выйдуць, во так во крыламі шах-шах, во такоя во, воздух закалыхаўся, так шах-шах. Чую – стаіць хто-та кала мяне. Ну вот я чуствую – стаіць хто-та кала краваці. Я адзеяла скарэй і накрылася з галавой. Я паляжала ціхонька, чую, нехта пашоў ад мяне. І гэта апяць – скок, скок – кончылася ў парозі. Ад кута начаналася, а кончылася ў парозі. Скок-скок-скок, і ўшлі. Я тады ляжу – цішына.

Я тады: “Вова, Вова!” – на мужыка. Ён: “Што?” Я: “Ты чуў што-небудзь?” Маўчыць. Я: “Ты чуў што-небудзь?” – “А што?” Я кажу: “Я чула нейкі шум у хаце, як кала мяне нехта стаяў”. А ён гаворыць: “А мяне нехта за пяткі шчакатаў” (Смяецца). А ягоная краваць якраз туды к сталам. Аўгуст. Цёпла, дык ён ногі выцягнуў туды к сталам. (Усе смяюцца) Дык а што эта такоя. А мяне такі страх праняў, што панос начаўся. (Усе смяюцца)

Ён мне: “Ну пашлі”. Ён папераду, а я ззадзі. Пашлі, свет уключылі. Вышлі на вуліцу, пасля таго я больш не заснула. Эта было дваццаць мінут фтарога, як цяпер помню. А ў шэсь утра пашла к сасеткі і давай ей расказаваць. А яна: “Эта ж баба Аўдуля прыхадзіла, што не ў яенай хаці атмічалі ейны стол. Вот яна табе шуму і надзелала”.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Васкрасенскай Жаны, 1938 г.н. у в. Рамашкава Талочынскага р-на.**

## ВУСНАЯ ГІСТОРЫЯ

### 1202. Пра бандзітаў

А бандзіты былі па ўсёй хутарской сістэме. Да Велеўшчыны даходзілі. А Цярэшкі, Пастрэжжа – ані тут шасталі і днём і ноччу. Яны жылі на Смоленкі – хутар такі. Там іх штаб нахадзіўся. Атаманам быў Сямён. Замясціцелям ягоным быў Якуб. У яго было два сыны. Адзін сын, Ёзап кажацца. Быў у яго хутур. А жана ў яго была очань красівая. Ён пазваляў бандзітам ізьдзевацца над ней. Первы раз яна дала цягу. Дагналі яе ў Кветчы. Рас Якуб быў замам у атамана яе не расстралялі. Втарычна савяршыла пабег – дабралася да Слабады. У Жортаі і Слабадзе стаяла паўроты салдат, называліся красныя. Яна этым сказала дзе бандзіты, паказала ўсё сцежкі-дарожкі. Сам Сямён уцёк ат вазмездзія, кажуць, што ў Польшу. А Якуба і двух сыноў у Барысаве павесілі. Ліквідзіравалі іх у 1925 гаду, пра гэта мне і бабуля і мама расказвалі, і многа яшчэ хто.

**Зап. Тухта В. у 2007 г. ад Блажэвіча Станіслава Іванавіча, 1933 г.н. у в. Домжарыцы Лепельскага р-на.**

### 1203. Калектывізацыя

У нас было сярэдняе хазяйства, папа очэнь добры быў, вобшчэм, сям'я харошая была. Патом стала калектывізацыя, у трыццаць чацвёртым гаду. Я ж усё гэта помню, з дваццаць пятага года я. І ён няйдзець у калхоз, мама просіць: "Пойдзем, – плачыць, – напішы заяву". Ён работаў секратаром у воласці да гэтага: "Ты што хочаш дзелай, я ў калхоз не пайду!" Ну, у калхоз няйдзець. Прыйшлі тады, карову забралі, коней забралі, адзёжу забралі і зярно. Мы асталісь босыя, голыя. Чацвёра дзяцей, а старшая дочка ўжо была ў Віцебску, яна з пятнаццатага года, а гэта ўжо трыццаць чацвёрты. Яны яе аддалі нянчыць к яўрэям, ну яна к харошым яўрэям папала. Яна была ў Віцебске, а нас трое асталася дома. А к вечару, гаворыць, ідзіце ў школу на сабраніе, вызываюць. Ну і пайшлі, і па́пу далі пятнаццаць гадоў цюрэмнага заключэнія. У трыццаць чацвёртым гаду.

Ну да яго ніхто ў цюрму не езьдзіў, а мама езьдзіла. Ну тады яшчэ аўтобусаў не было, а хадзіў параход да Бешанковіч. Вот ён вечарам прыходзіць, а к утру ўжо ў Віцебску, па Дзвіне. У трыццаць чацвёртым яго пасадзілі, а ў трыццаць сядзьмым выпусьцілі, у яго туберкулёз лёгкіх, ён як спужаўся на судзе, і ў яго туберкулёз. Да, да, гэта іспуг. Ён прыйшоў у январэ, а ў апрэле ён умер, схаранілі ў трыццаць сядзьмым гаду.

Вот пятнаццаць гадоў далі, есьці нечага, садзіць гарод тожа нечым. Ну, мама купіла, засеяла пійсят сотак гарохам, і мы ўсю зіму елі. Яна кацёл у печ паставіць, і елі. Яна ў калхоз пайшла сразу на ферму даяркай, свіней глядзела, цілят. І голыя і босыя, у школу ў лапцях хадзіла, ні штаноў не

было, нічаво. Ну і жылі, летам яшчэ ягады. Ну, праўда, яшчэ меньшы брат, ён паміраў, і прыходзіць мамін брат, летам, ужо канец іюня быў, ну і я пачула што яны гаварылі, што ён паміраець ужо. А на хутары Баркі альха расла, ну я пашла і набрала там землянікі. І думаю: “Я ж яму дам землянікі, і ён паправіцца”. І ён з’еў гэтай землянікі і папраміўся! Я яго спасла! Ну і тады я стала хадзіць у ягады, там лясы каля нас, там усё врэмя чарніка, клюква, брусніка. Мы басяком бегалі, але зьмяя не ўкусіла, мама здасьць нам на кніжкі, вот і ў школу ходзім.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г.н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

## 1204. Трыццаць сёмы год

Раньшэ каго раскулачывалі? Чэснага рабочага чалавека. Цяпер ёсць няпраўды, а тады яшчэ больш было. Тады людзі не маглі да нікога абраціцца, нікому расказаць. У мяне самой у 37-м гаду… Папа на полі касіў, яго забралі, тройка гэта, і па сёняшні дзень. Брат у мяне старшы быў Нікалай, перад вайной дзесяць класаў кончыў. Пісьмы стаў пісаць, адрас узнаў, стаў пісаць усё. Адтуль палучылі пісьмо, і года не было. Увосень узялі, а 22 мая, сказалі, памёр. А яшчэ быў старэйшы чалавек, іх разам узялі. Казаў, захварэў, на работу выйсці на смог – растралялі. Ну вот і ўсё, і па сёняшні дзень, мае дарагія. Мне трудна ўспамінаць. У мяне ў вайну і маму забралі, растралялі…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лужніковай Фаіны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Добрыгоры Бешанковіцкага р-на.**

## 1205. Трудная жызнь

Некалі было слухаць (песні). Работаць нада было, мужыка нет. Гэта цяпер поле стаіць: ідзі і касі, хоць пруд прудзі. А тады сотачку табе дадуць, нада гэту сотачку скасіць і знесьці на плячах. А тады ноччу хадзіць і дзенебудзь красьці салому, сена са стага. Гэта ж была дужа трудная жызнь, не давядзі Гасподзь, якая была.

А цяпер вот мой сын прыехал запрошлы год і пайшоў у венікі. І прыйшоў, сеў во тут во на скамейцы і прама як не плачыць: “Мама, каб цяпер гэдак было, як тады гэдак было з сенакосам, як мы былі малыя, мы б былі багатыя, багатыя, мы б дзяржалі тры каровы, мы б дзяржалі авец. Поле ўсё стаіць не кошаннае”. А тады, Божанька маё, вот я па пяць гектар выкашвала. На работу хадзіла за сезон яшчэ пяць гектараў сенакосу выкашвала з сынам. А тады мне з пяці гектараў давалі працэнт сена. Вот такі закон быў, кагда плацілі за каждае дрэва, кожны крыжоўнік, за курэй, скольска курыц, яйкі здаваць нада, масла здаваць, малако здаваць. Ты знаеш.

Тату забралі ў трыццаць восьмым годзе. І сколькі яму далі, ніхто не знаець. І за што ўзялі, ніхто не знаець. І толька ўжо после смерці Сталіна, і тады нам прыслалі бумагу, што Мароз Іван Маркавіч рэабіліціраван пасмертна. Вот як. А мы ўжо нас асталася пяцёра, яго забралі ноччу, і ўсю ягоную адзежду забралі ноччу. Прыехалі, забралі і ўсё. І па сей дзень не знаем, куды звязлі, што зробілі з ім, і ніякага ні свіданія не было, нічаво. Вот так мы гаравалі.

Гэта пры Сталіне, да. А пазней ужо стала лепей троху, ужо калхозы багацей сталі. Усё ужо саўсём другое дзела было. Ужо мае мальчыкі на работу… Прыйдуць са школы, кінуць сумкі чэраз парог і яны бягом. Брат быў брыгадзірам, ён ім коніка запражэць і яны паехалі сена вазіць, салому вазіць, і лён развазіць, лён раскідаці – і ўсё. А нам ужо на рабоце, бальнічным работнікам, давадзілі па паўгектара лёну вырваць. Вот, нада лёну было вырваць па паўгектара на каждага работніка. Цяжолая была жызнь, але ж усё перажылі, усё як нада. Я вот выгадавала тры сына: яны ж у мяне такія рабацяшчыя, яны ж не п’яніцы.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

### 1206. Пра Язэпа Драздовіча

Ой, чула, чула пра Язэпа Драздовіча! Ён любіў дужа дзяўчат, у мяне і кавёр быў, малюваў ён. Ой, няможна з яго, прама хахаталі. Гаворыць як малады, а сам ужо старэнькі быў. А ён дзе малюець, там і ўлюбляецца. Ага, улюбчывы… Звычайны старычок быў, красіва маляваў. Ага, хадзіў і маляваў, каму нада. Ну і вот, бальшы кавёр размалюець там красіва, робіць круг, так кругом гэтага круга цвяты, а ў кругу ў гэтым такі відок здзелаець, што заглядзеньне. І раку, і касьцёл мне намаляваўшы. Дыванок у мяне ўкралі, як сталі ў музей браць, і ўсё, ён быў ужо вынесены з хаты. Сталі ж ужо лепшыя дываны купляць, і гэны кавёр так і зьнік.

Ён добры такі быў дзядзька. Ну і кармілі ж яго, еў з намі радам і ўсё. А сам ён жыў дзе-та каля Мосара. Я так ужо забылася. Ён хадзіў, вандраваў, многа-многа хадзіў. Як прышоў у Сталіцу, пашці ўсім маляваў. Не было ж дзе купіць, дык малявалі. Палатна атразалі сколька хочыш, а тады начорна выкрасіць, і ён красіва нарысуіць, як жывое ўсё. А скока ж яму плацілі я ўжо забылася, але ж мусіць плацілі. Дзе дзяўчаты, там і ён маляваў. Ну, так як я чула, так ён ня меў сям’і. Эта я ішчо маладая дзяўчынка была, можа гадоў 16 якіх, а ён ужо старэнькі быў.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1207. Шпіёны

У мяне два браты перайшло граніцу (у Савецкі Саюз). Аказаўся адзін аж у Магадане, і там паўтара гада яго памучылі, ды і ўсё. Перахадзіў граніцу, а надзеўшы быў добра, у касцюме. Сапагі хромавыя, і яшчэ спічкі былі, ён курыў. Спічкі былі з сабой. Прызналі, што ён шпіён. Ён ішоў жыцця добрага дабываць, пашчыталі яго шпіёнам. І саслалі аж у Магадан, і ён паўтара гады памучыўся, і ўсё. А другі брат перайшоў граніцу, дык восем гадоў у цюрме сядзеў. Вярнуўся дамоў і пражыў да 80 гадоў. Тожа гора цяпнуў.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А. у 2009 г. ад Пецько Антаніны Іосіфаўны, 1925 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 1208. Пра Заходнюю

Возера Каравайнае – там пагранзастава была. І ў нас застава была блізенька, во дзе кілометар. Гірсы называлася. Салдаты іграюць. Магнітафоны не былі тады, а так былі праігрывацелі. Салдаты музыку як уключаць, там песні раздаюцца возле заставы, і там сейчас граніца ў кустах. Мы хадзілі са школы і капалі просек там скрозь.

Я жыла ўжо пры Савецкай уласці, пры калхозах. А як ў Заходняй Беларусі? Яны жылі, звалі нас *тарбэчнікі*. Як у 39-м гаду, ідуць, ідуць салдаты, ідуць. А мы на хутары там жылі. Ажно гэта з Польшчай вайна. І тады ўжо сталі, хто радня, сталі хадзіць – можна было. Адкрылі граніцу. І тады яны нас звалі *тарбэчнікі*. За то, што мы хадзілі туды, у іх пабіраліся. Трэба было то зярно купіць, то там што. Яны багацей жылі, яны выручалі. Я жала. Хадзіла летам, жала. Пажну, а вечарам яны рашчытываліся. Я ў аднаго хазяіна два гады жала. А вечарам рашчытываець меня – тры вядры насыпяць жыта. І я нясу ў такую даль на плячах гэтых тры вядры заработанных. А да калхозаў мае бацькі добра жылі.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

## 1209. Прусакі

Ну, Чысты Чэцвер, ужо каб чыста было. Але цяпер, дзеткі, няма гэткага, як даўна было. Блохі, нейкія тарканы, прусакі жоўтыя былі. А-а-й! Елі людзей. У нас у сяле было прусакоў пры Польшчы. Жоўтыя крылы такія. І яны вот як, як вам сказаць, такія жоўтыя, тарканы чорныя, шалупякі на іх – крылы. Як вот мухі вялікія ў нас. Дак яны такія бліскучыя, цвярдыя крылы ў іх. Дак скусаюць рабят!

Ужо ў маіх гадах была дзяўчына ў іх, дык скусаныя рукі, гэдак усюды скусана. І я кажу: “Дык яны ж у цябе, а як ты спіш?” А мы з мацер’ю на хутары жылі і ў нас не было тарканоў і прусакоў у хаце. Мая маці зёлак,

палыну якога адварыць – гэтакіх зёлак, во падбел расцець такая: дужа гаркая. Дык яна даўна клапы выводзіла. Абклеем газетай гэтай хату; хата халодная. Троху ўжо к святам: к Вялічку ці к Калядам, к Новаму году абклеем газетай. Дык яна варам апарыць, вара накіпяціць кацёл і кружачкай ліець, апарыць – у нас нікада клапоў не было. Чыстата была, усё. А як пойдзем у сяло, туды на сяло мы (дзяўчукі яшчэ былі гадоў па дзесяць, па восем), дык гэткія прусакі. Дык я кажу: "Як вы жывіцё? Гэта ж страшна легчы спаць, яны ж лезуць у рот усюды, к адзеялам". І цела гэткае краснае было, укусамі.

**Зап. Філіпенка У. у 2009 г. ад Васілевіч Галіны Іосіфаўны, 1927 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

## 1210. За Польшчай

Да, за Польшай... Ой, пан ніякі быў, эта німа чаго казаць, што пан ніякі быў. Вот роўна Дзедзіна, ў канцы дзярэні, тамака ўжо панская зямля была. Еслі карова зойдзець там, хоць ну мала-маленька, пан – штрафу, а які штраф – дзень ці два дарма рабіць нада на яго. Там яна хоць і не сарвець, даўней ж не хватала, дзве кароўкі людзі дзяржалі, каб болей малака, сям'я ў нас во ў бацькі было сем чалавек. Дык есці што нада, а зямелькі, за зямлю ж бораліся, не хватала. Ну вот і свірэпіца жоўтая сядзела ў пана, кабанку каб даць, дык і тожа не даваў ірваць. І помню я вот у лес пашла і с сястрой большай, і назьбірала ягад карзіначку, а ён ехаў якраз на брычцы на такой. У лясу паставіў брычку, мы ня відзелі, і ішоў ціханька. Падышоў, трах на калена, ягады выспаў, і паламаў эту карзіначку…

Даўней жа пан прыедзіць толька на веласіпедзе, гэта пан прыехаў. А больш ні ў кога веласіпеда не было. Вот яшчэ помню хадзіла ў школу, бацька мне сплёў лапці лыковыя. Пойдзець у балота, лыкі такія цягнець на плечах. Дык гэта дома насіць, і дадуць анучачкі такія. А другія верчаныя сплёў, з вяровачак, з маленькіх, з тоненькіх, і зробіў кручочкам, дык у мяне гэтыя лапці віселі ў школу. Прыду са школы, этыя лапцікі нада сняць, і павесіць, каб пасохлі, а лыковыя гэты абуваю.

І ў школу ж я хадзіла пры Польшчы, і ў первы клас, і ў другі. У нас была школа ў канцы дзярэўні. Ну і пан наказаваў. Дзісціпліна была такая рэзкая, толька дзяржыся. Чуць дзе хто шавяльнецца, шчас у канцалярыю сваю завець, кажаць, ану пашлі. Ідуць, как дасць лапай, дак рука спохнець. На калені, мала гэтага, паставіць на калені і палку ў рукі дасць, і дзяржыш угору, а рукі ж млеюць. А ня слухаеш, после школы быцькоў вызаваець і са школы вон.

Як пашлі мы первы раз туды (ва Усходнюю Беларусь), у Шалагіры, у нас жа недалёка граніца была, тут во Стараселле, на эты бок. Дык пашлі і

тутака у Гліннае ў магазін, нам дзіва. Ай, помню, як мы дзівіліся, што абоем хаты павыклееваныя, дык мы вочы патарэчылі, кажам, як людзі жывуць. Абоі ніколі ня клеілі пры Польшы, бумагі не было, зберыш газетай трошачкі выклееш. Мыеш к Пасцы вадой. А занавескі, глядзім, эты даўгія вісяць.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Чэчыкалавай Ганны Лаўрэнцеўны, 1930 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

### 1211. Пры Польшчы і Саветах

Куры былі, гусі былі, індыкі былі, усяго чыста было, авец было, свіней было. Козы былі. Усяго гэтага у нас ужо было, у нас у саміх і то чатыры каровы, пятый бык. Всігда быка, тады да быка кароў.

Самі працавалі, ага. У нас было дзесіць душ сям'і было, было сімнаццаць гіктараў зямлі. Дык а гэтых сімнаццаць гіктараў нады ж было справіць. Гэта ж ужо усё сеілі, тры гіктары бульбы садзілі толькі помню, а там і лён, і авёс, і ячмень, і жыта, і пшаніца – гэта ж усё чыста сеілі самі і самі мы жалі, і ў снапы візалі, і тады гэты снапы лічылі. Сярпом жалі. Гэта ж жыта яшчэ добра жаць, яно ж бальшое гэткае, і тож рукі разбаляцца. А вот ішчэ як нада ячмень жаць, а Божанькі! Каласочкі малінькіі, бываіць гэтак сагнуўшыся жнём, жнём, жнём сярпамі – усё чыста жылі. Усяк наработалісь, цяпер гэтак ня робюць людзі, гэтага нічога ні работають.

І нада ж было на гэту скаціну накасіць, сену назбіраць, высушыць, свазіць на млын авечкам, свіням дабро, гэта ужо мяхі бальшыі насушым, насушым у печы, на печы, у мяхі насыпаім і вязём на млын. Можа якіх дзесіць мяхоў на воз паложуць, мелюць, прывозім, замешываім, свіням даём і курам.

Мельніцы былі там у нас, не так далёка, мы туды вазілі там нейкіі, я нізнаю, камні малолі тожа, камень на камень… А ў нас былі свае жорны, называліся жорны. Свой дзядуля зробіўшы, камень на камень палажыўшы, тады пры боку зробіўшы неяк ён быў ручку. І пойдзіць малоць. Возьміць насыпіць такую настаяшчую каструльку, даўней жа ні было каструлі, там якую-небудзь лубачку і пойдзіць, і тады меліць, меліць, меліць… Наменіць, прынясець гэтае ў хату, і варым сабе есці, поліўку называлась такая, варылі мы поліўку з гэтай мукі Прыправу усякую, мяса клалі.

Было многа авец, зарэжам якіх-нібудзь сямёра авец, бальшыі цэбры тады панакладаім, пасолім у гэтых цэбрах мяса, і тады ядзём цэлую зіму, ня гэтак, як цяпер, купіш і німа, а ў нас поўна. Мяса мы, гэты кумпякі, як свіныі бальшыі кумпякі, гэта засаліваім. Мы іх нядзелю засыпім соллю у бальшых начоўках, тады гэтыі кумпякі, кручккі былі такіі жалезныі, зачэпліваім, падвешываім на гарэ, на чырдаку, тады даўней гара звалася на хаці. І вісяць яны, абсохнуць, абсохнуць, дык слаўнае такое мяска суханькае,

гэткае як цяпер ужо такое. Тады ж ужо было калбасы бальшынство дзелалі, калбасы нарэзалі, а кішкі гэтыі свіныі чысцілі самі, гэта мылі і ў гэты кішкі накладалі. Так у бабулі такое горлачка было, уставіць у кішку, ну і піхай, піхай. І многа гэтых калбас наробіла, а калбасы укусныі свае! Такіі і капцілі, пакапцяць, капцілачкі былі паробленыі калі хаты, калі бані. Капцілачкі з дрэва, такіі доскі збівалі, тады там падпальвалі, дым ішоў і капцілася гэта калбаска. Мяска капцілі, сала капцілі, каб добрае сала ўкуснае было, ні такое ж, як цяпер.

Ну бальшынство ж у сьвяты ужо дзяржыш, што-нібудзь лепшае. Але ж, як хватала, дык і кажны дзень елі. Пастаянна бліноў, дранак напячом, сала напячом, скварак наложым, і бліны, і етак ядзём. Тры стравы елі: первае страва жыдкога – суп, втарое –там бліны якіі, там якая картошка тушаная, а на трэццiя – бялёнае, абізацільна крупы якіі-нібудзь ячменныі і белім малаком у катлах у бальшых. У нас кацёл двухвядровы быў, то ж дзесіць душ сім’я. Бацька, матка, нас шасцёра было, дзядуля з бабуляй былі – вот нас было дзесіць душ.

Я вот січас думаю: як б гэта было у крайнім случаі вайна, еслі сягонні вайна – заўтра ж у нас голад. Мне ж нічога у магазіні ні далі б, вайною ж ужо ні даюць нічога , ні глідзяць для людзей, як быць. А як жа, думаю, даўней у нас было, столькі зірна, столькі усяго чыста: і сала, і мяса, і мы ішчэ ні галадавалі. Ну людзі былі каторыі меней зямлі мелі, тыя галадавалі, жабравалі, прыхадзілі. Із травы пяклі такіі гэтыі аладачкі травяные, травы нарэжуць, прыйдуць, плачуць: “Дзядзечка, дай хоць крошку якую-нібудзь мукі, траву ўзмясіць!” Як змесяць траву, яна спячэцца, а так жа трава ні спячэцца адна. Дык мукі трошку дзядуля ўжо дасць ім, там каторыі бедныі людзі і галодныі былі. Адзін такі называўся Богша, хадзіў, хадзіў, еў, еў маліны гэтат Богша і памёр. Ну што маліны – усіроўна голад.

Самі шылі, ткалі самі, ніколі нічога ні купілі – усё самі і шылі, і ткалі. Толькі што пастаянна бяльё ніжняе было з белага было палатна, а ужо якое-нібудзь чаго-нібудзь вытчым. Як ні было мацерыялаў купіць, дык самі вытчым, і сукенку пашыім і на вечарынку ідзём у гэтай сукенцы, у прастой. А мужчыны вот гэтак апраналіся, як мой дзядуля. Дык ён у бялы хадзіў, ні надзіваў верхняй адзежы, бяльё гэта ніжняе. Ідзець, а там у нас была зімля, кажам: “Дзядуля, пойдзіш ж праз Хвядосава, там жа стыдна, тыж ідзеш у бялы”. – “А трут яе!” – была пасловіца у яго. “А трут яе! Мне тады надзівацца нада і здзівацца, дык лепей лажысь спаць не раздзіваўшысь”, – хадзіў у бялы.

Ну а зімой жа такіі былі, кажухі шылі, фуфаек гэтых ні было, ужо пры савецкай уласці фуфайкі, а так – кажухі шылі. Выраблялі гэтыі аўчыны, памнога авец гадавалі, а тады гэтыі вырабляюць… Называіцца “выроб-

ка аўчыны”, так распінаюць, скрабуць мелам, такі мяккі, а тады карой засыпаюць і дзелаюць верх красівы аўчынкі, жоўценькі які-нібудзь. Ну, тады кажухі шыюць. Завём ужо краўца на дом, прыізжаіць кравец, і шыіць кажухі, армякі называлісі, буркі такіі бальшыі на плічах насілі, із сукна с тканага.

Дзядуля помніў старую, помніў старую шчэ помніў вайну, як быў цар. Ня быў гэтак, што прэзідэнтам зваўся, а царам зваўся. Дык ён казаў, што дужа пры цару добра было жыць. А як прыйшла польская уласць, ні любіў дужа польскай власці. Ён рускі, па руску умеў гаварыць, а па-польску нада ужо і ні так гаварыць, дык палякаў дужа ні любіў. Ён праваслаўны быў. Ён па-польску ня умеў, а па-руску гэтак як мы, ці па-беларуску, ці па-руску, хоць якіі словы скажым па-прастому. Дужа ж чыстых такіх мы ж ня умелі, малаграматныі.

А пры паляках панамі называлі, “проша пана”, па-панску звалі, цяпер жа во па ацечаству называю, там Любов Ефстафавна, там Антоній Міхайлавіч, а раньшы то “панна Люба”, як дзеўкі былі, і мальцаў гэтак называлі, “да пана”. Гэнак пры Польшчы звалісі. А па ацечаству ні звалісі.

Хадзілі шпіоны із Расеі, прыхадзілі да нас, у нас начаваў адзін шпіон, і дык мы распрашылі у яго, як там жыць у Расеі, якая там жызнь. І гэтат шпіон нам расказываў, што так і так, што там ужо жывуць, што калхозы падзеланаі, у нас жа была собственнік, а там калхозы. А там, дзе мая цётка жыла, граніца была савецкая і з Расеій, во так на прыграніцы жыла. Дык яны там, бабы, работаюць, расейскіі, жыта убіраюць, а нашы ужо на польскай старане. Дык нашы ужо крычаць: “Бабы, як там у вас жыць, ці добра?” А йім было запрышчано, послі, як ужо прыйшла савецкая власць, казалі, што нам ні разрашалі гаварыць з вамі, з палякамі. Гэта ж во Двіна, знаіш Двіну? Гэта ж граніца была наша.

Як прыйшлі [савецкія], некаторыі ж радаваліся, як мой дзядуля. Ён думаў, што гэтак жыць будзіць, як пры Мікалаю. А як савецкая власць стала, як паставілі нас у кулакі, як разабралі усё чыста, нас адных аставілі голенькіх, усё забралі. А за што кулакі?! Мы ж самі сваім трудам усё эта нажывалі, эта ж мы знали, ужо знали, эта кулачыства – той, хто эксплуататываў чужы труд. Эксплуацірываў, дык той ужо кулак. А мы ж самі работалі, дзесіць чалавек нас рабочыі былі, затое мы і мелі там каровы, коні… А нас узялі паставілі у сельсаветы у кулакі.

Узялі тату майго у сельсавет, такая была стойка называлася с канём, надо было ехаць у сельсавет. “Ну, Шумуковіч, сабірайся, едзь на стойку с канём”. Ну, ён паехаў. Пабыў ён там. Далі пакет яму нейкі атвязці у раён. А ўзялі напісалі у сельсавеці, усё чыста у пакет на тату. Што ён кулаком, што ён такі, і атдалі яму завязці. Ён завёс у раён, ён атдаў, прыехаўшы, аж аказываіт этат пакет на яго быў напісаны, і тату ужо судзіць будуць. Вот

ужо будзіць суд такой і такі будзіць судзіць. А за што?! За што чалавека судзіць? Ён жа чылавека ні забіў, нічога ніякі врэд ні рабіў, што у план ні паехаў на кані яму суд.

І я помню сядзім мы на судзе, тату ж ужо судзюць. У Дзісне суд гэтат быў, ага. Далі тры гады цюрэмнага заключэння. І ў Полацку ён тут сядзеў у цюрме, мы прыізжалі да яго у Полацак, у цюрму сюда прывазілі яму есці. І вот тата бедненькі выйшаў із суда, надзеўсі, і пашоў па тэй старане Двіны. Сам пашоў у гэту, у цюрму пашоў сам.

Тры гады не адседзіў у цюрме, памёр, сем дней да трох гадоў не даседзіў. Прысылаіць ягоны друг, што кажыць, ваш ацец памёр. Я помню я работала у Дзісне санітаркаю у бальніцы, была пры савецкай властці. Гэта пры савецкай власці гэтак яго пасадзілі і нас раскулачылі, усё разабралі: запраглі нашых коней, пасадзілі гусей, авец у калёсы і кароў дзвюх прывізалі да аглоблі, да каня і паехалі, і кароўкі гэтыі шлі з боку. Гэта нас бралі, што мы ня выплацілі за кулачыства. Дужа многа плаціць нада было.

І такіх было, што тожа ў кулакі паставіўшы былі. Мы ж сабіраліcь усё штоб вывазіць жа строіліся, дык усё у нас пасабірана было, пазвязаные усё чыста, за тое, што быў вываз, а вываз прыедуць ноччу, забіраюць. Мая падруга аж с Архангельска пісала мне, як яе забралі, забраўшы гэтак бацькоў йіхных. Забралі, вывезлі, ня помню цяпер, дзе іна, ці жыва, ці не. Ніна такая. У міня фатаграфія ё, іна аж у Архангельску была.

**Зап. Круткін А. у 2010 г. ад Карбоўскай (Шумуковіч) Любові Еўстаф’еўны, 1922 г.н. (нар. у в. Баркоўшчына Мёрскага р-на) у в. Янкава Полацкага р-на.**

## 1212. За Польшчай і за Саветамі

Жылі [пры Польшчы] так, як сейчас жывем. Зямля была свая, у школу дзеці хадзілі, вот учыліся, таксама як і сейчас. Такая самая мадэль, была часная собственнасць. Вот я сейчас жыву на часнай собственнасці. Пры Польшчы власць да цябе ніякіх прэтэнзій не імела. Заплаціў налог, як і сечас пайшоў у сельсавет заплаціў за год на зямлю. А пры польскай власці гэта быў наказ дадзена табе. І плюс не зразу ўплаціць, апаратна было распрэдзелена – у такім месяцы столькі, ў такі – столькі, усе было распрэдзелена, сколькі нада за гэты год. І больш да цябе ніякіх прэтэнзій не мелі. Не мела да цябе уласць ніякіх праў да цябе, бо зямля твая, усе заведзена ў кнігу – гэта зямля, сямейнае палажэнія: скока дзяцей, дочак, сынавей… Ніхто ніякіх прэтэнзій не меў, дзверы не адчыняў. Была жызнь – красата! Гадуй скот сколька ты хочаш, даі кароў сколькі хочаш, прадавай малако. Праўда, за зямлю налог плацілі, а за карову не плацілі…

А калхоз стаў… ай і сам не помню… У 49-м, у 48-м калхоз гэты фарміравалі, а людзі ж няйшлі. Прыедуць раённыя прэдставіцелі, сабяруць людзей, а жэншчыны і маласць мужэй… Прыедуць, дапусцім, днем, і ве-

чар, і ноч ужо, і людзі начнуць драмаць, і людзі кінуць сабранне, і разойдуцца людзі. Пройдзець некаторае врэмя, апяць прыяжджаюць па гэтаму вапросу. Вот апяць, ну і што, куды ты дзенеся?

Хто пашоў сразу, быў шчаслівейшы. Што ж ужо зробіш? А як ужо мой баця, ён на тым свеце, не пайшоў, то налог аплаціў. Гэта была втарая палавіна лета, зернавыя ўсе заплаціў. А тут гэты калхоз і нада заяўленне напісаць, а ня можаш – таварыш табе напіша. Вот як не пайшоў баця, як увалілі налог апяць, ды яшчэ сільней. Тады ужо гвалту далі, што нічога не будзе, аддадзём, а чым самі будзем жыць?! Вот напісалі заяўленні і аддалі, і вот стаў гэты калхоз.

**Зап. Аўсейчык У. і Круткін А. у 2010 г. ад Радзюша Васіля Філіпавіча, 1928 г.н. у в. Івесь Глыбоцкага р-на.**

### 1213. Пра рэпрэсіі, калгасы і вайну

У мяне бацька быў граматны, і ён сам пяяў у цэрквы. Яго ўзялі ці ў 33-м гаду, узялі ў Оршы і расстралялі. Тату прадставілі, што ў Бога верыў. Богу верыў, і ён ужо там пяяў у цэркве, паднасіў свечкі, кадзілы, гэтае ўсё. Ну і яго, как враг народа, расстралялі і ўсё. Цяпер ужо гадоў ужо 10 прыходзілі, паехалі ў Оршу, напісалі заяўленне і мне аддалі.

Забіралі. Многа. Хто за што падпішацца. Можа хто даносіў, бо раньшэ ж было многа такіх. Забіралі. У мяне ў суседкі тут бацьку, пад Кашчына. Ну і яго, бацьку. Ніхто не вярнуўся адтуль. І калі ў калгасы зганялі, дык таксама вывозілі. Хто проціў быў у калхоз. Ну, усякія мужчыны былі проціў, раньшэ ж у нас у каждай хаце па 12 чалавек было, а цяпер сядзіць баба адна ля хаты з кійком. У 33-м гаду ці ў 30-м гаду ў калхозы саедзіняліся. А тады ўжо коней у нас тады ўжо аднялі, дык жнейка, ну, вы не знаеце – як касілка цяпер трактарам цягаюць. Ну і коні 2 запрагаюць і едуць. Тады сеялі – я сабе сею жыта, ты сабе і межы. А патом, як паехалі, дык адна баба расставіла рукі, стала перад конем і не пускала на сваю ніву. Ну, яе забралі, і не стала гэтае бабы.

Ну, хто, прыедуць з раёна, дадуць у канторы прыказ і яны далжны выпалняць… Ну, каторыя зусім былі без мужчын, бедныя, так яны і саглашаліся ў калхоз ісці. Ну, у калхозе, мы і лён жа бралі рукамі, ну, вы можа, не панімаеце – у снапочкі стаў ды вяжы. Ён высахне, а патом звозяць у ток. Пранікі – палкі – абівалі, патом апяць на полі, расцілала. А потым жэншчыны, якія маглі, украдуць гэты сноп, раньшэ ж не пойдзеш у магазін і не купіш, нада было ткаць, прасці, можа, вашы радзіцелі, хто і знае…

Да вайны ў Польшчу (Заходнюю Беларусь – рэд.) не хадзілі. Ну, можа хто ездзіў, хадзіў. Я ў Польшчу хадзіла после вайны. Навошта? Ай, там жа як вайна была, там не забіралі, там не было такой вайны. Там лясы, бальшыя лясы. І немцы там нічога не бралі. У нас жа ні каровы, ні курэй,

нічога не было тут. А там, у Польшчы, усё было. І мы хадзілі туды, куплялі кароў. І ў калхозы, і сабе собственна. Гоніш, ці на паваду вядзеш. Ну так і разжыліся трохі з Польшчы. Яны такія ж, як мы. У мяне нявестка палячка. Тожа Пшонная. Але, дзетка, яны жылі, хужэ, як мы. Таму што мы, як хадзілі за каровамі, бачылі – бяжыць жэншчына, наліўшы смятану ў бутылку ў бальшую. І яна вось гэтак – ляжыць на печы і качае – масла б’ець. А ў нас так не білі. У нас такія дзеравянныя бойкі з кружочкам і так ступалі. І мы так падзівіліся ўжо. Я ўжо старшая была, са мной дзевачка хадзіла тады ў калхоз 12 кароў купілі, і сабе купляла. Дык я ў кожны хлеў прыду – старшына іхні, нашы, усе стаяць, і я даю, яны глядзяць, якая карова, якое малако, сколькі даець, ну і тады мы куплялі гэтых кароў і гналі.

Калі вайна пачылася, немцы зразу прыйшлі. Нашы знталі, што вайна началася і будзець. У нас тут пад Віцебскам быў бальшы аэрадром. Нас паслалі на конях, пясок нада капаць пад калёсы. Вазілі, засыпалі эты аэрадром. І там многа было самалётаў. Раньшэ мы паедзем, кала дарогі раскладаем сабе агонь, варым сабе есці, а гэту ноч нам не далі агонь раскладаці, як вайна пачылася. Первы дзень, як вайна началася, яны знталі, што вайна пачнецца. І вот мы капалі, вазілі гэта. А з абеда коней не пусцілі, толькі людзей, пясок разроўніваць.

І тут, усё раўно як птушкі, выскачылі з-за лесу 2 самалёты і сталі бамбіць. І ўсе самалёты загарэліся, штукі два толькі падняліся. А людзей многа пабіла, хто без ног, хто без галавы. У нас адну дзеўку раніла ў грудзь, а мы, дзякуй Богу… Нас выпусцілі з аэрадрому, сказалі, дзе коні схаваныя, і мы тады ехалі дамоў. І ўжо Чашнікі, і жалезную дарогу ўжо бамбілі, і яўрэі бегалі і крычалі, куды падвязці, бо ўцякалі. Ну, у нас жа ў Лукамлі адны яўрэі былі, і ў Чашніках былі. І ўцякалі – а куды яны ўцякалі?

І ў нас адзін яўрэй жыў, маленькій мальчык. Бабка была ў Віцебску, у намітках у іх. І вот прыехала з мальчыкам летам, а пачалася вайна, і вот гэты мальчык застаўся. Бабака гэта памёрла, а мальчык… Як немцы едуць, так мы яго ў пограб схаваем і зачынім. І ён пасля вайны дажа прыязджаў к нам у дзярэўню, высокі, красівы мужчына. А во што ў Навалукамлі, там жа адны яўрэі і былі. Іх так стралялі, гэтых яўрэяў, іх каторых ранят, дык усіх у яму закапалі, і яма так шаволіцца пясок, а яны там, яшчэ пакуль падушыліся.

А куды ўцеч? Яны ж абкружаць. Я сама… Мой хазяін быў у партызанах, у мяне быў мальчык, і нехта падказаў, што мужык мой у партызанах, калі ў паследнюю экспедыцыю забіралі людзей. І мяне паставілі пад хату расстрэльваць. А я босая стаю, маладая, без хусткі, а дажэ і не плакала, і дажэ хоць бы што. А патом загарэлася хата, а адзін дзядзька залез пад печ і

схаваўся, і яны запалілі немцы гэтую хату, а чалавек пад печчу сядзеў. А з другога боку два мальца ўлавілі, вялі. І вот гэты бацька ягоны, старычок, пабег з гэтым дзіцёнкам перад гэтым мальцам і кажа: раз вас ужо ўлавілі, скажыце, што я, мужык, быў дома, і гэта мой дзіцёнак, і мая жонка. І вось падышоў і сказаў, і мяне адпусцілі, а яго забралі ў Германію.

Былі немцы, былі народнікі. У іх тады ж не кантора называлася, а валасць, у немцаў. І вот тады, калі паехалі ў валасць, тады сказалі, хто куды хочаце, расхадзіцеся, хто ў партызаны, хто ў паліцыю, хто куды. Ну, каторыя ішлі ў паліцыю, шпіёніць, а тады дакладаць нам. А каторыя спецыяльна так ішлі. Ну, як каторы. Каторы харошы. Я вот помню: усе на печы, а я матаю ніткі ў клубок. Прыйшоў наш, дзеравенскі паліцай, і нейкі… Ка мне прыстаець: свята, а ты работаеш. Але гэта ўступіўся наш за мяне – не тронь яе. А гэты апяць, і тады зноў наш кажа: а я паўтараю, яе не тронь. І не тронуў. Ну ўсё раўно партызаны ўзарвалі яго хату, дык ён вывез усіх сваіх бацькоў…

Паліцыя і народнікі – гэта адно і тое ж, называлі толькі па-рознаму. Паліцай, ён суцэльны такі, прэданы немцам, а народнікі, гэта дабравольныя такія ішлі.

Усякія былі. У нас дажэ бежэнцы былі. З-пад Віцебска, ці з Віцебска. І вось адзін парэнь забалеў, так забалеў, што яму дажэ ў хату запрацілі захадзіць, прыйдзе, пасядзіць на табурэце, што маці паднясе есці, то ён есць. А нашы самі прышлі, і гаворaць на яго гавораць: бяжы. Ён пабег, яны ў яго выстрэлілі і забілі.

Усякія былі. *Прыціснікі*. Каторыя самі паўбягалі, людзі разбіралі іх па хатам. Іх называлі – прыціснікі. Вот яны і работалі, дзе ўласць пасылала. Каторыя павыжылі, каторыя пажаніліся на нашых, дык усякія ж у арміі былі. А тут у нас лес во і поле, а у нас яшчэ дзяўчынай была, у дзярэўне былі немцы. І 12 чалавек нашых акружылі і забралі. І плот тут загароджаны. І іх паставілі ў амшары, і прывязалі вяроўкамі к спіне. Каторых расстрэльвалі, завязвалі вочы, а нас усіх павыгналі глядзець, як яны стралялі. Вот яны ў яго выстрэлілі, а ён гнецца, гнецца, гнецца ў кручочак. А адзін танкіст не даў вочы закрываць, толькі так траханўў галавой, дык яго так і застрэлілі. Растрэльвалі 12 чалавек падрад, гэтых мальцаў, і нас з дзярэўні павыгналі глядзець, як расстрэльваюць, караюць за гэта. Як з Чашнікаў едзеш, там памятнічак маленькі, во, гэта застрэленыя ўсе ляжаць.

А партызаны, у нас жа дужа многа партызан было, мой хазяін ужо быў у 10-м атрадзе. У Дубава. Елі што прыйдзецца. Ну, напрыклад, яны ж хадзілі па хатах, ну і мы, а раньшэ ж нічога не было, бульбу гнілую вымачвалі, мядункі сабіралі, цёрлі. Ну, во такія, як клевер, цвіцець красненькім. Яе тады таўкуць, труць, і тады такія прысмакі пяклі. І з лесу прыйдзе ноч-

чы, хто што дасць, то яны і ядуць. Калі не было немцаў, тады часта прыходзілі, а калі былі, тады не йдуць.

**Зап. Красько Г., Лях В., Палякоў Д., Радзюк А. у 2008 г. ад Пшоннай Тацяны Міхайлаўны, 1922 г.н. у в. Гілі Чашніцкага р-на.**

### 1214. Жыццё

Значыць, я так вам буду расказываць. Я радзіўся ў сям'і, можна сказаць, бедных. Ацец быў мой плотнік, столяр. І вот я змалку пры ім работаў, хадзіў, можна сказаць, па людзях батрачыў. Вот так. За тое, што зямлі у атца было мала, сям'ю прагадаваць ня ў сілах. Ну, і мусілі такой работай занімацца, хадзіць. Ён быў спецыяліст на эта. Ну і я пры ім гэты спецыяльнасьці прэдабрыў. Вот. І я дажа там да арміі з атцом жа батрачыў. Тады прышло урэмя, армія. У арміі я яшчэ служыў пры Польшчы. Вот. Забралі ўвосень мяне ў трыццаць шостым, дэмабілізаваўся ў трыццаць восьмым. У трыццаць восьмым дэмабілізаваўся, пражываў жа дома. Але мала я пражыў, пачалася польска-нямецкая вайна… Ну і началася вайна польска-нямецкая, і мяне мабілізавалі на вайну, на польскую. І вот я эту польскую вайну прайшоў полнасьцю. Ну, самі знаеце, вайна была пройграна. Ну, і вярнуўся я, праўда, благапалучна, і з вайны нічога, дужа раненія ня меў, анічога.

Дальша вы самі знаеце была тожа была вайна. І была вайна, можна сказаць, яшчэ более сур'ёзная, бо немец яшчэ быў сільны, а Польшча якая, і церыторыя яе малая была… Ну ладна. І вот у сорак жа первам гаду началася вайна савецка-нямецкая. Вот. Мяне ж абратна ж тожа мабілізавалі. Ну, але праўда не ўдалося мяне нікуды адправіць, бо немец ішоў быстра, і нас тада адпусьцілі, адпусьцілі да вастрэбаванія пака… Ну от. А тут жа ўжо акупацыя сейчас жа, ужо на заўтрашняе немцы тут ужо, крэпка быстра тут эта ішло. А нас толькі ў раён былі ўзяўшы і задзержылі нас: "Будзьце парні тутака". І немец ўжо прышоў, а цехніка ж у нас тады не была такая у сельска хазяйстве, што мы маглі і адправіць куды-небудзь далей, а пяшком мы ўжо не ўправіліся бы, нас бы дагналі.

Ну сталі мы ўжо жыць, можна сказаць, што пры акупацыі нямецкай. Ну, тут многа расказываць жа канешна нечага. Тут былі канешна пры немцах усякія убійцы, ну нас пака яшчэ ня трогалі. Вот. Ну а тады началася парцізаншчына. І вот я ўступіў у парцізаны, а гэта ўжо было сорак чацвёрты год. А ў нас тут да сорак чацвёртага гада ў нас тут яшчэ парцізаншчыны не было. А ў сорак чацвёртым гаду началася парцізаншчына, і я ў парцізаны. А тады парцізаны, як красная армія асвабадзіла тут нашу церыторыю, злучыліся з Краснай арміяй, і мяне перэвілі ў Красную армію. Вот. Ну і тут я ўжо пайшоў сюда, на Прыбалціку, тут я ўжо палучыў раненіе. І тут, можна сказаць, ужо мая вайна акончылася. Тут я ўжо после раненія, тут у шпі-

талі, тут камісія... гэта і зацягнулі, і якраз кончылася ўжо вайна. І вот я тады палучыў ужо групу, трэцюю тады далі мне, то есць втарую, а тады далі трэцюю. А тады началіся ўжо ў нас калхозы і гэта, і мяне зкамісавалі, кажуць: “Лёгкія разныя работы ў калхозе”. Ага. “Можыце лёгкую падабраць такую работу”. Сьнялі мне гэтую групу. І атработаў я дваццаць шэсьць лет у калхозе. Вот.

Даўней усё ў хутарах было. Уся зямля была ў хутарах, дзерэўняў не было, а толькі па палях хутары былі. І вот я тады ўжо… гэтак стаў усякія работы... Праўда, адразу у мелкім калхозе я быў прэдседацелем калхоза. А тады вот сталі укрупняць калхозы, тады замясьціцелем быў, а тады па спецыяльнасці ўсё ўрэмя ў калхозе адбыў брыгадзірам страіцельнай брыгады. У восемдзесят пятым гаду ў нас тут ужо сталі прыязджаць, нас атведываць, знаеце этых, хто ваяваў, вецеранаў вайны, врачы, камісія такая, не камісія, можна сказаць, але асмотр такі, кажды год. Вот прыехалі ў первы раз, гэта было ў восемдзесят пятым гаду і мяне направілі на камісію і вярнулі мне ўжо зноў групу. Во. Ваенную эту вярнулі. Патрэбавалі мае ўсе дакументы такія во і вярнулі мне групу. І далі мне втарую групу абратна. І вот цяпер я сяжу на этай самай ваеннай втарой групе. Вот, ну жыву ж. Канешна адзін. Вот. Дзеці ўсе… дзяцей, праўда, выгадаваў… я іх і ня ўспомніў…. выгадаваў пяцёра… Ну дык вот. Як што я болей мог бы вам дабавіць дажа не знаю, бо ў мяне ўжо памяць заікаецца, як гэта гаворуць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рымчонка Вацлава Вацлававіча, 1915 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1215. Вайна

Помню, як немец прышоў… Толька вот па дзярэўне едуць, хацелі з Крулеўшчыны дарогу нейкую вясці па балоту, едуць і едуць людзі, а мая мама выйшла, кажаць: “Куды вы, людцы, едзіце?” “Дарогу, – кажаць, – будзім правадзіць жалезную”. Чэраз мінут якіх ужо назад едуць. Мама ізноў вышла: “А чо вы назад едзіце?” – “Бабушка, вайна!” Сягоння во гэдак во сказаў, а на заўтра ў Докшыцах і немцы. Гэдак скора яны аб’явіліся. Кажаць, магазіны ўсе жыдоўскія ўсе разбіраюць. Тут у нас некатарыя пабеглі за гэтымі…

Немцы гэтыя сюда, а парцізан не было яшчэ. Немцы ўжо прыехалі, праехалі па дзярэўне і паехалі. Цераз нядзелю чую, што пагавараваюць, што парцізаны ёсць, явіліся яны там ужо ў Васточнай, Ушацкім раёне. А ў нас тут два такіх ўжо чалавекі было, што ў парцізаны рваліся. Ну не любілі немцаў. А хто іх любіў? Ну, але гэтыя два... А тут солтас такі, як стараста, казаў: “Ня йдзі ў парцізаны прэждзяўрэменна, спячэш дзярэўню, і сям’ю загубіш”. Ён правільна сказаў.

І точна, усё-ткі ня выцерпеў, пачуў, што там парцізаны, панёсься. Прыляцелі немцы, давай паліць. А тады гэтыя ж яго браты прыбеглі ка мне хавацца, маленькія, а я кажу: “Бяжыце ў стагі, схавайцеся ў стаге, што вы каля мяне, мяне немцы заберуць”. Вот, ішчэ малая, а баялася, што мяне немцы заберуць, казала: ні стаіці каля мяне, уцякайце. І толькі яны пабеглі, у стагі ўрыліся там недзе, немцы да мяне: хлопікі, хлопікі, ці бачыла я. “Не, – кажу, – нічога не знаю”. І пабеглі, ні нашлі яны гэтых. І цяпер яны жывыя, а сясцёр пабралі і расстралялі. Таго, што ў парцізаны пашоў.

Тады канец толька згарэў, а после астальную дзярэўню спалілі. Тожа я дома была, улезла, акопы ж парабілі, і мы з сястрой улезлі ў акоп. І чуем забіраюць тату і маму ўжо гэты немцы. Ну, алі ж мы сядзім, прам як чмялі, рукі, ногі памярцвелі, ну і чуім ужо стогнець-выець, як танкі ідуць. А эта ж не танкі, а дзярэўня гарэла, стагнала.Тады мы ўжо баяліся выхадзіць, вышлі цемнатой, глядзім – дзярэўні німа, толька печачкі стаяць. А што мы будзім рабіць? Папу з мамай забралі, сястру меншую забралі. А іх доўга дзяржалі на магільніку і павязлі там вот растраляць. А не растралялі, сказалі, што дзе радня якая ёсць, расхадзіціся па радні.

Спалілі за тое, што парцізаны нахадзіліся, а парцізаны, яны ж засаду зробюць, з немцамі б’юцца, а тады немцы: здзесь бандзіт, і палюць, і б’юць, і вот. А за Докшыцамі ж не палілі дзярэўні. Патаму што там парцізан не было, іх ніхто ні чапаў, а тут жа ш парцізаны. Як мама кажаць: удзень немцы, ноччу парцізаны. Немцы ж, як парцізаны іх узлуюць, тады яны дзярэўні паляць, ну а нашы ж дзярэўні сагналі былі на кладбішча дзярэўню, усюусю, мала хто ўцёк у лес. Сабралі, ну а пабіць не пабілі ш.

Парцізаны разныя былі. Некатары папросіць, ідзець: “Мамаша, дай што-нібудзь пакушаць, хоць што”. Мама мая хлеба, самі як папала ўжо, а ўжо ш нада людзям. А другі прыдзець: “Давай сала, яек, давай масла!” Дак мама на аднаго, сваіх жа не баяліся, дык кажаць: “Ты немец, не парцізан, якое табе…” А кажаць: “Вы немцаў корміце”. Мама кажаць: “Яны нахальна быруць, яны не пытаюцца. Немцы не пытаюцца, а ні дасі, дык к сценцы прыставюць. А ты што, мяне к сценцы прыставіш? Вот дам малака, хлеба, еш сколькі хочаш, ужо яйка спяку, а што табе болей нада вайной?” Эта ня ўсе, эта рэдка былі такія.

Як хаты спалілі, дык трошку дабра якога ў зямлю хавалі, у ямы. А тады бываіць ці што пазацякалі вадой, чыя яма саўсём прапала. А ў лес паляцелі, а што ж у лесі. Хоць немцы там дзе страляюць, выскачыць там дзе, на полі якую кабачыну схопіць, а после ўжо ўсё. Ай, уміралі людзі цераз аднаго, траву, я сама збірала. Асака такая, і шышачка такая на ёй чорненькая, і во гэтыя шышачкі збіраеш, і збіраеш, і збіраеш. Яна не горкая, многа назбіраеш, а дома жорны такія, у жорны перапусцюць і шчаў’я даба-

вяць, пападзець дзе – жменечку мукі, каб зварылася эта, ну гэткім і пiталіся. І канюшыну, усякія травы, гэдак і піталіся людзі, а шчаў’е дак і з каранём дралі і елі.

Солі не было. Дзе тая соль? Вайну ўжо бяз солі дажылі. Там жа была ў Таргунох, там жа немцы. Дык вот, хто-та аттуда прынясець, як падкрадзецца, там жа солі прынясець там драбіначку адну, сыпнець табе. І пад’еш ты з гэтай солі, толька што паспытаць дадуць гэтыя солі. Гаравалі людзі.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Чэчыкалавай Ганны Лаўрэнцеўны, 1930 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

### 1216. Партызаны

Тата даўней зарабіўшы, пры немцах далі яму, каб ездзіў там шараварку нейкую, дарогі раманціраваць на кані, далі яму прэмію што ну, ну незашта яны там далі, я яго добра ня помню. Далі лапату, далі такі ласкут, там, можа, мэтры два такога мацерыялу, шэранькі, ён у мяне і сягоньня ў вачах стаіць, і хустачку такую, нейкая такая, я не знаю, якая яна там была. Но мама ж дзержала, эта ж я падрасту і мне ж будзець. Ну і як гэта вайна началася, дык хавай ужо дзе-небудзь, беражы эту хустачку. Звязана у вузёльчык, ну і сплю на ім.

Во. А вышлі парцізаны. Кажуць, ідуць! А ўжо ж выгрэбшы былі ўсё, там нечаго ўжо было грабсьці, снясуць. Я як скочыла, наша хата стаяла так на пагорку, на ніз, а там сарай быў, і туды такое балацявінка, і я ходу з гэтым вузельчыкам, во так во, прыціснуўшысі, і ляту. Я ўжо даляцела да сарая, ужо гляджу, што дагоняюць удваіх – мушчына і баба за мной. Я, як ляцела, там броўны лежалі, я пад гэты броўны гэтат вузельчык падсунула, і помню, як сягоння, маку сноп наверх, сноп, мак быў выбраны з гароду, звязаны стаяў во этат сноп, і я палажыла на гэтат вузельчык. А яны ж думаюць, што гэта я і панясла. А сама я і папёрлася, там возера недалёка, і папёрлася, яны мяне дагналі, за валасы цёгаюць: “Дзе дзела?” Цёгаюць, шторгаюць. Мама пакойніца ляціць ззаду: “Не забіце хоць дзяўчыну. Нашто яна вам? У ей нічога нету”. Увідзелі, што нешта я несла, ну як я рукі магла так дзержаць, ляцець. Ну, нeяк адбараніла, мама стала стыдзіць іх, што “нашто яна вам?” Ну, пацягалі, пацягалі, пусцілі ж, у каршэнь добра далі.

Ну, добра. Ад’ехалі яны, табун гэтат пераехаў, прынесла ў хату, тут пасушылі, каб жа ж ня змокла ці не запляміць нічога. Праз нескулька дней, можа там нядзеля якая прашла, ідуць з другога боку, там цэлы фронт гэтых партызан, ідуць. А іх во выганялі во з гэтых балотаў, во з гэтых во, Крукі тут во, дзе пад Мёршчынай, і тут во з гэтых балотаў іх пёрлі. Абгніўшы былі. Начавалі абозамі цэлымі, як прыехалі, абгніўшы, якія яны, но яны ўжо гэты дужа не бралі, бо нечага было браць, а другое, што яны з балота. Іх как выбілі немцы, яны ўжо як вырвалісь і ляцелі, хоць бы самім спась-

цісь. І раненых было, і ўсякіх. Помню, мама… саломы наняслі ў хату і как заляглі, баню вот вытапіць, вымыюць ваду, прахаладаеца ў бане – знова зацеплююць, во гэтак во, па ўсей вёсцы. Ну і вымылісі і паехалі, яны нічога толькі крахмалам перасыпалісі, папрэўшы былі, памокшы, папрэўшы і ўсё. А, каб на ногі што-небудзь акруціць, а так нічога не бралі. А што было, бульбы мама наварыла, паелі, хлеб нейкі там быў злеплены, малако ж, карова была, малаком напаілі і паехалі. Спалі як забітыя, нічога ня рухалі.

Ну, гэта прайшло ўжо ўсё, з другой стараны знова едуць, на конях, коняў там сколька, а тады і іх многа, ізнова. Но гэты, то граблі, што ў хату ўварвалісь, што папала – усё. І вот я з гэтым вузельчыкам ізнова уляцела, ня помню, можа тата ці хто кажаць: "Ай-яй-яй, ізнова, – кажаць, – ідуць, парцізаны ізноў. Ніхто, – кажаць, – гэтак, яны". Я ізноў, як схваціла гэтат вузёльчык, як далася, а ўжо тады жыта было бальшое. Як ляцела ў жыта, я там дужа помню, сама у жыта пакацілася, як пробка, ну як, ну сколька мне было, дзесяць гадоў, дванацаты можа, ну дык, якая там была, ну але ж вот умела уцікаць. Ізнова! Ізнова мяне злавілі, а гэтага жыта ўсё перахадзілі, перашлі, не нашлі гэтага вузёльчыка, астаўся мне, вот, астаўся.

Ай во, помню, тата з Францыі прывёзшы быў маме такую шэрсцяную хустку белую, красівая такая. З Францыі. Вот. На заробкі з гора ехаў. Згарэлі, ўсё да тла, асталісь, як столь. Трое дзяцей і яны ўдваіх, асталісь, як столь. Братоўка лён чэсала каля хаты, і во шчэ цепліўся, лён як захваціў, як загарэлася ўсё. І ўсё. Пакуль гэта тата завёз мальцаў у школу, прыехаў і хаты німа, анічога. Дык кажаць: "Едзь, жабруй, ці што хто дасць". Паехаў заплакаў. А тады туды ездзілі ў ва Францыю, паехаў заробіў. Зарабляў грошы, маме слаў, мама хату пастроіла, хлявы, усё, усё пастроіла. Сам прыехаў, так вот гасцінцы быў прывёзшы. Туфлі такія лакірованыі і гэту хустачку, і гэты ад немцаў ласкуток мацерыяла, ну лапату я не насіла з сабой. Усё звалі як "нямецкая лапата". "Дзе нямецкая лапата?" – як што-небудзь патрэбна. Ну. Кажу, была і ў парцізанаў у лапах.

Ну, усякія ж парцізаны былі, няроўныя. Некатарыя, некатарыя ж, сцеражы Божа! А грабілі ўсё падрад. Ня ўспелі, адзін раз, вот гэты туфелькі я ўсё хавала, хавала, а тады уночы, уварвалісі яны ночу, прышлі, ляпалі тут, дзвер як ня выбілі, ўсё. Прыехалі. Прышла нейкая іх баба, а тут яны, там настольнікі якія былі якія, што было саматканае, пабралі, а тады, у шуфлядку. А там, у трапках, у ласкуцях лежалі эты туфелькі – нашлі. Ну і паняслі яны іх, мама гэтак плакала іх, а яны, помню, лакіровачкі такія карычневыя былі. І гэта, аны ня ўзлезлі на нагу, дык выкінулі і пашлі. На нагу ня ўзлезлі…

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Мёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1217. Не дай Бог той жызні

Была фінская вайна. Я ж малая была, радзілася тока. А тады мне стала восем гадоў, бацьку забілі на фінскай вайне. Ну, а тады мы з мамай у дзвюх жылі, яна больш замуж не пайшла, мучаліся ўдзвюх, як было. Ягады збірала – мяне карміла. Хату спалілі. Хаты не было. Тут хаты не было, па чужых кутках вазіла так і спалілі, дзе стаялі. А тады падгадавала стала мне 7 гадоў я ў школу пайшла. Тут ужо у Замошшы ў школу пайшла. Адзін год пахадзіла тут у школу ў Замошшы. Тады кончылася фінская вайна і нашы заваявалі, і нас туды сталі вербаваць, у Фінляндзію. І мы па вярбоўкі туды з'ехалі.

Я і там год у школу пахадзіла, там вайна стала і мы, як ёсць, там ужо ў нас усе было, як ёсць, нас на машыны адтуль сталі нас вывозіць. І завязуць у лес троху так, і за другімі едуць, а мы сядзім, і камары нас ядуць. І голыя, нічога няма надзетага на нас. Во якая была мая жызнь.

Мяне куды-та закінулі з чужымі людзямі. Адкуль я знаю адкуль яны што. Там было і цыгане, усякай нацыі было людзей, ад вайны ўцякалі. Толькі адтуль бралі мальцаў, во такіх як ты, бралі на вайну, сюды ў Беларусію, во.

Тады чатыры гады там аджылі, ужо кончылася вайна, адмучаліся, дамоў прышлі. Тут усё пагарэла, а дамоў як ішлі, хто нас вез, толькі была праўка эвакуіраваныя, што мы эвакуіраваныя. І нас тады, і мы цэлы год ішлі адтуль дамоў і з мамай. Галодныя. Прыйдзеш на які поезд, каб ехаць, дык нас не пускаюць, у нас та нічога нет. Дык мы на падножках ехалі, абы бліжэй к Беларусі, во як. А тады прыехалі у Беларусію, а ці мы пад'еўшы, па дарозе пойдзеш з якога, абы дзвінуць нам па Беларусі па дзярэўнях, каб дзе паесці. Дзе стаім, у каго нядзелю, у каго дзень, два, што-небудзь памагаем, робім, каб пакармілі нас.

Прыйшлі сюды, а тут усё згарэла, а мы удваіх. Я свіней карміла, мне некалі было хадзіць на вячоркі. Дык якія ж з мяне былі вячоркі, пакуль я на ногі паднялася. Ну, прыехалі, ні надзець нічога, ні... Ну куды я пайду на тыя вячоркі? Хто мяне? Мяне выганяюць адусюль. А хто я ім? Я ж чужая. Пакуль на ногі сама паднялася.

Але, чорт яго ведаіць, я ня помню, штоб я балела. Я траву ела і асаку, і крапіву і, як гэтыя, сындзікі гэтыя чорныя збіралі і не хварэлі. Сындзікі – бульба мерзлая, а цераз зіму перазімуець, а яе гэты крахмальчык, хадзілі збіралі і пяклі, і елі, і чорт нас не браў. Асаку, такая была, пазбіраем, памелем, а тады адкуль-небудзь колас зберым. За колас судзілі, неяк было коласа сабраць, але… і тады ляпёшкі пяклі і елі. Не дай Бог. Гаравалі после вайны. Не дай Бог той жызні. Каб больш дзеткі не відзелі такога.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Варошка Валянціны Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. Макараўшчына Лепельскага р-на.**

## 1218. Бабыніцкі растрэл

Ай-я-яй! А якія жыды харошыя. А ў мяне падругі былі жыдовачкі. Ай, якія харошыя: Люба, Соня. Мы ў адзін клас хадзілі, мы дружылі з імі. Я іду ў школу, захаджуся к ім, за імі і ідзём у школу. Было многа, многа жыдоў і ўсе разумныя. Былі ларкі загатавіцельныя, так ларкі хлебныя. І вездзе таргавалі яўрэі. Маслазавод быў бальшы, мая сястра, як кончыла дзевяць класаў, а забралі тату, яна кінула вучыцца, а пашла на маслазавод работаць і там работала, пака ўжо вайна не началась. Жыды былі харошыя.

Ай. А я пашла к ім перад гэтым, як іх гнаць сталі. Пашла дражджэй купіць – яны таргавалі дражджамі, а мы гналі гарэлку і прадавалі. Я пашла к ім дражджэй, толькі купіла дражджэй, занесла, не знаю што, яечкі, можа ці што. А ляціць паліцэйскі, а паліцэйскі, вот на гарэ дзярэўня, а ён там такі, Анатолій звалі яго. Ляціць паліцэйскі: “Што ты тут робіш, скарэй ідзі, а то і цябе ўмесце пагонім?!” А ён знаў мяне, чыя я, а тата ж мой быў такі мужчына, што яго ўсе зналі.

І я бягом дамоў прыбегла, і я кажу: “А Божынька маё, што там будзець не вядома”. Дык аж там, дзе мы жылі на хутары, за ракой, аж там мы чулі гвалт, як іх гналі. Гналі, як яны сказалі ўжо, што пагонім у Варонічы, а іх завярнулі направа, у кусты, вот дзе кладбішча, там каля дарогі як едзіш на Ветрына. І іх туды загналі ў кусты і растралялі ўсіх. Усіх да аднаго.

Адзін жыдок, Іофа, закройшчык быў. Тут жа была і швейная, закройшчык быў харошы, шылі тут. Усё было: і сталовая была, і ўсё было, і почта, і каса – усё было. Ну вот адзін яўрэй Іофа астаўся, ранілі яго. І пайшла тут жэншчына адна глядзець адзежу, што ў іх, каб сняць. Гэта так было. Я не буду враць канешна. Пашла і стала капацца, а ён кратаецца. І яна спугалася. А ён гаворыць: “Не пугайся. Добра, што мяне спасла, мяне толькі раніла”. І тут бальніца радам, вот дзе цяпер Сельсавет, тут бальніца. І ён прыйшоў у гэту бальніцу к доктару, а доктар немцаў баяўся, гарнізон стаяў у школе, школа во там дзе цяпер база, зярно. Ну ён прыйшоў і яго немцам аддалі, і растралялі.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

## 1219. На чужыне

А тады наканец мяне спёрлі мяне аж у Галандзію яшчэ. Увесь сьвет аб’ездзіла. Ай нас там ні пыталісі [немцы]. Старых у Псуі пакідалі, усіх старых, а нас пагналі ў Зябкі, пасадзілі там адзін на адным, запёрлі і усё. І так да самай Германні. І там, дзе мы ехалі, я ні знаю сколькі мы ехалі, і нас нідзе ніхто нічым ні пакарміў, нічым ні папаіў.

Там капалі акопы, ну. Мужчыны капалі процітанкавыя акопы. Ну, а мы ж зверху пясок гэты аткідвалі. Гэта ж равы бальшыя, глыбокіі – па тры

метры. А што тыі акопы маглі – нічога! Кармілі ж каб з голаду не памёрлі. Шпінат давалі, як яны завуць. Капуста гэта і бульбіны пакрышынай і ў вечары гэтак, ну калі можа там крупіны якіі. А гэта ў абед гэтак! А рана скібачку хлеба і чай. А хлеб, ай тоненька, во так на палец нарэзан! Але посны усё роўна ці маргарын ці варэнне якое, але не адным – ужо намазаны нечым. А там тады каторыі былі даўно, ні з нашай дзярэўні – з Завулку з Рускага, той там ужо неяк дабыў картачак хлеба. І ну дык вот, тыі даў быў мне тыі картачкі. Дык тады ўжо дабаўлялі мне да гэнай картачкі хлеба. Дык тады трошкі ужо болей тады было. Ну жылі, ну жылі ж, усё ж не памёрлі ж.

Ай, і палякі там былі, і французы, і італьянцы, і аўстрыйцы – там усе на свеці, усе-усе былі. Усякіі. Усе, усе, усе. Ну вот там мы жылі тады. Тады ужо, гэты гады амераканцы маўчалі, пакуль нашы ўжо мусіць к Берліну ні падыйшлі. Стаялі на месці. Ні наступалі усё. А тады ужо як сталі наступаць, тады нас папёрлі адтуль. Ну і гналі, гналі, гналі [нас немцы]. Вобшчэм, я ні знаю, чаго яны гналі.

Ай, дзе як пападзёмся у такую перастрэлку, што кажу і пулі ні было і нічога. Ну так страшна: усё б'юць, усё ломяць, усё крышуць. І знова далей вядуць. Ну, дзе-нібудзь пярэймуць ужо дадуць [есці], нас многа там гналі. Ужо есці нешта ж далі. Нада ж нешта, каб і пакарміць.Тады ужо палонікам нейкім бульба з шалупкамі – і у платочык, з'ем. Як смашна было! І шалупачкі, усё з'елі. А цяпер усё ні смачна. Дзе-нібудзь ідзём, тады салдаты кінуць то хлеб, чаго-нібудзь, якое пячэнне даюць нам есці.

А тады ужо прыгналі нас і кінулі саўсём, ну наступілі, сталі гэты наступаць, і нас тады гэта [кінулі]. Уцяклі самі. Нас кінулі. А там нейка дзярэўня была. У нейкай дзярэўні у нейкай пуні жылі. Ну тады тамака нас прывязуць ужо раз у дзень ужо з дзярэўні, пакормюць нас. Ну і так мы нашлі буракоў. Бурт на полі. Наварам буракоў гэтых. Бяз солі з'ядзём. Ну тады, як ужо усе кінулі, гляжу – салдаты лятуць у гэтат бок. Тады мы выйшлі, каля бальшака былі, выйшлі на бальшак. Нада некуда ісці. Ну што нам У гэтай пуні сядзець? Кінулі ужо нас, кінулі. Ужо ніхто глядзець ня будзіць. Ну сталі усе расхадзіцца. І мы далісь у гэтат бок, куды машыны ідуць. А іны кажуць: "Туды ідзіця, там русіш". Відзіш, а яны ад рускіх ужо уцікалі.

Ну тады мы ў нейкі пасёлак прыйшлі. Тады ўжо амераканцы прыехалі, нам прывялі каня, зарэзалі, падзялілі нам па куску. Ужо нам ёсьць што есці. А тады сразу зробілі сталовую. І праўда, кармілі на убой: і пячэнне, і варэньне, і чай, малако – ну усё было, так ужо кармілі. Ну мы там жылі ат мая месяца ну можа да іюля. Ну тады яны павязуць ужо нас да рускіх ужо.

Вось дзе мая сістра была з мамай, можна было застаццца. А дзе я была, нас ніхто нікуды ні прыглашаў. А яны ні асталіся, што мяне ні было.

Каб я разам была, мусіць, сюды ні прыехалі б. Там многіі аставалісі. А куды вяртацца нівядома. Ну прыехалі да граніцы, ужо поезд прывёз. І з аркестрам адправілі нас гэты амераканцы, усё як нада.

Як пірашлі на ту старану. А нашы, як зьвяры. У гэтых лампасах, пагонах, што гэтыі – НКВД, ці што гэта, што малінавыі такіі [ламапасы] у штанах. Ай-яй-яй-яй! А мы, як мы гэты, западныі, мы ні зналі, ну ні зналі жызьні іхнай. А йіхныі [з Усходняй Беларусі] сталі уцікаць назад. Каторыі с тэй стараны, кажуць: “Нам жызні там нет. Усіроўна нам Сібіры ні мінуць”. І яны даліся ўсе назад, ну а мы ужо асталісі.

Ну на дапросы ж ганялі. Як Прыйдзіш: А чаго ехалі?А што? Ну што мы ехалі, ці мы ехалі, ці мы хацелі ехаць? Што мы ехалі. Ай. Ну тады, як далі нейкую булку хлеба, а яе раздзяліць неяк – яна разваліваецца. Хоць казалі яны, што там [у Германіі] хлеб із этай, с апілкамі. Ну але тамака хлеб быў добрый, у Гірманіі. Які ён ня быў, ну ён быў, што атрэжыш якую хочыш скібачку, а тут нізнаю які ён быў хлеб. Ну і мы тут пакуль ужо нас на дапрос свадзілі, тады атправілі у Гродна.

А там плошчадзь вялікая, там можа большая, як тутака пасёлак. І тамака зімлянкі парыты былі. У зімлянках [жылі]. У каждай зімлянкі поўна людзей. Там ж тожа ўсяккіі былі. Тады тут ужо расфарміравалі куды каго. Але неяк мне павязло, я ні знаю, хто мяне узяў на кухню. Дык я ужо там трошку хоць таго самага булёна, але ўжо пад’еўшы была. Ну тада у дзікабрэ месяцы дамой ехаць. Нас забралі у сорак чацьвёртам в апрэлі месяцы. І вот ад таго мы бадзяліся усюду.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Траццякова А. у 2010 г. ад Хрол Чэславы Браніславаўны, 1926 г.н. у в. Хралы Глыбоцкага р-на.**

### 1220. Пра немцаў і партызанаў

Тут жа гарнізон стаяў. Мы на танцы хадзілі, танцавалі, і немцы танцавалі. Да, танцавалі, і ўсё. Ніхто не чапаў нас. Як прыйшлі немцы, яны не чапалі. Не. Сталі чапаць тады, як паявіліся ў нас парцізаны. У 42-м годзе, у наябры месяцы. Так і ўсё.

Парцізаны нармальныя нашы. Тут жа ўсе свае. Пазабралі ўсю маладзёж. Нармальныя. Парцізаны нікога не агрэбалі, нічога. І немцы былі, пака партызаны не сталі, нармальныя. А тады ўжо ўсё пайшло кувырком.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

### 1221. Каб вайна скончылася

Было такоя, што за адну ноч ткалі такую намітку. Да, да, у вайну. Вот, мае дзеткі, як: сабіраліся мы ў адну хату, лён мялі ў мялку, вытрапалі, пакрасілі, спралі і за ноч саткалі. І тады да ўсхода сонца абняслі кругом

дзярэўні і заняслі ў цэркву ў Буй аддалі. У вайну, каб вайна кончылася. Усе сабіраліся, і жанчыны, і дзеўкі…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

### 1222. Абыдзённік у вайну

Было ткалі скацерць. Дажа у вайну сабіраліся. З дзярэўні ўсе жэншчыны, за ноч спралі, аснавалі і ткалі скацерць. І выткалі, і да сонца кругом дзярэўні тры разы абняслі, заняслі на Буй, а ў Буі была цэрква. У цэркаў тую скацерць. Каб ніхто не спаліў дзярэўню. Каб акупант не спаліў. Вот глядзіця. Парэчча згарэла, многа дзеравень згарэла, а наша дзярэўня была цэлая, ні адной хаты не спаліў. Хоць у нас і ў паліцаях была сям'я. Хадзілі раз парцізаны ноччы, хацелі іх спаліць. Сталі ўсе прасіць іх: не паліця. А то ж яны спалюць усю дзярэўню, паліцаі. Ну дык і не палілі яны, цэлыя асталіся.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашка Соф'і Васільеўны, 1935 г.н. у в. Ракаў Засценак Сенненскага р-на.**

### 1223. Абудзённая намётка

Александрыне Власаўне Шамшур у вайну было гадоў семдзесят. У дзярэўні яе звалі манашкай. Малілася Богу, замуж не хадзіла. Манашка была да вайны ў манастыры ў Віцебску. Усё врэмя хадзіла ў чорным, на грудзях насіла вялікі крэст. Манашка загітавала, каб дзярэўня не згарэла, каб людзі засталіся цэлыя – нада захаваць дзярэўню. Манашка сказала: "Можа мы сахранім сябе, дзярэўню". Было тое ці ў сорак другім, ці сорак трэццім годзе. За ноч у адну хату сабраліся жанчыны, каб саткаць абудзённую намётку – метраў пяць ці шэсць. Рабілі і ставілі крэст з іконай на перакростку, вешалі намётку.

**Зап. Тухта В. у 2005 г. ад Шамшур Ганны Піліпаўны, 1935 г.н. у в. Велеўшчына Лепельскага р-на.**

### 1224. Пра вайну

Дык вот пленныя, як пашла вайна, а была сіла, было арміі, а ўсе пленных акружыў нас усіх і ўсіх у плен забраў і гнаў у Германію. Каб немец тады ў гэты мамент не стрэляў гэтых пленных… Ён травінку атарваць сагнуўся на дарозі, вадзіцы ўхапіць сагнуўся, а немец – трэсь – і забіў, яшчэ другі сагнуўся, а ён – трэсь! Ай, пленных пагналі, мне тады было 16 гадоў, я 24-га года, а мой брат быў на вайне, пашлі ўсе іскаць у каго на вайне пабітыя. Пленных немец гнаў, а там у карманчыках, во тут у штанах, адраса. Такая трубачка у салдацікаў і там адраса. Мы падойдзем, ай, кажа, ня мой, гэта адкуль, ён не жывый, кроўю сыйшоў. Ляжыць адзін тут, тады

другі. Па ўсім бальшаку гэтых трубачак назбіралі во такія прыгоршчы. На, Ірына, табе, ты болей граматная. Послі вайны мы паадпісываем ім, а тады нас усіх спалілі і хаты, і нікому мы і не адпісалі.

Дык вот, як паступіў так немец, як стаў убіваць, во тады яны абдумаліся і ўсе ў лес. Страляй, аднаго застрэліш, апяць уцячэць у лес, у лес. Токі дзе дарога кала лесу, так яны – шмыг. А Ушацкі раён наш, гэта мы Лепельскі цяпер, а там я была ў Ушацкім раёні, а там – адны лясы, балоты такія. Дык там накапілася гэтых салдацікаў поўна і арганізавалі парцізаншчыну. А каб ён, немец гэты, гэтых пленных не стрэляў, ён ба аж у Маскву лёгенька зашоў бы і не было б гэтага – ні парцізан, ні ўбійства.

А парцізан было очэнь многа, сразу армія цэлая аставаліся, іх многа было, а тады яны украпіліся. У Ушачы ўжо ўстанавіўся немец, у Лепелі – немец, тут усюдах – немец, ім ходу нет. А яны тады іх выцісняць началі, немцаў, ачышчаць гэты ўвесь раён і ачысцілі. А тады гэтыя партызаны, гэта кадравыя салдаты, а тады яны ўжо асмеліліся. Па хатах ходзюць: Ага, а вы, маладыя,чаго не ваюеце, чаго вы сядзіце? Вайна такая, а вы. І ён тады пазбіраў і насіленіе наша ў парцізаны болей дабавілася і вот змішалася во так во. А немец тожа забіраець у народнікі нашых людзей, дзе вот там кала бальшака дзярэўні, там маладыя, а яны і самі некаторыя пашлі, каторы вот не любіў Савецкую власць, НКВД схапіла бацьку, брата, к немцам ён пашоў. Тут змішалася ўсё, тут як: ты ў паліцыі, а той у парцізанах, і страляліся, і біліся, і ўсё тут. Мы ўсякага гора перанеслі.

Немцы там калдэчуць, а дужа мы знаем, а па-нямецку троху, ён тока прыдзець у хату: матка, русіш шайзе, філе, філе, кляйне кіндэр. Гэта ўжо гразна і многа рэбят: філе, філе, клейне кіндэр, шайзе, фу русіш шайзе, – плюіць, што рускі, а яны ўжо лучшыя.

Парцізаны і солі прыхадзілі ноччы, то хлеба, то солі, а тады немцы ззаду ідуць, а тады засады дзелалі. Ай, білі адзін аднаго. Бандзіты не было, але ж п’яніцы былі і раньшы. Цяпер жа п’яніц поўна, нячэсных людзей і тады ж было. А тады свабода, вайна. Другі прыйдзець, чэсны душой. Вот салдаты кадравыя, ім нічога не нада, яны, ну хлеба нада, а другі прыдзець, жыціль які, у яго сям’я, яму нада трапкі, жонкі, ухажоркі нада, усё было памішана. Гэта Бог так звярнуў, як гэта Божачка звярнуў, што немца прагналі.

**Зап. Жолудзева П., Шэпіла У. у 2007 г. ад Рублеўскай Ірыны Усьцінаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Кісялёва Ушацкага р-на) у в. Бабча Лепельскага р-на.**

## 1225. Страшныя часы

І за не што бацьку забралі. После тады прыслалі бумагу, што ён не вінават, што с Польшчай там нешта было, вродзе связь меў ці што, а ён і армію служыў, і жыў як нада, і ўсё. А тады после прыслалі бумагу, і там

нейкую выплату хацелі плаціць, ужо, што не правільна забралі яго, вот. Ну, а я кажу: не хачу, бацькі не было, а мне было 10 гадоў. Я не знаю, што там яны сказалі, а тады можна было, нейкі агент быў, ездзіў на кані, і вродзе падслухоўваў, што так во было. Ну і ўсё, і забралі.

А мама была сярдзечніцай, і яго як забралі, нежывую кінулі яе, чуць мяне атлучылі после, саседзяў пазвала і ўсё. А тады ужо ачумела, нічога, тады перанасілі хату сюды, крэдзіт брала і пераняслі. Тая ўжо згарэла, даўно не было. У вайну бутылкі кідалі ў нас, як немцы былі, і спалілі, і згарэла хата, і ў хаце ўсё згарэла.

Парцізаны сабіралі, там палатно нада было, зярно нада было і ўсё, а немцы ездзілі па бальшаку, ішла калона нямецкая. І тады прыслалі самалётаў сюды, на нашу дзярэўню, і яны кідалі бутылкі такія зажыгацельныя. І скінулі, і нам у крышу папала, і многа хат выгарэла, толькі чатыры на канцы тут асталася, а так пагарэлі ўсе хаты ад гэтых бутылак.

Ай, усякія былі. Было так, што днём народнікі прыязджалі, гэта ўжо была нямецкая армія, дык яны бралі, а ноччу партызаны прыязджалі, сабе бралі што хацелі, прыдуць і возьмуць, знаюць, што прыйшоў, пастукаецца і адчыняць, і вайдуць, і забяруць што нада. Апошняе, адзежу, абы што бралі. І сем'і ж былі ў іх, дык тады там дзеці былі меньшые каторыя, дык бралі ім, што пападзець, то і возьмуць.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Захарэвіч А., Мядзведзева А., Шумілаў Д. у 2007 г. ад Славэцкай Антаніны Іванаўны, 1927 г.н. у в. Курмялёўка Лепельскага р-на.**

### 1226. Пра вайну, партызанаў і немцаў

За Парэч'ям там быў лагер парцізанскі. Вот дзе я жыла, малыя мы ў вайну прыехалі, там у аснаўном былі парцізаны. У гэтай дзярэўні, помню харашо, ціпаграфія была, патом за дзярэўней быў аэрадром, парцізанскі госпіталь, і што-та ішчо: масцерская сапожная, сталовая. Гэта я помню. І када гарэла, кагда прарыў быў. Помню, што сільна гарэла, усё там у канаве ляжалі, дама гарэлі кругом. І ў маёй цёці, дзе мы жылі, рацыя была ўстаноўлена. Там іх многа рацый было. Но і патом ім па рацыі саабшчылі, што будзіць сільная бойка тут. І сказалі: “Спасайцеся, хто можыць, толькі ў дзярэўні не аставайцеся”. Хто ў лес, хто ў балота, хто куды.

Гэта пад Ушачамі, я там і жыла. Парцізаны ў нашай дзярэўні, можа яны давалі зярно ілі не давалі. Так пяклі хлеб. Вот, прымерна, на сегодняшні дзень вот адзін дом должэн сколькі буханак хлеба спячы і аднесці ім туда на склад. Ну кажды раз пяклі хлеб, ну а аткуда зярно, аткуда бралі гэтага я не знаю. Наверна прыносілі.

Вайна была страшная. Дай Бог, каб не было яе. У вайну тожа аб'явілі, што будуць налёты, самалёты. Ну, парцізаны сказалі, што будзіць во з

самалётаў, спасайцеся гдзе-куда. Зашлі мы нас у лесе нейкая стаяла іілі баня, ілі вот такі акоп выкапаны. Ну што-та такое было. І мы там сядзелі, і акошачка такое было. І там у аснаўном былі і жэншчыны старые, ну і дзеці. А ўжэ более такія взрослыя, такія вот ужо ў гадах, такія вот крэпкія жэншчыны, хто пад сасной дзе хаваўся, хто куда. А нас закрылі ў гэтым у бліндажэ. І тады сядзелі мы: хто спаў, хто плакаў, хто што. І гэта такое акошачка маленькае было.

Як зазвінела акно. Такое вот ці з вінтоўкі, ці з аўтамата ў акно, і асвяцілі фанарыкам. І крычалі што: “Парцізан, вылезай!” Ну, тут крык, сталі плакаць, жэншчыны гэта старыя сталі плакаць. Дзеці праснуліся. Нам жа тожа страх быў. Плакалі ўсё, а адна сама старэйшая жэнўчына, яна елі хадзіла, старушка, і сказала: “Буду я первая. Заб’юць мяне”. Ну і выйшла яна, а там стаіць тры ілі чатыры немца. Яна паказваіць, што тут во такая, як я, і вотачэнечкія. Яны тады зашлі ў гэтыя дзверы, фанарыкам пасвяцілі. У нас глаза такія страшныя, хто схаваўся, каб фанарыкам ня ўвідзелі во толькі када ў бані жылі. Ну в обшчэм гільзы туды паставілі і нейкай мазуты налівалі і гэта з трапачкі сшывалі такое, каб намачыць і падпальвалі (кнот). Ну гэта капціла ўсё. Ну во такое мы відзелі. Вот мне з дзецтва такое запомнілася. А тут дзяржыць у руках і свеціць. Ну на ўвесь гэты бліндаж. І тады зашло тры немца, адзін сеў на парог. Усе палажылі гэта руж’і свае, дасталі хлеб, парэзалі, пасчыталі сколькі нас і каждаму рабёнку кусочак хлеба і масла памазалі. Ну і сталі раздаваць. Мы ўсе сядзім баімся ж есьці браць. Тады яны панялі, што гэта мы баімся есьці. Ну нам страшна было. Яны тады самі атрэзалі з гэтага хлеба, масла з гэтага парэзалі самі з’елі і сказалі на ломаным рускім ці беларускім, што есьці ня бойцеся. Мы з радасцю з’елі гэты хлеб, бабы нашы старэнькія, цалавалі гэтых салдат, што адзін заплакаў. Салдат тожа поняў і сказаў: “Капут маёй фраў”. І сказаў: “Мы ідзём, мы прайдзём. А вот што дальшэ за намі будуць – ухадзіце”.

І тагда ўжо з гэтай дзярэўні ўжо за лесам, у балоце сядзяць. Мы не дайшлі, а так ужо тожа было б капут. Ня ўспелі. То сільна бальшая очэрэдзь была чэраз рэчку пераязджаць і мы не пераехалі туды. А хто за рэчку папаў…

Ну а ў вайну очэнь многа дзяцей умірала, і гэта паліцаі былі вот срэдзі парцізан. Быў учыцель адзін, харашо помню, і гдзе-та нашлі запісачку, што нада было перавесці на нямецкі язык. Учыцель нямецкага языка, ён перавёў. І тады помню, парцізаны прыйшлі ноч’ю забралі гэта ўчыцеля і растралялі. Ён перавёў немцам на рускі язык ілі з рускага на нямецкі язык, но ён перавёў пісульку. Так ён нідзе: ні ў немцаў, ні ў парцізанах. Ён жыў са сваёй сям’ёй у дзярэўні. Вот. Ну ўжо што была.

Сразу у мабілазацыю жылі мама з папам жылі ў Мінске была кірпічны завод № 2. Цяпер там аэрадром, ілі №4, там ваенны аэрадром, я ўжо

ўзнавала. І вот і я, мама расказвала, сама помню, хіба, што толькі ўвіжу, што гэта ў ваеннай форме, ілі парцізаны ў ваеннай, ілі немец. Я на рукі сразу, рукі выстаўляла: “Папа”. І, гаворыць, некатарыя дажэ немцы, як вот паднімалі мяне на рукі, тожа плакалі, што вот сваіх аставілі. Ну і вот расказвалі, што сваіх дзяцей аставілі.

**Зап. эксп. ПДУ у 2007 г. ад Шапуновай Лідзіі Іванаўны, 1939 г.н. у в. Чаросава Лепельскага р-на.**

## 1227. Пад акупацыяй

Нашы ж тут усе былі ў лесе, баяліся немца. А немец усе хаты папаліў. Парцізаны былі, прысланыя з Расіі, і дзеўкі прысланыя былі. Ну і самі ўжо пашлі. Баяліся немца.

Знаеце, як Радзіонаў саедзеніўся з парцізанамі? Немец набраў нашых рускіх пленных многа і ў Германію павёз. І Радзіонаў сказаў, што я буду за вас ваеваць. А бацьку майму ўжо быў 46-ы год, бралі яго, але не хваціла абмундзіравання, і бацька мой прыйшоў дамоў, і болі яго не бралі, і ён быў дома. А тады, як прыйшоў Радзіонаў, стаў ехаць і нада былі яму падводы і коні. І ў нас якраз быў конь, і Радзівонаў тады ўзяў у падводы яго. І ў абоз пагналі бацьку майго і з Вецяры мужчына быў адзін, і другі сусед быў Хведар. І ў траіх яны былі. Радзіонаў нагрузіў па 40 яшчыкаў нямецкіх патронаў, мінамётаў і гранат… А бацька прыхадзіў дамоў памыцца ў баню, прыхадзіў бяллё здзець, а былі яны ў Шклянцах, за Беразіном, за возерам.

У парцізанаў рукавадзілі рускія. Ну бралі, у нас у Таргунох сястра жыла, прышлі ноччы, узялі ўсё. Лазілі віздзе, солі іскалі. Мая маці хадзіла ў Крулеўшчыну, во гэтай калійнай солі краснай прынасіла. Закіпяціць вады у чугуннай чашке, у нас была як жбаночык, і гэта разойдзіцца, і гэтай вадзіцай саліла страву. А немец тым, хто сеяў, здаваў сена і валакно, у Параф’янава даваў солі, прывазіў поездам. Дык даваў па 6 пудоў солі за семя. Белай солі добрай, нармальнай.

Ай, усякія немцы былі. Былі і сярдзітыя. У маей бабы ў дзярэўні дык стаялі яны ў хаце, дык яны памаглі ёй вынесці і лавы, і стол, а хату падпалілі. Паліцыя ў Докшыцах была, а сваіх не было. І ездзілі латышы, па два коні запрэжаны, вялікія калёсы. І літоўцы, і латышы. Яны ад немцаў былі. Ну, бывала, вот мы з сястрой выйдзем з хаты, хата ж на хутары, ідзём у кусты па брусніцы, а бацька: “Сядзіце ў хаце, ня швэндайце!” Насілавалі баб, маладых дзевак літоўцы гэтыя, латышы. Немцы так не рабілі, толькі калі адступалі. А нашы, рускія, ехалі за немцамі і везлі з сабой і стулы, і шкафчыкі. Тады хадзілі па хутарам, каб хто купіў. І мама мая купіла два стула ў іх за хлеб за печаны.

**Зап. Філіпенка У. у 2009 г. ад Васілевіч Галіны Іосіфаўны, 1927 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

## 1228. Шыфр “616”

Ну, немцы ва Ушацкім раёне мала былі, очэнь мала былі. У аснаўном былі парцізаны. Вот і рацыю помню было і ішчо я памню, знаеце што расказвалі пра вайну. Дзе рацыі стаялі, і гэта туда нікаво не пускалі. І к аднаму парцізану я так паддабрылася, не знаю: ён мяне любіў і я яго любіла. Бегала і звала яго – папа. І вот ён браў мяне на рукі, і гэта, ну і слухаў. І што мне запомнілася “616”, вот гэта і ну точна прапісаная ісцінная праўда, “616”.

Ну і падарыў ён мне карандашы цвятныя, у то ж врэмя ваабшчэ карандашы, дажа бумагі не было. Я ў первы клас пайшла і з ворсам карандашы гэтыя, налажыла ўсё, а ўчыцельніца забрала і дала адзін прасты карандаш. Сколькі ў мяне было слёз, сколькі я плакала. А мне дала прасты карандаш, каб я пісала.

І было што: ён “616”, я на каленках сяджу і рысую. Ну, а я малая была, ну вот я як лісіца к любому магла падайці: ці там взрослы, ці там малы, ці там жэншчына, ці мужчына. Вот еслі ён мне панравіўся, я ад яго не адхадзіла. І вот гэты радзіст: “616” і ўжо выпусціў мяне на вуліцу, пабеглі мы, сабралася нас дзяцей. Я што: камушкі налажыла, камушкі, ну многа камушак налажыла. Ну і гэтат, глядзя на мяне, старшыя за мяне дзеці і младшыя і я “616”, “616” стукаю, а как раз ідзець гэты радзіст. Прайшоў міма, маму пазваў ціхенька, а яе звалі Елена Сямёнаўна: адвядзі сваю дзевачку, вазьмі ад яё ну і сказаў, што гэта там нейкі шыфр, нельзя гэта было гаварыць. Ну, нешта парцізанскае што-та.

І вот і цёця прыйшла, і мама прыйшла, адлупілі мне добра па задніцы. І гэта “616” так з нядзелі 2 нікуды не выпускалі, пака я не забылася гэта ўсё. І тада большэ мяне ў той домік не пусцілі. І гэтат парцізан, ён быў жанаты, каторы ад’язджаў, радзіст гэты, падарыў мне са сваей жаной платок. Гэты платок я храніла очэнь долга, шолкавы платочак такі, очэнь долга храніла, калі не разваліўся. А вот гэта “616”…

**Зап. эксп. ПДУ у 2007 г. ад Шапуновай Лідзіі Іванаўны, 1939 г.н. у в. Чаросава Лепельскага р-на.**

## 1229. Партызаны

Прыйшла вайна, ну што рабіць? Браты пайшлі на вайну, дайшлі да Берліна, а я засталася з малым. Што дзелаць? Была карова, забралі. Парцізаніць пайшлі. Вот цяпер бы парцізанілі, я бы цярпець іх не магла. Былі добрыя, а гэткія прыйшлі і карову забралі. Потым прышлі кабанёнка забралі, прасіла, каб заставілі хоць кавалак, нічога не заставілі. Прыходзяць апяць, у мамы целагрэйка ад брата засталася, хацелі адабраць, быццам ваенная форма. Круціла, галасіла, так і не адабралі…

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Протас М. у 2007 г. ад Сакаловай Марыі, 1919 г.н. у в. Залессе Бобраўскага с\с Лепельскага р-на.**

### 1230. Страшная жызня была...

Вясной мама саламяную крышу зніміць, карове дасць, а ўвосень накрыець. Мама мяне маленькую возьміць асаку рэзаць, сярпамі жаць, а тады вот дзе шышкі чорныя растуць... І мы гэтым крылі крышы. Кончылі мы па 8 – 9 класаў, нада было ў Боркавічы хадзіць. У Боркавічах мама дранікаў напякець на ўсю нядзелю, тады маргарыну купім якога. Дзеньгі ж нам не плацілі, і маме не плацілі за работу. А мама пяцярых выгадавала. Былі крэдзіт узяўшы на хату: недзе было жыць пасля вайны. Вот прыедуць апісываць, а ў нас... дзеньгі не плоцяць... Мама работала – кароў даіла у калхозе, а нада было ўбраць з-пад кароў, падаіць уручную, а еслі цялёнак ацяліўшыся – нада напаіць, з’ездзіць кіламетраў за 15 за кормам.

Вот мяне малой была ўзяўшы вясной, мы едзем. Нагрузілі. Я таптала, а яна грузіла корм гнілы: на вуліцы ж быў усю зіму. Едзем, а лужа бальшая-бальшая... Гляжу – мама каня астанавіла, разулася, а лёд яшчэ, босая прайшла. Я малая: “Мама, а чаго ты разулася?” Яна: “Дачушка, боты разінавыя, дзіравыя. Так я прайшла і цяпер абуюся, будзець суха мне, буду дзень хадзіць”.

Тады кароў падоіць, прыбегаіць нас будзіць: два браты ў мяне было – іх – цялят пасціць. Бяжыць тады карміць калхозных курэй, гусей, свіней. На каромысле нясець два вядры, корміць. Тады прыбегаіць, будзіць нас, дзяўчат...

Калі немцы прыйшлі ў Страшн*ы*я, занялі Новый Строй, усе пайшлі ў лес. Мы жылі ў зямлянке, і забалеў у нас брат і Люба – старшая дачка. А ў нас бацькава сястра была і ў яе два дзіцёнка. Яны забалелі – Коля і Таіска, і яна павяла к немцам. А яны за тое, што піянеры, узялі ўколы далі – яны і памёрлі. А мама пабаялася сваіх к немцам. Так яны і храмалі – застудзілі ножкі.Тады Люба не пасціла ні кароў, ні гусей. А свінней як інцярэсна пасціць было! Іх нельзя было ні біць, нічога. А яны не панімалі, што нада слухацца… Дык Любу ўзялі цехнічкай у школу, што ў нас сям’я такая, мы 12 рублёў палучалі за ўборку.

Дык прыйдуць, апішуць, што ў нас было: шкаф і машынка швейная, што мы крэдзіт не плоцім. А тады Малянкоў ці хто стаў, крэдзіт гэты спісалі. А хата была – дождж пойдзець – усё цячэць. Місачкі, баначкі ставілі, каб сухія былі. Страшная жызня была...

**Зап. Захарэвіч А. і Жолудзева П. у 2008 г. ад Мядзель Марыі Васілеўны, 1927 г.н. (нар. у в. Аляксееўцы) і Казловай Ніны Іванаўны, 1941г.н. (нар. у в. Страшныя (Новы Строй) у в. Дзёрнавічы Верхнядзвінскага р-на.**

### 1231. Вайна

Я ж помню, дзеткі. Тутака былі парцізаны пасяліўшыся, гулялі нейкі празнік. Тройца, кажыцца, была тады, празнік. І гулялі, і тут вечарынку

справілі, і ўсё. А прадацель нейкі быў, прадацель. Тутка ціха было, наляцелі гэтыя немцы. А бацька наш быў дома, мама кажыць на яго: "Бяжы чэраз Калюгу і на Бор, там дзярэўня была, за раку схавайціся дзе". А ён дабег трохі і вярнуўся назад: "Не, будзіце паміраць вы і я разам".

Ну што, немцы гэтыя нахлынулі, бацьку забралі с хаты, прыкладам гэтым набілі бацьку, перад сабой і папёрлі. Мы тут у плач, ну а што ш мы зробім? А нас забралі ўсіх і пагналі сюды, бацьку на тую сторану дарогі, а нас на гэту. Наш брат быў шэсць гадоў, самы большы быў. З бацькам, за бацькам ён, гэта, гнаўся, за бацькам ішоў. А ён: "Ідзі, сынок, нас можа паб'юць, а вы астаніцёся жывыя". Нас на гэту сторану прыгналі, дзе тут сельмаг, і нас прыгналі сюды. І нас прыгналі сюды, салома там, яўрэі былі ўсе схаваўшыся ў нас некаторыя. А яны, немцы, шукалі гэтых яўрэеў. "Еслі найдзім, усім вам будзіць капут", – немцы гэтак ужо на нас. А мы хавалі пад сябе іх, вы ш знаіця. І жэншчын хавалі, жэншчын. Хавалі, дзеткі, яўрэеў. Жалелі ш мы ўсех.

Мы іх хавалі, вот сённека мы іх схавалі, а назаўтра немец прыляцеў, хацеў нас паліць ужо. А самалёт нейкі прыляцеў і нас усіх распусцілі. Ну і ўсе яўрэі ляцелі з намі назад. Ну распусцілі нас дамоў, гэта первая блакада была, іх жа чатыры іх, гэта. Ну, нас адпусцілі, мы дамоў ужо.

А втарую блакаду… Мужчын, часць, білі жыўём, у склеп кідалі, вот. Ставяць, страляюць і кідаюць. Не правяраюць, ці ён там жывы, ці не, кідаюць. А часць спалілі мужыкоў. Дык наш бацька быў у склепе забіты. Дык толькі ш шукалі па адзежы, ужо не было як. Яны ш паліжалі там нескалькі дней, па адзежы пазнавалі толькі.

Ну а гэтыя, ну шкода, хоць яўрэі, яўрэі – усё роўна ш людзі, тожа хочуць жыць. А яны многа яўрэеў панаходзілі, выкапалі траншэю во тут во, тут памятнік паставілі цяпер прошлы год, яўрэі, па іх. І ў траншэі лажылі іх жывых і тады стралялі немцы хадзілі. Хадзілі там нашы взрослыя жэншчыны закапываць, заставілі іх, закапывалі. Такі страх быў, Божа, Божа, як яны крычэлі, ну жывых жа? Садзілі ў траншэю гэту і стралялі. Яўрэяў не так многа было, но яны багата жылі. Яны жылі тут на канцы, с канца дзярэўні.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Явілкі Лідзіі Піліпаўны, 1935 г.н. у в. Мсціж Барысаўскага р-на.**

### 1232. Дай Бог, каб вайны не было ніколі

Білі дубцом. Яшчэ як білі бацькі! Як жа не будзеш! Але не біла я дужа, гэта доўга помніцца. Лучьшэ у вугол пастаў, а ня бі. Цяпер скора і света не будзіць: аднаго родзіць і болей нет рабят. Раней ніякага не зналі, сколька родзіць – пяцёра, сямёра ў хаце – і старуха якая з імі сядзіць і камандаваець. А цяпер вучуць, вучуць, а вырастаюць абыякія рабяты. Робіць не застаўляюць! Раньшэ з малых лет робіць застаўлялі: і палоць, і капаць, і

на пасту ганяць. Усё-усё робілі. Чуць падрос, 15 – 16 гадоў, ужо за плугом ідзець. А цяпер гуляюць гульма. Труд – бальшое дзела, фізічэскі нада робіць.

Старэйшыя глядзелі малых... Толькі так, толькі так. У нас было 10 гектараў, нада ж было сярпом зжаць і лён выдраць. Я сама да вайны паднімала, тады ж не было камбайнаў, а касілка такая косіць авёс, а мы, рабяты дашкольнага возраста, ходзім, падымаем гэты авёс, звязваем ў кулі, у снапкі такія, і ставім. За гэта падзорную трубу далі нам. Раньшэ робілі, ой робілі... Малацілі, і жалі, і касілі. І не хочыцца, і плачыш, падымуць цябе, і пойдзеш робіць.

Якія кукалкі? Кукалку з трапак пашыець баба, вот і ўся кукалка. Адкуда ж яны былі... У хатах рэдка ў каго пол быў. Дажэ я ў Западную замуж вышла, там і кароў, свінней у хаце дзяржалі. Раньшэ ж вуліцы вузенькія, хаты небальшэнькія, саломай накрытыя.

І хварэлі. Бывае ўпудзіцца, тады кураць. Сабаку спугаўся – шэрсці ад сабакі нарэж і запалі. Рабёнак, каб ён стаў, ножкі разняў, падзяржы яго над дымком. Во так я дзелала ад упуду. А сурочаць – гэта ад чалавека. У аднаго добрыя глазы, а ў другога плахія. Паглядзіць – і рабёнак будзе качацца. Тады нейкую ваду дзелаюць, солі насыпаюць і змываюць гэтай вадой. Неяк мяне вучылі: раз тры, другі раз тры, трэці раз солі патрошачку, а тады перашчытай, соль у адно места у вадзічку, і вадзічкай змый-змый-змый. Я й сама баялася ўроцаў, галава тады баліць, косці баляць і ўсё. Гэта неспецыяльна, гэта глаз такі. Падзівіцца, які красівы, разумны, і чалавеку плоха станіць. Гэта неспецыяльна, гэта такія глазы, у такое врэмя радзіўшыся чалавек, што адзін уроцы баіцца, а другі ўракаіць. У нас саседка была, як карова целіцца, мальчонак як пачуіць, што новы цялёнавк паявіўся, бяжыць, тады гэты цялёнак падаіць і здыхаіць. Тады не сталі яму казаць і пускаць, як цяліцца карова. Гэта такія бываюць глазы: добрыя і нядобрыя. Як і чалавек. Адзін жадаіць дабра, другі зла.

Тут я радзілася, і вайну... З плена ўцяклі. Знаеце, на пуці мне ўсё ўрэмя добрыя людзі ўстрэчалісь. У пляну, у Даўгапілсе нас сабралі ад хазяіна, павязуць у Германію. Прывязлі на вакзал, а там ў вагоны загружаюць раненых немцаў, занетыя вагоны ўсе. І нас ў гэту загародку, провалкай абцягнута, загналі. Стары дзядзька сядзіць з унукам і кажа: "Як наляціць, ракеты ж пускаюць і пускаюць, наш самалёт, а вы тады уцякайце". Я з сястрой і дзяўчына нейкая Маня пабеглі, як самалёт наляцеў. У канцы Даўгапілса папрасіліся, расказалі ўсё як было, а там тожэ добрая бабка была. Кажа: "Дзеці ўцяклі, бралі мяне, а бацьку не бралі. Бацька, калі немцы прыйшлі, адкрыў дзверы, а іх повен двор, як спугаўся, глухі і нямы стаў. А куды я яго кіну? Жызнь пражылі добра, дружна..." Яна напаіла, накарміла нас, кажа: "Не йдзіце па бальшаку, бяжыце каля. Восень, трава бальшая, як учуе-

це машыны ці матацыкал, у траву ляжце і ляжыце, так і ўцікайце". Так мы й дабраліся. Многа чаго ёсць расказаць... Жыва асталася... Каня рэжуць, варуць, нам па баначкі кансервнай наліюць. І ўся ежа, два разы. І цяпер ашчушчаю, юшачка салёная, прыятная... У лагеры у немцаў...

Былі гдзе-та пад Апочкай нейкі горад, нас сабралі... Быўшы рускіх концлагер. Там, абнясі Божа, нары-нары-нары, а на нарах вошы во такой цэп'ю, таўстыя, як клапы, раз'еўшыся ад людзей. Маладых нас бізуном-бізуном гэты немец: "Лезьце наверх!" Адзежа ж гэта смярдзела сілосам… Пабыўшы ў лагеры. Ай-яй... Дай Бог, каб вайны не было, дай Бог, каб вайны не было ніколі...

**Зап. Захарэвіч А. і Жолудзева П. у 2008 г. ад Матылёнак Ніны Іосіфаўны, 1925 г.н. у в. Каханавічы Верхнядзвінскага р-на.**

## 1233. Кароўнікі

Прыдуць днём немцы: "Матка, яйкі, матка, сала, шпік". А ноччу парцізаны: "Кароўку аддай". Я помню яшчэ бабушка была жывая, пасля вайны яна памёрла, яна, а нас трое было ўнукаў у бабушкі. У нас такое было, як заходзіш у дом, яго спалілі гэты дом, бальшы быў. Так была над дзвярмі полачка такая і яна была засцеклена сцяклом, і бабушка там хавала во такі кусочак масла, каб нам хоць ужо ў кашу. А яны прышлі, парцізаны, і дасталі. Чацвёра сыноў было ў парцізанах бабушкіны. І што яны пачулі? Нічога ж. Яна маліла, прасіла і плакала, і ўсё. І забралі гэта масла і ўсё. Парцізаны харошыя былі, а гэта былі "*кароўнікі*". Мы іх звалі "*трапачнікі*", "*кароўнікі*". Што кароў забіралі і жэнскую адзёжду. Ты ж парцізан, дык ты мужскую бяры, а ён жэнскую. Калмуты, адзёжу...

Яму адкрывалі ў нас у вайну. У нас жа ж усё хавалі ў ямах, у лесе. Ну і тады мама раз прышла, аж там тока штаны такія, як вельветавыя палосы на пяску. А ён стаў, яму адкрыў і выцянуў усё, што было ў яме. Тока там ліжаў яшчэ кусочак мацерыялу такога, пасля вайны пашылі бабушке на смерць кофтачку і юбку. Ну а тады ён стаў насіць і гэты платок, што забралі ў яме там, мама пазнала. Яны ж панадзівалі і насілі. Што, яны баяліся каго? Яшчэ маўчы яму, ні гавары нічога. Яны ж пасты ўжо занімалі тады добрыя пасля вайны. Пасля вайны яны ж былі ўсе ў власці. У райкомах.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Мурашка Анатоля Казіміравіча, 1934 г.н. і Мурашка Людмілы Барысаўны, 1938 г.н. у в. Гаражанка Барысаўскага р-на.**

## 1234. Ваеннае дзяцінства

Дык стала ўжо гэтак – прышоў немец, тады ж былі парцізаны і немцы былі. Можа сем мне гадоў было ці сколька. А яна мяне чэшыць, сістра, на табурэтке на дворы, а ў галаве ж там кішэла. Ужо прыеду дамоў, дык суседка ўжо гэтак самая во кірпічным, кірпічом абложана хата. Мая родзі-

на, дзе я радзілася і расла. Дык гэта, дык прыехала і суседка: “Вашыўка, не прыхадзі на сяло”. Не хацелі са мной дружыць. Клёцкамі вошы былі, параз’ядалі ўсе раны, гэтак на руках раны параз’ядалі ўсе. Я гэта кастрой гэтай кашуляй надзерышся, кроў ідзець, тады ж гэтыя вошы шышкамі гэтак, так баліць, аж млосна, аж калоцісся во гэтак во.

Тады ж стала мяне часаць, нейкую ж там паслаўшы. Дык не ўпраўляецца, яны разлятаюцца с табурэткі, не ўпраўляецца яна іх ціскаць, чым біць сістра. Увідзіў немец, увідзіў немец ужо гэтак і тады ўжо гэтак: “Матка, матка, тое і тое…” Каб гэта мне мылам галаву пацёрці. Як пацёрла, як стала млосна мне. А ўжо думала сістра, што атравілі мяне можа чым, што ўжо відзілі гэтак, што далі мыла гэтага. І пасля тага, дзеткі, ужо скольکі гадоў нідзе нічога німа, дык вот.

А кароста ўжо як была, дамоў прыехала ўжо да сястры, мы ж без бацькоў гадаваліся. Ну яна тады выпаліла печ, алі трошку яна там прапаліла, каб душок ужо быў, негарачае. Тады вымяла попел чысценька, тады паслала саломкі і дзёгцем нас, дзёгаць быў, можа калёсы мазаць, нейкі ж дзёгаць. Намазала дзёгцем нас усіх, гэтыя гэтыя, ну і з братам нас і ў печ і засланкай, засланка гэтая жалезная. Дзяржыць, а мы крычым дзікім галасам гвалт. А нас ужо ў гэтым у душку, дык яны ўжо зразу там. Ляцела я ўжо ў сажалку тапіцца, алі дагнала яна мяне, увалілася я каб у гэту ваду, ды каб дзе. Пасля гэтага і каросты не стала. Дык во гэтак во. Дык прастрадалі ў дзетстве, крэпка прастрадалі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. ад Чэчуковіч Раісы Іванаўны, 1936 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

### 1235. Акупацыя

У лесе былі парцізаны і яны нас спасалі. Немцы ж спалілі нас, нічаво не аставілі, і жылі мы ў зямлянках. Жыць жа нада. Парцізаны ўсякія. І ў нас адзежу папабралі, якая была лепшая. Вот, а тады былі ж парцізаны ўсякія і абарваныя, і ўсякія. Дык тут быў Іван Сяргеевіч, ён закройшчыкам быў, партным, а я дык шыла парцізанам адзежу. Я была на ўсё спасобная. Адна я хадзіла ў школу, і ў нямецкую школу хадзіла. І вершы нямецкіе знаю: Werden unter die Soldaten / Der Ungaben eingewert, / Das mit Armen Fuller laden, / Und die allen gugen schwer. І вершыкі я гэты ўчыла.

Тая самая была школа, як савецкая, толькі быў учыцель нямецкага языка. І гэты ўчыцель прыпадаваў і беларускую мову, і нямецкую, і арыфмеціку. Нас учылі, каб мы ўмелі гаварыць, учыцель прыпадаваў для дзяцей, а паліцікі гэтай не было. Я і пры паляках у школу хадзіла, я начынала хадзіць у польскаю школу. А пры Польшчы падатак усё роўна плацілі, а некаторыя былі, што і нашым і вашым. Яны ў цюрмах сядзелі і ўцякалі за граніцу. Там пан быў Юзыфовіч, тата мой быў кузнец, дык ён прыязджаў і

казаў: “Не купляй зямлю”. А тады ўсе зямлю куплялі, і мае бацькі купілі дзесяцін шэсць. А ён кажыць: “Не купляй, прадавай. Там, дзе я жыву, будуць бярозы шумець, а дзе я хажу – хлеб будзець расці”. Дык і праўда, цяпер паразворывалі і сеюць хлеб, а дзе маёнтак панскі – бярозы шумяць. З Бірулёў былі ўсіх мужчын павысылалі. І нявінных, і багацейшых павысылалі. Сталін прыказываў, каб усіх іх убраць ад граніцы.

Паліцаі былі, але дужа я ведаю тых паліцаяў. Не знала. Канешна, былі надзірацелі, а тады сталі паяўляцца парцізаны, ужо власць раздзялілася. Ужо парцізаны сваё трэбавалі, а немцы сваё. Ужо немцы, як фронт дзержалі, ваевалі з парцізанамі ў 43-ым, а ўжо ў 44-ым разбілі немцаў парцізаны.

У немцаў, у часьцях іхных і літоўцаў было многа, яны дужа былі зверскія. Яны ў нас дзярэўні палілі, людзей жыўём палілі. Сабяруць людзей згоняць у хлеў нейкі, сабяруць і падпаляць.

**Зап. Філіпенка У. у 2009 г. ад Васілевіч Ганны Фамінічны, 1928 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

### 1236. Пасля вайны

Троху дзярэўню пастроілі і пажылі саўсім. Зачысце завецца тая дзярэўня, і гэта дзярэўня была красівая ўсё. Калхозы пачаліся. Калхозы былі маленькія саўсім, я ў школу яшчэ хадзіла пасля вайны, і калхозы былі маленькія. Тады сталі прысаедзіняць большыя. Вот у школу ходзім, а як школу кончым, ідзём у калхоз памагаць. І сена гэна грабім, як скосюць, і сена варочаем, маладыя гэтыя, шпількі гэтыя, а ўсё роўна ідзём робіць. Нада ж дзе заробіць, а давалі што нам – гірсы дадуць, яны ж гэта пасеюць уражай, а тамачка нічога добрага ня вырасцець. Дома ж ані хіміі, нічога не было, каб атравіць там ці што, каб добрае вырасла. Вот дадуць на трудадні, трудадні тады былі, і нічога.

На трудадзень на той дадуць па сколькі грам гірсы, а мы і тога змелем, рэдка дзе жыціна пападаецца, змелем, хлеб пячом. А якія хлябы пяклі? Саўсім значала ірвалі шышкі такія, асакі шышкі жоўценькія бываюць растуць, і вот пірог з тэй шышкі спячэш. А тады як спячэш, дык і неяк гэта аправіцца, так цябе скрапіць жалудак шышкамі гэтымі. І не дай Бог, як жылі, з вайны з гэтай. Гурувалі ў вайну малыя, а тады з вайны сколькі, пакуль ужо на ногі мы сталі, пакуль калхозы гэтыя ўжо троху сталі. І вот там нам не давалі ніякіх грошай, нічога, а тады ўжо і трудадні гэтыя кончыліся. Тады нешта, нейкія капейкі ўжо трошку далі. Ужо хоць і спічку купіш за тыя капейку, метар якога сітцу, стаў ужо сіцец нейкі, метар сітцу на кофту якую.

А так жа ж, што матка зробіць. Гэты лён сцелюць, лён гэты тады падымаюць, тады ў мяліцу мнуць, а тады прадзець. Зіму прадзець, а тады клубкі гэтыя там усё і ў бёрды тыя тчом. А тады вытчам палатно гэта, пасцелеш яго – выбеліць нада, а яно калянае такоя, усякая. І з тога палатна

нам пашыець які сарафан. А чым пакрасіць? Тады красілі, ржа такая была, іржой красілі, каб ён цвет змяніў, ня белы быў.Тады мне руды сарафан пашылі, я і гэтым рада, і з той мацерыі сумку пашылі. Сумку за плячо і ў школу ідзеш, у школу ідзеш. А тады гэта абуваньне якоя. Зіма гэта, халодна, тады дзе якія буркі, лапці сплятуць і ўздзенуць на буркі тыя лапці.

І вот ідзеш у школу ў лапцях, у бурках, штаноў жа ж не было. Там нейкія штаны зрэбныя мама пашыла, а разінкі ж няма ўсадзіць, тады яна вяровачку ўсадзіла. Ну, уторкніць вяровачку там ужо. Я пайшла ў школу, са школы іду, ай-яй, а тут сцаць захацелася, я ўжо па прамому вам і кажу, а тутачка ўзлом завязалася тая аборынка, ай-яй, не развязаць неяк. Я тады я, ну што, і абасцалася і прышла мокрая дамоў. А ў школу было іці кілометры чатыры.

А ўслошку малацілі, услошка гэта добра, што ўжо стала ўслошка тая высока. Такая машына, на верх падаваць на стол снапы, а на стале там рэжаш снапы тыя, а тады падаеш, а многа людзей адносюць салому гэту і тады ў мяхі. Ёсць такое места, што мяхі прывязываюць і ў гэтыя мяхі сыпецца зярно, конь прыходзіць і зярно гэта атвозіць, а слошкі дык і то добра было. А як камбаіны ўжо паявілісь, ай, глядзім, што гэта, якая гэта машына, жнець, малоціць і саломачку грабіваець. Гэта такая ў нас прыказка была ў кніжцы, як у школу хадзілі, напісалі: “Што жнець, малоціць, саломачку грабець, што гэта за машына?” Аж прыходзіць камбаін, ай, пабеглі ўсе глядзець, якая ж гэта машына. Праўда, ай, ідзець і кучкамі салому выкінець і зярно ў бункер ідзець, усе глідзяць на гэту машыну, дзівяцца. Камбаін ужэ паявіўся, во як было.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Ткачонак Веры Ануфрыеўны, 1936 г.н. у в. Ладасна Лепельскага р-на.**

## 1237. Пасля вайны

Якая да вайны была [зямля], такую і пахалі. У каторых свае шнуры былі, такіі і пахалі. А як ужо сталі калхозы у пяцідзісятым гаду, тады ужо паадбіралі зямлю, паадбіралі коній лішніх і абагулівалі у каго там які амбар, ці свіран, ці што. Усё забіралі, толька астаўлялі адну хату і адзін хлеў.

Канешне ні хацелі ў калхоз! Ну а што зробіш, калі Сталін так саздаў такі указ што б ішлі. А у калхозі, войдуць во як, і мае хадзілі радзіцілі увесь дзень атробяць, а ім трудадзень пісалі. А за гэтат трудадзень нічога ні плацілі. Усё дарма рабілі. Рабілі людзі дарма. І так рабілі каждый дзень: ад цёмнага да цёмнага, і у васкрэснікі, і усё. Цяпер кажуць, што дрэнна жыць, што Лукашэнка благі. А чым жа цяпер дрэнна жыць? Цяпер жук і жаба на машыні ездзіць. Праўда! Ну праўда ж! У усіх на сталах і хлеб, і сала, і чарка, і скварка – усё ёсьць! Так добра!

Вот як жылі, вот напрымер, драныі бліны знаіце такіі таўстыі? Дык там солі ні было у нас. Дзе Зябкі, насілі прадаваць гэты бліны туды, а ім давалі узамен соль. А тут свае во местныі бандзіты былі, якіі во ну жыцілі вот напрымер Хралы, ці Шо там, ну у Шы ні было бандзітаў. Там болей у Завулку у гэных былі бандзіты, перыймалі свае бандзіты. Усё. І тады яго-ная маці, свякроў мая, с аднаго маску садрала, а ён свой аказаўся. А яна гаворыць: "Ай Лёнічка, дык гэта ты ходзіш адбіраіш у людзей". Тады, гаворыць, – хамыль у лес, і пайшоў, нічога ні зачапіў. Былі бандзіты, і кароў кралі, у лапці абувалі. Кароў выцягвалі во ў людзей. Карову абуюць і увідуць.

Гэта пасля вайны былі бандзіты. Абіралі хаты, усё. Ні было, што прыехалі, тут жа ж нічога ні было, ні хат, нічога. Людзі жылі у якіх баньках, дзе у каго астанецца. Была у нас там пуня, астаўшысі наша собственная, і тут во, мусіць у іх баня была яшчэ, у Юркі. Тады яны жылі можа па пяць, па сем сямей у гэтых баньках. Спалі на палу. І с сястрой у нас, як ні было, дык спалі гэта с свінёй, свіня ляжыць у хаці і мы пасцелімсі, з ей на саломі ліжалі. Гэта пры гэтым, пры Сталіну. Гэта ён, гэты Сталін, здох каб ён там!

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Анашкевіча Антона Міхайлавіча, 1934г. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 1238. Вера і ўлады

А пры Польшчы былі цэрквы, малілісі. Рабятам мама ж гаварыла. Прыхадзіла кажды раз ужо Банецкая такая, ну іна жана была пана. Прыхадзіла кажды раз у школу і давала урокі рэлігіі, навучала. К усяму добраму прывучалі. А тады гэтат, як прышоў чорт к уласці, гэтат Сталін, усё пазакрываў. Вот. І цэрквы паразбураў. А што гэта цэрква, вучыла ж к добраму: каб і бандзітаў ні было, каб і людзей ня рэзалі, каб ні ўбівалі. Гэта ж усё к добраму вучылі, к харошаму. А як па Сталіну, тады пазакрываў усё: грэху німа, Бога німа, таго німа. А усё яно ёсьць!

Ціханька [хавалі]. Хто на рабоці, вот робіў тады, ну была цэрква у Празароках, але вот хто на рабоці робіў, напрымер бухгалціра якіі там, дзе у канторы там ці хто, баялісі. Ціханька. Учыціля якіі дзе былі – ціханька. А так казалі, што вот учыціля былі, хто быў у парціі, застаўлялі іконы выбрасываць, іконы выкідывалі, во які быў закон.

Ні было ўжо бацюшку, гэта ужо нільзя, тады ужо самі малілісі людзі каторыі, во у дзярэўні ж умелі тожа маліцца. Маліліся самі людзі і ваду гэту дзе бралі, там дзе якая ж цэрква і была, няўсюду ж было пазакрывана. Там дзе якая адна была аставалась, тады ну адзін аднаму перадавалі вады гэтай свянцонай магілу пасвянціць, то зёлкамі пакуруць магілу. Ну і свае людзі малілісь Богу, і так закрывалі. А тады ўжо як прыйшло, што можна было, тады ужо сталі людзі грошы сабіраць, усе сталі на цэрквы, каб адна-

віць цэрквы, сталі даваць хто што мог: і каўры купляць, і палаценцы купляць, і цюлі купляць, і дзеньгі даваць – усё гэта на цэркву. На цэркву і на цэркву. І стала усё гэта аднаўляцца.

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Анашкевіча Антона Міхайлавіча, 1934 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 1239. На Урале

У 44-ы год забралі нас шэсць дзяўчат і павязлі на Ўрал. У падвале там печы круглыя і кірпіч рабілі, формы. А дзяўчаты на другім этажэ ў цаху, і цэх жа вялікі, іх вучылі фармаваць. Паехала. З вайны ні каровы, ні каня няма ў бацькі. Сельсавет адправіў, вербаўшчык прыехаў і адправіў на Ўрал. А дзе ж я дзенуся на вайну я не пайду і тут есці нечага ну паеду на Ўрал. Кармілі па картачнай сісцеме і плацілі. Голад быў тамака, па картачнай сісцеме – хлеба кілаграм на суткі. А мы яго сашчыпем і 12 часоў работы. Давалі супу гарохавага і капусны быў суп, і кукурузны.

А я захварэла, гэту гліну я цягала на тачцы. І сгрузім 20 формаў гліны і не адна ж я, мы ўдзвюх былі. Восем месяцаў я толькі паробіла. Забралі нас проста, завязлі ў цэх і пыталіся, ці вучаныя, якая прафесія. І ў нас на первым раз’ездзе было абшчыжыціе. У абшчыжыціі многа жыло! Кругом сцен койкі, як салдаты жылі. І ўсім давалі картачкі на суп і на хлеб. Ну і палучыш у дзень у абед хлеба кілаграм.

Захварэла. На другім этажу мы навозім гэтай гліны і шуравалі гэту гліну, а мы ў шэрэнькіх хустачках, як з дому паехалі, а мне армяк цётка дала ну і цэлы месяц вязлі нас туды. Елі мы сваё, што бралі – крупы і муку ў торбачках. І тады варылі ў кансервных банках. Дык ў гэтай банцы заціркі паставім, а печка ў вагонах – чугунка. Дык пойдзем, каб дроў дзе найсці, дык дзе ты іх найдзеш. Поезд вязець ноччы нас, а ўдзень стаіць на станцыі. Нас у Казахстане падвезлі вады сабе ўзяць папіць, дык мяне чуць не зарэзаў поезд. Я скоранька выскачыла на гэту сцежачку паміж вагонамі і стаю.

Гліну гэту цігалі, тады гэту гліну перамелюць і на гэту пліту навозяць, мелім. Захварэла. Ляжу у абшчыжыціі. Сначала паявіўся панос, з’ела я хлеба і супу гэтага – і панос у мяне. Як пацягала гэты валюшкі, я і сарвалася. Я сваіх дзяцёў не маю, не хачу растраіваць іх, і сама растраіваюцца. І я стала похнуць у сваім абшчыжыціі, ляжу і рукі похнуць, усё, думаю, памру. А вошы напалі на мяне, пададзеяльнік адхіну – чорныя вошы. А тады на заўтра яны (дзяўчаты) вызвалі “скораю” і адвезлі ў горад, у бальніцу.

Врачыха маладая мяне лячыла. Дык я толькі есці прасіла. Яны мне дабавілі паёк яшчэ на 100 грам хлеба. Дык медсестра ў мяне пытаецца: “А што вам баліць?” А я кажу: “Нічога, толькі есці хачу”. А тады мае з дому прыслалі пасылку: хлеба, кансервы, і там было масла. Дзе яны яго там назбіралі, а пакуль даслалі, дык яно саржавела ў банкі. Ну я абскрыбла, ду-

маю, занясу врачысе трошку лепшага, што пасяродке. Дзяўчаты прыхадзілі ка мне раз у нядзелю, ну дык яны ж нічога не нясуць – у саміх нічога няма. У бальніцы кашу дадуць, 50 грам масла на кашу паложуць, чай дадуць і булачкі якой. І пралежала я дзеткі ў псіхічаскай бальніцы. Я была ў адключцы, ні з кім не разгаварывала.

І тады я аднесла ей масла ложкі дзве, і тады вышла я з бальніцы. Я і цяпер помню, яе звалі Раіса Сонаўна. Дык я ёй сказала: "Пусціце мяне дамоў, я тут ня выдзержу". Дык яна мне выпісала, што я псіхічэскі нездарова. А яшчэ нада быў пропуск у міліцыю, нада схадзіць з гэтай ўрачоўскай спраўкай, выпісацца ў клубе ў бібліатэцы, усюды з учота сняцца. Дык я схадзіла ў бібліатэку, расчот палучыла, а далі толькі 20 рускіх рубельчыкаў. А што я куплю?! Стакан мукі – 10 рублей на базары быў. Стакан мукі любой. У нас картачкі з карманаў павыцягавалі, у варон дзеравенскіх, тады картачку куплялі на базары. Ну і па гэтых дакументах мяне пусцілі дамоў…

**Зап. Філіпенка У. у 2009 г. ад Васілевіч Галіны Іосіфаўны, 1927 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

## 1240. Жыццё пасля вайны

Бралі на Ўрал. Я ў 44-м не быў. Што яны пабылі, паўцякалі. Голад! Вызначылі во, у Облсельсавет. Прэдседацель Сельсавета, у каго сям'я большая, павызначаў. Так у нас Пеця, Іван, Міша. Я быў во ў шахтах пад Масквой, дзе Тула. Прышла вродзе павестка ў армію, а нас абманулі.

Каб добра, каб добра – не ўцікалі б адтуль. Ну немцы піталіся разам і мы разам. Ну гэтыя, пленныя, там робілі. Ну іх, яны і мы прыходзілі. Ім сталы – там, а нам – сюда. Разам робілі. Мы паглядзім, ну ё…, дажылісі, немца не глядзеў, бля... Во эта самі с сабой. Ну і давай уцікаць. Ну і восем месяцаў палучыў. Да дамоў прыехаў. Міліцыя ўзяла і ў Глыбокае. Гэта была цюрма. Ой, здаровыя сцены! Там сядзяць бальшыя сошкі. Тады была перасыльная. А потым у Бабруйшчыну завязлі. Там мы касілі, свіней глядзелі, кароў. І дзеўкі і мальцы. Пабыў я лета. У Полацк перавязлі. У Полацку там кірпічны завод строілі і счас калонія. І мы там былі. І з Полацку дамоў.

Аб'едзянілі ў калхозы ўжо пасля вайны. Я з арміі прыйшоў у 47-м гаду, і гэта, камісар партызанскай брыгады быў первым сакратаром райкома партыі ў Докшыцах. А мой швагер у Бірулях быў старшыня. Дык аб'едзяняліс, я з арміі прыйшоў, я за стулам сідзеў. Не хацелі ў калхоз ідці. Кароў паадбіралі. Прыехаў Зінкевіч, і зробілі сабраніе. Усё сцягнулі: і бароны, і плугі, і ўсё. Я толькі з арміі, а я з вечарыны шоў, пацягнуў свае калёсы. Як я пацягнуў, так і ўсе прыязжаюць гэтак із Докшыц. З Докшыц як прыехаў Зінкевіч, стукніць кулаком аб стол, так і гэтак, усіх на Сібір са-

шлём, хто ў калхоз не пойдзець. І пайшлі усе. Гэта ў 49-м гаду. А астальныя дзярэўні не пайшлі, потым пайшлі, у 50-м гаду.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Карніловіча І. М., 1928 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

### 1241. Вайна пасля вайны

Банды былі. После нашай Вялікай ацечэсвеннай вайны банды былі, убівалі людзей. Хадзілі. Гэта людзі разные былі. Гэта людзі, каторые, можна сказаць, проціў савецкай уласьці. Разные людзі. Адзін не пашоў у савецкую армію, і ад нямецкай спасся. І хадзілі. А патом какую-то польскую нахадзілі. Хадзілі ў польскіх этых… какіе там арлы там былі. Эта польскія, какіе-то польскія шынэлі нахадзілі, тамка кланяліся за польскую власць. А польская ж власць ана ж ішла ўжо, польская армія ішла ўмесьце з савецкай, ну, ну, прымерна. Ну, хадзілі. Ну і ад іх, слава Богу, мы асвабадзілісь. Узялі. Аднаго там ля міліцыі паставілі фатаграфіраваць. Пабралі… Ну, былі такія, былі такія вот… он жа не знал, што он ідзёт. Он ішоў так: ага, прывёў, магазін аграбят – аграбілі. Ну… Эта была ана ні польская, ні русская, ну як, ні савецкая, як я імею в віду, я служыў у савецкай арміі, дапусцім. Гэта былі такія, ну, як сказаць, брадзячыя асталісь…

Вайна акончылась, а банды былі, каторыя баялісі чаго-та, знаеце, награшылі, як гэта можна сказаць, напроць савецкай власьці, пашлі ў кусты. Эта ж ясна каждаму. Но а тады проціў іх былі сарганізаваўшы, бо яны хадзілі, сельсаветы палілі, і калхозы арганізаваць не… Прэдседацель сельсавета мог хадзіць с пісталетам і то баяўся… Ну, адным словам, врадзілі Савецкаму Саюзу. Ну дык Савецкі Саюз жа ж тожа вайну прайшоў, так нада ж ачысціць і церыторыю полнасцю. А па церыторыі хадзілі банды былі. І вот яны ноччу нападалі на сельсаветы і на магазіны дажа. Магазін абяруць, набяруць водкі, п’юць у лесе, іх п’яных тут і пастралялі.

Дык вот у нас тут быў арганізованы к участковаму дзесець чалавек, групу такую дабравольцаў. Сейчас у нас ёсць такія, ціпа дружыннікаў. І яны ўжо болей-меней хадзілі, абараняялі ўжо, і сельсавет уцалеў, і там, і тое. Ну дык вот аднаго з гэтых, ён ішоў дамоў тут, і аднаго з гэтых узялі там па бальшаку не дахадзя маста. Стаіць аграда такая каля моста. І вот тут яго забілі, была засада этых, бандзітаў гэтых. Вот яго ўбілі, гэтага, у сорак сёмым. А ў пейсят первым Кукуця ўзялі, бандзіта… Тады яшчэ быў пецьдзесят втарый, усё яшчэ банды былі. Хадзілі шчэ. Аж у пейсят втарым хадзілі ўсё. Але гэта пасьцепенна, пасьцепенна вылавілі.

А гэтага Кукуця, хаця я Кукуць па фаміліі. А той Кукуць быў астаўшысь, ні савецкай, ні нямецкай, ціпа бандзіта, ну, как сказаць… Он мне ня роственнік, хоць я Кукуць, дык Кукуцёў жа ў нас… Ну, вот этага Кукуця пастухі ўлавілі. Он жа быў такі… Шульга і Кукуць – былі два бандзіты,

прыйшоў такой, а конюхі яго, ну, как сказаць, падпаілі… Он прышоў да конюхоў п’яны, а канюхі... А калхозы ужэ арганізаваліся, а он жа не любіў калхозы, ну, такі быў врэдзіцель савецкай власці. Панімаеце, што? А яны яго цокнулі, связалі і… ну а там дальшэ ўжо ясна. Вот былі два друга. А іх конюхі ўзялі і ў міліцыю здалі. Дык што ж, надаелі ж ужо ж, ну што ж…

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рымчонка Вацлава Вацлававіча, 1915 г.н. і Кукуця Ігнація Канстанцінавіча, 1933 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1242. Пра Чарнобыль

Эта сначала яны жылі, не гаварылі нічога, усё гэта таілі, што… А тут жа яно ўсё раўно, наверна і палучылась, патаму што ў масцярской у нас людзі пасыпаліся маментальна. Этыя мужчыны вот такія ў гадах, пад сорак пяць – пяцьдзесят. Эх, рэбяты, шоферня і гэтыя…

Эта када-та спрашваець у мяне врач, пачаму я пацерала зрэніе была. Я яму гавару: “Не знаю вот. Разгаварываю – ўродзі бы нармальна ўсё, а ў мяне слёзы самі цякуць і ўсё. Вот цякуць, і вот дзе йду, яны цякуць і цякуць, гэта гада палтара ў мяне после смерці”. –“Ага, а дык а што ў вас за гора такое?” Я гавару: “Я яго пацярала” – “ А чаго?” Я гавару: “Ай, ну вот так случылась”. –“Ай, – гаворыць, – і перад вамі жэншчына была, тожа гаварыла”. Я гавару: “Ага, яна з Валосавіч, гэта жэншчына, я знаю”. – “Дык а што ў вас такое?” –“Што, – гавару, – у нас многа людзей памёрла. Сільна многа, умалчвалі пра гэты Чарнобыль, а ён, – гавару, – і да нас, наверна, дайшоў”. – “Не можаць быць”.

Ну, а як эта не можаць быць? Пашла ў лес за грыбамі, іду, ручаёк ўсягда там цёк, крыніца вот эта была. Чысценькая вада ўсягда такая з раднічка гэтага цячэць, беленькая, светленькая, халодненькая. А то пены – ну во так во стаіць жоўтая пена на ей. Я пастаяла, паглядзела. Абычна рукі памыеш, плячо абмыеш, пап’еш. Прышла дамой, гавару: “Чуда нейкае. Нешта нядобрае”, – гавару. Ну яны ж, наверна, тады асадкі гэтыя асаждвалі ж, ўсякую пыль там сыпалі, ўсякае ўсё, металы.

**Зап. Кавалёва І., Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

## СВЯТОЕ І БУДЗЁННАЕ

### 1243. Паломніцтва да Яна Кармянскага

А як вот адчыткі вот ёсць. Яшчэ вот у цэркве бацюшка ёсць, каторamу разрашано адчыткі рабіць – гэта страшнае дзела. Я вот у Карму як ездзіла, відзела, як адчыткі дзелалі, там і брэшуць, і бляюць, і равуць… Я ездзіла з нагамі – ногі бальныя. На Гомельшчыну. Ага, нас туды цэлы аўтобус з Шаркаўшчыны вазіў. Ну такая царква, што гэта Ян Кармянскі, да ягоных машчэй ездзілі. І цяпер ездзяць людзі туды. На гэтыя мошчы ўжо. Ну і мы там відзелі, мы там датрагіваліся да гэтага ўжо мужчыны. Там такі ўжо гроб стаіць, і пад сцяклом ляжыць ён, мошчы ўжо яго. І датрагіваліся мы да гэтага гроба ўсе, і станавіліся там на каленкі, і Богу маліліся ўсе.

І вы знаеце, так было лёгка там стаяць – прама не балелі ногі, нічога. І мы там долгае врэмя былі і тамка прама лёгка там было, у гэтай царкве. Ну, ужо вот кончылі маленьне, і свечы мы ставілі, і жэртвы лажылі, і там ўжо давалі нам і ваду, рукавічкі, шапачкі на галаву такія.

Патом ужо кончылі гэтае маленьне, і вот ужо бацюшка гаворыць… А там такіх многа людзей, каторыя ўжо такія ўжо бальныя-хворыя, так яны стаяць плачуць. І гэта яны ўжо бацюшку далажыліся, што яны прыехалі, што ўжо ім значыць паддзелана, бес усяліўся. І вот гэтат бацюшка гаворыць, на пропаведзі ужо выступіў і гаворыць: “Цяперка вот будзем мы адчыткі такія ўжо чытаць, хто можыць, еслі хаціце, паслухайце. Толькі ціхенька сядзьце на скамеечкі (там скамеечкі так вот стаяць па баках) і паслухайце, еслі хаціце. А еслі можа хто не можаць, еслі не хаціце, тады ідзіце, ужо едзьце дамой з Богам”.

Ну мы, я была і мая сястра, і там многія былі з Шаркаўшчыны яшчо, мы гаварылі: “Давайце, мы паглядзім, што там такое”. Ну і стаў бацюшка маліцца, яны ўсе так падышлі да яго. Многа там было людзей. Там і мужчыны, і жанчыны, і дзяцей, можна было сказаць усякіх: маладых і старэйшых. І стаў ён маліцца ўжо бацюшка гэтат над імі, ля іх блізенька. Каб толькі вы зналі, сколкі там было піску, як пішчэлі, як крычалі, брахалі як сабакі. Ну там візг такі быў, ну там… Ну тока, што сядзелі мы ціхенька, там не можна было ўседзіць, што там рабілася. І дзверы, гэта самае, адкрываліся і закрываліся самі сабой. І вот, тады ўжо праўда, дужа там нам страшна было. Адна дажэ ездзіла гэтым аўтобусам разам і знамі. Ну дык мы там яе спрасілі, дык яна нічога не сказала. Але толькі сказала: “Не знаю ці паможыць мне”. З ёй адна жанчына дзевачку вазіла, гаворыць: “Ці паможыць ці не паможыць, но сказалі ёй каб яна прыехала тры разы. Нада, каб тры разы”. Ну там што рабілася, не дай Бог!

**Зап. Філіпенка У. у 2008 г. ад Суднік Таісы Васільеўны, 1935 г.н. у в. Лужкі Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1244. Святое

Сьвятое там. Там жа ш ежджуюць, вот і ў мяне ёсць гэтыя во унучкі, унукі, дык яны ездзілі дзе гэту ваду бралі сьвятую. Вот. У мяне зяць дужа балеў, ён у Гомелі, дужа балеў, галава балела, дужа балючая галава была, тады ён і мыўся, тую ваду прынасіў ўсё. А тады спадсаветавалі яму: “З’езжайце вы ў Карму”. Там ёсць, называецца Карма, у Гомельскай. Не, у Магілёўскай. Вот ён з’езжыў, а там лежаў сьвяты чалавек, можа чулі? Вот упярод, ён лежаў так, тады людзі прыежджалі – сталі шчапаць яго. Паклалі тады яго ў гроб. Ну дык усе адно зяць гэта во, хадзіў, дакранаўся да яго. Яны прыехалі дужа рана, яны папрасілі сьвяшчэніка, каб атамкнуў ім гэтага, храм, і каб яны пахадзілі ўжо, паглядзелі гэта… Ну, гэдак няможна было шчапаць, так ён казаў: “Я ўсё адно ушчыпнуў”. І як вы думаеце, і перастала галава балець. Вот.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Авецька Людзвігі Лявонаўны, 1935 г. н. у в. Васількова Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1245. Ангел ад Бога, ангел ад Чорта

Пры крышчэніі ілі пры ражджэніі даецца ад Бога ангел чалавеку, каб ён яго бярог усю жызнь, і чорт жа свайго ангела даець. Да. Вот, па правае плячо – ад Бога ангел, а па левае – ад чорта. Вот і гаворуць: нельзя пляваць чэраз правая плячо. Толькі чэраз левае, патаму што тут ад Бога ангел. Есьлі чалавек ходзіць без галаўнога ўбора, то ангелу дажа і сесьці недзе, ён сядзіць на галаве. Нада каб галаўны ўбор, ілі шапка, ілі хустка, ілі што.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Важанавай Надзеі Андрэеўны, 1936 г.н. у в. Будзілава Бешанковіцкага р-на.**

### 1246. Святы Мікола

Яны восеньню і вясной – Міколы. О, Мікола! У мяне ж ікона Міколы. Ён сільна большы угоднік Гасподні. Ён жа ўраджай даець, ураджай сахраняіць, ён сільна большы угоднік гасподні. Я яго прашу і малю, ён і пагоду даець, дожд даець і зямлю празябаіць. Засуха бываіць, а Міколу папрасі, і Гасподзь табе дасць вадзічку, дождж пабудзіць і памочыць зямельку.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дубавец Ганны Парфенаўны, 1919 г.н. у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

### 1247. Святы лён

Каб лён добра рос, попелам пасыпалі. Збіралі даўней попел па кажнай хаце. І пасыпалі па льну. Цераз лён ніякая змяя не укусіць. Нікада ў жызь! Вот надзявай насок гэты, каб палатняны гэты – нікада цябе не ўкусіць змяя. І чорт лёну баіцца. Баіцца лёну абязацельна! Вяроўкай з лёну

махні – дык прэць, ты яго век не найдзеш. Уцякаіць. Праўда, баіцца. Не знаю чаго, вот эта, можа ён святы, лён.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф'і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

## 1248. Святы павучок

Павука біць нільзя. Нельзя, тож святы павучок. Ён ўрэда ня дзелаіць, павуцінінку зьдзелаіць – і ўсё. Павуцінінку этую ўбраў, а павучка ня бі – нільзя. А вот спускаецца павучок, як маленькі павучок вот спускаецца, а ты гавары, што: "Павук, павук, на добрае – ўгору, на дрэннае – ўніз, на добрае – ўгору, на дрэннае – ўніз". Як угору – тады харашо, а як уніз – тады хужэ.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф'і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

## 1249. Пажар

Када граза бальшая, бралі іконы і вынасілі. Насілі вакруг дома. І на пажары. Вот гэта быў случай ужэ нядаўна. Гэта было вот тут, у нас, за гэтым мастом, ёсьць тры дома, можа відзелі? Там згарэла чатыры дома і вот асталася два, якія ўплатную стаялі.

Гэта, гарэлі дама і я бежала паглядзець. Ну і, гэта самае, гляжу – хазяйка выходзіць гэтая, каторай радам дом. Шыдлоўская была такая. Я гавару: "Паліна, што ты сядзіш, вынасі ікону!" Яна вынесла ікону і гавару ёй: "Насі кругом". І не згарэла – вецер павярнуўся ў другую сторану.

**Зап. эксп. ПДУ у 2008 г. ад Волкавай (Цябут) Ніны Сяргееўны, 1923 г.н. у в. Экімань Полацкага р-на.**

## 1250. Здарэньне на пажары

Я знаю, што мой дзядуля з пяруна гарэў, і ўжо відзіць, што нічога не зрабіць, не вынесці нічога з дома. Дык ён рукі падняў, і гаворыць: "Божанька, ахвярую табе ўсю сваю частку", а там вісела недзе сала, і як грымнула гэта сала, чуць яму не ў рукі, а астальное ўсё згарэла.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1251. Юр'еўскі хлеб

Як гарыць хата, дык эта гаворуць, хлеб еслі ёсць Юр'еўскі, на Юр'я хлеб і соль, і каб гэты хлеб храніць яго. І тады абізацельна нада абысці ўкругавую, гэтага ж самага агню, і ён далей не пойдзіць. І точна, гарэла хата у адной і я выскачыла, успомніла, што гэты хлеб ёсць. А хата гарыць, і другая ж радам жа ш, і ўжо полымя іскры лятуць на нашу хату, а я з гэтым

кусочкам хлеба абабегла укругавую гэтага пажару, усё пашло ўверх, факелам гарэць, і нікуды ні сталі нізка ляцець.

Яшчэ скаціне абычна даюць Юр'еўскі хлеб. Ну гэта, вот так во, каб ня ішлі нікуды, медзьведзь ці што, каб не тронуў.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

### 1252. На пажары

Я помню, ў нас быў пажар. У нас гарэла пуня, дзе мама мая жыла, і там пажар. І тады не маглі патушыць, а з вёскі, там хто-та можа, гаворыць, каб неслі ікону "Неапалімая купіна". І тады аднеслі, а агонь ішоў сюды на дом, а яны аднеслі ікону ў бок. І гэтак стала гарэць, пацíхла, пацíхла, а то ўвесь агонь сюды на хаты ляцеў. Абнеслі тры разы кругом пуню гэту, і гэта – стаў агонь меней гарэць, неяк пацішэла, і не стала іскар нават.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

**1253.** Нікалая Чудатворца брала мама з дому, калі саседзі гарэлі. Яна ў нас стаяла, дажа не такая, як у цэркве, а проста мама дзе-та найшла. На такім лісточку абыкнавенным. Найшла, пасвянціла, но яна вот памагла гэта ікона. Дзяржала, казала, што агонь пайшоў сталбом уверх, а ў горадзе ж так – хата на хаце, сарай пры сараі, так жа не павярнуцца зусім. Але пасля гэтага пажара спалохалася сільна.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Нікіфаровіч Наталлі Уладзіміраўны, 1955 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

**1254.** А ў нас у пасёлку, дзе я жыву, у нас часта пажары. Я бацюшку самога спрашывала, можа нада яго свянціць, ілі што. І такія Пілімоны гарэлі, а ў нас так дамы адзін з адным. Ну, яны прыбеглі да мяне і крычаць, што хата гарыць, а як патушыць не ведаюць. А я сразу ўспомніла, што кагда я была ў Пскова-Пячорскіх Лаўрах, у мяне быў пясок адтуль.

Там жа йдзеш у гэтую пяшчэру, і кажацца, што пясок абрушыцца, і цябе засыпець, але так ніхто яшчэ не пагіб. А далей ідзеш – там ікона і свечкі. І, слухайце, сама пробавала: ложыш руку на агонь, так у цябе не гарыць рука. Свечка гарыць, но твае рукі там не гарaць, ты іх не чуеш, каб табе пякло над свечкай. Я гэтага пяску ўзяла, ну, мы з паломнікамі езьдзілі, і многа каторыя зналі, што нада гэты пясок браць, ён памагаець, можна яго заварваць ад балезней.

Ну, я яго ўзяла, і ўспомніла, што ад пажару, многа ад чаго памагаець. Я схваціла пясок і пабежала туды. Там у іх загарэўся дзіван, і яны не ведаюць: вадой на яго льюць, а ён сто раз яшчэ больш іскрыцца, і ўжо ў хату

мог агонь пайсці. Іконы ў мяне не было, быў толькі пясок, і тады я раз сыпнула пясок, яшчэ раз сыпнула, і вадой ужо залівала, і, слава Богу, залілі. Но я нікому нічога не гаварыла, а сама стала і думаю, што ўсё ж такі, штосьці ёсць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

## 1255. Як пажар ці град

Калі пярун хату запаліць, ужо гарыць, то гэты пажар толькі малаком патушыш. Малаком, і ўсё, якое было. Хату абыходзілі, каб ужо далей не разносіўся агонь. Такая ікона ёсць, і з гэтай іконай кругом гэтага пажара абносілі. Жэншчына голая бярэ гэту ікону, кругом абносіць гэты пажар. Тады ліцо іконы гэтай накланяе кверху. І ў другую сторану к верху, каб агонь гэты не рассяваўся, а роўна ішоў уверх. Ёсць у мяне такая маленькая. Абношваюць яе, тады к верху, пажар нікуды не разносіцца. А вецер туды завернецца, куды ікону павернеш.

А каб град не біў, як у цэркві на Пасху пасвянцаеш пасху, раскладзеш палаценца ці салфетку, ці што. І як бацюшка пасвянцае, дык гэта палаценца ня мыюць. І тады, як наступае бура, гэткае, выносяць яго на двор. Ну, можна на забор.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 1256. Пра пярун, гром і вясёлку

Я толькі адну гісторыю помню, яшчэ, ну сколькі мне, гэта я яшчэ дома, на родзіне жыла. Такі Косьцік, мы кароў пасьвілі на пасце. А найшла тучка, мы з гэтым Косцікам селі пад дуб, пад тоўсты такі дуб, ён з гэтай стораны, а я з гэтай. А кароўкі вот так во хадзілі, а як прышла туча, кароўкі ўсе ў кучу збіваюцца. І Пярун як ударыў, і ў гэтат дуб, і во гэтак во между яго і между мной прайшла паласа гэтага дзерава. Мяне ў гэту сторану адбросіла, а яго вот у тую адбросіла і яго не паўрадзіла. Паляжалі, я не помню сколькі. “Косцік, ці жыў ты?” “Жыў!” “А ты, Дуся, ці жыва?” Былі, былі перуны.

Гэта цяпер ужо па навучнаму даказваюцца, есьлі туча ідзець, з тучай сайдзеняецца, палучаецца трэніе туч гэтых, і молнія, і гром. Молнія ўперад, называецца відзімы, а ўжо гром ужо позжэ, а праўда гэта не праўда, мы ж там не былі, ніхто нічога не бачыў.

Кажуць, вот туча находзіць, а тады, ай, як яна называецца, я ўжо забылася, у мора апускаецца ці ў возера, радуга вады набіраець, а тады выліваець на зямлю. Ну гэта гэтак старыя ж людзі гаварылі. А Бог яго знаець.

**Зап. эксп. ПДУ у 2006 г. ад Сапегі Еўдакіі Васільеўны, 1927 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

## 1257. Як старцы пасварыліся

Ну, як после вайны, ну гдзе-та хто-та быў багачэ там, ну а так беднасць жа ж была, жылі бедна. І вот, гаворац, ідуць два гэтыя жабракі, як у нас у дзярэўні "старцы" казалі. Ну вот ідуць двое і гаворац: "Вот прыйдзем ў дзярэўню, папросім малака, хлеба, накрошым дзюбкі (ну вот хлеб крышылі ў малако), наядзімся…" А другому не панравілася такое. Яшчэ яны не дайшлі да той дзярэўні, а таму не панравілася, што ён сказаў, што будзе дзюбку крышыць: "Не крышы дзюбку ў малако, малако скіснець". І перадраліся. Ідуць дальша, прыйшлі к дзярэўні і перадраліся. А ім не далі ні малака, ні хлеба.

**Зап. Пузікава К. у 2009 г. ад Івановай Веры Сяргееўны, 1938 г.н. у в. Тупічына Шумілінскага р-на.**

## 1258. Жабракі

Прыходзілі жабракі, да. Ім нада тожа даваць. Штоб абязацельна іх не упускаць і даваць ім што палучшэ, што сам ясі – то і даваць. Адна жанчына сьпякла хлеб, хлеб не ўдаўся, а прыйшла жанчына-жабрачка. А быў у яе і харошы хлеб. Харошага хлеба не дала, а дала ей этага, што не ўдаўся, хлеба і ей прысніўся сон: "Дачушка мая, ты мне дала, што сабе не нада, я к цябе прыходзіла, а ты мне дала, што сама не ела, а ты мяне сільна абідзела. Ты дала той хлеб, каторы ты сама не ела, а плахога мне дала". Вот. Эта відзіш нада жабраку тожэ даць тое што ты сам ясі, што табе. Эта Бог жабракоў прысылаець.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дубавец Ганны Парфенаўны, 1919 г.н. у г.п. Сураж Віцебскага р-на.**

## 1259. Старцы

Старцы былі, хадзілі старцы. Абыкнавенныя, ну адзетыя ў лахманах, у яго сумка чараз плячо. Мама кажа: "Ну сядзьце вы, пасядзіце". У яго кусочак хлеба быў, но цэлага не было. Як цяпер гляджу на гэты хлеб, яна наліла яму капусты, а ён гаворыць: "Во, цёпленькага паем". Но ў нас яны не начавалі. Ім грэх не даць, і цяпер малады малец хадзіў, зайшоў, праўда накарміла, але адчытала: бабы старыя работаюць, і я хаджу ў лес. Вун ідзі, гавару, у пцічнік работаць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г.н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

**1260.** Хадзілі старцы, хадзілі. І да вайны. І гэтак і после вайны, галадоўка такая была. Есці очэнь мала было чаго. У нас тут Нікіпар сляпы, і

многа якіх. Ай хадзілі, і прасілі: “Пакарміце нас, а мы вам за скацінку памолімся, яечка дайце”. Мама ім ужо насабірае яечка якое, хлеба кусок, бульбіну якую, скварчыну, усё-усё давалі.

А ў начале, як старцы дзверы адкрывалі, паварачваюцца к іконе, пахрысціцца і моліцца. І не то што моліцца, а мелодзію заводзіць. Песні такія бажэственныя заводзіць, і усе слухаюць. Вот, прыходзіць чалавек нішчы, і моліцца і яго ж адблагадарыць нада, плаціць. А старшыя бацькі ўжо зналі, што яго нада адарыць. Прыдзе пад вакно, стане і моліцца. А мы дзеці глядзім, хто гэта, а мама ўжо знае. “Дзетачкі, ціханька, ціханька, хай моліцца, слухайце”. За скацінку. Можа і памагала, вялася і скаціна. Вот як та кароўка была, і малако давала карова, і куры несліся. Алі абізацельна іх нада было падарыць. Прыдуць, стануць пад вакно. Я очэнь часта прыпамінаю. У нас тут сляпы Нікіпар з жонкай былі, прыйдуць. Прыйдзе чалавек, моліцца за здароўе, за здравіе, і так ужо просе. Дзе тут не дасі, паследняе аддасі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Чарняўчык Вольгі Макараўны, 1926 г.н. і Кобы Ніны Кузьмінічны, 1932 г.н. у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

### 1261. Жабракі

Даўней было жабракоў. Ну, вы знаеце, давалі жабракам і ў нас была такая “Надзя дурная”, “Валодзька-ходзька” быў. Ён каробачкі сабіраў ад спічак. Прыдзець: “Дай каробачку, я патанцую”. Ну, ён быў, знаеце, ненармальны. Такая жанчына хадзіла, прасіла, хто што дась. Ну, яна была нармальная старая бабуля. Ну ж, яе жабрачкай усе звалі. Вот гаворуць: “Жабрачка ідзець”. Пакормяць, пасадзяць, вот давалі кушаць ім. А есьлі ўжо позна, то начаваць астаўлялі. Падсцеляць дзе-небудзь у вугалочку, яна пераспіць і пойдзець.

Знаеце, шчыталася, калі людзі верылі ў Бога, што нельга было чалавека абідзець. Ён нішчы, ён няшчасны – яго нада пажалець. У Божым слове сказана: “Узлюбі бліжнега, як самога сябе”. Былі такія жабракі, што маліліся за памерлых. Вот ім дадуць хлеба, калбасу, за ўпакой і за такіх. Яны чытаць не ўмелі і ўсё было толькі на славах. Вот каля цэрквы сядзелі, падходзіш да цэрквы і за ўпакой даш. І вот іх імена скажаш і яны моляцца. Ім усё давалі за ўпакой болей, за здравіе – гэта ў цэркаў, бацюшкам.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Сакалоўскай Марфы Канстанцінаўны, 1928 г.н. (нар. у в. Сідары) у г. Глыбокае.**

**1262.** Ой, а няго ж, было жабракоў! Тока адзін з хаты, а другі – у хату. І гэдак дарылі, і тока яны жылі з гэтага. Гэта цяпер гэткую пенсію пло-

цяць, а так жабракоў была цьма цьмушчая. І калекі… І дажэ вот у Мосары было такое здарэньне. Навязьлі ўсякіх калечак, а тады яшчэ даўней у маткі ўкралі дзевачку, дык яна ідзець і да каждага, дзе гэта наложана рабятак. І ім каб давалі ўжо грошы. А маці ідзець: “Ці відзелі вы Марыську, ці відзелі вы маю Марыську?” А дзевачка кажыць: “Я ж твая Марыська”, – і атазвалася. А ў яе вочкі выкалатыя. Яны во гэтак робілі. Спецыяльна, каб ім браць узяткі. Ну, не сказаць, што толькі жабракі гэта так робілі, можа нейкія хазяіны. Кралі дзяцей, робілі калек, і тады за іх грошы бралі. Гэта ўжо мамка расказывала.

Ну, а так не выпускалі ж не аднаго жабрака, каб не даць, яны ж бралі хоць што. Бралі і хлеб, і зярнё, і там якое яйка, і што дасі, тое і бралі. Яны маліліся, тыя што знаюць малітвы, дык памолюцца. На могілкі прыхадзілі ў Дзень Святых, і на Вяліканьня дужа хадзілі. Ну, у першы дзень. Дажэ і цяпер ходзяць. Богу маліліся, а ім давалі, што там напёк к святу.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ханданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1263. Старац

Як хадзіў старац, мама казала. Прыдзіць старац, дык эта сама дарагі госць. Ядуць усе за сталом і старца прыглашаюць. Ён чэсны, ён ад Бога. У саміх не было, а старцу ўсё даём. А ён: “Есьці, есьці самі. А тады што астанецца, тады мяне пакорміця”. А тады гаварыў: “Прыдзіць урэмя, будзець усё зматана вакруг у павуціну. У павуціну абаўецца”. Во, цяпер правады. “А тады прыдзець урэмя, што ня будзець чалавек чалавека відзіць, чалавечага голаса чуць. Калі ўвідзіць след, дык будзець рад”. Во, к чаму мы жывём, к чаму мы ідзём. А старац гэты ад Бога быў. Ён сама чэсны чалавек. Бог застаўляець яго хадзіць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Масалковай Раісы Уласаўны, 1936 г.н. у в. Рамашкава Талочынскага р-на.**

## 1264. Тодар і Аршуля

Хадзілі жабракі, о, скока! Ай, яй, мой ты чалавек, мой ты мілы, дзякуй Божаньку, не знаю як. Што цяпер стала, што жабракоў нет. Усё хадзіў мужык і з жонкай, жонка маладзейшая, а ён старэйшы. І звалася па даўнаму – Аршуля яна звалася. А ён Тодар. Дык ужо як малыя ўбачаць і тады ужо лятуць, кажуць: “Ай, вон Тодар з Аршуляй ідзець!” Торбы вялікія на плячах, ён болей носіць, а яна – меней, і начаваць прасіліся, хто пусціць.

Дык, што вы думаеце, дзе яго на ложку ці дзе на палку якім, на пол і кладуць якую ношанаю ватоўку, ці што пад бок, пад галаву.

Яны хадзілі вот на магільнік, маліліся. Прыйдуць, вот ужэ зналі, як у польскіх усе святыя назывались. І усе ідуць ужэ ж на магілкі маліцца, і ідуць жабракі. І ўсе нясуць кілбасу, кусочак сала, хто хлеба, хто грошы, а яны моляцца безперарыўна, гэтыя жабракі. Ну гэта, што нясеш, і даюць, і яны ў торбу. Як яйкі, яйка, дык яно добра, яечка прададуць – капейкі, а як хлеба, дык дзе ў каго. Жабраку ж абязацельна нада было даць. Ай, дажа разгавора нет, абязацельна! Не было такога чалавека, каб саўсім не даў. Нет нічога, хоць адно яечка дасць. Бальшынство ужо послі давалі грошы, а ўжо у каго грошай нет, дык давалі так [прадукты].

І калекі былі і не калекі, а старыя, дзеці... Вот хадзіў, што я гавару, Тодар з Аршуляй. Гэта ў яго была радня, і ён жаніўся яшчэ па моладасці. Ён адзін сіратой астаўся, а ў жонкі было, хто там, матка была. І яны ужэ тока двоя, і як сышліся, і хадзілі жабраваць. І звалі Тодар і Аршуля, дык ужо дзеці даўна як увідзяць: “Бабушка, бабушка, Тодар з Аршуляй ідзець”. Але дзеці ужо гэтых жабракоў не баяліся, цыганяў баяліся.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Анушкевіча Уладзіміра Пятровіча, 1919 г.н. у в. Лапуты Докшыцкага р-на.**

## РЭЛІГІЯ, ВЕРА І ВЕРНІКІ

### 1265. Я думаю, Бог ёсць

І скажу я вам, хлопцы, нешта ёсць такое. Бог не Бог, што-та ёсць. І былі ў мяне случаі. Я нікому іх так не расказываю…

У вайну было. Як прышлі карацелі, тут жа ўсе ў лес паўхадзілі. І дзевяць месяцаў там сядзелі. Зімой. Мне тады 14 было. І вось я помню сон, як цяпер яго помню. Прысьніўся мне Бог. Старычок такі сівенькі. А я бачу яго і проста знаю, ну вось проста знаю, што гэта Бог. Ішла я і сустрэла яго на ростаньках. Адна дарога, ну вось, як на Галяшы, ну і другая там. Ён мне і кажа: “Ты, мілая, – вот так і сказаў “мілая”, – ты, мілая, ня бойся. Гэта вайна хутка скончыцца, мала асталося. І будзе другая, з амерыканцамі. А ты, – кажа, – ты, што б не было, не хадзі па гэтых дарогах. Ні па гэтай, ні па гэтай. Ідзі паміж імі”. Вот, што казаў ён мне тады, як сёньня помню.

А на заўтра я ў дзярэўню за чэм-та пашла. Мамка мая хворая ў зямлянкі асталася. А ў яе былі нямецкія сапагі. А гэта ж тады… І вот толькі я на пагорак паднялася, во, як вас бачу, – нямецкі лыжнік у белым. Ой! Як я закрычала і ўніз. Ай, страшна! А там жа людзі. Ай, як усе пабеглі. І дзьве там сцежкі была: і адна ў лес да партызан, і другая да партызан. І ўсе па гэтых сцежках і пабеглі. А я паміж імі. Дык во, мае хлопчыкі, усіх, хто па тых сцежках пашоў, дагналі немцы. А я во так. Ёсьць жа нешта.

І мама мая, яна ж хворая была, ісьці не магла, а каб пабачылі сапагі немцы, то ўсё. Яна залезла пад нары і там старыя адзеялы былі. Усе нацягнула на сябе. Немец прышоў. Адно скінуў, другое, і толькі адно ужо асталося, як немец гэты пашоў. Вось так. Нешта ж ёсьць!

А во яшчэ што я вам раскажу. Брат быў у мяне радны Нікалай. І ён хварэў з легкімі, у яго бяда была. Завезлі яго ў Полацк і там аперацыі яму дзелалі, сам прафесар. І так, ну саабшчылі ужо нам, штоб прыехалі ў Полацк. Ужо, што мол, безнадзёжны. А я тады, я аж ад людзей праталась, я ж ужо робіла ў сельсавеце. Каб людзі ня бачылі, і на каленках увесь дзень: “Божачка, калі ты ёсьць, памажы! Калі ёсьць, дай Колю хаць 10 год жыцця!”

А брата ўжо сюды прывезлі. І пайшоў ён на папраўку. Божа! Як я плакала потым, што так мала папрасіла. Роўна 10 год ён яшчэ пажыў. Вось так, хлопчыкі мае…

А вы пагадзіце, я яшчэ вам раскажу. Гэта ўжо ў канцы вайны было. Немцы як раз Юхавічы палілі. А палілі яны не кожную хату, а можа чэраз восем-дзесяць. Ну а там вецер сільны быў і ўсё гарэла. А дзе вы ішлі з Галяшэй, паварот з Юхавіч, там канец такі быў, ну хат з дзесяць. І ўсё пагарэла, а гэтыі хаты цэлыі былі. Немцы падпалілі адну і пашлі, а людзі сядзелі ў кустах і ўсё відзелі. Ай, вецер жа сільны быў і ўсе пагарэла б. Рабіць

трэба было нешта. А як? Выскачыш, а там немцы. Ну і ўсё ж выскачыў адзін мужчына. І да гэтай хаты, што гарэла. І ён тры разы з іконай у руках аббег гэтую хату. І як ён бег, так і вецер. Потым паставіў ён ікону ў старане, у поле, і туды ўжо стаў вецер дуць. Вось так хат восем і асталося у нас. Мы там і жылі у тым канцы.

А гадоў дзесяць таму. Ай, якая страшная ноч была! Звычайна вун адтуль хмары прыносіла, а ў той раз з таго боку. Ай, яй, яй! Як біла ўсю ноч страшна. І так страшна з пяруна біла, што гаварыць не магла са сваім, як голас прапаў. А пасьледні раз як біла, неяк глуха так ударыла, і сціхла ўсё. А я гляджу, як наша веранда гарыць. Ай, я свайму ў бок! Як падхапіліся, выбеглі – не, не наша веранда. А стары мне: "Ніяк у суседзяў гарыць". І ў чым былі, так і выбеглі. Глядзім, а там і не ў суседкі, яна сама ўжо на вуліцы была, а ў ейнай суседкі.

Гарыць! Узялася ўсё адразу, што змаглі там павыкідалі. А як ужо патушыш? І ўжо пачалі з суседніх хат выносіць усё, што можна. Вот тут я і ўспомніла. Пабегла дамоў, дастала ікону. Тады ж пратала я яе. І з раёну ж людзі былі, і з вобласці, самі ж панімаеце. Дастала я ікону, старая яна у нас – Мікола Сьвяты. З ёй і ў вайну мы былі. Дастала я гэту ікону, абкруціла ручніком і туды. І давай аббегаць вакол хаты гэтай. А яшчэ адна жанчына – Нінка – таксама бегала з іконай, не ведала, што я бегаю. Ну дык, яна ж апытнейшая і яна на ручай ікону устанавіла. І вецер змяніўся! Вось толькі гэта хата згарэла і ўсё. Так што ёсць нешта. Я думаю, Бог ёсць. Ну хто ж ба такое рабіў?

**Зап. Лобач У. у 1992 г. ад Коршун Кацярыны Міхайлаўны, 1929 г.н у в. Юхавічы Расонскага р-на.**

### 1266. Каталікі і праваслаўныя

Да ў нас, у аснаўном, праваслаўныя. Вот у папы брат быў, жана ягоная каталічка была і ўсё. І ў нашай дзярэўні больш не было, едзінственная жанчына каталічка. Ну, знаеце, усякія ўзгляды былі, некаторыя радзіцелі не хацелі каталікоў браць, некаторыя вот нічога. І нават жыла ў нашай сям'і цёця Аршуля, звалі яе, ніхто не прызіраў яе. Яна хадзіла ў касьцёл, а дзядзя хадзіў у царкву. Вот так было. Дзеці былі праваслаўныя і дачка выйшла замуж за каталіка.

Цёця Аршуля нас у дзецтве завяла ў касцёл і спрасіла разрэшэньне ў мамы, пусць сходзяць. Мы прыйшлі, а нам смешна стала – усе на скамейке сядзяць. Мы з Клёняй засмеяліся, а бабушка так закрычала на нас: "Што вы ўлыбаецесь ў касцёле, у касцёле нада скромна вясці себя!" Хадзілі малыя ў касцёл і слухалі арган.

І сьвяты спраўлялі, калі каталікоў празнік, значыць спраўляюць. Яна ўжо ўсё дзелаець, а ён не работаець у гэты дзень. А калі ягоны празьнік,

яна тожа нічога не дзелаець – сьвяткуюць. Знаеце, у то ўрэмя было не так, як сейчас. Вот у нас было так. У папы было 7 братоў і сястра. І вот мы жылі. Пяць братоў: дзядзя Пётра пры вуліцы, наша туды хата, а дальшэ – дзядзя Іванка, каля дзядзі Валодзі. І вот кагда празнікі, то ўсе сабіраліся ў кучку – вот такое таржэство. Знаеце, які быў там стол? Такі як сейчас, але ўсе так былі ўмесце, такога не было выдзялення, што яна каталічка.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Сакалоўскай Марфы Канстанцінаўны, 1928 г.н. (нар. у в. Сідары) у г. Глыбокае.**

### 1267. Елка – Божы дар

А на Раждзество – гэта ёлка, ёлкай хату засьцілалі. Такія балкі былі ў хатах даўней, у балачкі ёлак натырквалі і тожа ставілі ёлку. Знаеце, абрад быў такі – чэстваваць Раждзество Хрыстова. Гэта значыць – трэба каб ель была абязацельна, ёлачка каб стаяла да Хрышчэння. Вот Хрышчэнне тожа бальшы празьнік, і ёлка ў нас всегда стаяла дома да Хрышчэння. Значыць, дзелаюць такія ланцужкі свае, то есць сваім украшалі гэтую ёлку. І ставілі ёлачку на куце, перад іконай. Ёлка, шчытаецца, – Божы дар. Ну, відна таму, што ў Раждзество Хрыстова радзіўся Ён, у такое ўрэмя і, відна, ад гэтага пашло.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Сакалоўскай Марфы Канстанцінаўны, 1928 г.н. (нар. у в. Сідары) у г. Глыбокае.**

### 1268. У царкве і касцёле

Мне ў касцёле нравіцца цем, знаеце што, што там сядзець можна. А як мне спінка баліць, я ў цэркві не магу выстаяць, добра, што лавачкі такія ёсць і трошкі прысядзеш. А там ксёндз моліцца, і можна і сядзяць яны усё і ружанік моюць, вот гэта мне нравіцца. Чаму у нас гэтага ў цэркві няма?

Яны ў касцёле чытаюць гэтыя пацеры, а ў нас не чытаіцца і точна, ёсць усякія людзі і ў касцёле і ў цэркві. У цэркві, праўда, некаторыя, калі прыйдуць іскрэнней душой, што толькі памаліцца, аддаць усё Богу, то яны не будуць шушукацца. А некаторыя прыйдуць толькі, што даўно відзеліся там, яны будуць адзін з адным гаварыць. Я та панімаю.

Гавораць, што былі такія злосныя людзі, чараўнікі, што маглі ў цэркві і свечку паламаць на другога. Але гэта ж бацюшка на іх крычыць – эта ж нельзя.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

### 1269. Святыя рэчы

У рускіх (праваслаўных) во ікона Міколы моцная лічацца да сягоньня. Да, гэта ўжо сільны сьвяты. Яна ад пажараў, яна ад дарогі, яна ў хаце –

тады ўсё добрае робіцца. Благога нічога нет. А ў каталікаў гэта “Сэрца Ісуса” такая, мы так завём. Самая памоцная. А яшчэ хлеб Св. Агаты. Ён як ужо ясі, гэта здароўю добра і ў хаце тады дужа добра, калі ён ёсць. Гэта дужа памоцны хлеб. Маленькі кусочак і усё. Нада яго праглынуць каждаму чалавеку. Вот ён у цэркві асвянчаецца і каждаму чалавеку нада праглынуць яго. Гэта усё ён даець.

І зёлачкі свенцюць. На Дзевятніка, на Яна свенцюць. Зёлачкі ёсць ад упуду. Іх не заварваюць, нічога, а проста абкурыцца трэба. Вот так, во пад майку ці пад рубашку і гэты дымок тры разы каб прайшоў. Яны ад упуду, яны ваабшчэ добра, як яны ёсць у хаце, гэтыя зёлачкі свянцоныя. А разніцы няма ці на Яна свянцоныя ці на Дзевятніка. І тыя і тыя памогуць. Ну, на Яна – гэта свенцюцца ў рускіх, а ў польскіх – на Дзевятніка.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гаравой Багуславы Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сукліна Глыбоцкага р-на.**

## 1270. Па-польску, і па-руску

Як чалавек у дарогу дальнюю ідзе, нада сказаць: “Шчасліва, дай, Божа, ўсяго харошага, і каб усё у пуці было харашо”. А перад сном я малюся пацеры. “Здравусь Марыя” і “Дзесянцёра” – гэта па-польску. А па-руску – “Ойча наш”. І вераю, вераю – нада маліцца. “Ойча наш” нада каждаму чалавеку знаць і гэта нада всегда маліцца. І, як благі сон, устаю на каленкі і Богу малюся, прашу: “Божа, дай усё добрае”.

У мяне мужык памёр і рабяты паехалі. А я ночу праснуся, адна ў хаце, нешта страх, нешта мне вораг. Тады ўстала, кажу: “Матка Боская, дай спокуй”. Памалілася “Ойча наш” – і я заснула. Заснула, устала, тожа нада было ўставаць, работу рабіць. І спакой у мяне быў і усё.

І толькі жыву на Божай ласцы, пастаянна прашу. Я ж і сахарам балею і усё, і толькі прашу: “Дай, Божа, здароўя”. Толькі ў Бога прашу, і Бог мяне дзержыць. І вот пастаянна Богу малюся, пастаянна бацюшка прыязджае, хату асвянчае і мяне асвянчае. І я іконы цалую, я і хрэст цалую, усё чыста. Ні ад таго не нада адракацца, ні ад таго. А ў касцёл я не хажу і ў цэркаў не хажу, бо не магу дайсьці.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гаравой Багуславы Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сукліна Глыбоцкага р-на.**

## 1271. Рэлігія, вера і вернікі

У праваслаўных усё ад шчырай душы, мне кажацца. Іменна ўсе верaць Госпаду Богу. А каталікі – гэта саўсем другія людзі. Саўсем другія. Гэта маё лічнае мненне. Я помню, усё врэмя мая мама гаварыла, што каталік – гэта паляк, а што паляк – то чорна ў ляпе.

Помню, як мне каснулася, і прыхажу я к маме, кагда мая дачка замуж выхадзіла. Маме гавару: “Мамачка, а зяць жа ў мяне будзе паляк, а ты ж

казала, што паляк – то чорна ў ляпе.” А Пецька ж – католік. “Ну што, нічога не зробіш. І яны – каталікі, каб толькі па-іхняму была. Так што, дачушка міленькая, ты ж толькі ўжо кажы, каб у цэрквы вянчаліся”. Што ж вы думаеце? Яны ў касцёле павянчаліся, а свацьця звоніць без канца, толькі каб у касцёле, ды ў касцёле. Вось такая праблема. А я тады гавару: “Мама, ну што зробіш, ну ўсё раўно, ну Бог жа адзін, толькі ў іх касцёл, а у нас – царква. Бог адзіны для ўсіх”. Усё роўна ў касцёле вянчаліся.

У католікаў вера паслабленая, первая вера – праваслаўная. Ды цяпер колькі розных ветвяў… Зрабілі розныя, тут засталося і палякаў нешмат, была Пракуніха, а цяпер гэтая бальшавічка. Я ўжо не вытрымала: тут стаіць бацюшка моліцца, ну, і моліцца ён, напрымер, у гэтую сторану, а тут гэта – зайдзець наперад і стане. Я ўжо крычу: “Як цябе не стыдна, стала, як Матка Боская, і стаіць”. Ну, і не ходзіць болей.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Анашкевіч Антаніны Іосіфаўны, 1929 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

**1272.** А мая мама казала, што мой мужык быў паляк.Ну які ён быў паляк, пісаўся беларусам, но бацькі яго былі палякі. Як ён сюды прыехаў, мама мая казала: “Паляк – гэта галубая кроў”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Нікіфаровіч Наталлі Уладзіміраўны, 1955 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

**1273.** Я помню як цяпер: была адна такая, і вось калісь картошку капалі ў Дубраве. І яна казала: ці праваслаўны, ці свіння – усё адно. Маруся Піліпчыкава, помню, як насіла фігурку польскую па хатах. Во, дадумаліся палякі, фігуркі па хатах насіць. А каб насілі праваслаўную фігурку, палякі б ніхто не ўзяў. А мы прынімалі. Вы учціце. Хіба ж то людзі? Ходзіць Валечка, збіраець на крэст. Бог адзін, дык чаму крэст нельзя ставіць адзін, чаму абязацельна трэба польскі, а не праваслаўны, каб маліцца?

Ехалі раз, везлі ў Празарокі: палякаў у касцёл, праваслаўных – у царкву. І адна не выйшла ў касцёл і крычыць: “Пусціце мяне ў цэркву! Не пайду ў касцёл!” Крычыць так, і аб зямлю б’ецца. Ну, была б разумная, скolькі там дайсці. Вылезла б і прайшлася.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Цалка Леаніды Ціханаўны, 1945 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

**1274.** А да нас прыходзілі ёгавы адны. У іх ёсць спецыяльная хата-малельня. І вось яны адзін раз прыйшлі да нас, мама так добра пагаварыла з імі, і кажа: “Дочка, я пэўна буду закрывацца, каб яны не шасталі, абы хто”. Але ж за ўсімі не закрыешся. Прыйшлі яны і другі раз, таму што яна добра з імі пагаварыла. А на трэці раз яна сказала: “Хваціць хадзіць, я з

вамі, так сказаць, культурна гавару. Меня ўжо ніхто не перайначыць, я з маладосці хадзіла ў царкву, а тут у нейкую іёгаву хадзіць ня буду”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 1275. Баптысты

Я мела чэсць не з маскалямі, а з баптыстамі разгаварваць. Была ў мяне такая праблема, што жаніўся брат мой, тут недалёка ад Бялынічаў. Прыйшлі ў хату, а яны можа зналі, якой мы веры, ці можа наша нявестка гаварыла. Толькі праступілі цераз парог – сват пакойны і свацця гавораць: “Ну, садзіцеся, раздзявайцеся!” Мама тут дастае бутылку. А яны: “Не, у нас ніхто не п’ець, мы дажа тых людзей не любім, хто прыносіць водку”.

І вось слухайце: пасадзілі нас, налілі красных бурачкоў, гэта, свякольніку, а тое, што мы прывезлі, не паглядзелі дажай. Я той свякольнік не даела, ажно слёзы на глазы наварачваюцца. Не выдзержала, заплакала, выйшла, а як прыйшла, гляджу – і мама не вытрымала.

А Шура з Тоняй сказалі, што прыедуць к вечару, і каб мы ждалі. Ну тады свацця гаворыць, каб сват дастаў, можа, і катлеты. А сват устаў і гаворыць… Не знаю, ну не малітвы, гаворыць проста ды ўсё, як то: “Божачка, дапамажы, каб прыехалі нашы дзеткі, каб усё добра было”. Пагаварыў гэтак, а тады прынёс пісьмо і зачытваў, што хутка будзе Канец Свету, у 2000 годзе гэта было.

Ну што, рабяты нашы спазніліся на поезд, ну а мы будзем іх ждаць ужо. Свацця ўжо хазяіна свайго стрымлівала, каб ён не гаварыў нам нічога. Нам з мамкай краваць разаслалі, а ён нам журналы розныя, кніжкі рэлігіёзныя паказваець, толькі потым свацця забрала яго. Мы з мамай не заснулі, а толькі плакалі. Быстранька утрачкам усталі і падумалі, як уехаць. Праўда, давялі тыя нас да астаноўкі. Мы такога ніколі ня відзелі. А што наш цесць з такіх людзей, якіх мы не ведаем, для нас было такім ужасам, што мы плакалі ўсю дарогу. Толькі з Мінску супакоіліся. Прыехалі, як цяпер помню, а цётка Данута і гаворыць: “Давай, стаў бутылку скарэй на стол. Што там плакаць? Няхай сабе жэніцца, найшоў гэткую – дык хай жэніцца”.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Жаваранак Зоі Мікалаеўны, 1953 г.н. у в. Шо Глыбоцкага р-на.**

### 1276. Баптысты

Гэтыя бапцісты Богу вераць, а Хрысту – не. Яны ж молюцца проста дзераву. У іх жа ікон нету. Вось знайдуць дзерава, дзе там сучок і моляцца яму. А ўкрасьці для іх – першае дзела. Яны ж, во, думаюць, што як чалавека палажыць яшчэ жывога ў гроб і прабіць яго цераз гроб штыхамі, то ён, той чалавек, да Бога адразу пойдзіць.

Та вот у мужыка аднаго жонка бабцісткай была. Ну, ён прыходзіць да хаты з работы і пытаецца ў дзяцей: “Дзе мамка?” А сынок, што старэйшы, гаворыць: “Мамка да Бога пайшла”. Ну ён та і здагадаўся. Схапіў сякеру і пабег туды. А яе ўжо тыя бабцісты палажылі ў гроб і ўжо хацелі прабіваць яе штыхамі, але мужык іх паразганяў сякерай ды выслабаніў жонку.

**Зап. Лобач У. у 2003 г. ад Яськавай Вольгі Паўлаўны, 1923 г.н. у в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на.**

## АБРАКАННЕ, АХВЯРАВАННЕ

### 1277. Намётка

Што перад гэтай Тройцай робюць бабы. Вот намётку, такую намётку чэраз усю цэркву, нада выткаць яе за адзін дзень. І збіраюцца ўсе бабы, і што ў каго ёсь. У мяне вот гэткі клубочак, такая краска, а ў другой гэткі. Аснова. Усе складуць гэта і называецца губка. Саснуюць, уцягваюць у бёрда і ткуць. Усе бабы збіраюцца. А што гэта? Гэта каб дзеці былі здаровыя. Гэта “ахвяра” завецца. Тады бацюшка прыязджаець, абедню робіць. І нясуць бабы гэтыя, і сцелюць раненька ў цэркві гэтую ахвяру. А так вот раненька хлеб пякуць, тады нясуць буханачку хлеба невялічкую. Сырок нясуць. Эта ўсё ахвяраюцца, яйкі нясуць...

**АСЭТ: зап. Латушкін А. і Паўлавец Н. у 1998 г. ад Ціханавец Кацярыны Міхееўны, 1911 г.н. у в. Домжарыцы Лепельскага р-на.**

### 1278. Ахвяра

На Яна не піялі, гэта цяперака тут кастры паляць, такі рух. А даўней тока ў касцёл ездзілі ў Мосары, маліліся, ахвяры клалі. І выздараўлялі. У мяне ў самой было. Хадзіла я на ферму, і так былі атняўшыся ногі, што з палачкай хадзіла. А тады ўжо раз з фермы ішла, а там такая кузьня стаяла, і я пад гэту кузьню схавалася, а сама ўжо галашу, як дамоў дайсці. Ну, і мяне ў Мосар папёрлі, я тамака ахвяру паклала, памалілася як знала, і ногі мае выздаравілі, і цяпер на нагах. Ахвяру можна гэта, набожнікі. Ну і грошы. У касцёл жэ нада грошы, яны ж там усякае куплялі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1279. Каб дождж пайшоў

А як доўга дажджу няма, нада, каб жэншчына, каторая яшчэ не выхадзіла замуж, чэсная, узяць маку цякуна, тры разы кругом абыйсці, перакрысціцца і ўсыпаць у калодзесь мак. У нас была цёця, маміна сястра, не выхадзіла замуж, яна хадзіла і сыпала.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашка Соф’і Васільеўны, 1935 г.н. у в. Ракаў Засценак Сенненскага р-на.**

### 1280. Калі няма дажджу

Як доўга няма дажджу, то абыдзённік ткалі. Дзелалі. Так за суткі ткалі такое палатно. Ткалі, пралі, бялілі. Вот напрадуць адну губку, ну метраў пяць, на ўсю хату, нада напрасці за дзень. Аснаваць гэту губку, вымачыць, патаўчы, пабяліць, патом навіць на кросны і выткаць. А тады ў цэркву аднясці. Ну, метры чатыры, кусок палатна.

Ну аднясуць у цэркву, як палавік. Паложуць на пол, хадзілі па ім, як палавік. Палажыла перад Святой Багародзіцы. І пойдзе дождж. І мак кідалі. Дзе нада пасвяцоны мак-самасей у тры калодзежы кінуць, і я кідала. Нада ў тры калодзежы.

І рэчку аралі. Мужыкі аралі, бяруць плуг і дзе неглыбока аралі. Адзін цягне, а два ідуць па баках. Аралі, каб дождж пайшоў. Во рэчка цячэ, і яе нада перааараць. Упоперак аралі. Адзін дзяржыцца за плуг, а два цягнуць. Туды, і назад аралі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Чарняўчык Вольгі Макараўны, 1926 г.н. і Кобы Ніны Кузьмінічны, 1932 г.н. у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

### 1281. Каб дождж пайшоў

Каб дождж пайшоў, мак сыпалі ў калодцы. І крыжавуху нада было плугам араць раздзеўшысі, на углы, (малюе). І скавароду кідалі ў калодзеж. А яшчэ – як на Духа носюць, у нас называлася “май”. Раньшы мы ідзём аіру, нарвём аіру, усё расцілалі. У лес ідзём, прынясём усякага дрэва, ламаем, торкаем у хаце. Кала бэлек. На дварэ бярозкі ставілі. А тады гэтыя веткі нада сабраць, так венічкам звязаць, і схаваць. А так, як дожджу доўга няма, тады нада ў рэчку кідаць эты май, каб дож ішоў. Еслі аір гэты ў хаце за ноч крэпка звянець, значыць, будзець харашо сена сушыцца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Галавач Яўгеніі Міхайлаўны, 1929 г.н. у в. Нямойта Сенненскага р-на.**

### 1282. Абыдзень

Як засуха, тады абыдзень ткалі. Бабы за дзень напралі і выткалі палаценца, такое бальшое. І тады за тое палаценца, і такі ў нас у дзярэўні стаіць крэст з аднаго краю дзярэўні. Так з етага краю, і так во – на другім краю, а то пасрэдзіне шчэ стаіць. І панеслі к таму крэсту. Гэто ўжо я была ўжэ не бальшая, але помню. Там маліліся Богу, штоб пайшоў дождж. На той крэст павесілі. На крэст павесілі і пайшоў дождж.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Саксон Марыі Барысаўны, 1929 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 1283. Калі дожджу доўга не было

Калі дожджу доўга не было, ткалі абыдзённік. Ну вот, нада за адзін дзень намяць лёну ў мялку, ачысціць яго, напрасці, выткаць гэты лён і на

рэчку аднесці пабяліць. І на рэчку яго ўскінуць столькі раз, колькі баб сабіраецца, іх дванаццfolk. Потым мнуць гэты лён і чэшуць. Усё, усё дзелаюць: прадуць, ткуць гэты лён, абдадуць яго, патаўкуць кросны гэтыя, потым высушаць гэты лён. Адны ткуць, а другія вячэру робяць. Яны ж нашчу, са сну, устануць і гэта дзелаюць. І тады хто тчэць, астальныя вячэру дзелаюць. Дванаццаць блюд, дзелаюць вячэру. Тады вячэраюць. І тады павячэраюць, аднясуць гэта палатно на рэчку, расцелюць яго, а тады і дождж пойдзе. У хаце вячэраюць, а палатно на вуліцы ляжыць. А после, як высахнець палатно, яго нясуць у цэркву, заказваюць службу, служуць службу – тады і дождж ідзе.

Пачыналі на расвеце, і дзяўчат не было – жэншчыны. Большая часць удоў. А то другі раз, дажджа як няма, ідуць удовы гэтыя, бывала і мая маці, удава была, і тут яшчэ ўдава, дык адна з гэтага канца, другая з таго канца (вёскі) на каленках пройдуць, пакуль не сойдуцца. Ідуць на каленках, пакуль не сойдуцца, абы на каленках, праменька. Утрам.

Абыдзённік, гэта пры маей памяці, нескалька раз ткалі. Але мама мяне не брала. Яна ўстане, і скажа, што пайду ткаць абыдзённік. Ну, выбяруць хату большую, каб выткаць. А лён гэты быў на ёўні, яго ж нада было мяць. Ён жа з трастой. Яго мялі, трапалі, часалі, тады на адзін грэбень, тады на другі, пралку, часалі шчоткай і тады пралі. А намётка, ну абыкнавенная, як стол, можа. А даўгая, можа метраў восем, можа дзесяць. Ад хаты завісіць.

Яшчэ аралі дарогу, аралі дзеўкі. Дзяўчаты аралі. Аруць удоўж, а тады хрэст. І рэчку гэтак аралі. У рэчку залезем, бывала мы, дзяўчаты, і аралі ўздоўж, тады хрэст. Гэта каб дождж пайшоў. А дарогу ў любым месцы, мы дзе жылі, там і аралі. Можа удваіх, можа утраіх. Сахой аралі, не плугам. Саха, сахой дзеравяннай.

І мак сыпалі ў калодзец. У тры, у чатыры, у дзевяць. Мак сыпалі і мальчуганы сыпалі, і дзяўчаты.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

### 1284. Абыдзённік

Ага, дык гэта робілі да вайны. Гэта я ўжо помню. Не было дожджу – суху-суха было, а тады прайшлі дзве бабы, сабраліся па дзярэўні, хто там лёну кужаль, скажам, даў. Тады гэта за дзень усё. Сабраліся бабы, спралі, асновалі і выткалі ручнік. Усё за дзень. Назаўтра паняслі. Надзелі ў цэркву. Ужо гэта каб на дождж. Ахвяра на дождж. Ну і памагала, тады ўжо бацюшка памоліцца. Гэта было да вайны. Я ўжо помню – у нас пралі, у нас і ткалі гэта.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч Наталлі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

### 1285. Каб дождж пайшоў

Як дажджу няма, бяруць мак цякун і сыпюць у тры калодцы. Бяруць скавараду, што бліны пякуць, сыпюць туды мак і ў тры калодцы. У адзін трошку, у другі трошку, у трэцці. Са скавародкі. Сыпалі дзяўчаты больш. Маладыя, чэсныя. Мама гаворыць: “Бяры скавароду, каб жа ня відзела дзярэўня!” – нада ўціхара. Бяры маленькую скавародку. І пашоў. Са скавародкі троху пасыпеш маку, а тады пабегаеш, пагуляеш, у другі калодзеж занясеш.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Краўчанка Наталлі Андрэеўны, 1930 г.н. у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

### 1286. Юраўскі абыдзённік

Раненька-раненька. І вот да ўсходу сонца садзяцца прадуць. Прадуць, матаюць і снуюць зразу на сьцяну: гэта губка называлася, праз усю сьцяну. Нада наснаваць і выткаць за дзень ту губку... Тут скоранька сучаць цэўкі, тут анна прадзець, другая сучыць, трэцяя тчэць, чацьвертая адцягаваець там дошчачкі. І тады выткуць – гэта абыдзённы намет называўся. Вечарам ужо нясуць дзяўчаты ў ваду. Песьні пяюць, мыюць… А потым у цэркаў нясуць ужо, вешаюць – за скаціну, за кароў. На ікону ў цэркаў аддаюць папу вешаць.

Гэта на Юр’я празьнікі такія былі. А да ўсходу сонца пралі, каб жа ж справіцца. Каб за дзень усё зробіць: абыдзённы намет называўся. А ўжо пасьленьняе ўрэмя ні было – куплялі мацер’ял. І расьцягавалі напростку: мужчыны дзяржаць з аннэй стараны, з другой – на калку, а скаціну прагanялі пад намёт. Там тады абходзяць яе. А вечарам ужо жэншчыны гарэлку тую, што-небудзь гатуюць, адмячаюць Юр’еў дзень ужо. Апошні раз было годзе ў 1970-м.

**Зап. Лобач У. у 1993 г. ад Камінскай Праскоўі Ціханаўны, 1922 г.н. у в. Баяры Докшыцкага р-на.**

### 1287. Ахвяра

Вешаюць усе: хто на хваробу, на якую, каб паздаравець, ці дзіцё якое нездаровае, за рабёнка вешаюць, ахвяра завецца. Тады ішчэ было гэдак, тут у нас ля ракі, Лапчык такі, і ён прыстаў к жанчыне. А тады быў такі, вядома з вайны, быў псіхаваты, і ён яе часта калашмаціў, гэтую жанчыну. Ну і ён ей мазгі трошкі пакалаціў, і яна кінула, пайшла і зблудзіла, недзе зблудзіла ў лесе гэта жанчына. І ўжо кажуць, во Лапчык недзе задушыў яе і пусціў з вадой, дзе яна, пашла, можа ўжо аж у Барысаве. Тады прыходзіць эты сын лапчакавы ка мне: “Ай, цёця Анюта, вот гэткую вялікую бяду на нас накладаюць, што гэта мы вінаваты, што ўжо гэта прапала, што мы яе ўтапілі, спуцілі з вадой, і яна прапала. І што робіць?” А я кажу: “А ты фартушок павешай да крыста, і найдзецца ваша Агаша тады”. Дык ён: “Я ня

ўмею, я ні знаю…” Дак праўда, я і гэтаму кусок мацерыі ўзяла, і гэдак зробіла скоранька яму, бягом. “І сечаз жа, – кажу, – станавіся на калені, крысціся, і нясі, прывяжы жэртву эту”. Тады эты чалавек бягом пакланіўся перад іконам, і пашоў, і прывязаў к хрэсту, і прыходзіць назаўтрае, цалуець мне ў рукі: “Нашлі Гашу!” Вот снялі с сябе грэх.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Васілевіч Ганны Фамінічны, 1928 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

## СВЯТАТАЦТВА

### 1288. Праца ў свята

Да, было, вось мая суседка на які-то празьнік шыла, а яна бярэменная была, ды і дзяўчына нарадзілася з зашытым глазам. А у мяне цётка на празьнік свіньням секла, і нарадзіўся мальчык без рукі. Гэта было на Івана Галавасека.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Фёдаравай Ніны Мікалаеўны, 1939 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

**1289.** Грэх, калі ты ў будні дзень сядзіш, нічога ня робіш, а тады ў празьнік бярэсься, проста нconnectingругаесься Богу. Еслі хочаш у празьнік зрабіць, схадзі памаліся і тады рабі. Прымерна, ты на работу ходзіш і табе некалі. А сена ўбіраць, яно як і пакойніка. Наш бацюшка прыедзець і кажаць: “Памаліся і ідзі робіць”. Ён прыедзець з абедні і сена грабець. Еслі людзі ў цябе сабраныя, картошкі ці што, то які гэта грэх?

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Талкач Арцеміі Сямёнаўны, 1933 г.н. і Карзевіч Кацярыны Сямёнаўны, 1922 г.н. у в. Сарокі Глыбоцкага р-на.**

### 1290. Макавей пакараў

Ну гэта, казалі, што праўда. Ехаў бацюшка з Долец у Ахфераўшчыну на абедню, а дзе тут жалі ячмень, якраз мусіць на Макавея, гэта Макавей 14 аўгуста. І ён паздароўкаўся, кажыць: “Бабкі, кідайце жаць, паедзем Богу маліцца!” А адна паднілася і кажыць: “Ну, а калі мы Макавею рукі атрэжым?” Ну і ўсё, а яна была таўстая, і радзіла мальчыка, дык я яго відзела, ён быў ужо мужчынай, жанаты, во тут во дзе локці – у яго тут пальцы, такія ручкі кароценькія. Но ён граматны быў, агентам хадзіў. Я раз прышла з работы, а мама сядзіць і нейкі мужчына, а рукі ж во так во (паказвае па локаць) і пішыць.

**Зап. Клопава С. у 2009 г. ад Дрозд Соф’і Архіпаўны, 1935 г.н. у в. Мазуліна Ушацкага р-на.**

### 1291. Дзявятнік

Бываець на свята, бываець. У нас не чуваць такога, ну але бываець. Цяперака, тутака, на Дзевятніка, збіралася адна ісці ў цэркаў, у Таргуны,

там яе сваты. І ўжо надзелась, і паеду ў Таргуны. А ў мужыка стала трохі даўленіе, вярнулась, ні пашла. Сталі сена грабіць, гэта на Дзевятніка, а там сетка была, яна ў гэтку сетку зачапілася, павалілася, і палец сламала. Казала: "Каб я лепей пашла на кірмаш, на абедню пашла, чым робіла". Вот у свята как няможна рабіць. Гіпс налажылі.

**Зап. Аўсейчык У. і студ. ПДУ Путронак К., Шыпіла Н. у 2009 г.ад Карніловіч Клаўдзіі Ільінічны, 1933 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 1292. Сваты і работа

Вот абычна Ілля-Пракок вот, абізацельна нільзя ні сена грабіць, нічога. А ў нас адзін мужчына пашоў сена грабіць на Іллю, і стаў лажыць. Толька яны атышліся, граза сталася і стог згарэў. Нільзя на Ілля нічога рабіць – Ілля-Прарок.

На Благавешчанне нільзя нічога робіць абізацельна, даўней дак помню тата і хлеба нарэжыць, і ужо ўсё-ўсё, каб нічога ні рэзаць, усё загадзя, каб нічога ні рэзаць. Благавешчанне – гэта значыць "пцічка гнязда ня ўець, а дзевіца касу не пляцець": ні расчосаваліся ні галавы, нічога, гэткае ж ужо Благавешчанне свята бальшое. Ну і Вялікадня свята бальшое. І ўсе празнікі, раньша ж і ў нядзелю нічога не рабілі, помню, маладзёж ідуць, і тут качэлі былі ў бару, і з гармошкай ідуць, іграюць, пяюць. Ужо нядзеля – гэта значыць нядзеля, отдых і ўсё.

І вечарушкі ж ёсць на Каляды, дзве нядзелі вечарушкі, вечары – нільзя нічога робіць. Ні шыць, а шыць дак вабшчэ дажа дзве нядзелі няможна шыць. Можаць, вот радзі скаціны, скаціне што-нібудзь паўрадзіць што. Ні шыць, ні сеч, нічога. Помню, ён прышоў, а мы жылі з мамай, ну а ён прышоў ужо, як эта называецца, на прымакі, у іх сем'я была бальшая. І помню, первае врэмя ён нічога не панімаў гэтага, і вот карова ацялілася, а ён сек вечарам, мусіць пад палку, сек вечарам. Мама кажаць: "Не сячы, не нада, дзетка". – "Ай, эта ні праўда". І радзіўся ў нас цялёнак без хваста. Адсек хвост.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н. у в. Дзедзіна Докшыцкага р-на.**

## 1293. А нельзя сеяць у празьнікі…

А ў мяне ўжо братава расказывала у Калядніцу, як Каляды, перад Калядамі – гэта святкі, а яна ўзяла муку сеяць. Рэшатам. А нельзя сеяць у празьнікі. А яна не паслухала іх. Ну вось, радзіўся сын, і цяпер ёсць Мішка, у яго глаза во так ходзяць, бегаюць.

Яшчэ мама расказывала, у іхней радні было, гэта была баба бярэменная, а мужык... У пралкі зубкі ёсьць. Ён нагнаў гвазьдзей, і радзіўся ра-

бенка сьляпы, і прысьнілася яму: “Адробце тое, што вы зробілі ў празьнік.” Выдралі тыя гвазды, і рабенка стаў відзіць. Гэта ўжо па факце.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Казлоўскай Марыі Дзьмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

## 1294. Божая кара

У нас тута сын бацьку дужа біў. Ён жыў у Віцебску, а тута матка жыла. У яго трэцяя хата у гэту сторону. І ён біў бацьку. Матка памёрла, ну, жонка бацькі, а ён біў жывога бацьку. Дык той ужо забывацца трохі стаў. І есьць, калі дасць яму што. Паштальёнка прыйшла, а яны ядуць, а бацькі не даюць. Яна гаворыць: “Тады я ўзяла  і палажыла ў міску дзеду гэтаму”. Бульбы дадуць нямножачка. А тады п’яны быў бацьку забіў. А сказаў, што той сам памёр. Што вы думаеце? Камбайн малаціў яму на агародзе. Астанавіў камбайнёр і там падкапвае, каб яно вылезла. А ён рукой палез. Атарвала руку. Гэта Бог пакараў. Як ён бацьку біў і мучыў. Яго Бог пакараў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Мінінай Кацярыны Іллінічны, 1923 г.н. у в. Хадорына Віцебскага р-на.**

## 1295. Ілля карае

Нельзя робіць у сьвята. Тут на хутары адзін на Іллю сена вазіў, а к вечару пярун запаліў пуню. Тут тожа ў нас быў хазяін, на Іллю стог сена склаў. Пашоў дамоў, а стог згарэўшы. Зарання нада. Сонца к вечару – нада кідаць работу, гатовіцца к святу.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Мікульскага Дзмітрыя Іосіфавіча, 1925 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

## 1296. Работа на Іллю

Ну, вот саседка ўязджала на свадзьбу. І яна папрасіла меня паглядзець, свіньні ў яе былі. Нанач яна не прыехала, ну утрам устала я, узяла касу, а эта быў Ілля. Втарога часла, запомнілась на ўсю жызнь. Узяла касу, мужык яшчэ спаў, унучка тут. Ну і я ўзяла касу, пашла каля дарогі, кашу. І ідзець басед, і гаворыць: “Ай Петрачышка, косіць ужо!” Ну, я пакасіла, а тады сабіраю, а касу аставіла. І я так задам іду-іду, і як стала на касу, а яна перавярнулась, і мне ў нагу. О, думаю, што такое, такая боль!

Я схваціла гэтую касу і дамой прыбежала, і ўсё – валяюсь. Мужык начаў: “Ты што, табе нада, няхай бы яны… Яна сама не корміць іх, а ты ўзяла”. Ну і ўсё. А боль, качаюсь па гэтай, такая боль – сухажыліну перарэзала. Тады прышла Ларыса і “скорую” вызывала мне…

Ну вот эта бабка тожэ гаварыла.  У іх, у Струках, яна там жыла раньшэ, тожэ мужчына адзін крыў крышу. Ну і яны гаворац: “Ну, чаго ты крыеш?” – “Ай, ну вот нада.” – “Такой празнік, Ільля, а ты крыеш”. На Іллю

было. І ён тады ўпаў, і насмерць. Ну, ці праўда, ці ад этага, ці гэта так нада?

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Арол Ліліі Пятроўны, 1937 г.н. у в. Мікуліна Полацкага р-на.**

## 1297. На Іллю

Ілля быў… А тут у нас граніца была, мы на самай граніцы жылі. Наша зямля і рака – гэта ужэ савецкая, а мы польскія. Ну дык грабілі сена на Іллю. Мой пляменнік там жыў, за ракой, а казаў, што грабілі сена, склалі стог. Як гэта было, кажаць, найшла хмарка, найшла хмарка, стал дожджык. Кажаць, пад стогам сталі, тады кажаць, пойдзем мы дамоў, не будзем стаяць пад гэтым стогам. Толькі атышліся, і як даў пярун у гэты стог і спаліў. Дык бывала, дырэктар [калгасу] скажыць: "Калі ваша гэта дурное свята будзець, каб не рабіць?"

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ардынскай Марыі Фёдараўны, 1925 г.н. у в. Буі Докшыцкага р-на.**

## 1298. Грэх у свята

У празнікі работаць нільзя. Хацеў адзін ехаць на Спажу на кірмаш. Дроў загатовіў, цёмна, крадзеныя. Вёз-вёз прадаваць. Як загудзела нешта ззаду, страшна, стоўб ляцеў. Ён сам не знаець што. Ён чуць ускочыў на воз, толькі крыкнуў: "Ай!" Послі сказаў: "Нікада не паеду ў празьнік, ня буду красці. Каб ня ўскочыў, ні знаю. Валасы падняліся. Як сабака забрахаў, толькі нешта так пачуў".

**Зап. Валодзіна Т. у 2005 г. ад Міцько Веры Уладзіміраўны, 1926 г.н. у в. Туркі Докшыцкага р-на.**

## 1299. Пярунова пакаранне

Было што і пярун чалавека біў. У нас за ракой жыла такая, што павесілася. Ну а ён быў камуніст, абразы павынасіў з хаты, можа ён іх і пасек. І былі ў іх дзяўчаткі. Адна вышла замуж, і вот мела дзяцёнка. Ішла з дзяцёначкам, і Пярун іх абаіх. Гэта гавараць, што гэта пярун за бацькавы прадзелкі. А яна павешалася.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1300. Узвіжанне

Ай, гэта Узьвіжаньне… Я знаю, што ў гэты дзень нічога не нада садзіць. Я не знала, што Узьвіжаньне і асеньнія цвяты пасадзіла, цюльпаны, на зіму ж ужо. Прыхаджу я раніцай паглядзець, а маі цюльпаны павыкідаваны-павыкідаваны. Во як ня можна садзіць на Узвіжаньне. Не ўсе, каб

усе, але нескалька штук. Я ж глыбока закапывала, прыжымала гэту зямельку, а прыхаджу – ляжаць навярху. Ну, кажуць, што зямля трасецца. Варочаецца, ці што. Ну, і змеі маглі прыпаўзці. Ну, бываець, што каля лясоў жывуць, дык пільнаваліся, каб на Узьвіжаньне не прыпаўзлі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1301. Сьвяты

Я і цяпер празнаваю і рускія і польскія сьвяты. І Вяліканне і Узвіжанне, ну ўсякія. Еслі я знаю, што яны сьвяты, я нічаго не раблю. Але Бог не пакараіць. У нас быў тут старык ксёндз, і я пыталася: "Ойчынька, а ці можна працаваць у сьвяты?" Ён сказаў, што можна, бо лянота – грэх. Ляніцца чалавеку – гэта вялікі грэх, а работаць можна. Ну, на вялікія сьвяты не нада рабіць, не нада, лепей не рабіць. Я сама і Вяліканьне цяпер сьвяткую, і Каляды, і Новы год, і Кшчэньне, і Грамніцы.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Гаравой Багуславы Пятроўны, 1934 г.н. у в. Сукліна Глыбоцкага р-на.**

## 1302. Праца ў сьвяты

Рабіць нельга ў празьнікі, і не рабілі. Мама гаварыла, што еслі што, дык рабілі зраніцы, есьлі для пользы. Ну, канешне, ніхто там на Пасху дровы сеч не пойдзе, ці на Раждзяство. У празнікі дажэ вады (замоўленай) не даюць, вось бываюць такія дні. Я помню ў нашай родственніцы было. Ён сам урач, яна – медсястра, гэта брат мой дваюрадны, а дачка іх – фельшар. І яна стала сьціраць, а мама прыходзіць і кажа: "Ліля, што ты дзелаеш?" А пазней яна ішла і нагу спорціла, падвярнула. Да, тады быў нейкі празнік, і служэньні шлі.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г.н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

## 1303. Зашытыя вочы

Ну, гэта тожа, кажуць праўда, што няможна рабіць у свята. Ну, я чула, што кажуць, была адна партніха, яна была ў палажэньні; партніха была добрая. Ну, і прынясуць шыць, і яна не глядзела ўжо там – ці Вялікадня, ці што, каму пільна нада, яна шыла. Кажуць, радзіўся дзіцёнак і вочы не адкрываў. Зашытыя вочы. Вот так. Няможна.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Будзько Лідзіі Іванаўны, 1940 г.н. у в. Вінцэнтова Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1304. Праца ў свята

Расказавала жэншчына. Красіў мужчына забор, мусіць, на Вяліканьня. І ці паверыця, што ён, во, як кістачку дзіржаў, увесь паліц распух і ад-

нялі. Дык гэта нідаўна было, гадоў дваццаць ці пятнаццаць таму. Яму кажуць: “Сёньня ж Вяліканьня!” – “А што я роблю? Я ж нічога ня роблю”. Ну і во.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

## 1305. Святатацтва

Гаварылі, як цэрквы бурылі, адзін палез, самы навярху калакольчык, і што там яму здзелалася, ён быстра і памёр. А ці гэта праўда было. А гаварылі: “Стоіць яму, чаго палез”.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Булынавай Аляксандры Віктараўны, 1938 г.н. у в. Малыя Таронкавічы Лепельскага р-на.**

**1306.** Гэта было пры Савецкім саюзе ж было гэта, што красты ламалі, цэркаві разрушалі. Дак быў такі Матошка, прыдседацель, і ён там у цэркаві, у Порплішчах, мусіць, начаў і палез первы, і начаў ламаць крэст, і начаў раграбляць цэркву тую. І ён зваліўся і забіўся. Не нада чапаць краста, раз ён там пастаўлены, не нада было яму чапаць.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Васілевіч Ганны Фамінічны, 1928 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

## 1307. Божая кара

Адзін чалавек калісці спаліў ікону сваей дачкі, бо быў няверуючы. Увесь аклад згарэў, засталася толькі вось там, дзе Хрыстос намаляваны. Там неяк яна пад кравaць завалілася. Нейкім чудам. А тады, праз некалькі год пачалася вайна і ўсю сям’ю гэтага чалавека спалілі ў яго на вачах. Усіх спалілі, а ён выжыў, выпаўз неяк. Людзі казалі, што гэта яго так Бог пакараў.

**Зап. Лобач У. у 1998 г. ад Абрашкінай Марыі Піліпаўны, 1935 г.н. у в. Азерная Расонскага р-на.**

**1308.** Цэркву да вайны бурылі, вот гэта я дужа ня помню. Ну пабурылі яе, а калі? Вродзі бы у нас такі мужчына быў, Арцем звалі, там сусед мой. Калакала гэта сьнімаў, усё гэта сьнімаў. Ну дык, вот ён тады як забалеў. Забалеў плахой хваробай, ляжаў доўга. Во, рак гэты стаў у яго. Дык вот гаварылі, што за гэта яго Бог наказаў, што ён сьнімаў ужо ўсе гэта, царкоўнае.

**Зап. Пашкевіч І., Пракоф’ева Ю. у 2006 г. ад Смаляк Інэсы Макараўны, 1934 г.н. у в. Старына Ушацкага р-на.**

## 1309. Кара за разбурэньне капліцы

Дауней стаяла капліца у нас. Яе разбурылі. Дык, тыя мужыкі, што яе разбурылі сядзелі раз, гарэлку пілі. Раскрылася вакно, уляцеу філін. Яны ўсе перапужаліся. А потым у аднаго ўсе дзеці паўміралі.

**Зап. Лобач У. у 1996 г. ад Шыпулі Ніны Паўлаўны, 1934 г.н. у в. Навасёлкі Бешанковіцкага р-на.**

### 1310. Прыдарожны крыж

Ну, гэта было пры савецкай уласці, стаялі тыя крыжы. Тады такі далі прыказ: знясьці, што б іх не було. Ну вот, у нас нашоўся такі смелы, і гэты крыж, толькі ён быў цераз дарогу, і гэты крыж узялі і занялі, і ў рулю ўкінулі, без усякага там. Не, каб паставілі, ці дзе да якога дзерава прыкруцілі. У рулю ўкінулі, у роў гэты. Ну і гэтаму чалавечку на первам гаду і сын адурнеў, разумны мальчык быў, і тады праз свой дур – атравіўся. І ён мала пажыў, і ён за ім скора пашоў. Вот такія былі наказаньня Божыі.

Гэта ўжо як сталі ўзнаўляць дзе крыжы стаялі, мы далажыліся гэтаму Толіку, зараз цераз дарогу жывець. Ну, яны былі маладая пара, яшчо толька пажаніўшыся. Ну вот ён (крыж) у вакне стаіць, страшна. Ім ужо страшна стала крыжа таго, а эта Казік ставіў крыж, мой муж. Ну паталкаваў-паталкаваў, і кажыць, заберам яго цераз дарогу, да нас. Вот як паставілі і стаіць. Ксёндз прыязджаў, асвяшчаў, людзей прышло, красіва ўсё было, і стаіць гэты крыжок ужо кала дзесяці гадоў.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1311. Сена, асіна і пярун

На маей жызні ў самой было. Было скошанае сена, пашла после дожжу, яно было сухое. Там граблі ляжалі. Пашла я не ў свята, а ў будні дзень. Пашлі з рабятамі сена гэта зграбілі. Сыну з нявесткай нада было на вяселле ехаць. Палажылі стог у будні дзень, і пазвалі суседа адонак масціць, і палажыў пад гэту надонак асіну. А асіну няможна класці – спаліць Пярун стог.

**Зап. Кавалёва І., Лупенько Т. у 2009 г. ад Шуневіч Соф'і Мікалаеўны, 1923 г.н. у в. Маставуха Докшыцкага р-на.**

### 1312. Малітва ад навальніцы

Малітву гэту я й чула, но не запомніла. Каб троху бокам хмара прайшла, яна бокам, і гэта тутака троху дождж пабыў, і перастала. Эта было ня дужа даўна, я палола ці буракі, там жа во ўсё былі. І тут хмара ідзець вялікая, і ўжо дождж ужо на нашым канцы. Беглі ўсе, а Маня адчыніла дзверы, перахрысціла гэтую хмару і каець: “Мы гэтую малітвачку ўмеем, і я, і Мішка”. І памалілася. І праўды, тады пацягнула хмару болей за раку, на лес. Вот гэта я чула малітву і відзела дажэ.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч Наталлі Мікалаеўны, 1930 г.н. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

### 1313. Вываратнік і пярун

Ад Перуна ў нас дзве хаты згарэла. Із-за чаго згарэла? Кажуць, вываратнік пападае ў будынак. Вываранае дзерава ў лесе, вываратнік завуць, вываратніла з карнём, вот яго адпілілі і пусцілі ў будынак.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Сініцы Соф'і Анрэеўны, 1924 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

## 1314. Пярун карае

І на Ілля нельзя работаць, нельзя. Тады пярун дасць. Расказывалі, там недзе за Докшчыцамі, у Докшчыцах у бальніцы ліжала. Дык кажыць: “Ай, сена сушылі гэтак, наклаў ужо на воз, ухапіў ужо на воз і стаў каня запрагаць, – гэта ўжо каб ехаць, і, – кажыць, – хмара нашла, сонца свяціла, нічога не было ніякага, і дало, і запаліла гэта сена”.

Ну і прэдсідацель сельсавета быў, ну ён прыказаў, яны паехалі, сталі ш яны ўжо сцягіваць крыж, сцянулі, усё. Пярун забіў, забіў пярун! Сядзелі вот гэты, што пакамандаваў, і гэты, што сцягаваў, і два нашы мужыкі, яны непрычасны, саўсём яны праваслаўныя былі, непрычасны. Дык яны там сядзелі, усё, дык гэных двух забіла, а нашы асталіся.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Чэчуковіч Раісы Іванаўны, 1936 г.н. у в. Чэчукі Докшыцкага р-на.**

## 1315. Молання

Было, што паліла, было. У нашай дзярэўні, і ў Рачных. У хаце ў аднэй хлеў загарэўся, а я ўстала, хадзіла ж на работу, паглядзець сколькі ж врэмя, а тут молання гляжу. Гэта ж не пярун паліць, а молання. Молання як свіснула, і толькі як свечка і загарэўся гэты хлеў! Я тады скоранька надзелася на двор, людзі сталі збірацца ўсе, і тады нада ўзяць ікону і кругом будынку абысці. І тады я гэтак абхадзіла тры разы, каб ён нідзе нічога не пайшоў пажар далей.

Такое было сколькі разоў. Гулялі мужчыны ў карты і тут молання, а другі як заругаўся на яго. А тады як свіснула малання прама яму ў рот. Ну гэнан жа мужчына заругаўся сільна, вот яму молання і дала. І цяпер у Рачных, но там шаравая молнія, прабіла ей левую сторану, яна лежала доўга але аташла…

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Ліцвін Анастасіі Маркаўны, 1932 г.н. у в. Старына Докшыцкага р-на.**

## СВЕТ ТАКІ, ЯКІ ЁН ЁСЬЦЬ

### 1316. Што няможна цяжарнай

Цяжарнай і падымаць цяжка нельзя і рабіць няможна. І даўней гэта было і цяпер гэта ёсць. Ну, гэта ж было няможна: катоў падкідаць, сабак няможна падкідаць і смяяцца з нікога няможна, і на некрасівага глядзець няможна, і на калек глядзець няможна. Гэта ўсё гаварылі гэтак. Ну, гэта можыць быць калека які і некрасівы які, на некрасівых нельга глядзець. Як выносяць з хаты пакойніка, каторая цяжарная жэншчына – нада выхадзіць первай, калі пакойніка вынасяць – нада выйсці і на вуліцы стаяць. Чаму – не знаю, адвеку такая явь. Каб не паўрадзіла рабёнку. І на пажар нельзя, і на пажар як ляціш, каб не схвацілася за ліцо. У нас тут такая была жанчына. Пажар быў і схвацілася за ліцо – увесь быў у пятна – ліцо ў рабёнка. Спугалася, схвацілася за ліцо – увесь чорнымі пятнамі.

Ну і пазычаць, гэта ж кажуць, як цяжарная жэншчына ходзіць пазычаць і не пазычыш, нада ж пазычаць абязацельна, як не пазычыш – мышэй тады будзе поўна. Тады кідаюць у след абы што некаторыя, я чула гэта. Па парогу, дык гэта я не чула, а што кідаюць у след, рабёнку гэта, малы хватаець абы што тады тое, гэта чула, гаварылі.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Красько Г., Радзюк А. у 2008 г. ад Катушонак Таццяны Іванаўны, 1931 г.н. у в. Крыўкі Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1317. Пол дзіцяці

Шуцілі, гаварылі, калі хочаш, каб дзевачкі – лажы пад падушку спадніцу там ці плацьця. А як мальца, я тады ні знаю. Мусіць… Нічога тады. Мальцы лепі палучаліся. Семена такая. А ў мяне было два первыя хлопцы. А гэдак хацелася дзяўчынкі. Гэдак хацелася. Што тыя хлопцы? Дачка яна больш к мацеры хінецца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

### 1318. Каб дзеці не ўміралі

Дзеці ўміралі,тады сказаў яму(бацьку) нехта занесці рабёначка на бягучую ваду, паставіць на кладачку, дзе вадзіца пераліваецца цераз кладачку і выразаць той слядок, і іменем дзяцей назваць бацькіным і маткіным, тады дзеці будуць аставацца. Так і зрабілі, цяпер астатнія дзецей ўсе жылі.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на).**

### 1319. Малыя дзеткі

Ці дзевачка будзе ці мальчык? Вот этага я нічога ні знаю. Знаю, што тока па ліцу. Ну вот гаварат, еслі чыстае ліцо – значыць мальчык, еслі там

вот пятна ж паяўляюцца, ну, а я двух дзевачак раджала, ў мяне ўсегда чыстае ліцо было, еслі на дзевачку, то ліцо там пятнышкамі пакрываецца, меняецца.

Як бярэменная, не нада дзелаць плахое нікада. Вабшчэ не нада дзелаць плахога ні людзям, ні на земле. Вот гаварат, грэх у празьнік работаць, грэх. Бярэменным нельзя было грошы адалжаць. Каторы ідзець некрасівы – не глядзі на яго. Ці які нялюдскі. Не нада. Хай ідзець. Не трогай яго глазамі, а то тады рабёнак можа такі быць. Толькі ў празьнікі не работай. Адалжаць не нада было. На пажар глядзець нельга, за ліцо хватацца...

Ага, вот калі я Ніну раджала, была бабуля Хлёшчыха. І старушка такая старая і глаўна гаварыла: "Ня бойся, я нічога плахога табе ня зроблю, ня бойся, я роды прымаць умею". І прыняла роды гэта бабулька ў мяне, Ніну. А Колю я ў бальніцу езьдзіла. Ішчо помню, Валодзя (сын) гаворыць: "А куды ты мама паедзіш?" А я гавару: "Паеду ў бальніцу, куплю лялечку маленькую". Бабуля прымала роды і так харашо! Як ў мяне ў бальніцы прымалі, дык і разрывы і ўсё, а бабуля як прынімала роды – ні разрываў, нічога, так добра.

За бабуляй мужык хадзіў. Але яна знала сама. Толькі яна гаварыла, што я роды прыніму, толькі вы Мішу атвядзіце к бабушке, каб ён ня відзіў. А вот тады, калі радзіўся рабёнак, тады Міша прышоў. Прывялі Мішу ўжо ат мамы, а ён кажа: "А які гэта рабёнак?", а яна кажыць: "А я была ля рэчкі, а гэта дзевачка ляжала там, дык я яе ўзяла", а ён гаворыць: "А, цяпер гэта бабуля наносіць гэтых рабят". А яна тады кажыць: "Ну раз ні нада, панясу тады Чумаку", а ён глядзеў, глядзеў тады гаворыць: "Бабуля не нада, яна ка мне ўжо прывыкла, хай будзіць у нас". А толькі яна заплача, Міша: "Не плач, прыйшла на нашу печ, ляжы ціхенька".

І бабуля сама купала і нешта там лажыла ў ваду. Яна, бабуля Хлёшчыха, ўсё сама, панімала гэты законы. Капейкі лажылі, гэта я стала забывацца… З рэчкі бягучую вадзічку бралі. Ну хто адкуль, а мы то з рэчкі, прынясём і пагрэецца, тады пакупаем, толькі нельзя ваду гэту, каб людзі па ёй хадзілі, нада куды-нібуць ліць, каб людзі па ёй не хадзілі – мне так гаварылі.

Каб рабёнка не сурочылі, мне ўсё бабуля гаварыла, калі прыйдзіць хто і глядзіць, ты так прыгавары ціхенька: "А соль табе ў вочы". І падолом, ага, падалом сціралі, каб зглаз не браў. Сурокі ж… У мамы – сястра. Дзеткі ў яе былі маленькія, двое. Дзевачка была. Цёця Праскоўя, яна сама шыла. У яе ўсякіх скуматоў было, і настолькі плаційка красівае пашыла! А сусед паглядзеў і сурочыў: "Ай, якая дзевачка прыгожая!" Не хацеў плахова, а яна праз гадзіну памёрла. Ён плакаў, прасіў прабачэння... Відна, хвіліна такая!

І ў самой ў міне чатыры рабёнкі былі, памагалі і бабуля гэта памагала, іна ўсё-ўсё знала і панімала, іна казала: "Каб я знала, што ты ў бальніцу,

хай бы я сама”. А карміла я настаяшча доўга, Міша ўжо хадзіў, разгаварваў, казаў:”Ікі!”(сіські) (смяецца). Чуць не 2 гады. А некаторые, дык і саўсім нядоўга, саўсім нет малака.

А ў адведкі саседзі прыхадзілі, а бабуля Хлёшчыха прыходзіць і сядзіць у нас. Бабуля кажды дзень прыхадзіла, іна во блізенька жыла і прыхадзіла кажды дзень, і навішчала, і мы яе шчыталі як маму родную. Ну бліны прынасілі, прыхадзілі. Дзеўкі не хадзілі, дзяўчаткі. Замужнія прыходзяць, хто як. Некаторыя праз 3 дні, праз нядзелю, як прыдзецца. Радзіўся рабёнак, нада схадзіць у адведкі. А хрысьціны – гэта ўжо тады намічалі. Хроснымі бралі каго хочаш, не абязацельна родственікаў. Цяжка гадаваць іх і раджаць цяжка.... Бабуля гэта Хлёшчыха, яна ўсе законы знала, яна прыхадзіла і прынасіла кашу. Бабулі дарылі, не тое, што за роды, а так яна прыходзіла к нам кожны дзень, і што ёсць у мяне падгатоўлена, угашчала за тое, што яна была добрая. Мужык ёй платка пакупаў. А тады на хрэсьбіны бабулю цягалі і пелі: *Запражыце кабылку сівую, / Й пакатайце бабульку старую. / Наша бабулька паездачкі любіць, / Яна нам за гэта гарэлачкі купіць. / Запражыце каня варанога, / Й пакатайце кума маладога!*

**Зап. Захарэвіч А. у 2009 г. ад Юшчанка Зінаіды Мітрафанаўны, 1920 г.н. у в. Кутняны Полацкага р-на.**

## 1320. Дзеці

Мы ігралі... Куклы дзелалі самі з трапачак, хто-небудзь выражыць з дзерава, адзяём. Ігралі ў лапту, пікера, мячык быў... А зімой – санкі, хоць нас узрослыя і ганялі. Мы сабіраліся, хоць і абуць не было. На падсанках з горак. Падсанкі – дзе каня запрагалі. За санямі былі падсанкі. Гэта калі строяцца, нада браўно везці. На санёх гэтых 2 – 1,5 метры, а нада 4 метры, тады ззаду прычэпліваліся падсанкі, і хвост балкі на іх браўся. Адчэплівалі падсанкі, а нагуляемся, заморымся, там і кідаем. А утрам палучым...Але нічога: узрослыя панімалі, што нам нада ў што-та занімацца. Мы так не сядзелі без работы: летам паслі кароў... Ні адной мінуты не было ў нас свабоднай, штоб мы аддыхалі, паляжалі. Ігрушак жа не было. З трапак рабілі. А калі іх там было дзелаць! Бегалі на работу. Я сваім, бывала, і аброць прынясу, і бойку. Накідаю, накідаю, пакуль ён разгледзець, я работу зроблю. З аіра дзелалі лялькі, косы заплялалі. Рабяты як лучшых не відзелі, так і гэты былі ігрушкі. Усё сваё было, грошай не было.

Малая да вайны была, не ўнікала, тады ўсё скрыта было: як раджалі, гадаваліся... Гадаваліся ж проста. Дысцыпліна была строгаю ў бацёк, нігдзе мы не хадзілі, бацькі робілі, а мы дома па хазяйству, што загадаюць, тое і дзелалі. Гэта цяпер саўсім па-другому.

Бярэменнай, гавораць, што на пажар нельга глядзець, у дзіцёнка будзіць ліцо пятнамі, калі ўжо хватаесся за ліцо. На пахараны нельга хадзіць, будзіць жоўты рабёнак, як на пакойніка глянеш. А я бярэменнай хадзіла проста. Радзіла, назаўтра на работу пайшла. Ніхто сябе так не бярог, як цяпер. Не было ж ні дзікрэтных, ніхто не плаціў.

Бярэменнай выкручваць бяллё нельзя было наводмаш, наатварот – абаўецца пупавіна каля горлышка. Ад сябе круціць трэба. Попел сыпалі, залу... Дзеравянныя карыты былі. І тады па вуглах попел сыпалі, і як пакупаеш рабёнка – туды змываеш, калі ў рабёнка чэшыцца. Так нам старыя казалі, мы слухалі. Як гэтай вадой памыеш, попел на трапачку зліеш, і на попеле даўжны быць валаскі. Гэта калі рабёнак качаецца, усе плечыкамі чэшыцца. Поўстачка маленькая. Калі сурочылі, другі раз і я рабіла: калі рабёнка сурочылі, рубашачку не здзяю, а з рукаўкаў выцягну ручкі, а яе (рубашачку) перакручу задам напярод на ім. Да, здзену, на шыйке перавярну назад перадам. Тады ён паходзіць. Калі ўпуд, курылі. Такі ўпуднік расцець, беленькім цвяціць. Пакурыш і закіпяціш. Папіць дасі травы. І сабак стрыглі. А грыжа, дык к бабкам насілі. Банку ставілі, загаварывалі старыя. Калі доўга плачыць – нада абрашчацца. Як коклюш быў – к раке насілі, калі раса, туман. Лячэння не было тады. Ён дыхаў, дыхаў гэтай сырасцю – коклюш і прыкрашчаўся.

Малаком кармілі па году, а некаторыя і па два. Малако ж было. Каб не бярэменець. Лакотчыха, я знаю, карміла, ужо гаварыў рабёнак: “Мама, дай сіські!” Яна сагнецца, сіські дасць. Я заінцерысавалася, а яна гаворыць, што затое спіць з мужыком. Але можа не ва ўсіх так палучаецца...

У атветкі абязацельна хадзілі. Нясуць пялёнкі рабёнку, бліны абязацельна. Уперад толькі жанчыны хадзілі, пасля, можа, пабагацелі, і мужчыны сталі хадзіць. А з хрэсьбін давалі кашы і дамоў, матка прыносіла бабчынай кашы з круп. Усё ж сваё было.

Было і лупілі, канешне. У вугал на гарох. Рэмнем у хрэбет стукнеш – і ўсё васпітанне. Што сам еў, тое і рабёнку. Кармілі: пасадзіш на калені, сабе капусціну, яму: “Еш!” Сваім я сасулькі такія рабіла: у палатняную трапачку сахару чуць-чуць і хлеба размачыць, упіхнуць у рот – тады ён не плачыць. Малыя хадзілі, і чулкоў не было, і штаноў. У мяне Галя ползала, аж да крыві лытачку сцёрла, як вучылася поўзаць. Штаноў жа не было, і яна гэтымі босымі нагамі хадзіла і зімой, і летам. Тады ўжо сядушку здзелалі, як стула і тут яшчэ палачка напярод.

**Зап. студ. ПДУ Захарэвіч А. і Жолудзева П. у 2008 г. ад Мядзель Марыі Васілеўны, 1927 г.н. (нар. у в. Аляксееўцы) і Казловай Ніны Іванаўны,1941 г.н. (нар. у в. Страшныя (Новы Строй) у в. Дзёрнавічы Верхнядзвінскага р-на.**

## 1321. Дзеткі, падлеткі, моладзь

Гаварылі, прымерна, калі я бярэменая, а там які калека ходзіць ці які, каб я не ўгледалася ў яго. Можыць такі рабёнак быць. На пажар нельзя (глядзець). Як я была бярэменая, там, дзе была на кварціры, газавы балон... І я за жопу сябе схваціла, і ў дачкі пятно. Дык гэта за жопу, а каторы за ліцо...

А малых чым кармілі… Капуста, суп... Сала крошачку дадзім у рот, пасасець, толькі дзяржы, каб не ўцягнула. Хлеба чорнага нажмуць з сахарам, прывяжуць, каб не ўцягнула, не затохлася. І калыскі ў нас былі не такія, як сейчас. Люлька дзеравянная, такая палка... Калышам: "Спі, ё... тваю маць, мне некалі!" Каб дзіцёнка не зглазілі, булавачку ўшпіліваеш у рубашачку, а зглазяць – дык во, подалам выціраеш ці пялёнкай, што ён мочыцца.

У атветкі хадзілі. Усе хадзілі. І мужыкі хадзілі з намі. Бліноў напякуць, яешню ў міске, і ідуць у атветкі. А цяпер ужо паняція не знаюць... А кармілі доўга. Пакуль корміш – не бярэменееш. А некаторыя не кормяць вот, 6 нядзель прайшло, як гаварат "яма аткрытая", і забярэменее втарым. Зато дзеці былі адзін за адным. Раньшэ ж аборты дзелаць, паспрабуй ты знайсці каго. А счас усякія прычуды ёсць: і прызерватывы, і ўсякая халера… А як корміш, і хто-небудзь зайдзёт, на нож, дзетка, трэба сесьці. Каб не зглазілі, каб малако не прапала.

Тады, як 1-ы зуб, дык мёдам дзёсны мазалі, каб яны не так балезнена былі. І да года не стрыгуць, і ногці да года не абрэзаюць – толькі абкусваюць. Воласы за іконачку лажылі. Іконачкі ж у кожнага ў доме... Завярнуць, і за іконачку. Берагуць. Тады гушчы волас будзе. Ці гэта басня? Малва?

Калі рабёнак не спіць, носяць к курам. Куры ж рана спаць лажацца, і рабёнку, штоб ён спаў, харашо. "Куры-куры, дайце сон майму.... (па імені)". К бабкам ходзяць, яны там шэпчуць ціхонечка, не разбярэш.

Якія даўней ігрушкі? З трапак куклу якую здзелаеш. Ці былі гэта паўзуны... Мае вараслі і не зналі, што гэта на жопу штаны нада. Плацце пашыеш са старое адзежыны, наскі звяжыш. Я чуні вязала. Тапкі звяжаш такія мяканькія. Пялёнкі? Якую-небудзь дзяругу парвеш, укруціў і ладна. Новае ўжо, калі куды-небудзь едзеш, у раддоме раджаеш. Я ні аднаго ў раддоме не ражала. Я раджу, тады бабку прывядуць перабабіць. Яна пуп атрэжыць, памыіць, у што-небудзь укруціць. І ўсё.

Ка мне не прыходзіла, я сама. У пялёначку ўкручу, у летненькай вадзічке памою. Ці я Марыю радзіла, ці Любку. Мужык пайшоў за мамай маёй. Мама кажа: "Я не пайду, ідзі за сястрой, за старшай". Ён пакуль хадзіў, я радзіла, атняла, у нагах паклала. Мама прыйшла, цётка, селі, сідзяць. Яна не крычыць, яны сідзяць. Я пліту затапіла, тады гавару: "Дзве бабы і ні адна не бабіць!" – "Каго?" – "Да ўжо Бог ведае калі!" Цётка перабабіла, памыла, большэ не прыходзіла. Пойдзеш у сельсавет, запішыш. Ужо я як раджала, давалі па 10 метраў досу, белага тавара. Вот на шырмы цяпер вешаюць, беленькі такі. Райсабес даваў і грошай некалькі. Не помню колькі.

І мяне мама вучыла, я ж малая… Прыйшлі на на Пасху ці Ражаство з музыкай ў хату і пяюць, і танцуюць. А мамы не было дома. Яны пайшлі, мама прыехала, я гавару : “Прыхадзіў Аўтух, Аўдулька, Марыя... Пелі...” – “А што ты ім дала?” – “Нічога.” – “Ай, дачушка, нада абязацельна даваць!” Мама ўзяла бутылку, яіц і пайшла к ім…

Тады ж лён мялі, трапалі, пралі, красілі. Бывала, сядзеш, прадзеш да 12 часоў. Гадоў мне 14 было. Лён абдзіралі. Такая даска, зуб’я-гвоздзі. Гэта кужаль, а гэта вярхоўе. Рубашкі з вярхоўя, і нічога не часалася. Калючае, дзяручае. Спалі на матрасе. Саломай паткаеш... Пасцілкі ткалі, і пасцілкай накрываліся. Раньшэ ткалі і адзеяла, воўну красілі. Краску куплялі. Мы карой не пробавалі. Снувалі бумагу, ніткі такія куплялі, а патыкалі кужаль крашаны. Залы ў бочку, цэбары зваліся, вады, памочыш. На пожню выцяггвалі, расцілалі, каб белай была... Ад вады ж не будуць, а так шчолак. Шчолакам мылі адзежу! Галовы мылі. Усыпіш, атстоецца... Мыла ж не было! Калі купіш, дзіцёнка нада памыць, яшчэ што. Пялёнкі мылі шчолакам... Але ж харашо было! На вечарынку хадзілі басяком! Пашыеш тапачкі, а тады падошву са старога якога вырэжыш, і гэтых тапачках на вечарынцы пляшыш. Польку, кадрыль... Цяпер гэта не гуляюць. Суботка, сербіянка... Польку згуляеш, дык выйдзеш, што з бані!

Было кажную суботу і васкрасенье – танцы. Вот сёння мы прымерна ў Княжыца, а заўтра ў другой дзярэўні – Хоцінічы. Мы туды ідзём гуляць. Адно васкрасенье ці суботу дзеўкі спраўляюць, а другое – мальцы. А плаціць музуканту! Ён жа дарма іграць не будзе! Сабіралі яйкі, кралі ў матак. Снімаю, схаваю к субоце. І ты, і я, і другая. Сабярэм 10 – 15 яіц. А мальцы ці бутэльку самагонкі ці грашыма. Хадзілі ў чужую дзярэўню. Вы прыйшлі к нам, а тады ў следуюшчую суботу – мы к вам. А жылі на хутарах, не ў пасёлку. Як зімой, снягі былі! Штаны ж на насілі, гэта цяпер ходзяць... А мы ў рубашке, юбке. Зімой ідзеш, лытку патрэш і пайшоў далей. Большэ хадзілі ў лапцях. Летам жа басяком. Гэта ўжо бальшэй празнік – матка купіць туфлікі. Дык ты ідзеш на вечарынку, туфлі ў руках нясеш, ідзеш назад з мальцам – туфлі ў руках.

Гавораць, нам было лучшэ! У ср...ку было! Мне б тая адзежа, што сейчас у мяне, ды дзеўке! На работу ідзеш у плацці, прыйдзеш з работы, памыеш, уцюгом... Цяпер жа электрычны, а, бывала, ці жару пасыпіш, ці на жар паставіш, пагрэеш... Паўцюжыш. У чым на рабоце быў, у тым на танцы ідзеш. Сёння ў адной хаце сабярэмся, у другой. Пол памыеш пасля танцаў, каб другі раз пусцілі. Весела, сабярэцца многа... Цяпер маладзёж якая? Тады і жанатыя хадзілі. Бывала, бабы, мужыкі засядуць, бабы абсуж-

даюць, гавораць: “Не выбірай дзеўку на йгрышчы, а выбірай на ржышчы!” Вось тая гультай, а тая не так надзета...

**Зап. Захарэвіч А. у 2008 г. ад Балуцінай Еўфрасінні Афанасеўны, 1921 г.н. (нар. у в. Горбава Лёзнінскага раёна) з 1971 г. у в. Княжыца Віцебскага р-на.**

### 1322. Дзеткі і “бярозавая кашка”

Дзьве дачкі і сын у мяне. Ой, усякага было! Яны самі нічога врэднага ня робілі, у мене дубец во там во тарчаў. І сваіх вырасціла і ўнукаў чатырох выгадавала, там дубец тарчаў, “бярозавая кашка”. Схаваюць, схаваюць, а як падраслі, дык дастануць, паламаюць, схаваюць, каб мама ня біла. А я іду з работы, ізнова прынясу, уторкну. Я іх ня біла крэпка, а папужаю. Пастрашыш толькі.

Адзін раз, то была крэпка ўдарыўшы, я і сягоння жалею. За чужое... Баба звіла. Іду з работы, яны ж дома былі, меншыя гэты, я знаю, што яны нікуды ніколі не хадзілі, яны былі добрыя ў мяне рэбяты, дзякуй Божаньку. Тады, прыходзіць баба, а я гэта без вніманія, забыла што яна сплятліўка, а ейныя былі врэдныя рэбяты. Толька я да хаты, ай ну, ляціць яна, гэта такая Тамара, кажаць: “І твае рабяты былі ў старажоўцы вокны пабілі. І твае там рабяты былі. Прыедзець участковы разбірацца”. Я ж ўжо ім тутака добра дубцом дала, не дубцом як дубцом, на каленкі пастаўлю, пастаяць. Прыходзіць саседка: “Што ты робіш? Не наказывай, яны там не былі”. І гляжу, адна і другая бягуць, кажаць: “Ну мы знаем, што ты будзеш ругацца на іх, што…”

Ну, я не хацела, каб яны нідзе ні хадзілі. У мяне во, відзеце самі, во панасажывала і ўсякіх фруктаў, усякай, каб нідзе не хадзілі рэбяты па чужых гародах. І не люблю, з дома не хадзіла і сама, і рэбяты не хадзілі. І на ўнукоў сваруся, каб не хадзілі нідзе. Выраслі ўжо байбасы бальшыя, ай, толькі да водкі вот прывыклі і ўсё піць. Не памагаець маё… Ну, пасварылася, але ж разабраліся, што ж яны там ні былі, не вінаватыя. Так вот за іх, і не адна я, яшчэ там бабка тожа таксама кажаць. Вот за аднэй сколька мы пастрадалі, мае рэбяты пастрадалі, і гэна баба была таксама строгая. Ай, не хацелі, каб бадзяліся і врэд рабіць, а ў гэнай былі врэдныя, яны і цяпер, яны і выраслі врэдныя.

Некаму памагчы было, адна, і на работу нада, і сваё, і на работу, і ўсё на свеце, ну дзе ж ты? Каб эта бабуля якая яшчэ была блізка, ці што-небудзь, а то не было нікога. Хаджу па вёсцы, прашу, каб паглядзелі, прыглядалі іх і ўсё, каб дзе-небудзь не бадзяліся. Ну але дзякуй Божаньку, што яны нідзе не лазілі. Ніхто ні разу не сказаў. Тут во старушка адна жыла, дык, помню, у яе яблынька была, такая салодкая. Прыносіць карзінку яблыкаў, а яна бедная такая была, мы ей самі памагалі. А яна прыносіць яблыкаў. “Нашто ж ты, – кажу, Манечка, нясеш? Ай-я-я! Ты сама з’ясі. У цябе ж німа”. “Я прынесла табе за гэта, што твае рэбяты добрыя ні разу ў

мяне не былі ў гародзе, ні разу нада мной не пасмеялісь". Прынесла канфет раз пачачку такую, настаяшчую. "Гэта за гэта, што яны мяне ніколі не наругалісі". А я што, што-небудзь знала, што ў яе чаго не хватала, дам і яны і нясуць. Тады давольныя, а я ім: "А што ж яна вам сказала?" – "Баба Манька сказала "дзякуй".

Яны з васьмі класаў, яны сразу пашлі вучыцца і ў свет пайшлі і ўсё. А ў іх дужа мальцаў не было ні ў кога. А тады, як сталі работаць, там і панахадзілі, там на месце і павыхадзілі, дзе работалі, там і павыхадзілі, і ўсё. Яны дужа і… некалі ім было лётаць. Вучылісі, на канікулы прыедуць – на Мох, ягады збіралі, прадавалі, нада ж была сабе грошы напакаваць на зіму. Я ўжо якія капейкі магла… Ну, настаяшчэ, ну, хватала ім. На год ужо я іх… капейкі яны самі сабой дзелюць, а эта сам сабе збіраюць і дзелюцца.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Міёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

### 1323. Мальчык і пальчык

Што ў жыці сядзіць, ці ў вадзе. Дзяцей пужалі. Валасатая і касматая. Адключы свой магнітафон, я табе раскажу. Мальчык у адной во такі быў. І ўсё пальчык ссаў. Яго і ругалі, і страшылі: не сасі пальчык, а то пуза будзець бальшоя. І атучылі яго. І вот ідзець жэншчэна бярэменная па вуліцы. А ён: эта цёця, мусіць, пальчык ссала.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Галая Міхаіла Фёдаравіча, 1928 г.н. у в. Залессе Лепельскага р-на.**

### 1324. Глаўным быў у хаце дзед

Глаўным быў у хаце дзед, тот што скажыт, то і дзелай. І еслі сідзяць за сталом, а сталы бальшыя, усе кругом ета, сядзяць. Ложкі былі дзеравянныя, во, дык эта самая, кагда які-небудзь там за сталом балываецца, дык ён дзісцыпліну наводзіць – па лбу ложкай трэсь, і ўсё. Ціха сядзець нада, спакойна. Дзед камандваў, дзеду ўсе падчыняліся. Па левую руку садзяцца дзевачкі, а па правую – ужо хлопчыкі, а на куці – ета самый глаўный – дзед на куці. Тады ўжо тут старшыя сыны, там зяці...

Правініцца хто-нібудзь, то палучаў… Дубцом гэтым жосткім – груба, гэта можна скалечыць чалавека. Даўней неяк называлі гэтыя палаценцы, рушнікі. Ага, рушніком давалі. Ну, яшчэ жабракі хадзілі часта, у нас хадзіў мужык без нагі, інвалід. Ага, дык ета, дзяцей малых усё страшылі: "Ціха, а то Дзякуй ідзець, забярэць цябе ў торбу". Ну, яму даюць, а ён усё дзякаваець: "Дзякуй, дзякуй". Вось і звалі яго Дзякуй, і тады малых страшылі, што Дзякуй забярэць у торбу. А яны ж, малыя, усё глядзяць, што яму ў торбу кладуць...

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Ставера Віктара Андрэевіча, 1929 г.н. у в. Маргавіца Докшыцкага р-на.**

### 1325. Дружылі па-чэснаму, выхадзілі па закону

Хацела расхадзіцца, таму што паглядзела, што нічога не палучыца. Но ў яго пагіблі радзіцелі, некуды яму было прыхінуцца, і я рашыла, што буду ім камандаваць, ён мяне будзе слухацца. Як сталі жыць, то ўсяго было.

Ну, а як гэты падрос. Гэты радзіўся ў 48-м – первы, втары – з 51-га года. Цераз тры гады. Гэты трошкі падрос, а цераз два гады дачка радзілася. Апяць думала: “Хваціт жа мне”. Але нікак не палучалася. І не любя, як так магло случацца, я дажа не магу нікому яб’ясніць. Як цяпер паглядзіш – маладыя улюбляюцца, а тады і “раз-раз”. І тады ўжо добра дачка, хай гадуецца. І тады ягоны швагра навучыў майго, што нідзе яна не дзенецца, калі будзіць многа рабят. А ў ягонага брата было многа. Ён з такіх карней, што рабят было многа. Ну вот, відзіма, і пайшло ад яго, многа радзіла.

А дзеткі падрасталі. А яны ўсяго слухаліся. У школу хадзілі. Прыйдуць са школы, яны памагаюць. Усягда што-та дзелаюць. Гэта ўжо субота. Старшыя ўбіраюць ужо дзяўчаты. А вот у першы клас пайшла старшая, дык я: “Валкі хадзілі, жылі у лесу, у іх там было логава”, – я яе ўжо вучу чытаць так. Гавару, гавару, а ты паўтарай. Я гавару і яна гаварыць. Як я перастаю, так і ўсё. Первы год, першы раз у першы клас, я з імі 8 гадоу хадзіла, вучылася разам з імі. Яны хадзілі, а я дома вучылася.

А тады ужо сталі падрастаць, сталі канчаць 8 класаў. Іх застаўлялі работаць ў калхозе, месяц хадзіць, гэта як закон быў. Ну вот яны ў калхозе, хто дома, хто на пасьце. Хто што. Адной жа ніяк не можна. Хто за канём пойдзець, хто карову выганіць, хто прыгоніць, хто на пасьце авец пасьціць. Усім была работа. Не хадзілі па начах, не бадзяліся. Адзіннацаць часоў – дзе дзеўкі? Яны ўжо канчалі 8 класаў, другая – 10 класаў, і пайшлі. Прыхаджу: сядзяць, аганёк гарыць, салдаты з імі сядзяць. Ветку адламваю і дамой. Яны кажуць: “Што ж ты, мама, мы ж нарочна гэта дзелалі, бо старшыя дзеўкі, нашы падругі, сказалі, што нас ніхто не любіць. Вот мы ім хацелі даказаць, што ў нас кавалеры ёсьць”. Во як маладзёж у дзярэўні задавалася. Не так, як цяпер. Былі ж і такія, ну, як гавараць цяпер, маць-адзіночка. Гэта кепска. Не зра я хадзіла па начах і дзевак глядзела. У мяне такога не случалася. Усе да замужаства дружылі па-чэснаму, выхадзілі па закону. І любя выхадзілі. Старшая ужо ў 9 класе пазнакомілася.

Ну, вось гэты сын, што з 54-га года, сразу такі быў. Характер у яго такі упрамы. Вось я яго пасылала – нада было памагчы. Мне загадвалі ехаць. Там сена вазіць. А я яго прасіла. А ён ужо большы быў. А ён і не ў какую. Я ўзяла, ды гэтай хварасцінай як лупанула, а ён пабег ў лес і усё.

А вот ужо з арміі быў прышоўшы. Ужо выпіўшы, малако вазіў у калхоз. Прыехаў і паставіў малакавоз каля хаты, а сам гаворыць: “Не магу пасля п’янкі”. І ляжыць сабе. А малако-та – сонца, лета. Стаіць бочка мала-

кавозная. Я ўзяла рымень салдацкі. Ну, так слухаўся. А бацька ваабшчэ не ўчаствуаў у ва ўсякіх дзелах. Гэта ўсё маё рукаводства, што я научыла.

**Зап. Лобач У. у 2002 г. ад Мачульскай Галіны Міхайлаўны, 1932 г.н. у в. Фёдарава Полацкага р-на.**

### 1326. Як пачалося ў мяне…

Ці знаіш ты, дзетка, вот я пасьледняя ў сям'і, з дзяцей, вот як пачалося ў мяне, эта, знаіця, менструацыя эта, а я не знала што эта. Тут вайна, такі пералом. Як дуркуватыя былі людзі. "Ай, – кажу, – мама, доктара скарэй. Я кроўую сьцікаю". А яна кажаць: "Маўчы, гэта гэтак нада, ва ўсіх гэтак ёсьціка". Тады ўзіла маю тую сукеначку. У мяне было ня дужа рана, у чатырнаццаць гадоў, магла б знаць, тады ня гэткія былі разумныя, як цяпер. Мама кажаць: "Давай занясём на хату, падторкнем пад страху, эта будзець каровам". Карова як захварэіць, крываўкі былі даўна, пісаіць кроўую і дажа ў малако пападаіць. І вот эта сукеначка вісела. І брала мама сколькі разоў людзём. Первы раз і пасьледні. Вот я прымерна, первая, а як ты пасьледняя. Даўна ж раджалі многа. 16 дзяцей у адной было. І, як месячныя, у царкву не хадзілі. Закатаваць не, а то будзець нісмашная. Бабы бралі маю сукенку, памыюць у вадзе і давалі каровам.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны, 1935 г.н. у в. Маргавіцы Докшыцкага р-на.**

### 1327. Моладзь

Вот, мае рабяткі, праз Купальле ў мае врэмя нічога не адбывалася. Ездзілі ў касцел, маліліся Богу. Ездзілі аж у Мосыр, гэта далека, а дамой прыедзем – работаем што нада. Мы не святкавалі, тока гэная парафія святкавала, дзе ў Мосары, там дзе касцел, вот яны святкавалі. А нам было пазволена робіць, прыехаўшы з касцелу, рабілі, ну, а цяпер я не знаю. Тут і кастры каля клубу сжыгаюць, і пяюць там, і скачуць. Цяпер весялей маладзеж.

А даўней былі ж танцы. Вот у каго дом пазваляець, тамка дом бальшы, свабодны, туды папросяцца маладзеж. Музыканта наймалі маладзеж. Вот адзін адну вечарыну наймець, тады другі другую наймець. Тады нейкія грошы яму ж там трохі плацілі, музыканту, ну і тады гуляюць. Гуляньне было вяселае: песьні, пляскі і ўсякія танцы дужа добра гулялся, вот. Ну, разрашэньне пастаянна прасілі ў бацькоў, ці можна, ці можна. Неяк бываець, што капрызяцца не пускаюць, дык і ў руку пацалуеш: "Мамачка пусьці, доўга ня будзем". Нам жа тожа хочацца схадзіць і пабыць, і там жа музыка, і маладзеж, і многа сабіралася маладзежы. Ну, можа там і сорак якіх чалавек бывала. Многа было, можа там і болей дажа. І сваі і прыязджалі. Як бываець дзяўчыну, якую любяць хлопцы, дык і здалёку прыедуць у гэту дзярэўню, каб устрэціцца, каб з ей пагаварыць, патанцаваць.

Ну, па родственнаму прыязджаюць, там родственьнікі падсаветуюць, што вот дзяўчына добрая там. Ну, пазнакомяць яе і з гэтым хлопцам, і ен прыязджаець, а тады і пажэняцца, ну.

Цярэшку жанілі, гэта спраўлялі такую бяседу. Стол там ужо настрояць, дзяўчаты закускі нанясуць, а мальцы водкі і такая супольнае гуляньне. Выберуць тады сабе якую пару, так называлася "матка" і "бацька", жэняць ужо яны. Яны ўжо знаюць, якая ўжо дзяўчына любіць мальца, які малец любіць дзяўчыну. Тады падбіралі пары такія, каб троху па дружбе, ну, тады выведуць ужо гэту пару, ну і тады па хаце, пад руку беруцца, перакруцяцца ў адну старану, у другую… Так нескалькі раз перакруцяцца, а тады нада ж ужо, каб пацалаваліся, але дзяўчаты не былі сагласны да гэтага, хахочуць, але ўжо уцякаюць, каб не цалавалі. Цяпер смялейшая маладзеж і пацалуюцца. А тады – не, было запрашчано бацькамі, не нада цалавацца, не нада. Пака не пажэніціся, цалавацца не можна. Ну, а тады ўжо, як пажэнюць усіх, тады за стол і гуляюць.

Яшчэ варажылі даўней. Гэта самае, ваду ставілі, вот у якую пасудзінку наліеш вады, паложыш такую кладачку на гэту ваду, паставіш пад ложак, ну і нада там гаварыць так: "Свенты Анджэю, калапенькі сею, дай Божа знаць с кім век векаваць". Гэта гэдак прыгаварвалі, ну і прысніца… І мне самой прысніўся, і я ж зь ім не дружыла. Быў хлопец у мяне, і з гэтым 5 гадоў аддружыла і ўсе, ажно яўляецца гэтат жаніх у сваты. Як ён прыехаў у сваты, бацькам панравіўся, і быў у мяне вотчым, не родны бацька, але ён сказаў: "Нада ісці табе, дзяўчына, хлопец добры". І ўсе, ён быў такі здаровы, рабочы. І пашла, вот. А тады доўга не магла забыцца на таго, перажывала.

Было. Як бацькі аддадуць, скажуць, дык і тады выхадзілі, не па любві, так. Ну, сначала доўга не магла прывыкнуць, а тады прывыкла і была давольна. Ну, а мне… Ён работаў у Эстоніі на шахтах, гэтат, каторы, ну прыехаў у яго тут было багацця навезшы ўсякага, грошы многа, усе. А ў тое врэмя жылося бедна, як сказалі, што нада ісці усе, і пайшла. І вот аджыла 55 гадоў з ім, і не расхадзіліся нічога. А як цяпер, чуць троху і расходзяцца, ой, ой.

Ну, я са сваім хлопцам 5 гадоў дружыла. Ад 14 гадоў, молады яшчэ былі, ён і я. Панравіліся з ім адзін аднаму і дружылі, але такая была дружба, што так накдыруць бацькі, што б нікакіх пацалуеў не было. Хочаць пасядзець, няхай пасядзіць, а ў бальшое заходзіць не нада. Тады як ужо цалуюцца, не нада цалавацца. Ну, і праўда аддружыла 5 гадоў і нікакіх ні пацалуеў, нічога между намі не было, там, калі ўсе дык гэта, за руку возьмець, там трохі падзяржыць руку. Гэтак усе адседзім пагаворым-пагаворым, а было і такіх дзяўчат, што і гэта между імі было. Да, што і гулялі. Не

сматра на гэна врэмя, што было, і бацькоў ня слухалі, нічога. Як вось такіх называлі? Ніяк не звалі. Ну, курва, скажуць. Гэна блядзіна, скажуць. Такіх дзевак замуж дужа не бралі, было многа з рабятамі. Не сказаць, што многа, але зрэдка было, што і рабенка гадуець, вот. Даўней дужа цанілі дзевак, каторыя, ну сцісніцельныя, ну гэткіх там болі бралі.

Даўней жа нада было ў касцел хадзіць, ці ў цэркву. Мы дык каталікі, мы ў касцел хадзілі, а хто і ў цэркву – праваслаўныя, усе адно. Есьлі дзеўка блудзіш ты, нада ўсе расказаць на споведзі, гэтаму бацюшку ці ксяндзу, што ты такая-такая, і ў цябе там рабенак гадуецца, ну без бацькоў. Усяго ж гэтага баяліся, дужа ж не рашаліся, але было зрэдка. Дык ім самім ніякага ўважэнія не было не ад гэтых хлопцаў. Ужо калі яна на танцы прыйдзець, на яе ніхто не глядзіць. А цяпер жа во, беруць і з рабятамі, усякіх, усякіх беруць і ўсё.

**Зап. Васільева І. у 2008 г. ад Лагун Глафіры Вячаславаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1328. Часы і норавы

Не, гэта як табе сказаць, піць не пілі людзі так, як цяпер. Бацька мой на Каляды, незнаю як у вас, у нас чатыры дні празнуюць, дык вот жа, што бацькі баяліся ж тады, не гналі, паліцыя нахадзіла, дык купіць к святу, не паверыце палавіну бутылкі – цыбічак. Каб прыйшоў на танцы п’яны такі малады, такога ж не было – гэта ж чуда! Каб нябрыты прыйшоў ды непастрыжаны – гэта ж не чалавек, ужо не пахож на чалавека. Ці калі дзевушка, каб не прычосыная ці як ходзяць во так, у бруках? Гэта знаеце, у наш век, каб гэткага ўвідзіў чалавека, уцякаў бы, сказаў бы, што нячыстая сіла. Ну ў нас гэдак было ня прынята. Акуратная адзежа, у дзяўчат юбачкі, плацціцы. Цяпер я паляжу па целевізару паказываюць, валасы як вочы закрываюць. Гэта ж не гадзіцца, усё вліяіць дажа на зрэніе. Праўда я кажу?

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч М. І. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 1329. Страшная варажба

Ну, мне вот было, дзеўчонка я была, і к нам прыехала на трудзавод, у Гомельскай абласці, жэньшчына, а ў яе кніжка такая тоўстая. І вот яна нам па этай кніжке гадала. Точна сказала. Так яна гадала, мне яна сказала: “Ты выйдзеш за ваеннага. У цябе будзе муж – ваенны, но долга ты не нажывёш з ім. Будзет рэбёнак. А мужа уб’юць”. Вот ана мне эта аб’ясьніла, но мне не верылася. Шчэ ж я ж замужэм…

І вобшчэм так вышла, што я вышла за него, он яшчэ ня быў ваеннны. А тада забралі ў армію яго, і он стал ваенны, сверхсрочнік. Ну а там… служыў, я та дома была, мама бальная была, так я дома была. Рэбёнак у

меня ат его был. І вот он два месяцы не даслужыў і пагіб. І пагіб, мне пазванілі, прыехаў этат ваенком і мяне забраў. І я с рэбёнкам, шэсць годзікаў яму было… Пры мне он умер. Его сільна ранілі, і аперацыю дзелалі – не спасьлі. Ну й, перад этым он рэбёнка этага стаў абнімаць, ён всё за мяне дзержаўся ўжо… атца не знае, толька фатакартачкі я ўсё: “Сынок, эта ж папа”. А ён: “Мама, эта папа?” Я гавару: “Да, эта папа”. Вот. І прыехалі мы туда, он дзержыцца за меня, он не атпускаў мяне. Я гавару: “Сынок, ідзі, эта папа”. – “Мама, эта папа?” І мене цянець, і я к яму. Я к яму падашла с этым рэбёнкам. Ён яго абняў, усё. Ён мне тока сказаў: “Дарагая жана, берагі сына. Маладая, ты найдзёш себе, но сыну ты атца не найдзёш”. І руку ўзяў маю, і эта сказаў і памёр. Ну, я, када памёр ён, мне сказалі, што хараніць. Я гавару: “Хараніць я яго здзесь ня буду, у кар’ерах. Паеду дамоў”. Так яны мяне пагрузілі ў самалёт. Прывезла яго дамоў, на сваю родзіну, і яго дома пахараніла.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Рылькевіч Таісіі Сідараўны (нар. в. Крупейкі Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.), 1925 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

**1330.** Ай, ня веру я гэтаму нічога. Ну, як маладыя ж былі, бегалі, бегалі дзяўчаткі, сабіраліся, на зеркала варажылі. А патом напугалі нас, сказалі нельзя. Варажылі, ну ставіш два зеркала, адно ззадзі, другое спpeрадзі, вот, каб атражалася адно ў адно. Ну і вот глядзі, што была. Устануць глаза твае. Свечы ставілі перад гэтым. Дзве свечы ставяць к зеркалу…

Ай, дзяўчаты, не нада гэта вам, не варажыце вы. І радзі бога, не нада, патаму што я ж гавару, патом нас напугалі, сказалі, што ўродзе бы такое было. Дзевушка варажыла, і вот увідзела ваеннага, ну раньшэ ж кавалярысты этыя былі, з саблямі ездзілі. Ну вот, гэта самае, яна, гаворыць, увідзела яго, ліцо гэта, ну і патом, када яна яго ўстрэціла, жаніліcь яны.

І яна аднажды яму расказваіць: “Ты знаеш што, а я цябе відзела ў зеркала”. – “А як ты відзіла?” Ну яна яму гаворыць, што я варажыла на цябе і відзіла ў зеркала. А вот што… Як жа гэта было? Эта яна глядзела, і ён з сабляй быў. І вот у эта ўрэмя яна ўсё ўглядалася ў эта ліцо, каб запомніць яго від і ліцо. І ў эта, гаворыць, ўрэмя… ну ладна, ей страшна стала, нада ж закрываць скоранька, яна хлопнула і, гаворыць, перад ей гэта сабля аказалась, на стале ляжала, ужо ўпала. Яна спратала эту саблю, ну і канешна напугалася, спратала ў сундук саблю.

Када яна ўжо яму стала расказваць пра гэта, а ён гаворыць: “Ага, да, дзействіцельна, была са мной такое. Ішоў, – гаворыць, – вецер падняўся і выхваціў у меня эту саблю. За гэта, – гаворыць, – меня наказалі. Папала ж мне так сільна”. І ён жа даказваў, но эта ж тожэ, ня веруць – ну як эта: із ножэн выскачыць сабля? А яна гаворыць: “Праўда! У мяне ёсць”. Дастала з этага сундука саблю, яму паказала, ён паглядзеў эту саблю і ўзяў яе і засек.

Ці праўда, ці... Яны ўжо жанатыя былі, яна яму расказала пра гэты случай, што я цябе відзіла ў зеркала, ён падумаў, што яна ведзьма і засек яе. Во што, случай.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

### 1331. Варажба на мужа

У мяне сістра вышла замуж і дзевачка радзілася, а яго на вайну забралі і слуху німа. А яна красівая і малец у яе быў. І яна ні знаіць, што ей дзелаць, ці іці ей за таго мальца. Дык на Каляду паставіла ззаду і наперадзі зеркала, паліць дзве свечкі – ззаду і наперадзе, сесці так, ззаду каб відзіла ў зеркалі. А тады нажніцамі нада стрыкаць каля вуха. Відзіць: ззаду прасунуўся самы настаяшчы гроб, а ззаду той маліц яе стаіць. Послі на мужука зьвяшчэння прышло, а яна за Аляксея вышла.

**Зап. Валодзіна Т. у 1995 г. ад Халімоненка Г. М., 1925 г.н. у в. Лядна Лепельскага р-на.**

### 1332. Варажба праўдзіць

Вот перад вайной гадалі. Во перад Калядамі варожаць дзеўкі. Гаворацць, к зеркалу паставіш… І я пабегла к цётцы за зеркалам, а мне дзеўкі паставілі пад койку вады і дзве накрыж шчэпачкі палажылі. І я віжу ва сне: гэты, што быў мой хазяін, ідзе во гэтай во дарогай, у валенках, у падзёўках, як раньшэ называлася, цяпер не ведаю як. Ідзець, а пшаніца кругом, а сонца свеціць пшаніцу, і віжу во сон. Устаю, яны гаворацць: Танька, што ты відзела ва сне? Ай, ну і выйшла за яго замуж.

**Зап. Красько Г., Лях В., Палякоў Д., Радзюк А. у 2008 г. ад Пшоннай Тацяны Міхайлаўны, 1922 г.н. у в. Гілі Чашніцкага р-на.**

### 1333. Піва адрыгнулася

Гэта бабка мая расказвала. У яе падружка была, і зашлі яны ўжэ сюды, у Царкавішча, абее замуж. Ужо дзядок мой быў сам з Заазер'я. Ужо бабку маю ўзяў і яе падружку ўзяў наш дзеравенскі тут, дык інцярэсна так было. Ехалі вянчацца яны ў царкву, а нада было ехаць у Кублічы вянчацца, а там па дарозе быў такі кабак, піва прадавалі. Ну, дык жаніх задумаў выпіць гэтага піва. Злез з каня і пайшоў купіць піва і выпіў, а нявеста ўжо ў плацьці, коні ўбраныя. І сеў на воз, а піва адрыгнулася. А ён і гаворыць: "Вой, на лета буду жаніцца". А нявеста раззлавалася: "Чым сёлета, то лучшэ жджы на леце". З каня і дамоў, плацце ўзяла ў рукі і дамоў. Упрашываў, упрашываў, упрасіў яе. Тая села на воз, паехалі і абвянчаліся.

А гэта ж была такая прыкмета, што калі піва атрыгаецца, то гаворыцца, што на лета буду піць на свадзьбе. Ну, а яна ўжо сказала, што ўжо, як піва атрыгаецца, то і вянчаца буду на лета. Ну, маладая рассярдзілася.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Падгол Надзеі Васільеўны, 1936 г.н. у в. Царкавішча Ушацкага р-на.**

### 1334. Матчын праклён

Няможна, каб матка свайго дзіцёнка кляла. Вы знаеце што, гэта мне расказвала у нас у Таронкавічах адна баба, што буіць, калі казаць на дачку. Пасварылася матка з дачкой і ёй дык: "Каб цябе пярун забіў!" Тады ішлі ўтраіх, і яе, тую дачку, пярун забіў! Этага дзяцёнка. Ну. Ёсць, ёсць, праклянець матка, матка дужа праклінаіць. Матцы клясьці нельзя, Божа ўпасі, Божа ўпасі, калі матка праклінаіць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф'і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

### 1335. Не прасі сабе смерці

Гэта на самым дзеле было. Цётка, бацькава сястра, у сваёй хаце сядзела сьляпая. Сьляпая савершэнна, большэ сотні жыла, асьлепла. Гэта катэракта была, знаеце? А што раньшэ дзелалі? Нічога не дзелалі. Ну і прасіла яна сьмерці, прасіла сьмерці: "Памерці, памерці скарэй". І тут, можа пад ноч, адкрываюцца дзьверы: гармошка іграе там, танцы, песні. Яна тады:"Дзетачкі, чаго вы прыйшлі? Я ж сейчас нічога ня віжу. Што вы дзелаеце?" А яны ёй: "Бабушка, грэх табе прасіць смерці. Нікада не прасі". І не стала іх.

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Красько Г. і Лях В. у 2008 г. ад Палтруковай Пелагеі Канстанцінаўны, 1923 г.н. (ураджэнкі в. Савінічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.) у в. Экімань Полацкага р-на (пражывае з 1947 г.).**

### 1336. Незвычайныя здарэнні

Мы былі ў экувацыі, дык у нас там тры сям'і ў адной комнаткі жылі. Во. Дык там хто з каго: адна з Магілёўскай вобласці была сям'я, другая – з Гомельскай, ну во і віцебскія былі там. Ну і старушкі етыя лягуць і сказваюць, дзе хто па праданьню што расказваў.

Ну вот, скажу вам, што адна жэншчына расказвала. Ітак, яна была ў моладасі, яна, гаворыць, сама відзела гэты случай. Малодзенькая яна вышла замуж, гадоў семнаццаць ёй было, гаворыць, маткі не было. Значыць, бацька на другой жаніўся, тая не ўважала яе. Ну, звестна, як мачыха – мачыха і ёсць. Ну і гаворыць, што дзяўчаты сабраліся, а раньшэ гулялі гэтыя вечарынкі, ну як называюцца, да? Ну цяпер дзіскацекі яны… Ну ў хатах. Хто ўпусціць у хату па очарадзі, значыць, у каго дзяўчаты там ёсць і парні, значыць, у таго і гуляюць па очарадзі.

Ну вот, гавораць, сабраліся, а мы гавораць, папрасіліся там у карчме пагуляць. Карчма стаяла. Ну вот, эта самае, гулялі. Ну, рэбята там сабраліся. І вот два парні, ілі са тры, захацелі скласціся, штоб выпіць, да, у карчме. Ну, вот нада схадзіць дастаць чаго-небудзь. Ну вот яны пашлі. Пашлі, гдзе яны там зналі… Ну, гаворыць, ўзялі яны там скалькі, з бутылку-дзве. Ідуць назад, і срэдзі, ну вот вуліца як, бальшая сабака ляжыць. Падышла, лягла і палажыла лапу – ім праходу нету. Можа і нячыстая сіла была. Ну, гаворыць, яны туда, яны сюда, і ніяк не прапускаіць сабака. Ну, як яны там выкруціліся – адзін сюды, другі туды, значыць, ушлі.

Втары случай быў такі, як расказвала эта самая жэншчына. Ўродзе бы ў іх там, наверна, большэ гэтых случаяў было, вот такіх інцерэсных. Ідуць рэбята на вечарынку, глядзяць – коціцца калясо, вот як вот, ну цялегу прадстаўляіце, атарвалася калясо. Ўродзе бы ні цялегі, нікога нет, а калясо коціцца, коціцца… Ну, гаворыць, этыя рэбяты. А што дзелаць, інцерэсна – ноч, калясо коціцца. Ну, адзін, смекалісты быў. Плот, ён во вырываіць эту шчыкеціну ці там кол і ў гэта калясо – бух! І гаворыць: “Ну і сядзі”. Ну і самі пайшлі.

Ну а на утра, гаворыць, абнаружылі сідзячую бабу на этым калясе, яна ўжо за ноч і памёрла. Ну вот такія вот случаі. Ведзьма, гаворыць, была.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2008 г. ад Вайцюховіч Марыі Аляксандраўны, 1931 г.н. у в. В. Таронкавічы Лепельскага р-на.**

### 1337. Песьня

Мой жа дзядуля дужа піяць любіў, дзе ідуць – там пяець, а бабуля тады на яго крычыць: “Дурань ты! Вот ты стары, а ідзеш ды пяеш!” А ён кажыць: “А што, плакаў, плакаў – усё Бог аднакаў, а стань піяць – станіць і Бог даваць!” Вот ён гэта ей скажыць.

**Зап. Круткін А. у 2010 г. ад Карбоўскай (Шумуковіч) Любові Еўстаф’еўны, 1922 г.н. (нар. у в. Баркоўшчына Мёрскага р-на) у в. Янкава Полацкага р-на.**

### 1338. Рабінава ноч

Ночы рабінавыя ёсьць. Граза бальшая тады. Рабінавыя ночы. Но шчас такіх трудных нет, былі раньшэ, шчас такога нет. Эта Рабінавая ноч – эта сільныя-сільныя грозы. Палілі. Дажэ у нас і сараі гарэлі, во я яшчэ даіла кароў, беглі ноч’ю кароў выганяць, сарай загарэўся кароў, калхозныя, дык бегалі. А дом загарэўся, тожэ жэньшыну убіла. Гэта былі раньшэ, да, Рабінавыя ночы.

Гэта Рабінава ноч биваець міжэ Прачыстаю, вот биваець Большая, дваццаць васьмога аўгуста, тады праз нядзелю Меншая. І вот міжэ гэтых Прачыстых Рабінава ноч биваець. Тада асобенна буры ноч’ю бывалі

І мы эту жэньшыну там выцягнулі, карову выпусьцілі, сьвіней іхніх, курэй палавілі, а дом згарэў да грама… Аблівалі і залівалі вадой, і ўсе

раўно. Вада… заліваець вадой, а эта дзерава да грама згарэла. А нада паліваць кіслым малаком – толька так абтушыш с Перуна, так нічога не паможаць. А дзе ж ты яго набярэшся, столькі кіслага малака? А кароў выганялі, дык раўлі, дык рады неможна было даць, пастухі ўжо чуць-чуць… І вот ісьці няможна, дзе этыя лініі высакавольтныя, пад этымі няможна ісьці лініямі, пад дротам, тады Перуны б’юць у гэтыя лініі. Можаць забіць тады чалавека.

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Зуй Ганны Васільеўны (нар. у в. Васюкі), 1932 г.н.; Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны (нар. у в. Дубоўка), 1936 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

### 1339. Пацешны дзед і нячыстая сіла

Ну, вот ходзюць, пасля двенаццаці, ходзіць нячыстая сіла. А ў нас у Пазнякове быў старык. Ой, пацешны! Ну такі смешны быў. А ён гэтаму ня верыў. Ну была такая лаза к лесу – ну вот лес, і там рэчка, Чартоўкай называлі, ну рачушка такая небальшая была. І вот ён што здумаў – здзелаў жулейку, каторая свісцела. Як толька цямнеіць, ён у туюю лазу – і там давай заліваць гэтай жулейкай! А увечары ўсе сталі на каленкі, што чэрці! І ўсё – молюцца точна да двенаццаці. Як, казаў стоўб этат (ліхтар – рэд.) гарыць. Вот вечарам загараецца, да двенаццаці – мінута ў мінуту і секунда ў секунду – тухніць. Чатыры часы – апяць загараецца. А там гэты старык да двенаццаці часоў перастаў іграць – ўсё, ужо ўціхлі. Молюцца, хрэсцюцца…

**Зап. Лобач У. і студ. ПДУ Глебава К., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Фунцікавай Галіны Сяргееўны, 1933 г.н. у в. Баяноўшчына Полацкага р-на.**

### 1340. У дарогу

Калі ў дарогу, то словы ёсць: *“У дарожку сабіраюся, месяцам падпіраюся, звёздамі усыпаюся, з врагом не сустракаюся. Мяне маменька радзіла, сонейкам абгарадзіла, месяцам падпаясала, у дарожку адпраўляла. Ранні бег не дабег, позны бег не дабег. А мне ад Госпада Бога шчаслівая дарога”*. Гэта дзве ёсць. І другая, у дарожку як ідзеш: *“Крэст мой дзяржавы сахраніцель, крэст мой ангел пакравіцель, крэст мой ада разрушыцель, крэст мой врагу разрушыцель, крэст мой серцу весяліцель”*.

Вот еслі ў армію адпраўляеш, вот выйшаў з хаты, а тады вярнуўся во ў хату. Каб ён апяць вярнуўся, прыйшоў назад. А тады апяць пайшоў. Як што-небудзь забыўся, пазавуць: “Хадзі вярніся!” А тут нада абізацельна. Вот выйшаў сын, ці машына стаіць, ці не, а ну хадзі там скарэй ў хату. Прыйшоў, і вот, як у нас, ля печы стаяць вілкі, качарга, каб узяўся за качаргу і тады зноў пашоў.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіч Алены Аляксееўны, 1936 г.н. (нар. у в. Старына) у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 1341. Падарожнае

Калі ляжыць на дарозе якая вешч харошая, дзе ж яе абмінеш. А вот як пугавіца, не нада яе браць.

На Духа вяжуць красівы венік, можа там у яго ўвязываюць якую красівую кветку, абмятаюць хату, ідуць па часавой стрэлкі, абмятаюць хату, і тады гэты венік выкідаюць на скрыжаванне дарог. На скрыжаванне дарог другі раз носюць і тэй, хто ўмеець дзелаць нядобрае, ці нітку якую, ці што.

А этым венікам усё вымяталі дрэннае, каб у хаце было добра. Каб ён быў красівы. Ня ўсе неслі, ня ўсе ж веруць. Ці хто занясець у лес…

Як у далёкую дарогу адпраўлялі, абчына ж садзяцца. Раньшы як садзіліся, дык падсцілалі даматканая палаценца, на палаценца садзіліся, каб дальняя дарога была добрай… Можа, як ідзець учыцца… Як ідзець учыцца, тады слалі палаценца, каб далёка пашоў у навуку.

А як у армію праважалі, бяруць замок новы, яно і цяпер так, абходзюць з этым замком адамкнутым навабранца тры разы, ўзамыкаюць і кладуць вісока. Каб гэты замок ня трогаў ніхто. Каб яго ня дзёргалі эты замок. Замок і з ключом. Замкнуць после таго, як абойдуць. Да прыхода да ягонага. Можа, тады яго можна іспользаваць, тады той замок.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Макоўскай Фаіны Іванаўны, 1941 г.н. (нар. у в. Луг) у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

## 1342. Падарожнае

Як можа дзяцей ў дарогу ці сам у дарогу вялікую сабіраешся, гэта я магу сказаць: *“Ванька едзіць у дарожку і бярэць з сабой трох ангелаў: адзін ангел – на пярод, другі ангел – на задок, а ён – пасярод, а трэці саваршаець дзела, сахрані Божа меня”*. Гэта ўжо, як у машыну сядзеш, скажаш. І тожа яшчэ ад міліцыі кажуць: *“Кладу хрэст на ўсе дарогі, на рукі і наногі; добра перайдзі, а дрэнна не дайдзі”*.

А з дарогі, як што найдзеш, бяруць, гэта ж не чарадзейства, а хто пацераў, ці наабарот, калі малы рабёнак, канфеціну даеш, што на дароге найшоў, каб загаварыў быстрэй. Было, і адносілі на дарогу, на перакрасную дарогу. Гэта бываець, што такое зробіцца – падроблена, дык тады тое як найдуць, дык беруць з сабой яго і ідуць на перакрасную дарогу і там палюць. Рукамі ж нельзя браць – нада нейкія шчыпцы ці што там узяць.

Такое, што мачыцца на дарогу нельзя я не чула, не праўда. Наабарот, ідзеш, мочышся, каб з дарогі не зладзіць нідзе, не ў лесе… На саму дарогу не нада і ў рож не нада. Таму што гэта хлеб ад Бога.

А вот як у лес хадзілі, у ягады ці грыбы, каб вужаку не ўбацыць, нада казаць так: *“Мой дзед (ці там бацька, калі памёр) як не ўстаў з таго свету, каб я так нікога ня відзела ў лесе”*.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Кісель Соф’і Мікалаеўны, 1933 г.н. у в. Двор Пліна Ушацкага р-на (ураджэнка в. Шалагір Докшыцкага р-на).**

## 1343. У дарогу

У дарогу, ну, малітва, такія абражачкі з сабой бралі маленькія. Ну, у нас 7 лютага, я вось забываюся, у касцеле свянцілі ваду і свянцілі хлеб. І вот каб гэты хлеб быў у цябе з сабой ці ў сумачцы, ці ў кармане. Ці машына ў каго ёсць, дык там. Тады ўжо не разаб’есься. І вот мей у душы, што я ж еду з Богам, а не адзін. Хлеб сьвятой Агаты.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Хаданёнак Ядзвігі Леанардаўны, 1931 г.н. у в. Сталіца Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1344. У лес, у дарогу

Як у лес ідзеш і каб змяя не зачапіла, мяне вучыла баба ў Баярах: “Гадзіна-сіпуха, не любі майго духа ад крышчэнскай вады да святой Каляды”. Вот гэтак загаварвалі і ішлі. Ці як на агарод іду, вучылі што. А як у дарогу сабіраешся, каб усё палучылася, перахрысціся і гаворыш: “Ангел мой, храніцель мой, ідзі са мной, ты ўперадзі, а я за табой”. Вот так ґаварылі.

Вот гэтыя завязкі, што ногі звязваюць пакойніку. Гэтыя завязкі ў нас, іх кладуць у гроб, а ў другіх гэта лякарства. Завязачкі, можна і паясок зробіць, падпаясвацца. Рубашку гэту, надзяюць рубашку, як у дарогу і каб усё добра было. Адзяець рубашку з пакойніка, і едзе. Тады без ніякіх праблем едзе. Рубашку, у якой памёр.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 1345. Завядзёнкі

Еслі мянялі, куплялі карову, то нада было, ва-первых, хлеў, сарай акрапіць вадой з цэрквы, святой вадой усе ўглы, штоб было ўсё харашо. Штоб карова не блудзіла, а знала дом, знала хазяйку – хазяйка снімала з галавы платок, лажыла на парог і перавадзіла карову ці каня, і завадзілі цераз платок эты, цераз парог. Значыць карова эта ўжо знала свой дом, знала хазяйку, каб не нада было бегаць, іскаць па саседзях.

Штоб куры агарод не капалі, гаварылі так: нада тры празьнікі абязацельна – Ражаство, Крышчэнне і Стары Новы год – штоб хазяйка вабшчэ рашчоску ў рукі не брала. Тады куры, дажы есьлі зайдуць на агарод, ну яны будуць капаць трохі, но без ўрада. Вабшчэ, штоб куры выйшлі ў агарод, яны ж выраюць усё, а то яны не капалі – і эта праўда. А венікам біць нельзя. Я считаю, што венікам біць нельзя нікога, што многа чаго з венікам нехарошыя людзі дзелаюць, как бы чаруюць. І будзець, у веніку розаг многа, і будзець ён как бы рассеяны.

Перад акном сідзець нельзя, есьці нельзя. Патаму, што ў акне ўсягда ёсьць зазор, дзе молнія можа ўляцець. Яна ўлятаець ўсягда ў самую ма-

ленькую шчыль, і можаць убіць. А як ясі дзе-небудзь возле стала, возле акна, палучаецца, што зубамі ж работаеш, а ад жывой работы палучаецца энергія. І вот работа рта, ложка прыцягаець тую самую молнію. Ложку прынёс ка рту, а тут на тое ліха – молнія. І той жа самы разультат – уляцела молнія ў чалавека.

Пра ёлку я прама і не чула, але знаю, што каля дома мала хто яе садзіць. А вот каліну, я чула, што каля дома садзіць нельзя блізка – у хазяйкі будуць балець ногі. А рабіну нада садзіць. Патаму што ў яе яркія ягады, як увосень і яркія красныя. А красны цвет не дапускаець плахую энергію ад другіх людзей. Калі многа чаго-та краснага, то на той дом меншы можна чаго-та здзелаць дурнога.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у в. Обаль Шумілінскага р-на.**

## 1346. На могілках

На памінальныя празьнікі хадзілі на кладбішчэ, ставілі свечку, маліліся, бацюшка к нам нікада не прыяжджаў. Эта была небальшая каплічка – эта да вайны, у вайну яна ўжо развалілася, асталася адна сценка. Быў Ісус Хрыстос распят там дзеравянны на этай каплічкі. Мая хросная маць шыла яму адзежду, адзявала. І не магу сказаць, дзе, куды прапаў той Ісус Храстос. Развалілася ўся каплічка, ніхто не дадумаўся яе рэстаўрыраваць, а цяпер там астаўся адзін фундамент.

Я толькі адно знаю, што з кладбішча нельзя нічога выносіць. Не тое што там, хто дзе паложыў, паставіў, дажы кветку вырваў, еслі захацеў пасадзіць прынесць, – нельзя. Нельзя з кладбішча нічога нясьці – эта ты нясеш дамой смерць. На кладбішча нельзя хадзіць пасля заката сонца. Патаму, што пасьля заката солнца – эта не наша ўрэмя, эта – іхнае ўрэмя. Я шчытаю, эта дзействіцельна, мова што-небудзь паказацца.

Знаю, што ў нас эта аграда закрытая, есьлі прыйшоў і адкрыў этую аграду, то абязацельна доўжан прыйсці і закрыць этую аграду, так, як яна была. Іначы табе можаць прысніца еты чалавек, чыю аграду адкрыў. Ён будзе абіжацца – што ты маю аграду адкрыў, а мне плоха. Так што на кладбішчы ўсё далжно быць так, як і было. Эта ў нас пакойніку кажуць: “дзе ты дняваў, там і начуй”, – каб яму было спакойна.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Фядура Таццяны Афанасьеўны, 1934 г.н. (нар. у в. Шашы) у в. Обаль Шумілінскага р-на.**

## 1347. Каб жывёла добра гадавалася

Калі карова целіцца, трэба глядзець, каб места каб ня з’ела, а то малако будзець пеніцца. Гэты паслед і сабаку аддаеш, яго не нада ў зямлю закапываць. Як ёсь сабака, кінуў, каб з’еў. З’есь і што. А еслі карова з’есь, тады малако пеніцца, сколькі не даі, а яно пенай падымаецца.

Ад уроцы кароўке ваду даюць. Свяцонай соллю выціраеш. І дзе эта ручка, бярэшся, дзевяць раз ваду пераліваеш, з адной кружкі ў другую. Эта каб ня йці нікуды, не хадзіць. Пераліць і даць ей папіць. А соллю па ей пацёр, пацёр. Вясной як у поле выганяеш, свянцоная вярба калі ёсь, пасцёбаць. Ножык, пад парог ложыш ножык.

А я не лажу нож, я лажу яйцо сыроя. Нада так палажыць, каб не наступіла. Даўней хадзілі жабракі прасілі, нада тады яму абізацельна эта яцо аддаць. Аддавалі ім. Каторыя прыдуць. Такая варажба. А калі купляеш, каб усё харашо было, нада тры разы сказаць: *"Кароўку пакупаю, Хрыстом-Богам благаслаўляю"*.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бярговінай Таццяны Карнееўны, 1926 г.н. і Бівейніс Тамары Сяргееўны, 1943 г.н. у в. Баравікі Сенненскага р-на.**

## 1348. У гаспадарцы

А вот ёслі ты хочаш, штоб тваі куры хадзілі на другі агарод, нада ў Чысты чацьверг, перад Пасхай, браць блін, лажыць  на галаву і бегчы на другі агарод. Хазяіну даеш гэты блін ці рабятам, і яны бягуць на другі агарод, каб твае куры хадзілі капаць у ім ямкі. Ня дзелалі так, канешне, но ета прымета такая была. Тады, гаварылі, куры будуць хадзіць на чужы агарод, а не на свой. Вот ета прымета такая была.

Ну вось прымета такая была, каб краты не рылі агарод. Нада ў Чысты чацверг, перад Пасхай узяць качаргу, абайсці зь ёй тры разы агарод і прыгаварываць: *"Крот, крот, ня рой мой агарод, у чэсць Чыстага чацверга ў зубы табе качарга"*. Ета і цяпер такая прымета пішацца і раней была, што тры разы свой абайці агарод. Нада да сонца ета дзелаць.

**Зап. Езавітава В. у 2008 г. ад Шашковай Вольгі Мартынаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Ваўчкі) у г.п. Обаль Шумілінскага р-на.**

**1349.** Вот, як родзіцца цялёнак, няможна нічога нікому даваць, каб не звялося хазяйства. Няможна рэзаць нікога, еслі на сход месяца. Еслі паследняя чэтвярць, сход месяца няможна рэзаць нічога, каб не звялося гэта ў хазяйстве скаціна гэта, каго зарэжыш. Яшчэ, як памрэ хазяін, нада адкрываць дзверы і сказаць скаціне ўсёй, і карове там, усім: хазяін памёр. І еслі пчолы ў каго ёсць, нада пастукаць па доміку раніцай. Гэта ўжо не як вывозяць, а раніцай нада, як пчолы ў доміку. І сказаць, што памёр хазяін ці хазяйка, каб не звялося нічога.

**Зап. Матошка А. у 2010 г. ад Каросцік Леаніды Уладзіміраўны, 1950 г.н. у в. Азарцы Докшыцкага р-на.**

## 1350. У гародзе

Як бульбу садзяць, кажуць: *"Радзі, Божачка, на ўсіхную долю: на пастухову, на канюхову"*. Бульбу гэта як садзяць. Бульбу як садзіця, дзеткі, нада ўсігда ўторкнуць нож ілі тапор у первую баразну, у первую баразну.

А тады вечарам нада, ты вот начала гэту баразну крайняю, і вот вазьмі бульбіну ці чатыры там бульбіны, тут пасадзі дзе бульбіну і так накрыж, тады туды, і тады туды. На весь участак ваш, накрыж. А тады вынімай тапор ці гэта.

Капусту нада садзіць, знаіця, ілі вечарам, каб ніхто ня відзіў. Еслі ідзець хто, вот садзіш ты, вот хто загаворыць, кілатая будзіць капуста. Я адзін год, я ш тожа не знала, адзін год сажу капусту, а тут баба вязець ваду бітонам і праз плот: "Ты садзіш капусту?". – "Саджу, – кажу, – расадай, сажу". Ну я і садзіла, я ж ні знала што гэткае. Ну і мая капуста ўся такая, стала не завязывацца. А, гэта я стала расказываць, а сістра мая родная, яна кажыць: "А хто ў цябе праз плот глядзеў?" Дык я: "Твая бабуля". "Ну дык, – кажыць, – за гэта ў цябе капусты німа, кілатая капуста ўся". Нада раніцой уставаць вот, рання, як людзі ня ходзяць, ці вечарком позна.

А агуркі я саджу ў панядзельнік. Первы дзень у нядзелі – первая завізь, всегда. І ціпер у мяне цвет і на каждым завізь. А цыбуля вот у мяне нешта не ўрадзіла, а вот натрапіла – людзям дала. Дык я вот вазьму трошкі скіпідару, пробачка, і на вядро ўлію, і палію яе, як яна жаўцеіць. Тамака ёсць чэрві такія беленькія. І цыбуля ў мяне тады такая добрая. А сёлета, што ня робіла, і пажоўкла. Мусіць руку трапіла, аддала я.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2009 г. ад Явілкі Лідзіі Пiліпаўны, 1935 г.н. у в. Мсціж Барысаўскага р-на.**

### 1351. Каб скаціна вялася

А як к быку карову вядзеш, бывала, варожыш, во так з замка хлеб, каб пакрылася. Эта во так, як замкнуты, так туды прадзяваць. Тры разкі. Тады гэты кусочак аддаюць кароўцы. Гэта як прывядзеш ужо, яна ўжо пакрыецца, каб ужо...

Як купляюць парасёнка. Варожуць. Каб абязацельна саломінку з тога гнязда ўзяць. Кладзеш у мяшок. А карову нада і з вяроўкай. Кажуць, каб хазяін і рукавічку надзеў. А ты каб надзела рукавічку, узяла ў яго. Ён сваю, і ты сваю. Каб і ў яго вялося. Каб і ў мяне вялося.

А як первы раз у поля гоніш карову, я гэтага ня дзелала, а людзі, кажуць, расцілалі, каб цераз хлеб, цераз соль, каб яна прайшла. А як родзіцца цялёначак, первы дзень, нада каб ніхто ня відзіў, не нада ні хваліцца, нічога. У той дзень, як целіцца кароўка, нельзя нічога пазычаць, даваць не нада.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Духовіч Зінаіды Пятроўны, 1927 г.н. (нар. у в. Краснае Сяло) у в. Будзішчы Сененскага р-на.**

### 1352. Жывёлагадоўчыя парады

Падаю карову, а чэраз час малако ўжо вродзе кіслая. А час прайшоў. Я тады бяру пераліваю чэраз лычак вады, вады абыкнавеннай. Лычак, што

свінней колеш. Тры разы Усяго дзевяць раз. Туда і назад, туды і назад, тры разы. А тады нясу карове піць, і ваду гэту туды ўвальлю. І карова палепшаіць. А як карову к быку вядзеш, бяруць рагатую пруціну, каб тры сучкі было, і так троху яе. А яшчэ каромесел раскідываюць у хлеве пад парогам і цераз гэты каромесел выводзюць. А тады як прывядуць, нада закрыць гэты каромесел, сашчапіць і схаваць на тры дні, ім не карыстацца.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Макоўскай Фаіны Іванаўны, 1941 г.н. (нар. у в. Луг) у в. Пустынкі Сенненскага р-на.**

## 1353. Як хату будуеш

Еслі толькі хату паставіш на мяжэ, строюць хату і паставюць, што вот наш гарод і саседа гарод, тады ў той хаце будзець усё здавацца. Кладуцца спаць, а то стукаюць, то грукаюць. Ня мяжэ нільзя ставіць хату.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Цыганковай Яўгеніі Аляксандраўны, 1932 г.н. у в. Лозы Ушацкага р-на.**

**1354.** Як хату ставілі, на 3-м вянцы мелач клалі. А хлеў нічога, строілі хлеў – нічаво, а хату строілі ўсягда на 3-м вянцы, мелач сыпалі. Ня будзеш робіць дык ня будзець багата. Ну але такі закон, да, на 3-м вянцы, на куце, дзе іконка, там клалі мелач.

**Зап. Захарэвіч А., Мядзведзева А., Прахарэнка Я. у 2007 г. ад Валадзько Ганны Іванаўны, 1936 г.н. у в. Бор Лепельскага р-на.**

## 1355. Як хату стаўлялі

Як хату стаўлялі, дзе кутавы камень, дзе кут ужо пазначаюць, кажуць тады, прыгаварваюць: “Як у моры вутцы дзяцей не вывадзіць, так у гэтай хаце пажару ня быць”. Нічога не клалі. На трэці вянец клалі грошы, а гэта на камень прыгаварвалі. Браўно, камень паклалі, і на браўно. Як ужо ў новую, Ну, ката пускалі, ніткі кідалі, шарсцяныя, сваёй работы, клубок. За нітку дзяржыш, і за ёй заходзіш, клубок у хаце, каб людзі хадзілі. Ну, ката запусцяць, тады ікону заносяць...

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Антонавай Евы Аляксееўны, 1928 г.н. у в. Баяры Барысаўскага р-на.**

## 1356. Калі хату імшыць

А вот як мох дралі, то лажылі яго на сем кучак. І тады пад каждай кучкай глядзелі – дзе жукі якія ці гразна, ці што, а дзе чысценька. Вот напрымер – на панядзелак кучку лажылі, на аўторак, сраду, чацьвер… Вот тады ў чацвер, напрымер там чыста, тады імшылі. А мы гэтага не зналі, нам после сказалі. Як паімшылі, а там завялося клапоў – няможна было спаць. Тады сталі клеіць, дусту затыкалі…

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бражковай Людмілы Аляксееўны, 1933 г.н. у в. Заазер’е Сенненскага р-на.**

## 1357. Пень яблыні

А вот ужо у нас гадоў сорак ці болей, як мы сюды, у Псую, пераехалі. І Шыпіла ў нас быў участковы. Ну і я троху загаварывала там ад упуду і уроцу, і пайшла да яго і сказала, што яму нада з'ездзіць да некага папытаць, чаму рабяты хварэюць. Аж яны паехалі да нейкай знахаркі і тая кажыць: "У вас хата пастаўлена на пень яблыні, яблыню спілілі, а пень аставілі. Уздзярыце пол, выньце гэтат пень, і дзеці ня будуць хварэць". І точна, праўда! Шыпіліха казала – узадралі пол, і точна, як строілі страіцельства, яблыню зрэзалі, а пень аставілі. Яблыню нада толькі з корнем выдзіраць, а рэзаць яблыню нельзя.

**Зап. Сулімаў С. у 2009 г. ад Буёнак Мальвіны Уладзіславаўны, 1930 г.н. і Абрамовіч Веранікі Уладзіміраўны, 1944 г.н. у в. Псуя Глыбоцкага р-на.**

## 1358. Пазыкі

У нас быў такі дзед, Хартановіч, то прыдзіць солі пазычыць, то прыдзіць хлеба… Тады мяне наўчылі: як прыдзіць ён, ты дай, а тады ўслед яму сыпні. І асобенна соль із сала браць. Прышоў, цэлую булку хлеба ў мяне пазычыў. Я яму дала булку хлеба. І я вот пашла скоранька, солі той сыпнула і кажу: *"Калі з добрым прышоў, хай табе будзець добранька, а як з дрэнным, хай табе будзець дрэнна"*. Тры разы так сказала. Пасля таго, дзіцятка, нічаво не прыхадзіў пазычаць у мяне, ні-ча-во!

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Бражковай Людмілы Аляксееўны, 1933 г.н. у в. Заазер'е Сенненскага р-на.**

## 1359. Вясковы халадзільнік

Чабор у чай, ён смачна пахніць, і гарлачыкі парылі. Гэта, што малако цэдзяць. Помню, назбіраем і тады ў гарлычыкі, туды, каб малако не кісла. Памагала, даўжэй стаіць, не кісьне. Раньшэ халадзільнікаў не было, а дзе во ёсьць у балотах, зяленых жаб тады садзілі у малако. Жаба тожа сільна холад дзяржэ, а тады ужо нясуць прадаваць і яе выкідваюць, каб ніхто не відзеў. Купляюць жа людзі малако. А як вы думаеце, раньшэ людзі во гэтакія былі, а цяпер нічому ня вераць. Цяпер халадзільнікі, цяпер другое, а раньшэ гэтак выдумка усякая была.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

## 1360. Гарадская жызнь

Я горад не люблю, Бог ведаіць. Я прывыкла жыць на зямлі. Мне нада хазяйства, мне нада зямля. Не важна, не важна, што клопат. Я ўжо старая, не здолею, памагаюць людзі. Ну, не людзі, унукі. Шум, глум эты. Ай!

Я адзін раз тожа вот так, дачка замуж выхадзіла, эта старшая, паехалі ў Маскву за прадуктамі. Тут ужо такое ў нас было, што не не дабіцца ні да чога было, а свадзьба бальшая была… І во, знаеце, панабралі ўжо, усё, нада іцці нам на вакзал, а машыны так ідуць натоўпам. І ідуць, ідуць і ідуць. У мяне ў галаве вот так нешта перавярнулась, я захвацілася за сьцяну. Дачка гаворыць: "Мам, што з табой? Ты з ліца перамянілася". Мне дурна стала ад таго, ад усяго. Думаю, Госпадзі ты мой, хоць бы я скарэй, скарэй дамой прыехала. Нічога на свеце не нада было. Не люблю я горад, не люблю гарадскую жызьнь, не люблю.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Хляханавай Марыі Фёдараўны, 1930 г.н. у в. Слабада Віцебскага р-на.**

## 1361. Лунацікі

У нас быў Лашчук, гэты во хахол, сам на сябе казаў. Ён і вывучыўся ў інстытуце, ён і казаў, дзе і работаў. І вобшчам лег спаць і устаў, а яму на заўтра нада было ісці, а ён ноччу устаў, у лунную ноч – гэта у палналуніе. Казаў, 15 мінут дарогай ішоў, а тады, кажаць, ачуціўся ў лесе і прачнуўся. Ну, лунацікам быў.

У нас во у Дварэ, тут во на Кабак ішоўшы па возеры чалавек. Хадзіў з тага бока і па луне хадзіў, у лунную ноч. І чалавек казаў, чалавек з Камена ішоў позна, работаў, а ён, кажа, чэша з Кабака па возеры, як па сцяклу ідзе. А ён па імю таго назваў, гаворыць, клікнуў яго: "А ты чаго тут?" А яго і не стала, і патануў. Гэта даўно-даўно было, а гэта тады Косця рассказваў. Бацька ягоны ішоў і аклікнуў таго, а той утапіўся. Па луне ходзяць, есьлі бярэменная жэншчына спіць, а на яе свеціць палналунія, то тады абязацельна лунацікам будзе рабёнак. Нада акно завешваць, спаць там, дзе няма ад вокан атражэньня.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

## 1362. На кірмашы

Смяяліся, што ў Шалашах адзін не граматны чалавек быў, Раман. Ён зусім не граматны і вязець жыта прадаваць. А жонка яму гаворыць: "Едзь, Раманка, жыта прадаваць". А ён у яе пытае: "За сколькі прадаць?" А яна гаварыць: "Еслі ж не дадуць 1,5 злота, вязі дамоў". Ну, ён і павёз. Прыходзяць жыды. Паглядзелі, што людзей мала саўсім, падходзяць да яго і гавораць: "Жыта прадаёш?" Ён: "Сколькі?" – "Два злота даём". Ён: "Не". – "А чаму?" – "Хачу паўтара". Ну, яны і заплацілі яму паўтара. Прыязжае дамоў, а жонка гаворыць: "Ну, як?" – "Прадаў. Давалі два злота, а я ўпёрся, на сваім паставіў: паўтара, і усё".

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Карніловіча І. М., 1928 г.н. у в. Стараселле Докшыцкага р-на.**

## 1363. Поп і пост

Вот у нас быў глаўны бугалцер, ён з 1915 году, дык ён гаварыў, што ягоны бацька з папом дружыў. І тады нейкі быў празднік і ён, той поп, заехаў да яго. Ну і стаў ягоны бацька ўгашчаць гэтага папа. Ён паставіў усё поснае, бо толькі поснае можна было есці. Паставіў рыбу, а поп кажыць: "Грыгорый, а ў цябе палучшэ нічога няма?" А той адказаў: "Ёсць, але нельзя". А поп кажа: "Есці ўсё можна, нельзя чалавека абідзець, украсьці ў чалавека нельзя і ўбіць нельзя. А вот есьці і работаць – можна".

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г.ад Касцянка Аліны Сямёнаўны, 1933 г.н. у в. Слабодка Чашніцкага р-на.**

## 1364. Богава і чортава чарка

Усё ад Бога. Усё, што ў чалавека ёсь – усё ад Бога. Балеем мы, плоха нам, вот у мяне сын памер – эта так Бог даў. Малады, 39 лет. Не хварэў, не балеў, пашоў на работу, заваліўся і памер. Пяты год ужо. А гэты – п'яніца. Яго, наверна, чэрці дзержуць, на яго няма ні хваробы, ні смерці, нічога. Чорт дзержыць яго. Ён п'ець бязбожна, значыць, у ім сядзіць чорт. Я яго баюся. Бог сказаў: выпіць можна ў празьнік і толька тры чаркі: 1-я чарка, чалавек п'ець для здароўя. Еслі ты сто грам выпіў, табе толькі на здароўя. Другая для бодрасці, а трэцяя – для вясельля. А ўжо большы піць нельзя, эта ўжо на грэх ты п'еш. А ён п'ець паўлітрамі. Што не гавары, раз ім чорт кіруець, яму ўжо не ўкажаш.

**Зап. Валодзіна Т. у 2008 г. ад Важанавай Надзеі Андрэеўны, 1936 г.н. у в. Будзілава Бешанковіцкага р-на.**

## 1365. Сонечнае зацьменьне

Пра зацьменьне нам баба Махтодзіха расказвала. Помню расказвала, што выгналі кароў утрам, а сцямнела потым, як быццам ноч стала. А луна каля Сонца праляцела, каб зачапіла, так і канец свету бы стаў. Гэта было ў іх такое сазнаньне. Я яшчэ помню здзівілася: як гэта луна можа зачапіць сонца? Мы ж былі малымі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Шчэрбік Ніны Барысаўны, 1925 г.н. у в. Стаўбцы Чашніцкага р-на.**

## 1366. Здарэнні на Лукомльскім азяры

Мы звалі азяро – "Бальшое", а на ім астравы – "Высокі", "Прачысты". Усякія былі случаі. Утапіўся наш учыцель. Іван Пятровіч – наш учыцель. Гэта было перад Пасхай. Прыйшоў ён у вёску к нам, к мужыку аднаму і кажыць, каб палавіць рыбу. А рыбу раней сеткай лавілі. Яны селі ня ў лодку, а ў камягу – абыкнавеннае браўно. Унутры ў ім выдзяўбана, нос, пята. А было халодна. У яго адзеты быў полушубак. Камяга гэта крутану-

лася і ён паляцеў, і яны абодва. Таго звалі Міхаілам. Учыцель хацеў зьдзець полушубак, але не, утапіўся. А той, Міхаіл, ухапіўся за камягу, плыў, плыў, і к Высокаму прыплыў. Утрам стаў крычаць. Нашы пад’ехалі, на чаўне забралі. А таго няма.

Тады мой папа і яго бацька ў кузні падзелалі крукі. Па дзесяць штук на шырокую даску набілі. А я ўжо бальшая. Раз заглянулі, выцягнулі – трава. Цягнуць, цягнуць. За паследні крук зацапіўся паўшубак. Торк – галава. Выцягнулі мы, прывязлі на бераг. Яго палажылі на траве. І ён точна як ажываў. Абмылі яго – стаў точны жывы, а тады стала ліцо сінець. І старык адзін вясной тожа па возеры ішоў. І ён топіцца, крычыць, а там ўжо размыла. Але лёд трохі дзіржаўся. Папа мой хватаіць шост, каторым ловяць рыбу. Ён длінны, метраў дзесяць. Падаў яму шост, і той ухапіўся рукамі. І ён яго выцягнуў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Мурашка Тамары Грыгораўны, 1921 г.н. у в. Кісялі (нар. у в. Тарапы) Чашніцкага раёна.**

## 1367. У лесе

Вот расказвала адна жэншчына, што усе врэмя хадзіла ў лесі, ўсё знала. Ну, хадзіла ў лес і вот заблудзілася. Тут гаворыць, што на празднікі нельзя хадзіць у лес, што і знаць можаш лес, і можаш заблудзіцца. Але тады дужа не блудзілі, толькі прасілі ў леса дапамогі. Вось бабулька адна пацяралася ў лесе, ужо некалькі дзен блукала, потым прысела і відзіць сілуэт, а цемната, а што сілуэт – і ўсё. А гэта мядзведзь на задніх лапах ішоў. І ён нос к носу. Харашо, што не раз’ярошаны быў. І ён паляцеў, і бабка паляцела. Вот эта бабка выйшла на дарогу. Дык вот, Бог яго знаіць, што тут. Можа хто і памог “адтуль”.

Як зблукаеш, так вот “Отчэ Наш” ды і ўсе такое, “выйці мне...”, тут такое вот… Там ну яшчэ ж у расцеранасці, у шоке. Дык сільна ты што знаеш і не знаеш – нічога не ўспомніш. А каб ад змяі – краюшак хлеба. Ну вот гэта я слышала, што гэта ад змяі, ад змей, што нада, каб не ўвідзіць змяю. А як ужо выходзім, і кажам: *“Слава Богу, нас лес наградзіў, ягад сабралі, грыбоў сабралі”*. Гаворыш такое.

Вот усе гаворaць, на Уздвіжанне хадзіць ня можна ў лес. Гаворaць, там ужо змеі на зіму хаваюцца. Лезуць у норы. Вось бабка адна забыла і пайшла у лес. А змеі калі паросюцца на дзерава залазяць і яны ж сваіх зменятак пажыраюць. Гэта вот каторый уцячэ, каторага яна не успее схваціць. А так вот усе ж гаварат, еслі б усе гэтыя змеі, дык у лес бы не зайшоў. Еслі б яна не пажырала. А так баба зашла і гаворыць, што на дзярэўях клубкамі змеі. А мы раз пайшлі на гэты празднік і ні адной не відзелі. Вот эта проста яны можа спаўзліся у адно месца. Можа не вяздзе, но ўсе равно страшна. Еслі знаеш, дык усе, дык ў гэты празднік страшна ў лес хадзіць, а

ўдруг нападзе, і із лесу не выйдзеш. Ну вот яны, навернае ужэ как вот, как людзі, што-та ў іх ужо такое. Нада ўжо іменна вот у гэты дзень. А хто мне гаварыў, што гавораць вот после гэтага праздніка, калі пойдзеш у лес і увідзеш змею, гэта, гаворать, та змяя асталася, каторая укусіла чалавека. Гаворать, такіх у норы не бяруць.

Ну вот канешна, канешна, раньша быў лес багацейшы на ягады. Ну вот я хачу сказаць, што раньша ж не была вот эціх камбайнаў, не выдзіралі эта ўсе і са мхом і з лісцямі, з усім. Сабіралі рукамі. А зараз усё выдзіраюць. Прырода трэбуе свайго, штоб акуратна з прыродай абрашчаліся, а тут вырываць усе з корнем. Во ў тым гаду грыбоў пачці не было.

**Зап. Пузікава К. у 2009 г. ад Івановай Веры Сяргееўны, 1938 г.н. у в. Тупічына Шумілінскага р-на.**

## 1368. Блуканні ў лесе

Я чула, у нас сьвятая Агата ёсць, у каталікоў, сьвятую Агату, хлеб браць нада. Тады, кажуць, не заблудзісься. А как заблудзіся, нада маліца да сьвятога Антонія, такі сьвяты есць, Антоній. Вот. І всегда тагда памагаець. Это от пятае феўраля… І ён ат усякай балезьні. Вот я… Віця мой так ўставерыў. Што я думаю, што цяпер не магу хадзіць, і то сёлета можа сама заеду. Я бывала вот булку хлеба свянціла і ўсё Віцю ваджу, ну, не вязу ж яму многа, па скібачцы парэжу, а тады высушу, ну і вады святой Агаты, тожэ харошая вада, піць, ён казаў, ат усякіх балезьняў, ксёндз нам. Вот ваду яму ваджу тожэ...

Мы былі заблудзіўшысі, мне ўжо гадоў можа шаснацаць было, дык заблудзіліся. Можа нас было восем. Вот. Ішлі, ішлі, ішлі, ішлі, кажуць, нада глядзець, есьлі вот дрэва заросшы мохам, тады гэта на Север, а дзе чыста – на Паўдзён. Мы хадзілі, эта на Купалу пашлі мы ў чарніцы. Мы хадзілі, прышлі дамоў – ўжо цёмна. Чуць выперлісь із гэтага леса.

**Зап. Бабіч А. і Пашкевіч І. у 2008 г. ад Зуй Ганны Васільеўны (нар. у в. Васюкі), 1932 г.н. і Радзішэвіч Вікторыі Станіславаўны (нар. у в. Дубоўка), 1936 г.н. у в. Дзікева Шаркаўшчынскага р-на (інтэрнат).**

## 1369. Калі заблукаеш у лесе

Было такое, што людзі ўваходзілі, дапусцім, у лес па грыбы ілі па ягады, і па якім та другім прычынам. І было такое месца, што чалавек вот находзіўся ў этам месце, і не знаў ў якую сторану ідці яму. Дажа патрабляе север – мох на дзерэўях, і муравейнік – нічога яму не памаге. Ён верціцца вакруг на адном месце і ніяк не можа выйці із этага места. Было такое павер’е, што, каб выйці з гэтага месца, нада всегда лажыцца на землю і прасіць зямлю, штоб земля ўказала пуць ім дамой. Была малітва, но я не помню яе. Проста абрашчаліся людзі і лажыліся крэстаабразна і прасілі зям-

лю, штоб Матушка-зямля показала ім правільны пуць – найці выхад із леса. І гэта памагала ім, і яны выхадзілі. Чтобы не заблукацца была малітва, просілі Бога, чтоб Бог ім памог імець разум і смекалку, чтоб выйці із леса.

**Зап. студ. ПДУ у 2009 г. ад Пацалуевай Соф'і Бенедзіктаўны, 1931 г.н. у в. Боркавічы Верхнядзвінскага р-на.**

## 1370. Лясная балезнь

Як у лес іцьці, дык былі прыгаворы, былі, былі... Каб зьмяю ня ўстрэціць: "Я ў лес іду.., – перакрысціся тры разы. – Я ў лес, ты ў зямлю, я ў лес, ты ў зямлю, я ў лес, ты ў зямлю". Гэта, як увахоходзіш, і бяды не случалася, хоць і хадзілі басяком.

Бываець, блукаець чалавек. Я сама хадзіла калі-то. Я, ва-первых, лясная, каля леса жыла, там усё, і ягады, і грыбы. Лясная балезнь у меня. На мяне ругаецца дочка, а я палачку ў руку і пайшла ў лес. Есьлі я не схаджу, я балею. У нас летам многа баравікоў бываець, і баравікі і падасінавікі, а я ж не магу прапусціць. У клюкву, як давядзецца мне, і я ў клюкву іду. І ў гэтым гаду ў клюкве была, і ў чарніцах была. Есьлі мяне ўнук падвязець, калі прыедзець з Мінска, то я буду ў лясу. Лес – балезнь мая.

У лесе усё нравіцца: і сабіраць нравіцца, і птушачкі пяюць, і воздух… Я бы брадзіла па лясу да самага вечара, мне б не надаела, і ўсталасьці нет, у нас мох такі тонушчы. Цяжало хадзіць па мху, но я прыйшла – і пайшла спраўляцца. Гэта мне саздаець удавольствіе. А вясна начанаецца, у лясу красіва як, бярозы распускаюцца, воздух, а птушачкі заліваюцца. Гэта ж удавольствіе такое!

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Харкевіч Надзеі Герасімаўны, 1925 г.н. у в. Лабачова Бешанковіцкага р-на.**

## 1371. Ваўкі ў красе

Вот пра ваўкоў расказвалі, што еслі ж яны ў красе зімой, між Юр'я і між Мікола, нільзя хадзіць нідзе. Даўне ж не хадзілі ні па вонку, нічога, гэта ж ваўкі тады там хадзілі. А мы ж во ў лесе жылі тамака ж, у Рачных, і сечас чараз раку лес. І кажаць, ня йдзіце нідзе, і дзед яшчэ з бабай, нядзіце ў ноччы, хаця мы тады яшчэ і не хадзілі надзе. Ну алі ж, глядзі, ну пужалі во гэдак во, а то як воўк.

Ну і кажаць, што еслі яны красой, дык тады нільзя хадзіць па лесе. Еслі сустрэнець ваўчыца, вот будзіць яна там і рваць таго чалавека, так і ўсе будуць рваць, сколькі яна там вядзець іх. Яны ж там стаямі ходзюць, ваўкі гэтыя...

Тата мой баіў, вот успомніла. Кажаць, адзін чалавек пашоў недзе ў лес, але ўжо пад вечар, ці то ў дровы, ці то сена глядзець, ці што, ну ні знаю, за што ён хадзіў, і кажаць, а ваўкі шлі гэты ж, і ваўчыца ўперадзі.

Абасцала яго, дык тады ўсе яго абасцалі. Яго ні чапалі, ні рвалі, нічога, а абасцалі. Вот. І чуць мокры прышоў, увесь мокры і спужаўшысь, і, наверна, і памёр. Во. А каб стала рваць, і ўсе б ірвалі яго. Во гэдак во толькі пасловіцу пабаю.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Плыгаўкі Марыі Іосіфаўны, 1936 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

## 1372. Ваўкі

Ваўкі хадзілі. А я на пасце была. Вось праўду кажуць, калі ваўкі нападаюць, не крычы "Гату!" Раз крыкнеш – болей не крыкнеш. На практыцы спраўдзіла. Ваўкі ідуць, а я крычаць: "Гату! Гату! Гату!" А голас усё цішэй, цішэй. І голасу не стала. Голас прападаець, калі так крычыш. А можна толькі "ту!" ці "га!"

**Зап. Пашкевіч І. і Пракоф'ева Ю. у 2006 г. ад Марковіч Матруны Нікіфараўны, 1927 г.н. у в. Старына Ушацкага р-на.**

## 1373. Сустрэча з ваўкамі

Як я сама ішла ў дарогу, на самой справе гэта было. Бабка мяне пераніла і кажа: "Танечка, куды ж ты ідзеш, ты ідзеш у лес. Не ў дзярэўню, а ў лес. Ты пераначуй. А я заўтра ўстану кароўку даіць, а ты ўстанеш і пабяжыш." А я гавару: "Ці паспею я заўтра на работу, у сталовую?" Патом я заначавала ў гэтай бабкі. А раненька ўстала, гэта было 1-га мая, нясла я буханку хлеба, трошку мукі, мне там далі радзіцелі. А мяне там чатыры ваўкі ўстрэцілі. Не так далёка яны ад мяне былі, метры 3 – 4. Два бальшых – хвасты длінныя, і два меншых. Але нічога яны мне не здзелалі, перайшлі дарогу. Але я так спугалася, бегла, не чувствавала пад сабой ног. Але чую звук калёс: дзядзька ехаў туды, у ту сторану. "Чаго ты так бяжыш, такая бледная?" Я кажу: "Толькі мяне ваўкі ўстрэцілі". Змывалі мяне, клалася, аддыхала і ўсё – нічога не магла робіць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Гаспадарак Тацяны Іванаўны, 1927 г.н. у в. Гурэц Чашніцкага р-на.**

## 1374. У лесе

Бог пасеяў лес. Бог стварыў прыроду, лес. Гэта нават напісана ў Бібліі… У нас тут ёсць урочышча, завецца Залатая ніўка. Бо там вельмі добра ўсё расце. Заўжды, калі ўваходзілі ў лес, складвалі крыжык з галінак, жыгналіся і казалі малітву: "З той гадзіны, дзе свенша Панна Марыя хадзіла…" І тры разы. А потым крыжык з галінак разбуралі. Гэта, каб не ўбачыць змяю. А каб ваўка не сустрэць, жыгналіся і казалі: "Божа спасі ад звера". І воўк пройдзе стараной.

Было і блукалі. Аднаго разу мы паехалі на машыне ў лес па клюкву. Была пасмурная пагода. Было нас 12 чалавек. Машыну пакінулі на ўзгорку і сталі сабіраць ягады, але ягадаў многа не было, і хто пачаў сабіраць грыбы, хто ягады. Былі раздзяліўшыся на дзве групы. Набраўшы ягад і грыбоў вырашылі сабірацца дамоў. Ідзем да машыны, а ўсё вяртаемся на тое самае месца. Чорт так вадзіў нас кругамі… Пакуль малітву не змовілі, не маглі ўсё выйсці з лесу. А потым адразу знайшлі машыну і аказалася, што стаяла яна зусім блізка. Вось і каля Спрэчнага балота, каля Радуты, там заўжды блукаеш і не можаш знайсці дарогу… У лес няможна хадзіць на свята Узвіжаньне, бо ўбачыш гадзіну. На гэта свята збіраецца ўсе гадаўё ў лесе. І яшчэ ў нядзелю, калі ідзе ў касцеле святая імша. Яшчэ няможна спаць у лесе, бо тады заблукаеш ці гадзіна ўкусіць. А як заблудзіш, трэба мовіць пацеры. Ойча наш… і літанне да Маці Божай, каб асвяціла дарогу… Як ужо выходзілі, дык дзякавалі Богу, што даў нам набраць столькі ягад альбо грыбоў.

Калі сьніцца лес, то зялёны – да прыбытку, сухі – да расчараваньня, а сасновы – чужая старана…

**Зап. Савіцкая С. у 2008 г. ад Гарбінскай Леакадзіі Іванаўны, 1933 г.н. у г.п. Лынтупы Пастаўскага р-на.**

### 1375. Каб не сустрэцца з вужакай

А ў лес як выходзілі, дык і мама нас вучыла, дзед із намі доўга жыў, гаварыў як ідзеш ў лес, тады нада вывіхнуць ветачку з лістовага дрэва і за пояс заторкнуць. Гэта было, каб не сустракацца з вужакай, каб і не апасна было.

Калі я ў лесе хадзіла, дзед мяне вучыў, па Сонцу трэба прыглядацца. Адкуль ты ўходзіш, дзе Сонца находзіцца і сколькі ты будзеш па лесу ісці. Ці ты на Захад ці ты на Усход ідзеш, і зь якогу боку мох на дрэве, ну і па сцяжынках па сваіх, па трапінках мы ўжо прывыкалі і хадзілі.

**Зап. Агароднікаў А. у 2009 г. ад Агароднікавай Надзеі Цімафееўны, 1943 г.н. (нар. у в. Мядзьвёдаўка Лепельскага р-на) у в. Чарсцвяды Ушацкага р-на.**

### 1376. Лес

Урочышчы ўсякія ёсць у нашым лесе. Вось “Задаўленнік”. Там нашлі чалавека, каторый вісеў, павесіўся. Вот і названьне такое…

Лесавіка ніхто ня відзеў, а вот што блудзяць... Во, саседка зайшла, тут жа ж блізка, а лес старый такі, дрымучы. Сабірала ягады, а тады не знаіць, куды дамой ісці – кругом поле і лес толькі гэтат, “Стойлы” завецца. Яна ходзіць, ходзіць – прыходзіць на адно месца. Замарылася на нет. Тады села на пень і сядзіць, і гаворыць: “Чорт, чорт! Ну пагуляў ты са мной і хваціць. Пусці ты мяне дамой!” І як пасвятлела. Узнала лес, і дамой прыйшла. Во як было.

Як у лес ідзеш, кусочак хлеба нада браць ад зьмяі. А была адна, яна знала загавор. Хадзіла басяком па лесе. Людзі знаюць, а я не знаю. І нельзя із-за змей хадзіць на Узьвіжанне. Яны сабіраюцца стадамі, вот тады яны очань апасныя. Еслі хоць на адну змяю наступіш – усе змеі могуць цябе укусіць. І гэта ўжо ўсё, смярцельна. А вось на Купалу можна. Дажа хадзілі раньшэ іскалі папарацъ-кветку. Гавораць, што яна цвіціць, і хто найдзіць гэты цвет – будзіць тады шчаслівый. Ну ў нас тут ніхто паблізу не нашоў…

Калі заблудзіш, ну, нада перва-наперва перахрысціцца, абізацельна, і хоць “Отчэ наш” прачытаць, васкрэсная малітва ёсць такая, очэнь харошая. А ўжо як выходзілі з лесу, то сваімі славамі благадарылі, абязацельна.

**Зап. Лутава Г. у 2009 г. ад Шчарбаковай Ганны Філіпаўны, 1940 г.н. у в. Ткачова Полацкага р-на.**

## 1377. Блуканне у лесе

А я сама гэдак у лесе хадзіла. Сюды як пераехала. Ну і пашла па грыбы. На адным месце пахадзіла, тутака чэраз дарогу ў Лясныя і ня бліжэ будзець. І поўна вядро грыбоў. Ну, я цераз гэту дарогу перайшла, ужо пайду напрамік. Як вышла, дык я там неяк не хадзіла, імшара нейкая глыбокая, курганы. І знаю, што ня туды, а я іду, іду. Я пераксцілася і ўспомніла, чым на Вялічка разгавілася. Ну ішла, ішла, і дайшла ў такое месца, дзе мяне пляменніца вадзіла. Лінія бальшая, і цераз лінію бяроза павалілася. І вышла ужо тады.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Аўтух Дар’і Цімафееўны, 1912 г.н. у в. Вашкова Ушацкага р-на.**

## 1378. Зімой у лесе

А мне нада было ў Несцераўшчыну, мы кросны ткалі, ну я і пайду цераз Шалашы. Вот іду і думаю: перайду на тую дарогу, цераз лес там ісці. Як я зайшла ў лес, я заблудзілася, і не на тую дарогу ня выйду, і не на тую. Хажу па лесе, а гэта было зімой і ўжо снег, я і снегу ужо набрала, у чым я была. А чую хто-та дровы сячэць у лесе. Пайду ўжо на гэны стук. Ну, думаю, у мяне быў хлопец у лесе, думаю, сячэць дровы, скажыць: во дурная, па лесе ходзіць. Вот я хадзіла, выйду, віжу – дзярэўня, а мне падаецца гэта дзярэўня далёка-далёка. Апяць у лес іду. Хажу-хажу па лесе, а тады ужо давай хрысціцца у Бога прасіць: “Ай, Божачка, памажы мне выйсці!” І тады я выйшла, замарылася, а ногі мокрыя, калені мокрыя. Пайшла да гэтай бабкі, дык яна мне кажыць: “Ай, дзетка мая, лезь ты на печ!” А я ўжо калені дажа падмарозіла. Яна мне капусты дала кіслай, кажыць: “Тры калені”.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Нікіцевіч Лідзіі Максімаўны, 1926 г.н. у в. Старына Докшыцкага р-на.**

## 1379. Змеі лясныя і хатнія

Каб змяя не ўкусіла, кажуць, хлеба нада ўзяць. Я яе як увіджу, ці пераступлю, дарогу ёй дам. Я яе век ня біла. Сколькі я іх відзела, пойдзеш у грыбы ці мох драць. Увіджу, я ей дарогу пушчу. Яна і пойдзець куды ёй нада.

Бываюць і хатнія змеі, як яны называюцца... Вуж! Ён у хаце водзіцца, ён не кусаець ні чалавека, нікога, ён у каждай хаце, гаваруць, водзіцца, ці праўда ці не. Ён ня ўрэдны, кажуць.

Усякія ёсць, дзетка, ёсь такія, што ўкусіць і каб ей тады скарэй у ваду ўвайсці. Калі ўкусіць, чалавек паміраіць дажа. Нада каб ты ўперадзі пама-чыў ручкі. Сам улез, тады яна памрэць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Духовіч Зінаіды Пятроўны, 1927 г.н. (нар. у в. Краснае Сяло) у в. Будзішчы Сененскага р-на.**

## 1380. Каб змяю не сустрэць

Ад змяі я ўмею, патаму што змеі мне очань паказаваліся. Помню, пашла ў лес за раку ў ягады, дзе ні ступлю – там змея. Кінула, туды за Рачныя прышла ў бор, прыхаджу – апяць ляжыць змяя пад сасной. Я і гэта кінула. Ну асталася дома. Тады пайду ў Якаўшчыну, прыхаджу сюды, гэ-тага галля на венікі наламлю, падхаджу да бярозы – апяць ляжыць змяя. Эта як устрэцісся з якім чалавекам, а я абізацельна ўвіджу змяю. Ну тады яна наўчыла мяне загавараваць, як прыдзеш ў лес, загавары эту малітву. *“Гадзіца белаводзіца, падкрушэўная, падкарчэўная, падпечная, падрэчная, падугольная, падгнойная, гад, гад, вынімай свой яд, свой яд жарасны”*. Вот стоіць мне не прагаварыць эту малітву, забыцца, я абізацельна ўвіджу змяю. А гэта можна гаварыць і як укусіць.

**Зап. Лобач У. у 2009 г. ад Кавалевіч Зінаіды Іванаўны, 1936 г.н., у в. Дзе-дзіна Докшыцкага р-на.**

## 1381. Помста ворана

У нас кала Кугонь стаіць сасна на кладбішчы. Раней была адна сасна. Работалі жэншчыны ўсе, на рабоце былі. А там чорны воран вывадзіў дзя-цей. На магільніку, прама на магільніку. Жэншчыны работалі і зайшліся на кладбішча. А там зваліўся груганёнак, ці іх там многа было. А там была та-кая маладая, у яе было двоя дзяцей. А яна назбірала камянькоў і налажыла яму ў рот, у валюшку. Наткала, наткала, ей інцерэсна было.

А цераз нескалька ўрэмя, эта было вясной. А эта было 8 марта. А яна сама з Калкоў. А дзяўчына ейная ў Віцебску і малец быў, гадоў 10. А му-жык на трактарку работаў. Яны паехалі пад гэту дзяўчыну на трактарку. Пасядзелі, выпілі і ехалі дамоў і во тут во па возеру, яшчэ было не растаў-шы, там мост стаяў, і гэта рака ўпадала ў возера. Там былі прадухі. І ён са сваей сям’ёй у тую прадуху. І яны ўсе ўтапіліся. Дык у нас гаварылі: Мо-

жа, ей груган атамсціў. А гэта ж птушка врэдная. Яна як крычыць, нічога добрага не вясціць.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Кузьмін Ефрасінні Ягораўны, 1931 г.н. у в. Зарэчча Ушацкага р-на.**

## 1382. Буцяны і лебядзі

Дык вы знаеце, што буцян. Падбілі буцяна, астаўся эты буцян. Эта лічна ў мяне эты буцян быў. Астаўся, гляджу – кульгаіць. Я яго ўзяла, этага буцяна. Эта ж яшчэ даўно было, даўно. І мы гэтага буцяна, адгарадзілі яму ў хаце. Ён, эты буцян, выйдзець, пад'есць, і пашоў абратна. Як мяне за язык пацягнула! Эта да Благавешчання, эта пра буцяноў праўду гавораць: “Хоць снегам падаўлюся, а да Благавешчання я яўлюся”. Я кажу мужыку сваёму, Паўлу: “Ай-яй-яй-яй-яй, чалавечак мой, буцяні прыляцелі!” А гэты буцян падняўся, печ затапілася, падняўся, ножкі склаў вот так ў кучачку – прыг! – у печ і згарэў. Яны ж усе парамі, а ў яго пары не было.

А яшчэ як прайшэсьцвіе раскажу, эта ж дзеці зробілі, то ўжо то грэх, нільзя. Гняздо было ў нас. Буцянова. А яны ўзялі, яйцо гусінае ўзняслі туды і палажылі ў гэта гняздо. Буцяніха вывела, вывела этых – гэтага гусянёнка і свайго буцянёнка. Як наляцелі буцяны, як жа білі этую буцяніху – яна ў вакне відаць у нас во так во, як гэтыя во дрэвы. Як жа яе білі этую буцяніху! Этая буцяніха паднялася, скінулі буцяны й свайго дзяцёнка, этага буцяна, і гэтага гусянёнка скінулі. А яна паднялася вісока-вісока і разбілася над гняздом.

А цяпер яшчэ раскажу. У Валосавічах прыляцелі былі лебедзі. Лебедзь з лебядзіцай, яны ж печатованыя. Ну хто-та ўзяў ды лебядзіцу і забіў. Забіў лебядзіцу, а гэты лебедзь падняўся вісока, падняўся, ножкі склаў – і разбіўся. Дык так яны любяць адзін аднаго. Эта залетась было, залетась. Вот. І разбіўся. От не нашлі, судзілі б іх. Ды не нашлі, хто гэта здзелаў, хто лебядзіху застрэліў.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф'і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

## 1383. Буслы-вешчаўнікі

У мяне ўнучка Наташа ўбірала ў поле картошку з сынам Колем, а яны прыляцелі. Адзін на адным стаўбе, другі на другім. А яна гаварыць: “Бабушка, гэта нехарашо, што ён прыляцеў сюды”. На табе, сколькі прайшло – дзед умер. Да, гэта, гавораць, вешчаўнікі.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Дзямідавай Надзеі Ісакаўны, 1924 г.н. у в. Пярно Віцебскага р-на.**

## 1384. Курыца б'ецца ў вакно

А помніш той случай, як курыца стукалася ў вакно? Мы сабіраліся іці на танцы. У армію пляменніка адпраўляць. Бываець жа так. А дачка ма-

ленькая была, чатыры годзікі. Сабіраемся іці, а курыца белая падымаецца і ў вакно стук. І другі раз падляцела і ўдарала. Я кажу: "Знаеш, Іван, ня пойдзем мы на гэтая. Хаця твая сястра абідзіцца. Птушка малая б'ецца і то, а то курыца ў шыбіну і раз, і два".

І ў гэту ноч якраз мы дачку малую адвязлі ў бальніцу і здзелалі ей аперацыю. Апендзіцыт. Каб не курыца, мы б дачку ўтрацілі. Курыца падымаецца і ў вакно. Эта ўжо ніякая не зваджэння, эта была. Чатыры годзікі, а ей апендзіцыт здзелалі.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Катульскай Ніны Сцефанаўны, 1938 г.н. у в. Падрэзы Чашніцкага р-на.**

### 1385. Птушкі вяшчуюць

А вот сава, як кугакаець, яшчэ баба не бярэменная, усё-роўна накугакаець. А яна неяк яшчэ крычыць… Яна крычыць і на хрэсбіны, і на свадзьбу, і на пахароны, крычыць гэта сава. А ўжо як кугакаець,то, кажуць, ой, сава кугакаець, будзіць ў цябе малы. А кукушка, расказывалі, тожа на бяду кукуець. Прыляцела на яблыну, і яна сама гэта баба: "А табе ж якая скула нада!" – кійком, яе сагнала. А яна трохі адляцела, селася на зямлю, і кукуець, і кукуець, і рады нет. Цераз нескалькі гэта баба памёрла.

Бываюць сінічкі, ці там якія зімой, на сцюжу, кажуць, лятуць у вакно, а бываець і на смерць, еслі ўжо чалавек такі хворы ў хаце ці што. Тады ўжо гэта птушачка дзюбкай б'ецца, відаць, скора забераць яго гэта птушачка.

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Глебкі Любові Віктараўны, 1928 г.н. у в. Івесь Глыбоцкага р-на.**

**1386.** Адна баба расказавала, што ішлі з танцаў, а ў хаці ўмірала дзяўчына ці хто там. І галуб сядзеў на вакне, на раміне. Галуб прыляцеў. А ў яе дзяўчына памёрла. Гаворaць: "Я стаю кала акна і званок зазвінеў. Матка мяне атагнала". А я ей: "Эта табе здалося. Сколькі ў мяне ўмірала на руках, нідзе нікога німа". А яна чула званкі зазвінелі і дзяўчына стала ўміраць. А галуб сядзеў на раміне. За некім прылітаець, як ангел ці як.

І як кукулка пад вакном, гэта дрэнна. У нас баба Арына памёрла. Ужо бальная была, я даю карове, а сарока прыляцела. А памёр яе брат дваюрадны, гаворaць, што кукулка прыляцела пад вакно. І стала кукаваць. Яна гаворыць, што памёр Іванька. І точна.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г ад Мацieўскай Маі Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

### 1387. Птушкі – знакі

Калі птушка ў вакно б'ецца, мама казала: "*Харошае кідай на страсе, а дрэннае нясі на хвасце*". А еслі птушаня будзе біцца некалькі дней, то

нехта ў хаце памрэ, ждзі пакойніка. У Соні вот, як мужык памёр, павесіўся. Кажа: “Толькі ляжам, птушка стукаецца ў акно, ледзь шыбы не выбівае”. Яна ўжо і чакала, думала і пра аднаго сына, і пра другога. Тут, бац, чэраз некалькі дней вешаецца мужык. Прымета да, што еслі птушка неаднаразова б’ецца ў шыбіну, ждзі смерць.

А вот у мяне памёрла сястра, чатыры гады назад. Я ездзіла к ей летам. Я прыехала к ей зрану, птушка ў хаце лётае, заляцела ў хату птушка. Ну і я прышла, і пытаю: “Чаго яна ў вас тут лётае?” Ну, яна ляжыць у койцы і ўмярла. У скорасці. Адкрыта было калідор і дзверы ў хату, летам было, жарка.

А зязюлю вясной як першы раз учуеш, абавязкова нада з кармана кінуць грошы, каб не жыць у беднасці. Кінуць з кармана, з кішэня грошы на зямлю. А як паснедаўшы выдзіш на двор і пачуеш зязюлю, а ў кішэні няма нічога – год галодны будзе.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Кобы Ніны Кузьмінічны, 1932 г.н. і Сталіковіч Людмілы Сяргееўны, 1959 г.н. у в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.**

## 1388. Зязюля вяшчуе вяселле

Ідзём з бабамі на работу, а тут кукуець кукушка. Бабы кажуць: “Дзеўкі, кукушка кукуець, значыць, на якой сасне, падыйдзі, платок з галавы і абвяжы. А тады спытай: *“Кукулка-зязюлька, колькі мне гадоў да замужаства”*. Я кажу: “Дзеўкі, я січас падыйду”. Стала да гэтай сасны, хустку з галавы, абвязала, сказала. А яна кукнула і заікнулася. Адзін раз кукнула і ўсё. Ай, дзеўкі паднялі на смех, што замуж зайдзеш. Эта вясной було, а ў сенцябрэ свадзьба была. Во як.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Балотнік Валянціны Фёдараўны, 1924 г.н. у в. Сцюдзёнка Лепельскага р-на.**

## 1389. Мядзведзь дзякуе

Уродзе ён людзей панімаў, мядзведзь. Расказаваў мой бацька, мядзведзь загнаў у нагу нешта. У яго лапа як рука. Прышоў і во так задзіраець, каб дасталі, што загнаў. Эта мой бацька расказаваў, што ён выдзіраў мядзведзю, а ўсе баяцца. Яны ўцікаюць, а ён: А-а-а-а! А ён ззаду. Тады бацька дастаў той сук. І ён галавой пакалаціў во так, сагнуўся, паспасібаваў. А тады прыносіць скрыль мёду, што яны яго спасьлі. Эта бацька мой расказаваў.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кульба Яўгеніі Васілеўны, 1913 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

## 1390. Вужы

Узьдвіжаньне бывае. Да, толькі калі? У сенцябрэ, можа, у канцы. Хаваюцца змеі ў гэты дзень. Помню, после вайны хадзілі мы на дзялянку, чатыры дзяўчыны. Там лес рубілі, а мы сучча паліць павінны былі. Там ёсьць месца такое. Запалілі мы кучу, а там вужы былі. Ай, каб вы відзелі, як мы раўлі! Але потым увідзелі, што гэта вужы, а не вужакі. Ад вужакаў замова нейкая есць. А ў гэты дзень вужы хаваюцца. Адна дзяўчына біла іх дубцом. А мы крычалі. Адзін раз на жыцці ў брусніцы пайшла. "Ш-ш", – чую. Зашыпела вужака. Але, абышлося. Вось, кот еслі цапнець вужа – вуж нежывы. Абы толькі лапай царапнець. Як такі яд у ката. Вуж у хаце калі – малако п'е. У кароў п'юць, у хляву да цыцкі прычэпяцца. Сама ня відзела. Па разгавору.

**Зап. Пашкевіч І. і Пракоф'ева Ю. у 2006 г. ад Марковіч Матруны Нікіфараўны, 1927 г.н. у в. Старына Ушацкага р-на.**

## 1391. Пра змей і вужоў

Абязацельна зьмяю нада біць. Зьмяю нада біць – яна ўрэдная. А зьмяя як ж парочыцца, ніхто ня відзіў. Ня відзелі, як парочыцца? А я відзела. Абкруціцца кала дрэва, і яны – іх бо ж мора было, бог ведаець колькі – і яны валяцца, а яна іх хватаець і есьць. А зьмяя есьць сваіх дзетак. Яны сыпяцца, а яна іх хватаіць, яна іх хватаіць, кала дрэва абкруціцца. Лічна сама сідзела, лічна сама сваімі вочкамі відзела. Ну, некатарыя ж зваляцца, ня ўсіх жа яна пахватаіць.

А гэта самае, а гэта знаіце што, а вуж, вуж ня ўрэдны. Вуж, не вужака, а вуж, вужы такія жоўценькія. Дажа даўней прыдуць, матка з бацькам вот прыдуць. І даўней жа ж пасцеляць дзіцям малым на палу, яду паставяць і тыя ядуць, а самім ж робіць жа нада, даўней жа не плацілі. І вуж зь імі есьць, з дзеткамі. Вуж ня ўрэдны, вуж у кажнай хаце есьць. Гэта добра, што ён ёсць у хаце. А гэта самае, і ластачка ў кажным хлеве есьць.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф'і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

## 1392. Вужы

Павесіў адзін чалавек бот, а вуж узяў і ў ім знёсься. Чалавек глядзіць – яйцы. Ён іх забраў і пайшоў. А вуж папоўз і ўторкнуў у пяць банак малака жала. Чалавек увідзіў, дагадаўся, яічкі назад аднёс. Ды вуж абкруціць хвастом – бабух, і ўсё тое малако павыліваў. Во як было.

**Зап. Валодзіна Т. ад Баранавай Ф. І. у в. Камень Лепельскага р-на.**

**1393.** Малыя мы былі. Даўней пойдуць усе на поля работаць, а мы дома. Паставюць місачку на палу есьці, а яны вылезуць з-пад печкі і тады мы ядзім сабе і яны во так перакуляюцца і хлёп-хлёп-хлёп. А мы ложкай яму трах! А ён: сьсьсьсь! Гэта я сама робіла.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Кульба Яўгеніі Васілеўны, 1913 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

**1394**. Расказавалі, што малака мама наліець у міску, паставіць есьці. Сядзем есьці, а нас было многа есьці дзяцей. А ён залезець у міску к нам і тожа хлібаець. Іх многа было, вядома, лес тут. Біць не нада. Мы яму ложкай дадзім па лбу (сьмяецца).

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Сідзяк Ларысы Пятроўны, 1915 г.н. у в. Валова Гара Лепельскага р-на.**

### 1395. Каб не ўкусіла зьмяя

А мяне свякроў вучыла так: у лес як заходзіш, увідзіш змяю первы раз, так стыдна гаварыць, плацьце задзірай, трусы, а тады: *“Як мая задніца голая, каб вас так было гола!”* І праўда – ні разу тады зьмей не ўвіжу.

**Зап. Лобач У. у 2007 г. ад Маліноўскай Марыі Іванаўны, 1935 г.н. у п. Сураж Віцебскага р-на.**

### 1396. Бабёр

Вот бабёр ёсць, бабра біць нільзя. За бабра судзяць. Бабёр – у нас, у Таронкавічах возера – у нас быў. Я сама яго відзела: чорненькі. Бабёр любую рэчку загрузіць. Ён перагрызець о-такое бярно, любую рэчку загрузіць, што вада ня пойдзіць. Вот. І мыецца, як чалавек, і плачыць. Бярэць у рукі – я сама відзела ў Таронкавічах у нас – бярэць у рукі, чорненькі такі. Ну, во такі, як сабака. Мыецца і плачыць. Ваду бярэ во так во, мыецца і плачыць. Бабра я сама відзела.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф’і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

### 1397. Балота Вялікі Мох

Была блудзіла. Тады як прышла, а хацела ж узнаць, які той Вялікі Мох, такое што там. У нас там, дома рэдка дзе балотца, во такі маленькія кускі. Завялі тады мяне на першым гаду, мусіць, як прышла. Во саседзі: “Пайдзём, – кажуць, – у брусніку”. Пашлі. Ну, як із імі, я ж набрала, прышлі дома… А мне ж хочацца яшчэ, пашла адна. Пашла і заблудзіла. А за-

шла там, дзе Буды тыя, я ж шла: ветачка там, ветачка там, я ж хватала, штоб болей набраць, і ня ўвідзела, куды я зашла. Што рабіць? Зашла, дамоў жа ж нада ісці, набрала сваю кашолачку, а куды, ні знаю. Сцежачку на нейкую утрапіла, на трапіначку. Ну, маладая ж. Як дам-дам у адзін бок, – мох, топка, сцяжынка кончылася. Тады, як этат во вожык із зайцам лётаў, дык і я. Як дамся ў другі бок, а тут тады балота. Ну, не туды, не знаю куды. Ну тады, ну што, стаяла, стаяла, думаю: “Ну, куды дзецца, куды дзецца? Пайду…” А як выйсці, калі балота скрозь, не знаю куды? Ну тады неяк, не знаю як, стала Богу маліцца, і Бог мне вочы прыасланіў, падымаю неяк, да берага неяк я падбежала. Я далёка не адхадзілася. Жыта. Ну раз жыта ёсць, значыць блізка дзярэўня ці што, поле, выйду. А там нейкія дрэвы бальшыя, кладбішча. Чуць выбралась, ішла, ну тут ужэ неяк была прайшоўшы, ужо знала... Вот страху было. Думала: “Зайду і не вярнусь. Ніхто ня будзе знаць, дзе я”.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Міёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

## 1398. Ягады

У ягады ня толька мае, тут уся вёска хадзіла. Выйдзець цэлае стада іх атрад па дзесяць па дванаццаць чалавек, і болей. Збіралі, сколькі панясець. Тады ніхто паняція ня меў пра збіралкі, збіралкамі гэтымі, не. Эта после сталі збіралкі. А яны рукамі. Сколька панясуць, і паўмеха, і мех, і болей. Журавіны

А тады і пад’ежджаем, бываець, калі, то на кані, то на ровэры, то якнебудзь падойдзеш, дзе ўжо, як выцягнуць яны з Моху. А грошы не давалі адно врэмя. Як павязлі здаваць ягады ў Германавічы, прывозюць сем мяшкоў сахару! “А што вы будзеце робіць з ім?” Ну а што: яны так прадавалі, прадавалі.

Аснаўное тут – журавіны і гэты во чарніцы шчэ ёсць, п’яніцы. П’яніцы за тое, што ад іх можна напіцца, вот яны за тое, мусіць, і завуцца. А мой брат… Тутака вот такога случая не было, а мой брат быў напіўшысі п’яніцамі. Пашлі ў ягады, гэта яшчэ панскі лес там быў, але ўжо не было паноў, яны шчэ дома былі. Пашлі, а мама кажаць: “Ня ешце многа п’яніц!” А з п’яніц каша смачная, варылі… Бурак, буракі сахарныі, бурака туды нарэжаш у гэткую ваду, ягад насыплеш і зварыш, сразу буракі паварыш… А чым было саладзіць? Саладзілі гэтым самым, буракамі. Смачная каша, стаўчэш, гусценькая такая, сёрбаеш, апеціт...

Ну і што, патом брат думаў, што мама сварыцца, каб ня еў, а яна баялася, каб ён не напіўся. І ўсё, і паваліўся ў лесе, чуць прыцягнулі. Выцягнулі з лесу яго, там атлежаў. А тады на кані паляцелі дамоў, бацька коня запрог, прывёз дамоў. А як адцягавалі! У канаплі лажылі. Цяпер кажуць: “Канаплі няможна, наркоцікі”. Якія ж яны наркоцікі! Даўней прыкідалі кашу, бліны макалі ў гэтыя канаплі, у мак, а цяпер – наркоцікі. І ніхто п’яніцам ня быў! А цяпер выдумаюць якую, наркоцікі. Ну. Маку неяк сееяць. Во брата ў канаплі палажылі, паляжаў, паспаў і адышоў, і ўстаў, і пашоў. Ніколі не забудуся.

Цяпер ня так. Ай, па адным ходзюць, хаваюцца, каб дзе, дзе хто найдзець лепшыя ягады, не чакаюць адзін аднаго. Уперад хадзілі, дружнейшыя былі людзі, уперад хадзілі стадай, а цяперака – па адным, каб ніхто ня відзеў, як куды хто йдзець. Жадныя зробіліся, завідныя. Не скажуць, дзе там ягады болей ёсць ці што. Пашла тут да саседкі. “Ай, – кажаць, – ягад нет!” “Што вы гавораце, – кажу. – Сын хадзіў на Мох, там нада было яму, з Мінска пазванілі, там нада было яму птушак якіх найсьці. Хадзіў, – кажу, – п’яніц, гаварыў, што дужа многа”. – “Нету! Што вы гавораце?” Ну, але сціхлі. Я кажу: “Ну я ж не пайду збіраць вашы ягады. Смела кажыце мне ці ёсьць ці нету”. Ну, але ж ходзюць. Некаму ўжо і хадзіць дужа, але папрыяжджаўшы ў госьці...

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Кавалёнак Ядзвігі Янаўны, 1935 г.н. (нар. у в. Вісяты Міёрскага р-на) у в. Васількава Шаркаўшчынскага р-на.**

## ЧУЖЫНЦЫ

### 1399. Стараверы

А раньшэ, я ведаю, дзяўчонкай была, дык захацела піць, а там, па суседству і хачу піць. Тады я на мальца на іхняга: “Ваня, дай мне папіць”. А ён кажыць: “Ты знаіш што, Сямёнаўна, ідзі, вазьмі кружку і зачарэпні, і быттам ты мне прынясеш. А я скажу: “Ці нясеш ты мне вады там папіць?” “А ты напіся там”. Ну ён малады ўжо, не прызнаваў. А так ні дадуць. Аддзельная кружка, такі палонік, чарпак у іх называўся. Гэта, гаворыць, ужо беларуская кружка, паганая. У паганую кружку нальюць і пі.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Варкулевіч В. С., 1921 г.н. у в. Вайловічы Шумілінскага р-на**

**1400.** Маскалей у нас нет. Гэта знаіце дзе маскалі – у вас у Полацке, у Задзвінні, там дзе Экімань. Вот нашы хадзілі як туды людзі, работалі, мой бацька яшчэ быў малы тады. Гаварыў ноччы як ідуць яны і яны тады, ета, перадзяваюцца, каб белага не было нічога відаць. Ну ноччу ж тады нападуць [маскалі], як відаць. А тады ціха ў пацёмку пройдуць. А ў нас такіх не было.

**Зап. Аўсейчык У., Шэршань А. у 2005 г. ад Бадак В. І., 1929 г.н. у в. Малое Сітна Полацкага р-на.**

**1401.** Быў тут у нас старавер. Добры быў мужык, любіў украсць штонібудзь. Вот, пойдзець агурцоў накрадзіць, прынесіць на свае градкі, насыпіць і гаворыць: “А як агурцоў урадзілась, адгробу нет”. У маей свацці курэй, прыйшоў лавіць, курэй суніць у мяшок. Яна гаворыць: “Максім, што ты дзелаеш, Максім? Я ж знаю што та ты, Максім, што ты дзелаеш”. А ён ловіць курэй і садзіць у мяшок. Патом прыйшлі рабяты і ён кінуў гэты мяшок і пабег дамоў. Ну а кагда дзеньгі аддалжаў ён, вот, іменна, скажыць: “Аддам табе чэраз нядзелю”. І ён у другога аддалжыць дзеньгі, а мне прынясець і аддасць.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Балашэўскай Е. М., 1928 г.н. у в. Саладухі Шумілінскага р-на.**

**1402.** Вот у нас тут жылі стараверы за лесам. Мой свёкр расказваў: “Павялі [два браты] карову прадаваць. Ён гаворыць, братухна, памажы ты мне карову прадаць. Вот павялі гэту карову, прадалі. Назад ідуць. Чэраз лес нада ісці і етат брат будзе гаварыць: “Братухна, звяжы ты мне, ета, рукі”. Панімаеце, прывыклі грабіць. “Звяжы ты мне рукі”, – каб ён не атабраў дзеньгі. Ён мог бы яго ўбіць, стараверы так маглі здзелаць.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Балашэўскай Е. М., 1928 г.н. у в. Саладухі Шумілінскага р-на.**

**1403.** Я ў маскоўкі на кварціры жыла. У мяне радзікуліт быў. А маскоўка дужа празнікі атмічала. І гаворыць: “А што ты ляжыш? – а я на бальнічным с радзікулітам, – нада пол мыць”. А я гавару: “Прыйдзіць Міша с работы і памыіць. Я сагнуцца ні магу, я падняцца ні магу”. “Да, – яна гаворыць, – во здурыў, ждзець-дажыдаіцца Мішка пака пол прыйдзіць с работы памыіць”. Ну я тады злезла. Яна каўкала, каўкала пакуль я злезла, кружкай у таз вады нанасіла с вядра, падняць вядро не магла. Ну і на кА-ленках мою, слёзы кацяцца. Трапку выкруціць ні магу, павірнуцца – спіна баліць.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Маскалёвай Т. Дз., 1935 г.н. у в. Івоніна Шумілінскага р-на.**

**1404.** Ну хто іх ведаіць. Маскалі рыжыя, барадатыя, такія як і нашы, толькі што яны сваімі форсамі, што даюць нам паганую кружку піць. Ні тэй кружкай, што яны п’юць, а паганую даюць, ну, якую-нібудзь з кансер-вы такую банку даюць, а можа кружка такая ім ні нада ўжо. Ну, даюць гэта ўжо мужыку піць, а сваю не даюць... Яны ні так і богу, і хароняць ні так. Яны памін ня дзелаюць каб які быў. Памінкі былі, алі ж ні гарэлкі на стале, нічога ні было. Зваруць пшаніцу такую, нятоўчаную, – гэта куцця. Яны куццю рабілі, пшаніцу нятоўчаную, ніякую, троху паваруць і памінаюць. Ну, у нас жа кладбішча блізка вязуць, а ў іх за сем кіламетраў. Тады ўжо ў хаце яго памінуць, вынясуць на двор, а тады павязець адзін туды, за сем кіламетраў. Ніхто ні праважаў. Павязець адзін, а там ужо памогуць яму закапаць, гроб сняць і закапаць. У хаце ён ляжыць ні на куце, так як у нас, а ляжыць на скамейке збоку. У мяне ўжо быў мужык-маскаль, дык я ўжо хараніла яго па-свойму. Такія яны выдаюцца багатыя, а як у самым дзеле – ні былі яны багатыя. Бароды бальшыя, ваабражаюць, што яны маскалі, у Плісах там былі. Надзенуць рубахі длінныя, ходзяць старыкі.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Дзягілевай А. М., 1912 г.н. у в. Пятніцкае Шумілінскага р-на.**

**1405.** Маскалі ёсць і цяпер. Дзве хаты ў нас там... Там адна маскоўка жыве і тры сыны, і ўсё. А так усе павыехалі. Цэлыя дзярэўні былі. У Тураў-шчыне жылі. Там і цяпер тая бабка жыве. Яна, і тры сыны, і ўсе нежана-тыя, і жывуць гэты маскалі. Ну, яны гаварылі неяк не па-нашаму, і верылі неяк не па-нашаму, і кладбішча ў іх аддзельнае, яны хавалі радзіцелей ці там каго. Ну, яны верылі прама як жыды. Яны верылі не так, яны молюцца не так. Ну, яны кладуць во рукі, а нашы во так во крысцяцца: ва імя Айца і Сына і Святога Духа, амін. Мы. А яны толькі нешта кажуць самі сабе, і толькі во – рукі складзець, і ўсё. Крыж не такі. У нас крыж во ставіцца, а

цяпер во – памятнікі, а ў іх яшчэ во так, і тады яшчэ палка вот так, і зверху як крыша ababіта.

**Зап. Красько Г., Лях В., Палякоў Д., Радзюк А. у 2008 г. ад Пшоннай Таццяны Міхайлаўны, 1922 г.н. у в. Гілі Чашніцкага р-на.**

**1406.** А вот было нешта ў іх такое, што с аднэй кружкі маскаль, калі прыйдзеш к маскалю, ён не хацеў даваць дажа папіць. А калі ўжо далі, у іх была аддзельная кружка. Вот гэта і я помню. Бацька казаў, матка калі-нібудзь. Тут, у Ірынполлі маскалёў многа.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

### 1407. Скабары

У Варонічах маскалі былі. Яны нейкія маскалі і скабары ёсць. Маскалі і скабары. Вот у нас дзелаецца хрэст во так, а ў іх вот так яшчэ. Відзеў? Вот так і тады вот так яшчо палка. Вот стаіць нехта паставіў у Варонічах, як едзеш на рэчку, тамка аграда і там во такі памятнік стаіць. А там-ка тожа, каля рэчкі жыла тожа гэтая маскалька, як яна казала: "С рання паела, с ракі вады напілася". Ну, а мы хахаталі.

Паганая кружка. А, гэта да! Кажуць, пагана крушка нада. І во тут былі, як яна дзярэўня, каля Полацка, як мы ездзілі. Тожа. "Дай, – мальцы кажуць, – вады папіць". А гэтат адзін маскалёк маленькі, ну пацан кажаць: "Нет паганай кружкі". А той, наш малец, злавіў яго і ў рот наплюваў: "Во табе паганая кружка!" А той калкі павыламываў і то тыя мальцы тожа калкі павыламывалі. Драку зацеялі такую, што маскалёў пагналі. Сільныя гэтыя мужыкі. Вот такія…

**Зап. Аўсейчык У., Філіпенка У. у 2006 г. ад Берангоўскага Бенедзікта, 1929 г.н. у в. Сушына Полацкага р-на.**

**1408.** А вот гаворыш скабары, скабары. Скабары – гэта ж не нацыя. Скабары – гэта ж, як Пётр I быў у власці, і тады ж, а што тады ж… Ён абязаў Наўгароцкую обласць і Пскоўскую, і яны пастаўлялі для развіваюшчага флота скобы. І вот гэта Наўгароцкая обласць і Пскоўская скабарамі завуцца, скабары. Гэта было, вот звалі наўгародцаў і пскавічоў гэтых скабарамі. Яны для флота ў то царскае урэмя дзелалі скобы. Ну і вот скабары і скабары, гэта ніякая там ні нацыя, ні што, ні прафесія. Ну, але кажуць: "Скабар хужэй маскаля". Скабар, кажуць, уб'ець чалавека, пяць пятніц атпасьціў і ўсё, і граха няма.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Берангоўскага Бенедзікта, 1929 г.н. у в. Сушына Полацкага р-на.**

**1409.** Яны нейкія скабары-маскалі. Во ў нас дзелаецца хрэст, во. А ў іх так яшчэ, такі шасціканечны. А тамака тожа жыла каля рэчкі маскалька. Як яна казала: с рання паела, с ракі вады папіла, а мы тады хахаталі.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Дрангоўскага В., 1929 г.н. у в. Сушына Полацкага р-на.**

### 1410. Маскалі-канакрады

А, гэта яны дзелаюць, крадуць! Гэта яны, гэта як цыгане. Я знаю, што мне расказваў адзін, у Праварышчы жыў на хутары, і што гэтат, ён тожа краў коні, з ім былі з-пад Віцебска маскалі. Гэта маскалі прыязджалі. Кажыць: "Прыедуць к табе коней красць. Будзь на чыку". А ў яго два ружжы, два пісталеты. І з сынам, і сабака, ён ужо пілнаваць стаў. Там-ка броўны ляжалі, каля броўнаў і на броўны ён залез. Ждаў, ждаў, нет і нет.

А потым прыязджаюць у адну ноч. Луна. Адзін нясець мяса сабаку, і нажоўку, як яго, ну нажоўку піліць, лапу гэту драць. Ідуць ужо ў хлеў коней вывадзіць, а ён ім як улупіў па нагах. Ага, заваліліся. А ён кажыць: "Ваня, Ваня едзь сюда!" А ён і Ваню ўлупіў. Ну ўлупіў, і ўсе яны калекі паўкачваліся. Я яму прыказаў ня біць, каб яны ўехалі. А яны узялі і ўехалі. Уехалі ў лес з выстраламі, каб зналі, што ў іх аружые тожа. Ну баіцца, думаець, прыйдуць, спалюць тут усё. Усё ходзіць, ноч пільнуець. Тот ходзіць і з сабакам і ўсё. На хутары жыў, паміж лесу.

Гэта не цыганы былі, а маскалі. Тады гэты гаварыць: "Усё, ты добра ім даў, ні адны ўрачы… Зато добра ён па нагах та ім даў, па каленьках, налажыў та ім. Ну, кажуць, і смелы ты, бо ўжо коней красць не будуць".

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Берангоўскага Бенедзікта, 1929 г.н. у в. Сушына Полацкага р-на.**

**1411.** Гэта толькі пад Полацкам, там, тут не было (старавераў). Да, ну яны ваабшчэ гэта саблюдалі такое, гаворуць, як старыкі гаварылі, што ім і пост там і якое гэта. Ну я гэта ні знаю, ня відзіла іх. Так можа і відзіла, ну маленькая была.

**Зап. Аўсейчык У., Батура Я., Лобач У., Філічкін А. у 2005 г. ад Сокалавай В. І., 1934 г.н. у в. Шэндзялы Полацкага р-на.**

### 1412. Пахаванне стараабрадніцы

Я, як вучылася ў Віцебску, дык стаяла на кварціры. А радам жыў старавер. Помню, гэта суседка, дзе мы на кварціры былі, Надзя, яе тожа звалі, прыходзіць і кажа: "Хочаце ўбачыць як стараавераў хароняць? Хадзіце!" Мы пайшлі ўдзвюх, з падругай я прышла. А яна ляжыць у розавым чахле. Розавы чахол сшыты, як мяшок. А тут на шнурочак так зацягнута на галаве. Нічога, ні ліца, нічога А тады стараверы, сівабародыя такія, панеслі яе

на плечы, панеслі яе на Полацкае кладбішча ў Віцебску. А так у нас стараверaў нет.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Азевіч І. у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Полацкага р-на.**

**1413.** Кралі яны, вот гэта самае. Фэст быў і яны паедуць там усе, гэта маскалі, і тады панравіцца дзеўка – украдуць у воз. На канях жа даўней ездзілі, ні было машын. Ну, украдуць, прывязуць хто. Тады астаецца яна. А патом ужо і свадзьбу іграяць, як сайдуцца. А бываіць заверніцца і паехала маладуха гэта, і так было.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Шыдлоўскай Л. І., 1924 г.н. у в. Гліншчына Пастаўскага р-на.**

**1414.** Яны гэта красці, яны любілі. Алі ў нас, во тут, быў маскаль. Дзярэўня наша Гліншчына завецца, а тамака Рамзава, дык там ужо нічога нет, усё зняслі. Там узаралі, хаты пазнасілі. Ну я ні скажу, што яны кралі, я нічога ні скажу.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Трапук З. К., 1923 г.н. у в. Гліншчына (раней Пятровічы) Пастаўскага р-на.**

**1415.** А старыя маскалі дык, гэта, коні любілі, вупраж. Як прыедуць у Лучай, фэст быў, з'іжджаліся яны на Пакрову. Коні убраныя, тамака, аж паласкаваліся. Ай, біліся, забіваліся. Забілі аднаго, дык зацягнулі, алі неяк на Пакрова снег пайшоў, во гэта. У кустах найшлі яго забітага, па крыві, як яны цягнулі. Маскалі маскаля забілі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Шыдлоўскай Л. І., 1924 г.н. у в. Гліншчына Пастаўскага р-на.**

**1415а.** У Лучаі староверы былі, у іх была кірка. У нас царква завецца, у праваслаўных, а ў католікаў – касцёл. Ну кірку гэту разабралі, а на гэтай кірцы быў пятух вот стаяў. Кірка гэта звалася іхняя царква, а на верху такая піка, на ёй пятух быў. Разабралі гэту маскальскую кірку, а паставілі на гэтым месце магазін. А іхныя маліліся ў Лучаі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Трапук З. К., 1923 г.н. у в. Гліншчына (раней Пятровічы) Пастаўскага р-на.**

**1416.** Плотнік быў маскаль. Хадзіў, такія рамы дзелаў раньша, ну ён памёр. Па дзярэўнях хадзіў, рамы там, сталы, з Гародна. І жонка маскоўка была. ... Очэнь харошы чалавек. Выпіць ён любіў канешне, ну харошы. Ён там рамы дзелаў у вокны, дык ён жыў у нас нідзелі дзве, бывала. І выпіць яму, і паесць, і курыў... Доскі пілілі ўручную маскалі, старыі, ну і печкі

можа дзелалі каторыя, і рамы дзелалі. Очэнь дарагі чалавек. І разьба па дзераву, усё што хочаш, усякія інструменты былі.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2005 г. ад Маскалёвай Т. Дз., 1935 г.н. у в. Івоніна Шумілінскага р-на.**

**1417.** Ані рускія старай веры, і я з імі жыла ў аднэй хаце ў адно ўрэмя, і я іх немного капірую. Вот у нас качарга, у печцы памішаць, а ў іх – клюка, а мы завём вілкі такія, што чугункі с печкі браць, а ані гаварат ухват, у нас скварады браць – чапяла завецца, а ані гавараць – падсквароднік. Патом, гавару, мне нада хату замкнуць, а ані гаварат: “ой, нада ізбу замнуць”. Толька ў рэчы разніца. Но ані не праваслаўнай веры, у ніх старая, руская, а я праваслаўнай веры іспавіданія.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1418.** Ані самі мужыкі ваабшчэ ні курылі. А калі сорак лет, ані атпускалі во такія бароды, у сорак. Да сарака брыліся. Красівыя, культурныя, а ўжо сорак лет – с такімі мётламі хадзілі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1419.** А тады ў іх такой парадак. Ані прыносяць вядро і ваду для піцья і варуць яду і ўсё. У іх вядро накрыта дашчэчкай, на дашчэчцы стаіць кружка для сваей сям’і. Вот, а кагда я прышла, с людзьмі добра, ані ні дадуць са сваёй кружкі. Ані ідуць у буфет за другой кружкай, даюць мне ваду. А я гавару: “А для чыво вы вядро накрываіця?” – “Штобы бес ні купаўся”. А ў нас чорт, а ў іх бес.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1420.** Ну вот клічка, клічкі прыдумалі народам, ну ў нас палякі, палякі, каталікі. Ну гэтыя каталікі самі сябе шчыталі палякамі, эта ніверна. Ані радзіліс, ані па дакументах беларусы. Ну яны, іхны ксёндз па-польску раньшэ, а цяпер ужо па-беларуску, дык у нас звалі гэтых палякаў, Каталікаў, пшэкі, а іх пачыму-та празвалі старавераў “маскалі”. А яшчэ прыдумалі “кацапы” на іх. А нас, праваслаўных, нікак ні празвалі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1421.** Дык маскалі прыхадзілі ў Лучай, танцавалі с намі. Я с адным маскалём любов закручавала, Надзя, і ты з адным, імя Садок, а мяне праважаў Коля. А ў іх іміна такія: Ціток, Садок, Марат, Кліменцій, Лаўрэнцій, Патап, во такія во. Нет, мненія а ніх очэнь харошае, очэнь культурныя, ну

была в то врэмя, быў мой год трыцаць пяты, я магла танцаваць з маскалямі і танцавала, і мяне праважаў з дзярэўні з танцаў, і яе, толькі да кладбішча. Но жэніцца – ані не разрышалі сваім сыноўям каб браць каталічку. Нільзя браць ні каталікоў, ні праваслаўных, толька маскаль маскаля. Ну і нам гэта было сказана: за маскаля ні пойдзеш.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1422.** У підзісят дзівятым па перапісу хадзіла, зайшлася папіць. “Марціян, дзе гэта наша кансервка паганая?” А кансервка ржавая, мяне чуць ні сташніла прама пры іх. Яны месных злябы называлі, не любілі нас.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Асіповай К. Ф., 1928 г.н. у в. Маркава Шумілінскага р-на.**

**1423.** З аднэй кружкі з намі ня пілі, людзі гаварылі. Яны не прынялі нашай веры, шчыталі нас фтарым сортам людзей.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Карнілавай Н. П., 1929 г.н. у в. Непароты Шумілінскага р-на.**

**1424.** Даюць папіць там ці каўшок які ў іх ёсць. А са сваей кружкі яны ўжо ні дадуць. Эта дажа ў нас такое было, ні ў кажнага, алі было... за тое, што мы аддзельна. Гаворуць, адкалоліся мы ад іх. Яны нас шчыталі, што мы няправільна богу молімся. Яны ўжо правільна богу моляцца, а мы няправільна. Адна малітва, толькі маціў не той, а малітва адна.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Лапуновай Г. Ф., 1923 г.н. у в. Непароты Шумілінскага р-на.**

### 1425. Здань мужа старавера

Калі сняцца плахія сны, зданькі ўсякія, тады запальвалі грамнічную свечку. Напрыклад адной жанчыне здаваўся яе муж, які памер. Гэта ў Чашніках было, так расказвалі. А муж быў маскаль, ну старавер, а яна пахавала яго па-свойму, не як ён хацеў. Дык хадзіў ён да яе шэсць нядзель. Тады яна прыйшла ў царкву і запаліла грамнічную свечку. І ўсё – прапаў, не стаў хадзіць.

**Зап. эксп. ПДУ у 1996 г. ад Паўлоўскай Вольгі Ягораўны, 1926 г.н. у в. Кассмыры Чашніцкага р-на.**

### 1426. Маскалі

Гэта бабушка расказвала. Ну, сталі яны ўжо памінаць Дзяды. Памыліся ў бані, ну прышлі, бабуля наставіла ўжо на стол, там усё, што папрыладувала. І кажыць, пераксьцілася, гаворыць: “*Святыя дзядочкі, самі хадзіце, дзетак вадзіце*”. А прахадзімец маскаль каня ўкраў. Пад’ехаў гэта к вакну, кажа: “*Дзякуй, еў, на коніка сеў, а ты ідзі, вароты зачыні*”. Пашоў дзядуля мой – ужо каня няма, толькі вароты расчынеты.

Во такія злодзеі яны былі, маскалі. Усё кралі, усё кралі. Гэта вот, на ту самую… у Вялікую Суботу адзін прышоў у хату, загаварывает маскаль ужо ўсё, нет які харошы. А другі ўзлез на чэрдак – і каўбасы, і кумпякі, усё пасымаў. А-а, о-о, прахадзімцы былі, зладзеі!

А, гэта самае, і даўней жа так, што не дадуць з кружкі вады напіцца. Кружку нада паганую. Поганую кружку нада даць. Напіліся раз, ішлі людзі з Лепеля чэраз бор, бор такі ёсць… І зайшліся, іх не было, маскалёў, у хаце. Напіліся з гэтай, з іхнай кружкі. Дык гналіся з палкай за імі. Біць іх хацелі, шчэ з кружкі напілісі. Надо поганая кружка. А цяпер гэтыя маскалі такія як і мы. Во.

Іх вера атлічаецца. Ну, вот якая ў іх вера. У нас ходзіць Паска і тады, чэраз нядзелю, Радуніца. А ў іх у Траецкую суботу Радуніца. Езьдзюць эта на Троіцу, у Траецкую суботу. І харонюць, я вам скажу січас. Я была на пахароне. Сколькі раз. Вот адна брыгада, тры кілометры яны ад нас жылі, маскалі. Дык во як. У нас ложуць пакойніка во так во, на эты, на вугол. А у іх прама, каля сцяны. І надзяюць чахол на галаву, каб ня відзелі яго. І поп не так дажа моліцца, як у нас. О-о, ён можа там чатыраста раз: “Госпадзі памілуй! Госпадзі памілуй! “А як нясуць яго хараніць, дык дзеці па пераду куляюцца, дзеткі па пераду малыя куляюцца чэраз галаву па дароге, як нясуць хараніць яго. Вот у іх такі абычай.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Каваленка Соф'і Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Грыгаравічы Лепельскага р-на.**

### 1427. Хрост і здароўе старавераў

Ну так яны здаровыя, па натуры былі. Па натуры. Яны ж крэсцюцца, крэсцюцца у вадзе. Не так як нас... у цэркве нас абліваюць, а яны – у ваду. Значыць, ён нікагда не балеіць. А яны нікагда не кашляюць. Вот я замеціла дажа. Вот замеціла, што яны не кашляюць. Я гавару: “Чаму вы не кашляеце, – гавару, – вот?” – і раньша яшчо замечала.

**Зап. Волкаў А., Навічонак Я., Халадкова А. у 2003 г. ад Зуевай (Стральцовай) Лідзіі Іосіфаўны, 1928 г.н. у в. Жарцы Полацкага р-на.**

### 1428. Маскалі

А во ў нас на хутары былі, і на хутары маскалі жылі. Маскалі дужа любілі ўкрасці. Яны кралі, калёсы ўкрадуць, карову выведуць, авец стаду выведуць. Што хочуць сдзелаюць. Тут яны боле жылі на хутарах. А там ужо, у Сіўках, нічога, троху ладзілі з імі. І цяпер яны там жывуць. А то было і вады не давалі. Гэта ўжо грэх у іх нейкі быў. Дык яны не давалі. Мальцы хутарскія, помню, усё роўна пойдуць і гэтай вады зачэрпнуць. Усё раўно. На зло. Яны былі веры не такой. Атдзельная вера. Не такое маленьне, як у нас. Дажа Салдрукоў, нашых гадоў, памёр малады, дык вязлі ў Пажарышча. Тут кладбішча Пажараўскае. Маскалі атдзельна. І знали, і на вечары

ўмесце хадзілі, гулялі разам. І прасілі, настолькі прасілі, каб адкрылі. Не. У саван адзелі, у гроб палажылі. Ні за што. І ліцо закрытае, усё, буквальна ўсё.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2008 г. ад Лужніковай Фаіны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Добрыгоры Бешанковіцкага р-на.**

## 1429. Пра маскалёў

Маскалі былі... Казалі, што варавалі многа. Многа варавалі, білі людзей... А патом маліліся і ўсё прашчалася. Вот як эты чачэнцы. Знычыт пабілі тут во, а тады сталі на калені – усё, грахоў нету. Яны другіх і не уважалі. Вот прыдзіце к ім, хоць бы і Лукашэнка во цяпер прыйшоў бы к ім... Цяпер я ўжо не знаю, а раньша. І яны б яму з сваей кружкі – не. І сказалі там, калі б бацька сказаў: "Прынясі там паганую кружку!"

Паганую. І ўжо хто тут у хаце ёсць у сям'і, нада было ўзяць тую паганую кружку. Паганую, за то, што з гэтай кружкі давалі піць усім во гэтым... прастому, прасталюддзю і прастому народу.

Моляцца... Ну вы ж панімаеце, што такое стараверы? Гэта каторыя ў хрысцьянства не ўступілі. Да ў іх свая вера. Старая вера. Які там тысяча... 882-гі год, эта была хрысціянства прынялі. Вот яны такія вот, я не знаю...

А, яшчо, што я відзела, так эта у іх інцерэсна, я ж не відзела ў другіх. У іх іконы, вот, як кармушкі у кароў (смяецца). Не, праўда. Во так во трохугольнік... Там ікона і тады тут завешана. Вот эта я знаю. Я там ужэ не помню канкрэтна, но вот іменна вот угал... У нас такова вот нету. Ну там дзе-та ікона вісіць.

Вот хадзілі яны, кралі, я там чула ад дзядзькі... Маскалі як кралі? Значыць, пралезуць чэраз франтон і паталок разграбаюць і там, ну, і аттуда авец паташчуць... Ну, што можна, карову ж туды не выцянеш, а тут ужо закрыта, да. Яшчэ окаракі во знаю, окаракі тожа знаю, што вот... дзядзька так расказаваў. Купмякі даўней называліся.

Яны ж не пападаліся там сільна. Но іх ужэ зналі, зналі, што яны там ёсць гдзе-та. Но ўсе, наверна, баяліся, раньша іх баяліся за то, што яны жорсткі народ. Я знаю, вот дзядзька расказваў, там во пад Шчаперняй ён мне паказываў эта места. Там цяпер ельнік такі. Вот тут жуў, я не знаю, як ён там... як яго называлі. Гаворыць, хадзіў па ўсёй акруге і ўсё краў.

**Зап. Волкаў А. і Навічонак Я. у 2003 г. ад Трэшчанка Алены Раманаўны, 1925 г.н., Зяленскай (Пашкевіч) Зоі Васільеўны, 1930 г.н. (нар. у в. Гомля) і Валеўскай Валянціны Іосіфаўны, 1938 г.н. у в. Заенкі Полацкага р-на.**

## 1430. Руская чараўніца

Дык вот я хачу табе расказаць пра рускую. Яна жыла і ў нас у Путране (вёска Шумілінскага раёна) Мар'я, вот. Жыў брат Антон і Дзяніс, яна за Антонам была. Дзяніс з голаду памёр у вайну, сільна бедна жыў. І жыў з ей так, як ад нас да магазіна, а можа бліжэй (гэта хвілін 5 пешшу). Толькі ка-

рову купіць, карова пакрыецца, целіцца, а тады здохніць, і цялёнак здохніць. Ён нікагда каровы не мог завесці. Нікагда! І што было? А тады Антон, пераехалі яны ў Рускі жыць. А бацька ейны быў бальшы чараўнік. Чараваў. Ну, кагда ён паміраў, яму надо было срочна аддаць, тады яны паміраюць харашо, іх Бог прымаець. А еслі ён не аддасць нікому, то й паталок узнімаюць і хамут адзяюць, няйзвестна што. Но як яна памерла ніхто не знаець. Две сястры было і брат. Сёстры гэтыя нічога не зналі, не ведалі.

Но яна плахая. Як яна там памірала, ніхто ж не знаець у дзярэўне. Сколька там з дзярэўні ішлі за гробам, мо чалавек 20. Тады ж ні машыны, на кані вязлі. Ні машыны, нічога не было. Прывязлі на кладбішча. Пагода, сонца было. Нацягнула туча. Стала. Толькі гроб пагрузілі ў яму, як даў пярун, і гроб разваліўся на вугаль, і яна згарэла на вугаль! Вот в чом прычына тут? Гавораць, не прынялі на тым свеце, значыць, Бог не прыняў яе. Плахая была жэншчына.

А ёсць жа каторым паталок узнімаюць. Доскі падымуць, тады скарэй паміраець. А можа месяц паміраць і не памрэць. А чаго – Бог яго ведаець! А хамут конскі адзенуць – тады тожа памрэць.

**Зап. Гембіцкая Н. у 2008 г. ад Семяньковай (Шыёнак) Веры Анісімаўны, 1927 г.н. (нар. у в. Альшанікі) у г.п. Шуміліна.**

### 1431. Стараверы

У нас у дзярэўне былі ўсе стараверы. Было толькі 2 католіка. Ну, бывала, завядземся пацанамі: яны крычаць: "Паляк! Паляк!" А тыя крычаць: "Маскаль, маскаль!" А потым забыліся, і ўсё, у нас дружба такая была! А нічым, нічым яны не маглі адлічацца… Рабацяшчыя. Ну, гэта пацанамі біліся, а потым выраслі, і ўжо дружба такая была.

Гаварылі, "паганая кружка" у іх была. Ну, я гэтага врэмені не застаў, а раньшэ было. Гэта мой яшчэ баця расказваў. Купіў зямлю ў 29-м гаду, прыехаў, ён быў кузнец, і нада нешта была адрэманціраваць гэтым, стараверам. Малацілкі былі, прыборы такія. Ну, кузнец, значыць – спецыяліст. Ну, захацелася яму піць, папрасіў ён вады, а там дзевачка была, ну, можа, лет 12 ей, і кажа яна: "Бацька, а дзе тут паганая кружка?" А када я вырас, такога ўжо не была.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Гардукевіча Вікенція, 1942 г.н. у в. Лазовікі Шаркаўшчынскага р-на.**

## Цыганы

### 1432. Цыганка варожыць

Дак вот тая цыганка толькі адна маме ўсю праўду сказала. Вот яна так сказала, а гэта, і сказала ей, што вот эта дочка: "Еслі б я не прышла – і во эта дочка ў вас бы памёрла". А так пашла на вуліцу; мама выкінула, – эта мама расказавала: гаворыць, выбрасіла сухой – роза хатняя гэта, дзе ў

хаце расцёт, выбрасіла – яна высахла ўжо, сухая, – і выбрасіла яе на вуліцу. А эта самае, а цыганка, гаворыць, пашла, падняла гэту розу з вуліцы, сухую. Прынесла і пасадзіла яе ў вазон, і сказала маме: “Вот сматры на эту розу: еслі на трэці дзень, – гаворыць, – зацвіцець эта роза, твая дочка ўстанець; еслі не зацвіцець, значыць, умрот”. Дак, панімаеце, мама гаворыць: “Каб яна сказала, што, ну, і распусціцца ілі там лісточкі пусціць, а то – “зацвіціць!” І на трэці дзень роза зацвіцела.

Вот, і дочка во эна і сягоння жывець, ужо ёй восемсят гадоў, гэнай дочке. Ну, шкарлацінай яна балела, тада шкарлаціну не вылечывалі і, гэта, і ў ей с ушэй цякло. Усю жызнь. Усю жызнь вот ляжаць на падушку – гной какой-то. Там аперацыю хацелі за ухам дзелаць, но мама не сагласілася дзелаць і ўсё. І так вот яна недаслышала ўсю жызнь, ну і пражыла вот усю жызнь. Во.

**Зап. Васільева І. у 2004 г. ад Вярыгі Ефрасінні Аляксандраўны, 1927 г.н. у в. Лукаўцы Полацкага р-на.**

## 1433. Мужык і цыган

Часта тата мой баіў пра цаганаў. Быў мужык і цаган. Цаган прыехаў на кані на базар, на рынак, і гэты мужык прывёў карову. І гэты мужык прывёў карову, прадаў яе. А сам быў у фуфайцы, дзіравая фуфаічка, штаны, можа ў лапцёх, наверна лапці былі ў мужыка. А ў цагана гэтага шуба такая была, ну тады кажух доўгі звалі па нашаму. Прыехаў на кані, конь гэты ня можыць стаяць, топаець і топаець, а гэты мужык прадаў карову і кАжаць: “Цаган, прадай каня”. А той хочаць яшчэ і пугай набіць гэтага мужыка. А той кажаць: “Ты, цаган, пугу не заматавай, прадай, калі хочаш, мне каня”. Цаган кажаць: “У цябе грошай няма”. Дык кажаць: “У мяне грошы ёсць, карову прадаў”. А ў ватоўцы ж гэта, там кармана няма, а сразу карман у штаны, у свае штаны ён узяў палажыў, у карман палажыў, а не ў ватоўку, а ў штаны. Вот. І кажаць: “Прадаеш каня?” Кажаць: “Прадаю”. – “Ну, дай мне яшчэ і тулуп, шубу сваю здзень, памеру я”. Дык ён, гэты мужык здзеў гэту ватоўку, кінуў. А гэту шубу надзяець. А гэты ж цаган узяў гэту ватоўку і пабег, след прастыў ягоны, думаў там грошы. А мужык узяў гэту шубу надзеў, і грошы ж у кармане, і паехаў дамоў. Во табе, і абманіў. Гэта я чула, во гэту во басню.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Плыгаѝкі Марыі Іосіфаўны, 1936 г.н. у в. Тумілавічы Докшыцкага р-на.**

## 1434. Пушка сена

Помню Валя ў мяне была маленькая. Я ж на работу ні хадзіла. Ага, конь астанавіўся, яны тут са сваімі вёдрамі, рабяты крычаць. Ой, заляцеў цыган. “Ай, маладая, красавіца, ты мне на пушку сена дай”. Думаю, а

сколька можна на тую пушку сена ўзяць: ну вяровачка і палка, сколька можна ўзяць на тую пушку. Павяла яго ў пуню. Ай-яй-яй! А ён як наклаў вязку. Ложыць і і ўсё яўчэ прыціскаіць. А я думаю: во каб ты акалеў. Алі нашто я сказала, хай бы я сказала што ў мяне і сена німа. Такую наклаў бярэма, як ён дапёр, я ні знаю. А злосці, я ўжо думаю, нізнаю, алі ж думаю, баюся, што цыган. Ішчо раз прыносяць кофты прадаваць. І грошы, якія там былі грошы. "Ой, вот маладая, красівая, вам кофтачка к ліцу пайдзець". А я гавару: "Грошы німа". "Ай, ну дзе-нібудзь нойдзіш ужо, тут нямнога, пяць рублей". Ну як гэта нямнога, гэта ж ні ціпер, што нічога ня стоіць. Ну дала я ўжо, дала яна мне кофту. Госпадзі! Разоў пяць я ўсё расцягну рукавы і атарву, атрэжу, і во так расцягавалася. Я яе выклінала мёртвай клятбой. Гой якая, абманула мяне і пяцёрку ўзяла, а якая кофта.

**Зап. Аўсейчык У. і Шэршань А. у 2005 г. ад Хадуновай Н. С., у в. Малое Сітна Полацкага р-на.**

### 1435. Як цыганы людзей лечаць

Вот я помню, прыехала машына, многа людзей к саседзям і к нам. Ён шафёр і гаворыць: "Там, ззаду, едзіць машына, вязуць поснае масла і сахар". І каб мы ўзялі гэтых людзей па хатах. Я гавару: "Я іх не люблю, ой, каго? гэтых цыганоў? цыгане, ай-яй-яй". Сасед кажыць: "Ай, Надзя, у цябе хата бальшая, няўжо табе жалка гэтага дзівана, што паляжыць". Як жа прыйшлі яны, гэта, яду варыць. А ядуць памногу. Ой, нашто яны мне былі, нашто яны мне былі. Тады назаўтра пайшла даіць карову. Цыганка мяне ўстрэчаіць: "Ой, хазяйка, гэта толька столька малачка даёць кароўка?" Я гавару: "А што, скора пойдзіць у запуск, ужо цяліцца ж нада". "Ой, – бярэць ручку, – пішыця". У мяне нейдзя там ёсць бумага напісана. Яна мне тут ужо гаварыла. Як выганяюць у поле, каб яйцом катала па карове, гэта каб яна была гладкая. Ой-ёй, там яна ўжо столькі мне нагаварыла. Сказала мне перад парогам у каровы вазьмі напільнік, што іструць пілу гэту, і цадзілку, што цэдзюць малако. Ну я ўжо ўкруціла гэту ўсё во так во, ну і палажыла, ямку выкапала перад парогам, дзе карова ходзіць. І нічога там тая карова. Як столькі малака давала, столька яна і стала даваць, нічога ні памагло. Ага, а тады яна гаворыць на майго хазяіна: "у вас харошы хазяін". Ну я гавару: "Ну харошы". Я ні знаю, у яго рука забалела, ці што. Гаворыць: "Я вас вылечу". Ну толькі яна многа грошы папрасіла. Я гавару: "Столькі грошы німа плаціць". "Ён чалавек харошы, ён грошы найдзёць". Я гавару: "Я нікуды не пайду аддалжаць тыя грошы". "Ну ён харошы, грошы найдзёць". Ну ладна, ён пайшоў, і ў нейкага там аддалжыў грошы. Ну і што там, што ён грошы даў. І саседка грошы аддала і ў яе дзве курыцы ўкралі, і нажы ўкралі ў яе і нічога ні памаглі іхнія загаворы. І што яна там –

нічога, абманулі. І таго ждалі і нядзелю, і дзве. І нікога ні даждалі той машыны з маслам тым і з сахарам тым. Во, сягоння вязуць.

**Зап. Аўсейчык У., Шэршань А. у 2005 г. ад Хадуновай Н. С. у в. Малое Сітна Полацкага р-на.**

### 1436. Пра цыганоў

У нас у другой дзярэўні, маёўка была. Жылі бабушка і дзед. І астанавілася машына. Ну ў хату заскочылі, а яна адна была баба, дзеда ні было. І тут яны якраз зарэзалі цялёнка. Яны ж та відзялі, што гэта мяса ўсё ляжыць. Ну і што яны там ёй сказалі, а яна носіць ім, кладзець у мяшкі гэта мяса. Гэта, прыбег дзед і гаворыць: “Соня, а што ты робіш, ай-яй, а каму ты аддаеш”. Яны як падхваціліся і ўехалі. Дык во, што яны там зробілі, ці які можа чмуд пусцілі. Во якое дзела.

**Зап. Аўсейчык У. і Шэршань А. у 2005 г. ад Хадуновай Н. С. у в. Малое Сітна Полацкага р-на.**

**1437.** Цыганы кагда-та прыяжджалі, я вам скажу. Аткуда-та ці то з Гаран, ці то ў Гаранах жылі. Дык яна [цыганка] памагала, ад галавы лячыла.

**Зап. Аўсейчык У. і Шэршань А. у 2005 г. ад Бадак В. І. у в. Малое Сітна Полацкага р-на**

**1438.** Цыганы прыяжджалі, і я помню. Тады бяжым дзці ззадзі. Калі дзве павозкі ішло, цыгане ехалі. Кібіткі такія панакрываныя. Ну дзетвара, інцірэсна. А яны, знаіш, каго займуць, а самі па хатах пойдуць. Ну было, што кралі, цыганы гэтыя.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

**1439.** Цыганы ўсю дарогу ў лесе. У цыганоў ні цэрквы нет, ні кладбішча нет. Вот ані едуць, качуяць табар. І ўміраіць старуха, ужо па гадам. Сё, астанаўліваюць табар у лесе. У іх ёсць лапаты там і ўсё. І гэту старуху адзіваюць у ейны нарад і ў простынь закручываюць, гроба нет, дзе ў лесе гроб, цэрквы нет, свяшчэннікаў нет і капаюць яму і яе пахароняць, цыганы. І крыста нікакога ні ставяць. І кагда ў летняе врэмя, яны выразаюць дзёран і заложаць роўненька, што б у лясу не было бугарка. Патаму людзі ходзяць па ягадам, па грыбам і ета будзіць людзям. Во так цыгане.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1440.** Цыгане ну і раней прыяжджалі. Ціпер дык яны прадаваць усё. Раньшэ бывалі так хадзілі, прасілі, курэй лавілі самі, я сама відзела. Ло-

вюць курыцу за шэю, а тады вот так крутанець два разы і кінець, і дажа не трапянецца курыца.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Жыгуновай І. П., 1926 г.н. у в. Чарнецкае (раней Лялюгі) Шумілінскага р-на.**

**1441.** Не, я вам скажу, цыгане вары былі спакон вякоў. У іх у арганізме вараўство. Да, ані дзікары, ані гультаі і дзікары. Ані кагда ані ездзяць, работаць ні хацяць. Кралі гусей па полі, кралі курэй, коні мужыкі кралі. Цыгане враждзённыя злодзеі і дзікары. Гусей кралі, курэй кралі. Патом ані владзеюць гіпнозам. Прыдзець табе: "Малады, красівы, на ручку пагадаю, скажу судзьбу тваю"... А тады: "Пазалаці ручку". А ты маладой, нічога ні хітры, выняеш тым, што ў цябе было дзеняг, сколька там. Ані цябе: "Званковая любіць, чырвовая пад табой млеіць, душы ні чаіць". Ужо ана цябе закалдавала. Нада даць табе рубель, а ты ўсё аддаеш. Ты ні саабражаеш, аддасі. Цыганка папёрлася, а ты атыйшоўся тры шага і дайшоў сазнанія. Ані как-та гіпназіравалі на нескалька мінут.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

### 1442. Дапамога цыганкі

Цыганка прышла і слоічык стаіт с малаком, а цыганка сразу зашла к маме і гаварыт: "А, бабка, ты нікагда не ясі смятанкі, у цябе нікагда нету смятанкі". А мама гаварыт: "І праўда, ніколі нету смятанкі". А патом гаварыт: "Я табе, бабулька, сдзелаю – будзе у цябя смятана". А мама: "Не нада, я загаворы не люблю!" Крычала. А яна гаварыт: "Не, не, не! Ты услышаш, я па бож'ю буду гаварыць". І ваду з вядра у крушку ўзяла, за стол стала, у гэту кружку моліцца. Ну, цэркоўныя словы гаварыт. Гаварыт: "Вот этай вадой памоіш короўку, і гэту ваду выльеш пад парог, і малако ў цябе будзе, і смятана. А я шчас уйду, а к табе прыдзець той чалавек, каторы табе эта дзелаў, і будзе прасіць што-та атнасіцельна каровы. А ты, – гаварыт, – адзін раз ды не дай".

Мама ёй картошкі дала, яны прыходзілі прасіць, есцесцвенна. Толькі яна за дзверы – бягіць саседка Юлька: "Ай, Верачка, дай мне бойку (маслабойку – рэд.), мая бойка саўсем расохлася. А мая мама гаварыт: "А ты знаешь, і мая расохлася, – гаворыт. Я замачу, тады табе дам". Праўда, непраўда, але пасля гэтага і малако і смятана была.

**Зап. Кавалёва І. і Лупенько Т. у 2009 г. ад Януць Веры Андрэеўны, 1918 г.н. і Грак Глафіры Міхайлаўны, 1953 г.н. у в. Сасноўка Глыбоцкага р-на.**

### 1443. Як цыган выбраў месца

Не, не сварыліся. Іх боле апасаліся. Яны то ўваруюць, то абмануць. Эта ж ізьвесна, што цыгане дзелалі. У аднэй пасяліўся, папрасіўся перана-

чаваць. Эта у Гаравых. Ну, яна пусьціла пераначаваць. А ён і дзень, і другі, і трэцці. Яна: “Дык дакуль ты тут будзіш? Ідзі ўжо”. А ён атвічаець: “Мне гэта места панравілася. А ты ўбірай сваю хату”. (Сьмяецца). Тут будзець, на гэтай зямле сядзець, а ты хату ўбірай. Ну і зіму атседзеў.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2006 ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Ушацкага р-на (да 1967 года жыла ў Гаравых Лепельскага р-на).**

## 1444. Чаму цыганы лёгка жывуць

Эта ж гаварылі, што цыгане ужо ўгадзілі Ісусу Хрысту, за тое, што гвоздзь адзін ілі што ён там, каб не прыбівалі яго, схаваў. За тое Ісус Хрыстос ім даў такую лёгкую жызнь качэўную, і каб яны маглі ўжо і адурманіваць і лёгкім нажывам у людзей браць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

## 1445. Цыганскі чмур

Ну, цыганы ездзілі ж упярод усё. І гэтыя цыганы што хочаш выпрасяць. Мяне два разы былі абдурылі. Яшчэ як там была ўжо замужам і работала, вот штоб угасціла я іх прасілі. “Ну, вот давай, мы табе загавор зробім, ужо што будзеш харашо жыць. Вынасі ўсё са шкафа. Ну, а я ж небальшога роста. Значыць, не падыйшло ім нічога. І ўсё цягаю усе плацьці свае і не помню, кажацца, усё-усё б аддала ім, што яны зрабілі гэтак. Ну і усё. Доббра, што мама прыйшла, ужо да кумпяка да паследняга дахадзіла, ужо яны і кумпяк папрасілі. “Усё, – думаю, – пайду аддам і кумпяк”.

Ну, а тады ж сабірала ужо і страхоўку, нам ужо навязывалі, як работала я ў клубе, у бібліятэке. І трыццаць этых рублей, ну эта ж грошы былі ў тое ўрэмя, і гэтыя грошы аддала. Ну толька не успела яшчэ аддаць гэты кумпяк. Мама прыйшла, як стала крычаць на іх усіх і тады гэтак яны паляцелі. А так не знаю чаму, но мне нічога не жалка было. Усё б аддала, дажа з сябе б зьдзела і аддала. Дык я цяпер іх баюся.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

## Яўрэі

**1446.** Я не знаю загавораў. Мне напісала там такая жыдоўка з Альшанік на кладбішчы. “Ну, ладна, – гаворыць, – Вера, пайду, напішу табе загавораў”. Яны ж небальшэя. Палажыла ў пальто ў карман, а Васіль жа мой агледзеў, узяў парваў “забабоны твае”. Дурак і ўсё.

**Зап. Гембіцкая Н. у 2008 г. ад Семяньковай (Шыёнак) Веры Анісімаўны, 1927 г.н. (нар. у в. Альшанікі) у г.п. Шуміліна.**

**1447.** Былі яўрэі ў Лепелі... А бацька мой быў дужа бальшы рыбак. Ён нейкія букшты стаўляў з елачак. А тады перад первым маем у горад жыдам панясець... А мне гадоў 6. Ну і я ж, плача, і мне нада на першага мая. Бацька кажыць: “Ну ладна, мы з табой пайдзём”. Ну яму рыбу нада збыць. Ну і падыбала, там, з Поўсвежа ў горад. Ну, ён як ійшоў, зайшоўся к жыду рыбу збываць. І вот мне цяпер у памяці той жыд. А жыд гэты сядзіць і пер’е дзерыць, пер’е драў на первага мая. Ну во, первага мая. Ну рыбу збыў і прывёў дамоў. А звалі жыда Хайка.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на.**

**1448.** У іх былі лавачкі. Вот баба наша расказавала. Цяпер жа вот зберым ці масла, ці што і на базар за грошы прадаём. Раньшэ ж баба тожа, дзве дачкі ў яе было, і нада ж было хусцінкі тыя, ці што. Масла саб’ець, тамака хунтамі звалі, ні кілаграмамі, а хунт – гэта чатырыста грам. І панясець у горад. Тамака, Моська зваўся, у яго была нейкая свая, ларок як цяпер. Ну во, гэтаму Моську масла, а ён тамака ці два метры, як на куртачку, сітцу. Ну быў сіцец добры, і гэта самае, маркізету, помню, зваўся маркізет. Баба мне давала, як цяперака ці баціст, ці шоўк. Дык гэта вот я помню, баба насіла Моську таму. З жыдам еслі добра падружыў, дык будзіш дружыць, а як канечне не ў лад, дык жыд усённа будзіць. І пасловіца была: ты, значыцца, хітры як жыд.

**Зап. Аўсейчык У. у 2005 г. ад Станкевіч М. І., 1933 г.н. у в. Старое Лядна Лепельскага р-на**

**1449.** Старыя людзі казалі, што яўрэям нада ў мацу чалавечаскай крові. Казалі там, лавілі, бочкі наколатыя гваздзём. А тады ў бочку гэту садзілі, качалі, кроў аставалася ў бочцы. І тады гэтай крыві па акрузе, каму дзе якая акруга яўрэі, нада гэтым крыві даць у мацу. А тады мацы гэтай папробаваць абізацельна нада каб рускі первы папробаваў. Вот у Бабынічах яны пяклі гэтую мацу. Алі нада каб рускі папробаваў мацу ўперад, а тады яны абнасілі, абдзілялі іх.

**Зап. Аўсейчык У. у 2006 г. ад Кухарэнка Н. Н., 1924 г.н. у в. Жураўна Полацкага р-на.**

**1450.** Яны болі чуць крапчэйшыя, таргавалі. У іх пачці ў каждага лавачка была хоць якой, хоць там мелач якая, хоць там іголкамі, хоць якой краскай, хоць чым, ані таргуюць, таргуюць і ўсё... яны рыстаранчыкі свае робілі. Яны там самі і ежу гатовілі. І тады дзе там хто робіць з рускіх, тады іх з рыстарана гэтага кармілі, плацілі ім.

**Зап. Аўсейчык У. у 2006 г. ад Кухарэнка Н. Н., 1924 г.н. у в. Жураўна Полацкага р-на.**

**1451.** Ані лавілі маленькіх дзяцей перад Пасхай. Патом гаварылі, што ёсць какая-та бочка, а ў бочцы іголкі, ціпа ёршыка. І дзяцё нада такое, можа год, можа два. І бяруць жыўём, у бочку закладываюць і круцяць, і круцяць. Іголкі как у ёжыка ў бочке. І так сколяць гэтага маленькага. Цельца маладзенькае, кроў свежынькая, маладая. І он замучаецца. Тада ані дзета яго хароняць. У Дунілавічах іхняе кладбішча стаіць. Вот, ну тада іх както ніхто ні наказываў за эта. Страдалі радзіцелі, кагда рабёнак прападаў перад Пасхай, то. Ані пяклі какую-та мацу с дабаўленіям нашай крові, не яўрэйскай, а нашай, па іхняй рэлігіі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1452.** І вочы мазалі, яны сваіх дзяцей мазалі, то яны ня відзялі. Доўга ня відзялі яўрэйскія дзеці, як народзіліся, яны ня відзялі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Тананы Н. А., 1932 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1453.** Вот станць яны маліцца – бяры хоць што. Яны не паднімуцца. Магазіны дзіржалі. І прыходзяць, забіраяць хоць што. Тады запішаць, палажаць яму на стол і пойдуць. Яны давяралі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Проны С. А., 1933 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1454.** У доўг, ну, давалі ані канешне знакомым. “А, кагда аддаш, тада ладна, харашо, бяры, бяры”. Ані собственныя крамы дзіржалі. У іх жылезная цана: вот столька і столька. К жыду прыходзяць, а жыд вежлівы: “Хадзі, хадзі, хадзі. Вот табе плацця, вот табе касцюм. хадзі”. “Ай, сколька, дорага”. “Снімаю, дзішэўле”. “Ай, дзенег нет”. “Ай, ты знакомы, запішу”. Уступалі, а вот цяпер капіраціўчыкі не снімаюць.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Пятроўскай А. Д., 1935 г.н. у в. Гаўрылавічы Пастаўскага р-на.**

**1455.** Казалі што на мацу, нейкую мацу яны пяклі. Вот як цяпер вафля. І, кажаць, гэтага рабёнка ўкрадуць і тады і тады кроў высасаюць. Яны ў мацу дабаўляюць. І гэдак ім хачыцца, каб аддаць гэтым, нашым людзям, каб мы паелі.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Шыдлоўскай Л. І., 1924 г.н. у в. Гліншчына Пастаўскага р-на.**

**1456.** А яўрэяў многа было, цэлыя Дунілавічы. Магазіны бальшыя былі, таргавалі. Там і булачкі свае яны пяклі. Такі хлеб быў харошы. Яны

як спякуць, дык ідзеш праз Дунілавічы, дык пахніць, знаць што хлеб. Сільна харошы хлеб рабілі жыды.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Трапук З. К., 1923 г.н. у в. Гліншчына (раней Пятровічы) Пастаўскага р-на.**

**1457.** Яны перад сваім ужо святам, яны святкуюць уперад. Яны святкуюць і тады ім нада кроў кунечне, кроў хрысціянская, уліваць у гэта, маца звалася ў іх. Дык яны спякуць во такія лісты бальшыя, і тады вот як ідзеш, вот знакомыя жыды каторыя былі, дык вот ідзеш, дык яны запрашаюць і даюць табе пакаштаваць. Гэта яны кунешне нада даць пакаштаваць хрысціянам, нада даць пакаштаваць гэтай мацы.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Трапук З. К., 1923 г.н. у в. Гліншчына (раней Пятровічы) Пастаўскага р-на.**

**1458.** Яны, кажуць, што як у іх паявіцца гэты жыдзюк, дык тады яны мажуць, кажуць, вочы ім, а то кажуць, яны былі б сляпыя, нашай кроўю. Гэдак гаварылі старыя людзі, а як гэта было, я ні знаю.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Трапук З. К., 1923 г.н. у в. Гліншчына (раней Пятровічы) Пастаўскага р-на.**

**1459.** Яны бралі кроў з чалавека. Яны качалі ў боццы. Зловяць рабёнка малога і тады ў бочку цвякоў нагоняць у драўляную бочку ўсярэдзіну цвякі і, кажуць, качаюць і гэту кроў. І гэты рабёнак, кроў выходзіць з гэтага рабёнка. І тады яны гэту кроў рассылаюць усім жыдам, па ўсёй жыдоў.

**Зап. Аўсейчык У. і Батура Я. у 2007 г. ад Трапук З. К., 1923 г.н. у в. Гліншчына (раней Пятровічы) Пастаўскага р-на.**

**1460.** Ой, дзетка, жыды былі сільна хітрыя, яны сваё саблюдалі. А нашым, ці рускім, ці польскім, рубель пакажы і вот, і ўсё. Мне мая мама расказвала: “У суботу ідзём у касцёл, а жыдоўка выходзіць, а ў іх ужо свята было, субота, а жыдоўка выйдзіць: падаіце карову ёй. У суботу ёй ужо празнік, яна не доіць”. А дык мая мама не даіла, яна ж у Бога верала. “Не, – кажаць, – і мне ж свята”. А яна ішчэ нейкага найдзець, у нас тут былі такія бабкі, што пойдуць, падоюць. За капейкі эці, за грошы. Во, дзетка, яны сваё саблюдаюць, а мы – не. Ну, а хто яго знаіць, можа гэта і не блага, а можа і блага.

**Зап. Філіпенка У. у 2009 г. ад Капешкі Феліцыі Адольфаўны, 1931 г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

**1461.** Гэта празнік, гэта ты праўду кажаш. Када ў іх. Як гэта… Мацу. Вот тады каб, крыві тваёй узяць. Хоць укалоць цябе як… Хрысціянскай

крыві туды ў мацу, каб усім гэтым было. А бралі… Ці цябе забіць, ці Катарага. Былі гэтыя, што заб'юць, кроў забяруць. А не, кроў высмахтаюць. Была такое. Укол дадуць і выцянуць.

Ну яны хітрыя і разумныя, гэтыя яўрэі. Але тожа дурныя. Ім бацька мой гаварыў: "Уцекай, растрэльваць вас будуць, уцекай у лес вун да парцізанаў". – "Не, нехай гэтыя гібнуць і я пагібну".

Толькі дзве пайшлі, дзе-то ў Маскве, а как, гэто мы баню тапілі, дзве з Бабыніч дзевачкі беглі. Тады кажуць: "Ацец, а дзе, куды гэта дарога?" – "Туды, туды, але вы не ідзіце ў гэтыя Варонічы, там яўрэі тожа ёсць, але там і немцы ёсць, там іх тожа растрэльваюць. А вы тут, у Янкавічы ідзіце".

Каля Янкава, а тут на хутары такая пунька стаяла, хатка такая, і баба там жыла з дзедам. І кажаць, зайдзіце туды тады, а цяпер вечарам ідзіце, мы, кажыць, баню тапілі тут у Ракуцінка, возера там Семянка такая. Усё ёсць, кажуць, усё добра і цёпла, сёньня во пераначуеце, а заўтра утрам ідзіце, будзе відна і ўсё. А пераначавалі і пайшлі. А пасля яны зямлянку там выкапалі, хадзілі хавацца. Я знаў, дзе яны хаваліся і ўсё. А як парцізанаў паявілася настаяшча, за фронт іх адправілі. Узялі яўрэяў і пайшлі ў атрад к гэтаму Цябуту, а тады "Цябут" – гэта была брыгада.

**Зап. Аўсейчык У. і Філіпенка У. у 2006 г. ад Берангоўскага Бенедзікта, 1929 г.н. у в. Сушына Полацкага р-на.**

**1462.** Старыя баілі раней, што тут былі яўрэі, цыгане, рускія і палякі, і ўсякія веры былі. Дык, казалі, яўрэйка падкацілася пад начоўкі, гэтыя што мыюць, начоўкі такія дзеравянныя, ну дык каб угадалі, хто ляжыць. А Бог, той каму яны сказалі адгадаць, то кажа – свіньня. А яна была бярэменная і адчынілі тыя ўжо начоўкі, а там яна – і з парасятамі свіньня. Гэта ўжо не сталі есці свіньню яўрэі.

**Зап. Лобач У. і Пашкевіч І. у 2006 г. ад Шпет Надзеі Пятроўны, 1936 г.н. у в. Асецішча Докшыцкага р-на.**

**1463.** Гэта ж яны распіналі Ісуса Хрыста, жыды. А Ісус Хрыстос васкрэс. А яны свінню пасадзілі з парасятамі пад карыта і спрашывалі: "Хто там?" А ён гаворыць: "Свіньня з парасятамі". Адкрылі, аж там і точна свінння. Дык яны свіннiну не ядуць. Яны ж і шчуку не ядуць. А ў шчукі ў галаве хрэст ёсць, такая костачка.

**Зап. Боганева А. і Валодзіна Т. у 2006 г. ад Мацiеўскай Маі Рыгораўны, 1930 г.н. у в. Сокарава Бешанковіцкага р-на.**

**1464.** Бог жа сам яўрэй. Вот схавалі ад яго пад начоўкі бабу з рабятамі. А Бог кажэць: "Там свіньня з парасятамі". Аткрылі – точна свіньня. Вот і не ядуць, што з чалавека свіньні.

**Зап. Т. В. у 1999 г. ад Якубоўскага А. С., 1936 г. н. у в. Гадзіўля Лепельскага р-на.**

**1465.** Страшылі русалкамі. “Далека не нада, во туды дорога, во тут”, – нас ужо вучылі. Матка мая расказвала пра русалку. Шоў яўрэй. Шоў, мыла нёс прадаваць, а русалка выскачыла і на яго. Ён спужаўся, уцек і мыла кінуў, а яна забрала і дамоў прынясла, і хахочыць. А гэта жэншчына раздзелася і яго напугала.

**Зап. Філіпенка У. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Скавародка Таццяны Міхайлаўны, 1927 г.н. у в. Кульгаі Лепельскага р-на.**

**1466.** Казалі, што жыды свініну не ядуць, а чаго – не знаю. Ім нада маца – чалавечаская кроў. Казалі, што раньшэ ў бочку яны садзілі рабятак бедных, мучылі і кроў гэту пілі. А цяпер свініну наверна ядуць.

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. ад Махальскай Ніны Фамінічны, 1937 г.н. у в. Шэпелева Глыбоцкага р-на.**

**1467. Пра яўрэяў і цыганоў**

Да ну што яўрэі людзі былі граматныя, хітрыя, робіць не хацелі, і яны на зямлі не работалі. Яны, вот як цяпер на базарах, таргуюць яны, і ўсё. А цыгане, ўродзе бы гаварылі, кралі дзяцей. Але ж у іх сваіх было поўна… Гэта болей-меней яны пугалі дзяцей: “Цыган украдзець”.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкі С., Шаўчэнка Я. у 2009 г. ад Працукевіч Алены Аляксееўны, 1936 г.н. (нар. у в. Старына) у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

**1468. Яўрэі, цыгане, палякі**

Во Камена мясцечка, там было тры вуліцы, там адны яўрэі тока жылі, там былі воўну часалі шчэткі – яўрэй владзеў, малола мельніца – яўрэй владзеў, партная была – яўрэй владзеў, воўну часалі там, авечкаў, а мужыкі туды ўсе хадзілі. А яўрэі, яўрэі вот так яны жылі, толька таргавалі, як цяпер жызня, во цяпер жызня яўрэйская.

З яўрэямі нармальна жылі. Некатарыя не любілі. Вот я даўганосая па сваім бацьку, і мой бацька быў такі даўганосы, а любіў шуціць, сьміяцца, у Ленінградзе быў бедны. Братоў было многа, а ён быў у Ленінградзе ізвожчыкам, усё гаварыў – я Леніна падвазіў. А ён яго ня відзеў у вочы. А мой бацька любіў падсміяцца. Як увідзіць, што едзе ўжэ яўрэй, яны ж закуплівалі зярно, тады кажыць: “Здрастуйці, а ты ж мне брат”. А ён: “Які я табе брат, мужык нішчасны”. – “Па насу ты мне брат, я вот гляжу, ты мне брат”. А ён плюніць: “Цьфу, мужык нішчасны, уіжжай скарэй”. І тады тата мой паедзіць, а яўрэй злуецца, брэшыць.

Цыганямі дзяцей пужалі. Цыгане ўкрадуць, цыгане гэта ідуць, цыгане, яны закалдуюць. Яны закалдуюць і ўсё з хаты выграбеш, аддасі ім адзежу і грошы, і не жалка табе. Яны хадзілі па дзярэўні, ім жа нада га-

даць,еьці нада, а жыць – яны  качавалі, у іх апрэдзелённай жызьні не было. Яны вот, яўрэі, яны жылі апрэдзілённа, яны ў гарадках, а цыгане качавалі. Вот прыедуць к нашай дзярэўні, выбяруць мясцечка і там яны, табар іхны. Яны там паходзюць па дзярэўні, наберуць сала, яец і гарэлкі, тады там танцы ў іх на палянкі на якой. Былі кралі. Даўней жалезнымі путамі каня так кувалі і замок. Так яны спутаюць і замок. Аднаасобна жылі, гэта не ў калхозі.

А яўрэі, гаворуць, схопюць чалавека і, вот у іх ёсь у сінагогах там нейкі празьнік, яны хапаюць чалавека, каб ухапіць кроў з яго, забраць. Ну мы чулі гэта, ну гэтага мы ня верым. Проста няўжэлі яны каго будуць хапаць? Ім гэта кроў у мацу. А тады мацу яны самі не ядуць, а ўгашчаюць нас. Ну яны ж не прызнаюць Ісуса Хрыста, яны нашу веру не празнуваюць.

І стараверы ёсь у нас, дык яны жывуць так як і мы, яны, стараверы – гэта яны ня ўрэдныя. Ай, стараверы гэта вот, ну вот такі чалавек, каторы ня ўходзіць у кампанію ні ў якую, вот адзіляецца,гэта старавер. А так яны жылі з намі ўсе.

Яўрэі хітрыя, яны вродзе дружалюбныя такія,былі дажа ў нас такія бабкі, што дружылі з яўрэямі, яны такія. Вот цыгане болей неяк жэстокія, а яўрэі не. Яны хітрыя былі. Ну лёстачкамі, ласкай падходзюць к чалавеку, с уважыцельнасцю, гэта ўжэ значыць хітрыя.

А вот палякі, вот я цяпер слухаю вот, і радзіо гаворыць, што палячыцкая нацыя – гэта яны жэстокія очэнь, немцы і тыя лучшы. Палякі у вайну былі, яшчэ да рэвалюцыі, а тады яны змяшаліся. Але вот палякі яны дужа ня хочуць і з намі дружыць, яны такія. Нацыя такая болей жэстокая, нас яны [ня любяць], ужэ немцы выгаднейшыя. Тут жа былі і немцы, былі тут усякія. Немцы у вайну былі, у саракавых гадах. Яны тут не жылі, яны тока нас акупіравалі і былі мы пад акупацыяй 41-ы год, 42-гі, 43-ці, у 44-м кончылася вайна. Яны ня дужа жорстка аднасіліся. Скаціну забіралі, ім жа тожа нада было есці. У нас былі сначала немцы, яны б да Масквы, немцы, дайшлі, каб не сталі пленных біць. Яны б немцы…

Тут усё было продана ўжо даўно. Сталін паддаўся ім, яны продалі гэту Савецкую власць усю ўжо немцам. Немец ішоў па гатовых следах. Тут НКВД забірала. Тут у нас унутры было, гэтаму Сталіну даверылі, ГРУзіну. Во цяпер во намі хай беларусы камандуваюць, а то грузіны, яшчэ якая нацыя, хай будзець Беларусія.

**Зап. Жолудзева П. і Шэпіла У. у 2007 г. ад Рублеўскай Ірыны Усьцінаўны, 1924 г.н. (нар. у в. Кісялёва Ушацкага р-на) у в. Бабча Лепельскага р-на.**

## 1469. Латышы

Былі латышы. У Стаях у нас былі. Яны паўміралі ужэ, няма іх. Ну ўнукі там, но яны этага не прыдзержываюцца ўнукі, а так былі, былі ў нас латышы ў Стаях. Даўно. Вот ім, наверна, па дзевяноста ці па восемдзесят гадоў ім, яны паўміралі. Ну даўно ўжэ паўміралі, гадоў дваццаць, можа і паболей.

У іх, знаеце, как вот я вам ба сказала, у ніх ужо фамілія наверна былі Брузенкі. Іван яго звалі, там гэта была Ольга, но ані былі ужо па бацькоў. Бацькі ж іхнія латышы былі ў этых людзей. А вот эці вот, што Ро́ман там такі быў, яго звалі Ро́ман, так вот я яго фамілію, знаеце, не знаю. Ён дзе-та я ў дзецтве была, ён умер.

У іх празнік очэнь быў Івана Купала. У іх Іваны былі, і вот ані так празнавалі, дзевачкі, как эту Пасху. Да-да-да, Лігу, Лігу – эта іхнае была. Ну ані песні пелі. І там наверна была жыла тожа, так ана як пайдзёт вот ужэ на седзьмова этага, шэстова, седзьмова ж Іван, а шэстова дык не. Увесь лес разрываўся, як пцічка пела Ліго гэта. І гавораць: “Ева пашла ў лес”. Ева, яна ўсягда хадзіла ў лес і там пела, панімаеце, этыя іхныя гэты. Ана звалася Ева. На сваей (мове) пела. Ну “Ліго” толькі я чула, “Ліго” гэта, а гэна, ну наверна свае песні…

Яны на сваёй мове-языке разгаварывалі. Вот еслі мы, так ані ну на нашам, рускім, на беларускім. А як аны сабяруцца ўмесце, то яны на сваём. Яны маладцы! Знаеце, у вайну эта, была вайна, так там гэта адна яна эта дзевачка-еврэечка асталась. Яна яе забрала і васпітывала, знаеце, наверна да пятнаццаці лет. Яе мама нашлася, яна была ў Данецке. З Данецка прыехала сюда і забрала. Ані гасціпрыімныя такія, жаласныя людзі этыя латышы.

**Зап. Скварчэўскі Дз. і Казачонак К. у 2009 г. ад Вярбіцкай Надзеі Сцяпанаўны, 1944 г.н (ураджэнкі в. Гара) у в. Упірэвічы Барысаўскага р-на.**

## 1470. Латышы

Як раскулачывалі. Ня знаю, у якім гэта гаду было, як ішло раскулачываньне. Гэта, верна, гаду ў 1925 – 26-м. Іх тады высылалі аттуда, з Латвіі. Вот бацька, быў багатыр. Яго раскулачывалі, усё там забіралі і яны тады ўязджалі, а сюды прыехалі. Тут, гавораць, быў лес сплашны. І яны раскарчоўвалі, дзелалі ўсё чыста і строілісь. Тут былі адны латышы. А народ яны нармальны”.

**Зап. Лобач У. у 2005 г. ад Зайцавай Галіны Раманаўны, 1932 г.н. у в. Бржэзова Лёзненскага р-на.**

## 1471. Латышы-перасяленцы

Быў лес. Скрозь, во тут, быў лес. Вот яны, латышы, куплялі, раскарчоўвалі, канавы капалі. Поле білі на квадраты, дзялілі. Сажалкі капалі,

льны тут пайшлі разводзіць. І мачылі, і здавалі. Яны тут падняліся крэпенька былі. Сажалкі капалі і сеялі лён, вырывалі лён і ў сажалку апускалі, а патом лён быў такі белы-белы. І ткалі тады ўсякае. Ай, усё [латышы] дзелалі! І ткалі, і вязалі. І мы ад іх і навучылісь вязаць. Яны сільна былі мудрыя людзі. І цяпер яшчэ скляпы іхныя стаяць.

А быў латыш такі, што калаўроты дзелаў тыя, што прадуць. Фізік фамілія яго. Калаўроты на нашы пахожыя, толькі не такой формы. Нашы – стаякі, а латыськія – лежакі. А многа было ў іх авец. І рудыя такія. І ткалі сукно такое – карычневае, што і красіць ня нада было. І штаны, і курткі шылі, адзежу ўсякую самадзельную. Усё, усё сваё было. Яны і калаўроты дзелалі, і краваці, і стульля дзелалі. Сільна былі мудрыя людзі. Яны па многу кароў дзяржалі, авец, сьвіней. Любілі скаціну. Ні ў кога столькі скаціны не было. Яны дужа любілі. І коней і кароў дажа чысьцілі шчоткамі сьпецыяльнымі. І пчолы яны дзяржалі, і сады ў іх былі. Ой, сады яны любілі! Яны ўсякія дрэвы садзілі. І цьвяты любілі. Як сады, а цьвятоў любілі многа. І нам давалі садзіць. Яны былі такія, што дзяліліся з намі.

Яны па-нашаму нікагда не гаварылі паміжсобку. Яны па-латыську са сваімі, а з намі – па-нашаму. А так, прыйдзеш к ім у хату, а яны: “гер-гер-гер” – гергечуць ні паймёш што. Ай, месныя многа сьмяяліся каля латышоў, што вот латышы, што вот па-свойму гавораць...

А я і ня знаю, якой яны веры. Яны, мусіць, нашай веры былі. І Каляды, і Паска – із намі ў адзін дзень яны празнавалі. Вот, як палякі, то у іх аддзельна было. Мне кажацца, яны ў нашу сторану былі. Яны ж не мусульманы і не цыганскай веры, і не польскай. Проста так людзі былі і ўсё. Усе празьнікі спраўлялі разам. О, Купала, Іван, Сьвятое Пятро – гэта ў іх самыя дарагія сьвяты былі! Гэтыя сьвяты яны, Бог ведаець, як празнавалі! Касьцёр палілі, пелі, пірагі пяклі. І выпівалі каля кастра. І песьні пелі, ну, такія – купальныя. Яны па-свойму пелі, а нашы – па-свойму.

Ай, а мы любілі Цярэшку жаніць. Жанілі Цярэшку і былі латышы прыходзілі: дзеўкі і мальчыкі. Тады ўсе ўмесьце гулялі – нашы беларусы і латышы. Валачобнікі хадзілі і пелі, а яны [латышы] і давалі, і ўгашчалі, і за стол прыглашалі, а хто і яічак вынясець.

Ну вот, мая мама казала… Яна жыта жала у іх – нанімалі нашых. Хадзілі жыта жаць. Плацілі ім добра. Дык, мама кажыць: “Жнём, а яны ўжо завуць нас: “Хадзіце путру есьці”. Мама кажа: “Божачка! А якая ж тая путра? Во, мусіць, наемся”. А яны там картошкі накрышаць, маркоўкі туда, капусты сьвежай туда, грыжанкі і малаком забеляць. Вось табе і “путра”. Такі суп, а яны звалі “путра”.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Бумагі Валянціны Іванаўны, 1933 г.н. у в. Вацлавова Ушацкага р-на.**

### 1472. Латышка-знахарка

Была ў нас у Старынцы латышка. О-о-о! Ваду давала. Памагала, Бог знаець як! Так я сама хадзіла. Я пайшла вады – мая карова забалела. Вызвала віцінара. Віцінар гаворыць: “Ня сёньня – заўтра здохніць ваша карова”. А гэта ж было пасьля вайны, яшчэ ж бедна было, а дзеткі ж малыя. І пайшла я ў Старынку. Узяла грошы. Якія там грошы! Рубель той. Бутылачку вады наліла і пайшла туды. Прыхаджу, матка тая:

– Ну што ты скажаш? Што прыйшла, баба, к нам?

– Ай, прыйшла я – кароўка забалела.

Шчас во такой дліны (паказвае рукамі 25 – 30 см), во такой шырыні (20 – 25 см) лісьціць кніжку. Па-латыську! Я гляджу – па-латыську напісана ўсё. І чытаіць, і чытаіць у гэтай кніжцы. Кажу: “Мусіць, здохніць мая кароўка, а дзеткі ж малыя”. А яна гаворыць: “Не, твая кароўка ня здохнець, маладзічка. Табе паддзелалі. Кароўка твая атойдзець”. А кароўка ўжо, дзе была белая поўсьць – чорная стала. Ня ела, ня піла – нічога.

– Ай-яй, – кажу, – а каму ж я так, што мне так зрабілі?

– Саседзі твае зрабілі, – кажэць, – Вот табе вадзіца, вот табе солька.

І я тады ў кніжку палажыла “тройку” ці “пяцёрку”. А яна: “Ня нада. Многа”. А я кажу: “Нічога ня многа, каб толькі мая кароўка атыйшла”. Прыйшла дамоў. Усю кароўку збрызгала гэтай вадой, солькі ўсыпала ў вядро, мукі ўсыпала, хлеба пакрышыла. Ай-ёй! Карова п’ець! Аж вылізала тое вядзерца. І што ж вы думаеце, назаўтра кароўка выйшла і каля плоту траву есьць. І атыйшла мая кароўка.

Яна дажэ людзям давала, есьлі вот муж пойдзець к другой, яна зьдзелаіць і ён прыйдзець назад. А цяпер няма такіх! Яна гэткая была баба. Ой, што вы, так людзям памагала! Тут машыны да яе аж лёталі, як яна памагала ат усякай хваробы: ад зглазу, ад зьмяі, ад грыжы – ад усяго давала. Бог знаіць, якая была бабка харошая!

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Бумагі Валянціны Іванаўны, 1933 г.н. у в. Вацлавова Ушацкага р-на.**

**1473.** У яе была такая тоўстая кніга, як гэта Біблія. І там па-латыську напісана ўсё. І яна ў гэту кнігу паглядзіць і загаварываець ваду, і даець людзям. А тады яна памёрла і я спрашывала ў яе дачкі пра кнігу. А яна гаворыць, што, як памёрла матка, то зь міліцыі прыехалі, застрашылі і кнігу атабралі. А вот гэта мая сястра дваюрадная да яе хадзіла. А матка ей прыгатовіла 20 яіц. Ну, і яна панесла заплаціць – ваду гэту даваць карове нада была. Ну, пашла, а потым пажалела. Узяла 5 яіц і адклала ў куст, а гэтыя ўжо панесла. З вайны ж былі – жалка было. Тая ўсё зробіла, вады загаварыла, а тады кажэць: “Не забудзь паглядзець у той куст і забраць, што

аставіла". Ну, і яна гаворыць: "Як ішла дамоў, у той куст падайшла, а там – зьмеі, лягушкі. Там усё ў кусьце шапацела. Так я бягом адтуль пакаціла – так напугалась". І ёй не дала і сабе не забрала.

**Зап. Лобач У. у 2008 г. ад Целяпень Зінаіды Цімафееўны, 1936 г.н. у в. Вацлавова Ушацкага р-на.**

### 1474. Латышы-знахары

Мама мая расказывала, што у нас, у брата была падучая балезнь… І была такая латышка і латыш. Сеў латыш на каня, праехаў на кані, конь аправіўся, з гэтага [конскага калу] пацiскалі і з ложачкі далі 2 раза. І тады прайшло. Латыш і баба яго знахары былі. Ат іспуду, ад сглазу [памагалі]. Яны былі самі паўмералі, у вайну, гаварылі [пра іх] добрае тады".

**Зап. Валодзіна Т. і Лобач У. у 2007 г. Ад Чарнышовай Ганны Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Заполле Віцебскага р-на.**

### 1475. Латыш Залет

Загавар знаў Залет. Латыш. Памагаў. Адзін старык памёр, дык із зубамі усімі. Тады і гавораць на могілках: – Ой, а як гэта ён сахраніў? – Вот, Залет загаварыў, і ўсю жызьнь зубы не балелі".

**Зап. Лобач У. у 2005 г. ад Казловай Людмілы Іллінічны, 1936 г.н. у в. Бржэзова Лёзненскага р-на.**

### 1476. Немцы і латышы

У вайну і немцы ішлі, і латышы. Гэта ішлі вайной, а так жа іх не было. Латышы злыя, злыя былі. Ой, што ты! І латышы, і ўкраінцы. Немцы – не. Ну вот, дзе хата была, стаяла хатка, там немцы, нямецкая кухня была, дзецям тыя з кацялкоў кінуць. Карміլі дзяцей. Да, налілі ў первую очэрэдзь, пака салдаты там, а тады ўжо і дзецям. Во што. Гэта ў Вецяры там кухня была. Мы жылі там усе. А латышы як ідуць – усё хавай. Ну не любілі іх, што яны рабілі. Ганялі, білі, іздзевалісь. А немцы – я б не сказаў, што яны... Яны ішлі па сваёй рабоце, ваявалі. А латышы ў іх былі гэтыя, падчынённыя.

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А. у 2009 г. ад Пецько Антаніны Іосіфаўны, 1925 г.н. у в. Сценка Докшыцкага р-на.**

### 1477. Літоўцы

Гэта так называўся Літоускі Завулак. У двацатым гаду яны, калі прыехалі, купілі тут зямлю. Ну вот сколькі іх было: Шумельніс, Антанавічус, Губілус. І яшчэ чацверты... За грошы купілі тут зямлю. Было, а зарас толькі два чалавекі. Яны добрыя былі хазяева. О, што ты! У іх во тут, каля кладбішча, так, каб сена ўзяць, зробілі плаціну, а тады ужо пад сенакос ва-

ду спускаюць і тады косюць. Разумныя такія былі. А гаварылі па-польску. Вшыстко едно. Католікі былі. Але бралі і праваслаўных, і палячак. Мяшаліся.

Нічога такога у іх не адлічалася. Гэта случылася перад блакадай, кАроў пасвіў у іх дзярэўні. Па другому ядуць, што ты, адзежа другая. Яны мыліся, і я пасля іх пайшоў у баню. Так як пашлі часацца ў мяне і па целе [прышчы]. Гэта ад літоўцаў, канешне ад іх. Але яны нічога [да нас], і мы да іх нічога, у нас хутар атдзельны ніякіх гэтых свар з імі не мелі.

**Зап. Аўсейчык У. у 2010 г. ад Скарбатуна Антона Лявонавіча, 1927 г.н. у в. Рускі Завулак Глыбоцкага р-на.**

## 1478. Літоўцы, немцы, маскалі, цыганы і яўрэі

Ай, у нас усякіх было! Былі літвіны, і я умею па-літоўску гаварыць. Была цэлая дзярэўня гэтых літвінаў, усі літоўцы. Ага, а тады былі немцы, адна дзярэўня была. Дзе былі немцы – там Сарочына, а дзе літоўцы – там Хвядосава, Васілёнкі, эта былі такія дзярэўні, у каторых гэтыя літоўцы. І старабрадцы гэтые, маскалі назывались, гэтые былі тожэ, гэты былі. Як жа гэту дзярэўню, забылася. А цыгані так прыязджалі, прыязджалі, начавалі, садзіліся у лясу дзе-небудзь збоку, тады прыхадзілі, жабравалі, прасілі есці.

К цыганам як атнасіліся? Ну нічогаж такога, прыедуць, жаж пабудуць такі. Цыганкі яны ж усё пастаянна варажыць, гадаць, гадаць: "Дай табе, цётачка, згадаю! Дай згадаю!" – як дзеўкі мы былі. – "Калі ты замуж выйдзіш, за якога ты мальца, я табе усё скажу, праўда!" "А нічога ты нізнаіш, – мама кажыць, – Ідзі ты ужо, ні брашы!", – кажыць. Ня верылі гэтым цыганем.

Літоўка была ў мяне падруга, дык я гэтак па-літоўску умею гаварыць тожа. Хлеб гэта – долгус, валгаць – везці, пенус – малако, карвіс – карова, аркліс – конь, кумяла – кабыла, бяр'юкіс – малец, маргейта – дзяўчына, гыржу – красівая. Мы пайдзём на вечарынку, а каторыя ж ня ўмеюць гаварыць гэтак па-літоўску, мы кажам "гыржу маргейта", гэта "красівая дзеўка" мы кажам, а ніхто ж ні знаіць, што мы гэтак кажым .

А ў немцаў быў тамака нейкі такі, называўся фульварак. У гэтым фульварку немец быў Марцін, Арліт і Аліксандра. Помню гэтых немцаў, яны такіі былі, прыхадзілі да нас, да нашых дзевак, я ж яшчэ малая была, а яны прыхадзілі. Цётка мая была, адна, другая, дык да гэтых дзевак этыя прыхадзілі немцы, ну пагуляць, вечарам там ці дзе яка вечарынка, дык прыхадзілі гэты немцы. Немцы хадзілі ў каталічэскую цэркву, і гэтыі літвіны – у каталічэскую, у касцелы, тожа палякі называліся, ліцвякі гэтыі.

А яўрэі, мы былі нічога, тожа добра жылі з яўрэямі. Такі быў Мэер і Саламэркін, Саламаркін быў. А Мэер зваўся большы брат, а другі – Саламаркін. Мы у іх у Дзісне былі, на кварціру паедзім мы ж ужо у Дзісну на кані, нада ж каня дзе-нібудзь спратаць, а хадзіць жа там, што купіць у Дзісне. Дзісна ж гэта у нас гарадок быў. Гэта усё нада было дзе-нібудзь у каго-нібудзь у якіх-нібудзь яўрэяў, дык там такая была яўрэйка старая ў яе два было сыны гэтыі былі, і вот іна тады, мы ў іх конь ставім. Там ужо дзядуля што-нібудзь завязець ей, там у мяшочку якога дабра, ці чаго-нібудзь за гэта, што іна пускаіць ставіць каня.

У іх свая [царква] была, нейкая такая сдзеланая вот, як на сінагогу. Мо як называлася, ні знаю. Ён тады моліцца, моліцца, па сваему там, а вот як крыкніш – аюсь! (гэдак на Дзісненшчыне агукваюць свіней – У. Л.) – дужа ні любілі каб свіней, тады перарываіш йім малітву, гэтым яўрэям. Дык мы толькі нарошна, лётаім, лётаім, а тады як крыкнім “аюсь”, а ён: “Га, га!” – на нас глядзіць, што гэта мы гэтак закрычалі і яму перабілі малітву.

А вот, а я ж у вайну сама яўрэяў карміла, як растрэльвалі іх. Вот скажы, нідзе ў цябе ня пішацца і нічога ты ні знаіш, за што яўрэяў у вайну разбівалі нацыю, чаму выбівалі? Ці чулі вы пра гэта? За што? За гэта вродзе, што яны Ісуса Хрыста распіналі, не? У нас гэта казалі, што яны мучалі во Ісуса Хрыста, распіналі ж на крэст, гэта ж, кажуць, яўрэі. Дык вот, кажыць, цяпер прыйшла да іх наказаньне, што яўрэйскі ішоў іх бацюшка, каторы называўся, ішоў і казаў: “Ідзіці пакорна ўсе к смерці, тамушта мы заслужылі, гэта нам нада”.

У нас была гета у Дзісне, я хадзіла у гэту гету. Сідзяць бедныі этыі усякіі там сабраўшыся яўрэі: дзевачкі маладыі, рабяткі, мальцы, ліжаць, полкі пабеланыі. Я во да іх хадзіла, дык такіі полкі пабеланыі, яны ліжаць бедныі, плачуць, есці нечага. А мы тады ужо ідзём да іх. У яўрэяў жа ўсё было, як да вайны. Дык мы што-нібудзь купіць да іх ідзём, дык а тады ужо ім нясём што-нібудзь. Есці прынясём, мама там сала атрэжыць, там масла зробіць, ідзём тады ім ужо дадзём. І у гэту гету я сама хадзіла і відзіла, як яны ліжалі, тады выкапалі бальшую яму шырокую і пагналі усіх. Ну, я гэта нявідзіла, там цётка жыла блізка, дык расказвала, што пагналі і усе ішлі к гэтай ямі. Тады як застрачылі пулямётам – бах-бах! – у яму. Тады гэту яму закапалі, дык нескако дней, яшчэ, дзе стаўбы пастаўлены, гэта мяса чалавечаскае і кроў бурліла, выхадзіла калі сталба.

Ну увечары яўрэі тады прыйшлі да нас, уцяклі. Як там запіралі, дык яны ж уцікалі, прыйшлі да нас… Гэтыі два жыдкі у нас ужо, як уцяклі, у вайну, дык яны было, стог такі саломы, бальшы стог, знаіці стог наложаны? Дык пад гэтым стагом яны сабе вырвалі там яму і там ліжалі, там спалі, я ім есці насіла. Тады прыехалі немцы і сказалі так: “У каго найдзім

жыдоў – будзім паліць”. Дык я прыйшла і кажу: “Мальчыкі, выхадзіці адгэтуль, дзе хочаці дзівайцісі, нас жа спалюць за вас, як вас тут знайдут”. Тады яны сабралісі, Абрам адзін зваўся, а другі Ёсіль. Ёсіль і Абрам. Па жыдоўску. Тады і пашлі ат нас гэтыі мальчыкі.

**Зап. Круткін А. у 2010 г. ад Карбоўскай (Шумуковіч) Любові Еўстаф’еўны, 1922 г.н. (нар. у в. Баркоўшчына Мёрскага р-на) у в. Янкава Полацкага р-на.**

## 1479. Немец на пажары

Баба мая казала, што ў Старыне гарэла хата, дзярэўня, край гарэў. Неяк было тушыць, хата ад хаты загарвалася. А тут неяк перад вайной быў немец, пан быў тут у Дольцах. І вот гэты пан, тады вызвалі гэтага пана, ён прыляцеў на кані і кругом дзярэўні аб’язджаў і з нейкага там пісталета, ці што, страляў у белых лебядзей – яны разнасілі той агонь. І тады як абнёс, абляцеў, вобшчым, так без яго людзі іконай абнасілі, каб агонь не разхадзіўся, каб у адно месца толькі гарэла. Як той пан пастраляў, пастраляў, што гарэла – толькі тое дагаралася, а дальшы не прадзьвігалася.

**Зап. Лобач У. у 2006 г. ад Казлоўскай Марыі Дзьмітрыеўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Ушацкага р-на.**

## 1480. Полька-знахарка

Як старухі былі, так і лячылі. Дажа мая маці рожу загаваравала. А Ланеўская давала ваду, у Кромавічах. Воўк-Ланеўская. Была харошая знахарка. Воўк адмянілі і сталі проста Ланеўскія. Яна полька была, дзяцём і старым памагала. І я быў у яе. І я была. Дочка мая спужалася і не было нікакога спакою. Дзень і ноч плакала. Сядзець і во так во абскубець усю сьцяну. Абоі абдзярэць-абдзярэць, не спала, нічога. Тады я ўжо да свайго старога кажу: “Давай павязём да Ланеўскай”. Ну, паехалі мы. Вязём, а гэта дзіцянё крычыць гвалтам. Я на яго гавару: “Паганяй ты гэтага каня скарэй, каб людзі ня чулі”. Прыехалі мы да яе, аж яны закалолі кабана, эта зімой было. Парадкавала там сала, алі пашаптала над гэтай дзяўчынай, нейкія евангеллі ці што. Ну яна знала, што чытала. Пачытала яна над гэтым дзіцянём, дала вады і сказала, хто спужаў. І заснула мая Наташа. Мы пасядзелі, а яна спіць і спіць. А там у Жамойску мая сястра, Ліда, паехалі мы да яе. Спіць. Прыехалі дамоў – спіць. Я ўжо сядзела над гэтым дзіцянём, думала, памрэць. І па той час, як рукамі адняло.

**Зап. Валодзіна Т. у 2007 г. ад Шынкевіча Уладзіміра Антонавіча, 1928 г.н. і Курдзель Марыі Іванаўны, 1930 г.н. у в. Вілейка Докшыцкага р-на.**

## 1481. Татары

У мяне была карова, я ж жыла с каровай, дак вот наіболей карове вады карове вады, вядома ж чараўнікі, нада і нада, хоць кожды дзень. Калі

б’ецца, не даецца даіць і ўсё. Гэдак зробіцца, дык вот хадзіла я вады, прыду і змыю, і падаю, а то не падаю і ўсё, тады карова ўжо стаіць, як вадой памыю іхнай. А так я ездзіла у Докшыцы, там татары жывуць, яны тожа знаюць. Ну, татары, яны знаюць усё. А яны ад Бога, яны па-своему молюцца, татары, яны веруць Богу па-своему. А гэта ўсёроўна Бог адзін, як бы яны не маліліся: “Ва імя Айца…”, ці па-польску, – эта тое самае, толька на пераводзе. Яны гэдак таксама молюцца, і веруць, і лечуць людзей, дужа памагаюць татары. Яна ну во бутылку дзяржыць і моліцца во гэдак. У адкрытую. А тады скажаць: “Во, дзетачка, змывай, ты ўлі сваей (кароўцы), капні во гэтай малітвай, а тады змывай і даі”. Гэдак і робіла.

**Зап. эксп. ПДУ у 2009 г. ад Васілевіч Ганны Фамінічны, 1928г.н. у в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на.**

## 1482. Татарка-знахарка

Добра татары памагалі, кажуць. Бог жа адзін, толькі што малітвы ўжо ў іх па-свойму. Вот яны моляцца па-свойму, там нейкія карткі пішуць, але пішыць не ў гэты бок, а ў другі. Што яны там пісалі, а хто там поймець? Памагалі, очэнь памагалі. Я чуў у Докшыцах, к татарцы, карова малако, кажаць, дужа плахое. То мала дужа, то кроўю доіцца. Дык дась вады, скажыць, што з ёй зробіць. Едзілі Калічы к ей, і вот яна пазнала, і сказала, напісала картачку, усё у той бок, і сказала насіць у ліфчыку картачку, і кАрове к рагам завізаць картачку, напісала карове…

**Зап. Філіпенка У. і студ. ПДУ Высоцкая А., Клопава С. у 2009 г. ад Працукевіч М. І. у в. Рачныя Докшыцкага р-на.**

## 1483. Туркі

Я помню немцаў. Немцы ў нас у дзерэўні стаялі, а тады прыгналі “чуркі”, мы іх звалі “туркі”. А хто яны былі, чорт іх знае! Яны як прэдацелі ж былі. Вот я цяпер як чытаю, так як прэдацелі былі. Немцам здалісь. І іх многа стаялі ў дзярэўні. Нас та выселілі. Мы там у бані жылі, а яны тут жылі. Так немцы прыдуць, ім паставяць нары, яны разбудзяць, і тут і ядзяць, тут і усё. Такія гразныя такія людзі былі. Так іх ганялі, хадзілі яны высякалі эта балота. І ў нас жа скрозь во цяпер балота тут сеяна трава, а раньшы сеялі і маркоўку, і ўсё-усё калхоз сеіў, усё. І как-та рыс яшчэ сеелі ў нас на гэтым балоце. А патом яго вырубілі і пасля ўжо вайны сталі ўсё ўбралі, усё выпалілі і сталі сеяць тут. А былі балоты, страшныя балоты. Ну хадзілі во, высякалі балота, нічога яны… яны былі камандзірованыя…

Яны нізкага росту ўсе былі, а форма такая, як у немцаў была. Я не знаю, ці яны ваявалі, ці яны не ваявалі. Прыехалі яны, заселіліся на поўдзерэўні. Поўдзерэўні там немцы стаялі, а поўдзерэўні эція туркмены. І яны ўсё ўрэмя хадзілі на эта балота, у нас сільна бальшое балота было.

У нас жыў пленны. Уцёк ён, і тады, а маці была ўдава, і вот узялі, узялі нам яго. Ён быў сам сібірак. Так ён іх знаў абычаі, усё знаў. Сначала яны там засяліліся, а мы тут, у гэтай хаце. Так ён усё пра іх расказваў. Ну а дзаржалі ж і конь, і карова, і свіню, усё вады ж многа нада было, а калодца не было. Калодзец аж там унізу быў. І аттуда насілі, вазілі, насілі ваду. Наносяць вады, а за ноч вады не стане. Дзе яны дзенуць ваду? Тады ён гаворыць, што, а ў нас цяпер так пастройка, а то так во стаяла, а там туалет стаяў. Ён кажа што: “Даша, я скажу табе, што яны дзелаюць”, – на маму на маю. “Яны выходзяць з туалета, мыюць так: ногі мыюць, тады попу мыюць, тады ліцо мыюць. І гэта ўсё”.

Эта ў нас мула быў стаяў. І ўсё яны чатыры мулы было. С імі, с імі прыехалі. А патом дверы ў нас так перакошаны былі старыя. І хадзіў обер-мула, обер-мула ў іх называўся. І этат обер-мула хадзіў па хатах па очарадзі, ён на работу не хадзіў. І вот яны, і нам этат усё сібірак эта ўсё рассказвае: “Вы, – кажа, – паглядзіце, як яны яго будуць карміць”. Ён толькі сядзіць, рукі апусце, ён дажа нічога. А яны на дошчачку рэжуць і мяса яму тока ў рот суюць, а ён сядзіць і жуе, жуе, жуе. А мы палезлі глядзець і зваліліся, малыя ж, зваліліся. Тады яны выгналі нас з хаты, і ўсё, і болей сюды нас не пусцілі. Яны очань нехарошыя былі, очань. Врэдныя такія былі.

Ужэ як немцы сталі адступаць, і яны з немцамі ўсе і ўшлі. А веры… Ну наверна ж, мусульмане, бо таму што яны маліліся во так во, у сторану маліліся. Яны ўсё сядзяць, ногі пазакручываўшы, і вот так вот маліліся. Мусульмане.

**Зап. Скварчэўскі Дз. у 2009 г. ад Лазукі Надзеі Рыгораўны, 1932 г.н. у в. Малое Стахава Барысаўскага р-на.**

## ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ЗАПІСАЎ

**ЗМЕСТ**

*Вучэбнае выданне*

ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК

Выпуск 2

НАРОДНАЯ ПРОЗА БЕЛАРУСАЎ ПАДЗВІННЯ

У дзвюх частках

Частка 2

Укладальнік *ЛОБАЧ Уладзімір Аляксандравіч*

Рэдактар *В. В. Рудак*

Дызайн вокладкі *В. А. Вінаградавай*

Падпісана да друку 29.03.11. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная.
Рызаграфія. Ум. друк. арк. 21,35. Ул.-выд. арк. 20,76. Тыраж 110 экз. Заказ 543.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі “Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт”.

ЛИ № 02330/0548568 ад 26.06.2009 ЛП № 02330/0494256 ад 27.05.09

Вул. Блахіна, 29, 211440, г. Наваполацк.